Падпісны індэкс: **74813**
Чытайце «Дзеяслоў» у Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**
...................................................................................................



Ілюстрацыі на вокладцы:
на 1-й стар. і 4-й стар. — адбіткі старонак кніг Францыска Скарыны.



Пасведчанне аб рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 631 ад 28 жніўня 2009 г., выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Заснавальнік — ГА «Літаратурна-мастацкі фонд «Нёман».
Юрыдычны адрас: вул. Кузьмы Чорнага, 18-2, 220012, г. Мінск.

Адрас рэдакцыі:
220025 г. Мінск-25, а/с 91
e-mail: dzieja@tut.by
www.dziejaslou.by
Тэл.: 200-80-91.

Здадзена ў набор 20.12.2016 г. Падпісана да друку 31.01.2017 г.
Фармат 70х108 1/16. Папера афсетная. Друк афсетны.
Аб'ём — 22 ул.-выд. арк. Наклад 1000 асобнікаў. Заказ №

Паліграфічнае выкананне: сумеснае таварыства з абмежаванай адказнасцю «Медысонт».
ЛП № 02330/20 ад 18.12.2013.
Вул. Ціміразева, 9, 220004, Мінск.

Кошт нумара – па дамове.

№1 (86)
/студзень-люты/ 2017

Дзе

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Ірына Дубянецкая



...пачатак утварае
абсалютную сістэму каардынат
для таго, што ўзнікне,
таго, што можа ўзнікнуць
і таго, што не ўзнікне ніколі...

# Кніга роду

***Новая беларуская Біблія***

У 2017 годзе адбываецца небывалы збег юбілеяў, звязаных і з беларускімі культурнымі героямі розных часоў, і з падзеямі, якія змянілі хаду нашай гісторыі і нават нашай цывілізацыі. Для нас гэта можа стаць штуршком для цэласнага агляду таго шляху, які мы прайшлі, і асэнсавання сябе як нацыянальнай супольнасці. Найвялікшы з усіх юбілеяў, які здольны змяніць фокус нашага самаразумення, надаць нам сілы і веры, з'яднаць і акрыліць – гэта 500-годдзе Скарынавага прарыву.

6 жніўня 1517 году – у дзень Перамянення Гасподняга – Францішак Скарына абвясціў Перамяненне для свайго народу: ён даў сваёй краіне друкаваную кнігу і тым самым улучыў яе ў еўрапейскія цывілізацыйныя зрухі, і больш за тое, ён даў сваім людзям Біблію – асноўны аб'яднаўчы тэкст Заходняга свету – на мове, набліжанай да народнай, і тым самым паставіў сваю культуру на самы перад тых цывілізацыйных зрухаў.

Грандыёзныя рэфармацыйныя працэсы, якім было суджана мадэрнізаваць Еўропу і назаўсёды змяніць яе, а за ёю і шырэйшы свет, яшчэ толькі пачыналіся. Станаўленне нацыянальных культур, з якіх потым паўстануць нацыянальныя дзяржавы, было

ў самым зародку. Біблія, якая была цывілізацыйным пунктам зборкі, апынулася ў цэнтры гэтых працэсаў. У 1516 годзе Эразмус ажыццявіў першае выданне Новага Запавету на мове арыгінала, па-грэцку. Вывучэнне Бібліі на арыгінальных мовах і неабходныя для гэтага параўнанні многіх манускрыптаў скаланулі інтэлектуальны свет, бо сама наяўнасць шматлікіх розначытанняў і неадпаведнасцяў у старажытных пісьмовых сведках дэманстравала, што адзіны і непарушны, Богам пасланы тэкст Бібліі, на якой трымаецца нашая карціна свету, мае сваю гісторыю, і гісторыю складаную, шматмерную, далёка не відавочную. Гэтая новая праўда многае мяняла. Яна палохала і натхняла. Яна вымагала даследаванняў, перакульваючы ўстаялыя веды і погляды. І паралельна ў свеце пачынаўся вір новых адкрыццяў. Свет уступаў у Новы час, і адным з рухавікаў было новае асэнсаванне Бібліі.

У сярэдзіне 1450-х гадоў Ёганэс Гутэнберг распачаў першую інфармацыйную рэвалюцыю, выдрукаваўшы ў Майнцы гэтак званую "саракадвухрадковую Біблію". Гэта быў звыклы лацінскі тэкст. Але неўзабаве час надышоў і для мясцовых моў. Пераклады Бібліі на нацыянальныя мовы сталіся магутнымі каталізатарамі для станаўлення і развіцця гэтых самых моў. Калі Скарына ў Празе пачынаў сваю дзейнасць па друкаванні біблійных перакладаў, гэта была яшчэ абсалютная навінка.

Піянерамі ў друкаванні біблійных перакладаў былі немцы. У 1466 годзе Ёганэс Ментэлін у Страсбургу надрукаваў пераклад Бібліі на верхне-нямецкую мову. У 1471 годзе Ніколё Малермі надрукаваў італьянскі пераклад у Венецыі – адным з найбуйнейшых цэнтраў тагачасных еўрапейскіх культурных і сацыяльных змен. А потым выбухнулі чэхі, у якіх, дзякуючы руху Яна Гуса, Рэфармацыя пачалася на стагоддзе раней, чым у іншых. Першая Біблія ў чэшскім перакладзе выйшла ў свет у Празе ў 1488 годзе, праз год было новае выданне ў Кутнай Горы, а ў 1506 годзе ў Венецыі было здзейсненае яшчэ адно выданне – і менавіта яно, відаць, зрабіла максімальны ўплыў на працу Скарыны. Скарына быў наступным.

Асноўны працэс перакладаў Бібліі на мясцовыя мовы народаў Еўропы, як і фармаванне нацыянальных культурных ды інтэлектуальных традыцый, адбываўся пазней, цягам 16-га і 17-га стагоддзяў. Так склалася, што беларуская культура, уступіўшы ў гэты цывілізацыйны вір на самым пачатку, была ў пэўны момант выштурхнутая з яго і на доўгі час – час, калі ў свеце адбываліся лёсавызначальныя падзеі, – страціла сваю моц. І тое, што Біблія, якая праз усе гэтыя часы заставалася самым запатрабаваным тэкстам Заходняй культуры, так і не была цалкам і якасна перакладзеная на беларускую мову з арыгінальных моў, было сумным вынікам таго заняпаду.

Культура, якая не засвоіла асноўны тэкст цывілізацыі, не можа інтэгравацца ў гэтую цывілізацыю і змушаная заставацца на перыферыі, пакутуючы, апроч іншага, ад нізкага сацыяльнага статусу сваёй мовы. Ці не запозна беларусам штосьці мяняць? У цяперашнім свеце (у надыходзе якога актыўна ўдзельнічала мысленне і дзеянне, звязанае з Бібліяй) Біблія адыгрывае цалкам іншую ролю і займае цалкам іншае месца ў прыватным і агульным жыцці, чым ва ўсе папярэднія стагоддзі. Дык ці зменіцца што-небудзь у беларускім самаўспрыняцці і вонкавым прыняцці, калі нарэшце з'явіцца "добрая беларуская Біблія"? І ці здолее яна кансалідаваць мову, культуру і ідэнтычнасць? Я не ведаю. Але я ведаю, што, калі мы не зробім гэтую працу, мы застанемся там, дзе і цяпер.

З розных прычын раней мы не маглі ўзбіцца на сучасны пераклад з добрых, выверанаых сусветнай навуковай біблістычнай супольнасцю біблійных крыніц. Аднак парадку паўсотні паасобных спробаў паасобных аўтараў перакладу цэлай Бібліі або яе некаторых частак і кніг, якія рабіліся праз усё 20-е і пачатак 21-га стагоддзяў, заклалі добры падмурак для новага этапу гэтага працэсу. А самае галоўнае – цяпер мы можам. У Беларусі ўжо дастаткова кваліфікаваных біблістаў, гебраістаў, элілністаў, філолагаў і літаратараў, здольных – і ахвочых – рабіць гэтую працу.

І праца пачалася. Перакладчыцкая група самаарганізавалася, прадумала і склала канцэпцыю перакладу і паціху працуе над некаторымі кнігамі Старога і Новага Запаветаў. Ёсць надзея ў 2017 годзе ўшанаваць 500-годдзе Скарынавага подзвігу выданнем першага плёну гэтай супольнай працы. Плануецца выдаць чатыры першыя раздзелы Кнігі Роду – не толькі найпрыгажэйшыя і найскладанейшыя для перакладчыка ўзоры старазапаветнай прозы, але й самыя вядомыя і пазнавальныя біблійныя сюжэты пра стварэнне свету, пра чалавека і жанчыну ў садзе і іх выгнанне з саду, і пра Каіна, які забіў свайго брата, – а таксама Песню Песняў, якая ёсць выдатным узорам гебрайскай паэзіі і ўлюбёным тэкстам многіх, і Евангелле паводле Яна.

Тут чытачу прапаноўваецца самы першы варыянт перакладу самага першага раздзела з невялікімі каментарамі. Вялікае спадзяванне палягае ў тым, што ў друкаваным перакладзе не толькі акрэсляцца праблемныя месцы (якія нам і так вядомыя), але і намецціца шлях да развязання праблем. Найлепшае, што можа адбыцца, – гэта шырэйшае абмеркаванне.

Такім чынам, спачатку вельмі сціслыя ўводзіны ў тэкст, потым сам тэкст, а потым некаторыя каментары да перакладу. На паўнейшыя каментары пакуль не час і не месца.

## СТВАРЭННЕ СВЕТУ

## Кніга Роду 1:1–2:4а

### Папярэднія заўвагі

#### *Назва Кнігі*

Назваць першую кнігу Пяцікніжжа Кнігаю Роду першым у беларускай традыцыі прапанаваў а. Уладыслаў Чарняўскі. Гэтую назву захоўвае выданне Беларускага біблійнага таварыства 2012 года, якое абапіраецца на пераклад Чарняўскага. Іншыя беларускія перакладчыкі ішлі за царкоўнаславянскай і рускай традыцыямі, адаптоўваючы на беларускую мову слова *Бытие* як Быццё.

У гебрайскай традыцыі кнігі Бібліі не маюць ніякіх сімвалічных ці абагульняючых назваў, а завуцца паводле першага значнага слова тэксту кнігі. Такім чынам, першая кніга Пяцікніжжа завецца *Berešit* (*bᵉrešīṯ, берэшыт*), што значыць “напачатку”.

Першы пераклад Пяцікніжжа быў зроблены ў трэцім стагоддзі да н.э. у Александрыі, у часы егіпецкага караля Пталемея II Філадэльфа, які камплектаваў Александрыйскую бібліятэку найважнейшымі тэкстамі чалавецтва. У гэтым раннім грэцкім перакладзе, званым Сэптуагінтай, кнігам Бібліі давалі нейкія пазнавальныя назвы. Першую кнігу назвалі *Génesis* (*генэсіс*) – “радавод”, паводле ключавога слова, якое па-гебрайску гучыць *toledot (толедот),* і якое нібыта прашывае ўсю кнігу. У кнізе дзесяць радаводаў, якія пачынаюцца формулай: “Вось радавод таго і таго”, пяць у пракаветнай гісторыі (Рд 2:4; 5:1; 6:9; 10:1; 11:10) і пяць у гісторыі патрыярхаў (Рд 11:27; 25:12; 25:19; 36:1, 9; 37:2), дзе радавод Эсава абвяшчаецца двойчы (Рд 36:1, 9). Гэтымі генеалогіямі, устаўленымі ў старажытны наратыў, Святарны аўтар з уласцівай яму прагай да сіметрыі “адбівае” найважнейшыя моманты збаўленчай гісторыі.

Варта адзначыць, што пад радаводам разумеецца не “ўзыходзячы” рух да пачатку роду, а “зыходзячы” ад пачынальніка да ўсё маладзейшых пакаленняў. Цікава, што два радаводы ў Новым Запавеце добра паказваюць паходжанне ці выхаванне і адукацыю сваіх складальнікаў. Аўтар Евангелля паводле Мацвея, які належыць да юдэйскай традыцыі, вядзе генеалогію Ісуса паводле гебрайскага прынцыпу ад бацькі да сына (“той нарадзіў таго”, гл. Мц 1:1–16), а Лука, знаёмы з грэцкай культурай лепш, чым з юдэйскай, пачынае генеалогію ад самога Ісуса і вядзе яе ад бліжэйшых да яго пакаленняў да ўсё больш аддаленых (“сын таго, таго, таго...”, гл.: Лк 3:23–38).

У пазнейшых грэцкіх хрысціянскіх тэкстах кніга часам звалася *Ktisis* (*ктысіс*) – “стварэнне”, хаця назва *Genesis* заставалася ў шырэйшым ужытку. Назву Genesis за Сэптуагінтай паўтарыла і лацінская Вульгата. Многія еўрапейскія пераклады ішлі за грэцкай і лацінскай традыцыямі, называючы кнігу *Genesis* (ангельскі, нідэрландскі, гішпанскі, французскі (La Genèse), італьянскі (Genesi), чэшскі ды іншыя). Некаторыя пратэстанцкія традыцыі адкінулі назвы і адрозніваюць кнігі Пяцікніжжа па нумарах: “Першая Кніга Майсеева, Другая Кніга Майсеева” і г.д. Першы поўны пераклад Бібліі на беларускую мову, выкананы Янкам Станкевічам і выдадзены ў Нью-Ёрку ў 1973 годзе, ідзе за пратэстанцкай традыцыяй не толькі ў кароткім, 39-кніжным каноне Старога Запавету, але і ва ўжыванні парадкавых назваў кніг Пяцікніжжа, побач з іменнымі. У некаторых сучасных славянскіх перакладах назіраецца тэндэнцыя адаптаваць па-свойму ідэю пачатку або пакаленняў (сербская Књига Постања, харвацкая Knjiga Postanka, польская Księga Rodzaju).

Назва Кніга Роду не ідэальная, хаця б з практычнай прычыны немагчымасці ўжываць яе ў назоўным склоне, па аналогіі з іншымі кнігамі: Сыход, Лявіт, Лікі, Другазаконне. Аднак пакуль што лепшай назвы ў беларускім культурным і рэлігійным ужытку няма, і мы спыніліся на ёй, застаючыся адкрытымі да прапаноў.

## *Кароткія ўводзіны ў тэкст Кнігі Роду 1:1-2:4а*

Першыя адзінаццаць раздзелаў Кнігі Роду прысвечаныя падзеям Першапачатку – пракаветнай гісторыі свету і чалавечай цывілізацыі. Паасобныя аповеды, з якіх складаецца Кніга Роду, належаць да розных пластоў гебрайскай рэлігійнай і тэкстуальнай традыцыі. Большасць тэкстаў – пісьмовыя сведкі старажытнай карціны свету, якая праз пакаленні перадавалася ў вусных гісторыях, поўных не толькі яркімі вобразамі і сюжэтамі, што вярэдзяць свядомасць, але і таемнымі глыбінямі, схаванымі сэнсамі, якія адкрываюць дапытліваму розуму ўсё новыя ўнутраныя сувязі, усё большыя цэльныя карціны, заўсёды застаючыся нібыта на крок паперадзе цябе: вось яшчэ крыху, і ўловіш... пакуль не сцяміш, што яны ўсе твае і табе, але навырост, і ты расцеш з імі, і яны растуць з табой...

На гэтыя старажытныя апавяданні накладаюцца ўстаўкі нашмат пазнейшага складальніка, які ашчадна захоўвае гісторыі, створаныя стагоддзі таму, але дадае ім новы ракурс, удакладняе нешта для свайго сучасніка і звязвае ўсе адрозныя сюжэты ў адну вялікую гісторыю, нанізваючы іх на стужку радаводаў галоўных герояў. Гэты маладзейшы аўтар мае іншую канцэпцыю свету і іншае бачанне Бога. Ён называе Бога іншымі імёнамі, спачатку Элогім, потым Эль Шаддай, паступова падводзячы чалавека да сустрэчы з галоўным Іменем, святым і таемным, магутным і ўсятворным – Ягвэ. А ў тых старых тэкстах гэтае Імя – звыклае, яно паўтараецца свабодна, і гэтак жа свабодна Бог Ягвэ камунікуе з чалавекам, а чалавек камунікуе з Богам, гутарыць, просіць, спрачаецца...

Пра першага, старэйшага, аўтара, ці аўтараў, мы нічога не ведаем. Другога, маладзейшага, уяўляем сабе нашмат лепш. Ён належыць да багаслоўскай школы, якую мы завем Святарнаю, якая склалася ў часе Бабілонскага выгнання і сталася асноваю для новага асэнсавання веры і разумення адносінаў паміж Богам і чалавекам, Богам і народам, а таксама сувязяў унутры чалавечае супольнасці.

Найпрыгажэйшы тэкст Святарнага аўтара – гісторыя стварэння, якую ён змяшчае на самы пачатак, перад касмаганічнымі сюжэтамі старажытнасці. Такім чынам, аповед у Кнізе Роду 1:1–2:4а займае ўнікальнае месца ў Пяцікніжжы – гэта Пачатак перад Пачаткам. Ён задае рытм і ракурс астатнім тэкстам, ён – пражэктар, у святле якога набываюць касмічнае значэнне ўсе падзеі не толькі наступных дзесяці раздзелаў, але і ўсяе Кнігі Роду, і ўсяго Пяцікніжжа, а потым і ўсяе Гебрайскае Бібліі.

У тэкстах Старажытнага Блізкага Усходу значнасць стварэння – Першападзеі,

якая няспынна адбываецца ў вечным Цяпер, – неперааццэнная. Касмаганічныя пралогі маглі распачынаць сабою тэксты любога зместу: сакральныя гімны ці міфы, навуковыя трактаты і дынастычныя хронікі, мудрыя павучанні або магічныя лекарскія заклёны. У самых падвалінах светамыслення ляжала думка, што ўсё, што існуе, мае свае вытокі й свой перадвызначаны сэнс у першай дзеі, першым руху стваральнае Сілы, з якою ўсё было і ёсць непарыўна знітаваным. Пачатак дэтэрмінуе і хаду працэсу развою сусвету, і яго структуры – ад асноўных ("хрыбетных") да найбольш дробных ("капілярных") элементаў. Пачатак задае і ўсе шматмерныя ўзаемасувязі ў сусвеце – ад самых базавых да самых вытанчана-складаных, амаль няўлоўных.

Карціна свету старажытнага Егіпту трансфармуецца і ўскладняецца цягам тысячагоддзяў, і ў яго глыбінях мяняецца, але ніколі не заціраецца ясны вобраз *zep tepi* – нулёвага часу на мяжы пачатку адліку, першападзеі, якая запусціла сакральныя механізмы сусвету – боскага ладу быцця.

Месапатамія выснавала канцэпт *šurratu* – пачатку, які ёсць матрыцаю сусвету. Шумерскія тэксты ўяўляюць яго як раздзяленне *an-ki* – неба-зямлі, першаснай бінарнай тоеснасці з абсалютнай шчыльнасцю й прыцягненнем, на першыя касмічныя адзінкі – неба і зямлю. Бабілонскі касмаганічны эпас *Enuma Elish* стварае вобраз зараджэння боствaў на сутоку двух блізнечых акіянаў, дзвюх безданяў – Апсу і Тыямат.

Гэбрайская Біблія пачынаецца дзвюма касмаганічнымі гісторыямі – адна пасля другой – і ўся наскрозь працятая светастваральнай ідэяю, вобразнасцю й метафорыкай. Пачатак неадменны. Пачатак мае ў зародку ўсё, што будзе. Ён сам утварае абсалютную сістэму каардынат для таго, што ўзнікне, таго, што можа ўзнікнуць і таго, што не ўзнікне ніколі. Нават малыя змены на пачатку змусяць працэс развівацца па-іншаму і прывядуць да цалкам іншых структур, адносінаў і сітуацый. Як задалося, так і праявіцца.

Стагоддзямі пазней два геніі Новага Запавету, аўтары евангелляў паводле Марка і паводле Яна, працягваюць снаваць гэтую ніту пачатку. Марк адкрывае свой тэкст словам *arche* ("пачатак") – алюзіяй на гэбрайскае *b$^e$rešit* ("на пачатку") – слова, з якога пачынаецца першая кніга Пяцікніжжа. Ян наогул пачынае сваё Евангелле выразам *en arche* ("на пачатку"), як бы перапісваючы наноў старажытную таямніцу быцця, якая выбліснула ягоным сучаснікам. А сэнс застаецца той самы: вызначыць пачатак, каб вызначыць і акрэсліць рэчаіснасць.

Роду 1:1–2:4а распавядае пра Боства, якое ў велічнай самоце стварае рэчаіснасць, прыводзіць з нябыту да быцця сусвет, яго структуры і яго насельнікаў ды блаславіляе іх на жыццё. Ягоныя дзеі ўпарадкаваныя й мэтанакіраваныя, іх паслядоўнасць дасканала выверaная, іх ўзаемасувязі непарыўныя і лагічныя. Усё на сваім месцы, усё ў сваім часе.

Увесь тэкст падпарадкаваны гэтаму вобразу дасканаласці, ён пульсуе рытмічна, ён гучыць узнёслым літургічным рэчытатывам. Мелодыка вызначаецца паўторамі, якія адбіваюць такт і адначасова выступаюць выверанымі формуламі стварэння. Так, новы творчы акт абвяшчаецца прамаўленнем Боскае задумы: "І сказаў Бог" (1:3, 6, 9, 11, 14, 20, 24, 26, 29); складаецца з загаду "Хай будзе..." (1:3, 6, 9, 11, 14, 20, 24, 25) і выканання, у тэксце якога нават шматлікія элементы загаду акуратна паўтараюцца, часта з мінімальнымі тэкстуальнымі зменамі; падсумоўваецца справаздачаю "І было так" (1:7, 9, 11, 15, 24, 30) і ацэнваецца: "І ўбачыў Бог, што *гэта* добра" (1:4, 10, 12, 18, 21, 25, 31 (фінальная формула мяняецца на: "І вось, *гэта* вельмі добра")). І ўвесь працэс размераны на дні, першы з якіх пазначы формулай "І быў вечар, і была раніца, дзень адзін" (1:5), у наступных формула паўтараецца, толькі колькасны лічэбнік мяняецца на парадкавы ("дзень другі, дзень трэці" і г.д., 1:8, 13, 19, 23, 31), а апошні, сёмы дзень вылучаецца з усіх адсутнасцю формулы, але патройным прамаўленнем (2:2 двойчы, 3).

## КНІГА РОДУ 1:1–2:4А.

## Тэкст у перакладзе на беларускую мову

***Заўвага:***

Курсівам вылучаныя словы, якіх няма ў арыгінале і якія ўстаўляюцца дзеля лёгкасці ўспрыняцця тэксту паводле беларускага сінтаксісу.

1:1. Напачатку стварыў Бог неба і зямлю.

2. І зямля была голая і кволая, і цемра над абліччам бездані, і вецер Божы веяў над абліччам вады.

3. Бог сказаў: "Хай будзе сьвятло!" І было сьвятло.

4. Бог убачыў, што сьвятло добрае. І аддзяліў Бог сьвятло ад цемры.

5. І назваў Бог сьвятло днём, а цемру назваў ноччу. І быў вечар, і была раніца, дзень адзін.

6. Бог сказаў: "Хай будзе прасьцяг пасярод вады, і хай аддзеліць ваду ад вады".

7. І зрабіў Бог прасьцяг і аддзяліў ваду, якая з-пад прасьцягу, ад вады, якая з-панад прасьцягу. І было так.

8. І назваў Бог прасьцяг небам. І быў вечар, і была раніца, дзень другі.

9. Бог сказаў: "Хай зьбярэцца вада з-пад неба ў адно месца, і хай зьявіцца суша".

І было так.

10. І назваў Бог сушу зямлёю, а збор вады назваў морамі. І ўбачыў Бог, што *гэта* добра.

11. Бог сказаў: "Хай прарасьціць зямля расьліны: траву, што сее насеньне, пладовыя дрэвы, што даюць плады паводле свайго роду, у якіх іх насеньне на зямлі". І было так.

12. І зямля вывела расьліны: траву, што сее насеньне паводле свайго роду,

і дрэвы, што даюць плады, у якіх насеньне паводле іх роду. І ўбачыў Бог, што *гэта* добра.

13. І быў вечар, і была раніца, дзень трэці.

14. Бог сказаў: "Хай будуць сьвяцілы на прасьцягу неба, *каб* аддзяляць дзень ад ночы, і хай будуць знакамі і для пораў году, і для дзён і гадоў,

15. і хай будуць сьвяцiламі на прасьцягу неба, *каб* сьвяціць на зямлю". І было так.

16. Бог зрабіў два сьвяцілы вялікія: сьвяціла большае кіраваць днём, і сьвяціла меншае кіраваць ноччу, і зоркі.

17. І зьмясьціў іх Бог іх на прасьцягу неба сьвяціць на зямлю,

18. і кіраваць днём і ноччу, і аддзяляць сьвятло ад цемры. І ўбачыў Бог, што *гэта* добра.

19. І быў вечар, і была раніца, дзень чацьверты.

20. Бог сказаў: "Хай узварушыцца вада рухам душы жывой, і хай птушкі палятуць над зямлёю, над абліччам нябёснага прасьцягу".

21. І стварыў Бог цмокаў вялікіх і ўсякую душу жывую, паўзуноў, якімі варушыцца вада, паводле іх роду, і ўсякую птушку крылатую паводле яе роду. І ўбачыў Бог, што *гэта* добра.

22. І бласлявіў іх Бог, сказаўшы: "Пладзецеся і множцеся, і напаўняйце ваду ў морах, і птушкі хай множацца на зямлі".

23. І быў вечар, і была раніца, дзень пяты.

24. Бог сказаў: "Хай выведзе зямля душу жывую паводле яе роду: зьвяроў, паўзуноў і зямных жывёл паводле іх роду". І было так.

25. І зрабіў Бог зямных жывёл паводле іх роду і зьвяроў паводле іх роду, і ўсіх паўзуноў земляных паводле іх роду. І ўбачыў Бог, што *гэта* добра.

26. Бог сказаў: "Зробіма чалавека паводле нашага вобразу, як нашае падабенства;

і хай пануюць над рыбамі марскімі, і над птушкамі нябёснымі, і над зьвярамі, і над усёй зямлёю, і над кожным паўзуном, што поўзае па зямлі".

27. Бог стварыў чалавека паводле свайго вобразу, паводле вобразу Божага стварыў яго; мужчынскім і жаночым стварыў іх.

28. І благаславіў іх Бог, і сказаў ім Бог: "Пладзецеся і множцеся, напаўняйце зямлю і авалодвайце ёю, і пануйце над рыбамі марскімі, і над птушкамі нябёснымі, і над усімі жывёламі, што поўзаюць па зямлі".

29. Бог сказаў: "Вось, Я даю вам усялякую траву, што сее насеньне на абліччы ўсяе зямлі, і ўсялякае дрэва, якое дае плод, дрэва, што сее насеньне; *гэта* будзе ежаю вам,

30. і ўсім зямным жывёлам, і ўсім нябёсным птушкам, і ўсім, што поўзаюць па зямлі,

у кім жывая душа, усю зеляніну і траву на ежу". І было так.

31. І ўбачыў Бог усё, што зрабіў; і вось, *гэта* вельмі добра. І быў вечар, і была раніца, дзень шосты.

2:1. І былі завершаныя неба і зямля і ўсе іх сілы.

2. І завершыў Бог на сёмы дзень працу сваю, якую зрабіў, і спачыў на сёмы дзень ад усяе працы свае, якую зрабіў.

3. І благаславіў Бог сёмы дзень, і асьвяціў яго; бо ў ім спачыў ад усяе працы свае, *усяго таго*, што стварыў Бог, зрабіўшы.

4. Вось радавод неба і зямлі па стварэньні іх.

## Выбраныя каментары

### *Верш 1:1*

• **стварыў**. Гебрайскі дзеяслоў *bara (бара)* традыцыйна перакладаецца як "стварыў". Ён ужываецца ў гэтым тэксце сем разоў і ёсць адным з структураўтваральных слоў. Суб'ектам гэтага дзеяслова нязменна выступае Бог. Некаторыя сучасныя біблістычныя даследаванні пераканаўча паказваюць, што *bara* ва ўсіх сямі ўжытках значыць не "стварыў", а "раздзяліў" – у сэнсе стварэння адрозных касмічных адзінак на месцы аднае гамагеннае праявы. Такое прачытанне шмат у чым мяняе касмаганічную карціну. У гэтым перакладзе мы засталіся з традыцыяй, але спадзяемся да далейшыя даследаванні і новыя аргументы.

• **Бог.** "Бог" – гэта традыцыйны пераклад слова *elohim (элогім)*, што літаральна значыць "багі". Назоўнік стаіць у множным ліку, але ўжываецца з дзеясловамі адзіночнага ліку. Слова "Бог" у перакладах не адпавядае сутнасці арыгінала, але адэкватнай замены яму папросту няма. У Гебрайскай Бібліі ёсць дзве магчымасці сказаць "Бог": паралельна ўжываюцца слова *el (эль)* – гебрайскі варыянт паўночназаходнесеміцкага *il (іль)*, і ўласна гебрайская адаптацыя гэтага слова, *eloah (элоаг)*. Абодва словы ўжываюцца шырока, як у адзіночным, гэтак і ў множным ліку. "Элогім" – гэта множны лік ад "элоаг".

"Элогім" можа значыць родавую назву, г.зн. "Бог", асабовае імя або фармальны тытул боства. Магчыма, граматычны "адзіночны абсалютны" ў множным ліку слова "Элогім" пакліканы пазначыць боскасць Элогіма, якая выключае любыя іншыя боскасці, або наадварот, улучае ў сябе ўсіх магчымых іншых багоў з іх поўным распусканнем у асобе Элогіма – новае боскае адзінкі, поўні боства.

• **неба і зямлю**. Найменне Элогіма выражае ўнікальнасць ягонай пазіцыі ў сусвеце – і ў абсалютным сэнсе, і ў дачыненні да ўсяго, што існуе. Гэтыя дачыненні і сфармуляваныя ў першым вершы:

Напачатку стварыў Элогім
неба і зямлю.

Словы "неба і зямлю" (*et-hašammajim we-et-haareṣ*) найлепш разумець у святле старажытнага, але добра вядомага біблійным аўтарам сумерскага тэрміну **an-ki** ("неба-зямля"), якое пазначае сусвет як цэлае, усё, што існуе. Пара "неба і зямля" ўтвараюць *мерызм*, г.зн. бінарную апазіцыю, якая ахоплівае цэлае. Тое, што створана Элогімам "напачатку", – гэта сусвет, прычым сусвет, патэнцыйна падзяляльны на дзве часткі – *šammajim (шаммайім)* і *ereṣ (эрэц)*, неба і зямлю.

Сэнс уступнага сказа датычна Элогіма ў тым, што ён – творца ўсяго і, адпаведна, ёсць па-над і па-за ўсім; ён не залежны ні ад чога, тады як усё залежыць ад яго, бо ўсё прыйшло да быцця ад Элогіма, праз Элогіма і воляю Элогіма, абсалютнага Бога.

Элогім адзіны дзейнік усяе гісторыі, адзіны касмаганічны герой. Тым не менш, тэкст анічога не гаворыць пра самога Элогіма. Ягоная індывідуальнасць, асабовыя характарыстыкі ці нават касмічныя функцыі застаюцца па-за межамі аповеду. Асноўным – і адзіным – вызначэннем Элогіма ёсць тое, што ён – творца свету. І, што не менш важна, ён ёсць ***адзіным*** творцам ***усяго***, дызайнерам і выканаўцам, дойлідам і будаўніком у адной асобе. Ён ёсць ***адзіным Богам***.

## *Верш 1:2*

Гэта адзін з самых складаных для перакладчыка вершаў ва ўсёй Гебрайскай Бібліі. Апроч таго, што тут ужываюцца словы, значэння якіх біблісты добра не разумеюць з прычыны іх слабой атэставанасці ў гебрайскіх тэкстах, тут яшчэ і сэнсы або адценні сэнсаў ствараюцца гукапісам, алітэрацыямі, якія ў Бібліі часта ўжываюцца на месцы этымалогій. У пошуку семантычных адпаведнікаў перакладчык траціць сам вобраз, дзеля стварэння якога і выбіраліся моўныя сродкі.

• **І зямля была голая і кволая**. Па-гебрайску стан наваствоpанай, але яшчэ бязладнай зямлі сфармуляваны двума кароткімі рыфмаванымі словамі: *tohu wa-bohu* (*wa* – гэта злучнік "і"). І калі *tohu* (*тогу*) сустракаецца ў Бібліі, апроч гэтага верша, 19 разоў са значэннем пустаты, закінутасці, спусташэння і марнасці (словаў ці аргументаў), то *bohu* (*богу*) сустракаецца толькі двойчы, у Ярэмы 4:23, дзе ўжываецца гэты самы выраз *tohu wa-bohu*, і яшчэ ў Ісаі 34:11, дзе кантэксту не дастаткова, каб зразумець яго дакладнае значэнне, хаця карціна ўсяго верша – спустошанасць. Сэнс пары *тогу-богу* перш-наперш у тым, што кожнае слова дублюе і ўзмацняе другое, гэта нейкі ўстойлівы выраз, якім характарызуюць непрыглядны стан рэчаў. Тут ён ужыты дзеля стварэння яркага эмацыйнага вобраза хаосу, якім была зямля. Ідэальна было б перакласці гэты дуплет аналагічным дуплетам з кароткіх рыфмаваных слоў, і мы пакуль спыніліся на варыянце "І зямля была голая і кволая". Гэтую пару прапанаваў светлай памяці Зміцер Саўка. Таксама разглядаліся варыянты пары да "пустая": глухая / нямая / сляпая / сухая / худая / нежывая / ніякая / парожняя. Дарэчы, апошні варыянт, "пустая і парожняя" выбралі ўкраінскія перакладчыкі. Магчыма, аднак, што лепей будзе ўзяць менш яркую, але больш семантычна адпаведную *тогу-богу* пару "пустая і голая".

• **і вецер Божы веяў**. У гэтай касмаганічнай карціне свету высвечваюцца чатыры статычныя элементы першаснага хаосу, якія Элогім будзе ўжываць і трансфармаваць у алхімічным працэсе стварэння космасу: зямля, цемра, бездань і вада. Апроч іх тут знаходзіцца боская энергія – *ruach elohim*, "вецер Элогіма". Слова жаночага роду *ruach* (*руах*) найчасцей перакладаюць як "дух", але гэта справядліва настолькі, наколькі дух разумеецца як турбулентая сіла, і не як метафізічная катэгорыя. *Руах* найперш значыць "вецер", і ў іншых тэкстах Бібліі, якія паклікаюцца рыхтык на

гэтую гісторыю стварэння, слова *руах* немагчыма перакласці інакай чым “вецер”: у гісторыі Паводкі, дзе адбываецца касмічны працэс ад-стварэння, г.зн., знішчэння ўсяго створанага, вельмі многа простых адсылак і алюзій на гэтую гісторыю стварэння, усе элементы, згаданыя ў гэтым вершы і трансфармаваныя ў наступных, “адрабляюцца” там падчас сусветнага катаклізму, а спыняе Паводку вецер (*руах*), насланы Богам, адзіны застаючыся ствральнай, а не разбуральнай сілаю. Таксама ў Псальме 104 (па Сэптуагінцкім падзеле 103), гаворка ідзе пра Бога – тварца свету, які “ходзіць на крылах ветру (*руах*)”. Прыкладаў многа, але не ў гэтым галоўная складанасць.

Вецер-*руах* – адзіны нейкім чынам дзейсны суб’ект у гэтым вершы, дзе зусім няма дзеясловаў. Элементы хаосу велічна статычныя, і толькі ветру Элогіма ўласцівая пэўная актыўнасць. Тое, што ён робіць, акрэсліваецца ў вышэйшай ступені нестандартным дзеепрыметнікам *m$^{e}$rachephet* (*мерахэфет*, нешта накшталт “варушыўшыся”). Ён атэставаны ў Бібліі яшчэ горш за *bohu*. У Ярэмы 23:9 дзеяслоў *rachaph* (*рахаф*) стаіць у іншым залогу і мае значэнне накшталт трымцення. У Другазаконні 32:11 ён апісвае дзеянне арла, які завісае над гняздом, распасцершы крылы над арлянятамі. Рух, які дазваляе арлу заставацца нерухомым.

“Птушыная” сувязь тут невыпадковая. Кагнітыўнае *руах* арабскае слова *рух* азначае касмічную птушку, з яйка якое нараджаецца свет. Уся карціна стварэння першых вершаў Кнігі Роду 1 перагукваецца з егіпецкай гісторыяй стварэння, тонка дыспутуючы з ёю, але прымаючы яе асноўныя вобразы. У гэтай карціне вялікая касмічная птушка крычыць над нерухомай паверхняю спрадвечнага хаосу, і яе крык спараджае рабізну, зрушэнне на абліччы хаосу, і ў выніку чатыры пары хаосавых персаніфікацый – вада, цемра, бясконцасць і нябачнасць – прыходзяць ва ўзаемадзеянне, і ўспыхвае Полымя, даючы пачатак космасу. І ў нашай біблейскай касмагоніі вецер варушыцца і парушае (як птушка крыламі) нерухомасць чатырох першаэлементаў – энергія, якая ажыўляе матэрыю.

Аднак найважнейшай акалічнасцю ў падборы слова, якое пазначае сутнасць акрыўрасці *руах*, была сугучнасць паміж абодвума словамі. *Рахаф* алітэрацыйны з *руах*, і ў спалучэнні слоў *руах мэрахэфэт* гучыць упершыню адна з найважнейшых ідэяў гэтага тэксту, якая выражаецца лінгвістычнымі сродкамі: у працэсе стварэння задаюцца асноўныя функцыі ўсіх з’яў і суб’ектаў свету, іх самыя базавыя здольнасці. Дзеля дасягнення эфекту базавасці дзеяння, у тэксце паслядоўна ўжываецца той самы стылёвы прыём: словы, якія падбіраюцца для дзейніка і выказніка, аднакарэнныя або, пры немагчымасці аднакарэннасці, алітэрацыйныя (як тут). Гл. каментар на верш 1:20. Такім чынам, у перакладзе слова для *мэрахэфэт* мусіць быць сугучным слову для *руах*. Мы прынялі пару “вецер веяў”. Варыянтам магло б быць “вецер віўся”.

• **над абліччам бездані… над абліччам вады**. Многія пераклады прапускаюць адно ці абое “абліччы”. Па-гебрайску выраз *$^{c}$al p$^{e}$nē* (*аль пенэ*) літаральна значыць “над абліччам”, “над тварам”, але можа значыць і “над паверхняю”. У гэтай касмаганічнай карціне двойчы ўжытае “аблічча” ставрае ўнутраную сувязь паміж безданню і вадой, і ў выніку паўстае дадатковы вобраз дзвюх спрадвечных існасцяў, дзвюх безданяў – верхняй і ніжняй, – якія глядзяцца адна ў адну.

## *Верш 1:20*

• **Хай узварушыцца вада рухам душы жывой**. Слова *šaraṣ* (*шарац*) значыць “варушыцца”, “зьвівацца”, а таксама “кішэць” у сэнсе незлічонай множнасці. Субстантыў *šereṣ* (*шэрэц*) узмацняе гэты вобраз. Рэч ідзе пра “экалагічны вялікі выбух”: вада раптам робіцца поўнаю жыцця, і вось – дзе паўставалі дасканалыя касмічныя структуры і адбываліся ўрачыстыя трансфармацыйныя дзеі, там раптам у адначассе забруілася, завіравала, заварушылася разнастайнае жыццё, і ўсё існае набыло цалкам іншыя сэнсы.

Словы *шарац* і *шэрэц* аднакарэнныя і выражаюць тую самую ідэю. Гэта стылёвы прыём, пачаты параю (тут алітэрацыйнаю, а не аднакарэннаю) *ruah-merahephet* (*руах мэрахэфэт* ,“вецер вее”, в. 2), працягнуты парамі *jiqqawu-miqweh* (*йіккаву-міквэ*, “збярэцца ў збор”, в. 9 і 10), *tadše’-deše’* (*тадшэ-дэшэ*, “прarосціць расліну”, в. 11) і *mazrija*$^{c}$*-zera*$^{c}$ (*мазрыя-зэра*, “сеяць насенне”, в. 11 і 12, і потым яшчэ двойчы тое самае ў іншай граматычнай форме, *zorea*$^{c}$*-zera*$^{c}$ (*зорэа-зэра*) у в. 29), потым вось гэтай параю *šaraṣ-šereṣ* і ў гэтым самым 20-м вершы – $^{c}$*oph-j*$^{ec}$*opheph* (*оф-йеофэф*, “лятун паляціць”), і завершыцца ў в. 26 параю *haremeś-haromeś* (*гарэмес-гаромес*, “паўзун поўзаючы”).

## ***Верш 1:27***

• **мужчынскім і жаночым**. Словы *zakar u-neqebah* (*захар у-нэкева*, у – гэта злучнік “і”) аніяк не значыць “мужчыну й жанчыну”, якіх мы знаходзім у іншых перакладах. Тут гэта хутчэй універсальныя родавыя (палавыя) пазнакі жывых істот, як, напрыклад, ангельскія *male and female*. Па-беларуску няма слоў, якія б падыходзілі і чалавеку, і жывёле. Аднак для разумення тэкста важна захаваць універсальную родавую бінарнасць, якая ёсць кульмінацыяй шматузроўневай унутранай напругі ў вершах 26 і 27, дзе асноўны фокус утрымліваецца на “вобразе Элогіма”, паводле якога ён стварае чалавека. *Захар у-нэкева* ёсць пэўнай развязкаю інтрыгі, якая трымае чытача ў напружанні, датычнай таго, хто такі Элогім. З аднаго боку, як ужо было адзначана, ён – адзіны дзейнік на касмаганічнай сцэне. З другога боку, калі ён адзіны раз гаворыць пра сябе, то ўжывае множны лік, “*Зробіма* чалавека паводле *нашага* вобразу, як *нашае* падабенства” (в. 26). У вершы 27 слова “вобраз” паўтараецца двойчы без перапынку, што стварае напругу чакання, што ж гэта за вобраз. Апошняя фраза верша рытмізаваная і ўтварае паралелізм, тыповы для семіцкай паэзіі, дзе ў двувершы другі радок паўтарае першы, змяняючы ці ўдакладняючы дэталі:

| | |
|---|---|
| *b*$^{e}$*ṣelem elohim* | *bara’ oto* |
| *zakar u-neqebah* | *bara’ otam* |
| *бэц***э***лем элог***і***м* | *бар***а** *от***о** |
| *зах***а***р у-нэкев***а** | *бар***а** *от***а***м* |
| На вобраз Элогіма | стварыў яго, |
| Мужчынскім і жаночым | стварыў іх. |

Такім чынам, вобразам Элогіма выступае, апроч іншага, бінарнасць як асноўны канстытуцыйны прынцып тварца – гэта значыць, унутраная здольнасць мець, спалучаць, раздзяляць два бакі, два полюсы, толькі ў напрузе паміж якімі можа зараджацца жыццё.

Стваральнік выступае прататыпам свайго стварэння. Гісторыя, якая нічога не гаворыць пра самога Элогіма, раскрывае ягоны характар праз адбітак – ягоны вобраз і падабенства, удрукаваны ў прыродзе створанага ім чалавека. Свабодная, узнёслая і абсалютна аўтаномная натура Бога праяўляецца ў самой *мэце* стварэння людзей, ім самым сфармуляванай у вершы 26 і паўторанай у блаславенні ў вершы 28: кіраваць створаным светам і ўсім, што ў ім ёсць. Той, хто стварыў свет і прызначыў для яго кіраўніка, мусіць сам быць суверэнным касмічным уладаром. З іншага боку, ён нічога не патрабуе ад людзей. Людзі не мусяць ніякім чынам, ніякім служэннем плаціць яму за сваё права валодаць дадзеным ім светам. Яму нічога ад іх не трэба. Незалежны, аўтаномны, самадастатковы Бог стварае незалежных, аўтаномных, самадастатковых людзей, вольна аддае ўсіх астатніх істот пад іх нагляд і нічога не патрабуе ўзамен.

*(Працяг будзе)*

500-годнасць

Францыск Скарына



...з нічога
нічога не паўстае...

# Дзеля дабра паспалітага

***З кнігі вершаў “Маем найбольшае самі”***

***ШТО ЁСЦЬ НА ЗЯМЛІ І ШТО ЁСЦЬ НА НЕБЕ***

***1***

Звястуючы Духам Святым,
гаворыць
у першай кнізе сваёй Майсей,
Гасподні прарок,
пра спрадвечныя дзеі:
пра тое, як Гасподзь Бог
стварыў на пачатку часу
нябёсы, зямлю і ўсё,
што іх насяляе;
і як, урэшце,
па сваім вобразе і падабенстве
стварыў Адама,
нашага праайца,
і прамаці Еву.

*Са старабеларускай перастварыў Алесь РАЗАНАЎ.*

*2*

Гаворыць пра тое,
як вораг-змей
іх, ашукаўшы,
увёў у спакусу
і як былі
за гэта выгнаны з раю,
і як пачалі
у клопатах і вымогах
жыць на зямлі.

*3*

З цягам часу
людзі размножыліся і
скіравалі
думкі свае на злое,
і прынялі
злое ў сваю душу
і на Бога
забыліся – і тады
за гэта навёў Гасподзь Бог
патоп на людзей
і ўсіх выгубіў;
толькі Ноя,
што праведны быў, збярог
з ягонаю чэляддзю
у каўчэгу.

*4*

Потым у кнізе Быцця
вядзецца гаворка пра тое,
як людзі
намерыліся да неба
узвесці вежу,
і як падзялілася іхняя мова
на мноства моваў,
і як разышліся
яны, перастаўшы
адно аднаго разумець,
па розных далёкіх народах
і розных – малых і вялікіх –
царствах.

*5*

Потым пра тое,
як жыў Аўраам,
і быў паслухмяны Гасподняй волі,
і як Гасподзь Бог абяцаў
размножыць яго насенне,
нібы марскі пясок
і нібы нябесныя зоры;
і як у яго нарадзіўся,
калі ўжо стары быў, сын,
якога назваў ён Ісакам;
і як выпрабоўваў Бог Аўраама,
загадваючы прынесці
Ісака ў ахвяру,
і як утрымаў руку
Аўраамаву
і багаславіў яго.

*6*

Ісак, ажаніўшыся,
меў сыноў
блізнятаў – Ісава й Іакава.
Дык Іакаў,
хоць нарадзіўся, трымаючыся за пяту
Ісававу,
пераняў
у брата свайго першародства
і багаславенне – у бацькі,
а потым жыў
доўга ва ўцёках,
служачы пастухом
дзядзьку свайму Лавану.

*7*

І там, пасвячы гурт авечак,
узяў дзвюх яго дачок
сабе ў жонкі,
і нарадзілі яны яму
дванаццаць сыноў.
Тады
з вялікім багаццем
вярнуўся Іакаў
у сваю вотчыну
і па дарозе

быў пераняты Богам,
які з ім змагаўся
і найменаваў
Іакава новым найменнем –
Ізраіль.

***8***

Пішацца гэтаксама
ў кнізе гэтай
пра род Ісаваў
і пра сыноў Іюды,
якіх ён займеў
са сваёй нявесткай;
пра скаргу Іосіфаву
на братоў
і пра сны,
якія ён сніў, –
браты ж,
Іосіфа зненавідзеўшы,
прадалі
яго ў няволю – ў Егіпет.

***9***

Купіў у Егіпце
Іосіфа Паціфар,
фараонаў чаляднік,
але, паверыўшы нагаворам
жонкі сваёй,
загадаў
увязніць яго ў цямніцу.
Там растлумачыў Іосіф сны
чашніку й пекару,
а затым,
калі загадаў фараон яго
вызваліць, –
і фараону:
так, прадказаў Іосіф,
што будзе спачатку
сем урадлівых гадоў Егіпце
і гэтулькі –
следам за тым –
галодных.

***10***

Убачыўшы, што сваёю
мудрасцю пераўзыходзіць
Іосіф яго мудрацоў,
фараон
паставіў Іосіфа над усёю
зямлёю егіпецкай –
і сабраў
за сем гадоў дабрабыту
Іосіф у свірны
вялікае мноства жыта,
калі ж настаў
голад вялікі –
ён адкупіў
за гэтае жыта
увесь Егіпет.

***11***

Прыйшлі тады,
пасланыя бацькам сваім,
у Егіпет
Іосіфавы браты,
каб купіць
збожжа сабе на пражытак.
Іосіф пазнаў іх,
аднак
гутарыў з імі сурова
як незнаёмы,
іх выпрабоўваючы,
але ўрэшце рэшт
ён ім адкрыўся
і прывітаў іх усіх,
і абняў,
і паслаў, каб прывезлі бацьку.

***12***

І вось увайшоў Іакаў
з домам сваім у Егіпет,
і гутарыў з ім фараон
і даў
яму ў вотчыну лепшы
надзел у Егіпце – зямлю
Гесэм.

Калі ж настала
пара паміраць, Іакаў
склікаў сыноў сваіх,
і надзяліў
кожнага з іх сваім
багаслаўленнем, і долю
кожнага з іх азначыў –
з тым
праракуючы аб нараджэнні
Ісуса Хрыста.

*13*

Калі Іакаў памёр,
сыны
яго аплаквалі дужа
і пахавалі ў Хеўроне,
у могільніку,
дзе былі
бацькі яго пахаваны.

*14*

Кажа Майсей у канцы
кнігі Быцця пра смерць
Іосіфаву
і пра тое,
як перад гэтым прысягу
узяў са сваіх братоў –
каб з Егіпта,
калі будуць самі выходзіць,
таксама
вынеслі косці яго.

*15*

Такім чынам,
скоратку маеце выкладзеным
перад сабою
тое, пра што ў першай кнізе
піша Майсей.
Належыць
таксама ведаць,
што між усіх кніг
Старога Закону
кніга Быцця,
канец і пачатак кнігі
Езэкііля-прарока
і “Песня песняў” цара Саламона
самыя цяжкія для разумення.

*16*

Таму габраі
людзям не сталым,
якім яшчэ не было
трыццаці гадоў,
не давалі
гэтыя кнігі чытаць –
бо ў іх
замкнёны вялікія таямніцы
і гэтыя таямніцы
пераўзыходзяць розум людскі.

*17*

Скажыце,
які філосаф
змог ахапіць сваім розумам
і выснаваць у развагах,
як Гасподзь Бог
стварыў сваім словам з нічога
усё, што мы бачым,
а гэтаксама ўсё тое,
чаго не бачым?!.
Кажа
іхні старэйшына Арыстоцель:
“З нічога
нічога не паўстае”.

*18*

Але мы, хрысціяне, маем
веру,
што большая за ўсе веды,
ва Ўсёмагутнага Бога,
адзінага ў Тройцы,
які стварыў за шэсць дзён
неба, зямлю і ўсё,
што ёсць на зямлі
і што ёсць на небе.

## *НЕ ТОЛЬКІ ДАСЛОЎНА, А І ДУХОЎНА*

*1*

Другая Майсеева кніга –
“Выйсце”: габраі
яе называюць “Гелешамот”,
бо якраз
з гэтага слова
у скрутках габрайскіх
яна пачынаецца.
Піша
у ёй Майсей пра няволю
Ізраілевых сыноў,
што ў Егіпце,
на цяжкую працу асуджаныя,
цярпелі;

*2*

Пра нараджэнне сваё
і пра тое,
як, пушчаны ў карабе на ваду,
быў выцягнуты з вады
і дачкой фараонавай
узгадаваны,
і як аднойчы,
баронячы аднапляменца свайго,
забіў егіпцяніна,
і пра ўцёкі
ад фараонавай помсты;

*3*

Пра купіну,
што гарэла
агнём палымяным
і не абпальвалася,
і пра тое,
як праз яе аб’явіўся
яму Гасподзь Бог,
і гутарыў з ім,
і паслаў,
каб вывеў ізраільскі люд
з Егіпта;
пра дзіўныя дзівы,
якія ўчыніў
са сваім посахам прад фараонам,
пра дзесяць караў,
якія навёў
на Егіпецкую зямлю
Гасподзь рукою Майсеевай.

*4*

Першая к*а*ра:
вада
ў крыніцах і рэках раптам
крывёю зрабілася –
і было
піць яе немагчыма;
другая кара:
запаланілі
егіпецкую зямлю
і дамы егіпцянаў жабы –
было іх безліч;
трэцяя кара:
узнікла
з праху зямнога й суздром
заедзь запанавала;
чацвёртая кара –
сабачыя мухі;
пятая – мор,
што выгубіў у егіпцянаў
усю, што ні ёсць, жывёлу;
шостая –
верад людзям;
сёмая кара –
град,
што пабіў збажыну
і сады спустошыў;
восьмая кара –
кабылкі, ці саранча,
што ўкрыла
аблічча зямлі і зжэрла
траву і былінкі;
дзявятая кара –
цемра,
што агарнула
увесь Егіпецкі край,
адно толькі ў жытлах

Ізраілевых сыноў
заставалася светла;
дзясятая кара:
забрала смерць
кожнага першынца ў егіпцянаў –
ад першынца фараона, які
ўзвялічваецца на троне,
да першынца гарапашнай
нявольніцы, што пры жорнах.

*5*

Піша далей
Майсей пра ягня, якое
ізраільскі люд
спажываў на Пасху –
як выбіраць яго,
як гатаваць,
як есці.
Потым – пра выйсце
ізраільцянаў з Егіпта:
як расступілася перад імі
Чырвонае мора,
як перайшлі
па ім, нібыта па сушы,
і як фараон –
егіпецкі цар –
не змогшы
змірыцца з такою стратай,
пагнаўся за імі з войскам
на калясніцах
і ў моры тым захліснуты
навалам вады імклівым,
з ім патануў,
і пра тое,
як, перайшоўшы мора
з сынамі Ізраілевымі шчасліва,
спяваў урачыстую песню
Майсей,
узносячы Госпаду Богу
хвалу-падзяку.

*6*

Піша Майсей,
як паслаў Гасподзь Бог
манну з нябёсаў,
калі ў высяленцаў
не стала яды,
а калі
яны знемагалі ад смагі,
з каменнай скалы
ім адтуліў крыніцу;
затым як прыйшлі
яны да гары Сінайскай
і як Гасподзь Бог ім даў
дзесяць загадаў-запаведзяў,
занатаваных
на дошках каменных.

*7*

Першы загад абвяшчае:
“Вер
у Бога адзінага!”
Зазначае другі:
“Не кажы
імя яго марна!”
Трэці нагадвае:
“Памятай
святочныя дні,
каб святіць іх!”
Чацвёрты вучыць:
“Шануй
бацьку свайго і маці!”
Пяты накрэслівае:
“Нікога
не забівай!”
Абавязвае шосты:
“Не чужаложнічай!”
Асцерагае
сёмы загад:
“Не крадзі!”
Папярэджвае восьмы:
“Не сведчы хлусліва!”
Дзявяты забараняе:
“Не пажадай
жонкі бліжняга!”
І дапаўняе
дзясяты загад:
“А таксама
ані сядзібы яго,
ні маёмасці!”

*8*

Потым
піша Майсей пра суды,
усталяваныя Богам –
як маюць людзі
судзіць людзей справядліва;
пра пост Майсееў
у сорак дзён
і сорак начэй на Сінайскай гары.
Падрабязна
апісвае пабудову
бажніцы Збору –
як і з чаго рабіцца
павінна яна
і якія памеры
павінна мець;
гэтаксама
тады пералічвае, што павінна
стаяць у бажніцы,
а менавіта:
скрыня Закону,
на вечцы якой
паставы двух херувімаў;
свяцільнік на ўзор
сцябла і галінаў –
увесь
са шчырага золата,
а на ім
вогмені, што гарэлі б;
стол
з праснакамі асвечанымі;
аброчнік
акуты золатам,
каб кадзіць
духмяны цімвян.
У прытворы
меўся быць трэбнік усеспалення,
з рашоткаю,
меддзю акуты,
і мыйніца са сваёй
падстаўкаю.

*9*

Піша таксама
Майсей пра апраты
вялікага святара,
дэталёва
апісваючы, якім
хітон мае быць
і якою рыза,
якім – нагруднік,
што судныя словы
змяшчае ў сабе,
і якім – наплечнік
ды іншыя ўборы
Аронавы і сыноў
Аронавых.

*10*

У канцы
піша Майсей, як была
зладжана тая бажніца
і як былі
прадметы патрэбныя
зроблены
і як тады
было ўсё асвечана
чыстым алеем
і як сышла
у воблаку слава Гасподняя
на бажніцу, і як,
зрушыўшы з месца яе,
Ізраілевы сыны
падаліся ўсёй грамадою
услед за ёй
у сваю вандроўку.

*11*

Калі разумець не толькі
даслоўна, а і духоўна,
тое, што выкладае
у кнізе сваёй Майсей,
знойдзем
тут многія таямніцы
веры Хрыстовай, “бо
сталася гэта,
каб споўнілася Пісанне”, –
як зазначае
евангеліст Хрыстовы.

*12*

Што знакавала няволя,
якую трымалі ў Егіпце
цялесна
Ізраілевы сыны?
Ці не нашу
няволю душэўную?
Бо суздром
святыя айцы да таго,
як Божае Слова
уцелясненне займела,
сыходзілі ў пекла.
Так, сведчыць
Якуб-патрыярх пра сябе:
“Са смуткам
у апраметныя нетры
да сына свайго сыду”, –
бо было вядома
святому айцу, што дакуль
сваім крыжом не адхіліць
Хрыстос палымянай зброі,
якой сцеражэцца
райская брама,
ніхто не зможа
у рай увайсці.

*13*

Калі перакласці
слова “Егіпет”
на нашу мову,
яно азначацьме цямноцці,
і з іх нас выводзіць
Сын Божы.
“Было
святло ёсціннае,
што прасвятляе
усякага чалавека,
які прыходзіць у свет”, –
знаходзім
звестку ў таго ж,
згаданага,
евангеліста.

*14*

Неабпаляльная купіна –
гэта зялёны куст,
што гарэў не згараючы:
ў ім
з’явіўся Гасподзь Майсею, –
і знакавала
яна зачацце Божага Сына
без семяні.
Так, як сонца
праходзіць праз шкло,
ён прайшоў
праз лона прачыстай дзевы,
не парушаючы аніяк
замкоў дзявоцтва яе.
“Вось, Дзева
у лоне зачне
і народзіць сына,
і назавецца ён іменем
З намі Бог”.

*15*

Тое, што ператварыўся
посах Майсееў у змея,
з’яднанне
дзвюх існасцяў знакавала –
боскай і чалавечай –
у адзіным Хрысце.
Як кажа
ён сам пра сябе:
“Ніхто
не ўзыходзіў на неба,
як адно той,
хто сышоў з нябёсаў, –
Сын Чалавечы,
ў нябёсах сутны.
І як Майсей
узнёс у пустыні змея,
так мае быць
узнесены Сын Чалавечы,
каб кожны,
хто ў яго верыць, не згінуў,
але займеў жыццё
вечнае”.

*16*

Пасланне, з якім Майсей
звярнуўся да фараона,
азнакавала
прыйсце Госпадняе на зямлю.
Бо з'явіўся
Бог Аўрааму,
бо гаварыў
тварам у твар з Майсеем
і быў
разам з апосталамі,
як піша
евангеліст: "Тады
звярнуўся да вучняў сваіх
і сказаў: Дабрашчасны
вочы, што бачаць тое,
што бачыце вы,
бо кажу вам, што і прарокі
многія, і цары
бачыць жадалі,
што бачыце вы,
і не ўбачылі,
чуць,
што вы чуеце,
і не ўчулі".

*17*

Вось, адказаў фараон,
не верачы:
"Хто той Гасподзь, каб я
паслухаўся яго казу
і адпусціў
Ізраіля? Не,
не ведаю Госпада і не адпушчу
Ізраіля".
Гэтак і сатана,
Збаўцы не ведаючы, спакушаў
яго спакусай сваёй:
"Калі ты Сын Божы,
скажы, каб хлябамі
сталіся гэтыя камяні".

*18*

Дзесяць караў
найшло – і тады фараон
уведаў, што ёсць Гасподзь.
Гэтак
уведалі й воржы,
калі крычалі:
"Што трэба табе ад нас,
Ісусе, Сын Божы?
Прыйшоў
ты сюды дачасна
нас мучыць".

*19*

Ягня,
для Пасхі абранае,
яўным чынам
Госпада нашага знакавала,
яго беспавінную муку,
і аб Хрысце
казаліся словы прарока:
"Я, як ягня
ціхмянае, што на закол
вядзецца".
Пра тое ж
гаворыцца і ў Евангеллі:
"Косць
яго не будзе зламана".

*20*

Пярэйсце
Ізраілевых сыноў
праз мора Чырвонае звеставала
хрост веры Хрыстовай.
Апостал Павел
піша ў лісце: "Не хачу
вас у няведанні пакідаць,
браты, што былі
пад воблакам, усе нашы
бацькі і ўсе
праз мора прайшлі, і ўсе
хрысціліся ў моры і ў воблацы
на Майсея".

*21*

А манна з нябёсаў
і са скалы
каменнай вада,
што ў пустыні
габраям даваліся, знакавалі
святасць цела Хрыстова –
дзеля
ўратавання душэўнага нашага
на зямлі
яна засталася нам.
Піша евангеліст:
“Тады
сказаў ім Ісус: Папраўдзе,
папраўдзе кажу: не Майсей
вам даў хлеб з нябёсаў,
але Айцец мой дае
з нябёсаў вам хлеб праўдзівы;
бо хлеб
Божы ёсць той,
што сыходзіць з нябёсаў
і свету
дае жыццё”.
І на гэта
сказалі яму: “Давай,
Госпадзе, нам заўсёды
такога хлеба”.
Ісус адказаў ім:
“Я хлеб жыцця,
хто да мяне прыходзіць,
не будзе спрагнёны,
і не засмягне,
хто ў мяне верыць,
ніколі”.

*22*

Было
напісана дзесяць Божых
загадаў на дзвюх
дошках каменных: яны
абодва законы
Божыя знакавалі –
Стары і Новы.
Пра гэта шырэй
я распавёў у прадмове
да пятай кнігі Майсеевай.
І пост Майсееў,
што доўжыўся сорак дзён
і сорак начэй
на гары Сінай, знакаваў
пост Хрыстовы.

*23*

Бажніца Збору
з усім начыннем яе паўставала
нерукатворнай Хрыстовай
царквою.
Апостал кажа:
“Хрыстос жа,
першасвятар наступных
дабротаў, прыйшоў
з большаю і дасканалейшаю
бажніцаю – нерукатворнай,
што азначае ўзятай
не з гэтага свету,
і не крывёю
казлоў і цялят,
а сваёю крывёю аднойчы
ўступіў у свяцілішча
і набыў
вечнае выкупленне”.

*24*

Пакмета:
ківот па-грэцку
ёсць скрыняю запавету;
на ёй
постаці двух херувімаў,
яна стаяла
у сарцавіне свяцілішча
і таямніцу
жыццёпачатнае Тройцы –
Айца і Сына і Духа
Святога – у сэрцы
усякага шчырага хрысціяніна
знакавала.

## РАНЕЙ ЗА ЎСЕ ПІСАНЫЯ ЗАКОНЫ

*1*

Людское іство дваякім
законам справуецца:
тым,
што ад Госпада Бога,
прыроджаным, ці адвечным,
а гэтаксама
тым, што напісаны.
Вынікае
перш-наперш з самога
людскога жыцця ўсялякі
закон і жыццём
абумоўліваецца, як гэты:
рабіць другім тоесамае,
што і сам
ад іх мець жадаў бы.
Усе
пісаныя законы
высноўваюцца з таго, што ў сабе
прыроджаны мае.
Кажа
наш Збаўца Ісус Хрыстос:
“Усё тое,
што хочаце, каб рабілі
вам людзі, ім
і самі рабіце; у гэтым
закон і прарокі”.

*2*

Напісаны ў сэрцы
кожнага чалавека
адвечны закон, як піша
апостал Павел пра гэта:
“Калі
язычнікі, што, закону
не маючы, ад прыроды
законнае чыняць, дык,
закону не маючы, яны самі
сабе закон,
бо з’яўляюць
справу закону, што ў сэрцах
іхніх напісаны”.

*3*

Ад пачатку
вякоў, калі Бог стварыў
першага чалавека,
ён упісаў
закон гэты ў яго сэрца.
Таму Адам
і Ева, нашы бацькі адроду,
зграшылі, што Творцы свайго
не паслухаліся і, спазнаўшы
грэх свой, былі ад яго
схаваліся ў райскім садзе.
Таксама Каін,
калі забіў Авеля, свайго брата,
вызнаў свой грэх – сказаў:
“Завялікі
чын беззаконня майго,
каб мог
вымольваць міласэрнасць”.

*4*

Як і тады, гэтаксама
цяпер усякі,
хто б ён ні быў, чалавек,
маючы розум
і з розумам згоду, знае
і ведае:
непаслушэнства,
забойства,
зман,
нянавісць,
зладзейства,
несправядлівасць,
хіжасць,
рабунак,
няволю,
кпіны,
паклёп
ды праклён,
ды зайздрасць,
ды гвалт,
ды яшчэ
шмат што падобнае не павінен
жывіць і другому чыніць,

бо і сам не жадае,
каб гэта
нехта чыніў яму.

***5***

Такім чынам,
раней за ўсе пісаныя законы,
правілы і правы
усім людзям
дадзены быў адзіны
ад Госпада Бога існы
закон, і ён
цалкам змяшчаецца ў простым
адным выслоўі:
“Любі
свайго блізкага, як самога
сябе”.

***6***

Што да закону напісанага –
ён альбо
дадзены нам ад Бога,
як кнігі
Майсеевы і святое
Евангелле, альбо ўсталяваны
людзьмі самімі –
як пастановы
святых айцоў на саборах
і як на месцах –
уставы, свае
для кожнай краіны і для народа
кожнага: ў іх
уклалася перш за ўсё
тымі, хто быў старэйшы,
што людзям
мелася ў іх справунках,
быць меркаю і вагой.

***7***

Між сабой
людзі не роўныя, і што ў
набытак
адным, у страту
другім, і не на адной
мове яны гавораць,
аднак усе
згаджаюцца без выняткаў,
што мае закон, што для іх
усталёўваецца, найперш
быць годны,
пачцівы,
даходлівы,
справядлівы,
надзелены моцаю,
радавіты
паводле паходжання,
суадпаведны
са звычаямі зямлі,
часу і месца,
вольны
ад скрытасцяў, але адкрыты
усім, і не для
спажытку, чыйго б ні было,
аднаго каго-небудзь
напісаны, а для дабра
паспалітага.

***8***

Хто самаперш
з людцаў пачаў законы
пісаць для народаў сваіх,
распавёў
скоратку я ў прадмове сваёй
да Першае кнігі Царстваў
і тут
згадваць не буду.
Закон, ці, інакш тоесамае,
права, да тых
звернуты яўным чынам,
хто хаўрусуе са злом
і ў ім
мае спажытак сабе, –
каб кары
баяліся, каб трымалі
смеласць сваю ў аброці,
каб не давалі
волі сваім пажадам,
каб моцы

нашкодзіць другім не мелі
і каб маглі
добрыя людзі жыць,
з імі суседзячы, у спакоі.

***9***

Як піша апостал Павел:
“Ведаем, што закон
добры, калі хто законна
ім карыстаецца, і прытым
ведаючы, што закон
даецца не праведніку,
а якраз
няправедным і няўскорлівым,
неміласэрным і грэшным,
зганеным і распусным,
паглумнікам бацькі і маці,
здзірцам і душагубцам,
блюзнерцам і мужаложцам,
крывапрысяжцам і скаталожцам,
хлусам і паклёпнікам,
і ўсім тым,
каму вучэнне здаровае
не да густу”.

***10***

Належыць
ведаць яшчэ, што закон,
ці права, да розных
праяваў дастасавана
і, у залежнасці ад таго,
укладаецца ў розныя кшталты
і між людзей
найменні адрозныя мае.
Адно –
паспалітае права: яно
ва ўсіх народах прынята
і ўсімі
ўшаноўваецца , а гэта
мужа і жонкі
пачцівае шлюбаванне,
дзяцей
дбайнае выхаванне,
людзей, што блізка жывуць,
гуртаванне,
пазычанай рэчы вяртанне,
гвалту
сілаю адвяртанне,
свабода,
роўная ўсім, і ўсім
маёмасць супольная.

***11***

Згодна
з гэтым законам жылі
Хрыстовы вернікі пасля
Ўсшэсця
Хрыста ў нябёсы,
як пішацца:
“У людзей,
што ўверавалі, было
сэрца адно і адна
душа, і маёмасць
адна, і ніхто нічога
з дастаткаў сваіх
не ўважаў за сваё,
а было
усё ў іх супольнае”.

***12***

Іншае права –
язычніцкае: яно
так найменоўваецца, што было
ухвалена ў многіх мовах,
альбо языках,
а гэта дык здабыванне
зброяю земляў чужых,
заснаванне
мястэчак і гарадоў,
адпусканне
паслоў, перашкоды
не чынячы ім,
захаванне
міру, пільнуючыся таго
часу, што быў азначаны,
а калі вайна –
дык яе аб’ява
сваім варагоўцам.

*13*

Яшчэ
іншае права ёсць –
царскае: пра яго
распавядае народу,
што патрабуе прызначыць
цара над сабой, Самуіл:
“Такое
будзе права царова:
возьме
сыноў вашых і з іх зробіць
вершнікаў і ганцоў
і паставіць
іх за сваіх ваяводаў і сотнікаў,
за ратаяў
на нівах сваіх,
за кавалёў
зброі сваёй”.

*14*

І апостал Павел
піша пра гэта:
“Падпарадкоўвайцеся ўсякай
уладзе, людзьмі
ўсталяванай, дзеля
Госпада – хай то цару,
як вярхоўнаму ўладару,
хай то князям, як ягоным
намеснікам, што на адпомсту
злачынцам пасланы,
бо ён
Божы слуга
табе на дабро”.

*15*

І ўслед дадае:
“А калі
чыніцьмеш ліхое – бойся,
бо нездарма
з сабою меч носіць”.
Далей
піша, наказваючы:
“Аддавайце
кожнаму, што належыць
яму: каму
падатак – падатак,
каму даніна – даніну,
каму страх – страх,
каму гонар – гонар”.

*16*

Таксама
ёсць яшчэ права, якое
мае падставай сваёю вайну,
і яно
рыцарскім найманоўваецца,
ці ваярскім, і кажа-
загадвае, як належыць
парадкаваць войска, як
асвойваць месцы,
як разумець голас труб,
як дзяліць
заваёвы,
як плату даваць.
Пра ўсё гэта
піша евангеліст, а мы
даем яму слова:
“І ваяры
ў яго пыталіся гэтаксама:
а нам што рабіць?
І казаў ім: нікому
не прычыняйце крыўды
і на нікога
паклёпаў не ўзводзьце,
платай
сваёй здавальняйцеся”.

*17*

Зноў-такі,
ёсць яшчэ гарадское,
марское,
купецкае права ды іншае,
я пра іх,
каб сціслым у выкладзе
заставацца,
не буду
апавядаць тут.
Змяшчае

гэтыя ўсе правы,
ці ўставы, сабою
іх напаўняючы і ў сабе
замыкаючы, Божы закон,
а ён
дзеліцца на Стары закон
і на Новы.

***18***

Што вызначае Стары,
дык гэта
пяць кніг Майсеевых,
а сярод іх
само вызначаецца Другазаконне,
бо што ў чатырох
першых Майсеевых кнігах
шырока
апісваецца, падаецца
сцісла ў ім.
Вось жа,
да ўцеляснення Слова
Божага меўся
быць датрыманы Стары закон.
Піша
пра гэта апостал:
"Калі спаўненне
часу прыйшло, паслаў
Бог Сына свайго,
ад жанчыны народжанага,
што падначаліў
сябе закону, да тых,
што пад законам хадзілі,
каб іх адкупіць і каб мы былі
прыняты ў сыны".

***19***

Адтады
Новы закон распачаўся –
уратавальны,
і да сканчэння вякоў
заставацьмецца з намі,
як сам
Збаўца кажа: "Мінуцца
неба й зямля, а словы
мае не мінуцца".
Ведаў
Духам Святым Майсей
пра Новы закон – Хрыстовы,
пра тое, што ўслед за тым
законам, што ён выкладае,
мае другі аб'явіцца –
Любові, то бок
святое Евангелле, і на знак
гэтага напісаў
кнігу Другазаконня, у ёй
звесткаваўшы:
"Прарока з народу
вашага і з братоў
вашых так, як мяне, абудзіць
вам Гасподзь Бог ваш:
таго маеце слухаць".

***20***

На іх,
на гэтыя два законы –
Стары і Новы,
указвалі перад Майсеем
тры патрыярхі вялікія:
мае быць
апошні большы, чым першы.
У Аўраама
двое сыноў было –
аднаго
меў ад рабыні,
другога – ад вольнай.
Былі абое
сабою адметныя:
што ад рабыні – дык нарадзіўся
па самсці,
а што ад вольнай –
па запавеце.
Той змест,
што тут утойваецца, знакуе
зноў-такі два законы:
адзін ад гары Сінай –
ён
нараджае ў рабства:
гэта Агар; да таго ж Агар –

гара Сінай у Аравіі:
адпавядае
яна цяперашняму Ерусаліму,
бо ён
з дзецьмі сваімі ў рабстве.
А вышні Ерусалім
вольны: ён – маці
ўсім нам.

***21***

Ісак,
жадаючы даць
сыну старэйшаму багаславенне
сваё, даў, аднак,
малодшаму.
“Большы будзе
у меншага ў паслушэнстве”, –
пра іх
апавядаецца, і вымаўляецца:
“Я палюбіў
Іакава, а зненавідзеў Ісава”.
Іакаў
таксама зрабіў не так,
як вымагаў таго звычай,
калі багаслаўляў
Іосіфавых сыноў: паклаў
ён на малодшага правую,
а на старэйшага левую наўскасы
рукі свае, Хрыстовы
крыж выяўляючы імі
і гэтак
знакуючы, што мае большым
Новы закон быць,
чым ёсць Стары.

***22***

Гэтаксама
тым, хто закону Старога
трымаецца, не абяцаў
Майсей дабрадайнай
зямлі, дзе цякуць
рэкі адно з малаком і мёдам.
А вось жа
наш Збаўца Ісус Хрыстос
тым, хто спаўняе Новы
закон, хто чуе
святое Евангелле, абяцае
грахоў адпушчэнне,
Божую ласку,
дары
Духа Святога,
жыццё
векавечнае,
царства нябеснае,
як сказаў
апосталам ён: “Папраўдзе
кажу вам, што вы,
хто следам за мною пайшоў, –
у Новым Жыцці,
калі сядзе
Сын Чалавечы на троне
славы сваёй, і вы
сядзеце на дванаццаці тронах
судзіць
дванаццаць каленаў Ізраілевых”.
Канец
сказу майго да кнігі
Майсеевай “Другазаконне”.

## ***РУКОЮ ВОГНЕНАЙ СЛОВЫ НАКРЭСЛІЛІСЯ***

***1***

Даніїл,
муж жаданняў
і найслаўны прарок гасподні,
паходзіць
з царскага племя Іюдзінага –
з таго ж,
з якога аб’явіцца ў целе потым
наш Збаўца Ісус Хрыстос.
Сярод іншых
плямёнаў мела
яно адметнае месца,
як патрыярх Іакаў акрэсліў
гэта ў прароцтве сваім
перад сконам сваім:

“Не адыдзе
жазло ад Іюды і ўлада
ад спадкаемцаў ягоных,
пакуль не прыйдзе
той, хто пасланы будзе –
яго чакацьмуць народы”.

*2*

Калі яшчэ юнаком
гэты прарок быў,
яго ў палон
з ерусалімскім царом Іакімам
узяў быў Наўхаданосар,
цар вавілонскі,
і разам
з палоннымі ў Вавілон-
горад адвёў.
Там навучаўся
ён усялякім навукам
і спазнаваў
мудрасць халдзейскай мовы.
І ў маладыя
свае гады змову
пажадлівых старцаў
прылюдна разблытаўшы,
уратаваў
Сузану, Яхімаву жонку,
ад смерці.

*3*

Ён быў у вялікай
пашане ў самога
цара вавілонскага Наўхаданосара,
і ў Валтасара-цара,
яго сына,
а гэтаксама ў наступніка-
заваёўцы,
які заняў яго трон –
у цара
персідскага і мідыйскага Дарыя,
а гэтаксама
у Кіра-цара,
спадкаемцы ягонага.

*4*

Багаславёны
і Бога ў сабе выяўляючы,
праракаваў
ён як Ісая,
як Ерамія,
як Езэкііль ды яшчэ
мной не названыя тут прарокі,
аб тым,
што мае настаць і спраўдзіцца, –
аб
уцелясненні слова
адвечнага Бога
з прачыстай дзевы,
аб муках
і смерці Хрыстовай,
аб выбаўленні
нашым ад гневу
Божага і вызваленні
ад д’яблавай моцы,
аб прыйсці
антыхрыставым і пастках
спакусаў,
аб уваскрэсенні з мёртвых,
аб страшным
Божым судзе,
аб пагібелі грэшнікаў
і аб вечным
царстве Божага Сына
з абраннікамі сваімі.

*5*

А звыш таго
азначыў часы і часіны –
у іх
меўся Хрыстос нарадзіцца
і быць забітым
за нашы грахі,
і выклаў
у словах глыбокіх звестку
аб лучнасці Бога і чалавека,
і адамкнуў
уяву, як перад Пілатам
меліся іюдзеі

Яго зняволіць;
найшло
з-за гэтага на вякі
на іх спусташэнне.

***6***

Усё прароцтва святога мужа
гэтага ў дзесяці
відмах замкнёна.
Першая відма,
што ўбачылася царом
Наўхаданосарам і што была
З'яўлена Даніілу, –
камень,
што без чыіх-небудзь рук
вунь ад скалы адатнецца
і ўразіць стода –
той распадзецца,
раструшчыцца,
закурэе
пыл адно ўрэшце, –
а сам
паўстане вялікай гарою
і свет
напоўніць сабой.
Знакавала
гэтая відма нераспазнаным
зместам зачацце без семя
нашага Збаўцы
Ісуса Хрыста
ад непарушанай дзевы Марыі –
яно скрышыла
д'яблаву моц
і напоўніла свет святым
сваім жыццядайным Евангеллем:
яго царства
на ўсе вякі.

***7***

Другая відма,
што выявілася вачам
цара Наўхаданосара, –
ён убачыў
у печы, агнём
напаленай люта,
з трыма, туды ўкінутымі
юнакамі,
чацвёртую постаць –
анёла,
а юнакі
хвалілі Госпада Бога.
Што знакавала гэтая відма,
дык нараджэнне Хрыстова,
уцелясненне
у тоеснасці чалавечай і
багаяўленне
у Іардане – і гэта
нас выбаўляе ад згубы,
і гэтым
мы выбаўляемся ад агню
вечнага, бо "калі
хто не народзіцца ад вады
і Духа, не зможа
ўвайсці ў царства Божае".

***8***

Трэцяя відма
тычылася таго ж
цара Наўхаданосара –
ён убачыў
святога дазорцу, які абвяшчаў:
"Ссячыце дрэва!.." – з нябёсаў.
Гэтыя словы
змяшчалі тое,
што, на зямлю сышоўшы,
казаў Гасподзь,
нас навучаючы добрым
справам: "Усякае дрэва,
што плоду
добрага не прыносіць,
ссякаюць і кідаюць у агонь",
бо "як цела без духу
мёртвае,
гэтак без спраў і вера
мёртвая".
Так, да Хрыстовай
веры дадацца маюць
добрыя справы
і спраўдзіцца ў ёй.

*9*

Чацвёртая відма
выявілася пры цары Валтасары,
калі ён спраўляў гасціну
вялікую: на сцяне
рукою вогненай словы
накрэсліліся – знакавалі
яны, што меў страціць
царства сваё Валтасар.
І больш:
знакавалася надпісам адыманне
воржаўскай моцы самой
і ўзысце
крыжа жыватворнага –
калі быў
укрыжаваны наш Збаўца,
гэта
здзейснілася тады.

*10*

Таму сёння
можам з апосталам разам
вымавіць:
“Мне няма чым
хваліцца,
хіба адно толькі крыжам
Ісуса Хрыста,
Госпада нашага, – ім
свет для мяне ўкрыжаваны,
а я для свету”.

*11*

Пятая відма,
што набыла
увасабленне ў часы цара
Дарыя: быў Данііл
за тое, што адно Богу
свайму маліўся,
апушчаны ў яму са львамі
і, імі не закрануты,
узняты з яе.
Знакавала
гэтая відма ўкладанне
Хрыстова ў труну
і з яе
уваскрэсенне.
Паведамляе
апостал Павел:
“Бо я найперш перадаў
вам, што і сам прыняў,
гэта значыцца, што Хрыстос
памёр за грахі нашы,
як Пісанне
кажа пра гэта, і што
быў пахаваны і што ўваскрос
на трэці дзень –
па Пісанні.
Бо як увайшла
смерць у свет праз чалавека,
так і ўваскрэсенне з мёртвых
праз чалавека,
і як у Адаме
усе паміраюць, так у Хрысце
усе ажывуць”.

*12*

Шостая відма,
якою
уражаны быў Данііл,
з’явіла
дзівотных звяроў чатырох,
падобных
да льва,
да мядзведзя,
да барса
і ад усіх
адрознага – іншазвера;
з’явіла
полымны трон і на ім
Спрадвечнага днямі;
З’явіла кнігі,
якія разгортваліся;
з’явіла
прыйсце на аблачынах
нябесных,
таго, хто быў
як Сын Чалавечы.

*13*

Што знакавалі звяры,
дык чатыры царствы:
Вавілонскае,
Перскае,
Македонскае,
Рымскае.
А таксама
азнакавалася ў гэтай відме,
як мае прыйсці на аблоках
у чалавечым целе
Сын Божы судзіць жывых
і мёртвых – пра гэта
напісана ў “Дзеях”:
“Мужы Галілейскія,
што стаіце,
дзівячыся на неба?!.
Гэты Ісус,
што ўзнёсся ад вас на неба,
да вас
прыйдзе тымсамым чынам,
як бачылі вы яго,
калі ён
узыходзіў на неба”.

*14*

Сёмая відма,
што ў дзіва была Даніілу:
у ёй
паўсталі двое жывёлін –
баран і казёл, – якія
змагаліся між сабою.
А знакавалі
яны найперш царствы,
што забіраюць адно другое,
як гэта
было да нараджэння Хрыстова
і будзе
яшчэ перад страшным судом,
паводле
слоў нашага Збаўцы:
“Паўстане
народ на народ
і царства на царства:
і будуць
там-тут землятрусы,
і голад – пачатак
боляў радзінных”.

*15*

Узнікла
восьмая відма з малення
і споведзі: у ёй
уклаліся лічбы часоў
у скароты тыдняў,
і звестка,
што будзе Хрыстос на смерць
аддадзены, словы
у ёй знайшла.
Яўна
указваецца ў ёй час
укрыжавання Божага Слова
і спусташэння Ерусаліма,
бо, як іюдзеі
казалі перад Пілатам:
“Ягоная кроў
на нас і на дзецях нашых”.
Успамятанне,
якога выказаць нельга,
аб гэтым укрыжаванні
будзе ў часы
паравання антыхрыста
ўцехаю хрысціянам.

*16*

Дзявятая відма
кажа пра мужа, чыё аблічча
было як воблік маланкі,
а голас – як грамад*ы*.
І тое, што ён казаў,
было прадказаннем
аб выбаўленні людскім,
аб бітве
цароў з поўдня і поўначы,
аб перамозе, што знакавала
прыйсце Іллі-прарока
ў часы паравання антыхрыста.
Сведчыць Пісанне:

“Тады
выступіць беззаконнік,
якога Гасподзь Ісус
заб’е духам вуснаў сваіх
і знішчыць
светласцю прыйсця свайго.
З’яўленне
таго ж беззаконніка будзе,
па ўздзеянні сатаны,
у моцы ўсялякай,
у знакаванні
і ў цудах ілжывых”.

***17***

Дзясятая відма –
апошняя: ўводзіць
яна ў канец дзён,
калі
хто спаў у праху зямлі –
прачнецца,
хто праведны быў –
заззяе,
хто быў справядлівы –
зазіхацее,
калі не стане
самога свету, што быў.
На тым Данііл
канчае сваё прароцтва.

***18***

Належыць
таксама ведаць,
што гэтая кніга
святога прарока Божага
Данііла
напісана ў Іюдзеі мовай
халдзейскаю, а
габрайскімі словамі:
звычаем гэтым
многія іншыя кнігі
напісаны,
а Талмуд самабольш –
вучэнне
закону Майсеева,
альбо правоў.

***19***

І ў саміх
кнігах Майсеевых гэтаксама
ў асобных месцах
можам натрапіць на словы
мовы халдзейскай.
Гэтак,
напрыклад, калі Іакаў
пакінуў Лавана, а той
дагнаў яго, дык з камення
на знак прымірэння склалі
курган: Іакаў
назваў яго па-габрайску
і па-халдзейску Лаван.
Багата
гэтакіх прыкладаў,
таму мусяць
габраі-законнікі мовай
халдзейскай валодаць.

***20***

Таксама
не трэба здзіўляцца таму,
што габраі
не маюць усёй Даніілавай кнігі
і што няма
у ёй песнаспеву трох юнакоў,
якія
ў вогненнай печы хвалілі
Госпада Бога
і заклікалі
да ўвасхвалення ягонага
ўсё стварэнне,
і што няма
аповедаў аб выбаўленні
ад смерці Сузаны,
знішчэнні
ідала-стода Веля,
загубе змея,
перанясенні
анёлам да львінай ямы,
дзе быў Данііл заточаны,
з Іюдзеі
у Вавілон Авакума-прарока,

бо гэта
было ўсё ў халдзеяў напісана,
а я асобна
дадаткам прыклаў.

***21***

Феадосій,
вялікі настаўнік
грэцкае мовы, выклаў
з халдзейскай на грэцкую,
а святы Еранім на лацінскую,
гэтую кнігу цалкам.
Паводле
іхняга выкладу
Данііла-прарока чытае
сёння царква Хрыстова
не толькі на мовах
лацінскай і грэцкай,
але
на егіпецкай і сірыйскай.
Я, іхні,
не варты іх, паслядоўнік,
народжаны ў рускім народзе,
узяўшы
з помаччу Божаю на сябе
рупесак множыць хвалу
Хрыстову
і паспалітае добрае,
выклаў
між іншых прарокаў святых
гэтаксама і Данііла,
мужа жаданняў
і найслаўнага прарока
Гасподняга,
цалкам
на рускую мову.

*Канец прадмовы.*

## ДЗЕЛЯ ДАБРА ПАСПАЛІТАГА

***1***

Кніга Эстэр
называецца на габрайскай
мове Мэкгіла,
што азначае
граматы, ці лісты.
Найбольш
пішацца ў ёй пра тое,
як царскі ўзвышэнец Аман,
слугуючы намыслам,
у Агасвера-цара ўзяў лісты
на выгубу ўсіх іюдзеяў,
якія жылі ў краіне,
і як царыца Эстэр
іх выбавіла і ў цара
выпрасіла лісты,
адваротныя тым, – цяпер
на выгубу ўсёй радзіны
і памагатых Аманавых
і на дабро
іюдзеям.

***2***

Была
напісана гэтая кніга
пасля паланення царом
Наўхаданосарам Ерусаліма,
калі іюдзеі
былі ў вавілонскай няволі.
Належыць
таксама ведаць,
што гэтая кніга
выкладзена габрайскай
мовай не гэтак поўна,
як грэцкаю і лацінскай.
У кнігах Эсрым ве Арба,
што азначае дваццаць чатыры
кнігі Старога Закону,
яна
ўкладаецца ў дзесяць раздзелаў,
і згодна з імі
я выклаў яе, а тады,
каб зменшанай не была
яна ў мове рускай,
дапоўніў
дадаткамі – што звыш таго
знайшлося ў грэцкім пісьме
і ў лацінскім.

***3***

Спачатку
напісана гэтая кніга
была на мове халдзейскай,
як іншыя летапісы,
на царовы
указ, а потым
выкладзена габрайскай,
бо выйшлі
габраі з халдзеяў.
Найпершы
быў тут Аўрам, як пра гэта
піша Майсей у першых
кнігах сваіх, найменне
якім “Берэшыт”,
у раздзеле “Лех леха”:
“Вайомэр Адонаі эль Аўрам:
Лех леха меарцэха
у мімаладтэха
умібат авіха
эль аарэц ашэр арэка”,
альбо па-руску:
“Сказаў
Гасподзь Аўраму: Выйдзі
з зямлі тваёй,
і з радзіны тваёй,
і з дому бацькі твайго ў зямлю,
якую я пакажу табе”.

***4***

І, з Халдзеі
выйшаўшы, ён увайшоў
найперш у зямлю Ханаан,
бо народ,
што там жыў,
быў яму родны.
І ўсе дванаццаць сыноў
Іакавых, апроч аднаго –
Веньяміна,
ў Халдзейскай
зямлі нарадзіліся.
Напісаў
пра тое шырэй я ў сваёй
прадмове да Даніілавай
кнігі.

***5***

Можам
з таго зразумець,
што ў габраяў
гэтая кніга скарот,
што, назву
захоўваючы Мэкгіла,
альбо Лісты,
яна не змяшчае ніводнага
запісу тых,
царовых, лістоў,
тады
як у грэцкім выкладзе і ў
лацінскім
яны падаюцца –
з халдзейскіх кніг
спісаныя па-грэцку
ў часы Пталамея,
егіпецкага цара,
званага Філадэльфам.

***6***

Семдзесят два дактары,
прысланыя Елізарам,
вялікім егіпецкім святаром,
рупнаю працай сваёй
тады выклалі кнігі
Старога Закону,
і гэты выклад
стаўся здабыткам людскім.
Пра гэта
болей шырока я распавёў
у прадмове
да кнігі Ісуса Сірахава.

***7***

Потым
святы Еранім, альбо
Герасім-прасвітар,
што жыў
ад нараджэння Божага Слова
ў чацвёртым стагоддзі,
выклаў
з халдзейскай,

габрайскай
і грэцкай
на мову лацінскую ўсе
кнігі Закону
і тое, чаго няма
у кнігах габрайскіх, асобна
паклаў на канцы,
не рушачы,
і падзяліў на раздзелы.

***8***

Следам
за мужам святым ідучы,
а найперш
Богу, адзінаму ў Тройцы,
ва ўшану
і свайму
рускаму люду, з якім
зроднены, у навуку
ўсяго, што ёсць добрае,
я таксама
гэтую працу падняў
і выклаў
з Божаю помаччу сярод іншых
кнігаў і кнігу Эстэр –
бо не толькі
самі дзеля сябе
на свет нараджаемся,
але – болей:
дзеля служэння Божага
і дабра
паспалітага.
З тым
канчаю прадмову сваю.

***9***

Не капай
ямы другому –
увалішся сам у яе;
не стаў,
Амане, шыбеніцы Мардахею –
будзеш
вісець на ёй сам.

Валянціна Аксак



...знішчаем наўкольнае —

каб заставацца самім...

# Паэзія прозы

## Ясева краіна

Жыў на свеце Ясь. І была ў яго краіна. Усё ў ёй Ясь рабіў сам.

Спачатку праклаў чыгунку. З мостам, станцыяй, грузавым цягнікам і швейцарскай электрычкай.

Далей выкапаў мора. З ветразямі на чоўне, вудалямі на прыстані і чайкамі над цеплаходам.

А потым змайстраваў аэрапорт. З эскалатарамі і бетонным полем з самалётамі. На адным з іх Ясь паляцеў у іншую краіну.

– Дзе ты жывеш? – пытаецца ў яго дзед.

– У Празе, – адказвае Ясь.

– А ў якой гэта краіне? – удакладняе бабуля.

– У Беларусі, – упэўнена кажа Ясь.

І слушна. Бо сваю краіну ён робіць сам усюды, дзе жыве.

## Красачка

Яе чакалі ў красавіку. Але ў небе здарыўся нейкі пярэпалах, і яна прызямлілася ў студзені.

Зімовы краявід не ўпадабала і стала тут ствараць той, які мусіла ўбачыць у свой першы вясновы дзень.

Спачатку стромкім шнурком бялюткіх лілеяў агарадзіла сцежку пры хаце, сыпнуўшы пад ногі кармінавых стакротак. Затым правяла рысу пунсовымі ружамі, да якіх падсеяла бледнатварых рамонкаў. Давяршыла малюнак бухматымі гартэнзіямі адценняў мамінага малачка. І закантавала раму барвовым шалфеем на снежным дыване алісуму.

Людзі ўгледзелі дзіва і назвалі дзяўчынку – Красачка.

## Малюнкі на шыбах

Хацела памыць вокны. Але...

У кухні ўбачыла сляды чорнага коціка, які бег па двары, а малыя пальчыкі – услед за ім па шыбах.

У дзіцячым пакоі свяціліся абрысы месячыка, паўтораныя на падвоканні жоўтай крэйдай.

У спальні разляцеліся крыльцы сінічак, якія пырхалі за шклом па гаўбцы, збіраючы крошкі любімага печыва.

Ну а панарамныя шыбы гасцёўні прывіталі мяне краявідам, намаляваным ужо дзвюма парамі рук маленькіх творцаў.

Мастакі з'ехалі. Іхнія малюнкі засталіся. І я не мыю вокны.

## Кветкі фермера Матусевіча

Капуста, цыбуля, кроп ды ўсё іншае дзеля карысці – недзе за даляглядам ягонай сядзібы. А перад ёю – стометровы шнурок стакротак, тры тысячы туліпанаў, столькі ж першацветаў, пралесак, гіяцынтаў, канваліяў, півоняў, баданаў, крокусаў, касачоў, незабудак, братак, эхінацэяў, нарцысаў, касацікаў, макаў, яскарак, ліхнісаў, лілеяў, лабеліяў, міртаў, рамонкаў, валошак, геленіюмаў, дэльфініюмаў, касмеяў, асцільбаў, дзівасілу, лянкоў, хостаў, пятунняў, цыніяў, бузульнікаў, гайлардзіяў, фізастэгіяў, аксамітак, астраў, мальваў, львінага зеву, клемацісаў, флёксаў, мацеек, мятліцаў, лятраў, шольцыяў, настурак, пірэтрумаў, рыцынаў, рудбэкіяў, сальвіяў, цынерарыяў, цэлозіяў, гейхэраў, гіпсафілаў, сланечнікаў, гартэнзіяў, гладыёлусаў, астраў, канаў, расходнікаў, хрызантэмаў, вяргіняў, ружаў...

Паўтара гектары красы.

Чыстай. Бескарыслівай. Неабгароджанай.

Для сябе і для свету.

## Паўднёвая шаша

100, 60, пераход на трэцюю, другую, 5, стоп. Першая, 5, 0. Нейтралку не ўлучаю, спадзяюся на рух. Ён пачынаецца, але – толькі каб ушчыльніцца. Злева стаяць, справа па ўзбочыне спрабуюць апярэджваць.

Дзесяць хвілінаў, дваццаць, трыццаць – ані паўметра наперад. Картасар – "Паўднёвая шаша". Хутка пачнём знаёміцца, частавацца, кахацца...

Згадкі сюжэта аповеду геніяльнага аргенцінца абрываюць грымоты і грукат залевы па шыбах. Вокамгненна цямнее, размытыя фары наперадзе пачынаюць аддаляцца. Абапал мігцяць аварыйкі. Бура хістае маю двухтонку, як трэску. Сунуся па бурлівым патопе навобмацак. Зайздрошчу Ною – яму не трэба было манеўраваць між "пацалаваных" спадарожнікаў.

Даплываю. 60 км – чатыры гадзіны.

Ліхаманка. Хочацца плакаць, есці, спаць.

Прытомнею ад пытання: "Чаму ты не адказвала на мае званкі?"

## Дзедава хата

Ён памёр, перасягнуўшы за 90 і больш за 10 быўшы ўдаўцом пасля другое жонкі-маладухі, з якой збудаваў новую хату. Даглядалі яго дочкі ад першае – самотніца Шура і вясёлая развядзёнка Маруся, адзіны сын якое рэдка наведваў дзеда, аж пакуль у самога не заладзіліся сямейныя справы.

Дзед быў ужо на божай пасцелі, як унук узгадаў яго новую хату. Займеў дзялянку пад Менскам і прыехаў з памагатымі ладзіць пярэбары дзедавай сядзібе.

І вось каторы дзень хата ўздыхае, крэкча, уздрыгвае, а я ніяк не магу зразумець – ці то яна гэтак радуецца, што паедзе ў люднейшае месца, ці то роспачна стогне, што пакідае роднае котлішча.

## Дзве Марыі

"Нецікава стала жыць – ногі не слухаюцца, рукі чужыя, галава не сябруе са мной. І дактары мне ўжо без патрэбы", – раздумліва кажа мая вясковая суседка цётка Маня на маё звычаёвае: "Як пажываеце?" І дадае, памаўчаўшы, што ўсё ж яшчэ хоча праўнукаў дачакацца.

"Ногі мае нязграбныя, рукі няўмелыя, галава тупая. Няздара я! Не хачу нічога рабіць. І жыць – не хачу!" – пераказвае сябар словы дачкі Машы, просячы знайсці ёй добрага доктара. Лекаванне ў каторы раз – марнае.

Цётцы Мані – 80. Увесь свой век яна пракорпалася ў зямлі.

Машы – 26. Яна – выпускніца магістратуры і адна з найлепшых музейных работнікаў Менска.

## Лекі

Сустрэла былую сынаву класную кіраўніцу. Яе вочы выдавалі радасныя навіны, але я не спяшалася з роспытамі, ведаючы пра цяжкі стан мужа пасля інсульту. Пашкодзіўся розум – дактары не абнадзейвалі, прапанаваўшы аддаць настала ў псіхіятрычны шпіталь.

– Унук у мяне расце, ды такі хлопчык цудоўны! Сем жа гадоў дачка ніяк не магла нарадзіць, і вось такое шчасце!

Вочы яе яшчэ больш радасна заззялі.

Ну дзякуй Богу, падумала я, што маладое жыццё перакрыла боль хваробы старэйшага. А яна, крыху памаўчаўшы, дадала, што і муж ужо ачуняў.

– Я яму спявала беларускія народныя песні, – ціха, амаль шэптам, быццам баючыся спудзіць шчасце, сказала яна на развітанне.

## Абанент часова недаступны

Каторы дзень набіраю знаёмы нумар. Аўтамат-аператар паўтарае абыяка ветлае: “Абанент часова недаступны”.

І згадваецца, як за пару гадоў да свайго сыходу Янка Брыль скрушна казаў мне: “Вось гартаю даведнік, і няма ўжо нікога з тых, каму збіраўся патэлефанаваць”. Тады мне падумалася: як гэта страшна – застацца з даведнікам мёртвых!

У маім тэлефонным даведніку яшчэ ёсць колькі імёнаў, чый цёплы голас хочацца пачуць у слухаўцы. А чую халоднае: “Абанент часова недаступны”.

А мо і мой даведнік ужо нежывы?

## Труба паэзіі

У Празе на пляцы Міру злева ад уваходу ў касцёл святой Людмілы паставілі невялікі прыстасон, з якога можна пачуць вершы дваццацёх знаных чэшскіх паэтаў. Пражане выбіраюць імя, націскаюць на гузік і чуюць любімы твор любімага аўтара. Дзевятнаццаць чытаюць самі свае творы, а аднаго агучвае актор, бо голас чэскай паэтычнай і мастацкай легенды Багуслава Рэйнэка не захаваўся ў запісах.

Прыстасон па набліжэнні красамоўства да вулічных мас мае выгляд грамафоннай трубы і называецца POESIOMAT. Але мне чамусьці адразу, як убачыла, захацелася назваць яго ТРУБА ПАЭЗІІ. Можа быць таму, што адразу ўявіла стаўленне менскае публікі да падобнага POESIOMATу.

## Поспех

Пасля выступу на літаратурным фэсце ў Львове падыходзіць да мяне арганізатарка імпрэзы, знаная ўкраінская паэтка, і са сцішаным прыдыханнем у голасе кажа: “Цудоўна! Прыўкрасна! Я таксама вяжу нешта пруткамі, але такую прыгожую сукенку, як на вас, не здолею зрабіць”.

Мне адымае мову. Словы застылі ў скамянелым горле. І навошта словы, калі ёсць пруткі і клубкі.

## Дыктатура як натхненне

Навіна пра Нобеля для Алексіевіч заспела нас з калегам на Міжнародным паэтычным фэсце ў Літве. Некаторыя з яго ўдзельнікаў млява нас павіншавалі, і кожны зноў занурыўся ў сваю перманентную самоту.

Назаўтра мне з яшчэ трыма творцамі выпала выступаць перад навучэнцамі мастацкае школы, і я ў радасці хвалілася прыналежнасцю да літаратуры, адзначанай шведскімі акадэмікамі. Пасля імпрэзы японская паэтка перапытала, ці слушна яна зразумела, што беларуская пісьменніца – сёлетняя лаўрэатка, як пішацца яе імя па-ангельску і ці праўда, што ўсе яе кнігі натхнёныя дыктатурай.

Увечары на галоўнай сцэне фэсту найбольш апладысментаў сарваў мой зямляк за верш пра турму.

### Чыя радзіма?

“Дача ў Вязынцы. На радзіме Якуба Коласа”. На гэтую абвестку выпадкова натыкаюся на адным з сайтаў. Не веру ўбачанаму. Перачытваю. Капіюю. Ізноў чытаю: “Дача ў Вязынцы. На радзіме Якуба Коласа”.

Зрэшты, чаму гэта мяне так дзівіць? Казаў жа з гонарам пару гадоў таму таксіст, пачуўшы беларускую мову пасажыраў: “Я, между прочім, тожа імею отнашеніе к беларускаму языку, патаму что радзілся в Нікалаевшчыне, на родзіне Янкі Купалы. Слышалі такога беларускага пісацеля?”

### Хаўтуры

“Як жа ты ўсох, Іванка!”

“Чулі, у старшыні за студзень васямнаццаць мільёнаў. Мне год трэба рабіць на гэтулькі”.

“А які будзе бацюшка? Нясвіжскага паклічце – харошы, мала бярэ”.

“У майго работа лёгкая – толькі падграбай камбікорм цялятам і ўсё”.

“А мой дык нічога не есць, толькі п’е карвалол. Аўталаўка прывозіць. Купіць сем па 0,7, і на тыдзень хапае”.

Ён ляжаў, слухаў і думаў пра свае пчолы і сад. Ягоны рай на зямлі. Не ведаў яшчэ, якім будзе ягоны рай на небе.

### Новыя іконы

Заходжу ў хату. Вітаюся з бацькамі. Стаю ў чаканні адказу.

А яны маўчаць. Проста глядзяць на мяне зверху, з-пад самае столі. Маладыя. Усмешлівыя. Прыгожыя. Шчаслівыя.

Аблямаваныя вішнёваю самаробнаю рамай. Такой жа, як і Маці Божая і Ісус Хрыстос побач.

І самі ўжо сталі іконамі.

### Маміны дранікі

Была з ім даўняя завядзёнка: у кожны прыезд з-за мяжы ён прыходзіў да нас на дранікі. Еў іх са смакам, хваліў баравіковы соўс, затоўчаны з кропам і смятанай часнык, упрэлыя з цыбулькаю лісічкі, набрынялыя ў мядова-бруснічнай поліўцы рабрынкі, квашаную з журавінамі капусту, іншыя дадаткі. Не прамінаў зазначыць, што смачнейшага пачастунку не бывае.

Але аднойчы праз хмельную шчырасць прарвалася: “А вось у мамы дранікі!” І змоўк зніякавела, так незнарок даўшы волю сынавай любові, якая перамагла ветлівасць госця.

З таго вечара я не пяку яму дранікі. Берагу ягоную памяць пра смак маміных. А мамы ўжо год, як няма.

### У чаканні Дзядоў

Бярэцца на вечар. На зашарэлым небе нясмела праяўляюцца табункі трымцьлівых зорак. Яны зазіраюць у нашыя вокны, лашчаць сваім прыць-

мелым святлом нашыя стомленыя пустою мітуснёю душы, уздрыгваюць ад гучнай гаманы бяседнікаў за вячэрнім сталом і знікаюць, не сустрэўшыся ні з чыім поглядам.

Я адыходжуся ў кут, цісну на плюскаўкі кампа, і з глыбіняў сеціўнага космасу выплываюць родныя аблічны. Размытая графіка твараў, на якіх не бачна вачэй. Дзве пары блакітных зорак падміргваюць мне з-за вершаліны клёна, які паскідваў усё золата сваёй лістоты на стары ганак чужой мне ўжо хаты.

### Вячэра на Дзяды

Гурочак?

І праўда. Глядзі – ацалеў.

Пакурчаны і пажаўцелы крыху. Але нічога, сьвяжэйшы за крамны.

А што там, між астраў прысохлых схавалася?

Дык гэта ж націнай затуленыя памідоры! Ды якія крамяныя – быццам у жніўні!

Ой, і цыбулька за імі! Не далася да рук перад Спасам, чакала на гэтую страву, апошнюю сёлета, прыгатаваную дзеля Мамы і Таты.

### Успенне бабулі Ісуса Хрыста

Спрабую ўявіць яе з унукам на каленях. Намагаюся пачуць ейныя казкі яму. Сілюся адчуць пахі згатаваных ёю прысмакаў для яго. Малюю відзежы іхняй гульні з каменьчыкамі і чвырам. Мрою ейныя раскрыленыя рукі насустрач яму, які выбег з дому з радасным крыкам: “Бабуля прыйшла!”

Ці было ўсё гэта ў ягоным маленстве?

Евангеллі нічога не кажуць. І апокрыфы маўчаць. У календарах засталася толькі дата апошняга дня Ганны, маці Дзевы Марыі і бабулі Ісуса Хрыста – 25 ліпеня.

### Чорныя птушкі

Яны выпырхнулі з дзвярэй бажніцы спуджанымі птушкамі і паскакалі па сходах на шырокі цвінтар. Падраўняўшы шыхтоўку па двое, спешна пакрочылі ў ягоны дальні кут. Постаці іх, худыя, але зграбныя, хавалі пад шырокімі чорнымі апранахамі сваю маладую вабнасць. Адварочваючыся ад цікаўных позіркаў, хілячы галовы долу, уціскаючы іх у плечы, яны нібы імкнуліся найхутчэй занурыцца ад зыркіх колераў летніх убораў турыстаў у свае паўзмрочныя келлі.

Збянтэжанасць адной перацякала разгубленасцю на другую, ніякаватасць трэцяй ахапляла страхам чацвёртую, скаронасць пятай апыналася наканаванасцю шостай...

Апошняя ішла адна. Крыху адстаўшы. Сталая, распрамленая, з прыўзнятай галавой і позіркам наперад. У правай руцэ – жазло. Як у царыцы. Ігумення.

## Пост

Не звера — дык рыбу, не птушку — дык яйкі, не кветку — дык корань. Увесь час некага ці нешта пазбаўляем жыцця. Харчовы ланцуг. Знішчаем наўкольнае — каб заставацца самім.

Толькі ў сонца, вады і паветра прашу даць мне сілы быць без забойства. Хаця б у гэтыя дні, перад тым, як забілі Яго.

## Апошняя споведзь айцу Аляксандру Надсану

Самае першае маё пакаяннае слова было менавіта Яму. Ва ўніяцкай капліцы ў Верхнім горадзе. Ён выслухаў пра няшлюбнае жыццё, моўчкі паклаў руку на галаву для разграшэння і дабраславіў далейшае нашае з Арловым сужэнства.

Устаць з каленяў не было сілаў. І ён ціха спытаўся, што яшчэ. Вось жа, вершы складаю... Яны, пэўна, ёсць пыхаю... Слёзы душылі – гэтаму няма даравання, падсвядомае – ні ў чыёй уладзе. А Ён нечакана ўсклікнуў: “О, калі б я ўмеў складаць вершы!..”

І стала лёгка. Цэлыя чвэрць стагоддзя.

Сёлета зноў цяжар лёг на душы непарушным каменем. Па тэлефоне не паспавядаешся. Паехаць у Лондан не паспела. Каюся моўчкі. Айцу і Сыну, і Святому Духу. Ягонаму Духу.

Юрка Голуб



...Зморана нёс сенакос
Колы і косы.
І там, ля пракосаў, наўскос,
Косю мой, Косю...

# Містэрыя

## БАЛАДА ДЭСАНТА

*Паэт Змітрок Астапенка ў час вайны загінуў у Славакіі ў кастрычніку 1944 года.*

### 1

"Вакол мяне крутыя горы. Схілы гор параслі елкамі і букам. Цяпер сонца. Учора, пазаўчора хмары чапляліся за нашы палаткі. Ішлі дажджы... Колькі хвалявання. Напрыклад, пералёт праз лінію фронту. Парашутны скачок у горныя лясы і шмат іншага... Мае родныя! Напэўна, пасля гэтага пісьма я надоўга не буду мець магчымасці напісаць вам. Хай вас гэта не бянтэжыць... Зараз іду пешкі ў горы, насустрач небяспецы, у агонь барацьбы. Я нікольк не баюся небяспекі, ненавіджу ворага, люблю вас, мае родныя. Чакайце!"

*7 кастрычніка 1944 г.*

**2**

Медальёны – на стол! Дастаньце!
І з-пад скуры ганіце страх.
.................................................
Абрываецца шлях дэсанта,
Як страпа, безыменных страт.

Праз раз'юшаны хрып аўчарак,
Аўтаматаў шалёны брэх
Мы, акружаныя, не крычалі:
Нас нямымі вечнасць збярэ.

З намі прага і вецер з намі
На адну ступаюць скалу.
І самому сабе прызнанне
Уздымаецца, як салют.

*Хоць крыўдна, хоць горка –*
*Будзь мужным і цвёрдым, як крэмень.*
*На белым пагорку*
*Сваю перамогу мы стрэнем.*

Татры помняць палёт праз хмары,
Ды ў гарах не ратуе спрат.
Неба нам спачувала марна,
След на снезе не паспрыяў.

Мы караскаліся... адпаўзалі...
Сум страсалі яліны з крон.
Заставалася па-за намі
Памяць, стрэленая наскрозь.
.................................................

Дык чаму я пад дрэвам стратным
Долі лепшай свету прашу?
Снегу шоўк шамаціць на Татрах,
Як пагашаны парашут...

*Ходзіць сонца над табой –*
*Хай жа ходзіць так няспынна!*
*Прытуліся галавой*
*Да грудзей маіх, дзяўчына...*

---

Курсівам вылучаны радкі з вершаў Змітрака Астапенкі.

### АДБІТКІ

Вусны крамсае спякота.
Цыруе калюжыну лёд.
Мянуюцца хіжыя кодлам
І лёсы шпурляюць за плот.

Адвечны мужчынскі занятак:
Садзіць,
будаваць.
гадаваць.
Змушала вясталка: занадта
Валіцца без ног на дыван.

І страхі – атожылкі часу –
Квітнеюць – і спасу няма.
Каб мор зноў на людства пачаўся,
Нячысцік спакусу наймаў.

Нягоднік медалькі начысціў.
І плошчу шліфуе гурма.
Дарадцамі фірменных чыслаў
Паўсталі фурман і гурман.

Мардуюць з напругаю нервы
Кабета,
Валюта,
зарок.
Прынамсі, не зніклі манеры:
Націснуь курок незнарок.

Ствараюць... і загрудкі... нішчаць...
Рыдлёўка. Пяро. Аўтамат.
Ёсць розніца ў тым, паміж іншым:
Ці б'юць у хамут, ці набат.

### ДЗЬМУХАВЕЦ

Дзьмухаўцы адольваюць даліну.
Імі ж і пазначана гара,
Каб аддаць дарожніку даніну,
Ліхтары іх вечарам гараць.

Нерухомы грэбень небакраю
Закрывае далечы пуці.
Недзе там з хваёвых баракамер
Смолкі выціскаецца пункцір.

Сталі стойма воблакі і вежы.
Праплываюць мост... затым пагост...
Ад таго і лёс шляхоў залежыць,
Ці ўтрывае першназваны мост.

Надзяліла плецаком дарога
І ў яго ўпіхнула верасы.
Калупае зубр штыкетнік рогам,
Дзе раней ён пушчу варушыў.

Прычакаюць сонца недарэмна.
З дзьмухаўцом у сонейка дуплет.
Ды на золку дзьмухавец нядрэмны
Адляцеў чамусьці ў белы свет.

## НА ДАРОЗЕ

Няўдзячны ў дарожнага шлях:
Як вецер павее.
Ды свішча спакуса ў вушах
І пыл на павеках.

Мізэрны ў бадзягі і скарб:
Згубіўся відэлец.
Дадацца б знаходкам, ды каб –
Не жытка – Вандэя.

Нішчымны вандроўны начлег
Не мроіць раскошай.
А сніцца размашысты снег –
Пазёмкі пакоша.

А воля – стрыножаных знак.
Дарога – матывы.
Згадзіўся б на ролю аднак, –
Вось ты, прымітыва?

Без ласкі ў вандроўніка лёс,
Зусім не калёсны.
Ды лёс і пад воблака ўзнёс:
Як гром, раскалоўся.

## ПАБЛІЗУ ЗЭЛЬВЫ

Хадзіў каля Зэльвы. Адзін.
Трымалася ранне.
Пад сем і пад восем гадзін,
Пад птушак старанне.

Туман адчыніў хутары.
Пад кроквай – рэлікты.
Імкнуцца сябе паўтарыць
Дзярэчына цітры.

У пошаптах Медухаў-лес,
Заўсёды таемны.
Туды валацуга залез,
Пячор пераемнік.

Дарэмна заезджы цыган
Падкраўся да коней.
Пустую вуздэчку цягаць
У коне – да скону.

Зэльвянка жыла пад ільдом
За вёскай Бярэжкі.
Ды цягам апошніх гадоў
Заснула ў мярэжах.

Гадзіннік аднак – не прастак –
Паветра скародзіць:
Дзівак пачуваецца так
У дзікай прыродзе.

## *МІСТЭРЫЯ*

І ў бяздожджыцу, і ў плюту
У безнадзеі на дары
Не закруцілі нораў путам,
А хлус галоўку не здурыў.

Ты сам ахоўваў краю куфар
І паляваў на сарны: рысь!
І з субутэльнікам над куфлем
Ствараць не меўся самарыс.

Цягаў басяк падачак кульшу.
Спяшаў нястомна місаліз.
А з неба крэмневая крушня
Кляцьбу на іх шпурляла ўніз.

Здзічэла груша. Знік калодзеж.
А чэрці згрэбліся ў лазе.
Вунь, гад, заўсёды падкалодны,
І той загнуўся балазе.

На пляцы пыл круціла з лісцем.
Напрамкі зблытаў самаход.
І з таямніцай прагны зліцца
Замоўк і певень самахоць.

А таямніцы брак спадніцы:
Начная ведзьма (каравул!)
Удосталь жыць! Каб не спазніцца:
Іначай крышка! Ці загул?

Паўзуць асоты паўз узмежак.
У космас мкнуцца з жабай жук.
І над ракою-часу межань
Павесіў восілка на крук.

### *КАРЧМОВАЯ ПРЫТЧА*

Мастак, музыка і паэт
Карчму хаўрусніцай абралі.
Пры чарцы з ёй збыліся бед,
Са сном змагаліся наранні.

Мастак сказаў аднойчы так:
– Я свет абрыдлы змажу пэндзлем,
Каб ён – бы выцвілы пятак –
Адкінуў прэч парэшткі нэндзы.

Музыка з дзёртаю струной
З-пад прасціны харобра дзынкнуў:
– Я свет абходжу стараной
У атачэнні кроз і зыкаў.

Ды кучаравы ўзнік паэт
І храснуў шклянкай аб падлогу:
– Намер я маю цэлы свет
Пагладжваць, як паненку, доўга.

– О-хо! – журыўся верабей. –
У свеце я за пустадомка.
А меў бы хоць які рубель,
Дык светам сталася б карчомка.

### *ЗАЙЗДРОСНІК*

За ўсё ў жыцці жыццём заплацім.
Жанчыну сочым, як жаўну.
Напрыклад, друг жыве ў палацы,
А на гарышчы я жыву.

Над светам зноў святло палацьме.
Звядзем на корані брыду.
Вунь маршыруе друг на пляцы,
А праз балота я іду.

Сціскае крыўда кроў і пальцы.
Завесы рвуцца на дзвярах.
Няма патрэбы другу пяцца,
А я пазногці паздзіраў.

Пацешаць публіку паяцы.
А друг мой зноў – як ні круці –
На пухавік прылёг праспацца,
А мне на сене каранцін.

Нарэшце! Я іду на шпацыр
Калошай ходнік падмятаць.
А друг мой – ён жа непрыяцель –
Храпе сабе, ядрона маць!

### *КОСЮ*

Трапіла воку заспець
І краем прыкмеціць.
Цуглі. Стальвага. Павець.
Амаль пракаветы.

З піпкай змагаецца дзед,
Загоншчык табакі.
Дыму падоўжаны след,
Як язык у сабакі.

Межаў, прыкметныя ледзь,
Рвуцца парэшткі.
Арлом не адорвае медзь –
Выпала рэшка.

Помніцца ў багне багун.
Рама, дзе Сталін.
Коні адчайна бягуць
З калгаснае стайні.

Зморана нёс сенакос
Колы і косы.
І там, ля пракосаў, наўскос,
Косю мой, Косю...

Віктар Казько



...творчасць,

ад стварэння Адама і Евы, –

спакушэнне...

# На кручку

***Нізка апавяданняў***

*Заканчэнне. Пачатак у №№75-77, 85.*

## Зямля як тэкст, альбо Валгаград, Сталінград, Царыцын

А можна і наадварот, з галавы на пуп і з пупа на галаву. Атрымліваецца аднолькава – у прасторы, але не ў часе. Тое ж самае, што шклом па камені ці каменем па шкле. Але ўсё ж нешта замінае гэтай відавочнай бясспрэчнасці. Ёсць у ёй нешта прымружана-мудрагелістае, хітрае. Накшталт: колькі будзе двойчы два? А колькі вам трэба? Ці не ўвогуле такое ж гнуткае ўсё нашае жыццё і нашая прыстасаванасць да яго: «чего желаете, барин, кровать расстелена – пожалуйте угнетать».

Адсюль і дагодлівае кулянне кожны раз на патрэбу дня, звядзенне карэннага, велічнага на імгненную задаволенасць. Праўдзівасць жа назова, імя – і не толькі чалавеку, а ўсяму навокал яго, даецца з вялікай ласкі і глыбіняў патрэбы прадвызначэння, лучнасці духу і зместу. Нездарма

казалі і кажуць, як карабель назавеш, так ён і паплыве. У пацверджанне гэтаму і небяспека, амаль містычная, гуляцца імёнамі: адмірал Нахімаў быў выбітны флотаводзец. А цеплаход, якому неаднойчы мянялі назву і нарэшце спыніліся на імені “Адмірал Нахімаў”, не проста патануў, а пацягнуў за сабой на той свет каля тысячы людзей. Гэта можна было б лічыць за збег абставінаў, выпадковасць, каб і далей усё, што насіла імя Нахімава, на вадзе не гінула.

Штосьці прыкрае і нават абуральнае адчуваецца ў тройцы імёнаў горада над вялікай рускай ракой. Дарэчы, перабудоўшчыкі і наватворцы лёсу зямлі і чалавека маюць намер перайменаваць яго чацвёрты раз, зразумела, ідучы насустрач пажаданням народа, зноў надаць яму імя ката і людажэра – Сталіна. Што ж, некаторыя з нас яшчэ і сёння памятаюць: Іван Жахлівы быў у найвялікшай дзяржаўнай пашане. Яго ўвекавечвалі ў кіно, у заказных пампезных п’есах і кніжных эпапеях.

Але гэта так, спадарожна, пра гісторыю і ўвогуле гістарычнасць краінаў, гарадоў і народаў, іх насяляючых... А па сутнасці, недзе пасярод двухмільённага горада прытулілася сціплая, амаль нікому невядомая рачулка Царыца, што дадала кропельку сваёй сарамлівай непрыкметнасці вялікай рускай рацэ, дала імя паселішчу на сваім беразе, якое пазней паслужліва пераўтварылася ў псеўдавелічнае Сталінград. А потым і зусім ужо ў шэрае і безаблічнае Валгаград.

Збіваюцца з тропу, драбнеюць не толькі людзі, гарады, краіны. Але, нягледзячы на ўсё, я люблю гэты безразмерны – сто кіламетраў з канца ў канец – двухмільённік на самай вялікай у Еўропе, як нам калісьці даводзілі, рацэ. Ёсць у ім нешта блізкае да нашага Мінска-Менска-Менеска. Хаця б тая ж лёсавая параднёнасць рачулак Царыцы і Нямігі. Пра адну забыліся, другую – знявечылі, закавалі ў турэмныя мураваныя сцены, забралі арыштанцкімі кратамі. І са Свіслаччу, як і з Волгай, сатварылі гвалт... І па крывавасці лёсу насельніцтва ў час Вялікай Айчыннай вайны і па яе заканчэнні гэтыя гарады, як блізняты, нібыта з аднаго яйка вылупіліся. Звязаныя адной і той жа пупавінай болю і загойвання пасляваенных ранаў – аднаўлення, вяртання страчанай за гады ліхалецця свядомасці. Вярталі гарадам жыццё з удзелам адных і тых жа людзей, якія і забівалі іх – палонных немцаў. Мо таму яны такія падобныя, заблукаць можна, аднайменныя калісьці – цяпер не ведаю – праспекты імя Сталіна, Леніна.

Але гэта я забягаю наперад самому сабе. Пакуль жа я толькі-толькі з Навазыбкава. На душы яшчэ не аселася і не ачахла расчараванне падманлівасці нязбытых чаканак. Хаця, калі шчыра, чаго я чакаў, сказаць не магу. Гэта, пэўна, тое, з чаго мы злепленыя – адвечнае, казачна прывабнае і няпэўнае, без чаго нашае жыццё здалося б нам – і не толькі здалося – пераўасобілася ў расліннае, парнакапытнае і сысуновае. А так, што ні кажы, а нехта ці нешта вярэдзіць, смокча душу. І ты высмоктваеш з яе і мэту, і сэнс, і надзею на плённасць свайго існавання: своеасаблівую пакацігарошкавую далеч бабулінага клубка нітак.

І пакаціўся, коціцца той клубок колішніх самапрадных, з мяне і кожнага з нас нітак. І я сучасным пакацігарошкам у стручковым чэраве майго легкавіка, металёвай калысцы, адначасова і турэмнай камеры, паволі пачаў губляць людскае ў сабе. Дызайнава-камфортна закалыханы пажыраннем прасторы сотняй конскіх сілаў, расплыўся, развеяўся ў чужым мне паветры, у чужых даляглядах, разглядзець, спазнаць якія не паспявалі і вочы.

Між тым я трывала прывязаны, прыклееены да зямлі ліпучай на сонцы асфальтавай стужкай шашы. Так бабіным летам, на цененькай чарнявай павуцінцы, парашутна зніцаваны з небам непрадказальнасцю паветраных плыняў, учэпісты ў сваёй аднадзённай няўцямнасці, прадзімовы бадзяга і вандроўнік у нябыт – павучок, нябачны чалавеку і сусвету.

У пэўнай ступені нейкай часткай сябе я таксама багамолец-павучок, бо ўва мне жывуць двое: адзін я сам, дзённы, другі – начны. Дзённы – наземны, звычайны, законапаслухмяны, у меру працавіты, мо нават разумны. Зусім інакшы начны. Уначы я, падобна балотнаму гаду, скідваю прыраслую да мяне дзённую скуру, адвязваюся ад пня ці калка, да якіх ланцугом ці вяроўчынай пажыццёва прыпнулі мяне абавязкам, маёй жа рахманасцю і памяркоўнасцю. Укарчавалі, прыпнулі назаўжды да гэтай планеты, але ж не скарылі. Уначы я ўцякаю з планеты і ад сябе – у сусвет.

І гэта зусім не снабачанне ў начной цемры, што густа і шчытна абклала і спавіло мяне ў ложку, распранутага і бездапаможнага. Сну ўвогуле ні ў адным воку. Не спіцца, бо дзень пражыў, а ўспомніць няма чаго. Так было ўчора, так сёння. Прадказальна – так будзе і заўтра. Можна не ператалкаваць далей. Учора, сёння, заўтра, якім не патрэбны ні мой розум, ні мая душа. І сам я наўрад ці каму і дзе патрэбны. Кожнае імгненне мяне можна абязлічана замяніць, бо вакол безліч падобных да мяне. А земляны чарвячок, з якім я з'явіўся на свет і да якога ж і вярнуся, а пакуль бегаю з ім да ракі, на рыбалку, ужо нястомна рупіцца і ўва мне. Свідруе і точыць мяне, смокча і хлебча тое, што па-вучонаму завецца маёй жыццёвай аўрай.

Я выразна яе бачу, калі моцна, да болю ў скронях і пошуму марскіх хваляў увушшу заплюшчваю вочы. Толькі зрэдзьчасу яна не паточаная і не высмактаная, нябесна блакітная і спакойная ці вяснова-налівана-светла-зялёная. А больш прыліўна-крывава-чырвоная, з сасмягла адбалелымі, учарнела загуслымі ўжо закрайкамі. Загусласць – знак мне, мой жа папераджальны крык з відушчай мінуўшчыны ці будучыні, – хворыя хваробы.

І я ў бессані свядома пакідаю гэты свет. Месячнымі сцежкамі, бліскавічнымі рэшткамі святла адгарэлых знічак, пад мігатліва дазваляльны позірк зорак, яшчэ жывых, іду ў сусвет, да Млечнага шляху і па ім у дальні космас. Да планет, яшчэ невядомых, не кранутых нават шкельцам астранамічных тэлескопаў.

Светаў, здаўна адкрытых і зведаных, пазбягаю. Нахадзіўся ўжо па Марсах і Венерах. Яшчэ ў маленстве стаптаў ногі. Набягаю на іх, калі ёсць толькі пільная патрэба, скажам, па золата ці алмазы. Мне даўно ўвялі ў вушы: золата на Зямлі марсіянскага паходжання. А Юпітэр з-за вялікага холаду на ім і ціску плюецца алмазамі. І я толькі час ад часу наведваю іх, каб папоўніць наш айчынны залаты фонд і запас. Разумею, іншых магчымасцяў, як толькі пакарыстацца галактычным багаццем, украсці ці пастарцаваць там і такім чынам падняцца на ногі, па маіх начных меркаваннях, у нас няма. Але гэта зноў так, пакуль круцяцца колы і асфальтам на мяне куляецца чарнільная ўжо шаша.

У космас, іншыя сусветы, як і да ракі, вады і рыбалкі, змушае, гоніць мяне зусім не хцівасць. А што, сам не ведаю, няздольны на просты адказ. Хочацца і ўсё. Хочацца пайсці туды – сам не ведаю куды. Здабыць, знайсці тое – сам не ведаю што.

І такая неасэнсаванасць жаданняў у мяне, наколькі я сам сябе памятаю, з няцямнасці, ці не з першага яшчэ несвядомага пробліску думкі, падобна

нават не маёй. Сумнеўна, каб яшчэ ў дзяцінстве я ўжо быў такі разумны. Неакрэсленая акрэсленасць памкненняў некуды ісці, бегчы, плыць, лунаць з'явілася, як толькі я ўпершыню сам-насам застаўся з сабой. А потым абраў замест прытулку ў роднай, але ачужэлай мне хаце, беспрытульніцтва. Выправіўся ў свет на спатканне з самім сабой. Бо я тады яшчэ не ведаў, што могуць быць іншыя, чым гора з горам, бяда з бядой, самота з самотай, спатканні. Хаця і лічыцца, што нядоля з нядоляй – гэта ўжо доля. Толькі нашая доля ніяк не ўцяміць гэтага. Такія ўжо мы ёсць, як былі і, пэўна, будзем.

Не шчасця шукаў я ў свеце, хаця і горкім быў мой хлеб. Толькі і такога не мелі многія з тых, пра каго гаварылі: маці памерла – бацька аслеп. Але мала хто з іх ішоў у прочкі з роднай хаты. Я ж пайшоў, збег. Так што на бясхлеб'е, нядолю нyварта ўсё зводзіць. На свеце ёсць нешта яшчэ і іншае, край неабходнае. Толькі не пытайцеся, што. Адказаць не мог тады, а сёння тым больш, калі ўжо маю хлеб і не наракаю на долю.

Пэўна, то быў дабраахвотны прымус маёй прыняволенасці ў прасторы і часе. Прымус, ад якога не пазбавіўся і сёння, які робіць з мяне такога ёлупня, што я на самоце аж сцепваюся і знікаю ў тым жа першасным глупстве, з якога з'явіўся і адбыўся. У патаемную прагу былых надзеяў і жаданняў. У нязбытасць і немагчымасць збытасці, у якой, нягледзячы ні на што, так раскашуе і адпачывае душа, бо ўсё ж не хоча са мной развітвацца і на нешта спадзяецца. Да скону, да выраю.

Ці не таму цяпер, ужо ў сталасці, я шукаю прасвету ў журбе і самоце, праўда, тоячыся нават ад самога сябе. З усіх ног імкну насустрач абуральнай радаводнай нязбытасці. Зусім не дзеля папроку і папікання. З просьбай, каб гэта маё крыху-крыху, перададзенае мне продкамі, хаця б кропельна, было даравана маім нашчадкам. Вось чаму мне няўседна на адным месцы, у чатырох сценах гарадскога пакоя, сярод мураваных камяніцаў і асфальту – у свет і сусвет, на мілы і любы зямны Млечны шлях. У першароднасць святасці і граху чалавечай ночы.

Звычайна гэта зацішны, не стаптаны яшчэ бераг рачулкі. Хаця такіх сёння амаль не засталося. Больш захавалася непадступных і патаемных невялічкіх, на аднаго-двух рыбаловаў лясных азярын, сатвораных з нябеснай ласкі далёкіх планет, метэарытамі, альбо магутным плугам колішняга сейбіта – ледавіком. Іх абярэжна ахоўнаму змроку я давяраю сябе. Калі тут хто і ёсць з былога часу, то я яго не бачу, а ён не бачыць мяне. І сам я нібыта не існую. Ёсць толькі прадчуванне сябе. І тое вельмі далёкае, з такіх глыбіняў вякоў, што і ўявіць немагчыма і не сабраць, не скласці ў нешта адзінае існавальна-жывое.

Мне даспадобы гэтая мая распыленасць, пасеянасць па свеце. Нездарма ўсё ж чалавеку дадзена такая безліч насення. Не без дай жа прычыны яшчэ на пачатку мінулага стагоддзя выбітны рускі паэт К. Бальмант бедаваў, што ён абавязаны апладніць усіх дзяўчат свету, а яго можа хапіць толькі на палову Еўропы. Хапіла, хапіла б і на ўвесь свет.

На беразе ракі ці возера, у празрыстасці цішыні і спакою мне не трэба змагацца з бяссоніцай, кідацца ў бежанства і прочкі ад самога сябе. Я атрымаў, знайшоў сябе і сваё, што так доўга шукаў. Усё гэта тут, пры мне, пада мною і нада мною, і побач. І я нісколькі яшчэ не патрачаны, адзіны і цэлы ва ўлонні матухны зямлі, закалыханы шапатлівай уначы мілагучнасцю рачулкі, пад вартай нядрэмных і ў цемры дрэваў, у завязанай на вузлы памяці іх каранёў, на якіх зусім не мулка маёй галаве. Я ў

іх памяці, памяці зорак начнога неба – часу і прасторы, што не забыліся мяне, на галасы якіх не забыўся і я.

Шалёны статак шматфарбных жалезных монстраў з усіх бакоў кальцуе мяне, спускае з нябёсаў на грэшную зямлю, у галасную каламуць механічнага руху, прымушае памятаць, што і я з гэтага статку і таму трэба быць пільным. Зямля не толькі грэшная – хуткасна раскручаная, добра ўгрэтая сонцам, коламі і газамі машынаў. Жвавымі і чорнымі лапамі тых жа механічных монстраў, што нястомна жуюць і пераЖоўваюць распараны асфальтавы бітум і таму смогава смуродзяць. Да гэтага дарожнага смуроду дадаецца смурод паліўны – неякаснага бензіну – нецярплівасці і раздражнення кіроўцаў і ўладальнікаў стальных коней. І гэты адухоўлены смурод ці не найбольш адчувальна пахкі.

Траса паўднёва-курортная, адпачывальная. А цяпер якраз заканчэнне летне-курортнага сезону ў пралетарскай большасці люду краіны. І ўся гэтая большасць – насустрач мне на “жыгулях”, “масквічах”, нават гарбаценькіх “запарожцах”. А спадарожна – на панскі бархатны сезон амаль тыя ж самыя, але на велічных-саноўных “волгах”, а часам і пагардліва-выбітных з шараговага савецкага піплу – дэндзі, джэнтльмены і мэны на замежных марках. Дадаюць імпэту бязлітаснаму гону дальнабойныя фуры.

У свой час Міхась Стральцоў пазначыў сваё былое вясковае пакаленне сярод горада, як сена на асфальце. Сёння пра іх жа можна было б сказаць: кілька ў бляшанцы ва ўласным соку, а надараецца і ў тамаце.

З сучаснай экраннай хуткасцю, дваццаць чатыры кадры ў секунду, і прыхаваным сярод іх дваццаць пятым, разлічаным на інстынкты, траса круціла дарожнае, у нечым цалкам яшчэ спрэс савецкае кіно. Мільгалі прыхарошаныя, набліжаныя да шашы лялечныя вёсачкі з прабегла вёрткімі, што яшчаркі, платамі, выкашанымі падплоццямі, кветкамі ў прысадах, і каля прызбаў прамасценных дамкоў, крытых шыферам, чарапіцай, а то і пафарбаванай бляхаю – на чараванне ўладнага вока праезжага начальства. Гэта, пэўна, і быў той славуты дваццаць пяты кадр, створаны сучаснымі пацёмкінымі правінцыйнага разліву.

Астатнія ж дваццаць чатыры кадры – вёсачкі, адбеглыя ад асноўнай трасы ў хісткія далягляды, ужо не такія вабныя і паглядныя. Пераважна сіроча аўдавелыя, з заплакана зажуранымі вокнамі ўрослых у зямлю хатак пад чаротам, саломай і дранкай ці не з пачатку мінулага, пры цару-гароху яшчэ, стагоддзя – 1913 года, на які не перастае раўняцца ўлада дый савецкая перабудовачная галоснасць і свабода.

Што ні кажы, а вялікім быў чалавекам палюбоўнік Кацярыны II святлейшы князь Пацёмкін. Аднавокі. Але і з глыбіняў цемрашальства паказаў, як трэба вешаць локшыну на вушы. Хаця размаху не было, стварыў толькі некалькі гожых пейзанскіх вёсак. Камуністы аказаліся куды больш здатнымі, з чыста бальшавіцкім запалам, што мухамораў у грыбную пару ў лесе панавырошчвалі на бойкіх месцах кардонных хатаў, вёсак і нават мястэчак – усю краіну так па цёмнаму светла сатварылі. Дых займае.

Толькі таго духу, імпэту не хапіла ім на дарогі, што ж, бяда адвечная ў Расіі – дурні і дарогі. Асабліва гэта пачало кідацца ў вочы, калі пайшла ўжо мая траса Масква-Валгаград. Я і раней чуў, што гэта нешта яшчэ тое, але і ўявіць не мог, якое гэта *тое*. І без напружання зразумеў, чаму матрос, партызан Жалязняк ішоў на Адэсу, а выйшаў да Херсона.

Такіх літаральна варожых, белагвардзейскіх засад, ямаў, калдобінаў,

прасавальных дошак і, калі не супрацьтанкавых, то супрацьпяхотных правальных траншэяў, равоў і надоўбаў, бугроў і ўпадзінаў мне ніколі і нідзе не даводзілася сустракаць нават у пешым руху па дзікіх дзялянках драпежных леспрамгасаўскіх вырубак, у барах, дзе ішлі акопныя партызанскія баі. Упэўнены, Мамаю з ханам Батыем дарога на Русь давалася больш лёгка.

Дома ў сябе я зведаў аднойчы толькі ў жыцці нешта падобнае. Па вясне, калі распусціла гаці і брады па дарозе да маёй роднай вёскі, у якую з таго ж 1913 года дабіраліся толькі пешшу ды конна, а немцы ў вайну – адно на танках і толькі зімой. Я выкараскаўся з чарговагай багнавай застойнай гразі. Спыніўся, каб перавесці дых і ачомацца. Спытаў у нечакана, як з балота ці з таго свету, яўленага дзядка, што там далей з дарогай, праеду ці не. Дзядок абышоў вакол мой змардаваны, зачуханы легкавік, строга і з націскам спытаўся:

– А машына дзяржаўная ці свая?

– Свая, – паныла адказаў я.

Дзядок як чакаў такога адказу, узрадаваўся аж да скокаў:

– Тады не. Не праедзеш. Не, на сваёй аніяк не праедзеш.

Мудры быў палешучок, не дзядок, а савет міністраў. Я ўзгадаў яго на трасе Масква-Валгаград, скачучы ў маім легкавіку, што на задышлівым калгасным мерыне з хворай селязёнкай. Такога памяркоўнага дзядка ды ў Крэмль, у адміністрацыю прэзідэнта, у міністэрскае крэсла. Калі б не прыдушылі да заходу сонца, ён даў бы дыхту. Навёў бы парадак хаця б на дарогах, і ва ўрадзе мо б паменела дурняў.

Але на той час мне было не да такой глыбокадумнасці. Свінні не да парасят, калі яе смаляць. Я скакаў па-над чорнай стужкай асфальту, як рыбіна на кручку, выхапленая з вады на паветра, улоўлены па сваёй жа ахвоце. Як заўсёды з намі бывае, наракаем на лёс, абставіны, чорта і д'ябла, а самі ж пішчом лезем туды, з аглядкай кажучы, куды сабака і носу не ткне – прымроены рай на яве часцяком горш за пекла. На свеце не знайсці большага слодычу за прывідны падман уласнымі летуценнямі і марамі, што да самагубства ўладараць намі, і куды больш упраўна, чым неўміручая і руплівая бабуля з касой – адна сапраўдная гаспадыня і ў хаце, і на вечна зялёнай зямной сенажаці, на якой заўжды болей пустазелля, чымсьці каласоў са спелым зернем. Мо таму ў сваіх маленнях лепшай долі мы спадзяемся і звяртаемся да намі ж створаных і надта далёкіх ад нас ідэалаў і зданяў, паломна схіляемся перад імі і не зважаем на тых, хто побач з намі.

Я таксама выправіўся ў рыбацкае паломніцтва ад родных асінаў і лозаў у край далёкі і чужы, былы пуп татара-мангольскага ханства, дзе рыба, вялікая і малая, прагне, каб яе хутчэй пачалі лавіць, як дзеўкі калісь дый цяпер у замужжа – хоць на хвілінку. Так мне даводзілі мае прапашчыя ў ловах і на ловах заўзятары рыбалкі, якіх сёння развялося – даруйце мне, бо і я сярод іх, – што сабак нярэзаных. І, як па завядзёнцы, колькасць павялічваецца – сэнс губляецца.

На самым жа пачатку занятак гэты быў адным з умоваў выжывання, выхавання чалавека – здабытчыка, карміцеля. Нездарма з мінулага ідзе: у рыбака дым густы ды наедак не пусты. Цяпер жа ён перарадзіўся ў сапраўды пустую забаўку. Трэба адзначыць, не з танных. На яе цалкам працуе асобная індустрыя, што вырабляе не толькі рыбалоўныя прылады, а нават пахі, прыемныя рыбам. Набываць усё гэта здольныя людзі далёка не з бедных, больш усё ж тыя, што ад раскошы шалеюць і са скручанай

галавой, якім важны працэс, а рыба ніколькі не патрэбная. Яны ловяць яе і зноў адпускаюць у ваду. Зноў ловяць і зноў адпускаюць. Такі працэс, кругаварот рыб і шызанутых сёння ў прыродзе.

Не буду хавацца, такі і я, хаця і не зусім. Большасць маіх паплечнікаў людзі не жарсці, а нядолі. Незапатрабаваныя ні сям'ёй, ні службова, яны трацяць сябе, часта з выклікам, на замяшчэнне сапраўднага жыцця. І гэта тычыцца не толькі рыбалкі. Абходных манеўраў, тупікоў чалавечага існавання незлічона.

Так мы без Фрэйдаў і Юнгаў медытуем і рэлаксуем, псіхаўнушальнасцю спрабуем самаўратавацца, пазбавіцца, уцякчы ад нудотна абрыдлай рэчаіснасці, схавацца ў іншых, больш прыймальных сусветах і светах. Гоні і пагоні, уцёкі і збегі, не намі і не нашым векам распачатыя. Гэта ў нас ці не геннае, ад Адама і Евы. З вялікага нашага рота і ненажэрнага чэрава – разлік на халяву і на тое, што ўсюды добра, дзе нас няма. Адсюль пагоня за жар-птушкамі, настольнікамі-самабранкамі, Калумбава прага адкрыцця Амерык, пошукі Беламор'я і зямлі Саннікава, хаджджэнне за тры моры. А пазней – лепей сініца ў руцэ, чым журавель у небе – хаджэнне ўжо ў народ. Адрачэнне ад яго, падмена Карламі-Марламі і Фрэйдамі, павальныя ўцёкі ў рэвалюцыі. А ў выніку – ці не дабраахвотны – і, падобна, таксама ўсеагульны сыход у ГУЛАГ, з мяккім пераходам, зноў жа – дабраахвотным, – у эўтаназію праз кароткія праталіны адліг, эйфарыі энтузіязму і дазволена культывуемай рамантыкі.

Такой была брацкая магіла лёсу пакалення і эпохі. Збаўленне мільёнаў і мільёнаў ад прыблуднага прывіду, зданяў, якім верылі, як не верылі самім сабе. Разлучаліся з той верай, ачмурэннем і рабаваннем духу спачатку весела, як гэта ў нас заведзена на трызне: хвалілі цешчу – парвалі тры баяны. А потым адчулі, што гэта зусім не развітанне з нябожчыкам, а ажыўленне яго, адраджэнне, з'яўленне новага і куды як сапраўднага ў натуральным ужо выглядзе опіуму народа. З зацягнутымі на гады ломкай і вечным ужо пахмельным і постпахмельным сіндромам.

Выходзілі з гэтага адзінкі, і то няўцямна. Усім адразу стала няўтульна і цесна не толькі ў прасцягах зямлі, але моташна, душна і ў чатырох сценах уласнай кухні. І тады сам сабой спрацаваў закон даміно. Былыя шасцёркі ўвабраліся ў сілу і пахіснулі пуста-пуста. І далёка, далёка разлёгся касцяны грукат мёртвага пластыку, былых вінцікаў, адным днём і рухам створаных беспрытульнікаў. Пачаліся калектыўныя суіцыды, стварэнне сектаў – уцёкі ў нікуды і пагоні за нікім і нічым.

Гоны пакалення за пакаленнем на тым і гэтым свеце пад посвіст бязлітаснага бізуна вечнасці. І гэтая хіжая, падробна дрымотная ў салоне легкавіка вечнасць нашых дарог, сцежак, гасцінцаў дратуе, прыспешвае і падганяе мяне. Куды, да каго і чаго? Я даўно і доўга выбіраўся ў гэтае падарожжа, ды ўсё ніяк не выпадала. Цяпер жа адчай роднага краю, як звычайна, нідзе і нікому нябачны, стогн і плач яму пасобілі. У лейцах машыннагу руху, палудзенны расплаў асфальту пад коламі праз машыннае шкло я імкнуся разглядзець і далучыцца да чужога жыцця. Але яно такое на працягу ўсёй дарогі, мо і з-за хуткасці, непадгляднае, непрабіўна аднастайнае і бездэтальнае. Толькі, здаецца, у аддаленасці ад родных мясцінаў суму на тварах людзей і ў наваколлі меней, хаця і асаблівай бадзёрасці не назіраецца. Адно – як бы чаканне і прадчуванне нечага. А мо гэта прадчуванне і чаканне хутчэй зусім не лепшага ўва мне. Нашая душа празорлівая, у чым я неаднойчы горка і соладка пераконваўся.

Вось і цяпер, калі я пішу гэта, праз колькі ўжо дзесяцігоддзяў пасля ўсяго, мы ўдарылі ва ўсе званы і загаласілі з усіх амвонаў: людзі, будзьце пільнымі, зямля ўступіла ў паласу катастрофаў. Душа ж адчувала гэта і шмат чаго іншага і дасюль патаемнага, яшчэ да Чарнобыляў, Курскаў і Фукусімаў. Так, перад самым Чарнобылем, як я ўжо казаў, паўтаруся, уначы на Вербніцу я сніў мясакамбінат з мноствам падвешаных на жалезных круках ялавічных тушаў, якія ў такой колькасці мне давялося бачыць толькі аднойчы, у студэнцтве. А потым нідзе і ніколі – ні на яве, ні ў снах.

Усё, пэўна таму, што ў кожным з нас водгалас, рэха нашых абярэгаў, тых, хто даўно ўжо на кладах. І толькі нябачная нітачка, павуцінка, па ўсім забаронная і ім, бо ніколі відушча сябе не аказвае. Гэта дабрачынная павуцінка, пэўна, і ўтрымлівае нас на белым свеце – літасцівае да жыцця на планеце рэха праз нябыт, час і прасцяг. Дзяды прыходзяць на нас не толькі на Дзяды. Іх вока нязводна на кожным з нас – адных, каб прыбраць, другіх – уратаваць і надаць хоць крышачку радаводнай памяці.

Узбуджаны, пэўна, рэхам гэтай памяці я ластаўчыным лунаннем, вераб'іным скокам, расчаравана і пакрыўджана праскочыў Калінаўку, некалі знакамітую і выбітную, упэўнены, цяпер ніхто і не ўспомніць, чым. А было ж, было. Кузькіну маць помніце? Не? А кукурузу? А дваццаты партз'езд? Забыліся, забыліся на Мікіту Сяргеевіча Хрушчова, знакавую, сакральную постаць у савецкай нашай гісторыі.

Следу ад яго ў той Калінаўцы, дзе ён нарадзіўся, не адчуў, не ўбачыў і я. Падобных аднаназоўных у нас мясцінаў і мястэчак паўсюль, што крапівы пад плотам і па гарэлішчах – айчынны знак бяды і непрыдатнасці. Дзе ў непраходнасці балацінаў расце, рдзяна спеліцца Каліна – там і Калінаўка, а ёй усё роўна каго, калі і дзеля чаго нараджаць, як у той дзіцячай хуткагаворцы для нас, дарослых: "Прыйшоў Пракоп – кіпіць укроп, пайшоў Пракоп – кіпіць укроп". Як пры Пракопе кіпеў укроп, так і без Пракопа – кіпіць.

І ўсё ж на душы ў мяне было ніякавата. Да чаго няўважныя і час, і людзі, і зямля да чалавека. На дабро ці гора – ў нас больш памяці на старажытнасць. І як ні горка, старажытнасць чужую. Па ўсім, калісь і недзе вельмі далёка людзі больш дбалі і клапаціліся пра сваё імя. А ў нас жа сёння не паспеў чарговы геній і правадыр заплюшчыцца, як яму ўжо ва ўсіх букварах выкалалі вочкі. Смярдзіць, пачынае смярдзець наш чалавек, яшчэ не паспеўшы нават астыць. Не без падстаў гэта так займала нашага славутага земляка Фёдара Міхайлавіча Дастаеўскага.

Смярдзіць нават бязгрэшны святы старац Засіма. А ўсе Платоны, Сафоклы, Герадоты і Дыягены з Гераклямі і праз бязмежжа стагоддзяў – духмяныя. Абражаны старажытнасцю і сучаснасцю, я адмовіў цяперашняму існаванню Мікітавай Калінаўкі. Не ведаю, чаму і з якой прыхамаці перанёс яе ў гогалеўскія часы і ў Маларосію, на Украіну, у сутонне вечароў паблізу Дзіканькі. У Міргарад. Хаця ні знакамітай міргарадскай лужы – у народа меліся два стагоддзі, каб прыбраць яе, управіліся, – ні Салохі, ні Рудога Панька не назіралася. Толькі мроіўся сам Мікіта Сяргеевіч, лабасты і лысы галавой, а тварам чамусьці падобны да таго ж Рудога Панька. А так усё было люба, гожа, зелена і стракатa.

Мо гэта звіхнутасць майго вока з галавой і вымусілі мяне збочыць з трасы на тую ж Украіну. Не толькі Расію, а кожнага з нас, хто павёўся з ёй, яе непрадказальнасцю, новых і кожны раз усё больш і больш магут-

ных глупстваў немагчыма ні спазнаць, ні вымераць аніякім аршынам з метрычнай сістэмай мер. Часам я сам дзівіўся і дзіўлюся з сябе, таму што ў наступную хвіліну ляпну – як у лужу пе...ну – што ўчвару і дзе апынуся.

Імпульсіўнасць і інстынктыўнасць кожнага майго руху здаўна палохала і напружвала мяне. Асабліва, калі ўсё ўжо адбывалася і было немагчыма нічога паправіць. Толькі, сцяўшы зубы, праклінаць самога сябе ды горача чырванець у паглынаючай сорам цемры ночы.

Мяняць сваю натуру я быў няздольны. І гэта, спадзяюся, ішло не ад хворай галавы, было звязана з нечым іншым, хаця і зацята ўпартым, дубаватым. Мне заўсёды хібіла цярплівасці і карпатлівасці навучання дзеля ведаў. Навука з пазнаннем уваходзілі ў мяне пры поўнай адсутнасці старання і руплівасці. І выбарачна, як гэта адбываецца пры стварэнні ракой рэчышча сабе: куды цяга, што можна абняць, ахапіць, падмяць – на тое і плынь вады: напал, жарсць, шал. Усё да апошняй кроплі аддадзена зямлі, свету, як я аддаваўся таму, што абіраў, што вабіла мяне. І ў гэтым маё шчасце і няшчасце. Так я захоўваў сябе ў веры і няверы, не траціўся на нешта старонняе. І таму бясконца дзякую тым, хто ўкінуў мяне ў гэтую раку і падчапіў на кручок. Дзякую, праклінаю, галашу ад страху, болю і задавальнення. Адсюль, думаю, і маё непрыманне Фрэйда і Юнга, таму што я, пэўна, найпершы іх пацыент. А калі што-небудзь тут камусьці не па носе, няхай са сваім носам і носіцца.

Мо таму я і не разумею, шмат чаго не разумею, дзеля прыкладу, з мінулага стагоддзя: прыгажосць выратуе свет. У маленстве я малітоўна давяраўся гэтаму. І плакаў, калі даведваўся, што жаба ўсё ж заўжды застаецца жабай. А сёння зусім не царэўнаў, жаб абодвух палоў – так званых бісексуалаў – значна паболела. Бо амаль усе і паўсюдна падроўніваюцца да Барбі і Бондаў – іх штучнасць, агрэсію і самасць – самцовасць. Яны нікога няздольны выратаваць – толькі зграйна доўжыцца на некрафільнай спажыўнасці людскога праху нават з таго свету.

У нетрах руху і дарогі, з адчуваннем спавітасці і абвужанасці ў гаварліва прыязным, але ўсё ж нежывым, няплодным, чэраве легкавіка я спакваля рассмоктваўся ім, губляў сябе, як губляецца жывы чалавек пад замком сярод закратаванага ў вязніцы шэрага казённа аднатварага люду – ужо і нелюду. Пасярод дарогі і неба, з крыламі, але падрэзанымі, як падразаюць хатнім птушкам, каб яны пільнаваліся свайго падворку – без усведамлення гэтай сваёй абрэзанасці, кастрацыі волі не толькі лёту, але і звыкласці разняволенай пешай хады – Зямлі сёння, па ўсім, не надта лёгка ўтрымліваць на сабе атлусцела азызлага чалавека.

Усе разам раптоўна кінуліся ва ўлонне сталёвых коняў і навыперадкі адзін перад адным скочылі ў бегі. Але ж гэтыя сусветныя бегі звужаных чалавекаў, на шырыню якіх яшчэ толькі ў другой палове пазамінулага стагоддзя скардзіўся Фёдар Міхайлавіч Дастаеўскі, ці не бязладны і бязмэтны гон нябожчыкаў, зданяў, прывідаў, ажыўленых і існуючых не толькі на моры, але і на сушы лятучых галандцаў, вечных жыдоў. Абвужаны чалавек абвузіў зямлю, планету, на якіх немагчыма знайсці месца не толькі Дастаеўскаму з Талстым, але і беднаму Дзям'яну.

Гогалі і Пушкіны, Талстыя і Дастаеўскія – пакутнікі сваіх залатых і срэбных стагоддзяў у роздуме пра будучыню чалавецтва зайздросцілі яму. Што б адбылося, калі б давялося гэтым прарокам і месіям апынуцца сёння сярод нас. Па ўсім, добрае было б папаўненне ціхаму прыстанку

бажавільных. І вялікае пытанне, хто яны тады, у свой час – сапраўды ратавальнікі і пераўтваральнікі, дойліды ці вялікія спакуснікі чалавека і свету, пасланцы рая ці ўсё ж пекла, што, падобна сірэнам, зачаравалі нас і наслалі залаты сон, у якім мы згубілі сябе, парвалі самапрадную нітачку бабінага клубка, сталі пакацігарошкамі.

Апошнім часам мяне ўвогуле бянтэжыць і недзе нават расчароўвае, а не чаруе ўвогуле ўсё прыгожае пісьменства: не ўсякае чараванне ад Бога, тут, бясспрэчна, прыклаў сваю руку і Д'ябал. Ці не адсюль бярэ пачатак разбэшчванне культуры. Творчасць, ад стварэння Адама і Евы, – спакушэнне, падроўніванне сябе, смяротнага, да Творцы. Забяспечваецца і трымаецца яно не толькі на Божай іскры, але і на шале. На шале інтуіцыі і юрлівасці, самападманнай да прарочасці і месіянства магутнасці і пранікліваcці: а як жа – самога Усявышняга трымаю за бараду. Адсюль: дзеля краснага і прыўкрасанага слоўца не шкада і роднага айца, талент і геніяльнасць заручаныя з псіхічнай хваробай...

Пасля з'езда з галоўнай трасы нярвовая броўнаўская механістычнасць руху запаволілася і нарэшце амаль зусім перарвалася, знікла. Згодны мы ці не з тым, што ў Расіі дарог няма – толькі напрамкі, на Украіне і напрамкаў не было, а дарогі меліся спраўныя, ніштаватыя. Хаця куды яны вялі, пэўна, вядома аднаму ўкраінскаму Богу ды галоўнаму дарожнаму начальніку. Нідзе ні ўказальнікаў, ні верставых слупоў: шуруй, нябожа, і не замарочвайся, куды-небудзь ды праб'ешся – язык да Кіева давядзе.

Упэўненасці дадавалі неба, збочыны і палеткі абапал нерасцярэбленага яшчэ да друзу асфальту. Асфальт быў раённы, міжвёскава-калгасны. Кюветы, абочыны сведчылі пра спякотнае лета і аб заканчэнні, а мо і працягу яшчэ ўборачнай учарнелымі жменямі пшанічнай саломы, пажамканымі, падрабнёнымі парэшткамі кукурузы, дзе-нідзе кляксамі раструшчаных на асфальце і напаўцэлымі чарапахава скочанымі ўзбоч дарог кавунамі. І кавунамі, праўда, невялічкімі, хаця і гожымі, вабнымі. Але ж не спыняцца дзеля іх.

Палеткі былі яшчэ не апростаныя, цяжарныя летам, хаця ўжо і самотна бязлюдныя. Перадвосеньскае насцярожанае неба, здаецца, спачувала ім, сыціла і лагодзіла згушчаным настоем спакою і дабрыні за тое, што хавала ўжо ў сабе зіму, як гэта бывае і ў акуратнай хаце, у добрай сям'і пры памнажэнні яе, хуткім з'яўленні на свет яшчэ аднаго рота. Парадзіха яшчэ ў ложку, і ёй залішне не назаляюць увагай. Ходзяць каля яе лёгка, гавораць ціха, а то і зусім абыходзяцца без слоў.

Ці не тое ж самае адбываецца з дарогай. Паветра над ёй густое, пахкае і задуменна самотнае. Дарога напоўніцу дыхае ім, выпростваецца ад цяжарнасці збытага, прынятага яе ўлоннем лета, сатварэннем коласа і клубня. Чарназёмна-сыты стэпавы вецер гаспадарліва дбае аб яе чысціні. Здзьмухвае астанкі ўжо амаль завершанага лета, рупліва сцірае яго памяць. Шаша ўчарнела і ўчэпіста чапляецца за былое высахлым асфальтам і, здаецца, угінаецца, горбіцца, як земляроб у працы на калгасным полі ці на сваіх сотках – у вечнасці і перад вечнасцю.

Вечнасць паўсюдна прарастае крыжамі на буграх абапал дарогі. Дзе-нідзе яе сцерагуць стэпавыя арлы-магільнікі, нерухома і нязводна ўталопленыя вокам ні то ў мінулае, ні то ў будучыню. А так, больш пожневая пастрыгласць пшанічных ці аржаных палеткаў, праз якую ўжо квола прабіваецца ці то згубленым пры абмалоце зернем новая рунь, ці то здушанае, але невыніш-

чальнае пустазелле ў супольнасці з канюшынай – пры непазбежным па восені выпасе там жывёлы. Усе звычайнае, нязменна вясковае, сялянскае.

Заспакоены і ўлагоджаны адвечнай запаветнасцю зямлі і працы цяпер Кіравaградчыны, а колісь Херсоншчыны – што я казаў ужо: ішоў да Валгаграда, а выйшаў да Херсона – я неўпрыкмет уехаў у горад Бабрынец. Прыпыніўся каля слупа з гербам яго, на якім нейкая невядомая птушка падазрона пазірала на мяне, нібы вартавала бахчу па абодва бакі шашы, а я мерыўся красці кавуны. Іх у большасці ўжо прыбралі, пакінулі толькі недамеркі. Але яны здаліся мне сунічна салодкімі і водарнымі, не горш за тых жа, саспеленых палескім сонцам на лясных вырубах суніц.

Бабрынец адразу лёг мне на душу. У ім была цацачная паветранасць і свежасць. Падобна, ён не надта быў прыпнуты да зямлі, узвышаўся і лунаў над яравымі праваламі, прыбранымі, але наноў зелена замурожанымі палеткамі з іржавымі латкамі пожні, сухімі ікламі высока зрэзанай лапатлівай на ветры апошнім лістом кукурузы. У ім відавочна пераважвала паўднёвая адрознасць ад нашых невялікіх мястэчак. Але мелася нешта і паяднальнае. Нешта невытлумачальнае, стоенае больш у духу і дыханні, чым у аблічы. Дыханні, не перацятым і не згаджаным гарачкавасцю індустрыі, а струменна-спеўным, накшталт малочна-дзіцячага. Мястэчка дыхала захаванасцю ў сабе дзяцінства і адначасова старажытнасцю і гісторыяй – засеянасць людзьмі каля пятнаццаці тысяч яшчэ таму гадоў. Напрыканцы мінулага стагоддзя – дзесяць тысяч жыхароў. З іх – дзве тысячы габрэяў. Адзін з якіх назаўсёды ўвайшоў не толькі ў айчынную, але і сусветную гісторыю. Лейба Давыдавіч Бранштэйн. Ён жа Леў Троцкі – другі пасля Леніна чалавек у рэвалюцыі, стварэнні СССР. І вораг народа, асабісты вораг правадыра народаў пасля смерці Леніна.

І я падзякаваў сабе, збегу абставінаў і выпадку, што пасобілі мне апынуцца менавіта тут, у Бабрынцы, і воўкам кінуўся, як мне здавалася, па гарачым яшчэ следзе адносна недалёкай нашай гісторыі. Прага гістарычнасці спрадвечная ў нас, хаця і падсвядомая. Спажываючы міфы і спажываючы з гонарам, мы, неасэнсавана нават, адчуваем іх падман і сваю непаўнавартасць – нашае самаабразанне на тое, каб звацца народам, нацыяй.

Гэта мая, і не толькі мая – нашая айчынная беларуская горыч. Чалавеку патрэбна нацыянальнасць. Адчуванне еднасці яго крыві і зямлі. Хопіць, ужо накоўзаліся ў інтэрнацыяналістах, як толькі жывыя засталіся. Наеліся чалавечыны, крыві напіліся. І сваёй, сваёй – яна даступней, але горла дзярэ да дзявятага калена, і вочы выядае. Нашчадкам, нашчадкам. Быў адзін народ паўсюдна пасеяны. Але і ён сёння згуртаваўся і сплочвае кроўю за сваю пасеянасць, за сваю запаветную зямлю.

Леў Давыдавіч Троцкі не зусім ураджэнец Бабрынца. Радзіма яго – вёска Янаўка непадалёк адсюль. Але ж сённяшнім вёскам не па сіле ацалець на гэтым свеце. Яны яшчэ мінулым тысячагоддзем ад раства Хрыстова прыгавораныя шчытнымі шэрагамі і цалкам дабраахвотна да знікнення, да сыходу ў нябыт, пакідаючы тут толькі няпэўныя крапіўныя ды дзядоўнікавыя знакі свайго спрадвечнага існавання – напакаваныя іх прахам курганы, парэшткі ўчарнелых крыжоў з прыраслымі да іх нечытэльнымі нашчадкамі паданнямі і казаннямі. Паданняў і казанняў хапала і ў Янаўцы. Як заведзена, вясковая глеба добра ўгноена пад іх і імі жыццём, што ўжо сканала і толькі выбітнымі ценямі хістка і цьмяна ліпіць казаннямі ў аглохлай далечы амаль што небываласці.

Казаннямі пра свайго выбітнага колішняга земляка бруілася і наваколле Бабрынца, і таго, што ўстояла, ацалела ад былой Янаўкі і вялікага чалавека, які, падобна месіі, прароку Маісею, ствараў новы народ і адну шостую зямной сушы, крывава пазначаў іх новую сутнасць і межы, што сёння былі адметныя толькі пагостамі з безыменнымі магілкамі, у якіх час дагрызаў белыя косткі ягоных бацькоў. Праўда, іхняя магіла не была безыменнай, на грудзі ім была ўскладзена каменная пліта з імёнамі.

Хадзілі чуткі, што Давыд Бранштэйн прыхапіў разам з сабой на той свет золата. А быў ён на гэтым свеце не з бедных. Сотні гектараў уласнай і арандаванай зямлі, незлічона авечак, кароў, мукамольныя млыны, цагельні. Штосьці з гэтага стары Бранштэйн адразу ж пасля рэвалюцыі, сатворанай сынам, прадаў, набыты скарб прыхаваў у магіле жонкі, накрыў мармуровай непадымнай накрыўкай.

Ужо недзе ў шасцідзясятых гадах два трактарысты падчапілі тую накрыўку трактарам і сцягнулі з магілы. Золата, па сведчанні жывых яшчэ янаўцаў, знайшлі, як і пагібель сваю. Праз месяц адзін з трактарыстаў загінуў пад коламі ці гусеніцамі трактара. Другі неўзабаве згарэў жыўцом пры пажары ўласнай хаты, калі кінуўся ратаваць жонку і дзяцей. Вось такая сучасная паслярэвалюцыйная казачка. Гісторыя без міфаў. А мо і цалкам з міфаў. Колькі мы іх ведаем, з напечнага і падпечнага маленства носім у сабе. Жудасныя аповеды нашых бабуль пра тое, як нябожчыкі помсцяць жывым, што прагнуць іх багацця, іх могілкавых замоўленых залатых кладаў. Правадыры чалавецтва, што бацькі, што сыны з кагорты былых і сённяшніх ратавальнікаў і пераўтваральнікаў чалавечай пароды, рупліўцы і дойліды пагалоўнага шчасця – з нас, з чалавекаў. І нічога чалавечае ім не чужое. А за сваё і з таго свету горла перагрызуць усім і кожнаму.

Іх сутнасць маляўніча аказвае сябе, калі яны пачынаюць грызціся між сабой – бойка тытанаў і людажэрцаў-канібалаў. Куды там нейкім недапечаным вясковым трактарыстам. Джугашвілі ў вёсцы Троцкага стварыў калгас і назваў яго сваім імем: калгас імя Сталіна. Але ж і ад зданяў, прывідаў мінулага не надта лёгка адчапіцца. Давыд Бранштэйн у Янаўцы вырабляў цэглу і пазначаў яе літарай “Б”. Мясцовыя жыхары разабралі яго селішча з літарнай цэглы на свае патрэбы. І цяпер у былой Янаўцы, сёння Бераслаўкі, няма ніводнай каменнай забудовы без цагліны з літарай “Б”. Вось такі зноў жа мясцовы сучасны ўжо полтэргейчык: ты яго праз дзверы, а ён – у акно.

Богі і Д’ябалы гуляюць як Богі і Д’ябалы, нераўня сваім падданым, прыхільнікам і вернікам, што па складах мыкаюць і пыкаюць: “мы не рабы, рабы не мы, рабы немы”. Гуляюць і кідаюцца ў бойку тымі ж нямымі падданымі – накшталт футбольных мячоў, хакейных шайбаў і тэнісных шарыкаў. Стомленыя, імі ж і перакусваюць, жыўцом.

І ад іх, людажэраў, і ад іх нямых ахвяраў – толькі пыл, пыл, пыл. А часам і яго няма. Застаецца толькі паспачуваць – цяжкая ў канібалаў работа. Няпроста ім запарушыць паскудствам відушчае і праз зямлю, і праз напластаванне стагоддзяў вока нябеснага суда і суддзі.

На адной плошчы ў Бабрынцы сышліся два будынкі. У рыштаваннях, хаця ўжо і пад бляшаным дахам – будучы новы гаркам партыі, і ў ужо адчувальнай паціне, таксама ў рыштаваннях – краязнаўчы музей. Якраз у ім я трохі-трохі адчуў і зразумеў пераможную ўрачыстасць справядлівасці, боскі смех з марнасці месіянскіх патугаў кожнага смяротнага. Меркаваны

тут помнік Льву Давыдавічу яшчэ быў толькі ў задуме. З большай пэўнасцю, хаця і з аглядкай, можна было гаварыць пра стварэнне музея яму, што нібыта ўжо і будаваўся. Я сустрэўся з дырактаркай будучага музея, спытаўся пра яго экспанаты. Дырэктарка падвяла мяне да паліцы, на якой нешта шкляна і лупаста паблісквала:

– Вось, – не без гонару сказала яна, – першы экспанат нашага будучага музея славутаму земляку.

Я не даваў веры сваім вачам. На паліцы стаяў чыста вымыты куфаль. З тых, што яшчэ да перабудовачнай барацьбы савецкага народа з алкаголем, дый пазней, пасля перамогі, ці то алкаголю ці то народа, пілі піва ў кожным шалмане. Дарэчы, я лічыў вялікім чалавекам вынаходцу гэтага піўнога куфля: возьмеш ў рукі – маеш рэч. Але ж піўны куфаль, хоць і ў музеі, як ні круці яго, застаецца толькі піўным куфлем.

Я нічога не разумеў. Дырэктарка патлумачыла:

– Куфаль з наследнай спадчыны Льва Давыдавіча. – А адчула мой маўклівы недавер, прадоўжыла, паказаўшы дно куфля. – Бацька Льва Давыдавіча трымаў бровары. Вось яго асабістае кляймо на донцы куфля. Не выключана, што з гэтага куфля піў піва і Леў Давыдавіч.

Як гавораць карцёжнікі, гуляючы ў дурня, крыць мне не было чым. Хіба толькі ўявіць сабе, што я таксама мог, прынамсі, быў не супраць каўтнуць добрага напою з гэтага куфля, каб потым пахваляцца: піў піва на брудэршафт з самым Львом Давыдавічам Троцкім. Толькі ў такія гульні я даўно ўжо не гуляю.

Ахоплены прыкрасцю, я пакінуў музей. Выйшаў на ганак і азірнуўся навокал, узгадаўшы ўсе тыя пятнаццаць тысяч гадоў, запоўненых тут людзьмі. Стаяў яшчэ ранак, паветра наскрозь прасвечанае сонцам, лёгкае і чыстае. У ім ні самоты, ні задавальнення. Ні ківа, ні намёку ад тых, хто некалі прайшоў ці прыпыніўся, стаяў там, дзе цяпер стаяў я. Нязрушанасць восеньскага зрэджана васількованага неба брала загрудкі, сціскала горла. Нідзе ні знаку, ні слядка ад ідэалагічнага, бунтоўнага і нават проста жыццёвага хламу, нагрувашчанага тут за стагоддзі і стагоддзі гомасапіенсам. Ён вылузнуўся і праслізнуў у іх нябачнасцю ценю ў цемры ночы, з неапазнанасцю самага апошняга біча, бамжа. Аматара і заўзятара піва. На лодцы Харона па рацэ крыві. Сам у крыві па локці і макаўку, як кожны з найноўшых месіяў нашага цяжарнага на кроў часу, які сёння цяжарны яшчэ і на хлусню іх паслядоўнікаў. На хлусню, ману, што нясуць у сабе зародак новай цяжарнасці на кроў. На нешта іншае і самастойнае яны няздольныя. Здрабнелі і вырадзіліся ўсе прарокі і месіі. Надта ж душыць іх сёння ніколі неўміручая ў кожным чалавеку жаба.

І як выгнаны гэтым з Бабрынца, мястэчка, што бязвагава і сонечна завісла паміж вечнасцю і адным-адзіным днём зямной марнасці, непраходна і непраезна засеяных ценямі славалюбства і пыхлівасці – да крывавых хлопчыках уваччу і галаве, паперадзе і за плячыма наступнікаў і пераемнікаў, рушыў далей. У сваю крыху ўжо прытушаную на фарбы Меку. З ненькі Украіны – зноў у матухну Расію. На Валгаград.

Дабіцца да яго было не надта проста. Вышэй я ўжо казаў пра амаль мастацкую прыгажосць і непрадказальнасць дарог, іх стасункаў з напрамкам і ўвогуле з разумным сэнсам. На Украіне гэта ніяк не звязвалася адно з другім. Дарогі меліся. Хаця і не стратэгічныя, другасныя. А пазначэння іх ні ў атласе, ні на яве – ноль цэлых і хрэн дзясятых. Зрэдку толькі

мільгала аблупленая і перакошаная дошка з назвай населенага пункта без прыкметы нацыянальнасці: ці то Расія, ці то Украіна, а мо і ўвогуле Марс.

Мемуарысты, даследнікі падзей Вялікай Айчыннай вайны пісалі, што перад нападам немцаў на СССР былі выпушчаныя адмысловыя мапы са збітымі напрамкамі, няправільнымі назвамі мястэчак і рэк, не адпавядаючымі сапраўднасці адлегласцямі – звычайная ў духу бальшавікоў фальшыўка, але ўжо для чужынцаў – каб збіць іх з панталыку. Не ведаю, як з чужынцамі, з ворагамі, а са сваімі атрымалася па-хвацку. Мо якраз гэтыя фальшыўкі і пасобілі наяўнасці такой вялікай колькасці нашых акружэнцаў, а потым і ваеннапалонных. А немцы мелі свае і вельмі дакладныя карты нашай мясцовасці, за якімі ганяліся ўсе савецкія вайскоўцы.

Сёння мяне не пакідае ўражанне, што мы ў адносінах да дарог усё яшчэ арыентуемся на ворага і ў гэтай справе дасягнулі вялікіх поспехаў. Таму я ўехаў у горад-герой Валгаград з добра скручанай набакір галавой. Як казаў ужо, горад гэты здаўна *лю*бы мне. Заўсёды сонечны, а калі і дождж, то не зацяжны – без бурбалак у лужах. Быў ён прыязны мне нават айчынна прафесійным сервісным савецкім хамствам. Не забудуся, як на галоўным праспекце імя аднаго з правадыроў, мо якраз каля таго ўнівермага, з падвала якога выпаўз здавацца ў палон нямецкі фельдмаршал Паўлюс, мы з жонкай ўбачылі кавярню з гулліва зазыўным запрашэннем: “Вы стаміліся? Завітайце да нас на кубачак кавы”.

Мы стаміліся і завіталі. Упэўнены, фашысцкага фельдмаршала нашыя вайскоўцы сустракалі зімой сорак трэцяга года куды больш прыстойна і гасцінна, чымсьці нас у сярэдзіне лета сямідзясятых гадоў. Кубачка гарачай і духмянай кавы мы так за паўтары амаль гадзіны не атрымалі, не дачакаліся. Затое нас па поўнай праграме горача і пахка аблаялі. Справа была не толькі ў непавазе да нас. Намі проста грэбавалі, як грэбуюць і зараз новыя гаспадары нашага ладу жыцця. Зважаюць на нас толькі тады, калі ўжо няўсцерп прыпрэ і трэба на некага апаражніцца. Тут якраз і неабходны, як яны любяць казаць, народ.

Нешта падобнае адбылося і цяпер у цэнтры славутага горада-героя з патроенай назвай. Ён адмаўляўся мяне прызнаваць і пазнаваць, нават бачыць. Я заблукаў у ім, хаця зрабіць гэта было цяжка. Амаль на сто кіламетраў ён быў выцягнуты адной галоўнай вуліцай уздоўж высокага берага вялікай рускай ракі, як распасцертая рука волата. Мо таго ж Уладзіміра Ільіча Леніна: правільнай дарогай ідзеце, таварышы. Я ж умудрыўся, не зважаючы на ўказальны жэст правадыра, пайсці, пэўна, дарогай няправільнай.

А хутчэй гэта было нейкае насланнё, пакаранне за ўсю маю падарожную няправільнасць і няправеднасць думак, паводзінаў і руху. Не выключана, помста і пакаранне мо нават крыху і наперад. Таму што прадчуваў, як штосьці забароненае, бунтоўнае нараджаецца і спеліцца ўва мне на працягу ўсёй дарогі. І не толькі ўва мне. Нешта падобнае адбывалася і ў наваколлі. Няпэўны яшчэ, але ўжо адчувальны выклік непакоры мройна пагойдваўся і пазвоньваў валдайскімі званочкамі ў загушчаным восенню сытным паветры, гучаў ад казытліва апушчаных галоў прыпнутых на пожнях і паплавах, гладкіх напрыканцы сонечнага лета, раскірэчаных ад лішку стоенага ў іх малака кароў, што нудзіліся ад адзіноты і дарожнага раення руху.

Ачмураны аднастайнасцю такіх розных, але і да здзеку падобных у твары гарадоў, іх абыякавасцю да саміх сябе і свайго імя, нібыта ўсе яны

штучны плод адзінай сурагатнай маці – авечкі Доллі, я не надта ўжо і ўяўляў, куды еду. І таму даволі быў здзіўлены, калі адчуў сябе ў машыне і за рулём, нібы зародак дзіцяці ў матчыным лоне. І не абавязкова чалавечы зародак – мне здаецца, у такім стане розум ва ўсіх аднолькавы. Толькі працюкваецца і яшчэ не ведае, кім ачуецца, каму дастанецца. Ці не ў такім непаразуменні апынуўся і я ў горадзе-героі па-над Волгай на няўцямным буксіры яго бясконцага праспекта імя двух вялікіх правадыроў сучаснасці. У самым цэнтры, на яго галоўнай плошчы, накшталт нашай плошчы Перамогі, толькі без паўсталага дзетароднага органа, я так і не здолеў разабрацца са шматлікімі ўказальнікамі руху.

Дзякуй Богу, транспарту амаль не было. Сонца заходна клалася на дахі груваcткіх камяніц і з прахалодай астужана зыркала з іх п’едэсталаў. Я разгублена, гузікам, прышпіліўся да асфальту, апроч усяго іншага, не ведаючы, дзе мне перабыць ноч перад кідком на Астрахань. Выбар быў вялікі, толькі я не на адным з варыянтаў не наважваўся спыніцца.

Можна як заўгодна ўспрымаць мае словы. Але тады ці не ўся краіна, апроч, канечне, сталіц, магла даць мне і прытулак, і адпачынак, накарміць, напаіць і спаць пакласці. Дзякуй, вялікі ўсё ж дзякуй беспрытульнаму дзяцінству, дзіцячым прыёмнікам, дзіцячым дамам і так званым працоўным рэзервам з іх сеткай ФЗН, тэхнікумаў ды інстытутаў на поўным дзяржаўным забяспячэнні навучання з накіраваннем пасля вучобы ва ўсе кропкі Савецкага Саюза. Дзякуй майму вандроўнаму юнацтву і сталасці. Амаль паўсюдна на адной шостай чырвонай сушы зямлі меліся сябры, блізкія і родныя па духу, думаю, што і па крыві, людзі.

Былі яны і ў Валгаградзе. І нямала. Шырока і шчодра стрэліла, сыпанула па ўсім свеце беларускімі сіратамі савецкая ўлада – гэта ж колькі іх было... І іх колішняя распаўсюджанасць – не толькі абяздоленасць – хаця і прымусовая, але магчымасць пошуку і выбару долі, свайго і толькі свайго лёсу. І, як сведчанне жыццяздольнасці, – натхненне часам і верай, прагай быць прыдатным яму. Шкада, што гэта адышло ці адыходзіць сёння ў нябыт.

Такім чынам, мой шлях і да Валгаграда быў пазначаны, як вехамі, сябрамі, сведкамі зусім не пустога і не адзінокага майго існавання. У гэтым горадзе трывала атабарыліся і ўкараніліся ажно тры дзетдомаўкі, з якімі я выхоўваўся і рос на Палессі, працавалі тут настаўніцамі, як ні дзіўна – рускай мовы. Апроч гэтага, у раёне Барыкадаў жылі родзічы па жонцы. Недзе тут меўся і сваяк па мачысе. І ў такіх чынах, на такой пасадзе ў Прыволжскай вайсковай акрузе, што аж млосна, і не толькі мне, думаю, і шмат іншым, хто з ім мімаволі знаўся. Раней ён мяне і ва ўпор не бачыў, цяпер жа здалёку пазнаваў і прыкідваўся.

Такіх сваякоў цяпер у мяне было, як казалі ў нашым дзетдоме, што ў сабакі блох. Усе яны пачалі прызнавацца і пазнаваць мяне, калі я іх – зноў жа, па-дзетдомаўску – ужо ў труне бачыў. Мо й таму з маленства ў мяне мянушка Манах. Пазней даведаўся, што такая ж была і ў Віктара Пятровіча Астаф’ева, таксама калісь дзетдомаўца, у Сяргея Ясеніна. Чаму, адкуль – пытанне на засыпку. А з другога боку, памятаеце, вышэй ужо пісаў: як карабель назавеце – так ён і паплыве. Нейкае сваё патаемнае плаванне было і ў мяне, не сказаць, каб такое ўжо гэтакае. Але ж сваё: “раздайся народ – га...но плывёт”.

Падпарадкаваны сваёй келейна-самотнай мянушцы, я і ў Валгаградзе намерыўся перабыць ноч сам-насам з сабой, уладзіцца на адзіноце і на

прыродзе. Пасля падарожнай мітрэнгі пазбягаў звыклых сустракальных размоў і ўспамінаў басаногага дзяцінства, цягнула да пустэльніцтва, зліцця з набліжаным, абяцальным і надалей неназолівым вечным спакоем вялікай і старажытнай вады. Спачыць каля яе, як утапіцца. Растварыцца ў ёй, каб далучыцца да тых, з кім гэта калісь ужо адбылося і не аднойчы яшчэ адбудзецца.

З былых вандровак па гэтым горадзе я ведаў: шмат падарожнікаў начуе на Мамаевым кургане – крыху мода, крыху вымушанасць. Аматараў паходаў па месцах баявой славы, проста падарожнікаў-разявак, турыстаў, чорных археолагаў-трунакапальнікаў, апаганшчыкаў магілаў былых ваяроў, – процьма. Горад няздольны ўсім ім даць прытулак. Вось чаму большасць з іх абірае мемарыяльны комплекс па-над ракой Волгай.

І мяне як рукой пацягнула туды ж, на Мамаеў курган. Толькі адбіла памяць, як да яго дапнуць, хаця ён здалёку быў усім бачны, у тым ліку і мне. Ратавальным і ачышчальным мячом, ускінутым над галавой Радзімымаці, ён пад неба і сонца на шмат і шмат паветраных і водных кіламетраў узвышаўся над прасцягамі зямлі. Але ж бачыць вока, ды зуб няйме. Дарога туды была як заказана мне. Мо так было і папраўдзе. Хтосьці заступіў мне дарогу і не хацеў пускаць да кургана. Указваў і адводзіў. Я няздольны быў даехаць нават да міліцыянера ў яго даішнай будцы, які, падобна пеўню на седале рабіў выгляд, што ён тут адзіны гаспадар: Бог, Цар і вайсковы начальнік, як і павінна быць пеўню ў дзяржаўным куратніку.

Мо якраз гэта і давяло мяне да поўнай бязглуздасці. Незважаючы на хаця і слабы, але ўсё ж рух транспарту, на ўсе забараняльныя і папераджальныя знакі і дарожную разметку, я як стаяў, так напрасткі і папёр да навіслага па-над плошчай даішнага кубла. Міліцыянт кумільгам зляцеў з яго долу. Добрую хвіліну, што рыба на паветры, бязгучна плямкаў вуснамі, акруглена пуката лыпаў вачыма і адно толькі выгаворваў:

– Как... как... как...

– А вось так, – нахабна мовіў я. – Калі гара не ідзе да Магамета, то Магамет ідзе да гары.

– Дык гэта супраць, супраць... Супраць усяго і ўсіх нас.

Я пагадзіўся з ім. Вымушаны быў пагадзіцца: пярэчыць міліцыі не варта і край небяспечна.

– Самі мы не тутэйшыя, і пераначаваць няма дзе.

– Ага, самі... Мы, Мікалай другі. – Па ўсім, даішнік ачомваўся. Рэальнасць і нават гумар пачалі вяртацца да яго. Трэба было выкручвацца і ратавацца. Я адкрыў салон машыны і дастаў сваю кніжку, што прадбачліва меў заўсёды пад рукой на такі вось выпадак. Кніжка была з партрэтам на вокладцы. Па ім даішнік пазнаў мяне, скоса з усіх бакоў агледзеў і з недаверам спытаў:

– Няўжо сам напісаў?

– Сам, – пацвердзіў я і спытаў у даішніка імя. Ён схіліўся нада мной каля капота машыны, пэўна, каб дасведчыцца, што ёлупень з вялікай дарогі, праз неразуменне дапушчаны кіраваць аўтамабілем, ведае літары і здольны скласці іх у яго прозвішча.

А дарога да Мамаева кургана была простай і прамой, як лёт татарскай стралы. Я пад'ехаў да яго, прыпаркаваўся яшчэ пры сонцы. І аказаўся адзіным бедаком-спадарожнікам, які намерыўся машынна атабарыцца тут. І быў рады гэтаму. Угрэтая за дзень зямля дыхала цяплом і трохі

гаркавым малочна-палыновым пахам стэпавага кавыля, што колкімі вожыкамі ссушана і сакатліва дакочваўся да ўзножжа кургана. Але падоўгу не затрымліваўся, як меў нейкую мэту качэння: прадвосеньскае пазнаванне колішняй зямлі ўсемагутнага і такога ж хуткага на конную нагу Мамая.

Вожыкава-натапыраныя і казытлівыя шары толькі на хвілю спыняліся каля мемарыяла, нібы аддавалі даніну памяці ваярам-закладнікам чыстай і нячыстай сілы. Лёжка, самотна адпачывалі, пераводзілі дух, ломкім шэптам сцішана і жалобна перагукваліся, нібыта асцерагаліся парушыць сон і спакой ці не самай вялікай у свеце спачывальні каля самай вялікай у Еўропе ракі. У самым вялікім на Зямлі гатэлі – амаль на трыццаць пяць тысяч нябожчыкаў-пастаяльцаў.

І кавыльна-адмёрлае перакаці-поле, падобна, разумела і чула кожнага з іх. Малітоўна варухліва пахіствалася, парывалася накшталт стэпавых суслікаў ці тушканчыкаў выструніцца перад векапомным насыпам, паломніцкі пакланіцца. Атрымлівалася ж толькі крышачку прыўзняцца, як стаць на дыбачкі, ды пакорліва прыціснуць рукі да грудзей, як скласці крылы. І далей, далей, бяскрыла ад сваёй высушанай, раслiннай спагады і міласэрнасці, больш, пэўна, за людскую, таму што ад зямлі і нябёс.

Вось толькі рук няма, няма і ног, і голасу адмоўлена. Але ж не ўсё круглае – прыдуркаватае. Ціхенька, ціхенька – котам, котам. З галавы – на плечы, з плеч на тое, што і ў чалавека, у чым няма праўды, але шмат розуму. Прэч ад Пантэона славы, дзе яшчэ змушаны працягваць крывавую бойку свае і чужыя дзеля падрыхтоўкі і навучання будучых ахвяраў войнаў. А тут прыгавораныя да вечнасці, дзе памяць і кроў даўно ўжо і зусім неміласэрна застылі ў граніце, бетоне і бронзе, абцяжарана, шлюбна пабраліся з уяўным падманам і цяжкім белым пяском тагасветнасці.

Ужо на змярканні пад абыякавым ззяннем абездухоўленага мемарыяльнага святла я пайшоў у падземны Пантэон славы, што рабіў заўсёды, калі выпадала наведаць Мамаеў курган. Неадушаўлёная груда металу, нарачоная Радзімай-маці, уражвала і прыгнятала, надыктоўваючы сваю велічнасць і маю малеч, мізэрнасць. А вось засяроджаная цішыня і прахалода Пантэона даводзілі мяне да дрыжыкаў. Нібыта я сам ляжаў сярод пахаваных тут трыццаці пяці тысяч ваяроў, сцішаным дыханнем прыпаў і застыў у граніце і мармуры, растварыўся ў нязыркім святле нябачных і таму, здаецца, незямных каганцоў.

Я наведваў Пантэон памяці, не толькі шануючы памяць усіх тут пахаваных, але і дзеля аднаго роднага мне чалавека. Дзядзькі, брата маёй маці, малодшага лейтэнанта Мікалая Говара. Згарэў у танку пад Сталінградам недзе зімой 1942 года. Прапаў без весткі, як пасля акупацыі адпісалі маёй бабулі, Говар Усцім'і. Яна не паверыла афіцыйнаму паведамленню, чакала апошняга, малодшага свайго сына з вайны амаль тры чвэрці стагоддзя. Ужо нічога не бачыла, выплакала вочы, а ўсё чакала. Амаль невідушчую я наведаў яе ў вясковай бальнічцы. Яна абмацала мяне і голасна ўсклікнула:

– Колька!..

Толькі пазней яе пальцы апамяталіся на маёй цывільнай апратцы і яна паправілася:

– Віцька...

Мне здалося, яна вымавіла маё імя з расчараваннем. Было ёй тады сто дванаццаць гадоў. Але слёз яшчэ хапала, і яна плакала бясконца ўжо і бясконца жалілася, што Бог забыўся на яе. А малодшы сын усё ж не

загінуў, выжыў. Толькі моцна, да непазнавальнасці, абгарэў целам і тварам у сваім жалезным танку і таму саромеўся паказацца ёй на вочы: пры жыцці быў сарамлівы, сціплы і рахманы.

Помніцца, пра тое, што яе сын, мой дзядька, жывы і ў такім стане, распавёў бабулі і мне прахожы салдат – ні то з вайны, ні то з палону, а мо і са шпіталю. Па ўсім, вельмі хворы, без жывога на ім месца, на мыліцах і ў прапаленым шыняльку. Я яшчэ падумаў, што на фронце яму маглі выдаць і больш прыстойны, цэлы шынялёк, угрэўны няспыннаму яго сухотнаму кашлю і не такі куцы. А то бабулі, каб хоць крыху ацепліць яго, давялося паліць комінак. Раніцой салдат пакінуў нашую пракашляную хату і вёску. Мы правялі яго за аселіцу, да могілак. Я баяўся, ці здолее ён прайсці праз іх. Ці не застанецца на нашых вясковых могілках назаўсёды.

Пэўна, усё ж прайшоў. Бабуля несуцешна амаль ад святла да святла плакала, седзячы на лаве перад акном на вуліцу. А я, каб хоць неяк суцешыць яе, спрабаваў выгаварыцца, скласці нешта вершаванае, і ў галаве не трымаючы, што гэта мо і ёсць апошняя літасць, што даравана нам небам, што на свеце поруч са слязьмі існуе нешта яшчэ больш ачышчальнае, што жывіць і нараджае слова, стварае верш.

Але болей у сваім жыцці я да іх, да вершаў, не вярнуўся. А тады абяцаў імі бабулі трошачкі толькі падрасці, выправіцца ў людзі, знайсці сярод іх яе сына, майго дзядзьку. Малодшага лейтэнанта Мікалая Говара, калі ён цяпер ужо не генерал і захоча з намі знацца, але ўсё ж жывы. А памерлы, то таксама знайсці, падняць з таго свету і на руках прынесці ў хату, да яго маці. А заадно ўжо – прыхапіць з таго свету і маю маці з сястрой, што пайшлі ад мяне: сястра ў тры гады, маці – у дваццаць пяць. І мне, хаця і каля бабулі, горка жыць без іх на гэтым, такім заплаканым і зусім ужо не белым сірочым свеце. Я шчыра верыў у вяртанне з таго свету сваіх родных. Вера ў гэта ў патаемнай глыбіні маіх неадмерлых дзіцячых уяўленняў аб справядлівасці і літасцівасці сусвету цепліцца ўва мне і па сёння.

Бабулі за сына, малодшага лейтэнанта, што жыўцом попельна спрах, зліўся з металёвай сваёй трунoй, без звесткі, безыменна згарэў у танку, дзяржава штомесяц сплочвала – як на сённяшнюю маю памяць – па дзесяць рублёў. І гэта не толькі за аднаго сына, афіцэра танкіста, а за ўсіх дзевяцярых дзяцей, што вынасіла, нарадзіла, падняла на ногі і ахвяравала свету і вайне. Па рублю за кожнае дзіця. Адзін рубель нават лішні. Але на яго на яе стогадовые плечы прыпала плойма сірат-унукаў. У тым жалобным ліку і я. На дзесяць рублёў, што ёй дзячыла дзяржава на той час, пасля грашовай рэформы 1947 года, можна было займець два кіло – бохан чорнага хлеба. Гэта калі ў дзяржаўнай краме, а на базары – кукіш, і то без масла.

У Пантэоне памяці сярод прозвішчаў на “Г” я шукаў імя свайго дзядзькі Говара Мікалая з вёскі Анісавічы на Даманоўшчыне, што на гомельскім Палессі. Каторы ўжо год шукаў і не знаходзіў. Хаця кожны раз спадзяваўся, чуў, што спісы загінулых увесь час папаўняюцца, але мо толькі прозвішчамі пацверджаных нябожчыкаў. Тым жа, хто прапаў без весткі, чые жыццё попелам развеяна па свеце, не было месца нават сярод нябожчыкаў, тым больш у Пантэоне славы.

Прачнуўся я на Мамаевым кургане пад бокам Радзімы-маці рана-ранелька. І сонца мяне не надта апярэдзіла. Гаманкім і спелым жнівеньскім крамяным яблыкам пагойдвалася сярод неба і дрэваў; лунала, абуджала і пацвельвала ранак клапатлівае птаства, выпрабоўвала яго крылом.

Паветра па-вераснёваму было лустава ломкім і каляровым. Нават трохі залішне каляровым, кірмашова пекным і стракатым. Але штосьці яшчэ з ночы хібіла мне радавацца і дыхаць напоўніцу. Нудзіла, свярбела нейкае няпэўнае адчуванне віны.

Напачатку я супаставіў яе з нашай пракаветнай, багнавай і дрыгвянай вінаватасцю, запазычанасцю ўсяму свету, што стагоддзі і стагоддзі з падачы суседзяў угіналі нас, невылазна ўтрымлівалі ў балотах, лозах і хвойніках на задворках жыцця. Давялі сябе да таго, што пагадзіліся: вінаватыя, самі перад сабой і ўсімі вінныя. Усе людзі навокал жылі, а мы медытавалі жыццём, як медытуем і цяпер, зачараваныя, спакушаныя і надкусаныя айчыннымі і замежнымі заклінальнікамі гадаў.

Так я падумаў на цяжкую з ночы галаву і замыленыя спрасоннем вочы, што неадкладна трэба было трохі пралысіць, хаця б як кот лапай. І падобна таму ж кату, з-за адсутнасці паблізу вады, жвіравай сухасці ў роце і ўва ўсім целе, што аж сцялася, я паспрабаваў абысціся сваёй лапай – крысом злёгку вільготнай з ночы сарочкі, пасля чаго мне якраз і праяснела. Я рассляпіўся і жахнуўся.

Рассляпіўся і жахнуўся на ўсе астатняе, не выключана, і мінулае жыццё. Адразу наеўся, напіўся і ўмыўся. Па прымаўцы, засталося толькі рассмяшыць мяне. І не толькі аднаго мяне. Пэўна, трыццаць пяць тысяч нябожчыкаў, што супакоіліся тут, тужліва і горка жадалі таго ж. І падрастаючы Божы дзень быў варты смеху. Пякельнага, апраметнага, д’ябальскага.

Ні я, ні свет такога, пэўна, яшчэ не бачылі і не нюхалі. Такой вялікай, ці не самай найвялізнай у Еўропе прыбіральні. А, кажучы па-нашаму, – ср...льні. Ср...льні, якая па памерах не саступала братняй магіле з велічным, амаль дзевяностаметровым помнікам Радзіме-маці. Нагі нідзе не ўбіць, каб не ўляпацца. Так паўсюдна каля помнікавай велічнасці. Не, недарэмна кажуць, абаср...ныя дзеці і бедная маці. Чуў і наадварот пра бедных дзяцей і іх маці. Сэнс адзіны – смярдзючы. А я ж усю ночку даверліва і ўтульна пад яе сугрэўным бокам і пільным вокам. І каб толькі адну гэту ноч. Ці не ўсё маё жыццё спрэс адна толькі такая ноч сярод апаскуджаных братніх магілаў. У нас процьма нябожчыкаў, абылганых яшчэ да пахавання, а потым узведзеных у святыя, і столькі ж святых сімвалаў, з якімі абыходзяцца як з манументам Радзімы-маці на Мамаевым кургане.

Сваё, гавораць, не пахне. Пахне, ды яшчэ як, усяму свету смярдзіць. Варта толькі ўдыхнуць айчынных гісторыі з геаграфіей, панюхаць кожнай нашай вялікай перамогі, прайсціся каля нашых святыняў, сцягаў і сімвалаў, пальцам тыцнуць у кожнага з недатыкальных крамлёўскіх старцаў, і ад старца Дастаеўскага Засімы павее парфумай і туманамі. Смярдзяць усе вялікія і ваяўнічыя матэрыялісты. Марксізмам, ленінізмам, сталінізмам з трацкізмам засмердзілі ўсю планету. Кожны ў свой час прысядаў каля Радзімы-маці, арэапагаў, пантэонаў і мемарыялаў – на братняй магіле забітай і пахаванай імі нашай гісторыі.

А вось вада, што струменіла сярод гэтага смуроду з кранікаў каля ўзножжа манумента Радзімы-маці, падземная адсюль ці з Волгі – была на дзіва празрыстая і сцюдзёная, смачная, што толькі яшчэ больш засмучала і гняло мяне. Надавала і адначасова адымала адчуванне, што я ўсё ж ёсць, жывы і на гэтым свеце, дзе ўдосталь яшчэ крышталёва-чыстай, як слёзка вечнасці, вады, што дрыжыць на вейках часу.

Мусіць, гэта паляшуцкая памяць пра ваду і яшчэ нешта, не адмерлае з даўніны маленства, адвялі мяне тады ад таго, каб распавесці каму-небудзь пра тое, што я ўбачыў і адчуў на Мамаевым кургане. Гэта нешта, стоенае ў душы, пэўна, уласціва шчыраму жаданню ці не кожнага – не апаганіцца, захаваць сваю годнасць на людзях і сярод людзей: не будзь салодкім – сасмокчуць, не будзь горкім – выплюнуць. Чалавек – усё ж звер з прыхамаццю. Асабліва калі ён хоча пазбегнуць пагалоскі. У выказанай уголас праўдзе ён міжволі супрацьпастаўляе сябе іншым, неўпрыкмет трапляе ў пастку ўласнай праўдзівасці. Пачынае хоць трошачкі, але падхлушваць, прыхарошваць сябе, падроўніваючыся да сваёй колішняй, але ўжо мечанай чысціні. І тады ўжо хоць усіх святых вынось, пакідай толькі яго, праўдалюба і праўдаруба, амаль месію. Таму што за душой у яго пуста, яна выгарэла, знішчаная праўдай.

Ці не так прападаюць на зямлі крыніцы. Іх не трэба спустошваць прымусова ўдаванай святасцю і вычэрпваць да донца.

Ігар Міхайлавіч Дзядкоў, з якім я, ужо праз пэўны час, падзяліўся ўбачаным, адзін з самых прыстойных людзей, што я ведаў, журналіст, літаратурны крытык, дарэчы, чалавек з беларускімі каранямі, хоць і лічыўся тамбоўскім, прасіў мяне напісаць пра Мамаеў курган і манумент Радзімы-маці. Дзядкоў жыў тады ў Маскве, рабіў у часопісе “Коммунист”. Мо апошняе і паўплывала, я наадрэз адмовіўся пісаць пра ўбачанае ў партыйным часопісе. Пра што сёння шкадую. І не з-за адказу, а шануючы светлую памяць пра Ігара Міхайлавіча Дзядкова.

Цяпер, узгадваючы тое даўняе, мяне засмучае, што ён, здаецца, пакрыўдзіўся на мяне. Нешта засталося тады паміж намі не да канца праяснёнае, недагаворанае. Не так ужо і патрэбны быў яму я і мой артыкул. Час надыктоўваў вяртанне да вынішчанага і абражанага, стаптанага і адкінутага. Дзядкоў разумеў і быў адданы гэтаму.

Надоечы мне трапіла на вочы выказванне пермскага прафесара Абашава пра тое, што нашая Зямля – тэкст, тлумачэнне палімпсеста – старажытны рукапіс, напісаны пасля саскобу ранейшага тэксту. На нашым шарыку вялікае мноства адрэдагаваных часам, выцертых і выпаленых (тут ужо невядома кім, бо цэнзараў, Неронаў, ва ўсе вякі хапала) – тэкстаў. Іх былы сэнс размываўся і падмяняўся згодна з духоўнасцю і інтэлектам уладароў, загаднасцю ідэалогіі – адурненнем ці набыццём розуму чалавекам. Думаю, што Дзядкоў тады рупіўся і дбаў, быў у пошуку сапраўднага былога тэксту, прагнуў вызвалення, мо і ўласнага, ад монстравых пропісяў наскрозь заідэалагізаваных міфаў сучаснасці. Рабіў па-сялянску, не вытыркаючыся і моўчкі. Бо якраз тады, на зломе веку і тысячагоддзя, усчаўся вялікі лямант, віск і брэх, узнялі галаву найноўшыя перапісчыкі эпахальна-планетарнага тэксту. Палімпсесты трэцяга тысячагоддзя ад нараджэння Хрыстова. І іх, надта ж, па Высоцкаму, буйных, назбіралася што чорцікаў. Толькі, як высветлілася пазней, не было сапраўдных важакоў.

Мамаеў курган з яго сімвалам Радзімы-маці даўно ўжо тэкстава прасіўся на лекаванне, на вызваленне ад карослівых міфаў казённага патрыятызму, ачышчэння ад падманнай гісторыі. Мо таму ён і быўператвораны ў вялікую савецкую камуністычную прыбіральню. Паўсюдна, а найчасцей у нас у Беларусі, курганы – клічнікі і пытальнікі, кропкі прыпынку часу і гісторыі. Ці не таму ў нашай айчыне яны так хутка знікаюць, саскобліваюцца, галечна сціраюцца да пяску. Гусляры могуць адпачываць сёння толькі пры далінах.

Не зважаючы на назву, Мамаеў курган, як пра гэта сцвярджае афіцыйная гісторыя, да татарскага хана Мамая не меў ніякага дачынення. Мамай і курган – бугор па-татарску – словы, падобныя паміж сабой па гучанні. Згодна ж з іншым меркаваннем, у перакладзе са старажытнатыбецкай – маці свету. Пад курганам, гэта ўжо з апошніх даследванняў уфолагаў, знаходзіцца геалагічны разлом, праз які струменіць яшчэ невядомае сённяшняй навуцы апраменьванне.

Старажытныя сарматы захоўвалі на кургане свяшчэнны меч. Святая Багародзіца загадала Тамерлану, з'явіўшыся да яго з мячом, сысці адсюль прэч. Персідскі цар Дарый падчас паходу на скіфаў, каля кургана, прымяніў "кутузаўскую" тактыку заманьвання ворага на сваю зямлю.

І нарэшце, Мамаеў курган з манументам Радзімы-маці – ключавая кропка знішчэння планеты Зямлі, маючага быць канца свету. Апакаліпсіса. Таму і адбылося там вялікае змаганне. Змаганне адначасова з ліхаманкай пошукаў, археалагічнымі раскопкамі, якія праводзілі супрацоўнікі фашысцкай арганізацыі "АНАНЭРБЕ" (спадчына мінулага). Шукалі старажытныя артэфакты і найперш – чашу Святога Грааля, якая, паводле падання, была схаваная ў кургане, з-за чаго ні Сталін, ні Гітлер не хацелі, нягледзячы на ахвяры, ад яго адступіцца. Пасля вызвалення Сталінграда свабоднай ад металу зямлі на Мамаевым кургане не было ні пядзі. На кожны квадратны метр прыпадала ад пяцісот да тысячы двухсот пяцідзесяці куль і асколкаў снарадаў, бомбаў і мін. Таму па першым вызваляльным годзе Мамаеў курган не зазелянеў: трава не здолела прабіцца праз метал.

Савецкая рэчаіснасць папpавіла справу. Угноіла глебу пад свае крывавыя міфы, сімвалы і святыні. Перапісала ці не ўсе тэксты сваёй і чужой зямлі, звяла іх да нікчэмнасці. Як жа мы зніякавелі і здрабнелі пасля здабычы агню і вырывання з пячораў. Ці не адно толькі ўдала атрымліваецца ў нас – паскудзіць, гадзіць на магілы продкаў ды на вечным агні памяці пражыць шашлыкі і каля яго спарвацца.

Такія нашыя сёння пасланні будучыні, тэксты, рукапісы і палімпсесты творцаў новых ідалаў.

## Дзверы замкнутыя, ключ у вечнасці

Світанкі былі асмужана сцішаныя, але зацята жорсткія. Так паранена-крывава глядзела сонца з прыземленых даляглядаў на не ацепленыя яшчэ халодныя людскія котлішчы. І міжволі пасля ночы першы позірк быў на зямлю, сабе пад ногі. А ці няма шэрані, снегава-лядовых слядоў на траве. Пакуль не было. Зямля сачыла нязбытым яшчэ летам,назапашаным на ўсю восень цяплом. А ўсё роўна міжволі даводзілася пацепвацца, скаланацца. Не ад холаду – ад прадчування яго. І яшчэ ад нечага, няўлоўнага і пагрозлівага, што кожны раз абуджаецца перад зменай пары года.

Недзе далёка і нябачна курлыкалі жураўлі. Нячутнымі кроплямі з цыбатых кранікаў скочвалася долу вада. Такіх цыбатых, высокіх і няспраўных кранікаў было багата. Вада з іх на схіле паляны цурчэла ўжо ручаінай. Каля яго тоненька папіскваліі маленькія і худыя жабкі, што кожным ранкам невядома чаму збіраліся тут. Па ўсім, не дзеля таго, каб напіцца: вільгаці ў стэпавым краі ўжо хапала. Нешта зусім іншае вымушала іх шукаць тут сваю пагібель. Каля плыткай цацачнай ручаінкі жабак ужо падчэквалі мясцовыя гады – вужы, а часам і гадзюкі. І ўсё ж больш жоўтавушкавыя і

верацённа абструганыя да іголкавасці хвастоў вужы. Гадзюкі з чырвонымі плямамі вушэй толькі зрэдку цяжарна пагражалі папераджальна хіжымі валізамі галоваў са сцятымі сківіцамі. І вужы, і гадзюкі прытрымліваліся сваёй пароды, як знаходзіліся ў стане вайны паміж сабой, а каля свежай вады пры сталаванні – у часовым замірэнні.

Толькі замірэнне тое тычылася іх саміх, гадаў, і не распаўсюджвалася на іншых прысутных каля вады. Гады ляжалі ў роснай траве з прыўзнятымі галовамі і напагатоў шырока, да белі і чырвані ў глотцы разяўленымі пашчамі. Жабкі ішлі да іх напята, амаль па Ільічу: два крокі наперад, крок – назад. Нязводна ўпіраліся лупатым вокам без павекаў, адмаўляючы сваёй смерці, а дрыготка трапяткім целам пасоўвалі сябе насустрач ёй.

Г*а*ды ляжалі расслаблена і нерухома, хаця і вузлавата, упэўненыя, што ўсё будзе, як спрадвеку – нарачона і прадказана. З цярпеннем, уласцівым толькі нежыці, чакалі непазбежнага. І непазбежнасць ніколі не падманвала іх. Ахвярная жабка напрыканцы жыцця набывала глумлівую хуткасць і спрыт. Вокамгненна, пакорліва выпрастаўшы бялявыя заднія лапкі, апыналася ў пашчы гада. Развітальна спрабавала адтуль піскнуць. Але пашча хуценька прычынялася. З яе на імгненне вытыркаліся зблажэлыя, як абвіслая і перакуленая далонь з пяццю намёкамі на пальчыкі немаўляці. Чапляліся за паветра, матылькова і сутаргава падрыгвалі і знікалі, што ў прорве.

Да апошняга ў гэтай тэатралізаванай дзеі мелася нейкае жахлівае чараванне – пракаветнае тварэнне смерці, а, значыць, і жыцця. Напрыканцы ж дзея разгортвалася аднабаковая, незваротная і даволі брыдкая: пераход жывога ў нежывое. Хіжае і крыважэрнае задавальненне чэрава аднаго пры адсутнасці і няўдзеле другога, але за яго кошт. Жорстка, ды іншага матэрыялізм не прадугледжвае.

Я міжволі прыкладаю гэта не толькі да жывёльнага свету, але і да чалавекаў, да сябе. Чым я лепшы за тых жа гадаў. Мне таксама патрэбны жабкі. Толькі я, у адрозненне ад земнаводных, не глытаю іх жыўцом. Гад разумны, цывілізаваны і міласэрны. А вынік той жа самы, адзіны, толькі з большай колькасцю бязлітасна знішчаных істот. І гэта яшчэ больш жорстка, бо самаапраўдальна.

Жабкі мне патрэбны на прынаду мясцовых сомікаў, якіх тут нямерана. І ўсе, як па заказу, пад кілаграм і, пэўна, вельмі нахабныя ці галодныя, апярэджваюць бацькоў, таму і гінуць, трапляючы на кручок, як у пашчу гадаў, ласыя да невялічкіх жывых жабак. Я палюю на іх разам з гадамі. Насаджваю, не зважаючы на гнуткае і вёрткае супраціўленне, на трайнічок сваёй донкі. Закідваю з берага ўглыб праточнай вады аднаго са шматлікіх рукавоў ракі Волгі – камызяцкай Волажкі. Мяне аж распірае рыбацкая жарсць. А так з кілаграмовага соміка наедак невялікі – галава ды хвост і толькі трошкі паміж імі тулава. Толькі здабытчык, лавец ува мне ў зацятым асляпленні не грэбуе нават недамеркамі-малалеткамі.

Так, я ўжо дабраўся да сваёй Меккі, канцавой мэты майго паломніцтва ці не праз палову ўсёй савецкай краіны. Выпадзенне з Мамаева кургана, уцёкі ад маці-Радзімы, па ўсім, былі падобныя да колішняга сыходу з роднай хаты ўпрочкі, беспрытульніцтва. І добра, што так пад настрой улады горада Валгаграда дагадзілі мне з дарогай. Я наракаў на трасу Масква–Валгаград. І дарэмна. Амаль сто кіламетраў, на якія раскапусціўся каля ракі горад-герой, уражвалі куды болей.

Па-першае, бясконцая плынь машынаў, у пераважнасці грузавікоў. Па-другое, расплаўлены іх коламі чадны асфальтавы гудрон. І смурод, смурод выхлапных газаў, як здаўна ў нас, не зусім спраўных рухавікоў. І калдобіна на калдобіне, як скокі з пня на пень. Усё, што еў учора, а мо і тыдзень таму, просіцца на волю. А да ўсяго марсіянскі, незямны, упадніцка-індустрыяльны пейзаж з муроў азадкавых градзірняў, паруючых кацельняў, трубапровадаў, ЛЭП. І ты ў палоне і абдымках дарогі, як у чэраве нейкага касмічнага прыхадня, механічнага монстра – не ўсё ж толькі табе жабак нішчыць, дарваліся і да цябе. Засяроджанасць і ўвага на адной толькі дарозе, як на лёдавай дарозе жыцця праз Ладажскае возера падчас блакады Ленінграда.

І гэта, хаця і неасэнсавана і зусім не з майго жыцця, выплывала з падсвядомасці, з памяці дзедаў і бацькоў, чужых мне людзей і накладвалася на свежую памяць Мамаева кургана, Бабрынца – усяго шляху да Валгаграда–Сталінграда–Царыцына, што наганяла сум і журбу. Сум і журбу па так гучна абяцаным мне і ціха нязбытым. Прарочылі, калі я ўранку хаваў пад матрац, каб з'есці ўвечары, скібку хлеба, што праз дваццаць гадоў хлеба гэтага будзе ад пуза і з маслам. Будзе рай – камунізм. А праз пятнаццаць-шаснаццаць гадоў пасля маючага быць прыходу раю – выбухнуў Чарнобыль, і ў кожную хату зайшоў мірны атам.

Цяпер жа праз светлую апантанасць не маіх ужо сённяшніх мар і надзеяў, што вось-вось паграджалі збыцца, падпечным цвіркуном вешча свірчэла трывога. Напружанае чаканне засады наперадзе, пасткі накшталт раю і Чарнобыля. Вучоны ўжо быў і менавіта вось такімі выбітнымі ці выбітымі дарогамі праменька ў светлую будучыню, па адной з якіх я зараз і ехаў, да знямогі жадаў яе і перасцярагаўся.

Але яна абыякава размотвалася перада мной, мо ў нечым нават абяцальна, бо не давала мне часу на непакой і трывожную думку: думай не думай, а калі некуды паехаў, то некуды і прыедзеш. А што там будзе – убачыш. Спадзявайся. Блазан толькі спадзевамі і суцешваецца. А на самой справе будзе тое ж, што і было: калдыбай ад адной калдобіны да другой, стагоддзе наперад, стагоддзе назад. Аднае толькі трасцы, няма каму выгукнуць: Русь-тройка, тройка-птушка.

Але з глыбіні стагоддзяў да нас ужо не дагукацца. Іншыя тройкі, табуны іх скачуць цяпер па расійскіх дарогах, больш замежныя: “мерседэсы”, “рэно” і іншыя ненаскія “нісаны”. Нашыя ж шызымі галубкамі, гарбаценькія і вушастыя “запарожцы”, заўсёды востра-рэспіраторна хворыя “масквічы” часоў Ачакава і пакарэння Крыма, па-маскоўску акаючыя і хакаючыя на кожным кіламетры “акі” сарамліва і сціпла ціснуцца да краю трасы, у лейцах першай паласы шашы, як збіраючы і дзяўбучы там рассыпанае па восені зерне з калгасных грузавікоў.

Іх кіроўцы, падобныя да шпротаў і кілек ва ўласным соку, трываюць у сваіх бляшанках такое, што здольныя вытрываць толькі нашыя людзі ці прыгавораныя да вечнага пякельнага агню грэшнікі. Яны хацелі б таксама быць рысакамі: які ж рускі не любіць хуткай язды. Толькі адных хацелак мала. Нездаляшчай была славянская багатырская сіла іх незацугляных коней.

І ў гэтым таілася нешта накшталт снення прыгажуні-прадавачкі, што па-багатырску, ні даць ні ўзяць, Ілля Мурамец на печы, храпла і руладзіла ў станічнай краме недзе на мяжы Расіі і Калмыкіі. Яна б і радая была нечым гандляваць у той краме. Толькі гэтага нечага там не мелася. Нават

пыл з пернікаў не было патрэбы здзьмухваць, бо і іх, скамянелых і вечных, абавязковых з пасляваеннага ліхалецця ў ассартыменце кожнага вясковага магазіна, не было. Паліцы пад хлеб, і тыя стаялі ці ляжалі пустымі. Мо каб не страціць хлебнага духу, каля самай сцяны на іх завалялася толькі адна-адзіная зморшчаная кулідка чорнага, не выключана, ад старасці, хлеба. Прадавачка выкарыстоўвала яе ў якасці падушкі.

Кустодзіеўская, купецкага складу дзіва з татарскімі скуламі прытуліла саламяна-славянскую галоўку да назаўсёды заляжалай ужо кулідкі хлеба і соладка спала ў паўзмроку хлебных паліцаў, як пшаніцу прадаўшы, уздоўж і ўпоперак жыва і рухома дыхаючы ўсім целам. Мройна і пунсова ўсміхалася сваім жаночым, а мо яшчэ і заляцальна-дзявочым снам, толькі што пухіры не пускала. Час ад часу запаволена паварушвала пульхнымі пальчыкамі правай рукі, што ляжала на клубах даволі ёмістых сцёгнаў. І ўсё астатняе ў ёй было такім жа ёмістым, вабным і заклікальна-жаданым. Аж завідкі бралі.

Ці не сама гэтая вялікая і гожая краіна прыкархнула, прылегла адпачыць, ды крыху, а можа й не крыху, а добра так заляжалася і на ўсё забылася. Як насмакталася куклы з нажованым хлебам і макам, якую даюць малым маці замест цыцкі, каб добра спалі. Яны пасля той куклы не надта каму дакучаюць, гуляюць самі з сабой, спяць і ходзяць, што ачамярэлыя. Так ачамярэла спала і стэпавая кабылка-казачка.

І пасля чаравання прасцягамі вялікай краіны, яе вялікімі і малымі рэкамі, дубровамі, гонямі і абшарамі ўжо з большага апратаных палеткаў, гатовых прыняць у сваё ўлонне насенне будучага ўраджаю, здавалася, што гэта не проста дзяўчына-прадавачка заснула ў магазіне на пустых хлебных паліцах, а сама зямля, навярэджаная і натруджаная, адпачывае пасля цяжкіх восеньскіх родаў.

Усё было напускным. Веліч і адухоўленасць на працягу ўсёй дарогі збойна і арытмічна бляклі і перарываліся так, што ў мяне самога зацінала дух. Сорамна і горка без прыўкрас бачыць самога сябе. Прывыкла, просіць і прагне савецкая душа хаця б маленькай, ды маны, адначасова адвяргаючы яе.

Вызваленнем з гэтага мне падалася Калмыкія. Яна даўно прыцягвала мяне, хаця невядома, чым. Хутчэй гаротнай доляй яе люду, якога падчас вайны гвалтоўна пазбавілі роднай зямлі і Радзімы. Сам жывучы ў нямой краіне, я не мог не спачуваць чужому гору. А яно ў Калмыкіі яшчэ і на той час было адчувальным. Адным пакаленнем колішняй бяды не збыць. Адбітак яе і ў абліччы, на твары, і ў вачах, нават у адзенні і хадзе людзей – як жыве ці не ў кожнай жанчыне тое, што яе некалі згвалцілі. Але праз гэты былы гвалт выразна аказвала сябе і вартасць, пакутніцкая годнасць. І няскоранасць, недаравальнасць памяці.

Кірсан Ілюмжынаў тады, пэўна, толькі-толькі станавіўся на ногі. Калмыкія пад яго кіраўніцтвам яшчэ не абяцала ператварэння ў шахматныя Нью-Васюкі, а сам ён ні ў якасці прэзідэнта і нават грамадзяніна яшчэ не сустракаўся і наўрад ці прадбачыў сустрэчу з іншапланецянамі, як гэта, па яго сведчанні, адбылося пазней. Але ўсё ж своеасаблівая таямнічасць у зямлі і народзе Калмыкіі прадчувалася, як нешта замоўленае і абяцанае за былыя беды: Бог не цяля і не любіць круцеля – добрае і благое сплочвае ўсім пораўну і па заслугах. І ў Калмыкіі мяне не пакідала адчуванне Божага вока на яе зямлі.

Недзе пасля ўжо сустрэчы са станічнай казачкай, што спала на пустых

хлебных паліцах былых “закрамоў айчыны”, я наскочыў на дождж, слоту. Мяне вынесла з асфальту на свежаствораную рыхлую збочыну. Паспрабаваў выбавіцца зноў на трасу, але толькі ўкапаўся ў незляжалы яшчэ пясок з дамесам гліны. Загруз па ступіцы.

Калгасны “зілок”, надта ж дабіты, даўно і ўжо невылечна хворы на старэчы рамантуз, спыніўся каля маёй бяды сам, без просьбы з майго боку. Сталага веку кіроўца-калмык моўчкі выскачыў з кабіны. Таксама моўчкі дастаў з кузава свайго “зілка” буксірны трос з крукамі. І ў адну хвіліну мякка, без тузання і рыўкоў вышмаргнуў і паставіў мяне на асфальт. Я кінуўся дзячыць, працягнуў яму тры рублі. Калмык адмоўна, неяк нават скрушліва пахітаў галавой. І, як гэта ўмеюць толькі старыя і добрыя людзі, моўчкі зноў жа падакараў мяне.

Я палічыў, што мала даю. І гэта было папраўдзе мала, дастаў з кішэні пяцёрку. З тым жа дакорам на твары ён адчыніў кабіну. Калі ён уладкаваўся там, у мяне напагатоў ужо была бутэлька гарэлкі. Ён не зважыў і на маю вадкую валюту. Газануў, ахутаў мяне клубамі дыму і, палясквоючы бартамі, падаўся прэч, што на той час было вельмі і вельмі няправільна. Няправільна, не па-савецку і не па-людску з усіх бакоў. Усе паўсюдна, а тым больш на дарозе, бралі, пільнаваліся дзе, што, колькі і ў каго можна ўзяць.

Час такі пайшоў, такія людзі выраслі. Па Ільфу і Пятрову, з пароды сарамлівых і бязмежна зладзейкаватых на вечным фоне савецкай нястачы Альхенаў. Па ўсёй краіне пачаліся, як тады гаварылі, часовыя перабоі з мукой, крупамі, шкарпэткамі і мылам. Жартавалі, што было б, калі ў пустыні Сахары пабудавалі сацыялізм – пачаліся б часовыя цяжкасці з пяском.

Краіна ўпадала ў сярэднявечча, адключалася электрычнасць, з-за чаго не працавалі прыдарожныя сталоўкі і кавярні, дарэчы, іх на той час пры дарогах амаль і не было. Нічога ні на стол, ні з сабой у дарогу. Як кажуць, дажыліся палякі – ні хлеба, ні табакі. З табакай – не дзеля краснага слоўка. Курцы з апухлымі вушамі штурмавалі вагоны-рэстараны сталічных хуткіх і пасажырскіх цягнікоў, спадзеючыся, што калі там і атрымаюць па носе, то хоць можна будзе дым пусціць. Але гэта зноў спадарожна, да фону і паху тых дзён, што нагадвалі фон і пах Мамаева кургана ў горадзе-герої Валгаградзе.

У астараханскім жа мястэчку Камызяк усё яшчэ было па-савецку прыстойна, асабліва на яго рыбацкай турбазе на беразе Волажкі. Усе дамкі дагледжаныя і амаль пустыя. У кожным па халадзільніку, а то і па два. Спраўна рабіла рыбавяндлярня на альховай ды бярозавай тырсе. Вадаправод, умывальнік, газавыя пліты, прыбіральні. Хапала і электрычнасці, вады ў рацэ і кранах і белага пляжнага пяску.

Назалялі толькі любыя мастакам і прызначаным міратворцам птушкі міру – галубы. Цэльны дзень без перапынку, нават і ўначы пад страхой кожнай хаткі над галавой насельнікаў голасна мілаваліся і бессаромна займаліся каханнем. Звялі пурытанскую і выбітную ці не для ВІПаў турбазу ў звычайны бардэль, велізарны ханскі гарэм. І шматлікія інтэрнацыянальнага паходжання – ленінградскія, мінскія, не выключана, і варшаўскія, ну і само сабой, усёісныя маскоўскія – “понаехали, понимашь” – каты і коткі, што з’явіліся тут разам з гаспадарамі, а ад’язджаць разам з імі не пажадалі (абралі волю і рыбу), не маглі даць рады, перапыніць *лю*бы галубам занятак. І нарэшце, пэўна, плюнулі й перайшлі ў вегетарыянства, а мо і жаба задушыла.

Але гэта была дробязь у параўнанні, як гаворыцца, з сусветнай рэвалюцыяй – усяго толькі лакальная праява птушынага сексу. Нішто ў адносінах з гарбачоўскай перабудовай, што якраз тады злавіла і асядлала хвалю, набрала сілы. Тая хваля закалыхвала і чаравала сталічных яйкагаловых. А ў Камызяку – цішыня ды спакой. Застой нават не брэжнеўскага часу, а яшчэ да эпохі татарскіх нават узрушанняў і гонаў, з якіх і паўстала гэтае мястэчка. У другой палове шаснаццатага стагоддзя жыў тут татарын па прозвішчы Кымзяк, што ў перакладзе з цюркскага – пясчаная каса. На той касе і месціўся яго ўчуг.

Ёсць і іншае меркаванне назвы мястэчка. Нібыта пайшла яна ад татарскага камыся, кораня камыша, а па нашаму – чарота, які ўкрываў берагі тутэйшых водаў, вельмі багатых на рыбу. Яе было столькі, што мясціны гэтыя нараклі залатым дном. Вось чаму і перлі сюды, на пакланенне залатому цяльцу, як тая ж рыба на нераст, звіхнутыя на яе рыбаловы. А ў дадатак – на слынныя астраханскія кавуны, што раслі тут без паліву і зваліся багарнымі.

І сапраўды, смачнейшых кавуноў мне нідзе і ніколі паспытаць не выпала. З тонкім водарам, цукрова-іскраныя, у разломе – зусім як нашая разварыстая бульба, сопкія, з лёгкім ранкавым пацягам шэрані. Пах, водар, колер, слодыч – за языком не ўсачыць, і нос упрысядкі, і падбародзе ў сунічным клёку. Вырошчваннем іх займаецца адзіны ў савецкай краіне, адкрыты ў 1919 годзе і размешчаны якраз у Камызяку Усерасійскі навукова-даследчы інстытут арашальнай гародніны і бахчаводства. А пры ім, зноў жа адзіны ў Расіі і Еўропе музей кавуна. Інстытут навукова даказаў, што наш гарбуз і татарскі кавун – родзічы. Такім чынам, кавун ні ў якім разе, як гэта нам убівалі ў галаву, не ягада, а гародніна. І таму з ім нам можна гарбузавацца. Тым болей, ён вялікі – за дзесяць кілаграмаў, і доля яго такая ж, як да нядаўняй пары ў нашага гарбуза – пераважна корм жывёле.

Напрыканцы мінулага стагоддзя інстытут вывеў небывалы гатунак кавуна “Лунны”. Месячнага жоўтага колеру, з водарам лімона. Паспытаць яго я не спадобіўся, бо адбылося гэта пасля таго ўжо, як я там быў, калі значна паменела прыхільнікаў не толькі месячных, але і звычайных кавуноў – з-за цаны на іх, што ўзляцела ці не да таго ж Месяца. У Камызяку я ад пуза ўжываў кавун пралетарскі, звычайны. І нічога. Жывот і памяць удзячныя яму і па сёння.

На турбазу іх завозілі грузавікамі. Кожны – больш за пуд. Паласатыя, як стоеныя ў зялёнай траве нашы барсукі, і струнна звонкія, у сярэдзіне – выспеленыя. Розніліся толькі тым, хлопчык ці дзяўчынка. У дзяўчынкі – ср...чка большая, а ў хлопчыкаў – намёк на нешта іншае. Але, па сведчанні дасціпных аматараў кавуноў, дзяўчынкі больш смачныя. Я да ад’езду так гэтага і не спасціг, без пераборaў шаткаваў адных і другіх. Пасля чаго, як Тацяна Ларына, што, паводле школьных сачыненняў, любіла прыроду і часта бегала на двор, тое ж часта рабіў і я. Невыпадкова і ўсе турбазаўскія рыбаловы імкнуліся выязджаць рыбаліць з берагу, бліжэй да прыроды.

Рыбалка ж на турбазе і з берагу, і з дэбаркадэру – прыстані – і з той жа лодкі звычайна пасярэдзіне, але наводдаль ад фарватэру Волажкі, была не надта ўлоўнай. Падобнай таму, як вас у гасцях запрашаюць есці хлеб, а вы думаеце пра сябе: дзякуй, хлеба я наемся і дома. Такую рыбу, як тут, я мог бы лавіць і дома, у сябе пад хатай.

Выезды на лодцы ў большасці былі сузіральнымі – неахопны працяг

вады ў аддаленым ранішнім ці паўдзённым зыбкім марыве берагоў ракі, плынь якой перад табой аж усхропвае і захлынаецца ад нерухомай нахабнасці лодкі, бервяна, што прылегла пасярод яе дарогі і ці не прагне зацугляць. На нахабнасць чалавека ў лодцы наракае і прабеглая беларыбіца. Выхопліваецца з вады і пратэстава гнутка засвечваецца ў люстраным адбітку прытопленага ў рацэ сонца, пад якім смажацца зацятыя і ўпартыя рыбаловы.

І адзін за другім уніз і ўверх вялікімі верхаводкамі праслізгваюць невядома адкуль і куды белыя волжскія параходзікі, цікаўныя нам, але мы ім – ніколькі. І таму яны перад намі, як прывіды і здані, парусnúmкі мо яшчэ пракаветных часоў чайных кліпераў, што бегалі ў загадкавыя Індыі ці вярталіся з іх, ды заблукалі ў марах і акіянах. Выйшлі з портаў і нікуды не прыйшлі, нідзе не прычалілі, перакінуліся ў белых лятучых галандцаў – чаіц.

З-пад гэтых маўклівых чаіц мы цягаем адно толькі пляската смаркатых падлешчыкаў – безумоўна, заеліся на татара-ханскіх прасцягах. Дома такія падлешчыкі былі б зусім не пляскатымі і смаркатымі. Цалавалі б кожнага ў носік: уга, якія мацёрыя ляшчы. Спіна, што галавешка, ужо ўчарнела ад нагуленага на волі тлушчу, лена зберажонага на пясчаных косах і водмелях. Але то дома, а тут... Не, не хлусяць: на чужыне і ў чужых руках усё – большае і лепшае.

Як я ўжо казаў, з берагу на закідушку на жабак, выхапленых з хіжай пашчы гадаў, браўся толькі мерны, пад кілаграм, сомік. Браўся безадмоўна і абыякава, няпрошана і не жадана. Хацелася, як і з падлешчыкамі, большага. Пячорная яшчэ душа збіральніка і здабытчыка прагла маманту, сапраўднага ўлову: возьмеш у рукі – маеш рэч. А гэтага ўсё не было і не было.

Абяцаўся ў хуткім часе пачацца жор знакамітай астраханскай чэхоні. Я неяк толькі з адной з іх пазнаёміўся на нашай Прыпяці за Брагінам ці не пад самай гатовай паўстаць Чарнобыльскай АЭС, якой тады яшчэ і ў паміне не было. Толькі непадалёку – мястэчка Чарнобыль, з колішняга часу славутае вырабам царкоўных свечак – нешта ўсё ж знакавае было ў гэтым: сакральная царкоўная свечка стала шмат і шмат каму і памінальнай, і пахавальнай. Хтосьці, пэўна, загадзя парупіўся пра нашую будучыню, адліў векапомную свечку. З воску, а па ўсім варта было б бронзы.

Пашчасціла мне злавіць пад чацвёртым чэравам будучага нашага цмока заблукалую ў нашыя яшчэ не прагорклыя воды заморскую чэхонь. А мо і не заблукалую. Наведвалі іх і іншыя цуды-юды. Сам таму сведка, рыбаловы-палешукі ажно жахнуліся і папрасілі мяне:

– Прыбяры і выкінь куды-небудзь гэтую вужаку, бо жонкі намі грэбаваць будуць і з хат павыганяюць.

Вужака аказалася звычайным вугром, які тут ніколі не вадзіўся. А злавілі яго ў рэчцы Случ пры ўпадзенні ў Прыпяць. Недзе там жа, перад вайной ужо, была вылаўлена ці не апошняя ў нашых рэках бялуга. А асятроў у Прыпяці пад Мазыром сустракалі пасля вайны і смерці Сталіна. Так што з радзімай нашых папярэднікаў-рыб пытанне складанае і заблытанае, як і ўвогуле з радзімай і прарадзімай кожнага з нас – прасцей вывесці месячны кавун.

А ловы чэхоні ў волжскай пойме, як колісь у нас ціхае паляванне на грыбы, калі яшчэ ні жук, ні жаба не расчухалі, што гэта прыкольна, можна параўнаць з тым жа колішнім зборам сёння амаль зведзеных у нашых лясах брусніц, – бочкамі, таксама і ў Сібіры чарамшы, на поўначы

– марошкі, ловамі на Далёкім Усходзе, на Сахаліне і Курылах людзьмі і мядведзямі ласося, што прагне нерасту. Рыбаловы-прамыславікі бяруць чэхонь сеткамі і невадамі, халяўшчыкі – чэрпаюць сакамі і падсачыкамі. А рыбакі – аматары і трудзягі – ловяць яе на так званае кальцо з адным ці двума кручкамі, прывязанымі да лёскі. Кальцо рухома мацуецца да шнура з грузам, што кладзецца на дно.

Просценькая прылада, але ў сезон улоўная, хаця і аднастайна нуднаватая: стой, апускай, шморгай, цягні і адчапляй. І зноў спачатку ды ладом. Але і такая нуда не выпадала рыбаловам камызяцкай турбазы. Чэхонь усё абяцалася, абяцалася і ніяк не спраўджвала нашых спадзяванняў на вялікую халяву. Зрэдку, і тое толькі на ранішняй зорцы трапляліся аднадзве чэхонькі. І ўсё, як па Брэжневу – застой застоем.

Якраз у такую застойную пару мне пашчасціла зведаць самае ўлоўнае месца, што і спарадзіла Камызяк, надало яму славу ці не самай багатай і вялікай рыбнай дзяржавы ў еўрапейскай частцы краіны. Не, не выпадкова назвалі тое месца залатым дном, а сярод рыбакоў, мо каб не сурочыць і не звесці там рыбу, – звычайна і просценька: пясчаная каса.

Ад турбазы дабіраліся да той касы на машыне. Можна было і водна, але гэта некалькі кіламетраў па рацэ і супраць цячэння. Па суху ж хоць і кружна, але хутчэй і больш лёгка. Руляваў сусед па турбазе, не памятаю сёння, ні то дырэктар, ні то намеснік дырэктара знакамітага тэатра на Таганцы, масквіч. Ён і веславаў на сваёй складной лодачцы, што захоўваў да паездкі на касу і Залатое дно ў багажніку машыны.

Пясчанае дно і Залатое нагадвалі хутчэй Залатую арду, Кулікова поле, густа засеянае маларухомымі і амаль аднаго аблічча – камуфляжна-вайскова замаскіраванага – падобнасцю, падробкай да людзей. Здалёку, здаецца, зусім нерухомымі, настолькі механічна-аднастайна было выверана іх самае маленькае пасоўванне, адсоўванне – злёт і вяртанне на лодачнае седала. А вось гукі – скрыгат спінінгаў па бакавінах лодак, а часам і шпагавае сашчапленне іх у паветры, маёва апавяшчальны салаўіны посвіст лёсак, пляск блешняў аб ваду, металёвы рып вёслаў ва ўключынах былі падобны да таго, як жывая костка аб костку, альбо рог у рог, калі сыходзяцца ў бойцы за самку некалькі баранаў.

Да гурмы рыбакоў, іх прамысловай флатыліі заставалася метраў трыстачатырыста. Мой напарнік апусціў вёслы і па інерцыі заслізгацеў па вадзе.

– Нешта здарылася? – спытаў я яго ўжо ў ліхаманцы ловаў.

– Здарылася! – адказаў ён.– Няправільна ўсё гэта.

– Што ж няправільнага? – на ўсе бакі заазіраўся я.

– А тое, што ты сядзіш, а я раблю. Вязу цябе. А дзе ж гэта бачана, дзе чута, каб яўрэй вазіў беларуса.

– Не перажывай, – супакоіў я яго. – Быў час, і мы былі вам рысакамі.

І крыху пасля, пакуль ён пераварваў моўленае мной, дадаў:

– А ты, аказваецца, сіяніст, русафоб з беларускім ухілам. А мы вас любілі і аберагалі.

– Гэта як і калі?

– Не так даўно, калі вас адсюль паперлі за рысу аседласці.

– Праўда?

– Горкая і пракаветная нашая беларуская праўда, – адначасова пажаліўся і пацвердзіў я. Але ён, здаецца, мне не паверыў. І я прадоўжыў: –Ты толькі паглядзі, колькі ў сённяшнім тваім Ізраілі нашых людзей, пры ўладзе спрэс

адны толькі Голды, Мошы і Даяны. І ўсе з нашых Смаргоняў ды Бабруйскаў. Праўда ж, праўда, палку кінь у ваш кнесет – патрапіш у шчырага беларуса ці то з Валожына, ці то з Мазыра, у таго ж Моталя з Моталю.

Я замоўк, асэнсоўваючы сам тое, што нагаварыў. Здаецца, нічога – складна і па справе, як думаў. Я папраўдзе ганарыўся нашымі яўрэямі ў Ізраілі, як роднымі па крыві, а ў нечым і па лёсу. Хацця муляла, свярбела і пытанне. Пытаннечка. З клічнікам і шматкроп’ем. Без адказу. Дзеля чаго сышліся, заручыліся і разышліся, зведзеныя і разведзеныя, гаршчок аб гаршчок – і бывайце. Няўжо ўсё так проста, незваротна і слепа задумана і робіцца на белым свеце. А хочацца нязменнасці, хочацца даверу і веры без падзелу на сваіх і чужых. Дзе ж адказ, ключык да ўсяго гэтага. Хацця і замочка не відно. Не відно замочка, мо яго няма і не было. Толькі ключык мы ўсё шукаем і шукаем. Прыгавораны век шукаць яго.

А Залатое дно ў той дзень спраўдзіла сваю назву. Аказала сябе яўрэю і беларусу на самай справе залатым. Сярод шчытных шэрагаў рыбакоў на лодках знайшлося дзе прытуліцца і нам. Спыніліся, заякарыліся, расчахлілі спінінгі. І пачалося. Праўда, спачатку пачалося ў майго напарніка. З кожнага закіду – акунь. Не сказаць, каб надта зайздросны – грамаў дзвесце, дзвесце пяцьдзясят – дзелавы, пасаліўшы есці можна. А ў мяне... Сцёбаю, сцёбаю ваду і толькі недзе на пяты, а мо і дзясяты закід – акуньчык.

Мой больш удалы паплечнік прыгледзеўся да маёй блешні і зганіў яе непатрэбнымі словамі:

– Бязрукі ханыга з пахмелля на камунальнай кухні яе скляпаў. Толькі самога сябе ёй, і тое за хвост лавіць. Вось табе ад яўрэяў за колішні прытулак.

Ахвяраваў мне блешню сваю, замежную, з блакітам і смарагдам, падобную да завушніцы, з пацягам цыганскага золата – бронзы. Адразу ж пачалося і ў мяне. Я нават аблавіў свайго яўрэйскага субрата, на што ён доўга і зусім не памяркоўна па-маскоўску бурчэў. Толькі я не надта прыслухоўваўся. Мне пачала ўжо надакучваць такая прамысловая рыбалка – закідвай і цягні. І толькі акуні, усе як на падбор, на адзін капыл. Адных памераў, аднолькава лупатыя, вясельна расквечаныя і натапырана колкія. Хоць бы які лядашчы сомік у бацькі падкраўся ці маці саграшыла і аддалася шчупаку. Да прыкрасці станоўчая і дабрачынная парода.

Прыкра станавілася, з якога боку не зірні, ад крыху ўсё ж ганебнага занятку, вынішчэння рыбнага пагалоўя. Своеасаблівы акунёвы генацыд, а не ціхае і ўхвальнае хобі. Пасля такога калгаснага хобі акуня тут і на развод не застанецца. Толькі думаў і дакараў я сябе так, а ловаў не спыняў. І акунёў напакаваў пад зашмаргу садка, ці не два пуды. На турбазе адразу ж кінуўся вэндзіць іх, што, забягаючы крыху наперад, адрыгнулася мне ўжо ў Мінску. Да будкі ДАІ сталічнага горада я пад’ехаў уначы. Даішнік спыніў мяне хутчэй ад суму. Снула і звыкла праверыў дакументы. Пазяхнуў, але рот закрыць не паспеў. На вачах імгнення перарадзіўся і наструніўся. Афіцыйна і службова строга спытаў мяне:

– Чым гэта так пахне, аж смярдзіць?

Я не вытрываў і па-хамску, таму што не адчуваў ніякай правіннасці, пажартаваў:

– Да вас нічым не пахла.

Даішнік і раз, і другі аббег вакол маёй машыны, дробна перабіраючы вуснамі і зморшчана ўздрыгваючы носам, як гэта робяць спецыяльна вымуштраваныя на наркотыкі мытныя сабакі, загадаў мне:

– Выйдзіце. Адчыніце багажнік.

Мае вэнджаныя акуні разам з іншай рыбай былі складзеныя ў цэлафанавыя пакеты. Але і праз іх так шыбанула, што даішнік аж пахіснуўся.

– Чым гэта так? – ужо безумоўна ведаючы, чым, і таму падлабуньваючыся, лагодна запытаўся ён.

– Камызякам, – адказаў я.

– Гучыць брыдкавата, а пахне смачна.

Я ў абедзве рукі, колькі можна было ўчапіць, захапіў сваіх вэнджаных акунёў і працягнуў даішніку. Той ашчаперыў іх таксама абяруч, прыціснуўшы да грудзей, і галавой падаў знак: можаш ехаць, пэўна, з думкай ужо пра піва.

Пясчаную касу ці Залатое дно больш наведаць мне не давялося. Не было з кім, напарнік мой з’ехаў дамоў, у Маскву, ленінградцы трымаліся турбазы, палякі – крамаў і базара. А сам я і не надта рваўся – збіў ахвоту, і даволі. Тым больш і на месцы, з берага, у Волажцы рыбы хапала ўсім, хто на той час тут атабарыўся. Кампанія была litrзнамасная і няпростая. Прафесар нейкага закрытага даследчага інстытута, брат майго паплечніка па ловах на Пясчанай касе – журналіст, маладая пара з маленькай дачкой – супрацоўнікі нейкай хітрай і таксама закрытай установы. Усе яны больш карысталіся бархатным сезонам, чымсьці рыбалілі. Апроч мо толькі аднаго мяне.

Я ўсё яшчэ спадзяваўся на цар-рыбу, дзеля якой сюды і пнуўся. Яна ж абыходзіла мяне бокам, дый лодку я не заўсёды паспяваў ухапіць зранку. Яна на турбазе заставалася адзінай на ўвесь кагал. Іншыя некуды звезлі ці прыхавалі на зіму. І на тую адзіную лодку, карыстаючыся адсутнасцю зацятых рыбакоў, мелі вока двое падшыванцаў – сыны дырэктара турбазы. Апошняга звалі Міхаілам Аляксандравічам, як Шолахава, у нечым нават падобнага да яго, чым ён ганарыўся і быў на сваёй турбазе нават больш, чым Шолахавым. Вельмі і вельмі смяшлівы, як і яго жонка, што бочачка, поўная смеху. Іх падвоены і суладны зранку да вечара смех рассыпаўся то ў адным, то ў другім баку турбазы, званочкамі каціўся па грэбні волжскай вады.

З чаго смяяліся – невядома, пэўна ж, не з гора. Хаця, па адной з самых неаспрэчных прыкмет, цёзка Шолахава быў з сядзельцаў. Тады, як ні дзіўна, апроч усяго іншага, у гэтых паўднёвых мясцінах, прыдатных для вырошчвання чаю, чай быў у найвялікшым дэфіцыце (памятаеце пра Сахару і пясок). Нават у Краснадарскім краі і на Кубані пакутавалі з-за яго адсутнасці, асабліва былыя вязні-сядзельцы, звыклыя па турмах і лагерах да так званага чэфіру. І Міхаіл Аляксандравіч нязменна апытваў кожнага, ці прывёз ён з сабою чай.

Сыны яго, шустрыкі і спрытнюгі, адным словам, падшыванцы, часцяком апераджалі мяне з лодкай, і мне міжволі даводзілася далучацца да калектыву і лавіць разам з ім не рыбу, а кайф. Смажыцца і вэндзіцца, падобна акуням, на пляжы. Наглядаць, як танчыць на белым і лёгкім пяску, віхурыць яго тонкімі абранзавелымі ножкамі маленькая і вельмі зграбная дзяўчынка – дочка супрацоўнікаў хітрай канторы.

У адрозненне ад патаемных бацькоў яна была таварыская і гаваркая. Прыязная, непасрэдная і вельмі артыстычная. Бацькі звалі яе Ксенькай, а ўсе іншыя Сінічкай. Дзяўчынка цалкам апраўдвала сваё імя: “Луи, луи, луи, не нужны мне твои поцелуи”, – амаль увесь дзень з кароткім перапынкам на абед танчыла і спявала яна. Як сёння здаецца, іншых словаў

у яе песні не было. Па крайняй меры, я іх не памятаю. Луі, луі – пошчак амаль хатняй сініцы ў вішанніку каля саспелых ужо ягадаў, ці ўсклік чайкі над успенена-ўскінутай хваляй бягучай волжскай вады.

Дзяўчынка папраўдзе была падобная да казачнай птушкі. Мо на тую ж птушку Фенікс, што каторае ўжо тысячагоддзе адраджаецца з агню і марской хвалі. Блакітна-зеленавокая – пад няўлоўна плаваючы колер вачэй – газавая разлятайка, касынка-хусцінка на гнуткай шыі гаранкі, з твару да босых ног з пальчыкамі са срэбна-пацінавым педыкюрам, расцалаваным татарскім сонцам, яшчаркава-вёрткая, гарэзлівая і штохвілінна-запытальная. Ведала ці прадчувала сваю будучую жаноцкасць, але трымалася меры. Нікольկі не перабірала і не выстаўлялася. Толькі надакучлівае ў той час: «Луи, луи, луи, не нужны мне твои поцелуи».

Вось такая пастараль ужо незваротна-перабудовачнага, але яшчэ савецкага часу. А мы – статысты, у пойме ракі Волгі ці старажытнага татарскага Іціля непадалёк ад дзіўнага мястэчка Камызяк.

Величавой России страница
Заповедная наша земля.
Камызяк – ты Отчизны частица,
Здесь наш дом, и друзья, и судьба.

Хаця наконт дому спрэчна – чый ён? А лёс жа быў тыпова наш, савецкі, расейскі. І нагадваў мне лёс усяго народа па ўскраінах і ў глыбіні Расіі. Да прыкладу, шорцаў, сярод якіх мне некалі давялося жыць у Сібіры, у Горнай Шорыі. Там тады таксама, як цяпер у Камызяку, было больш зэкаў, чым карэнных жыхароў-шорцаў. Хаця сядзелі не самі шорцы, а патроху прадстаўнікі ўсіх вольных народаў вялікай і неабдымнай краіны.

Тое ж самае было на тую пару і тут. Сядзела значная большасць мужчынскага насельніцтва горада. А тыя, што не сядзелі, – ужо адседзелі ці рыхтаваліся сесці. У сонечным горадзе кавуновага краю колькасна пераважалі жанчыны, ветлівыя, усмешлівыя, гарэмна-прыгожыя.

Тлумачылася гэта проста. Татара-астраханскі кут, мястэчка Камызяк, былі славутыя не толькі бахчамі і кавунамі, але і паюснай ікрой. Чорнай ікрой асятроў, якую тубыльцы ўмеюць адмыслова і смачна засольваць. Вырабляць боханамі, як калісь у вясковых печах выпякалі хлеб. Такія загарэлыя, нібыта аржаныя, хлябы сушонай асятровай ікры доўга захоўваюцца, не чарсцвеюць і не плеснявеюць, як сапраўдны колішні хатні хлеб. Накінь на іх крыху вільготны рушнічок – яны зноў свежыя, смакоўна-сакавітыя, нібыта з чэрава толькі што адлоўленага асятра. Вось таму і мала мужчынаў у Камызяку. Адныя на промысле, на вадзе, другія – у турме. Патомныя браканьеры і такія ж патомныя сядзельцы. Такія здаўна і па сёння нашыя айчынныя пастаралі і нашы ў іх пейзане.

Пусть на вольном Каспийском просторе
Развевается Родины флаг!
Так живи, процветай вместе с нами
Отчий дом наш – родной Камызяк!

Нязвыкла, мо нават сорамна, а трохі і ганебна гаварыць, прызнавацца ў нашым правінцыйным гібенні, асабліва ў невялікіх, устояна-згуртаваных сваяцтвам, часам і крымінальным, мястэчках і пасёлках гарадскога тыпу. Моладзь там адчувае сябе нібы на часовым пастоі ў бацькоўскай хаце.

Расійскі вучоны, філолаг, гісторык, пісьменнік А.П. Чудкоў найбольш папракаў бальшавікоў за тое, што яны амаль цалкам вынішчылі і згвалцілі местачковую правінцыйную культурную прастору. А яна перад кастрычніцкім пераваротам 1917 года ўжо была створаная. І не маленькая, не ў прыклад і развітому сацыялізму, і сённяшняй духоўна-дубовай калгаснай дэмакратыі. Прастору тую стапталі, спустошылі і абрэзалі, падобна таму, што вычварылі з нашымі балотамі, малымі рэчкамі і ручаямі. Без іх змарнелі і рэкі вялікія. І не толькі. Каб пераканацца ў гэтым, варта паслухаць і паглядзець на тых, хто сёння ўладарыць і кіруе намі, чужымі і непатрэбнымі самім сабе, свету і сваёй роднай хаце.

Такую адчужанасць свету я выразна адчуў на сабе напрыканцы свайго быцця ў Камызяку. У ім, нягледзячы на адкрытасць, ветлівасць і прыязнасць, было прыхавана штосьці данельга толькі яго. Нажыта, замкнута і стоена стагоддзямі і ў стагоддзях такое, што прышламу, а тым болей наезджаму чалавеку ніколі не адамкнуць і не спазнаць. Як ніколі не спазнаць, здаецца, у добразычлівай усмешцы афрыканца ці ўсходняга чалавека, а што ў яго папраўдзе ў душы, усмактанае з малаком чорнай ці жоўтай маці, што надало ім колер іх скуры, ільвіную ці тыгровую насцярожанасць і абачлівасць, сумяшчальную з хітрасцю змяі, падманнай абыякавасцю да знешняга свету малпы. І шмат, і шмат чаго іншага. Я не ў асуджэнне, бо гэта чужое і недатыкальнае: чужому нельга ганіць і асуджаць тое, што стварыла яго дый нас такімі і толькі такімі, што нарачона сакральнасцю.

Гэта сакральнае, сваё і чужое, накладвалася на мяне і мяне ж спажывала. І было яно жывым. Жывым пракаветна, як ні дзіўна, ува мне. З дзяцінства прыдалося мне часткова кніжнае з "Героя нашего времени" Лермантава. З Тамані, ад яе прыхаванай, як і ў Камызяку, таямнічасці, што не так ужо і далёка адсюль удавана і падманна тады яшчэ дыхала спакоем, цішынёй і дабрадзейнасцю. А на самой справе была абвострана напружанай і нярвовай. І тая пагрозлівасць пераўтваралася з мастацкай і чытанай у рэальна існуючую. Далёка сягала за межы майго я, прасціралася і за межы Камызяка, і ўсяго астральнага ханства, праз той прасцяг, які я, едучы сюды, пераадолеў. І далей – ужо праз час.

Адчуванне небяспечнасці, пагрозлівасці мне падмацоўвалася тумановай няпэўнасцю чужой памяці, мо таго ж афрыканца, усходняга чалавека ці татарына Камыся, мройных прывідаў, ад якіх я пры ўсім жаданні не здатны быў адбіцца. І зноў жа, падмацоўвалася той жа маёй чытацкай памяццю да сутаргаў жахлівага ў дзяцінстве "Вія" Гогаля. Я ўпадабляўся Хаме Бруту ў начным скляпенні царквы. Маленькі, грэшны і зямны, распяты ў Божым храме сонмам аскетычных лікаў небажыхароў, апосталаў і святых. У акрэсленым крэйдай крузе, што абяцае недатыкальнасць нябыту. Імкнуўся ўсё ж неяк выбавіцца з яго абмежаванасці, хоць трохі павялічыць яго, і не мог. Не разумеў, ад каго ці чаго бараніцца, дзе хавацца, а найбольш – у чым жа я вінаваты, хто наслаў на мяне зямныя страхі. І адчуваў, што вінаваты і варты ўсіх зямных страхаў, якімі распяты, да якіх пажыццёва прыкуты ў святым Божым храме. А вырвацца было па сіле. Усяго толькі і трэба было трошкі асмялець і ступіць за акрэслены крэйдай круг. Ды на самой справе і круга не было, – таму і выйсці з яго немагчыма. Замкнутасць, закрытасць і безнадзейнасць былі ўва мне. І сам я здаваўся сабе падмененым. Падмененым на кагосьці іншага, пабочнага, нікому, у тым ліку і мне, непатрэбнага. І таму – неадольнае жаданне выйсці з сябе, аднавіцца і зноўку стаць самім сабой.

Але ж ці не гэта было са мной зусім нядаўна. Out of the body. Толькі тыдзень ці два таму, як я выходзіў са свайго ўласнага цела. А цяпер – адваротнае: я загнаны, мёртва замкнуты ва ўласным целе. Вось мой круг. Кола, па якім вавёркамі мы адвечна бяжым і бяжым, замкнёныя і спустошаныя ў клетцы сваіх целаў нават без апірышча на ўласныя рэбры.

І я не ведаю, чаму аддаць перавагу – страце сябе, выйсці з уласнага цела, ці зняволенасці, замкнутасці ў ім. Як кажуць, абое рабое, кручок, на якім мы пажыццёва завіслі. Той віс назаўсёды пры мне, у маёй памяці, як узгадваў ужо, з таго часу, калі ў студэнцтве зарабляў на хлеб з маслам на кемераўскім мясакамбінаце. Бясконцы канвеерны ланцуг асвежаваных і замарожаных тушаў гавяды на сталёвых круках бэлек вялізнай лядоўні, што прысніў пазней – у вербную ноч перад праваслаўным Вялікаднем 26 красавіка 1986 года напярэдадні чарнобыльскай катастрофы.

Сацыёлагі і псіхолагі растлумачылі і ахрысцілі падобную з'яву стварэннем у людства катастрафічнай свядомасці. Свядомасці самазнішчэння і самазабойства, да чаго прыводзіць адчуванне замкнутасці свету на самім сабе. Інакш, кароткае замыканне прасторы і часу, вякоў і стагоддзяў, калі якраз і нараджаюцца монстры і цмокі – Леніны, Сталіны, Троцкія і Гітлеры.

Агульнавядома, што нашае жыццё падобнае да гульні ў крымінальніка, злодзея і паліцэйскага. Кожны з жывых гуляе за двух. За аднаго я ўжо адгуляў. Толькі ніяк не магу зразумець – за каго. А па шчырасці, баюся і ролі другога, як і другой часткі свайго жыцця. Бо там, здаецца мне, – бязлюддзе.

Індыгавая дзяўчынка з будучага пакалення, больш разумнага, але і больш жорсткага за нас, як прарочаць сённяшнія Фрэйды і Юнгі, танчыць на беразе вечнай ракі за тых, хто сваё ўжо адтанчыў, і яшчэ, дай Божа, будзе танчыць, уздымаць і віхурыць нібыта прасеены праз сіта вякоў белы пясок. Дробненькія, пылава-нябачныя без сонечнага праменя пясчынкі прыстаюць да яе босых, ужо зведаўшых Зямлю, а мо і не толькі Зямлю, памаранчава-жоўценькіх пятаў і пазалочаных валаскоў на голені крыху вышэй лытачак.

Дзяўчынка не толькі танчыць, але і спявае. Невядома каму – небу, сонцу або толькі самой сабе. Маленькія дзяўчынкі часта спяваюць самім сабе. Але да яе спеваў прыслухоўваецца і чаіца, што час ад часу падцягвае ёй, гартанна ўскрыквае над роўнядзю старажытнай ракі, нібы аклікае тых, хто даўно ўжо знік у ёй, перавезены Харонам на другі бераг. Строма, склаўшы крылы, нібыта жадаючы паследаваць за імі, утапіцца, галавой ужо драбніць і размыкае ваду. Але толькі галавой і на адно імгненне. У наступнае ж – узнімаецца над вадой, трымаючы ў дзюбе нешта срэбнае і крутлівае.

Другая чаіца, як пільнавала яе, з зямлі не відно, каб нават калыхнула крылом, воблакава і бязгучна дае нырца ў рухавым над ракой паветры. А ўслед ёй няземна і крышталёва чыста гучыць: «Луи, луи, луи, не нужны мне твои поцелуи».

Над бясконцым прасцягам вечнага спакою вады танчыць і спявае дзяўчынка. Індыгавымі вочкамі зачароўвае і аберагае дрымотную цішу паўдзённага супрацьстаяння сонца і зямлі. Індыгавае неба, што аберагае дзяўчынку.

Недзе далёка і нябачна, мо каля лодкі Харона, на другім ужо беразе, вітальна і развітальна стогнуць і плачуць жураўлі.

*21.08.2014. Пціч, Дудуткі.*

Леанід Галубовіч



...а пакуль што мы жывём, бы ў акупацыі –
рыфму *ўдалую* ўзгадняючы з *уладаю*...

# Наступствы цывілізацыі

***Тры вершы і пяць верлібраў***

## ПАМЯЦІ ПАЭТА

*Я – астэроід. Я – Сусвету блудны сын.*
Ігар КАНАНОВІЧ

...ці хто зацягне тугі пятлю,
ці ступіць далей за край...
Кожнага з іх, як сябе, люблю...
Божа, не пакідай...

Мы ў Цябе шукаем адхлань,
спагады з Тваіх рук,
выратавальнікам нашым стань –
вырві адчаю крук...

Вярні бяздушным Ты на зямлю
з нябёс жывую душу,
таму што іх таксама люблю,
аб чым і Цябе прашу...

Таго ж, хто, выраку наўздагон,
бы ў сне адсюль адляцеў,
прымі ў суплёт Сусвету свайго,
як ён таго і хацеў.

*20 чэрвеня 2016*

## СОН

*Лявон, калі ты ўжо напішаш нармалёвага верша?*
(тэкст цыдулкі пакінутай А. Сысам на маім працоўным
стале ў рэдакцыі часопіса "Крыніца" напрыканцы 1990-х)

*Лявон, я і мая сям'я дазваляюць табе пісаць вершы...*
(з хмельнага ліста, дасланага мне А. Сысам
з Гарошкава летам 2003)

Стукаю ноччу ў Сысаву хату
ў смутным спадзеве на цёплы начлег...
Толя выходзіць з магільнага спрату,
моўчкі абняўшы, мне кажа, як брату:
"Ты назаўжды ці ў адведкі забег?"

Я ў недаўменні стаю, як тутэйшы
перад начальствам, амаль што без сіл:
"Вось зазірнуў паказаць табе вершы –
два *нармалёвых*, як ты і прасіў..."

З паўзамі ён, з недаверам, няспешна
вершы мыляе, бы цэдзіць "агдам":
"Добра, кароткі – ў часопіс наш "Грэшнік",
ну, і ў "Прыбрамнік" даўжэйшы аддам...

Нашых тут многа, а мовы – як хлеба,
сейбіту вечна жылося ў нішчым...
Гэтак занудзішся, – з пляшкай да Феба
сунешся нанач, а выйдзеш ні з чым...

Я тут – электрыкам. Цяжкая доля –
маю напругу з кожным святым;
думаў, на сёмым Дантавым коле
дух адляціць мой, як з коміна дым...

Ты не крыўдуй на мяне, я не варты
лёсу таго, што Гасподзь мне абраў...
Я і не жыў *там* – іграў, бы ў тэатры,
але ж, скажы, хіба лепш хто іграў?!

Рана ці позна адчыняць нябёсы –
вось і паўстанем – душой да душы –

спевам і плачам, бы хор шматгалосы,
смерці й жыцця аднаго спарышы...

Ты ж толькі бачыш маё люстраванне,
голас мой чуеш, хоць сам я не *тут*;
*там*, дзе я ёсць, ад мяне – толькі ззянне
ад пераж ытых пад небам пакут...

Месцам для творчасці выбраў я Пекла.
Час для граху – непамысны мне Рай.
*Тут* я твару – каб гарэла і пекла,
*там* я грашыў – бо кіпела праз край...”

Гэтак сказаў і нібы растварыўся,
кінуўшы ў цемры мяне аднаго...
Божа, няўжо ён Табе не скарыўся,
маючы талент ад дару Твайго?..

*24 кастрычніка 2015, 24 жніўня 2016*

* * *

Састарэлыя ўміраюць літаратары...
А паэты маладымі паўміралі,
нібы прывідных дзяржаваў імператары,
што жылі наўзбоч людской маралі.

І дарма цяпер іх імітатары
усцягнуць спрабуюць на скрыжалі,
ўсе дэкрэты, па якіх дыктатары
сваю ўладу й славу тут сцвярджалі...

Рэгулюючы паэзію законамі,
і параграфамі новай канстытуцыі,
тут адданымі акынамі саўковымі
Музы змушаныя ўсе да прастытуцыі.

Я не ведаю, ці трэба нам пракокі тут,
ці ўсё ўславім “Залатымі Купідонамі”,
і нашчадкі ўсё-ткі ўздымуцца для росквіту
бел-чырвона-зялянівымі бутонамі?..

А пакуль што мы жывём, бы ў акупацыі –
рыфму *ўдалую* ўзгадняючы з *уладаю*,
і чвэрць веку не выходзячы з прастрацыі,
суцяшаем сябе шніпавай баладаю...

*4 верасня 2013, 23 верасня 2016*

* * *

Цягам жыцця снілася рознае –
ад помнага да забытага –
а Гасподзь ні разу не сніўся.

Во-во, скажа атэіст-скептык,
гэта яшчэ адно сцверджанне,
што Бога няма...

А можа, тое,
што нам не сніцца, –
гэта адзінае,
што ёсць насамрэч?..

*20 лістапада 2015*

### НАСТУПСТВЫ ЦЫВІЛІЗАЦЫІ

не згубішся
не прападзеш
у бязведанні
нікуды не з'едзеш
бясследна
нідзе не схаваешся –
паўсюль цябе знойдуць
мабільнік
смартфон
інтэрнэт
ты –
вечнасць на флэшцы
сціснутая ў імгненне

*17 верасня 2016*

* * *

Жывучы ў вечнасці,
часу не адчуваеш:
нараджэнне і смерць –
чарга зямных абавязкаў...

*25 траўня 2015*

* * *

чалавек стварае
чалавек разбурае
чалавек радуецца

чалавек пакутуе
чалавек нараджае
чалавек забівае
чалавек вечнасці
чалавек часу –
і ўсё гэта адзін
ЧАЛАВЕК

*16 кастрычніка 2016*

* * *

Мне
шэсцьдзесят шэсць гадоў.
Ніводная мара мая
не здзейснілася.
Жыццё пражытае
*тут*
дарма.
Пасля смерці
*там*
прыйдзецца ўсё пачынаць
нанова,
вылузваючыся з гліны
на Божы свет
з-пад пальцаў
Творцы.

*18 верасня 2016*

Вінцэсь Мудроў



...цяснота –

не турбота...

# Нябесныя знакі

***Апавяданне***

Самалёт паволі заваліўся на левы борт і пачаў зніжацца. Гэта стала зразумелым па тым, што цела набыло лёгкасць, а ў пяткі кальнулі гарачыя голкі. Шторка, якая вісела на ўваходзе, зварухнулася.

– Паважаныя пасажыры! Наш самалёт... што выконвае рэйс па маршруце Масква – Наябрск... у аэрапорце прызначэння... просім прышпіліць прывязныя рамяні ды ўстрымацца... – прыемны дзявочы голас гучаў немаведама адкуль, але чуваць былі толькі асобныя фразы, бо вушы пазакладала і слых поўніўся аднастайным шумам. – Тэмпература паветра ў Наябрску мінус 43 градусы, – прагучаў апошні сказ, і ў салоне заварушыліся. Зрэшты, заварушыліся не ўсе. Відаць, толькі тыя, хто ўпершыню ляцеў на Поўнач. Жыхары Наябрска заставаліся ў нерухомых паставах: іх такой тэмпературай не здзівіш. Вось і сусед сядзеў як скамянелы, неадрыўна пазіраючы на шторку, якая зноўку пачала варушыцца.

– А вы, прабачце, не на Таварным Парку жывяце? – запытаў Лазюк, надаўшы голасу ліслівыя ноткі.

Сусед насупіў бровы, памыліў вуснамі, а потым, схамянуўшыся, наставіў на Лазюка свае лупатыя, крыху касаватыя вочы.

Давялося паўтарыць пытанне.

– Мне ў другі бок, – скупа адказаў сусед і, пачухаўшы віслы падбародак, з абыякавай інтанацыяй выдыхнуў: – Упершыню ў нашых мясцінах?

– Так. У камандзіроўку накіравалі. Манціраваць абсталяванне на помпавай станцыі.

Дома, перад самай дарогай, адзін з калегаў, які ўжо бываў на Таварным Парку, распавёў – як туды трэба дабірацца, і нават намаляваў схему дарогі. Але ўсё адно душу казытаў халадок хвалявання. Гэта ж не па роднай Гомельшчыне давядзецца ехаць, а па цюменскай лесатундры, ды яшчэ ў саракаградусны мароз. Таму яшчэ ў накапляльніку, перад пасадкай у самалёт, Лазюк пачаў распытваць спадарожнікаў – ці не на Таварны Парк яны выпраўляюцца?

У змроку марознай смугі паўстаў бетонны будынак аэрапорта, які вабіў утульным жоўтым святлом. Лазюк задаволена перавёў дых. Меркаваў убачыць драўляную халупу таежнага аэрадрома, а пабачыў сучасны, шчодра асветлены знутры гмах са шкла і бетону.

Пакуль чакаў багаж і перакусваў у буфеце, кароткі зімовы дзень дарэшты згас, і калі ён, стоячы на бетонным ганку, ізноў захлынуўся марозным паветрам, навокал ужо гарэлі ліхтары.

На аснежаным пляцы перад будынкам аэрапорта стаяла толькі адна вахтоўка. Астатнія, відаць, ужо раз’ехаліся.

– Мы на Вынгапур. Залазь, даедзеш да бетонкі, а там якую машыну спыніш, – крыкнулі яму з вахтоўкі, і Лазюк, павагаўшыся, закінуў у салон важкую валізу.

Паныла паглядаючы ў цёмную далеч, адкуль зрэдзьчасу прабівалася святло фар, камандзіраваны ўціскаў галаў у плечы, размінаў схаладнелыя вушы і падскокваў то на адной, то на другой назе. Стрыечны братан-верталётчык пазычыў зімовую куртку – скураную, падбітую тоўстым футрам, пад якую халадэча не давала рады ўплішчыцца. А вось ногі ў ліхенькіх чаравіках са штучнай скуры адразу скалелі. Машыны ехалі па дарозе, але на пад’ездзе да павароткі скідвалі хуткасць і кіравалі да аэрапорта. Прастаяўшы так хвілін дваццаць, камандзіраваны падумаў ужо – ці не вярнуцца ў аэрапорт. Перакантавацца ноч, а заўтра, белым днём, пашукаць транспарт на той Таварны Парк. З гэтаю думкаю ён нясмела ўзняў руку, і нечакана перад ім спыніўся, дыхнуўшы выхлапным смуродам, наладаваны трубамі “Краз”.

Вадзіла трубавоза быў чалавекам ягонага веку – мажным, барадатым, па-паўночнаму тоўста апранутым.

– А я ўжо думаў, ніхто не падбярэ, – прамармытаў Лазюк, піхнуўшы між ног валізу і пацёршы падмарожана-свярблівы нос: у кабінцы невыносна пахла салярай.

– Гэта наша завядзёнка: падбіраць людзей, – адказаў вадзіла, – на марозе, чаго добрага, душа можа з гарляка выляцець, – машына паволі, як бы з неахвотаю, набірала хуткасць. – Тут перад самым Новым годам быў выпадак. Жанчына да мужа з «зямлі» прыляцела. З дзіцём на руках.

Даехала, як і ты, да павароткі, стала чакаць падарожнай машыны, а яе ўсё няма. Так, небаракі, і змерзлі на ўзбочыне, – вадзіла колькі часу памаўчаў, а потым, ужо пажвавелым голасам, паўтарыў пытанне ўладальніка віслага падбародка:

– Упершыню ў нашых мясцінах?

– Упершыню, – азваўся Лазюк, – у камандзіроўку еду. На месяц. Абсталяванне на помпавай станцыі будзем манціраваць.

Аднекуль знізу ў кабіну струменіла гарачае паветра, скалелыя ногі хутка сагрэліся, і Лазюк разморана расшпіліў гузікі лётнай курткі. Разам з цёплым паветрам з-пад ног пёр і гарачы салярны смурод, ад якога нылі скроні і злёгку кружылася галава. Падумалася нават, што гэта выхлапныя газы поўняць кабіну.

– Ну тут у вас і мікраклімат, – паспрабаваў пажартаваць Лазюк. – Сапраўдная душагубка.

– Дык нашага брата – тых, хто на "Кразах" працуе, – здаўна шахцёрамі называюць. За змену ад таго куродыму твары чорнымі робяцца. Адны вочы бліпічаць.

«Выдатны хлопец», – падумаў Лазюк, выцягваючы з нутраной кішэні курткі пачак «Арбіты».

– О, гарадзенскія! – прамармытаў кіроўца, звёўшы вочы да пераносся і падхапіўшы вуснамі выбітую з пачка цыгарэту. – У Беларусі жывяце?

– У Рэчыцы, – Лазюк задаволена глынуў тытунёвага дыму. Ён быў упэўнены, што суразмоўнік і не чуў пра такі горад, але «шахцёр» адкінуўся на прыслон сядзення і няўцямна, сціскаючы зубамі цыгарэту, заспяваў:

– А красивей Ре-ечицы места не найти...

Гэтую песню калісьці круцілі па радыё. Але даўно тое было – так даўно, што Лазюк нават забыўся пра яе існаванне. Ён хацеў спытаць – ці не з Гомельшчыны кіроўца, ды тут машына рэзка загамавала і па інерцыі, ужо на малой хуткасці, наехала на чорную трубу, што ляжала на дарозе.

– Йоп! – каротка вылаяўся вадзіла, адчыніўшы дзверцы.

Святло фар выхоплівала з цемры перакулены прычэп і некалькі труб. Трубы глядзелі ў начное неба і былі падобныя на ствалiны карабельных гармат. Поруч завіхаліся людзі. З рота ў іх вырывалася пара, а таму яны нагадвалі маленькіх кудлатых цмокаў.

– Сява навярнуўся, – паведаміў кіроўца, залазячы ў машыну. – Добра яшчэ абышлося. Адно капот пакамячыў.

Стаўшы адной нагой на прыступку, а другой ціснучы на газ, вадзіла ад'ехаў назад.

– І як можна перакуліцца на роўнай дарозе? – са смяшком на вуснах пацікавіўся Лазюк, калі яны прамінулі месца аварыі.

– Ды вельмі проста. Дарогу перамяло, краю не бачна. На самы край выедзеш, а там рыхлы снег... Я сам так пару разоў куляўся, – вадзіла на момант змоўк, неадрыўна пазіраючы наперад – туды, дзе святло фар натыкалася на марозную цемру. – Сёмы год тут смаркачы марожу. За гэты час чаго толькі не надаралася. Аднойчы нават марсіяніна сустрэў.

Лазюк павярнуў галаў, з недаверам глянуў на суразмоўцу.

– Я гэтую гісторыю нікому асабліва не апавядаю. А то ведаеш... – кіроўца крутнуў пальцам ля скроні, машына пайшла крыху ўбок і рука імпэтна перахапіла стырно, – людзі смяяцца пачнуць... Гэта тры гады таму надарылася. Якраз Брэжнеў памёр. Канец лістапада, а мароз ужо

напоўніцу лютаваў. І снегу навалiла па самую макаўку. Мы на будаўніцтве чыгункі працавалі. Карацей, еду ноччу па зімніку, вязу маставыя фермы. І раптам бачу – наперадзе святло бліснула. Ды так зырка, што ў мяне нават у скронях кальнула. Сапраўдная маланка. Ды яшчэ з фіялетавай водценню. Але ж маланка блісне ды згасне. А тут жахае без перапынку – вачам паратунку няма, – апавядальнік сціснуў локцямі стырно, спрабуючы прыпаліць патухлую цыгарэту, і слухач мітусліва чыркнуў запалкай. – Ну, захінуў рукавом вочы, спыніў машыну, выкуліўся, перапужаны, з кабінкі, а тут святло і знікла. Прайшоў крыху наперад. Нічога ніякага. Цемра і ціш – толькі снег пад унтамі парыпвае. Ну што... пастаяў, паслухаў цішыню і назад да машыны рушыў. Залажу ў кабінку і слупянею. Вось там, дзе ты зараз, сядзіць нехта. Адразу падумаў, што гэта хант да мяне ўбіўся. Мы іх тады часцяком падвозілі. Раней тут скрозь былі іхнія стойбішчы. Праехалі метраў дзесяць, жартам пытаюся ў ханта: куды цябе везці? А той сядзіць, адвярнуўшыся і маўчыць. Я яго рукой злёгку піхнуў, маўляў, чаму язык прыкусіў? – і адчуў страшэнны холад. Глянуў – і сам язык прыкусіў са страху. На ім шапка была, на папоўскую падобная, і тая, ні з пушчы, ні з поля, засвяцілася знутры фіялетавым агнём. Ляпаю з перапуду далонню па панелі, шукаю тумблер, каб святло ў кабінцы запаліць, ды так і заміраю без руху, бо фіялетавым агнём не толькі шапка занялася, але твар той пачвары. І твар нялюдскі – вочы нібыта ёсць, а носа зусім няма. Ну, я дзверцы адчыніў і з усяго маху галавой у сумёт нырцануў. Ды так глыбока, што і вушанка ў снезе захрасла. Потым, як назад ехаў, спрабаваў яе знайсці, ды марна... Пабег, карацей, нічога не цямячы, ад машыны. Апрытомнеў толькі як пару кіламетраў прабег ды святло фар убачыў. Мы заўсёды парамі ездзілі. Гэта мой сябар, Мішка Казарэз, следам кратаўся, ды крыху адстаў. Пабачыў мяне і кажа: «Ты што, ашалеў?» А я і слова сказаць не магу, занямеў, як той хант.

Вадзіла на імгненне перарваў аповед, пераключыў перадачу. Пасажыр слухаў яго, разявіўшы рот, і нават баяўся дыхаць. Уражаны такой увагай, вадзіла пусціў струмок дыму на ветравое шкло.

– Паляпаў Мішка мяне па шчоках, грымнуў кулаком па карку, я яму, аддыхаўшыся, усё і распавёў. Сябар, зразумела, рагатнуў, паведаміў, што ў мяне ад недахопу кіслароду глюкі пачаліся, і газануў па зімніку, каб пачвару пераняць. Але чым бліжэй пад'язджалі, тым усё больш хуткасць скідваў. Ну, вылез Мішка з кабінкі, пайшоў на цырлах, але тут жа і вярнуўся, пад ногі плюнуўшы... Я потым усё ўважліва агледзеў. Правыя дзверцы былі адчыненыя, а я ж іх не адчыняў. І, што дзіўна, там, з правага боку, ніякіх слядоў не было.

У той момант Лазюк адчуў, што зліўся душой з маторам, бо чуў па жаласлівым гудзе кожны паварот і пад'ём дарогі. «І якой халеры папёрся на Поўнач?» – пытаўся ён сам сябе, уражана слухаючы шафёрскія байкі. «І калі будзе той Таварны Парк? Ужо амаль гадзіну трасемся. А можа наогул невядома куды едзем?» Лазюк адчуў, што ў яго, як у зацятага п'яніцы, дрыжаць рукі і макрэюць падпахі. Ён скасіў вочы на вадзілу. Фіялетавае святло лямпачкі на панелі асвятляла стырно, і Лазюку падалося, што гэта той самы марсіянін сядзіць поруч з ім у машыне. Небарака машынальна прыціснуўся да дзвярэй ды адчуў на калене халадок, што струменіў са шчыліны дзверцаў, і перасунуўся на старое месца.

Таварны Парк быў невялічкім таежным пасёлкам. Яго асвятлялі два моцныя пражэктары, і наваколле нагадвала парыльню: машыны, якіх тут было даволі шмат, стаялі заведзеныя, і ўсё патанала ў выхлапным куродыме.

– Чым вы тут дыхаеце? – запытаўся Лазюк, пакруціўшы носам.

– Ды гэтым і дыхаем, – вадзіла ляснуў дзверцамі, нацягнуў на рукі футровыя, прашытыя палоскамі скуры рукавіцы. – Машын не глушым, цэлую ноч малоцяць. Бо як заглушыш – на раніцу не завесці, – вадзіла выцяў, як гэта любяць рабіць шафёры, нагой па коле "Краза", мелькам зірнуў на валізу пасажыра. – А помпавая станцыя – ву-унь там, за ляском, – футровая рукавіца ўскінулася ўгору. – Лазюк паглядзеў у той бок, куды яна паказала, але не ўбачыў ні ляска, ні помпавай станцыі.

– Зменшчык мой сёння ў начную працуе, так што ёсць вольны ложак. Пайшлі, пераначуеш, а заўтра раніцай на сваю станцыю пойдзеш.

Лазюк пераступіў з нагі на нагу – пяткі пачалі ўжо адчуваць холад, – няпэўным крокам рушыў за вадзілам, і мясцовыя сабакі, пачуўшы чужаніцу, гамузам забрахалі яму ўслед.

– Я тут з адным татарынам жыву, – паведаміў вадзіла, адчыніўшы дзверы. – Палову вагончыка займаем.

Лазюк агледзеў катух і ўражана перасмыкнуў плечукамі. У катуху стаялі два ложкі, паміж імі быў упіхнуты парэпаны ўслон, бакавую сценку падпіраў такі ж парэпаны стол, і двум чалавекам тут проста немагчыма было размінуцца.

– Нічога... цяснота – не турбота, – прамовіў гаспадар катуха, паляпаўшы госця па спіне. – Той крутнуўся, не ведаючы куды паставіць валізу, і гаспадар кіўнуў на ложак. – Кідай сюды, тут я сплю. – Мяне, дарэчы, Васілём завуць...

– Лазюк, – прамармытаў госць, сарамліва працягнуўшы чырвоную ад марозу руку. У госця была даволі дзіўная завядзёнка: называць пры знаёмстве не імя, а прозвішча. Гэта, як здавалася, надавала ягонай асобе значнасці і сур'ёзнасці.

Распрануўшыся, Лазюк, вядома ж, палез у валізу. Неўзабаве на засланым газецінай услоне з'явілася бутэлька гарэлкі менскага разліву, палка «доктарскай» каўбасы і бляшанка рыжскіх шпротаў.

– Ого! – з інтанацыяй захаплення ў голасе выдыхнуў Васіль. – Мы такіх далікатэсаў даўно не бачылі. Адной кітайскай тушонкай сілкуемся. У вас што, «доктарскую» вольна прадаюць? – гаспадар прысуседніў да далікатэсаў дзве мутныя шклянкі і акраец чэрствага хлеба.

– Ды не, у Маскве ўзяў.

– Да пустога канца дажыліся, – Васіль прафесійным рухам адкаркаваў пляшку. – Каўбасой толькі ў сталіцы і можна разжыцца... Ну... за знаёмства...

Гарэлка прайшла ў нутро, прыемнай цеплынёй напоўніўшы грудзіну.

«Усё ж такі мне пашанцавала, – падумаў Лазюк, падчапіўшы відэльцам залацістую шпроціну, – сяджу на Таварным Парку... на ложку... а не на мулкім крэсле ў аэрапорце. І на месца працы з'яўлюся своечасова, як пазначана ў камандзіроўцы».

Гаспадар катуха ізноў напоўніў шклянкі.

«Ды і Васіль гэты даволі прыемны хлопец. Цікава толькі – сапраўды ён узбіўся на іншапланетнікаў ці гэта ўсё прыдумкі?»

– Нічога, перажылі вайну, перажывем і перабудову, – гаспадар катуха

адным глыкам выпіў гарэлку, задаволена крэкнуў. – Летась сам Гарбачоў у Сургут прылятаў. Бачыў яго... здаля, праўда. Нас, дзесяць вадзілаў, якраз туды камандзіравалі. Тэрмінова трэба было ад горада да аэрапорта асфальт пакласці. Таму на злом галавы і працавалі. Напярэдадні прыезду надзейных людзей падабралі – ну, тых, што павінны былі з Гарбачом размаўляць. І нейкія людзі ў цёмных акулярах папярэдзілі: высокаму госцю лішніх пытанняў не задаваць. Вось табе і ўся галоснасць.

Лазюк слухаў суразмоўцу, але словы не далятталі да свядомасці. Галава злёгку кружылася, а ўваччу ляцела асветленая фарамі дарога. І было штосьці трывожнае ў жаласлівым, з дзіцячымі ўсхліпамі, гудзе рухавіка і замарачным мільгаценні прыбітага коламі снегу. Неўзабаве Лазюк пачуў, як хтосьці піхнуў яго ў плячо і галава ягоная паволі лягла на брудную, прапахлую чужым потам падушку.

Васіль прачнуўся ад здушанага ляманту над самым вухам.

– А-ааа! – гарлаў спрасоння зямляк з Рэчыцы, дробна перабіраючы нагамі. Небараку, відаць, сніліся марсіяне.

Давялося грукнуць кулаком па біле жалезнага ложка. «Кватарант» прыўзняў галаву, павёў шалёнымі вачыма і тут жа кульнуўся на левы бок. Батарэі грэлі як мае быць, у вагончыку не хапала паветра, таму мазгі не адпачывалі і мроілася розная лухта. У першы год, як яны з сябрам, Мішкам Казарэзам, прыехалі на Поўнач, ён увогуле не мог спаць ад задухі. Да таго ж сябар, з якім разам заканчвалі школу ў Хойніках, страшэнна хроп і часцяком вось так жа гарлаў спрасонку.

Васіль уздыхнуў, згадаўшы сябра, заплюшчыў вочы, паспрабаваў заснуць, але сон не ішоў.

Апошнім часам на Таварны Парк завітвала шмат камандзіраванага люду. Праязджаючы міма аэрапортаўскай павароткі, Васіль заўсёды скідваў хуткасць і нават прыўзнімаўся на сядзенні, выглядаючы не па-тутэйшаму апранутых людзей з валізамі. А пабачыўшы такіх, спыняў "Краз". Бо ведаў: у валізах людзей, што едуць з «зямлі», абавязкова павінна быць пляшка гарэлкі. Доўгай дарогай ён распавядаў камандзіраваным розныя паўночныя гісторыі, абавязкова згадваючы пра сустрэчу з марсіянамі. Цікава было назіраць, як пасажыры пачыналі з трывогай, як тыя лётчыкі-знішчальнікі, круціць галовамі і страпянацца кожнага разу, калі ён пераключаў перадачу. Аднойчы нават сталічнаму журналісту давялося тую гісторыю апавядаць. Масквіч ехаў пра нафтавікоў Поўначы нарыс пісаць ды захрас у ягоным вагончыку, бо ў журналісцкай кайстры было аж пяць пляшак гарэлкі.

А гісторыя пра іншапланетнікаў ніякая не плётка. Адно што сустрэцца з фіялетавай пачварай давялося не яму, а Мішку Казарэзу. Яны і сапраўды ехалі сярод ночы па зімніку, і з Мішкам, які ехаў першым, сапраўды штосьці здарылася, бо кінуў машыну і бег па дарозе, расхлістаны і без шапкі, адчайна махаючы рукамі. Што там з ім здарылася – невядома, – але пасля таго выпадку Мішка стаў сугнеем, мала з кім размаўляў і нават тварам схуднеў. Прасіў, дарэчы, нікому пра той выпадак не апавядаць. Але ж як тут не раскажаш. Не абы з кім давялося сустрэцца, а з самім марсіянінам! Ну і, вядома, з Мішкі сталі пасмейвацца. Маўляў, скралі іншапланетнікі вушанку і ўпрочкі падаліся. Вось галаву і адмарозіў. Гісторыя гэтая пайшла гуляць па наваколлі. Аднойчы быў у Ніжнявартаўску, дык і там яе распавядалі. Праўда, з некаторымі дадаткамі. Казалі, што ў тым месцы,

дзе святло бліскала, утварылася вялікая пляма растопленага снегу. Нібыта касмічны човен узлятаў. А праз колькі месяцаў пасля таго выпадку выбег сябар на двор па патрэбе, і тут жа назад заляцеў як варам абліты. «Шар... аграмадны... памаранчавы... над лесам вісіць», – загарлаў, як не ў сабе. Давялося на двор скочыць. Ніякіх шароў. Толькі імжа на твар сеялася – гэта ўлетку было. Неўзабаве сябар звольніўся з працы і з'ехаў дахаты. Адчуў, што тут, на Поўначы, вар'яцець пачынае. А на развітанне сказаў, што шар – гэта нябесны знак. Штосьці павінна здарыцца. Не тут, дык на радзіме... Дзівак. Ну што можа здарыцца ў тых людзьмі і богам забытых Хойніках? Ці, лепш сказаць, у Хвайн*і*ках, як называла мястэчка ягоная даўно памерлая бабуля. Мішка потым ліста прыслаў – прасіў тушонкі, бо на «зямлі» крамы апусцелі. Ды няма калі з тымі пасылкамі важдацца. Так і не адказаў сябру. А гісторыю з марсіянінам ён сабе прыпісаў. Каб больш пераканаўча гучала.

Карцела выйсці да ветру. Васіль апусціў ногі на халодную падлогу, паваліўшы пры гэтым пустую бутэльку, нацягнуў на плечы бушлат. У прыбіральню не пайшоў – абаперся рукой на вагончык і стаў свідраваць напорлівым струмком зляжалы сумёт. Пражэктары той парой ужо выключылі, і снег навокал меў дзіўную памаранчавую водцень. Васіль узняў галаў і аслупянеў. Густую смугу прыбіла да зямлі, і над смугою – якраз у тым баку, дзе была помпавая станцыя, – вісеў памаранчавы шар. Шар свяціўся знутры, паволі круціўся і гэтак жа павольна ўздымаўся ў неба. Штосьці цёплае кранулася лытак. Васіль працёр вочы, уражана разявіў рот. Шар уздымаўся ўсё больш імпэтна і вось ужо паляцеў са страшнай хуткасцю і незваротна знік у настылым, шчодра асыпаным зоркамі небе.

Алесь Камоцкі



...Забыць што варта быць самім сабою,
Утульна, як паспаць пасля абеду...

# Жыццё пайшло на новы лад

* * *

Ӯ абдоймы цішыні вятры не залятаюць,
Мы разам бачым сон, якім здзіўляе ноч,
З нязвыклай цемнаты, бязлітасна чужая,
Што блытала сляды і не дайшла сюды.

Што клікнула здалёк, здзівіла і прапала,
Набіўшы брыдкіх плям у мройным забыцці,
І дрэнна, што ужо вядомай стала далеч,
І добра, што пакуль магчыма не ісці.

* * *

Блукаем да часу між пеклам і раем,
Шукаем, губляючы час,

Праз тыя дарогі, што мы выбіраем,
Дарогу, што выбрала нас.

Зацята не верым яе паваротам,
Павольна губляючы рытм,
Стамляецца лёс без належнай ахвоты
Нам нашы памылкі дарыць.

Здзіўлення не помнім, у казку не верым,
Мінулае раздаючы,
Здаўна пакідаем сляды на паперы,
Якая цярпліва маўчыць.

Сучаснасці прагне амбітная доля,
Скідае аркуш пад нагу,
І далей без згоды яе і дазволу
Я кроку зрабіць не магу.

Чаму і на колькі, куды і навошта?
Ці трэба камусьці адказ?
Калі разуменне прыходзіць, што проста
Дарога не выбрала нас.

* * *

Давай будзем думаць пра гэтае заўтра,
Давай будзем сёння не помніць пачатак,
Хай п’еса ідзе, хай здзіўляецца аўтар,
Хай сутнасць павольна змяняецца ў часе.

* * *

Час ішоў, магчымасці знікалі,
Небу сны вярталі вечары,
Сумавалі байкі без маралі
І фінал прасілі паўтарыць.

Так было, што свет здаваўся вечным,
А спакой развагі не губляў,
І вялі чаканні да сустрэчаў,
Сэнс надзейна бачыўся здаля.

Так было, што дзень, як ёсць апошні,
Сваё месца проста не шукаў.

І здзіўленне – колішні памочнік,
Пазбаўляла сілы ў руках.

Але ўсё часова, дзякуй Богу,
І мінае ўсё, як ні круці –
Ты калі выходзіў на дарогу,
То дакуль па ёй хацеў ісці?

* * *

Адной рукой кіруючы няспынна,
Другою правяраючы кішэні,
Рабіла з мяне гопніка краіна,
Душа ж хацела іншага рашэння.

Свядомасці куды было падзецца? –
Налева крок, направа крок – і багна.
Мудрэй за ўсё – не йсці, а адсядзецца,
Адно – душа ўгару сарвацца прагне.

Забыць што варта быць самім сабою,
Утульна, як паспаць пасля абеду.
Ёсць праца ад запою да запою,
І ёсць магчымасць Турцыю наведаць.

Чаму не жыць пры гэтакім раскладзе,
Не горш за іншых, без праблем істотных,
І напляваць на сум у лістападзе,
І разлюбіць гаючую самоту.

Аддаць краіне ўсе даўгі нарэшце,
Якія яна нам напрызначала,
І апынуцца у тым самым месцы,
Якога у аб'ёме вельмі мала.

Ні удоўж, ні ўшыркі, ні назад, ні ўперад.
Сядзець і для турбот не мець прычыны.
Каб шчасце я спазнаў такою мерай,
Рабіла з мяне гопніка краіна.

* * *

Усё галоўнае прыходзіць нечакана,
Пасля, бывае, і не ўгледзіш, як міне,

І асабліва гэта тычыцца кахання,
Хоць кожны думае – ці ж гэта пра мяне!

І сівізна, і ладны вопыт за плячыма,
Здзівіць нялёгка і збянтэжыць не прасцей,
Ды не сказаць, каб гэта надта навучыла
Прымаць жаданае і правільна хацець.

Пытанні мкнуцца узнікаць, ды ім няёмка,
А, да таго ж, нібыта час не настае,
І мы з вантробамі надзеям аддаёмся,
Пры тым чужыя разглядаем, як свае.

Няма пытанняў – дык адкуль узяць адказы,
Калі размовы неузніклыя маўчаць,
Магчыма заўтра, але хочацца адразу –
Тут сама тое – з нечаканага пачаць.

* * *

Усё галоўнае прыходзіць нечакана,
Пасля бывае не заўважыш як міне,
Я рыхтаваўся да апошняга кахання
І перачытваў напісанае раней.

* * *

Калі б не пачыналася зіма,
Я б не знайшоў сябе у вашым доме,
Усё было б, напэўна, па-другому,
Калі б не пачыналася зіма.

І драбязу асенняга цяпла
Я размяняць хацеў усю, дашчэнту,
Але зіма, пахерыўшы акцэнты,
Прапанаваць нічога не змагла.

Тады жыццё пайшло на новы лад,
Другія сэнсы сталі пераважваць,
Прычыне лёс застацца недасяжнай,
Зіма ж нагодай толькі і была.

* * *

Псуюць жыццё бясконцыя прыкметы,
Тлумачачы чаму так не шанцуе,

А рэшткі мар, што полем гоніць вецер,
Іх тлумачэнні ўвогуле не чуюць.

Няма вясны, вясна была учора,
Яна яшчэ хацела бачыць змены,
Ляціць жыццё зусім не бездакорна
Халоднай, шэрай раніцай асенняй.

Прыкметы ж, забываючы збывацца,
Заводзяць сэнс у новае болота,
І нават ветру не даюць памацаць,
Якое дзіва нас чакае потым.

Хутчэй за ўсё, не так плануе аўтар,
Хутчэй за ўсё, мы самі нішчым цуды.
Няма зімы, зіму чакаем заўтра,
І невядома як з ёй ладзіць будзем.



Павел Ляхновіч



...падводнік не мог адарваць позірку,
ён ніколі не бачыў самоў такога памеру...

# Прыпяць цячэ...

***Апавяданне***

Засмягла зямля. Пасля бясснежнай зімы і лета выдалася спякотным. Абмялелі рэкі. Нават Прыпяць шмат дзе можна было перайсці пехатою, толькі закасаць калошы. І вада ў ёй усё лета цякла мутная, жоўта-зялёная. Хадзілі пагалоскі, што ваду забруджваюць на другім баку мяжы ўкраінцы, там віравала "бурштынавая ліхаманка". Ваду, маўляў, для вымывання бурштыну качаюць з рэк.

Падводнік не верыў чуткам. "Прыпяць перад перасячэннем мяжы праходзіць праз возера Нобель, – думаў ён. – Гэта велізарны адстойнік, вада ў ім павінна ачышчацца. Не, відаць ад гарачыні папросту распладзіліся мікраводарасці". Падводнік ад пачатку рыбалоўнага сезона ездзіў на падводнае паляванне разоў дваццаць і вяртаўся кожны раз без здабычы. Што можна ўпаляваць пры амаль нулявой бачнасці?

– Ад тваіх нырцалак ніякай карысці! – выгаворвала яму жонка, калі, ледзьве жывы ад стомы, ён, сагнуўшыся пад

цяжарам рыштунку, увальваўся ў кватэру і клаў прамываць у ванну гідракасцюм, падводную стрэльбу, маску, ласты, свінцовыя грузы. – Магчыма, нават шкода. І небяспечна. Не забывайся – табе ўжо сёмы дзясятак, а ты хочаш з маладымі зраўняцца. Перагружаешся, ледзьве ногі валачэш пасля паляванняў. Баюся, гэта можа кепска скончыцца. А колькі грошай траціш? Ды і ўзгадай – чэрвень-ліпень заўжды былі з мутнай вадой, бязрыбныя.

– Што – рыба? – казаў падводнік. – Я не з-за рыбы. Рыба – гэта каб адчуваць сябе здабытчыкам, а не лайдаком. У мяне "жабры сохнуць". Я калі тыдзень не паныраю, мне кепска. Проста фізічна кепска. І навошта грошы, калі не на паездку, на гідракасцюм, – дарэчы, трэба ўжо новы набыць, на маім лата на лаце... – на новую стрэльбу, а то палюю з антыкварнай можна сказаць. І ні з кім я не раўняюся.

Сапраўды – калі ў маладосці кожнае сумеснае з маладымі калегамі паляванне несла прысмак суперніцтва, то апошнія гадоў дзесяць ён, калі часам здаралася "прайграць", успрымаў гэта зусім спакойна. Жартаўліва ўшчуваў: "Што, хлопцы? Абстралялі дзядулю? І не сорамна – крыўдзіць пажылых людзей?" Падводнік выглядаў не так ужо, каб вельмі старым. Даволі высокі, шыракаплечы, з голеным – пад маладзёжную моду – чэрапам, што дапамагала хаваць зусім сівыя валасы. Пра "жабры" казаў праўду. Варта было правесці тыдзень-другі без пагружэнняў, як у сэрцы пасялялася туга. А ў час вясенняй нерастовай забароны, або ў марозныя зімы, калі рэкі скоўвала лёдам, і "сохнуць" прыходзілася некалькі месяцаў, туга станавілася нясцерпнай.

Некалі меў аўтамабіль, старэнькі "Масквіч", які служыў яму амаль выключна для паездак на нырцалкі, але з гадамі трымаць аўто яму здалося занадта клапатліва і дорага, і ён падараваў яго прыяцелю, а сам стаў ездзіць на паляванне аўтобусамі, або ў складчыну, разам з адным-двума калегамі – падводнымі паляўнічымі, што мелі "колы".

Сярод іх былі ягоныя вучні. Звычайна яны з'яўляліся так: раздаваўся тэлефонны званок, і яму казалі, што вось – набыў гідракасцюм, стрэльбу, ныраю ўжо шмат часу, але ніяк не магу нічога здабыць, ці нельга павучыцца ў вас... Згаджаўся ахвотна, гэта звычайна былі людзі каля трыццаці гадоў, а ён любіў знаходзіцца ў асяроддзі маладых. З імі і сам пачуваўся маладым. Нібыта трохі старэйшым, але толькі зусім трохі. Распавядаў ім найперш пра меры бяспекі, бо вада ёсць вада, яна патрабуе да сябе павагі. Тлумачыў дзе і як хаваецца рыба, тактыку палявання, сакрэты падрыхтоўкі і ўтрымання падводнага рыштунку. Не заўсёды "майстар-класы" дасягалі мэты. Аднойчы да яго ў вучні папрасіўся чалавек у гадах. Аказаўся былым земляком, а цяпер расейцам, які раз ці два за год адведвае старую матулю. Паведаміў, што ён адстаўны палкоўнік ГРУ, што вельмі любіць фільмы пра падводнае паляванне, і цяпер, калі выйшаў на пенсію, хацеў бы заняцца гэтым прыгожым хобі. З ім былі тры сустрэчы. На першай падводнік (сам сабе ён стаў клікаць палкоўніка "шпіёнам") распавёў пра рыштунак, што трэба набыць. У часе другой быў інструктаж па бяспецы, прыёмы надзявання гідракасцюма, падбор грузаў, правілы абыходжання з падводнай стрэльбай і першае пагружэнне. Праз дзесяць хвілінаў "шпіён" выйшаў з вады і крыху напалохаў падводніка, паведаміўшы, што яму кепска. Потым, калі ехалі назад у горад, здзіўляўся: "Я ж ніколі не думаў, што гэта так цяжка! Гляджу фільмы – прыгожа, плаўна, як палёт бусла ў небе!"

– Вы папросту мала трэніраваны, – сказаў яму тады падводнік. – Па-

добна на тое, што вы мала рухаецеся. Вось і жывоцік у вас... А ў вашай жа Маскве выдатныя магчымасці. Давайце дамовімся – да наступнага прыезду вы паходзіце ў які-небудзь дайверскі клуб або хоць бы ў басейн. Старайцеся больш хадзіць пехатою, а не ездзіць на аўтамабілі. І тады адчуеце, што гэта не так ужо і цяжка, і атрымаеце асалоду, бо пагружэнне – яно сапраўды, як палёт. Так, гэта сапраўдны палёт!

Наступны раз, праз амаль год, "шпіён" праплыў уніз па Прыпяці метраў пяцьсот, потым выйшаў з вады і павольна пасунуўся да свайго джыпа. Больш не тэлефанаваў.

Адзін з маладых калегаў, апантаны падводным паляваннем, з таленавітымі галавой і рукамі, прыдумшчык і выканаўца розных карысных прыстасаванняў, увогуле вельмі ўпадабаны падводнікам, аказаўся алкаголікам. Ён не стаяў пад крамай у чаканні трэцяга, не выпрошваў грошай на пахмелле, проста ён кожны дзень ужываў літр-паўтара піва. Кожны раз, калі ехалі на паляванне, ці вярталіся, падводнік распавядаў яму, што таго чакае наперадзе: пасля трыццаці гадоў, максімум пасля трыццаці пяці ён кіне падводнае паляванне, бо яно стане яму нецікавым, распрадасць за бясцэнак рыштунак, замест піва пачне ўжываць гарэлку, пасля сарака пяройдзе з гарэлкі на таннае віно, або нават на сурагаты. У пяцьдзясят, калі дажыве – стане чалавечай руінай з шызым тварам, якога будзе хваляваць адзінае – дзе дастаць алкаголь. Да гэтага часу ён ужо страціць сям'ю. Яго паўсюль будуць гнаць з працы, нягледзячы на тое, што ён вельмі "рукасты". Будзе перабівацца выпадковымі заробкамі. І гэтак далей, ажно да ганебнай смерці дзе-небудзь пад плотам ад марозу, ці ў падвале ад рукі "сябра", якому не даліў.

Маладзён не пярэчыў. Толькі пасмейваўся.

– Цяпер давай паглядзім з іншага боку, – казаў падводнік. – Ты выпіваеш штодзень літр піва. І выпальваеш паўпачка цыгарэт. А потым скуголіш, што не можаш надоўга затрымліваць дыханне, што глыбіні больш за пяць метраў для цябе недасяжныя. Так? Каб мець апноэ хоць бы хвіліну, трэба ачысціць лёгкія і кроў ад таксінаў. А ў цябе лёгкія забіты смоламі, а ў крыві ўвесь час прысутнічае алкаголь. Калі не кінеш алкаголь і тытунь, табе да адмовы ад палявання (а гэта чакае ў недалёкай будучыні) наканавана плюхацца пад берагам на плытkіх месцах.

Маладзён сумна ўсміхаўся, і згоднаківаў галавою.

– А падумай – колькі грошай ты траціш на тое, каб труціць сябе. Трыста шэсцьдзясят літраў піва і сто восемдзесят пачак цыгарэтаў штогод. Гэта, – падводнік рыхтаваўся да гутаркі, таму валодаў лічбамі, – шэсцьсот дваццаць – шэсцьсот сорак даляраў. Ты штогод прапіваеш і пускаеш з дымам гідракасцюм-"дзявятку" плюс стрэльбу "Каюк". І як вынік – ляскаеш зубамі ад холаду ў сваёй дранай "пяцёрцы", ідучы пад ваду з архаічнай РПП".

– У вас у самога РПП, – нязлосна агрызаўся маладзён. – А я хутка змайструю самаробную стрэльбу. з нержавейкі. Такой ні ў кога не будзе.

– Ну-ну, паглядзім... – іранічна хмыкаў падводнік. – Хоць, без сумневу, ты таленавіты, і ў цябе сапраўдны інжынерны розум. А што я са старымі стрэльбамі палюю – дык я і сам стары. За жыццё назбіралася іх, не выкідаць жа. Мог бы сучасную набыць, але жонка сварыцца, што і так уся сцяна ўчапляная.

Неяк сустрэўшыся пасля доўгай зімы, маладзён паведаміў падводніку: "А я ўжо два месяцы, як ні разу не ўжыў алкаголю..."

– Сапраўды?! Малойца! – узрадаваўся той.

– І ведаеце, што – я ўжо заканчваю рабіць стрэльбу. Засталіся дробязі. Хутка выпрабуем. Я даўно планаваў яе зладзіць. Але прыйду з працы, нап'юся піва, і такое расслабленне ў целе, думаю: "Не, сёння нешта не хочацца, заўтра пачну". І так кожны раз. А як з тыдзень не піў – такую бадзёрасць у целе адчуў, такое жаданне працаваць! І – вось! Апрача піва, я яшчэ паліць кінуў.

– Двойчы малойца, – пахваліў падводнік, і пажартаваў. – А праўда – не піць і не курыць гэтак жа "крута", як піць і курыць?

– Круцей, – зусім сур'ёзна сказаў маладзён. – Не ведаю, як да гэтага ставіцца, у мяне нюх стаў як у сабакі. Такі, што не магу блізка знаходзіцца ля зацятых курцоў. Як сам быў курцом, нават у галаву не прыходзіла – якія мы смярдзючыя! Калі ў аўтобусе бачыў, што ад мяне кабеты грэбліва адсоўваюцца, носікі зморшчыўшы, кепска пра іх думаў. Аж зараз толькі зразумеў.

– Па маіх назіраннях цяперашнім часам сярод курцоў больш кабет, чым мужчынаў, – сказаў падводнік. – Абальюцца парфумай, думаюць смурод тытунёвы забіць. А сумесь яшчэ горшая атрымліваецца.

Маладзён гэтак жа, як і падводнік не меў аўтамабіля, але лёгка дамаўляўся са шматлікімі сябрамі каб адвезлі на раку, а потым забралі. Скідваліся на паліва, а ў выпадку рэдкай гэтым летам удачы дзяліліся з "рамізнікамі" здабычай. Калі знайсці рыбу з-за мутнай вады не ўдавалася, падводнік заўсёды прамаўляў традыцыйную фразу: "Рыбы не ўзялі, але магло быць і горш – маглі ўвогуле не паехаць..."

Верасень пераканаў, што ягоная здагадка прычыны замутнення рэк хутчэй за ўсё слушная. Некалькі разоў прыходзіла халоднае надвор'е і пасля гэтага з невялікім спазненнем ачышчалася вада. Астывала і, відаць, з-за гэтага гінулі мікраводарасці. Потым спякота вярталася, вада зноў мутнела, і паляваць станавілася немагчыма. Пасля асенняга раўнадзенства, калі ў прыродзе наступіла восень, наступіў і дабраславенны час для падводных паляўнічых.

Якраз тады падводніку патэлефанаваў рыбак і папрасіў спаткацца.

Яны ніколі не сябравалі, хоць былі знаёмымі некалькі дзесяцігоддзяў. Проста – існавалі ў блізкіх прасторах, якія амаль не перасякаліся. Падводнік – сярод "арбалетаў" і "пнеўматаў", гідракасцюмаў і куканаў, кампенсатараў плывучасці і грузаў, ластаў і масак, а рыбак – сярод вудаў і спінінгаў, монажылак і "пляцёнак", поплаваў і блёснаў, дажджавых чарвякоў і макухі. Прасторы іхнія сутыкаліся на тутэйшых рэках – найперш Прыпяці, Стыры, на Піне, на былым Каралеўскім, а зараз Дняпроўска-Бугскім канале, але вельмі рэдка. Падводнік і не памятаў ужо, калі яны апошні раз бачыліся.

Рыбак сустрэў падводніка на парозе кватэры. У яго былі зялёныя, з залацінкамі вочы. Яны глядзелі нібыта скрозь падводніка. Запрасіў у пакой. Жонка прынесла свежую гарбату, кексы, парэзаны лімон.

– Бачыш, які я? – вінавата ўсміхаючыся прамовіў рыбак. – Глаўкома... Чатыры гады ўжо. Святло ад цемры адрозніваю, ды сілуэты на блізкай адлегласці... А я колькі сябе памятаю – на вадзе. І кожны дзень, праведзены ў кватэры, мне здаецца выкінутым з жыцця. Калі ты не дапаможаш, застанецца толькі чакаць канца... Ты – пенсіянер, я – таксама. У мяне ёсць савецкі "калгасны джып" – "Ніва". Давай разам ездзіць, га? Мая машына – ты кіроўца. У мяне і лодка з маторам... Я на паветра хачу, вецер

нюхаць, балотную мяту, аер... Прывязеш, раскажаш, куды спінінг закідаць, глядзіш – прычэпіцца які шчупачок, адчую на тым канцы супраціў. А то і без гэтага абыдуся. Мне б толькі на бераг!..

Рыбак меў шэсць сотак у былой вёсцы, што зраслася з горадам, там невялічкі агарод, які даглядала жонка, некалькі яблыняў і сліваў. У канцы дзялкі стаяла драўляная будка для living розная начыння, і металічны гараж. Калі падводнік прыехаў на ровары, рыбакова "Ніва" ўжо стаяла ля гаража, а рыбак даволі спрытна для амаль сляпога загружаў яе рыбацкімі прыладамі.

– Ты сам выгнаў машыну з гаража? – Спытаў падводнік. – Ты ж рызыкаваў пашкодзіць яе аб праём дзвярэй! Чаму не пачакаў мяне?

– Не, нічым я не рызыкаваў, – заўсміхаўся рыбак. – Я так даўно пабудаваў гэты гараж, што мне не трэба яго бачыць, каб вывесці ці загнаць аўтамабіль. Прычым я ж раблю гэта вельмі асцярожна. Выйду, абмацаю, залезу, праеду з паўметра, зноў вылезу... Ужо холадна, я не ўяўляю, як ты будзеш ныраць. Можа, я вазьму цёплую вопратку – каб табе сагрэцца пасля твайго экстрыму?

– Дзякуй, не трэба. У мяне ёсць у што пераапрануцца. Толькі мой рыштунак, ён цяжкі, асабліва грузы, і я пакінуў яго дома. Ты дазволіш заехаць па дарозе, забраць?

– Ну, а як жа! Які табе сэнс мяне везці, калі сам ты не можаш заняцца сваёй справай? Дарэчы, колькі важаць грузы?

– Гэта залежыць ад гідракасцюма. Чым таўсцейшы касцюм, тым больш патрэбна грузаў. Іначай не нырнеш, касцюм – ён як выратавальная камізэлька, толькі на ўсё цела. У мяне пяцімiліметровы, яго я гружу васьмікілаграмовым пасам. Збіраюся набыць дзевяцімiліметровы, да яго, думаю, трэба будзе кіль васямнаццаць-дваццаць.

– Ад таўшчыні што залежыць? Чым таўсцейшы, тым больш цёплы? І з чаго ён зроблены? – зацікавіўся рыбак. – Я ж на флоце служыў, тэрміновую, у электратэхнічным дывізіёне крэйсера "Мурманск", Паўночны флот. У нас былі няштатныя вадалазы, глядзеў я іх гідракасцюмы, аранжавыя, тонкія. Яны пад гэтыя касцюмы швэдры і кальсоны апраналі. Шарсцяныя, тоўстай вязкі. У цябе таксама нейкая тэрмабялізна пад касцюмам?

– Я таксама на флоце служыў. Штурманам на падводнай лодцы. – Сказаў падводнік. – У вашых легкавадалазаў былі гідракасцюмы сухога тыпу. Тонкая і моцная герметычная апранаха, пад якую надзяюць вадалазную бялізну з вярблюжай воўны. А ў мяне – гідракасцюм мокрага тыпу. Зроблены з неапрэну – успененай эластычнай гумы. Ён шчыльна аблягае цела, так, што вады пад яго трапляе зусім мала. А мікрабурбалкі ў неапрэне з'яўляюцца тэрмаізалятарамі.

– Не ўяўляю – як гэта ў адной толькі гуме лезці ў халодную ваду! І што – не мерзнеш? – рыбак нават здрыгануўся.

– Ну, як калі. Гідрык мой ужо вельмі стары, увесь рваны і латаны. Цярплю, дакуль церпіцца. Вось гадоў трыццаць-сорак таму, калі не было ў краіне нічога, а што было – то не для ўсіх, я ў адных плаўках паляваў. Праўда, толькі ўлетку. Ніякай гаворкі, каб увосень паляваць, не кажучы ўжо пра зіму. Потым спартыўны касцюм стаў апранаць, хоць мала ён грэў, больш ад драпін у карчах засцерагаў. Паныраеш так гадзіну-паўтары, потым ляскаючы зубамі – на бераг. Рукамі памахаеш, сагрэешся – і зноў у ваду. А ў часы позняй "перабудовы", у канцы васьмідзясятых, адзін мічман, начальнік склада, мне савецкі мокры гідракасцюм прадаў. Якасць

такая, ты не паверыш – ён не парваўся, а паламаўся. Пад пахамі, у пахвіне, пад каленямі... Быў як драўляны. Цяпер, калі межы не зачыненыя, ад “супастатаў” добрыя гідрыкі прывозяць. Калі правільна падабраць – не адчуваеш, яны як уласная скура.

...– Я хутка. Пяць хвілінаў, – сказаў падводнік ля пад’езду сваёй кватэры. – Адна нага тут, другая –там. У мяне ўсё сабрана. Толькі гарбаты глыну з мёдам. Энергіяй запраўлюся. Бо я перад ныраннем не ем, цяжка, калі страўнік поўны.

– Ты не спяшайся, – сказаў рыбак. – Правер, ці не забыўся што. Я пачакаю колькі трэба.

...Абвешаны з двух бакоў сумкамі, ледзь праціснуўся праз праём дзвярэй. Не бачыў, як жонка перахрысціла ўслед. Выйшаў на вуліцу, пагрузіў рыштунак у аўтамабіль. Сеў на месца кіроўцы.

– Ну, куды едзем? – спытаў рыбака. – Калі я маю права голасу, то прапаную на Струмень. Пару дзён таму быў там з адным маладзёнам, вада празрыстасцю метра паўтара. Прайшлі ад Красава да Кнубаўскіх лецішчаў. Па пары судакоў узялі, язёў. Маладзён перад самым выхадам з вады соміка на восем кілаграмаў... Хачу сёння ад Дзіковічаў да Красава праплыць. Калі вада не замуцілася, думаю знайду рыбу. І табе там ёсць дзе спінінг пакідаць. Але можа ў цябе іншыя планы?

– Якія там планы! – горка ўсміхнуўся рыбак. – Мне б плюскат вады паслухаць, качыную “квачку”... Вязі – куды сам хочаш.

– Тады зробім так: прыедзем на бераг, там ёсць добры пад’езд, і няма кустоў. Табе зручна будзе спінінг кідаць. Я пехатой з паўкіламетра ўверх падымуся, там некалькі перспектыўных корчыкаў ёсць, адтуль уніз сплаўлюся. Прайду да Красава, гэта гадзіны чатыры. Там выйду з ракі, прыхаваю рыштунак, і сам без рэчаў да машыны. Па дарозе гэта хвілінаў сорак-пяцьдзясят займе. Забіраю цябе, едзем па рэчы. На ўсё – гадзінаў шэсць. Згода?

– Рабі як лічыш патрэбным, – інтанацыя рыбака пераконвала ў шчырасці. – Мне ўсё роўна дзе і колькі часу, абы на прыродзе.

– Сілаў хапае? – спытаў рыбак калі пераехалі мост праз Піну. – Ты хоць і маладзейшы, але ж ужо не хлапец...

– Ведаеш, я не самы стары ў нашых мясцінах падводны паляўнічы. Думаў, што самы, аж не... У Малоткавічах ёсць дзядзька, на год старэйшы. Таксама плюхаецца, як і я. Тут галоўнае не ўзрост, а трэніроўка. Так, пасля зімы, ды пасля вясенняй забароны, калі некалькі месяцаў не ныраў, першыя паляванні цяжкавата. Хто хоча адразу на поўную сілу, тыя ў басейн ходзяць форму падтрымліваць. А хто адразу ў раку, тыя вымушаны пару тыдняў на плыткіх месцах, ды асцярожна... Галоўнае – трэніраванасць. Бачыў неяк па скрынцы – бабуля за восемдзясят гадоў ныраля. Ды зімою, ужо прыпай ля берага быў!

– І які ў цябе самы вялікі трафей? – Бездапаможныя вочы рыбака засвяціліся.

– Няма асабліва чым хваліцца, – уздыхнуў падводнік. – Сомік на дваццаць, шчупак на восем, ды язь на тры з паловай. Неяк пазнаёміўся з украінскім калегам, на Дняпры жыве, дык той кажа: “Мы малькоў не б’ем, мы ад трыццаці кілаграмаў...” Пра самоў гутарка была. Бачыш, у іх да трыццаці – гэта малькі! А я ад сямі-васьмі ўжо страляю... Летась за сезон шэсць штук узяў. А сёлета ўвогуле пакуль што ніводнага сома...

Ты не ўяўляеш – улетку вада такая нізкая была, што па Прыпяці часам прыходзілася пехатою перамяшчацца, плыць немагчыма. Здымаеш ласты, і пайшоў! Ад ямкі да ямкі. І ўсё рэчышча ў выспах! Большасць падводных карчоў – на беразе апынуліся. Ды і бачнасць была ніякая... Зараз крыху паднялася, дажджы прайшлі.

– Мне ў свой час прыйшлося з прамысловай брыгадай працаваць, – сказаў рыбак. – Сеткі ставілі. Дакладна ведаю: вада падае – рыба ўніз скочваецца, павышаецца – уверх пайшла. Па сетках відаць – адкуль рыба рухалася. Эх, цікавы час быў! Я тыднямі дома не начаваў, усё на рацэ. Я Прыпяць на многія дзясяткі кіламетраў ведаю, што ўверх ад нас, што ўніз. Нават зараз, як ідзем з кім на лодцы, кажу: "Тут злева стары дуб стаіць. Так?" – Так, адказваюць. "Вось як дуб пройдзем, там яма пачынаецца, метраў шэсць глыбінёй. Па восені ў ёй чаго толькі не лавілі – і сазаны, і самы, і ляшчы. Ляшчы па чатыры кілаграмы, яны як кола ў маёй "Нівы"!

– Страляў такіх, – заўсміхаўся падводнік. – Часцей за ўсё ў другой палове жніўня. Нырнеш, бывала, проста так, у зусім не перспектыўным месцы, дзеля трэніроўкі, а насустрач – цэлы касяк ляшчоў. Штук пяцьдзясят! Ды вялізныя, сапраўды што колы ў легкавушкі! А шустрыя – як маланкі! Калі пачнеш гарпуном круціць туды-сюды, нізавошта не трапіш. Я столькі разоў мазаў! Ажно пакуль іншую тактыку не прыдумаў. Заміраеш, толькі плынню цябе зносіць, і чакаеш, пакуль нейкі насупраць гарпуна не тармазне на імгненне. І тады толькі – лясь! Іначай абавязкова прамажаш.

Аднойчы ўзяў гэтак аднаго, касяк галоў на трыццаць уверх пайшоў. Выскачыў я на бераг, ды бегма ўверх, каб перахапіць. Там рака пятлю рабіла, не маглі яны раней за мяне праскочыць. Сплываю ўніз, чакаю, што зноў гэтыя "колы" насустрач – няма! Дагэтуль не ведаю, куды дзеліся. І рака там не шырокая, гэта на Стыры было.

– Можа ў старыцу зайшлі, – сказаў рыбак. – А можа ўсё ж паспелі раней за цябе... не страшна ныраць? Усё ж небяспечна – мала што там можа аказацца. Сеткі, жылкі абарваныя. Даўно ўжо, мо гадоў дваццаць таму, адзін мой знаёмы патануў. У жылку заблытаўся.

– Падводны паляўнічы? – спытаў падводнік. – Нешта я не чуў...

– Не, вудзільшчык. Зачапіў сваю снасць за падводны корч, ды палез адчапляць. Відаць, гачок апошні быў, ці што. І ва ўласнай жылцы заблытаўся...

– Ці страшна? Па-рознаму бывае. Неяк залез я пад корч, агледзеў усё – спачатку ля дна, потым вышэй. Пуста. І бачу, што ўверсе даволі вялікае "вакно" ў карчы. Думаю – чым назад выпаўзаць, тым шляхам, якім залазіў – лепей я ў гэтае вакно ўсплыву. Ну, і палез. І метры за паўтары да паверхні спінным грузам, "патэльняй" так званай, на сук надзеўся. Сук паміж грузам і спінай трапіў. Паспрабаваў зламаць – моцны, не даецца. Зняцца задні́м ходам – таксама не атрымліваецца. А арганізм ужо кіслароду просіць. І паверхня – вось яна, зусім блізка, а недасяжная. І паніка падступае. Але ж паніку прыдушыў, і грузы скінуў – для гэтага спражка хуткараз'ёмная на грузавым пасе. І ўсплыў у тое вакно. Аддыхаўся, і вось тут мяне забрала! Проста жах перад глыбінёй адчуў. Зразумеў – калі зараз не нырну, не пераадолею гэты жах, больш ніколі ныраць не здолею. Тут якраз прыяцель прыплыў, – мы тады ўдвух палявалі, – дастаў з-пад карча мой пас. Надзеў я яго, і пачаў страх пераадольваць. Не паверыш – страшна было нават на плыткім ды адкрытым месцы. Хвілінаў праз трыццаць, праўда, прайшло...

Разоў пяць у сеткі ўблытваўся. Але дзякаваць Богу – кожны раз удавалася разам з сеткай да паверхні падняцца, трубку высунуць. А потым – нажом выразаўся. Таму лічу, што без нажа ў ваду ісці нельга. Хай ён сто разоў не спатрэбіцца, але ж на сто першы можа і выратаваць.

Адзін раз пад кустом на шыю шпагат накруціўся. Таксама – да паверхні не пускаў. Адной рукой намацаў шпагат, другой нож, чык – і воля! А яшчэ раз пад вадою рукой у капкан тыцнуў. Дзякуй Богу, той спушчаны аказаўся. Бо на стальным тросе быў прывязаны. Нават не ведаю, на каго той капкан ставілі – далекавата ад берага і глыбакавата. На бабра звычайна на плыткім ставяць, ля выхаду на сцежку.

А ўвогуле – занятак сапраўды небяспечны. Быў у мяне вучань. Прыгожы такі хлопец, добра выхаваны, моцны. Рыбак зацяты – ну, нібыта ты, толькі малады зусім. Вуды, спінінгі, воблеры, падсакі... Ажно пакуль нехта падводную стрэльбу не падараваў. Бывае так – загарыцца чалавек, а праз нейкі час дае аб’яву ў газету: “Прадаю рыштунак для падводнага палявання...” Пытаеш – чаму прадаеш? – “Нешта не пайшло...”, або “Не маё...” А гэты не! Патэлефанаваў неяк мне: “Дапамажыце – другі сезон ныраю, і ўсё безвынікова!” Упарты. Іншы даўно б кінуў. Паехалі на Стыр, рака тым летам была проста цуд, якая чыстая. Каля сямі метраў празрыстасці, амаль мора! Паднырнуў я пад куст ракіты, галіны падводныя прагледзеў – тры прыгажуны-язі кілаграмы па два кожны, чырванапёрыя, з залацістым адлівам хаваюцца. Паклікаў хлопца, кажу – глядзі пад гэтым кустом, там рыба трафейная. Нырнуў ён, вынырнуў. – “Не бачу”, – кажа. Тады разам нырнулі. Ён да галінак таго куста наблізіўся, на мяжы ценю, і далей не ідзе. Баіцца. Сапраўды, без звычкі страшнавата ў чорнае лезці. Натуральна, не бачыць нічога – вочы на сонцы да ценю не адаптаваныя. Я яго за руку, і сілком за сабою зацягнуў на паўтулава ў куст. Пачакаў крыху, каб вочы прывыклі, потым рукою паказваю – туды, туды і туды – на язёў. Хвілінаў праз пяць ён ужо першага здабыў. І ўсё – вуды, спінінгі, блёсны, “тэлевізары” – усё было адкінута. Некалькі заробкаў на набыццё рыштунку патраціў – гідракасцюма, грузаў, кукана, яшчэ адной стрэльбы. Спачатку разам ездзілі, вазіў мяне, потым ён аддаляцца пачаў, чужэць. Самастойным стаў. Звычайная справа. І вось адным разам пад затопленую баржу пайшоў. Выйсці не здолеў. Я тады сябе вінаваціў, здавалася – каб не заахвоціў, ён так бы і займаўся бяспечнымі вудамі, застаўся б жывы. Жаніўся б, дзяцей завёў. У яго прыгожыя дзеці былі б... Я яго навучыў быць смелым, а баяцца не навучыў... Хоць выпадак з тваім знаёмым, ну, каторы ў жылку ўблытаўся, паказвае – усё мае пэўную ступень небяспекі.

Памаўчалі.

– Я на пахаванне не пайшоў, жонку паслаў. Цэлы год ад яго бацькі хаваўся. Потым выпадкова сутыкнуліся, ён, аказваецца ўсё пра мяне разумеў: “Ты, братка, мяне не пазбягай. Я зусім не лічу цябе вінаватым. Лёс...” Стрэльбы сынавы мне падараваў. На памяць. Я цяпер калі з ягонымі стрэльбамі палюю, заўжды ўзгадваю, а як жа...

“Ніва” звярнула з асфальту, заскакала па гравійцы, падняла воблака пылу.

– Гэта мы Месткавічы праехалі? – спытаў рыбак. – Па дамбе ў бок Дзіковічаў рушым?

– Ты не прыкідваешся, што зусім кепска бачыш? – пажартаваў падводнік. – Так, царкву ў Месткавічах праехалі.

– Я тут, лічы, большую частку жыцця! Усе дарогі, накірункі і на ма-

шыне, і пехатою прайшоў. Ды яшчэ апошнія чатыры гады, калі вочы мяне абмежавалі – навучыўся быць уважлівым, арыентавацца! – усклікнуў рыбак нібыта апраўдваючыся, але было відаць, што ён задаволены. – У мяне карта ў галаве, едзем, я кожны паварот фіксую. Тым больш – ты ж казаў, што да Дзіковічаў паедзем...

– Да Дзіковічаў крыху не даедзем, – сказаў падводнік. – Зараз едзем па гравійцы, вакол дарогі дрэвы. А як дрэвы справа скончацца, у гэтым месцы мы з'едзем з дамбы ўлева. І па абалоне будзем ехаць да ракі. Да самага берага, ён там метраў на дзвесце чысты, без кустоў, табе будзе зручна кідаць спінінг. Вось, якраз і збочваем...

Легкавік павольна пасунуўся сярод лугавых траваў, падводнік працягваў:

– Сапраўды, ніколі не ведаеш, у якую прыгоду можаш убіцца. Летась завезлі мяне на Стыр. За Лапацінскім мостам, там дамба ўправа, кажуць, былая дарога да Ласіцка. Кіламетры за два з паловаю – тры ад асфальту. Ад павароту дамбы – я па здымках касмічных з Інтэрнэта паглядзеў – да Стыры зусім блізка, мо метраў трыста. Прывезлі мяне, пачакалі, пакуль апрануся, ды і паехалі. А я з дамбы сышоў, і напрасткі да ракі. Ты ж ведаеш нашыя "джунглі" – то непралазныя хмызы, то балатавінка з трыснягом, карацей – збочыў я з "пеленга". Травы па шыю, сонца пячэ, я ў гідракасцюме, на спіне і таліі – свінец, у руках – стрэльба, ласты, на ілбе –маска з трубкай, прабіраюся. Сэрца трапеча, адчуваю сябе нібыта ў саўне. І перагароджвае мне шлях перасохлая старыца. Ні кроплі вады, дно сухое, патрэсканае, як "такыр" у пустыні. Цудоўна! Думаю – хоць пару дзясяткаў метраў зраблю без гэтых траваў. Крок, другі па "такыры", ён ламаецца, і я па пояс правальваюся ў сапрапель. Працягваю пагружацца, а цвёрдага пад нагамі не адчуваю. Дагэтуль не ведаю, колькі ён углыбіню. Відаць, гэтак сябе муха на ліпучцы адчувае. Сапрапель – густы, як смала, і гэткі ж ліпучы. Лёг я грудзьмі на скарынку, на той "такыр", пагружацца перастаў. Неяк здолеў развярнуцца тварам да берага. Адшпіліў грузы – кінуў на бераг, яшчэ маску. Ласты спрабаваў пад грудзі, каб неяк мець апору, але апора з іх слабая. Змагаўся я там гадзіны паўтары. Думаў – усё. Тут і гамон. І не знойдуць. Але бабры дапамаглі. Там на беразе, з якога я на "такыр" ступіў, шмат палак, бабровых пагрызаў было. Дацягнуўся я, і некалькі палак здолеў узяць. Падкладваў іх пад грудзі, упіраўся рукамі і па сантыметры прасоўваўся да берага. Так і вылез. Да ракі там усяго метраў семдзесят заставалася, хоць прыйшлося тую перасохлую старыцу абыходзіць. Увесь у сапрапелі, змораны, смярдзючы, ледзьве гэтыя метры прайшоў. Затое як у Стыр брохнуўся – такі кайф!

Выехалі на бераг, і падводнік спыніў машыну:

– Вось тут управа пяцьдзясят метраў, і ўлева сто пяцьдзясят – чыста. Далей бераг зарослы хмызамі. Я зараз збяруся і пайду ўверх. Там корчыкі харошыя, штук дзесяць, калі рыбы шмат – настраляю норму, прыплыву сюды і выйду. Калі не – буду сплываць уніз, да Красава.

Выцягнуў з багажніка сумкі, выняў і расклаў на траве рыштунак. Рыбак памацаў гідракасцюм.

– Гума гумай! І як гэта ты ў гуме палезеш у такую ваду? Цікава, колькі яна цяпер градусаў?

– Два дні таму была адзінаццаць. Сёння ўначы паветра каля нуля, значыць, яшчэ астыла. Зараз зайду і даведаюся.

– У цябе нейкі тэрмометр?

– Вадалазны кампутар. Вось, падобны на наручны гадзіннік. Паказвае тэмпературу вады, глыбіню пагружэння, колькасць ныркоў і іх глыбіню, час на глыбіні і яшчэ шмат чаго. Я нават усіх функцый не ведаю, бо, напрыклад, рэжым дэкампрэсіі мне не патрэбны...

– Дарагі, мабыць?

– Таксама не ведаю, дачка з зяцем на шасцідзесяцігоддзе падаравалі.

– Што гэта ты туды залiваеш? Па паху нібыта шампунь?

– Так, шампунь з вадою. Каб праслізнуць у гідракасцюм, іначай не апрануць.

– А ў цябе былі якія настаўнікі? – пацікавіўся рыбак. – Хто цябе вучыў паляваць?

– Як табе сказаць... – задуменна вымавіў падводнік. Нават перастаў нацягваць камбінезон гідракасцюма. – І так, і не. У мяне дзяцінства на Іслачы прайшло, у Валожынскім раёне. Нашая сям'я на дзедаўскім хутары жыла, хутар на самым беразе, а побач – вадзяны млын. Таксама дзедаўскі, але ўжо нацыяналізаваны. Тата там мельнікам быў. Так бы мовіць – дырэктар млына. Ён і "дырэктар", ён і рабочы. Такім чынам з першага па восьмы клас усе летнія канікулы я з сябрамі на рацэ праводзіў. І не памятаю цяпер адкуль, трапілі неяк да мяне незвычайныя акуляры. Круглыя шкельцы ў мяккай гумовай аправе. Нібыта нейкая падказка была, знак, што буду з падводнымі лодкамі ў дачыненнях. Потым, ужо дарослым, даведаўся, што гэтыя акуляры – ад ПДУ, партатыўнай дыхальнай прылады. Яе ўсе падводнікі "на жалезе" заўжды пры сабе носяць. На выпадак пажару. Загубнік у рот, на нос заціскачку, на вочы гэтыя вось акуляры...

Падводнік скончыў надзяваць камбінезон, заліў мыльную ваду ў куртку, патрос яе, пераліў у пальчаткі і шкарпэткі. Раскідваючы навокал шматкі пены, нацягнуў куртку, выцер далонямі твар. Прысеў, пачаў нацягваць шкарпэткі.

– Самому цікава – адкуль яны ў мяне, тыя акуляры, тады ўзяліся! Надзеў я іх на вочы, прыціснуў крыху да твару, яны прысмакталіся. Неаднолькава прысмакталіся, усё дваіцца пачало. Але мне мала клопату! Я адразу – у раку. Лёг на плыткім, а перад вачыма – пяшчынкі, беленькія, на Іслачы амаль паўсюль дно пясчанае, толькі ў вірах крыху замуленае. І так мне да сэрца гэтая магчымасць пад вадою глядзець прыйшлася, што не выказаць! Памятаю, я тады ўсё лета з імі правёў. Вясковыя хлопцы – там непадалёк дзве вёскі – пабудуюць на беразе "вышку" з дзірвана і скачуць адтуль. Нехта сальта спрабуе рабіць, нехта "салдацікам", а я ў акулярах рачное дно даследую. То стронгу ў карчы пабачу, то печкуроў на дне, на тую вышку і не падымаўся. Хоць сярод хлапчукоў прэстыжна было прыгожа скакаць...

Закончыў надзяваць гідракасцюм, прышпіліў да нагі нож у яркажоўтых пластыкавых похвах, аперазаўся гумовым пасам з надзетымі на яго свінцовымі грузамі.

– ...Наступным летам, здаецца, я маску набыў. У Ракаве, у краме "Культтавары". Потым ласты. Гумовыя, з вельмі вузкімі галёшамі, нага ў мяне і ў дзяцінстве была шырокая, я ў тых ластах праз гадзіну ступакі пераставаў адчуваць. Я тады не паляваў, нават думкі такой не было. Нават не падазраваў пра існаванне падводных стрэльбаў. Быў, як цяпер кажуць, "дайверам". Адным летам мяне матуля ў піянерскі лагер (лагер! што за назвы былі!) у Сакаўшчыну завезла. На месяц. Мы там штодзень купацца хадзілі на Заходнюю Беразіну. А ў "жабятніку", што нам для купання вы-

лучылі, усё дно было перлавіцамі ўсеяна. Здаравеннымі! І піянеры кожны дзень аб іх ногі рэзалі. Дык я з дазволу старэйшай піянерважатай за тры дні жабятнік ад іх ачысціў. Ад перлавіц. Думаю, гэта было маё першае паляванне, хоць я проста перасяляў іх за межы нашай “акваторыі”.

Падводнік сеў на траву побач з рыбаком. Той уважліва слухаў, утаропіўшы невідушчыя вочы некуды ў далячынь. На яго твары блукала лёгкая ўсмешка.

– А потым была вучоба ў вышэйшай ваенна-марской вучэльні, а там на першым курсе – лёгкавадалазная падрыхтоўка. Тэорыя нырца, фізіялогія нырца, дыхальныя апараты. Практычныя спускі пад ваду – у басейне, выхад “з затопленай падводнай лодкі” праз тарпедны апарат, вольным усплыццём, па канаце з мусінгамі... Любімыя мае прадметы! Ды яшчэ перад кожным практычным заняткам нас дадаткова кармілі – згушчанае малако давалі. Бляшанку на дваіх.

І ўжо я лейтэнантам быў, на Паўночным флоце. Неяк у час камандзіроўкі ў Севераморск у краму паляўніча-рыбалоўную зайшоў, а там стрэльба падводная ляжыць. Нешта каля пяцідзесяці рублёў каштавала, калі не памыляюся. Так мне закарцела! Набыў. І вазіў яе з сабою штогод у адпачынкі. Спачатку ў Баку, спрабаваў на Каспіі паляваць. Досведу ніякага, так што толькі бычкі мне там даваліся. Кефаль касякамі хадзіла, але мяне на дыстанцыю стрэлу не падпускала. Потым жончыны бацькі на радзіму, у Днепр пераехалі, тады яшчэ афіцыйна Днепрапятроўск, але мясцовыя яго заўжды толькі Дняпром называлі, там я шчупачкоў навучыўся шукаць. Пару разоў у паўночныя воды – бухту Лясная, яна ў Кольскай затоцы – ныраў з аквалангам. У сухім касцюме. Пінагорба тады ўзяў, зубатку і пару сайдаў. А яшчэ знайшоў крабавую... як назваць... крабавае логава. У шасцідзясятыя ў Кольскую затоку камчацкіх каралеўскіх крабаў выпусцілі, вось яны і распаўзліся-расплодзіліся. Зараз нават у Нарвегіі з’явіліся. Я некалькі гэтых гіганцкіх крабаў дастаў і высушыў. Адзін гадоў пятнаццаць нашы кватэры ўпрыгожваў, мы з жонкай некалькі разоў пераязджалі. Але ў дзевяностыя – я ўжо пенсіянерам быў, з пенсіяй, эквівалентнай дваццаці васьмі далярам – прадаў нейкаму прадпрымальніку за пяцьдзясят. Даляраў, натуральна. Сям’ю карміць трэба было.

Карацей, у час службы на Поўначы асабліва заняцца гэтай справай не выпадала. Так, тры-чатыры тыдні ў час адпачынку. Затое калі ў Беларусь перавялі служыць, “на паркет”... Я адразу пачаў рыбныя вадаёмы шукаць. І каб вада празрыстая. Шукаў і знаходзіў. Я тады, у канцы васьмідзясятых, бадай што адзіны падводны паляўнічы на ўвесь наш горад быў. Чытаў, шукаў, назіраў, шмат ездзіў ныраць. Так вось... Падабаецца мне гэты занятак. Таму я і цябе разумею, я ж таксама ў кватэры сядзець не магу. Ды і цела ў больш-менш добрай кандыцыі рака трымаць дапамагае.

– О, так! – згадзіўся рыбак. – Недзе чуў я такую рэч, здаецца, хтосьці з вялікіх сказаў: рухаешся – жывеш, сеў – хварэеш, лёг – паміраеш. Ад смерці, натуральна, не ўцячэш, але якасць жыцця ў тых, хто рухаецца непараўнальна лепшая, чым у тых, хто на канапе... Цела, усе органы трэба трэніраваць. Без трэніроўкі яны становяцца непатрэбнымі і паміраюць. У тым ліку і мозг.

– Ну, пайду я, – падводнік падняўся, узяў з травы падводную стрэльбу, падобную на вялізны нязграбны пісталет, сунуў падпаху ласты. – Ты тут не сумуй.

– Ні хваста, ні лускавінкі. Не хвалюйся. Мне на рацэ ніколі не бывае сумна, – усміхнуўся рыбак. – Будзеш праплываць, не забудзься паклікаць.

Падводнік сышоў з высокага берага, ступіў у ваду. Яна ледзьве даходзіла яму да пояса, далей было яшчэ больш плытка, а амаль ад сярэдзіны рэчышча да процілеглага берага было аголенае дно. Ён выйшаў на вільготны пясок і павольна пасунуўся ўверх, супраць плыні. Былое дно было ўсё затаптана слядамі. Вось тут з берагавых “джунгляў” на рэчышча выходзіў лось. Відаць, піў, потым прайшоў метраў сорак і зноў нырнуў у хмызы. Пакінуў глыбокія, вострыя сляды. Ля самай вады – адбіткі лап з перапонкамі між пальцаў, гэта выдра выходзіла па нейкіх сваіх справах. Янотападобны сабака – падбіраў рачных слімакоў, што засталіся на пяску пасля падзення вады. Тое ж самае рабіў і статак дзікоў. Дзічыха з парасятамі. Падводнік разглядаў сляды і спрабаваў уявіць іх уладальнікаў.

У небе закрычалі гусі. Падводнік спыніўся, знайшоў позіркам невялікі клін, палічыў. Дваццаць адна.

Па асушаным дне ён дайшоў да павароту, зайшоў за яго, зноў увайшоў у ваду і перасек раку. Прайшоў яшчэ крыху ўверх. Тут быў вір, яма даўжынёй метраў семдзесят, а ўшыркі ад сярэдзіны ракі да правага берага. Яма ў звычайныя гады мела больш за шэсць метраў глыбіні, зараз, відаць, было каля чатырох. У некаторых месцах плынь бурунілі крывыя сукі, аблепленыя рачным смеццем – там знаходзіліся падводныя карчы. У такіх месцах звычайна хавалася рыба, і падводнік хацеў іх абгледзець.

Ён паклаў на пясок ля вады ласты з вузкімі доўгімі лопасцямі і ўдарамі загнаў ступакі ў іхнія галёшы. Потым палізаў знутры шкло маскі і спаласнуў у рацэ – прыём, якім карыстаецца большасць ныраў каб не пацела шкло, – надзеў на твар, сунуў у рот загубнік трубкі. Перахрысціўся, і, развярнуўшыся спінаю наперад, пайшоў на глыбіню. Калі вада дайшла да паса, уткнуў у рулю стрэльбы гарпун, стрэльбай упёрся ў клуб і з намаганнем, ухапіўшыся рукою за трызуб гарпуна, загнаў яго ў рулю, аж пакуль не пачуў шчоўканне фіксатара. Лёг на ваду, якая адразу апякла яму вусны, і ляніва заварушыў ластамі. Паплыў да ўваходу ў яму.

Уначы былі замаразкі, і, відаць, таму вада ачысцілася яшчэ больш, чым была ў час апошняга палявання, падводнік з задавальненнем адзначыў, што празрыстасць, мабыць, каля двух метраў. Паглядзеў на кампутары тэмпературу вады. Так і ёсць, знізілася, дзевяць градусаў. Надвор’е стаяла пахмурнае, але пясчанае дно ракі адбівала святло дня, і яго хапала.

Вада захаладзіла пальцы на левай руцэ, што трымала стрэльбу, падводнік быў леўшуном, а справа пранікла падпаху, відаць, там з’явілася дзірачка, якую ён не заўважыў у час апошняга рамонту гідракасцюма. Падумаў, што калі прыдзецца сплываць да Красава, то будзе вымушаны выходзіць з вады, каб сагрэцца.

Даплыў да карча ля пачатку ямы, сукі якога тырчэлі з вады, ухапіўся за адзін з іх. Плынь развярнула яго ўздоўж ракі. Паляжаў так на вадзе, робячы глыбокія ўдыхі – вентыляцыю лёгкіх. Потым амаль без намагання і плюскату штурхнуў цела долу, запрацаваў ластамі. Апускаючыся ў шэрым, мутным космасе, адчуў, як заклала вушы, заціснуў нос і асцярожна “прадзьмуўся”. Праз некалькі імгненняў шэрае ўперадзе ператварылася ў пясчанае дно, лёг на яго, агледзеўся. На пяску проста перад ілюмінатарамі маскі стаяла стайка печкуроў, уперадзе, вышэй па цячэнні, на мяжы бачнасці відаць былі чорныя крывулі – ці то карані, ці то сукі дрэва, часткі

якога ён бачыў над вадою. Асцярожна варухнуў ластамі, павольна папоўз да яго ўздоўж дна. Правай рукою – левая занята стрэльбай –падцягнуўся за бліжэйшы сук, замёр, пачаў аглядаць корч. Спачатку ўнізе, паміж сукамі і дном, потым вышэй, сярод сукоў, потым перавярнуўся на спіну і агледзеў уверсе, ажно дакуль дазваляла празрыстасць. Усплыў на паўвады, зноў учапіўся за сук – тут плынь была нашмат мацнейшай, чым ля дна – агледзеў частку карча, што пад паверхняй. Спудзіў адтуль стайку верхаводак, ірвануліся супраць плыні, але праз секунд дваццаць вярнуліся, і занялі свае месцы між галінамі. Ён мог бы не дыхаць яшчэ з хвіліну, але ў гэтым не было сэнсу – корч абследваны і пусты. Адпусціў сук, плынь адразу падхапіла яго і панесла, варухнуў ластамі, і як толькі адчуў, што на паверхні аказаўся канец трубкі, моцным выдыхам прадзьмуў яе і пачаў дыхаць. Яго несла па паверхні ракі побач з сукамі другога карча. Зноў учапіўся, ляжаў на вадзе, адпачываў. Заплюшчыў вочы, расслабіўся, глыбока дыхаў, слухаў, як абцякаюць струмені, палошчуць цела, як моцнымі рэдкімі ўдарамі б’ецца сэрца. Мерзлі пальцы на левай руцэ, гэта ад металічнай рукаяткі стрэльбы. Гэта нічога, галоўнае – пальчаткі цэлыя. Трэба толькі перакласці стрэльбу ў правую, і пальцы хутка сагрэюцца. І крыху адчуваецца халодная вада пад курткай.

Нырнуў, дайшоў да дна, глянуў на падводны кампутар. Чатыры метры. Павольна пасунуўся супраць плыні да карча. І адразу ўбачыў невялікі “выбух”, воблака пясчанай муці – рэзкі старт нейкай рыбы. “Відаць спудзіў судака”, – падумаў падводнік, пакруціў галавою, нічога больш не знайшоў і ўсплыў. Каб не знесла, зноў ухапіўся за сук ля паверхні вады.

Хвілінаў за трыццаць ён абгледзеў амаль усе запланаваныя карчы. Бачыў невялікіх судакоў, плотак, але нічога, вартага стрэлу. Заставаўся апошні завал з дрэваў – самы вялікі корч, які знаходзіўся на адкосе – выхадзе з ямы. Мінулы раз тут стаяў статак язёў, ён здолеў узяць двух.

Падводнік абагнуў корч, заўжды стараўся пачынаць супраць плыні і ў накірунку ад сярэдзіны ракі да бліжэйшага берага – так было больш верагодна падкрасціся да рыбы, якая заўжды стаяла галавою на плынь, і больш бяспечна.

Ныраць прыйшлося некалькі разоў – корч вялізны, і за адзін раз абследваць усё было немагчыма. Ныраў, падпаўзаў да карча, учапляўся за сук, уважліва абглядаў знізу-ўверх, перасоўваўся на метр-паўтара ўлева, зноў чапляўся, потым усплываў, ляжаў на паверхні, адпачываў. Тут таксама было пуста. Гэта не выклікала ў падводніка расчаравання, ён атрымліваў задавальненне проста ад магчымасці слізгаць у якім заўгодна накірунку, адчуваць плаўны “палёт” у прасторы. Але сёння ён вельмі хацеў бліснуць трафеем перад рыбаком. Нават запланаваў здабыць дзённую норму – пяць кілаграмаў рыбы, і ўсю аддаць рыбаку.

Дайшоў да краю карча ад берага і вызірнуў уперад. Корч ляжаў на адкосе ямы, і на супрацьлеглым даследаванаму падводнікам баку было глыбей. Плынь вымыла там пячорку, накрытую зверху рэдкімі сукамі. З-пад тых сукоў на яго глядзела галава драпежніка. Падводнік здрыгануўся і замёр. Шырачэзная галава, маленькія вочкі-гузічкі, бульдогападобная пашча, доўгія вусы-шнуры. Галава лёгка магла б змясціць у пашчы яго, падводнікаву галаву, тулава гублялася за межамі празрыстасці вады. Падводнік не мог адарваць позірку, ён ніколі не бачыў самоў такога памеру. І толькі калі пакутліва захацелася дыхнуць, асцярожна адпусціў сук, за які трымаўся, плынь адразу

панесла яго ўздоўж адкосу, потым адштурхнуўся ад дна рукамі, запрацаваў ластамі, прабіў паверхню і доўга аддыхваўся...

...Сом таксама бачыў, як падводнік асцярожна вызірнуў з-за карча. Плынь рухалася ад рыбы да чалавека і змяншала хвалю, якую сом мог адчуць сярэдняй лініяй. Таму ацаніць памеры чорнай істоты, што асцярожна падпаўзла па дне, прыкрыўшыся карчом, ён не мог. Тое, што ён бачыў – галаву падводніка – не выклікала ў сама пачуцця небяспекі.

Гэта быў падарунак лёсу, Творцы, Фартуны... Але падводнік быў не гатовы яго прыняць. Што можна зрабіць з гэтай стрэльбай, гарпун якой аснашчаны трызубам з драцянымі "сцяжкамі"? Так, ім зручна трапляць наўскідку па язях ды ляшчах, але ўзяць гэткага гіганта... Падводнік ужо меў адпаведны досвед. Аднаго разу ён загарпуніў у кусце, што споўз з берага, язя. Месца было плыткае, крыху больш, чым яму па пас. Язь біўся на трызубе і заблытаў на галінах куста лінь. Падводнік стаў на дно, кінуў пад ногі стрэльбу, нагнуўся зверху над кустом і выняў гарпун з язём. Лінь, што злучае гарпун са стрэльбай, застаўся ўблытаны ў кусце. Перасадзіў язя на кукан і пачаў выблытваць. Адчуў штуршок у паясніцу, павярнуўся – думаў, што падплыў напарнік. Але замест напарніка ўбачыў сама, які спрабаваў сарваць з яго кукана язя. Потым кляў сябе за нервовасць, спешку, за неабдуманыя дзеянні. Трэба было працягваць выблытваць шнур, спакойна зарадзіць стрэльбу, потым даць саму раскруціць шпулю, стаміцца... Замест гэтага ён у гарачцы падняў з дна стрэльбу, зарадзіў (лінь застаўся заблытаны на кусце), і стрэліў. Сом іргануў раз, два – толькі куст захадзіў ходырам – потым, быццам марлін, зрабіў скачок з вады, і ўсё супакоілася. Гарпун быў сагнуты, зубцы трызуба завязаны амаль на вузел, сцяжкі выгнутыя нечалавечай сілай. То быў вялікі сом, але непараўнальны з тым, што ляжаў зараз у пячоры пад карчом. Яшчэ было некалькі выпадкаў, калі невялікія самы ламалі яму гарпуны. "Не, узяць яго трызубам нават нельга спрабаваць, – думаў падводнік. – Трэба дзінарны наканечнік – "куля", і вельмі моцны бой стрэльбы. Ах, чаму я не ўзяў з сабою "кулю" і насос?! А мо ўсё ж трызубам? Не, трызубам я яго толькі падраню".

Падводнік вярнуўся да карча, нырнуў за некалькі метраў ад яго, яшчэ больш асцярожна падпоўз, выглянуў. Сом па-ранейшаму ляжаў пад сукамі. Тады падводнік заплыў з другога боку, дзе павінна было відаць тулава, і ўбачыў вялізны плямісты хвост, выгнуты як анаконда, шырынёй у дзве ягоныя пядзі. Кінуўся ў вочы парваны хваставы плаўнік. Нагледзеўшыся, ён усплыў і аддаўся плыні. Калі вынесла на мель, устаў на ногі, зняў ласты і пайшоў да машыны.

Рыбака не было відаць ні на беразе, ні ў машыне, і падводнік пару разоў гукнуў. Той азваўся з недалёкіх хмызоў. Ішоў назад, і зараз было відаць, што ён сляпы – ішоў краем лазняку, няўпэўнена, мацаў рукою галінкі, па пояс у траве, хоць зусім побач праходзіла вытаптаная аўтамабілямі сцежка.

– Лявей! Лявей! Злева ў дзесяці кроках дарога! – крыкнуў яму падводнік. Рыбак паслухаўся, пайшоў улева, намацаў нагамі сцежку. Пайшоў больш упэўнена.

– Ну, ці ёсць што? – спытаў у падводніка.

– Ёсць, – стрымліваючы нясцерпнае жаданне спяшацца, адказаў падводнік. – Там пад карчом у пячоры стаіць сом. Я ніколі не бачыў такіх. Дакладней, бачыў, але толькі ў роліках на канале "Паляванне і рыбалка".

Я нават не магу вызначыць яго даўжыню, думаю, даўжэйшы за мяне... Але я не гатовы яго ўзяць. Для гэтага трэба іншы наканечнік, "куля", і больш моцны бой стрэльбы. А я не ўзяў ні "кулі", ні насоса, каб напампаваць стрэльбу мацней. Слухай, давай з'ездзім назад, у горад...

– І ты думаеш, той сом будзе цябе чакаць? – з недаверам прамовіў рыбак. І дадаў. – Я, калі збіраюся, бяру ўсё, што можа спатрэбіцца. Ну як жа ты гэтак спудлаваў?

– Маеш рацыю... У тым і справа, я абсалютна не спадзяваўся сустрэць нешта такое, што нельга ўзяць трызубам. Таго сама, мой самы вялікі трафей, на дваццаць кілаграмаў, я ўзяў трызубам. Трапіў у жаберную крышку, хапіла. А тут нешта неверагоднае! Я вельмі цябе прашу – давай з'ездзім! Калі не дачакаецца, ну што ж – значыць, такі лёс. Буду дзякаваць Творцу, што хоць паказаў мне такое.

– Натуральна, паедзем! – усклікнуў рыбак. – Я проста баюся, што пакуль з'ездзім, яго ўжо там не будзе. Але нічога іншага не застаецца...

...Яны вярнуліся праз паўтары гадзіны. Падводнік гэтым разам меў дзве аднатыпныя стрэльбы, аснашчаныя "кулямі" і накачаныя так, што ледзьве хапала сілы, каб іх зарадзіць. Сумненне выклікаў толькі капронавы шнур на шпулі.

– Зараз шкадую, што ў свой час пасквапнічаў, не набыў кеўларавы шнур. Баюся – ці вытрымае капронавы? – непакоіўся падводнік. Ён стараўся захаваць спакой, але адчуваў, як ад сэрца па ўсяму целу разыходзіліся хвалі нервовых дрыжыкаў.

– Што за "кеўларавы"? – спытаў рыбак.

– Сінтэтычны матэрыял. Валокны яго ў некалькі разоў мацней за гэткай жа таўшчыні стальныя. Ідзе на вытворчасць куленепрабівальных камізэлек. Апошнім часам шнур з яго сталі прадаваць у крамах для падводных паляўнічых. Дарагі, зараза! Ад даляра да двух за пагонны метр. Мог набыць, але "жаба цісканула", падумаў – ну навошта мне гэткі дарагі, калі і капронавы таксама моцны, я яго рукамі парваць не магу...

– Дай паспрабую, – папрасіў рыбак. Накруціў на далоні шнур з шпулі, з усяе сілы пацягнуў. Ажно твар скрывіўся грымасай напружання. – Моцны! На такім акулу можна выцягнуць. Ну – зычу поспеху! Ні хваста, ні лускавінкі зычыць не буду, у яго і так лускі няма.

Падводнік брыў па асохлым дне Прыпяці. Узбуджэнне прайшло, яго месца заняла разгубленасць. Ён усведамляў моц суперніка, які – ён спадзяваўся – ляжыць зараз у пячорцы пад карчом, і не ўяўляў, як яго ўзяць. І як самаму не апынуцца ў становішчы аб'екта палявання? Чытаў неяк у дайверскім часопісе пра выпадак, як 60-кілаграмовы загарпунены сом раптам кінуўся на паляўнічага і па плячо заглынуў яго руку. Паляўнічы важыў гэтулькі ж, як і сом, падзеі адбываліся на глыбіні 10 метраў, і ўсплыць з такім грузам на руцэ ён не спадзяваўся. Але не запанікаваў, некалькі разоў ударыў таго нажом, пасля чаго сом адпусціў. Падводнік палічыў спачатку гэты выпадак фантазіяй, але пасля таго, як аднойчы на яго далонь кінуўся і ўчапіўся невялікі сомік, паверыў.

Некалькі разоў дастаў-уставіў у похвы нож – правяраў, ці лёгка вымаецца.

Што яшчэ можа быць? Быў выпадак, як загарпунены сом звязаў крыўдзіцелю ногі лінём. Праплыў вакол і выключыў ласты. Праўда, у гэткім выпадку можна ўсплываць "дэльфінам". Ну, і ёсць нож. Галоўнае

– у экстрэмальны момант не выпусціць яго з рукі... Глыбіні тут невялікія, не больш за пяць метраў, хоць у іншыя часы звычайна каля васьмі.

Яшчэ што? Паранены сом, з якога вытыркаецца гарпун, можа, б'ючыся, ударыць вастрыём паляўнічага. Тут трэба проста быць уважлівым. Усяго ўвогуле не прадугледзець. Не панікаваць!

Не ўпусціць бы падранка. Гэта самае непрыемнае. Часам гэта здаралася, і тады падводнік доўга нерваваўся, лаяў сябе за спешку або за маруднасць. Або за нятрапную стральбу.

Нават загарпуненыя двухкілаграмовыя язі амаль ніколі не здаюцца адразу. Б'юцца, блытаюць лінь на суках карчоў, часам – сыходзяць з гарпуна, разрываючы плоць. Гэты гігант таксама можа лёгка парваць сябе і сысці з гарпуна. Або выгнуць "сцяжкі", што не даюць гарпуну выслізнуць. Або парваць лінь.

Трэба стрэліць так, каб трапіць у жыццёва важныя цэнтры. У сэрца, або ў мозг. Ці ў пазваночнік. Але ў яго тоўстыя, магутныя косці, наўрад ці ўдасца іх праламаць.

Падводніку ўзгадаўся выпадак, калі ён ідэальна загарпуніў сама – так, што той не супраціўляўся. Ён нырнуў пад "дах" – гэтак падводныя паляўнічыя называюць густыя галіны берагавых кустоў, якія палошчуцца ў вадзе. Рака набівае ў іх празнае смецце, там прарастаюць водарасці, і атрымліваецца шчыльная заслона ад дзённага святла, пад якой любяць хавацца ўдзень самы і станавіцца ў засаду шчупакі. Нырнуў да самага дна, пачакаў, пакуль вочы адаптуюцца да змроку, і агледзеў прастору. Уверсе, пад самым дахам, прытуліўшыся да яго спінаю, яскрава выдзяляючыся белым жыватом на цёмным фоне, вісеў у вадзе сомік. Падводнік падняў стрэльбу, яна была тым разам зараджана "куляй", і стрэліў знізу ў галаву. Гарпун трапіў у мяккія тканкі адразу за месцам, дзе сыходзяцца жаберныя крышкі. Падводнік чакаў, што сомік пачне біцца на гарпуне, заблытаецца ў галінах, але нічога такога не адбылося. Рыба нават не здрыганулася. Проста як вісела, так і апусцілася павольна на дно пад цяжарам гарпуна. Потым, калі падводнік разбіраў здабычу, то ўбачыў, што гарпун прайшоў акурат праз маленькае, з пазногаць, сэрца. Але як трапіць у сэрца гэтаму гіганту, які ляжыць жыватом на дне?

Так нічога і не вырашыў.

Калі прыйшоў на бераг насупраць "самовага" карча, запасную стрэльбу, без шпулі, з кароткім лінём, пакінуў у траве.

Надзеў маску і ласты. Аслабіў на шпулі тормаз.

У думках звярнуўся да Бога: "Дзякуй, Госпадзе, што паказаў мне рыбіну. Дапамажы, калі ласка яе здабыць! " І засаромеўся: "Даруй, што звяртаюся да Цябе з меркантыльнаю просьбаю..."

Доўга, можа хвіліны са дзве, рабіў вентыляцыю лёгкіх.

Нырнуў у некалькіх метрах ніжэй карча, вельмі асцярожна, чапляючыся пальцамі правай рукі за дно, падабраўся, выглянуў. Рыбіна была на ранейшым месцы. Ляжала, утаропіўшы абыякавы позірк у прастору. Хоць выраз "твару" мела пагрозлівы. Перабраўся на процілеглы бок карча і, ледзьве-ледзьве варушачы ластамі, паплыў над самом. Вырашыў страляць у карак – дзе заканчваецца галава. Спадзяваўся пашкодзіць пазваночнік і такім чынам паралізаваць гіганта. Ён прасоўваўся ў вадзяной тоўшчы над зеленавата-шэрай самовай спінай, а той усё не заканчваўся. Палец занямеў на спуску стрэльбы. Нарэшце паказалася галава, шырокая, як

дзяжа. Падводнік ведаў, што моцна напампаваная стрэльба ў час стрэлу тузаецца ўверх, таму пачаў цэліцца з улікам, што яе падкіне.

Сом заварушыўся. Відаць, адчуў “сярэдняй лініяй” над сабою хвалю, што давала істота, параўнальная памерамі з ім. Выгнуўся ўправа, потым улева. Сэрца падводніка дало збой і, здаецца, перастала біцца. Ён мітусліва павёў наканечнік гарпуна за кропкай, якую выбраў у якасці мішэні, і націснуў на спуск. Адначасова сом рэзка і магутна выгнуўся, гарпун шчоўкнуў і да паловы ўткнуўся ў пясчанае дно. У нейкіх міліметрах ад сама. З гнуткасцю змяі той разварнуўся і, узняўшы воблака муці, растаў. Быццам не было.

Толькі цяпер падводнік адчуў, як яму пакутліва хочацца дыхнуць. Не стаў выдзіраць з дна гарпун, раскручваць лінь са шпулі, выбраўся з-пад карча, усплыў і доўга ляжаў на вадзе, ухапіўшыся за сук. Дыхаў. Аддыхаўшыся, нырнуў, вызваліў з пяску гарпун. Аддаўся на волю плыні, пачаў накручваць на шпулю лінь. Ажно пакуль не адчуў, што плынню яго вынесла на мель. Седзячы на дне, вады тут было ледзьве па калена, моўчкі вылаяўся.

“Ну як можна было прамахнуцца з адлегласці меней за метр? Мазіла! Істэрычка! Мітуслівая істэрычка! – кляў сябе падводнік. – Няма апраўдання! Сорамна прызнацца нават сабе – з некалькіх дзясяткаў сантыметраў прамазаў па велізарнай рыбіне! Яна займала амаль усё поле зроку! Хоць з іншага пункту – гэта лепей, чым калі б я яго падраніў, а ён уцёк паміраць. Сумленне маё можа быць спакойным”.

Ён зноў зарадзіў стрэльбу. Задумаўся. Што рабіць – ці пераключыцца на пошук язёў ды судакоў, сплываць уніз ці паспрабаваць знайсці ўпушчаны трафей зноў. Досвед падказваў яму, што спуджаныя самы часта вяртаюцца на аблюбаванае месца. Мо і гэты вернецца? А калі не – варта старанна абшукаць усю гэтую яму. Рэчка перасохлая, больш-менш глыбокіх месцаў засталося няшмат, рыба выбітная – шанцаў знайсці яе нямала.

Цярпення чакаць хапіла хвілінаў на дваццаць. Падводнік падкраўся да карча, вызірнуў і – о цуд! – на ранейшм месцы ўбачыў насуплены “твар”. На гэты раз той не стаў ігнараваць яго з’яўленне – борзда крутануўся, і падводнік выстраліў наўскід у тое, у што паспеў – у шырозны самовы хвост. Гарпун глуха тукнуў прыкладна ў апошнюю трэць тулава, шпуля на стрэльбе шалёна закруцілася, аддаючы лінь, і раптам спынілася. Падводнік пахаладзеў ад здагадкі і пацягнуў лінь на сябе. Ён пайшоў вольна, без супраціву. Гарпуна на ім не было. Лінь трапіў на невялічкі падводны пень, паўз які праімчаўся паранены сом, нацягнуўся, і гэтага хапіла, каб лёгка, без намагання парваць капронавы шнур, парваць якога рукамі не здолеў зусім няхілы падводнік.

“Ну чаму, чаму я пашкадаваў грошай на кеўларавы шнур? – гараваў падводнік. – З-за маёй сквапнасці я ўпусціў, можа быць, трафей усяго майго жыцця! Эх, каб жа ведаць, што чакае! – тут жа супакойваў сябе. – Паводле закону Мэрфі, калі б я набыў той шнур, я б нізавошна не сустрэў гэтага гіганта...”

Падводнік сядзеў на беразе ў траве, спусціўшы ногі ў ластах у раку. Прывязваў другі – апошні – гарпун. У гарачцы хацеў быў схапіць запасную стрэльбу, на якой не было шпулі, а толькі метры два ліня, і кінуцца на пошукі падранка, але своечасова зразумеў – нават калі ўдасца знайсці і выстраліць, то без шпулі сом папросту адбярэ ў яго стрэльбу. Вырве з рукі, і ўзгадвай потым, якая яна была. А на “асноўнай” стрэльбе, на шпулі, ліня заставалася яшчэ дзясятка паўтара метраў.

Ён стаў сістэмна, праз кожныя паўтара-два метры даследваць дно ямы. Ад правага берага ныраў упоперак ракі, праходзіў усю яму, вяртаўся назад, падымаўся крыху ўверх, зноў ныраў. Імкнуўся не пакінуць ніводнага неабгледжанага лапіка. І хвілінаў праз сорак, калі прайшоў ужо больш паловы, ён знайшоў яго. На звале ў яму, падводнік ужо збіраўся вынырваць і вяртацца да берага, заўважыў, як за невялікім корчыкам на мяжы бачнасці заварушылася цёмная маса. Падводнік паспеў заўважыць вялізны сілуэт і зноў выстраліў наўскід. Ізноў пачуў удар гарпуна, зноў шалёна закруцілася шпуля. Сом кінуўся спачатку ўпоперак ракі, відаць, выскачыў на плыткае і вярнуўся назад у яму, пайшоў уніз па рацэ. Падводнік запрацаваў з усяе сілы ластамі, каб максімальна аслабіць лінь, які ўжо заканчваўся. Хапіла яго секунд на дваццаць, і падводнік адчуў, як на тым канца магутна варушыцца, ірвецца, буксіруючы яго па рацэ, рыбіна. Не перастаючы веславаць ластамі, усплыў, глынуў праз трубку паветра. Невядома, наколькі ён аслабіў нацяжэнне ліня, але ўвесь час адчуваў буксіроўку. Сом прайшоў яму, ірвануў да левага берага, там было глыбей, мо метры паўтара, пацягнуў уніз. Ля левага берага было шмат карчоў – рака рабіла выгін і падмывала бераг, з якога ў ваду спаўзлі дрэвы і кусты. Праз хвіліну-дзве буксіроўка раптам спынілася. Пачаў падкручваць на шпулю ліць і ўрэшце знайшоў тое, чаго баяўся – сом накінуў лінь на корч, з'явілася нацяжэнне і лінь лопнуў. Падводнік застаўся без зброі, а самае горшае – упусціў падранка.

Апошнія некалькі хвілінаў барацьбы так выснажылі пачуцці, што з вады ён выйшаў, як агаломшаны. Зняў ласты, ссунуў на шыю маску, забраў другую стрэльбу і паплёўся па рэчышчы ўніз, да рыбака.

Той ляжаў на высокім беразе ў траве, падклаўшы рукі пад галаву і ўтаропіўшы амаль сляпыя вочы ў неба. Пачуў крокі, сеў.

– Не стаміўся мяне чакаць? – першым загаварыў падводнік, падыходзячы.

– Не, мне на рацэ не бывае сумна. Ну – што? Дачакаўся цябе твой монстр?

– Дачакаўся. Але не з маёй зброяй на такога ісці. Два гарпуны ў мяне адабраў, знёс. Я цяпер зусім абяззброены. Выбачай, нават плотак для цябе няма чым настраляць.

– Няўжо шнур парваў?

– Сам не веру, але так, – і падводнік распавёў рыбаку падзеі апошняй гадзіны. – Застаецца толькі пасыпаць галаву дарожным пылам, што ў свой час паскупіўся набыць для ліня кеўлараvы шнур. А найбольш мяне бянтэжыць, што падранак у рацэ. Першы стрэл я бачыў – у хвост трапіў, з гэтай ранай выжыве. А другі – не заўважыў, куды трапіў. Калі па жываце – не жыць яму. Не сабе, ні Богу. Давай заўтра з раніцы прыедзем? Такі вялізны, можа ўдасца знайсці. Я адмыслова падрыхтуюся. Ёсць у мяне пару сяброў, не тое, што я – яны ўвесь час велікана-сама чакаюць. А сустрэў я, каторы не чакае... Хоць каб сёння меў лінь з моцнага шнура... Быў сёння ў мяне шанец, быў...

– Не змерз? – рыбак сцепануў плячыма – Вып гарачай гарбаткі? Каўбаса ёсць – паеш. Вып гарбаты, а то прастудзішся! Не? Чаму? Ну глядзі...

І потым, калі падводнік скінуў гідракасцюм, і, стоячы на халодным, пранізлівым ветрыку, расціраў цела ручніком, – увесь час войкаў: "Ой, ты ж прастынеш! Ой, не беражэшся!"

– Ты казаў пра той апарат... Ну, што падводнікі ўвесь час пры сабе... – спытаў рыбак, калі яны ўжо ехалі ад ракі. – І што – прыходзілася карыстацца?

– Прыходзілася... – усміхнуўся падводнік. – Асабліва ў памяці васямнаццатага студзеня восемдзесят першага года. Мы тады непадалёк ад Шпіцбергена былі. Я толькі на вахту заступіў, як аварыйную трывогу зазванілі. Гарэлым ля паста кіравання рэактарам запахла. На лодках гэта часта бывае – кругом электрычнасць, то там каратне, то там паленым засмярдзіць... Лічыцца – лепей сто разоў дарэмна “патрывожыцца”, чым адзін раз сапраўдны пажар праваронiць. Ну, прыняў я даклад з гірапаста, што нашы ўсе прыбеглі, даклаў у Цэнтральны, зачыніўся ў штурманскай і займаюся сваімі справамі. Думаў – як заўжды – зараз знойдуць, дзе ізаляцыя задыміла, адключаць прыбор ды і адбой трывогі. Аж не! Чую праз зачыненыя дзверы, што ў Цэнтральным штосьці на павышаных размаўляюць. Ёсць у падводнікаў такое паняцце – “аварыйны голас”, дык вось якраз тады і пачуў яго з Цэнтральнага. Адчыняю дзверы – а ўвесь Цэнтральны ў дыме! Камандзір з механікам спрачаюцца – даваць ЛОХ на адсек, ці не даваць. ЛОХ – гэта сістэма пажаратушэння, вадкасць такая распыляецца з фарсунак, запаўняе адсек і ўсё, што гарыць, – тушыць. Разам з жыццём, калі “сродкі абароны органаў дыхання” не надзець. Так што прыйшлося тое ПДУ надзяваць і ў ім з гадзіну жыць. Хоць паводле інструкцыі яно на дваццаць хвілін разлічана. Яно – каб у іншыя сродкі пераключыцца, з большым тэрмінам дзеяння.

Тады далі-такі ЛОХ. І пяць чалавек ледзьве не ўкантрапупілі. Тых, хто не паспеў надзець. Але дзякаваць Богу – усіх адкачалі.

А пажар тады быў даволі сур’ёзны. Нават метал дзе-нідзе паплавіўся. Але як ЛОХ далі, адразу і патух. Калі табе цікава, набяры ў кампутары: “Пожар подо льдами” – якраз на інтэрв’ю нашага камандзіра выведзе. Ой! Даруй! Я яшчэ не прывык да твайго абмежавання, забываюся. Тым больш, што інтэрв’ю тое – вельмі... як бы гэта сказаць, каб камандзіра не пакрыўдзіць... з вялікай часткай фантазіі. Захацелася камандзіру на старасці героем пабыць, ну і паддаў пары – падрабязнасцяў, якіх не было. Лёду над намі не было, канарэек у кают-кампаніі не было... Шмат чаго не было, што наш кэп праз трыццаць гадоў наплёў...

...Асенні дзень кароткі. Ужо даўно звечарэла, калі падводнік нарэшце адагнаў рыбакову “Ніву” ў гараж, вярнуўся, вымыў пад душам рыштунак і патэлефанаваў падводнаму паляўнічаму з суседняга дома, якога лічыў прыяцелем. Той паляваў рэдка, два-тры разы за сезон, але меў майстарскую стрэльбу “Каюк” са шпуляй і кеўларавым лінём. Падводнік пару разоў рабіў ягонай стрэльбе невялікі рамонт.

– У мяне сёння сом два гарпуны знёс. Якраз ад самых моцных стрэльбаў. Маю яшчэ чатыры, але не на такую рыбу – гомельская гідрапнеўматыка ды арбалеты. Будзь ласкавы – пазыч на заўтра свайго “Каюка”. Трэба таго падранка знайсці, – папрасіў падводнік, упэўнены ў станоўчым адказе.

– Не, – цвёрда адказаў сусед. – Ты ж сам вайсковец у мінулым, ведаеш – зброю ў чужыя рукі нельга.

– Вось так? – здзівіўся ад нечаканасці падводнік. – Дык... Юрыдычна падводныя стрэльбы не з’яўляюцца зброяй... Яны хутчэй – прылады, снасці для рыбалкі...

– Не-не. Люльку, стрэльбу і жану нікаму не аддаю! – хіхікнуў сусед. – Выбачай.

І паклаў слухаўку.

– Вось не разбіраешся ты ў людзях, – сказала падводніку жонка. – Я табе колькі разоў казала – не сяброўскі гэта чалавек! Ніколі ні за чым да яго не звяртайся, іначай будзеш расчараваны і прыніжаны.

– Не буду, – буркнуў падводнік. – На ім свет клінам не сышоўся.

Урэшце стрэльбу, гэткую ж, як і ў падводніка, але абсталяваную вялікай самаробнай шпуляй з надзвычай моцным лінём, прынёс маладзён. Прапаноўваў яшчэ самаробную, уласнай канструкцыі, якую зусім нядаўна закончыў рабіць, але падводнік адмовіўся.

Ноч прайшла неспакойна. Яму сніўся Цэнтральны Пост падводнай лодкі. У камандзірскім крэсле сядзеў сом і, разяўляючы велізарную пашчу, гарлаў: “Аварыйная трывога! Пажар у трэцім! Асабоваму складу ўключыцца ў індывідуальныя сродкі абароны органаў дыхання! Даць ЛОХ на трэці!” Падводнік надзяваў акуляры ПДУ, усоўваў у рот загубнік і пачынаў задыхацца...

...На бераг прыехалі праз гадзіну пасля світанку. Раніца выдалася ветраная, і ў падводніка – пакуль надзяваў гідракасцюм – замерзлі пальцы на руках і нагах. Выручылі дзве бутэлькі з гарачай вадою. Заліў у шкарпэткі, у пальчаткі, у куртку.

Пехатою па зігзагу прайшоў плыткія месцы – на выпадак, калі б плынь вынесла бітую рыбіну. Пошук пачаў гэтак жа, як учора – упоперак ракі, пачынаючы кожны наступны нырок на паўтара – два метры вышэй. Ныраў, не адчуваў часу, але з кожным нырком губляў надзею. Заставалася яшчэ два-тры ныркі. “Значыць, пакінуў яму, – думаў падводнік, – і перайшоў у другую. Тут вышэй, за другім паваротам, ёсць невялікая. Пайду, абшукаю яе. Калі не знайду – буду сплываць уніз і шукаць ніжэй”.

Нырнуў, пайшоў уніз па звале да самага глыбокага месца, па дарозе прадзьмуў вушы, выраўняў ціск у еўстахіевых трубах з “забортным”, пайшоў уздоўж дна, выглядаючы падводныя карчы, дзе магла б стаяць рыбіна. Карчоў не было, дно ўсцілаў амаль белы пясок. Толькі злева ўздоўж ракі ляжала бервяно. Падводнік бачыў яго бакавым зрокам і ўжо амаль прайшоў, як ля бервяна нешта бліснула. Нават не бліснула, а цьмяна заблішчэла. Ён скасіў позірк, і бервяно аказалася сомам. Ляжаў сабе на пяску галавою да плыні, а блішчастая штука была гарпуном. Гарпун тырчэў з самовага хваста, як зубачыстка з селядца. Падводнік паспеў яшчэ заўважыць метровы адрэзак ліня, калі сом заварушыўся, выгнуўся, запрацаваў хвастом і паплыў уздоўж дна. Рухі яго былі няспешнымі, паважнымі, поўнымі моцы і годнасці. Падводнік плаўна выцягнуў руку са стрэльбай у накірунку самовай галавы і націснуў на спуск. Закруцілася шпуля. Падводнікі ўсплыў, глынуў паветра і запрацаваў ластамі. Лінь паказваў, што рыба на другім яго канцы з усяе сілы цягне ўніз, па плыні. “Толькі б не закруціў лінь на корч, – думаў падводнік, – лінь, можа, і вытрымае, але сом парве цела”. За некалькі дзясяткаў секунд прайшоў яму. Ніводнага карча не зачапіў. Выйшаў на плыткае. Падводнік падняў галаву і ўбачыў уперадзе, метрах у дваццаці, магутную хвалю. Потым з вады падняўся хвост і ўдарыў па паверхні. Перастала раскручвацца шпуля. Няўжо сарваўся? Падводнік асцярожна пацягнуў лінь і адчуў на тым канцы цяжкі рух. Не, проста спыніўся. Зараз трэба асцярожна вярнуць раскручаны лінь на месца, каб,

калі зноў зробіць рывок, не даць апоры. Павольна стаў круціць шпулю, накручваць лінь. Вярнуў амаль увесь, заставалася метры тры, сом, відаць, адчуў яго прыбліжэнне і рвануўся ўлева, упоперак ракі. Потым зноў уніз, метраў дзвесце. Гэтыя рыўкі працягваліся шмат разоў – то ўлева, то ўправа, то зноў уніз. Кожны раз за некалькі дзясяткаў секунд сом раскручваў амаль усю шпулю, а потым буксіраваў падводніка, які з усяе сілы працаваў ластамі, каб як мага аслабіць лінь. Ажно пачаліся сутаргі ў лытках. Але драпежнік таксама стаміўся – паўзы станавіліся ўсё больш працяглыя, і падводнік кожны такі перапынак паспяваў накруціць лінь на шпулю. “Госпадзе! – у думках звяртаўся ён. – Не дазволь яму сарвацца з гарпуна! Калі ўжо Ты паказаў яго мне, дазволіў загарпуніць, то не дазволь яму дарэмна прапасці!”

Натрапіўшы чарговы раз на пясчаную водмель, сом кінуўся ў адзін бок, у другі, знайшоў ля правага берага глыбейшы “фарватар” і пайшоў назад, супраць плыні. Падводніку прыйшлося ўзмацніць працу ластамі. То адну, то другую лытку скручвала сутаргай, але прыходзілася цярпець да чарговай паўзы. Тады падводнік станавіўся на дно і са скавытаннем цягнуў ласту за лопасць, як за рычаг, каб зняць скоўваючае напружанне цягліцы. Колькі гэта працягвалася, падводнік не ведаў – згубіў адчуванне часу. Такое ў час падводнага палявання з ім здаралася неаднаразова – тры або чатыры гадзіны ўспрымаліся як паўгадзіны, шэсць-восем – як гадзіна.

Урэшце яны зноў вярнуліся ў той вір, з якога пачалі. Сом перастаў цягнуць і на асцярожныя праверкі адказваў толькі невыразнымі рухамі, што перадаваліся па ліню, ненакручаная рэшта якога гэтым разам паказвала амаль вертыкальна ўніз. Ахвяра была пад паляўнічым. Падводнік прывычна штурхнуў цела на глыбіню. Пайшоў уздоўж ліня, які перакрэсліў шызую прастору брудна-зялёнай лініяй. Што ён мае рабіць, калі падыйдзе да рыбіны, падводнік не ведаў і ніякага плану не меў. Нырнуў проста каб яшчэ раз паглядзець на гіганта, на байца, які ўжо задаў яму гэткую незабыўную барацьбу.

Драпежнік стаяў на дне пад стаўбуром паваленага дрэва. Галава яго і большая частка тулава хавалася ў галінах за межамі бачнасці, а хвост вытыркаўся на чыстае. З хваста тырчэў учарашні гарпун з абрыўкам чырвонага капронавага шнура, адзін, другі відавочна згубіўся. Ён прабіў хвост наскрозь, сцяжкі наканечніка раскрыліся і не давалі гарпуну вываліцца. Падводнік паклаў стрэльбу на дно, павольна-павольна, асцярожна-асцярожна прыблізіўся, працягнуў абедзве рукі да канцоў гарпуна з абодвух бакоў самовага хваста і рыўком схапіў іх. Упёрся нагамі ў стаўбур, усім тулавам пацягнуў сама з-пад дрэва. Той адказаў магутнымі выгінамі цела і ледзьве не вырваў “рукаяткаў” з рук. Вось паказалася яго галава. Сом тузаўся і цягнуў падводніка ўздоўж дна. Потым, калі, відаць, зразумеў, што ўцячы не ўдаецца, выгнуўся колам і ў двух дзясятках сантыметраў ад твару падводніка зашчоўкала агромністая зяпа, усеяная густой шчоткай вострых, як іголкі, зубоў. Падводнік адчуў моцны ток вады, якую ўсмоктваў драпежнік. Гэтак самы-гіганты ўсмоктваюць неасцярожную рыбіну, часам нават цэлы касяк малькоў. Пашча шчоўкала зусім блізка ад ілюмінатара маскі, каб дацягнуцца, пачвары зусім трохі не хапала эластычнасці.

Вельмі захацелася дыхнуць. Але ўсплыць на паверхню – хоць падводнік з усяе сілы працаваў ластамі – з гэтай выгінастай тушай не ўдавалася, ці ўдавалася вельмі павольна. Адпусціць – значыла даць магчымасць драпеж-

ніку ажыццявіць спробу схапіць яго. З такім грузам, які ўжо сам трымае цябе, кантралюе, усплыць будзе яшчэ больш праблематычна.

“Няўжо гэта ўсё? – здзіўлена падумаў падводнік. Паглядзеў уверх. Над імі ледзьве бачная калыхалася паверхня Прыпяці. Відаць, там ішоў дождж, бо паверхня была пакрыта шматлікімі дробнымі ўсплёскамі. Свядомасць пачала муціцца, цела агарнула млявая абыякавасць, думкі запаволіліся, але за адну ён зачапіўся. – Па тэлебачанні паказвалі, што акулы, перакуленыя дагары жыватом, уваходзяць у транс”. З намаганнем крутануў “ручкі” з абодвух бакоў самавага хваста ўправа. Пайшло! Сом засвяціў белым чэравам і павольна разагнуўся. Абодвух калыхнула. Ага, значыць, усплыў. Падводнік, амаль губляючы прытомнасць, дзьмухнуў у трубку, і зрабіў уздых.

Агледзеўся. Пакуль яны змагаліся ля дна ямы, плынь занесла іх у зацішное месца. Да бліжэйшага берага было метраў сем. Павольна – зусім не было сілаў – паплыў. Намацаў нагамі дно. Стаў. Нож выйшаў з пахваў лёгка. “Даруй мяне, – папрасіў думкаю сама. – Ты класна змагаўся. Але сёння пашанцавала мне. Даруй”. Пагрузіў клінок у мяккае – там, дзе жаберныя крышкі ўтвараюць кут. Сом здрыгануўся і замёр. З раны выйшла крыху крыві, афарбавала ваду ў ружовае. Плынь сквапна падхапіла ружовую ваду і знесла.

...Дождж барабаніў па даху “Нівы”, а ў ёй пахропваў рыбак. Прачнуўся і вінавата загаварыў:

– Змарыла мяне... Гэта, відаць, перад дажджом. Такая млявасць напала, такая! Залез і адключыўся. Ведаеш, з такім задавальненнем паспаў! У кватэры нізавошта гэткага сну не бывае. Ну, як твае поспехі? Дачакаўся трафей свайго паляўнічага?

– Дачакаўся! Вось – ледзьве з вады выцягнуў.

– Дзе? – рыбак, не зважаючы на дождж, борздзенька выскачыў з “Нівы”.

– Ды вось, у траве ляжыць!

Рыбак абмацаў рыбіну.

– Ах, шкада, што не бачу!.. Толькі пляма. Колькі, думаеш, важыць? А як пахне! Як пахне!

– Якая розніца – колькі важыць! Дзякуй табе! Гэта твая Фартуна мне дапамагала. Бачыш – я амаль сорак год палюю, і ніколі нічога падобнага, а з табою – з першага ж разу!

З-за хмараў вынырнула чарада гусей, амаль чорных на шэрым небе, спікіравала да Прыпяці, узмыла крыху ўгору, зрабіла кола вакол адзінокага аўтамабіля і дзвюх постацяў, што схіліліся над вялізнай рыбінай. Заляцела за паваротку ракі і там села.

Анатоль Івашчанка



...Не той паэта, хто вершыкі піша,
не той празаік, хто піша пра заек...

# Сінявокая

## *цы*

ад сябе далёка не ўцячы
сонца танчыць зайчыкам на плячы
нос казыча ранішняе капучы
на павестцы дня задача
перамагчы

не забыцца набыць панівіль дачцэ
(сонца скача зайчыкам на шчацэ)
кава распускаецца ў малацэ
за вакном сплываюць трупы ворагаў
па рацэ

ад сябе далёка не ўцячэш
покуль *цы* па целе крыху цячэ
не прыспела пара вяртацца дамоў на шчыце
пачакаем, братка, яшчэ

*Вільня, 2015*

## ЦЕЛА ВОСЕНІ

вочы слязяцца
вусны крывавяць
ногі брыдуць па шашы
жабкамі лісце пера-
бягае дарогу
гіне пад коламі
неба расколата-
е больш не вабіць
не кліча

ў горадзе восень
ў чорных пакетах
бы расчлянёнку
ўздоўж тратуараў
павыстаўлялі
каб чумавозы
цела яе
звезлі на сметнік

хопіць істэрык
хопіць цытатаў
*вечнае смагі*
*новых сусветаў*
досыць пісаць
і чытаць
і закошваць пад знаўцу...

дужа... херова
але не з прычыны
нейкай канкрэтнай
пэўнай ды поўнай
проста
даўно
не было
снегападу

## НЕ ТОЙ ПАЭТА

Не той паэта, хто вершыкі піша,
не той празаік, хто піша пра заек.
Цяперашнім часам пісьменнік іншы
найболей збярэ падабаек.

Той, хто напіша *чоткі* пражэкт,
той, хто засвоіць найбольшы бюджэт,
хто ўсё разруліць, выдаіць грант...
Вось хто цяперака думкі гігант!

Ён здольны звышхутка усё разумець.
Ён можа на раз махануць рэзюмэ,
ў якім наспявае харэем ці ямбам
заслугам сваім стопяцьсот дыфірамбаў.

Усмешка на твары, змяя у грудзёх.
Затроліць усіх. Засцябае усё.

Вы скажаце, гэтак заўсёды было:
*кидали понты*, пілавалі бабло.
Магчыма, і гэтак, магчыма, і не...
Думаю, вы зразумелі мяне.

### *СІНЯВОКАЯ*

Мая сінявокая смерць,
ці можаш пакуль не глядзець
ў люстэрка задняга віду?
Без крыўдаў.

Мая басаногая смерць,
ці выйдзеш мяне сустрэць,
калі я вярнуся дахаты
а пятай?

Мая нешматслоўная смерць,
ці будзеш мяне разумець,
як здраджу я мове адзінай
з лацінай?

Мая адзінокая смерць,
ці зможаш мяне сагрэць,
палячы ў цемры двароў,
без слоў?

Мая сінявокая смерць
чарговую свечку задзьме
на торце святочным маім.
Дзьмі, любая,
дзьмі...

* * *

шпіталь ветэранаў вав
вяртушка на выхадзе
вертухайкі
ў калідорах
маладзенькія
(нават сэксі –
па кантрасце)
абслугоўваюць
ветэранаў вайны і працы
як дайсці да буфета
дзе прыёмны пакой
дзе знаходзіцца бібліятэка
грэбліва-ветліва
адказваюць
мухам-назолам
ад якіх патыхае мылам
але
па ўсім
не высакароднай
заслужанай
старасцю

## WWW

колькі ўва мне
мяне
колькі ў табе
цябе
колькі ў нас
нас

хто зможа даць адказ
*wer?*
*wo?*
*was?*

## РАСКОЛІНА

у гэтай прасторы ты кожнаму нешта павінны
тут не разважаючы кідаюць кпіны у спіны
у цеснай задушлівай рубцы падводнае лодкі
бы пранцы, пладзяцца бясконцыя цёркі ды плёткі

тут б’юць па сваіх (ды чужыя баяцца не надта)
тут кожны кіруе уласным нябачным парадам
тут ганіць святое здаўна ёсць прыкметай эстэта
калі вы эстэт – *bardzo prosimy* ў нашае гета

тут прынцып спрадвечны: не дзякуючы а насуперак
тут лялька гумовая лічыцца першай красуняю

тут слухаюць дупай, тут лесу з-за дрэваў не бачаць
панылае *чмо* тут пачуецца казачным *мача*

бязрукія пляскаюць ў ладкі, руіны страляюць
бязрукавы спраўна паўнюткія залы збіраюць

тут радыё рокс вызнае крымінальны шансон
а радыё стыль корміць *people* расейскай папсой

пасля палітэха тут пішуць някепскую прозу
а хлопцы з філфака адточваюць форму даносу

тут вучаць у педах майстэрству мастацкага свісту
на мове гамэра тут допыт вядуць кадэбісты

тут хаза з баландай нярэдка мянуецца “дом”
тут перадаецца праз гены стакгольмскі сіндром...

пасля эпікрызу звычайна ідзе эпілог
ды скончым шматкроп’ем зацягнуты наш маналог

## *GUNS N’ ROSES (РУЖЖЫ ДЫ РУЖЫ)*

Падарожжа
асабліва на свежыя дрożджы
ды пад ранішні жнівеньскі дождждык –
хіба штосьці шчэ можа быць лепш?

Чым далейшым
чым далейшым стаецца замежжа,
то ўсё меней *вид тебе* залежыць
ды праўдзівейшым робіцца верш.

Кіламетры
усё бліжай і бліжай да мэты

з кожным словам далей ад мяне ты,
хоць насамрэч, насамрэч – бліжэй.

Ў падарожжы
ператворацца ружжы ў ружы,
непітушчы нат стане відушчым,
каб пасля не заплюшчыць вачэй.

## АБЛОКІ

*Алесю Юркойцю*

А недзе наверсе лятуць аблокі,
а дзесьці над шэрасцю – ясны блакіт.
І цяжка паверыць, што з гэтай аблогі
ёсць вызваленне, што сыдуць снягі,
што новае неба па-над смугою
заззяе бурштынам сакавіка...

І усміхнецца ранак герою.
І ён усміхнецца ў адказ.



Таццяна Будовіч-Барадуля



...я зразумела, што зрабіла тое,
што трэба было зрабіць...

# Помста

*Два апавяданні*

## Маё рашэнне

Я вельмі люблю дарогі. Сесці за руль уласнага аўто, завесці матор і – імчаць кудысьці далёка, слухаючы, як ён працуе, – гэта найлепшая музыка для мяне, таму амаль ніколі ў салоне не ўключаю магнітолу. Што яшчэ трэба для шчасця не абцяжаранаму сямейнымі абставінамі чалавеку?

Менавіта ў такім стане, за такім заняткам я абдумваў большасць праблем, у тым ліку працоўных, а ў мяне як у галоўнага ўрача раённай палiклінікі іх нямала. Часта рашэнні прыходзілі самі сабой, і я лёгка "разрульваў" складаныя сітуацыі ў сваёй установе, якая каторы ўжо год лічыцца ў горадзе адной з лепшых.

Але апошнім часам я, знаходзячыся за рулём, пачаў лавіць сябе на нейкай дзікунскай думцы: калі па сустрэчнай паласе на хуткасці набліжалася фура, узнікала вострае

жаданне рэзка выкруціць руль улева, акурат пад колы той махіны. І таму я зусім не здзівіўся, а наадварот, з нейкім пачуццём мазахісцкага задавальнення і самапомсты, прыняў навіну адносна стану майго здароўя. Калегі ледзь не сілай змусілі мяне прайсці процьму розных абследаванняў пасля таго, як некалькі разоў я страчваў прытомнасць у іх прысутнасці і нічога пра тыя выпадкі не памятаў, "выпадаючы" з рэальнасці. Усе былі ў курсе і таго, што ў мяне перыядычна ўзнікалі мігрэні, бо пасля прыняцця жмені анальгетыкаў я рабіўся злёгку (як мне здавалася) затарможаным. Да мігрэняў я прызвычаіўся яшчэ з часоў навучання ў інтэрнатуры, меркаваўшы, што ўсё гэта праз банальнае недасыпанне.

Менінгіёма, злаякасная пухліна галаўнога мозгу даволі вялікіх памераў у скроневай долі, згодна вынікам даследавання, існавала ўжо даўно. Трэба было не адкладаючы рабіць аперацыю, і толькі ў гэтым выпадку, пасля трох ці чатырох курсаў хіміятэрапіі магчымасць станоўчай дынамікі раўнялася прыкладна дваццаці пяці – трыццаці адсоткам. Адзін шанц з чатырох альбо ніводнага. Каму лепш ведаць пра гэта, як не мне, медыку з гадамі напрацаванага стажу.

Тэрмінова вырашыць. Намаляваць карціну іншай, новай рэальнасці. А вырашаць нічога не хацелася. Мне ўжо даўно нічога не хацелася. Ад працы я не атрымліваў ніякага маральнага задавальнення, абрыдлі бясконцыя паперы, планы, справаздачы і г.д. Я ператварыўся ў нейкага бюракрата ад медыцыны. Надакучылі і спробы наладзіць асабістае жыццё – кожная новая жанчына, з якою я збліжаўся, спачатку ледзь заўважна, а потым усё больш настойліва спрабавала "перакроіць" мяне на свой лад, перавыхаваць, перастроіць "пад сябе", пад сваё светаадчуванне. Але мая душа – гэта "святая святых", куды нельга ўваходзіць ні з якімі планамі. Я лягчэй бы дараваў здраду, чым замах на мой унутраны свет. Яны ж гэтага не разумелі, таму я расставаўся з імі без сантыментаў, раз і назаўсёды выдаляючы са свайго жыцця.

Так я і перавальваўся з дня ў дзень, быццам гуляючы нейкую навязаную мне ролю. А зараз, "корпаючыся" ва ўспамінах, я спрабаваў з усёй добрасумленнасцю і акуратнасцю выдрэсіраванага шкаляра знайсці нешта такое, за што можна было б "зачапіцца", каб змагацца і перамагчы. Шукаў і не знаходзіў.

Зрэшты, паслаць бы ўсё да д'ябла, звольніцца з працы і зрабіць тое, пра што даўно марыў, але так і не наважыўся ажыццявіць: махнуць у Тыбет, павандраваць па манастырах гэтай містычнай краіны з яе незвычайнымі традыцыямі, таямнічым мінулым. Магчыма, там толькі і змагу знайсці тое, чаго не змог тут – душэўны спакой і ціхую радасць жыцця, колькі б там яго ні заставалася.

У канцы дня я амаль не сумняваўся, што так і зраблю. Тэрмінова прадам сваю аднапакаёўку і аўто, куплю авіябілет да Катманду, а адтуль да Лхасы, сталіцы Тыбета, рукой падаць! І хай будзе, што будзе! Развітвацца з аўто, "Аўдзі-7", нялёгка. Я купіў яго новенькім, "нулёвым", у аўтасалоне, грошы збіраліся не адзін год. Мог бы, канечне, падабраць што-небудзь прасцейшае, патрыманае, у некалькі разоў танней, але хацеў менавіта новае аўто, без слядоў чужых гісторый унутры салона (ды і звонку таксама). Я паспеў прывязацца да яго так, як не прывязваўся ні да каго з людзей, яно было для мяне прадметам асаблівага гонару. Але што шкадаваць! Па Гімалаях на ім не пакатаешся ды і ў магілу не возьмеш.

З пачатку наступнага тыдня і распачну маёмасныя справы, напішу заяву па ўласным жаданні, а там – Бог бацька.

На заўтрашнюю суботу я быў запрошаны на юбілей да школьнага сябра ў катэдж за горадам. Спачатку хацеў адкруціцца, прыдумаць якую-небудзь адгаворку, але ў апошні момант вырашыў паехаць, – мажліва, больш пабачыцца не давядзецца.

Палову наступнага дня правёў у спартовым гандлёвым цэнтры, шукаў падарунак для сябра. Урэшце вырашыў купіць яму фірмовыя ролікавыя канькі з усёй ахоўнай амуніцыяй, згадаўшы, колькі радасці і захаплення мы атрымалі ў юнацкія гады, удвух катаючыся на роліках па парку ды школьным стадыёне. Пасля ўбачыў практычны і ўтульны намёт невялікага памеру. А калісьці ж, яшчэ студэнтамі, мы хадзілі ў паходы, сплаўляліся па рэчках на байдарках ледзь не праз усю Беларусь. Колькі світанняў было сустрэта ля вогнішча, з песнямі пад гітару! Тады тое, што чакала недзе там, у недалёкім будучым, падавалася такім зіхотка-зваблівым, шчаслівым, што прымушала кожную раніцу прачынацца раней за званок будзільніка, адразу ўскокваць і кудысьці ляцець па штодзённых справах, штосьці шукаць і знаходзіць! Дзе ж тое зараз?! Як незаўважна яно перастала існаваць, свяціць, даваць сілы і натхненне на жыццё!

Ат, што ўжо займацца самакапаннем, досыць! Ёсць тое, што ёсць, да чаго сам прыйшоў. Каб абарваць гэту прыкрую плынь самабічавання, я рашуча ўзяў той скручаны намёт і пайшоў да касы.

На двары ўжо змяркалася, пачынала падмарожваць. Хлюпота, што ўтварылася пад промнямі адліжнага сонца, пакрылася скарынкай лёду. Я перагрузіў пакункі ў багажнік. Матор завёўся адразу ж, з паўабарота, мякка завуркатаўшы, як накормлены кот. Я скіраваўся за горад. Рассякаючы паветра на максімальна дазволенай хуткасці, я рухаўся ў плыні спадарожных аўто. Настрой пакідаў жадаць лепшага. Што хлусіць сабе! Мне было страшна, але страх свой, як і большасць эмоцый, я глытаў моўчкі, на людзях ні разу не страціўшы самавалодання.

Між тым хутка сцямнела, і сустрэчныя машыны, здаралася, сляпілі мяне дальнім святлом фар, перш чым іх кіроўцы паспявалі пераключыць яго на бліжняе. Заставалася каля дзесяці хвілінаў язды.

Я знаходзіўся пасярэдзіне моста, на яго самым высокім месцы, калі рукі на рулі адчулі моцны штуршок. Пасля аўто павяло ўправа, на чорна-белую агароджу ўздоўж дарогі. Я паспрабаваў выраўняць рух, узяўшы крыху ўлева – аўто мяне не паслухалася, правым бокам фатальна набліжаючыся да агароджы на краю моста. Тады я ўзяў яшчэ больш улева – машына рэзка матлянулася ўлева, упоперак перасекла шашу ў абодвух напрамках праз раздзяляльную паласу паміж імі і ляцела ўжо на супрацьлеглую агароджу. Для мяне час перастаў існаваць у звыклым яго адчуванні і разуменні: ён расцягнуўся, замарудзіўся настолькі, што мне падавалася, я гляджу нейкае запаволенае кіно пра самога сябе. Помню, мільганула думка: “Вось і аперацыя не спатрэбіцца!”

Каб не пратараніць новую агароджу (а гэта паўставала непазбежным), я зноў рэзка выкруціў руль улева. Правым бокам аўто прайшло ў некалькіх сантыметрах ад яе. Тым часам на гэтых крутых віражах хуткасць згасла, і калі аўто зноў кінула на раздзяляльную паласу паміж кірункамі, я канчаткова выціснуў педаль тормаза і спыніў яго. Стала яно ў тым жа напрамку, куды я і ехаў да пачатку гэтай шалёнай каруселі. Адразу ж з

абодвух бакоў пранесліся фуры, а за імі – яшчэ па некалькі легкавікоў. Як толькі рукі адарваліся ад руля, пачалі калаціцца. Я расчыніў дзверы, глытнуў марознага паветра.

Выйшаў з салона, паглядзеў на правае пярэдняе кола – пакрышка была парванай. Давялося мяняць. Рукі калаціліся яшчэ доўга. Каб супакоіцца, я пачаў хадзіць туды-сюды. Наблізіўся да краю моста. Пад тым месцам, дзе я мог пратараніць яго агароджу і спікіраваць уніз, чарнела люстраная гладзь возера. Не памятаю, колькі я ўглядаўся ў тую прорву, слухаючы, як за спінай то набліжаецца, то аддаляецца гул машын, што праносіліся міма мяне ў абодвух кірунках.

Нада мною больш не вісела ніякіх тэрміновых пытанняў. Я ўжо дакладна ведаў, што мне рабіць.

## Помста

– Уяўляеш, мяне – запрасілі на міжнародную канферэнцыю! З дакладам пра майго Валерыка! – так ласкава, па-свойску я называю паэта пазамінулага стагоддзя, творчасць і жыццё якога даследую цягам некалькіх гадоў. За гэты час ён стаў для мяне заўсёдным суразмоўцам, сябрам, спадарожнікам. Колькі разоў лавіла сябе на думцы, што з ім мне нашмат цікавей і прасцей “кантактаваць”, чым з жывымі рэальнымі людзьмі.

– І што, Эдзік цябе адпускае?

– Чаму я павінна ў яго пытацца? Наконт дзяцей ужо дамовілася з бацькамі, яны іх забяруць. Дарогу і пражыванне аплоціць аргкамітэт. Гэта мая праца. Ад яго патрабуецца ўсяго толькі пяць дзён самому сабе гатаваць сняданак і каву.

– Мне падаецца часам, што ты не створана для сямейнага жыцця...

Некалькі гадзінаў мы з сяброўкай сядзелі ў кавярні, згадвалі даўнія гісторыі, сумесныя прыгоды. За дзесяць гадоў замужжа такія вечары сталі для мяне рэдкасцю, эмацыйным далікатэсам. Не ставала часу падтрымліваць адносіны са шматлікімі знаёмымі, стасункі з сябрамі адышлі на другі план. Засталася толькі Дашка, заўжды гатовая выслухаць і ў любы момант бегчы на дапамогу. А зараз была пара ізноў надоўга развітвацца, вяртацца дадому, укладаць спаць свой дзіцячы сад.

– Пацалуй за мяне Эдзіка! Ён у цябе нармальны мужык, глядзі, не рызыкуй ім!

Я пераступіла парог, і “нармальны мужык” Эдзік, па сумяшчальніцтву мой муж, учыніў мне допыт.

– Што ты рабіла ў Дуброве, даражэнькая?

– У якой Дуброве? Мы з Дашкай сядзелі ў “Ландрынцы” ў цэнтры горада, палову іх дзённай нормы прысмакаў знішчылі, хіба па мне не відаць, што я стала ўдвая шырэйшая, чым калі ішла на сустрэчу? – паспрабавала перавесці ўсё на жарт, што ў мяне атрымалася досыць няўдала. – Дарэчы, прывітанне ад яе.

Голас мужа па-ранейшаму гучаў драматычна-сур’ёзна, з металічнымі ноткамі:

– Няпраўда! Зразумей: паміж тваім тэлефонам і маім планшэтам ёсць сувязь праз інтэрнэт! У маёй праграме цераз спадарожнік рэгіструюцца каардынаты, дзе ты знаходзішся, калі ў цябе з сабой мабільнік!

– Значыць, твая праграма дала збой!

– Не магло таго быць!

– Ну, тады сам прыдумай і скажы мне, што я рабіла за дваццаць кіламетраў ад горада! Шкада, аплочаны чэк з кавярні не захаваўся, хоць не задаваў бы ідыёцкіх пытанняў! – гэтая размова пацяшала б мяне, калі б не пагроза таго, што прыемны вечар скончыцца чарговым скандалам на роўным месцы. Вось тут і паспрабуй сказаць пра канферэнцыю! Выратавалі дзеці: прыбеглі, пачалі абдымацца і наперабой дзяліцца сваімі навінамі. Старэйшая Ніка распавядала, як адправіла мураша ў марское падарожжа на бярозавым лістку, а малодшая Алька паведаміла, што паедзе заўтра ў садок на самакаце, бо сёння так зрабілі некалькі чалавек з групы. Калі прыціскаеш да сябе худзенькія дзіцячыя цельцы, цалуеш іх пушыстыя галоўкі, настрой сам сабой выраўноваецца, трывогі знікаюць, ціхая радасць апаноўвае душу. Разагрэўшы вячэру і пакарміўшы ўсіх, я паспела яшчэ пачытаць малым казку на сон ды папрасаваць стос бялізны, што ўжо тыдзень чакаў у шафе. Паглядзела дэтэктыў, каб не так нудна было рабіць аднастайную дакучлівую працу. Вярнулася раўнавага і добры настрой. Эдзік ні пра што больш не пытаўся, ганяў нейкіх пачварын у кампутарнай гульні.

Назаўтра я пачала рыхтаваць даклад на канферэнцыю. Не пакідала адчуванне, што Валеры ўвесь час знаходзіўся побач: "падказваў", як сфармуляваць фразы ў складаных месцах, усміхаўся разам са мной там, дзе атрымлівалася найбольш красамоўна і пераканаўча. У галаве гучаў яго голас – прыемны, празрысты тэнар, часам з лёгкай хрыпоткай, яго смех. Мне бачылася, як ён схіляе галаву, "зазіраючы" ў экран майго ноўтбука... Калегі ў суседнім пакоі пілі гарбату і абмяркоўвалі нейкія дробязі, час ад часу выбухаў рогат. Мільганула крыўдная думка: а мне і не прапанавалі далучыцца да іх. І адразу ж контраргумент: у кампаніі з Валерам значна весялей! Так надзіва хутка і прамільгнуў працоўны дзень. Ужо дома, гатуючы вячэру, я зразумела: нешта замінае, як мазоль, муляе дзесьці ўнутры, пазбаўляе прывычнага спакою. Не адразу ўцяміла, што канкрэтна.

Усе даўно спалі, а я круцілася пад коўдрай: сон не йшоў. Пайшла на кухню, паставіла чайнік. Што не давала спакою? Трэба ўсё ж неяк паведаміць Эдзіку пра мой ад'езд на канферэнцыю. Але гэта не стане прычынай сваркі: паміж намі існавала негалосная дамоўленасць, што праца – святое, і мы не павінны перашкаджаць адно аднаму рабіць кар'еру, замінаць удасканальвацца, развівацца. Раптам я зразумела: калі Эдзік верыць нейкай праграме больш, чым мне, калі яму прыйшло да галавы сачыць за мной, значыць... у яго знік да мяне давер. Чаму? За дзесяць гадоў шлюбу я ні разу не дала яму нагоды сумнявацца ўва мне.

Немінучая размова пра мой хуткі ад'езд адбылася нядзельнай раніцай, пасля смачнага сняданку, калі ўсе былі ў лагодным настроі. Але, нягледзячы на гэта, прайшла яна не так гладка, як мне хацелася б.

– Што, каханка сабе знайшла? Адпачыць ад сямейнага побыту надумала?

– Ну, ведаеш, пасля стольскіх гадоў таго шчасцейка хутчэй не да каханка збяжыш, а на бязлюдны востраў пасярод акіяна! – зноў паспрабавала жартам выправіць сітуацыю. – Слухай, а з чаго гэта ты такі раўнівы стаў?

Эдзік праігнараваў маё пытанне:

– Завядзі яго ў цырульню! Лета на носе, з доўгай грывай горача і не эстэтычна!

Я знерухомела. Якая грыва, які каханак? Ці з'ехаў з глузду... хтосьці з нас? Напэўна, думкі гэтыя вонкава адбіліся на мне, бо Эдзік удакладніў:

– Ці той здымак, што ты ў нататніку з сабой носіш, ужо страціў актуальнасць? Трэба ж, вычварэнец, як ён сабою любуецца: зрабіў стылізацыю пад даўніну!

Мяне працяў нервовы, бездапаможны смех, я заходзілася ў істэрычным прыпадку і ніяк не магла супакоіцца. У нататніку маім сапраўды была фотка маладога чалавека з доўгімі валасамі, зробленая з партрэта. Валеры Шпакоўскі, паэт, літаратар, удзельнік нацыянальна-вызваленчага паўстання. Аб'ект маіх даследаванняў...

Дні паляцелі вельмі хутка. Я з галавой занурылася ў падрыхтоўку да выступу, усё астатняе рабіла па інерцыі. У душы адзначыла, што Эдзік стаў нейкі змрочны, маўклівы, амаль перастаў са мной размаўляць, але не надала таму ніякай увагі. Аднойчы зайшоўшы на сваю старонку ў сацыяльнай сетцы я заўважыла, што сярод маіх сяброў... не засталося ніводнага мужчыны. У чым справа? Няўжо ўсе яны аднačасова вырашылі выдаліць мяне са сваіх стасункаў? І што мне рабіць – у кожнага пытацца, завошта?

Потым дайшло: каб трапіць на мой акаўнт, не трэба было ўводзіць пароль, ён там аўтаматычна захоўваўся. Варта было толькі клікнуць на "ўваход". А што, калі Эдзік так і зрабіў? Пачытаў усю перапіску і выдаліў тых, каго палічыў падазроным і небяспечным? Гэта здагадка пацвердзілася, калі я адкрыта запытала пра гэта мужа. Ён не апраўдваўся, быццам так і трэба:

– Мне яны не спадабаліся!

Вось гэта моцна раззлавала мяне. Татальны недавер без ніякіх падстаў. Ладна, калі б там былі нейкія мусі-пусі ў паведамленнях, а так... толькі працоўныя пытанні, запрашэнні на адкрыццё выставы, перапіска з замежнымі архівамі па маёй навуковай тэме! Вялікіх намаганняў каштавала стрымацца і не ўчыніць скандал. Але ў душы зарадзілася жаданне помсты. Хоча раўнаваць – хай раўнуе! Я не давала для таго нагоды, а зараз паспрабую, як гэта робіцца! Ты, міленькі, атрымаеш, чаго хацеў!

Надышоў дзень ад'езду. З вечара пакуючы чамадан, я зрабіла ўсё, каб Эдзік падумаў, што я сапраўды еду да каханка: на бачным месцы паклала новы камплект карункавай бялізны, маленькую чорную сукенку яўна не ў дзелавым стылі, туфлі на высачэзных шпільках... З сяброўкай, якая пазваніла мне падчас збораў, я гутарыла "аксамітным" тонам коткі, якая прадчувае асалоду, ды яшчэ й выйшла ў іншы пакой (каб Эдзік не мог разабраць слоў, але чуў тэмбр голасу – а ў святле апошніх скандалаў я ўжо забыла, калі з ім так размаўляла). Ён нават не прапанаваў падвезці мяне на вакзал, усё забіваў нейкіх монстраў у відэа-гульні.

– Жадаю табе лёгкай перамогі! І застацца жывым на ўсіх узроўнях! – з пачуццём поўнай задаволенасці сабой пракрычала ў дзвярах. Эдзік нешта буркнуў у адказ, але я паварочвала ўжо ключ.

У цягніку мне дасталося месца на верхняй паліцы. Не люблю ў дарозе знаёміцца, гадзінамі выслухоўваць чужыя гісторыі, таму, каб пазбегнуць магчымых суразмоўцаў, адразу залезла наверх з кніжкай. Праўда, больш глядзела на маляўнічыя краявіды, што праплывалі міма, на чытанні так і не ўдалося засяродзіцца. На душы стала неяк самотна, калі згадала, як развіталіся з мужам. Выходзячы замуж, нават уявіць не магла, што свята кахання можа сапсавацца такімі бязглуздымі сваркамі... Што ж цяпер рабіць, як выправіць сітуацыю?

Незаўважна надышоў вечар, пасажыры пачалі ўладкоўвацца на начлег. Я ўсё ж прымусіла сябе дачытаць кніжку да канца, а потым адразу заснула.

...Гэта было падстрэшша нейкай доўгай высоткі. Колькі падобных месцаў я аблазіла ў дзяцінстве, але што мне тут спатрэбілася зараз? Я ішла калідорам, па абодва бакі размяшчаліся аднолькавыя пакоі без дзвярэй у праёмах. Паўсюль – завалы нейкага хламу, пад самай столлю вузкія вакенцы не давалі дастаткова святла, таму панаваў змрок. І невыкаранялльнае пачуццё трывогі. Што я тут шукаю? Трэба неяк знайсці выйсце і вяртацца дадому. Раптам згадалася, што дома засталіся дзеці. Адны. А як адсюль выйсці? Я забыла, праз які пакой сюды трапіла, дзе выйсце вонкі. Між тым было адчуванне, што тут я не адна.

...Ён сядзеў тварам да сцяны, у белай кашулі. Галава апушчана, пшанічныя хвалістыя валасы раскіданы па вузкай спіне. Рукі нерухома звісалі ўніз. Шырокія абшлагі, тонкія запясці. Ён ніяк не зрэагаваў на маё з'яўленне, хаця мусіў пачуць гулкія крокі. Я спынілася ў нерашучасці. Мяне працяў востры, халодны, зацяты, едкі, магільны жах. Быццам усё самае страшнае, што магло здарыцца, ужо здарылася. Я спазнілася. Валеры нежывы, і я ўжо ніяк не дапамагу яму. Я адчула сябе бясконца, па-сіроцку, незваротна самотнай, нікому не патрэбнай. Слёзы так і паліліся з вачэй. Я старалася стрымаць іх, але вонкі рваліся гучныя рыданні.

Я прачнулася. Раўнамерна стукалі колы, а падушка была мокрай ад слёз. Не адразу ўцяміла, што ўсё было сном – настолькі рэалістычна стаяла ўваччу апошняя карцінка, мёртвы Валеры. Больш заснуць так і не атрымалася. Я ляжала, слухала цішыню і ў ёй – мерны перастук. У душы пасялілася адчуванне віны. Апанавала шкадаванне. Нешта я зрабіла не тое. Дарэмна так абышлася з Эдзікам. Я толькі падлівала алею ў агонь, замест таго, каб спакойна ўсё патлумачыць. Чаму я не знайшла ў інтэрнэце тую карціну, з якой зрабіла здымак Валеры? Эдзік бы ўсё зразумеў і не раўнаваў.

Я ніколі дагэтуль не была ў Бялградзе, але, толькі ступіўшы на перон, накіравалася да чыгуначнай касы. Абмяняла свой квіток. Цяпер я мусіла ад'язджаць не праз тры дні, а праз тры гадзіны. Бог з ёй, з канферэнцыяй, не апошняя ў маім жыцці. Навыступаюся яшчэ. Тое, што мне наканавана, ад мяне не ўцячэ, а вось што адбываецца дома?..

Адразу стала спакойна. Я зразумела, што зрабіла тое, што трэба было зрабіць.

...Дадому ляцела як на крылах. У галаве гучалі словы, якія я скажу Эдзіку, у чамадане ляжалі падарункі для яго, што я паспела набыць да адыходу цягніка. Горад сустрэў мяне свежым, пругкім ранішнім паветрам, што вібравала адчуваннем шчасця, з'явілася жаданне здзейсніць нешта нечаканае, вар'яцкае. Ну, калі я з'яўлюся на парозе, да адыходу на працу ў Эдзіка яшчэ застанецца пара гадзін...

...Я бязгучна адчыніла дзверы і сапраўды ўбачыла нешта нечаканае і вар'яцкае: раскіданае па падлозе вітальні жаночае адзенне, бялізну, а ў спальні на нашым ложку побач з Эдзікам спала яго партнёрка па бізнес-праекце. Коўдра збілася, агаляючы яе маладое, крамянае, такое бессаромна-прыгожае цела...

Таццяна Дзмітрыева



...мужык калі і дурны як варона то
гэта мая варона...

# Карціны размаляваныя з абодвух бакоў

## АДНОСНА ЭВАЛЮЦЫЙНАЙ ТЭОРЫІ І ПАХОДЖАННЯ ЧАЛАВЕКА

*Пад уплывам Огдана Нэша*

дурны мужык як варона
а я не мужык я – баба ягоная
і як прадстаўнік законны
паловы маёй дурной гаротнай
не ўважаючы твары й іконы
заяўляць мушу безапеляцыйна й грунтоўна:
колькі б часу ні мінула з гадзіны чорнай
калі з адамава цела зрабілі іншую персону
эксперты сцвярджаюць што з таго часу арганізм ягоны
больш за ўсё адчувае дэфіцыт у сантыметрах
у раёне полавай зоны

з чаго вынікае што ў выніку трансплантацыі паловы оргОна
адам набыў сабе ўласнага клона
і з таго часу жылі яны доўга й шчасліва аж да ўласнага скону
нашчадкаў праўда не пакінулі што цалкам законна
хаця намаганні прыкладалі мяркуючы па архівах Бабілона

і вось пасля гэтага пачынаецца гісторыя з мадоннай
праматкай прапрапрапрабабкай з першай ікс-храмасомай
з пупкамі рэцэсіўнымі генамі і цмочкамі на цыцках яе і ягоных
карацей шэршэ ля фам як казалі некалі франкафоны
жылі дзяліліся адпачкоўваліся год так прыкладна пару мільёнаў
а потым ля фам шэршэ спосаб не вельмі стомны
пладзіцца і размножвацца калі засвярбіць а не раз у сезон і
заадно прыдбаць сабе для лепшага мацыёну
адвечнае дзіця ўжо з цацкай якраз нараджонае
і калі хто калі памкнецца кідаць закідоны
пра першынства галаву і шыю ды пра прыроды законы
хапайце за цыцку таго цягніце да хірургаў у салоны
бо гэта памылка відаць прыроды – пачварнасць і жах гвалтоўны

а мужык калі і дурны як варона то
гэта мая варона
мая вельмі вялікая варона

* * *

Бог разглядае нас на прасвет
а мы ляжым абсыпаныя яблыневымі пялёсткамі
на прадметным шкельцы двухспальнага ложку
Бог разглядае нас пры вечаровым святле
па колькасці рэбраў вызначае лёс

Бог – малое дзіця – пальцам
адкопвае сакрэцікі ім жа схаваныя ў садзе пад яблыняй
скрозь бутэлечныя каляровыя шкельцы
у прыцемках ён бачыць нештачка іншае чым
абгорткі цукерак мятных і са слівавым смакам

а мы ляжым абсыпаныя яблыневымі прасцінкамі
і Бог разглялае нас на досвітку
сілы няма нават накрыцца
і крыху няёмка – мы ж дарослыя
а ён – ужо падлетак

* * *

на ўсе гузікі майго цела
націскаеш у пошуку прарэшка
дрыготкімі пальцамі ўсе
гузікі майго цела расшпільваеш
аж да душы
і тады
расшпіленыя і кінутыя на падлогу
нашы целы
адно на адным
скамечаныя ляжаць
пакуль нашы голыя душы –
сіямскія блізняты –
хукаюць адна на адну
і робяць адкрыты масаж
на анямелым месцы зросту

## КНІЖКА З РАДЗІМКАЙ

старонка першая – як родная:
прадмова – у калысцы немаўляці
на стале – Скарынка з датай выпечкі «15 ст.»
выцертыя карэньчыкі ад сурокаў
пад столлю
і на сцяне Радзімка
надрукаваная на паперы
белага свету

* * *

я прачытаю цябе нагбом
наслімачаным пальцам
буду песціць твае старонкі
адну за адной
пакуль на апошняй не даведаюся
твой штрых-код
я вывучу цябе на памяць
і толькі на апошнім радку
дзе месцы для пацалункаў
буду заўсёды збівацца

## *ZUG. ACCELERANDO*

**Ларга**

вуліца ад манастыра
спускаецца да возера
і далей ідзе ўглыб

**Адажыа**

крокі па камянях брукаванкі
знарок не супадаюць
са званамі Святога Освальда

**Андантэ**

струмяні горнай рэчкі
на хвіліну трапляюць за краты
гарадской каналізацыі

**Мадэрата**

у пустым купэ я
уяўляю як ты
не скарыстаешся
ўсімі прывілеямі адзіноты

**Алегрэта**

апладысменты супрацоўнікаў супермаркета
самім сабе
пад канец змены

**Алегра**

аўтобус
нахіляецца да мяне –
на прыпынку больш нікога

**Прэста**

вокны цягніка SBB –
карціны размаляваныя
з абодвух бакоў



Марына Булатоўская



...калі пагана на душы
і нікога паблізу,
я спяваю...

# Бедная Марыя

***Два апавяданні***

### Айм соры, айм лэйт?

Аднойчы, я ледзь не... – паганы пачатак для паганай гісторыі. Айм соры. Справа ў тым, што мая мама піша. Мой тата, як сцвярджае мама, папісвае. Яны крутыя.

*Айм э крып. Айм э ўіду*[1]. Заліпае на рэпіце.

Учора ў прыбіральні Нэсі расшарашыла мне руку лязом.
«Лярва, на фіга?» – «У цябе прыгожы твар, калі табе баліць».

Па мерках «Бурда» я норм укладаюся ў 38-мы памер жанчын сярэдняга росту. У «Оджы» прыкінуў трэндзі тунічку адцення дзіп пёпл. Няшна. Сумна. Зялёны

[1] *Я – слімак. Я – дзівак.* Радок з песні *Radiohead*.

някепска глядзіцца на фіялетавым. Маркер няблага адбіваецца на сінтэтычнай тканцы. Прадказальна, але Міша з ментуры не мае эстэтычнага густу. Нам фартова, нам няма васямнаццаці, дзядзя.

Маман піша раман. Татуся – даследуе гуся. Люблю нечаканыя рыфмы. Зрэшты, заалогія – яго пакліканне. Гер прафесар, як-ніяк.

Эльза запосціла ружовага пітона. Мілата.

Жывёльны свет багаты і разнастайны. Ружовы пітон, бліна! Аххаааааха. Яна рэальна крэйзі.

Айцы хочуць бачыць мяне ў белым. Вам ад гемароя? А вам? Дзіплорамінагексатрымедын? Ды на здароўе!

– Мілы, ежа ў лядоўні, грошы за ўнівер на люстэрку. Мамачка з'язджае на кансіліум. Эээ, слухай, ты калекцыянуеш што-небудзь?

– ?

– Ммм, нічога. Люблю-люблю. Бай-бай.

Ёй далі нейкую крутую літаратурную прэмію на Крыце. Яна ў мяне мега-вумэн. І – бінга! – не любіць праблем. Пяць філіжанак з-пад карвалолу не спыняць палёту яе разняволенай, непадуладнай побыту творчай натуры. Зашыбенская. Яна. У мяне. Ага. Рабятушкі, хаваць трэба надзейней наступным разам. Цаніце пакуль маеце. Хіпста-хата свабоднага доступу «У Стэна», парослая квеценню глогу – запрашае ў свае ліпкія абдымкі. Ӯэлкам, бэйбіс!

Тадам. Аліна Ягораўна чытае пра мікробы. Інфузорыя туфелька. У яе насамрэч дурацкія боты. Нібы ёй дзевяноста тры і штодня ёй даводзіцца прадзірацца сцяжынамі оркаў. Арчы хоча з ёй пераспаць. Стаўка – комбік.

Нам пазарэз патрэбны комбік.

Эльза звяла з гіпермаркета бліскучы сіні парык і дзве саломінкі для кактэйляў. Палілі «Мінск» пад мостам. Вярблюджая коўдра паспяхова робіць з цябе кіраўніка Рымскіх войскаў. Лол.

*Аўа хоўпс энд экспектэйшэнс. Блэк хоўлз энд рэвелэйшэнз*[2]. Эльза падпаліла мне валасы. Пяць раніцы на лаўцы ля Хлебзавода. Толькі я і сінія пругкія валаскі твайго сцёбнутага парыка ў маім роце. Першая змена, бліскучая прахадная.

– Навалач гейская, шмаляй адсіх.

Актуальная тэма гендэру б'е па нервах токара Сцяпана. Я не ў трэндзе, дзядзько, *кам даўн*[3].

Татуся прыляцеў з Амстэрдама, поўны загадкавых пахаў і свежавыпечаных жэстаў. Меў «халтурку». Новыя дабаўкі для павелічэння масы белых нідэрландскіх кароў. Ён у мяне геній.

– Схуднеў ці што? Маці хоць карміла?

– Як белую карову, будзь пэўны, кэптэйн!

– А ты ў мяне кемлівы. Дзяўчынка ёсць?

---

[2] *Нашы надзеі і спадзяванні. Чорныя дзіркі і разважанні.* Радок з песні *Muse*.

[3] *Супакойся.*

– Лол.
–?
– *Первым делом – самолеты*, кэптэйн.

У нашым пад’ездзе процьма пацукоў. Тлустых, смярдзючых зубаскалаў. Адзін ледзь не запоўз мне за каўнер. Шыбануў яго кросам па пысе – цяпер у нашым пад’ездзе адзін глухі пацук. Я назваў яго Ёда. Ночыць пад дзвярыма ўласнай хаты – кул. Кэптэйн пагрузіўся ў навуковае даследаванне з галавой. І гары агнём неабходны пачак Ўінстану. Сын, зганяй, га? Ну, я зганяў. Гукі твайго Баха суперова перакрываюць упартае націсканне на званок. Вас калі-небудзь пакідалі спаць на дыванку пад дзвярыма кватэры? Паспрабуйце. Улётны досвед.

– Аааа, ты... Ты чаго? Ты што гэта тут, га?
– Добрай раніцы, татка.

Новы лукбук «Хаус» – выбітная лажа. Падрэзаў паліто маман. Яе тыдні тры не будзе ў сценах нашага сямейнага храма – пракаціць у якасці маральнай кампенсацыі.

Высветлілася, што ў Эльзы ёсць жывы дзед. Герой вайны. Здаецца, ён вывеў з гета каля сотні людзей і знішчыў каля двухсот ворагаў. Крута, калі не блытаешся ў паняццях. У дзеда гады тры як прапаў голас. Па напружаным сіпенні і гнеўным размаху рук няцяжка было зразумець, што я яму не асабліва зайшоў.

Снілася, што я страляю ў Арчы. Акопы, бруд, кулі. І мы з ім – па розныя бакі барыкад. Я – у памаранчавым, ён – у зялёным. Зялёныя – нашыя ворагі. Рупар не стамляўся нагадваць аб гэтым. Я разявіў зяпу і рынуўся ў атаку.

Мудборд ад сёння: вокладка новай Эл-Пішкі «Плацэба», пакоцаная друкарка, выкінутая на перакапанае поле, Эльза з галавою Шывы, Чэпман забівае Ленана. Найс.

Лакшары порна-стар Эвіта Бэгінс разважае пра наступствы ваенных дзеянняў на Данбасе. Плюс тысяча лайкаў на інстаграме. Маман таксама піярыцца. Днямі зладзіла вечар чытання сваёй кнігі за данэйшан. На патрэбы дзяцей у Афрыцы. Яна ў мяне крэатыўная. Наколькі я памятаю. Лол. Мае паклоны чорненькім.

Арчы прыцягнуў на пару мокрага ката. Кажа, падабраў на сметніку. Расфарбаваў зялёнкай і наставіў хаер. Алігатар. Насіўся з ім увесь дзень, паіў колай. Аліна Ягораўна расчулілася. Мабыць, нам маячыць комбік.

«Расстраляць іх усіх трэба!» – рэзонна заявіла Жэнька, татава суседка па загараднай рэзідэнцыі, уладальніца халупкі на ножках, алкаголік з працяглым стажам. Тэлек перавялі на лічбу. Бах! Непрадуманы ход, пагражае ўсенародным паўстаннем. Татуся ўсталяўваў ёй апарацік, каб не перsuccessfully раймалася і не парушала цішы. Ён можа думаць навуковую думку толькі ў цішы, ферштэйн?

Учора Нэсі зацягнула на сустрэчу ананімных алкаголікаў-космаэнэргетаў. Знатная туса. Трыццаць хвілін вібрацый на галодны страўнік. «Мяне завуць Стас. Я разам з вамі, браты!» Відэаролік Нэсі набраў сто тысяч праглядаў на Ю-цьюб. Я не ведаю, як яна гэта робіць.

*Ю в бін ту бізі лэйтлі. Аўт оф тайм*[4].

Маман пераязджае ў Варшаву. У яе кантракт. Афігенская яна. Будзе працаваць на глосі часопіс. Агляд падзеяў Беларусі.

– Летам забяру цябе да сябе. Будзь мілым!

– Йес, мэм.

Вы ведаеце імя Бога? На фіга?! Мы ягоныя сведкі. Найс! Прыходзьце да нас. Угу. Зачыняю дзверы.

Яны клёвыя, вернікі. Маюць берагі. Казачку на добры сон. Мне ніколі не чыталі казачку на добры сон. Дайце мне казачку!

Вазьміце кніжачку, тут усё напісана. Гідэон Байбл.

Учора чытаў пост. Адзін шараговы поп апынуўся наркабаронам. Як Ты, ідэальны, зносіш гэты бруд. Як ты зносіш нас?

Арчы зваліў. Ваяваць на Данбас. Культава! Бліна, на фіга? А кот?! Што з катом-та?

*Лайф із май гад*[5]. Я сёння меў Эльзу ў клубе. На падлозе, у гардэробе. Трэндзі шмоткі добра хаваюць ад цікаўных вачэй. Здаецца, учора яна ездзіла пазіраваць для лесбійскага прома-роліка. *Лайф із э крэйзі сін*[6].

У дзяцінстве мы пахавалі пад дубам вужыка. Дакладней, забілі яго, каб потым пахаваць, з усімі элементамі культу. Эльза кажа, што зрабіць аборт – тое самае.

Праз два тыдні яна купіла дамоў баксёрскую грушу.

Я вынес з Быдлаопту танны віскар. Папаліўся. Суд прызначаны на 20-е. Трэба нагадаць Нэсі, каб захапіла фоцік.

Татусю перавялі ў Франкфурт. Распрацоўка біядабавак для дробнай рагатай жывёлы. Дробная рагатая жывёліна. Як трапна!

– Арчы, на халеру ты туды забраўся?

– )) рэлэкс. Мы павінны адпомсціць.

– Каму, за што?

– Я не ведаю. Я толькі адчуваю, што згараю. Разумееш?

– Кінь свае ісламісцкія замарочкі.

– Дурань ты. Хіпстата пустая. Ката забярэш, як што?

– Я не маці Тэрэза.

---

[4] *У цябе занадта шмат справаў. Ты па-за часам.* Радок з песні *Blur.*

[5] *Жыццё – мой бог.*

[6] *Жыццё – шалёная рэч.*

Я не маці Тэрэза. У мяне на руках паўжывы кот. У заплечніку – тваё майно. На радзіму цела не вяртаюць – няма чаго вяртаць асабліва. Ды і каму? Маман – у Таронта, бацька спіўся дзесьці на вуліцах Піцера.

А на вуліцах Менска пахне ліпай. Як жа гідка тут пахне ліпай!

Цэнтральны прашпект перакрыты. Парад. Чырвоныя. Зялёныя. Нам у абыход, кот.

Эльза з'ехала ў Нью-Ёрк. Праект пра гендэрную роўнасць атрымаўся. Яе абралі. *Май літл гёл. Айм соры*[7].

Айм соры. І што? Айм соры! І куды? Айм соры. Каму?

Я адпайваю Алігатара колай, фарбую яму поўсць у зялёны колер.

*Філ зэ эмптінэс эраунд. Філ зэ эмптінэс інсайд*[8].

Эмммм... Ламае трохі, разумееш? Нязвыклы таск. Ок. Паехалі.

Ты здагадаўся, вядома. Я пішу гэты блог для Цябе. Ты беззаганны і пакуль што жывеш у кнізе, але зразумей, мне больш няма каму сказаць: ай'м соры. Ведаеш, мне ніколі не чыталі казачкі на добры сон. Мне патрэбна твая казачка. Тваё *Тэйк ё сіт энд гет рэдзі фо зэ лэсан*[9]. Мне і Алігатару. Зрэшты, каты ўсё адно трапляюць у рай.

*Айм соры, айм лэйт*?[10]

## Бедная Марыя

– Мая Геральдаўна, дзе Марыя? Другая дзея! Вы чуеце, другая дзея?! Д-з-е М-а-р-ы-я? Не тэатр, а цырк на дроце!

Памочнік рэжысёра падхапілася ў крэсле-круцёлцы, нервова забрэнькала хударлявымі пальцамі ў арыстакратычных зморшчынках па кнопках пульта. “Артыстка Відмант – на сцэну! Арыстка Відмант – на сцэну!” Акуляры на доўгім залацістым ланцужку падскоквалі ўгору пры кожным гуку “а” і біліся аб ружовыя гузікі памаранчавай блузкі на кожнае “дм”. Мая Геральдаўна цудоўна выконвала сваю справу. Радыё апавясціла ўсе закуткі тэатра, у тым ліку курылку і прыбіральню.

– Усё. Язэп пайшоў у Бэтлеем адзін... З аслом!

– Славачка, што вы кажаце! У Бэтлеем без Марыі? Ц-ц-ц, гэтага трэба было чакаць. Бессаромная дзеўка.

– Чакайце сардэчнага прыступу, Маечка Геральдаўна! У нашага Язэпа слабыя нервы...

Славачка рэзка крутануўся на пластыкавых абцасах, прыкрыў далонню вуха, замармытаў матыўчык заўтрашняга лібрэта і подбегам накіраваўся да грымёрак. Праз дзве хвіліны мастак-дэкаратар з майстэрні пад самым дахам тэатра ў шчырым абурэнні пераказваў па ўнутранай сувязі кантралёру білетаў Аркадзіі Генрыхаўне апошнія шокавыя навіны. Праз паўгадзіны пра “недапушчальную дзёрзкасць, прафесійнае злачынства і прафнепры-

---

[7] *Мая маленькая дзяўчынка. Прабач!*

[8] *Адчуй, як пуста навокал. Адчуй, як пуста ўнутры.*

[9] *Займайце свае месцы і рыхтуйцеся да ўроку.*

[10] *Прабачце, я спазніўся?*

датнасць артысткі і памрэжа" гаманілі ў кожным кабінеце і закутку тэатра. Мая Геральдаўна біла сябе ў грудзі, прысягаючы ўсімі сіламі нябеснамі, што ні на хвіліну не пакідала паста. Язэпу сапраўды выклікалі хуткую.

...Артыстку Зоф'ю Відмант удалося знайсці – у сэрэдзіне другой дзеі, заблакаванай у жаночай прыбіральні. Так здараецца, калі як след ляснуць дзвярыма і забыцца на зашчапку. Заплаканую, разгубленую, яе літаральна выпхнулі на сцэну ў самы час з'яўлення Бэтлеемскай зоркі.

Зоф'я Відмант – гэта я. Трэцяя Малпа ў "Айбаліце", Другі Пацучок у "Бармалеі". Калі вы прыйдзеце паглядзець на мяне – сачыце за восьмым промнем пражэктара, замацаванага над авансцэнай. Я штораз намагаюся трапіць у яго асвятленне. Марыя – мая першая роля з імем.

– Зоська, не пераймайся ты гэтак! Падумаеш, засядзелася ў дамскіх пакоях, з кім не бывае!

– Віталін, гэта фініш! Гэта знак. Я непрыдатная.

– Распусціла нюні! Давай, сяброўка, дзербалызнем для зняцця стрэсу... – у Нюрчыных руках апынулася бутэлька таннага, не зусім арыстакратычнага, але ўпадабанага тэатраламі пойла.

– "Крепкій орешек". Выдатны маркетынгавы ход. Не, не магу, у нас заўтра выезд. Вязем "Бармалея" ў летнік "Чырвоны партызан". Пф-ф-ф. Хаця "Орешек" і "Партызан", пэўна, няблага глядзеліся б разам. Слухай, а раптам ён мяне звольніў?

– Хто? Ільніцкі? Немагчыма. У нас палова маладых артыстак у дэкрэце, а рэшта – разносіць шампанскае на параходах Нью-Ёрк-Лісабон. – Майстар сцэны Віталіна Яблонская, першая Малпа ў "Айбаліце", спрытна адклеіла срэбныя вейкі, прымацавала на манекен карону Бэтлеемскай зоркі, спрактыкаваным рухам плесканула ў кубкі для гарбаты "антыстрэсу". – Пі. А вось пра Геральдаўну я б падумала. Трэба яе неяк падмазаць, каб не надта жыццё псавала...

– Брыдка. Не ўмею я гэтага.

– Бач, якія мы пушыстыя! А ты павучыся. Яна ж цябе поедам з'есць, можаш не сумнявацца. У Язэпа свайго была, ажыў?

– Перастань. Абышлося без інфаркту, але мне ад таго не лягчэй.

– Вой, досыць ужо з сябе бедную... Марыю выраблаць! Выбачай, выбачай, з языка саскочыла. Прыедзе твой Рамэа ў карэце клясу люкс – развядзе бяду рукамі. Шчаслівая... Карацей, думай пра Маечку. А я паляцела. Забі мне заўтра месца ў аўтобусе. Каб не ля вакна і падалей ад Славачкі, дамова?

Да-мо-ва. Віта вышмыгнула за дзверы, пакідаючы мяне сам-насам з ядраным пахам свайго "Пуасон Голд" і непрыбранай грымёркай.

Калі пагана на душы і нікога паблізу, я спяваю. Разыгрываю з сябе прымадонну, падбіраю міміку, змяняю тэмбр голасу, вывучаю сябе ў люстэрку. Варта прызнацца, я так сабе артыстачка. Але Марыя з мяне – вышэйшы клас. "Мой Рамэа" кажа, што ўсё наперадзе. Тры месяцы таму мы перавялі нашыя непрацяглыя адносіны на новы лэвэл – разам скінуліся грашыма і знялі пакой старой, цвілой, распатнелай "сталінкі". Заўсёды спатыкаюся аб гэтае "мы", быццам аб брудныя шкарпэткі. Ад яго патыхае утопіяй. Раман сказаў, што ён мае план. Адзінае, што мне трэба рабіць – гэта добра іграць. Ролю клапатлівай, уважлівай, спагадлівай да гаспадыні-пенсіянеркі кватаранткі. Ці не завялікія чаканні ад шараговай артысткі ТЮГа. "Ты гэта можаш, *ma chérie*, я ў цябе веру". Кажуць, Раман добры юрыст, калі ён

верыць – гэтак яно і будзе. Адна з яго старых фрэндовак неяк распавяла мне, пасёрбваючы марціні, набыты за мой кошт, што Раман таксама мог бы зараз матляцца дзесьці ў Ціхім акіяне, на палубе якога-небудзь “Санфлаўа” з кілішкамі на падносе. Кажа, ён заўсёды любіў шыкоўнае жыццё, але не адабраў прыслугоўвання і ... малога прыбытку. Саскочыў, дзесьці ў Каліфорніі. Мой непахісны, мой моцны, мой недасяжны, мой жаданы. Я не распытвала яго пра мінулае. Не люблю корпацца ў іншых людзях. А, можа, баюся. Раман – здаецца – мае першыя сур’ёзныя адносіны. Чатыры месяцы нашага з ім шчыльнага, імклівага, гарачага знаёмства перайначылі мяне і маё даволі “ўстаканенае” жыццё. Прызнацца, я не чакала, што ўжо праз тры тыдні пасля першай нашай сустрэчы я буду запіхваць транты ў валізку, развітальна цмокаць суседак па службовай тэатральнай кватэры і пад іх зайздросныя позіркі імчаць у наш “новы этап”, дзе мы з Раманам станем дзяліць на двох ложак, побыт і бессаромную, дзікую гульню.

Дзверы былі незамкнёныя. Звыклая рэч. Гаспадыня і адзіная ўладальніца пяціпакаёвай кватэры ў цэнтры Менска Ганна Мацвееўна Яўхімчык лічыла замкі і клямкі залішнімі.

– Я вырасла ў доме без зашчапак, без агароджаў. І вось – жывая. Да дзевяноста год дацялёпала... А ўсё Ён, мілая Танечка, уся ласка ад Яго... Дзетухна, нагадай старой, ты на якім курсе навучаешся?” – таксама няма чаго бянтэжыцца! Ганна Мацвеўна пакутуе на правалы ў памяці, а папросту – на склероз. Сухенькая, маленькая, у персікавай, ружовенькай, блакітненькай ці якой іншай пастэльнага колеру карункавай кохтачцы, заўжды роўненька прычасаная, заўжды з ружаньчыкам у зацыраванай кішэньцы бабаўнянай спаднічкі. Напачатку яна мяне жах як раздражняла: пытаннямі, склерозам, марудным маўленнем, сваім заўсёды роўным, цёпленька-душэўным настроем і адвечным спадзяваннем на Яго.

Штодня мы з Ганнай Мацвееўнай знаёміліся наноў. Пакуль мне гэта не надакучыла і я не стала па-просту згаджацца ды пакрысе звыкацца з усімі маімі новымі імёнамі, прафесіямі і дэталямі біяграфіі. Я нават перастала пераконваць бабцю, што маё сапраўднае імя Зоська, а не Тэкля, не Алачка і далёка не Хрысця. Я, калі хочаце, нават перажывала артыстычную асалоду, атрымліваючы ад яе новы вобраз.

– Ганначка Мацвееўна, усё, апошні курс, дзяржіспыт. І пасылаюць дохтаркай у якія-ніць Галушкі.

– У Галушкава! Донечка, мой Віктар адтуль. Памятаю, як сваталі мяне. Дзесяць хлопцаў у адным вазку. Дзеўкі не пушчаюць, загароды ставяць, сварацца... А шлюб бралі ўжо хіба не там. Не, не там.

Цікава, што яе ўласныя ўспаміны заўжды пярэчылі адзін аднаму і немагчыма было адрозніць, дзе праўда, а дзе гульні кволага, зношанага, стомленага жыццём розуму. У кватэры, вялікай і амаль пустой, немагчыма было адшукаць аніводнай фотакарткі. Невядома, адкуль прыйшоў гэты чалавек, які лёс напаткаў яго, чаму сталася так, што ён дажывае свой век адзін, без блізкіх, без стасункаў са знешнім светам. Апошні раз Ганна Мацвееўна выходзіла на вуліцу сем год таму, гэтак сведчаць суседзі.

– Ногі кволыя, сонка. Не слухаюцца. Ведаеш, колькі яны за жыццё напрацаваліся?! Я была лепшая на жніве, лепшая ў танцах. А як мой Хведар за мной хадзіў, якога ён круталя ў карапеце выдаваў...

Я проста слухала і спагадліва ўсміхалася.

Яна блыталася ў сваіх успамінах, але цвяроза ведала, у адрозненні

ад мяне, куды накіроўваецца і што чакае яе наперадзе. А чакаў яе Ён, нябёсы і жыццё вечнае. Заходніца, каталічка, калісь вясковая жыхарка. Усё, што я магла пэўна сказаць пра яе. Калі разабрацца, толькі яе зацятая вера і адрознівала нас. А ў астатнім – мы моцна перагукаліся. Мая біяграфія без прыўкрас: Ліда, дом-інтэрнат для дзяцей без бацькоў, аматарская тэатральная студыя, курсы, галіменькі тэатр. Адна ў дзяцінстве – адна ў юнацтве – адна ... Але цяпер у мяне быў Раман. А гэта ўжо вялікая розніца.

За тры месяцы нашага з Ганнай Мацвееўнай сумесна-ўважлівага жыцця, чакаць новае гісторыі пераўтварылася для мяне ў патрэбу. Здаралася, мы, быццам па тайнай дамоўленасці, пачыналі выдумляць іх разам.

– Ядзечка, а дзе твой мілэнькы? Такі зграбны, высокі? Быў дзесь тутака, здаецца... Сёння мне лекі шчэ прыносіў. Добры хлопец, трымайся яго, дзетка.

Раман сёння ў начную. Ведаеце, жніво цяпер гарыць. Без яго не спраўляюцца. Стараста паклікаў.

Раман часта тушыў жніво. Гаспадыняй "займалася" я – ён так гэта называў. Для яе я штоаўторак бегала па хлеб у "аўталаўку", па буракі "да Аўхімкі", па муку "да Аўдася", па шарсцяныя ніткі "да Дароткі". Пакуль Раман змагаўся з агнём, я пакрысе брала ў сваёй падапечнай урокі вязання, жакардам. У антрактах паміж першай і другой дзеяй я раскідвала па грымёрцы клубкі, Віта ўжо звала мяне не іначай як Зоф'яй Савельеўнай.

– Любы, мы з Ганнай Мацвееўнай звязалі табе зімовыя шкарпэткі. З птушкамі. Яна аднекуль памятае, як тое робіцца.

– Залішняе. Давала ёй лекі?

– Пасля снядання, як заўжды. Я ўсё раблю, як ты хочаш.

Я мякка абвіла рукамі яго спакуслівую шыю. Вось ён – супакой. Затуліцца табою, моцна трымаць побач.

– З'язджаю. Закручаная справа, цягнемся ледзьве не на іншы канец свету. Вярнуся не раней за пятнаццатае. Чаго прывезці трэцяй Малпе?

Звычайна я не цікаўлюся падрабязнасцямі яго прафесійнага жыцця. Не хачу занадта ціснуць. Ці баюся.

– Прывязі мне канарэйку. Гэткую, што бачыла світанак па той бок Ціхага акіяна...

– Зноў твае вычварэнні. Добра. Трэба ісці. Пільнуй нашу пані. Архаічны аб'ект, але які, бліна, стойкі. Упершыню на гэткую натрапляю.

Раман ускінуў праз плячук партфель-папку, пырскануў за каўнер ладную порцыю таннай падробкі "Х'юга", шпарка накіраваўся да выхаду. Ён зрэдку здымаў дома свае запэцканыя вулічным брудам вузканосыя боты, толькі ў крайнім выпадку – калі збіраўся ночыць.

Сёння быў не той дзень. Ля самых дзвярэй Раман спакусліва ўсміхнуўся мне нядаўна выбеленымі ў знаёмага стаматолага зубамі.

– *Chérie*, вось камунальныя. Разлічыся сама. Вы ўжо атрымалі свой жабрацкі арыстакратычны заробак?

Дзверы зачыняліся. І мы заставаліся ўдвох, я і мой састарэлы дзівакаваты двайнік у персікавай кохтачцы і сетцы зморшчынак. Дзве абшчапаныя канарэйкі ў бетоннай клетцы. У мяне няма досведу, як мусіць выглядаць сямейнае, ці хоць каля-сямейнае жыццё. Я памятаю, што жанчынам часта кажуць пра цярпенне.

– Лесечка, у цябе фіялачка сохне. Палі, не муч гаротную.

У галаве навязліва закруцілася кіслотная пераапрацоўка фольку нейкай ТэБэшнай передачы. “З-за каго я сохну, з-за каго я вяну...”

Ганна Мацвееўна ніколі не ўключала тэлевізар. Гэты кавалак сучаснасці стаяў непажаданым госцем у напаўпустым пакоі, і адзінае, што яму заставалася – служыць падстаўкай для жоўтай звялай махровай фіялкі. Адвячоркам, пасля тлумных рэпетыцый, прагонаў, балбатні з Вітай, абмену непрыхільнымі позіркамі з Маечкай (я такі “падмазала” яе – набыла футляр для акуляраў, ёй не спадабалася), дома мы чыталі. Ганна Мацвееўна настойвала на Новым Запавеце, я падмяняла тэкст, укручваючы некалькі старонак з Булгакава. Яна цёпленька ўсміхалася і засынала. Кволая трысцінка з невядомага свету, яна стала для мяне хворай мамай, сястрой-інвалідам і маім дзіцёнкам-немаўляткам адначасова.

– Ты не Марыя, Зоська. Ты маці Тэрэза. Павесіла на сябе мужыка і чужую старуху. Давярай ды правярай, сяброўка.

– Віт, перастань, ну калі ласка. Гэта ўсё часова. Ты ж ведаеш.

– Мая даверлівая, бедная Марыя.

Раман завітаў на дзве ночы. Прывёз мне падробку дарагушчай “Караліны Эрэры” і новыя лекі для Мацвееўны. Спытваў, ці не горш нашай пані, ці моцна любіць мяне.

Зранку Раман таропка і неахайна перакладаў паперы, разбіваў па файліках, запіхваў у партфель. Я старанна вывучала малюнак выгаралых шпалераў. Здавалася, сэрца тахкала ў вушох. Язык не асабліва хацеў падпарадкоўвацца. Але пытанне ўжо другі месяц ірвалося вонкі. Яно было маім першым пытаннем за ўвесь час нашага “сумеснага” жыцця.

– Чаму я павінна з ёй насіцца?

– Ай-я-яй, якія мы рэзкія! Ці мы не людзі, *ma chérie*, а ці ж не міласэрныя? Бабця ўжо моцна да цябе прывязалася, праўда? Ну вось. Хіба ты больш не хочаш быць маёй паслухмянай дзяўчынкай? Хіба мая птушка не марыць аб цёплым гняздзечку? Дык вер мне, малпачка.

Я лёгка і не без асалоды прыняла яго даволі грубыя абдымкі.

А потым я корпалася ў ягоных кішэнях і ўсіх папках-партфелях. Бессаромна і прымітыўна. Дакументы, купчыя, ордэры, дароўныя, квітанцыі. Камунальныя. Нашыя. І – чужыя. У графе плацельшчык – незнаёмыя жаночыя прозвішчы.

Праз трыццаць хвілін я стаяла пад дзвярыма кватэры адной з пазначаных у квітанцыі жанчын. Трымцела і рыхтавала ролю.

***

У той вечар я позна прыйшла дадому. Раман патэліў каля першай гадзіны. Я не падняла слухаўку. Мне патрабаваўся час сам-насам. Прынамсі, да раніцы. Ганна Мацвееўна мякка прычыніла дзверы ў мой пакой.

На наступны дзень я перш-наперш выправілася ў копі-цэнтр. Пяцьсот рублёў за копію. Тры кватэры – тры копіі. Простая і даступная матэматыка. Тры маладыя дурніцы, тры слабыя на розум бабці – элементарна, *ma chérie*. Асабліва для спрактыкаванага знаўцы.

Ганна Мацвееўна насцярожана пазірала на мяне паўз абвіслыя пялёсткі фіялкі. Ружаньчык шпарка перабіраўся ў яе старэчых пальцах. Мы маўчалі. Дзве безгалосыя нетутэйшыя канарэйкі.

Я ўпершыню ўбачыла Рамана, калі ён з вялізным букетам крыху пад-

вялых кветак падпільноўваў мяне на службовым уваходзе тэатра пасля прэм'еры Бэтлеемскай зоркі.

– Вашая Марыя – непараўнальная. Вы і ў жыцці гэткая ж?

Так, гэткая ж. Абсалютна дакладны разлік. І іншыя дзве – такія самыя. Самотныя, даверлівыя, ахвярныя курыцы. Мы добра распазналіся ўчора – кампліменты выдатнаму кастынгу, *ma chérie*! Тры кватэры ў цэнтры, падараваныя гаспадынямі-пенсіянеркамі розным людзям, перапісаныя трыма закаханымі жанчынамі на тваё імя – выдатны сцэнар, мой непараўнальны! Аксамітны голас, гарачае жніво, танны Хьюга – акцёрская гульня вышэйшага класу. Здымаю капялюш, мон амур!

Ліпкую цішыню распаранай пяціпакаёвай сталінкі парушыў званок. Аказваецца, дзверы сёння былі замкнёныя.

– Ты чаго, бліна, слухаўку на бярэш? Зусім башню парвала?

Копіі ордэраў, камуналак і дароўных я загаддзя аднесла Віталінцы. Мне не было чаго баяцца. Хіба што толькі сваёй курынай слабасці.

***

Я не ведаю, адкуль прыйшоў Раман і куды цяпер будуць скіраваныя яго крокі. Ганна Мацвееўна верыць, што аніякі чалавек, аніякае выпрабаванне не пасылаецца нам проста так. Гэта Ён – хоча нас навучыць і ўдасканаліць.

– Марыйка, ты калі-небудзь была ў тэатры?

Сёння я вывезла яе на спектакль. Мы з Язэпам у сто першы раз уцякалі з Егіпта, сустракалі Зорку і трох Каралёў, шкадавалі Асла, святкавалі з'яўленне дзіцяткі, раздражнялі Маю Геральдаўну. Пасля спектакля Ільніцкі, ужо крыху нападпітку, зазірнуў у нашую грымёрку.

– Зоф'юшка, вашая Марыя – вышэйшы клас!

Увечары я паліл*а* фіялку.



# “А ты чалавек – цябе не зловіць ніхто”

***Сучасная ўкраінская паэзія і проза***

**Алег ЛЫШЭГА**

## *ПЕСНЯ 551*

Покуль не позна – бійся аб лёд галавой!
Покуль не цёмна – бійся аб лёд галавой!
Прабівайся, выбівайся –
І цудоўны свет будзе твой!..
Карпы – наадварот, у глыбіні сплываюць,
Уцякаюць на самае дно –
Ды карп і служыць дзеля таго,
Каб аднойчы злоўленым быць, раней ці пазней..
А ты чалавек – цябе не спаймае ніхто..
Карпы – яны не такія..
Асядаюць павольна за векам век
Цёмныя й палахлівыя іхнія чароды, –
Яны аддаляюцца ў іншы бок –
Бачыш, наша стагоддзе – іх вечны канвой? –
Дакранаецца плаўніком, як рукой, да іх плаўнікоў
І ўцякае... а ты пакінуты? – але ж ты чалавек –
Не адчайвайся – ты праб’ешся..
Покуль не позна – бійся аб лёд галавой!
О дзівосны свет, неасяжны, заснежаны й толькі твой..

## *ПЕСНЯ 7*

Усё раскідана..
Чарот укленчыў, просіць не дабіваць..
Усё параструшчана, параспіхана наўкол палонкі
Па найцямнейшых кутках..

Здавалася, ужо не сплю,
Здавалася, нішто не адараве далоні ад сэрца..
Уночы яна трымцела, пульс падаў..
Значыць, заснуў..
Напраўду, у прыцемках увесь вечар у сонным чароце
Быццам было чуваць чыёсьці хаджэнне..
Калі жорны, падвешаныя да павекаў, уздрыгнулі,
Я яшчэ ўстаў і, хістаючыся,
Шпурнуў туды камень..
Бо там калісь прамільгнуў
Твар абыякавасці, драпежны і юны,
Бы ў опернае спявачкі..
І помню, яшчэ цішыня..
Пазяхнула зямля перад снегам..
О так, спявае..

### ПЕСНЯ 55

Любая, спі, усё засынае,
Папіўшы з ракі перад сном малака..
Цыферблат будзільніка
Парос сухім чаротам, драмае..
Калыска твая, усміхнуўшыся развітальна
Беласнежным смехам,
Загайдалася на вятры,
Падвешаная да неба снамі..
Я запляту твае косы на заўтра,
А зранку нахілюся над табою ў шэрані –
Стужкі яскравыя, пунсовыя..
Любая, спі, у доме чароту гарыць свечка,
Запаленая мной, бяздомным..
Лёд над табою, лёд пад табою..
Полымя адагрэе памяць..

### ПЕСНЯ 43

Усё відаць, хоць рукой дакраніся – а нібы ноч..
І толькі чарот на сонцы блішчыць..
Так, нібы чыстая рэчка прабегла,
Амыла ўсё ў месяцовым святле..
І бульба неглыбока пад нагамі
Грубымі, няўмытымі тварыкамі анёлаў уздыхае..
Дыхае яма, прываленая жыўцом..
Пад нізкім скляпеннем, мабыць, цяжэй надзеі..
Рука разгрэбла ўсё тое, што было снегам,
Прабіўшыся ў цёплы таемны свет,
Замерла..

Яны сапсавалі мне песню..
Такая добрая была песня,
Але яны не зразумелі і сапсавалі яе..
А я ўклаў у яе ўсё жыццё..

### ПЕСНЯ 5

– Ці не маеце яйка
Такога маленькага, як глобус,
Каб мо запхнуць галаву і пагрэцца?
– А вы хто?
– Мы пагарэльцы – хата згарэла,
Усё пагарэла – а мы з дзецьмі,
Як тыя іскры па полі..
Або: рэчка разлілася,
Паўхаты тапельцаў..
– А вы адкуль?
– Мы з Пакуцця: Прут разліўся,
Хата згарэла, усё пагарэла,
А мы з дзецьмі, як тыя іскры па полі..
– А куды ж вас нясе?
– У Індыю.. мы вельмі любім
Індыйскія фільмы.. вы раптам не ведаеце –
Радж Капур яшчэ жывы?
– Не, мы не ведаем.. а чаму вы так узапрэлі?
– Ужо немаведама колькі начэй
Мы даганяем лотас.. а ён ад нас уцякае
Па глыбокіх снягах..
– О легкакрылы птах!..
– О журавель у небе!..

### ПЕСНЯ 212

Як шмат суперзорак, парослых чаротам..
Недзе там Том Джонс
Спявае пра зялёную-зялёную траву..
У такую ноч месяцовымі барамі
Водзяць карагоды апенькі,
Прыцярушаныя цынамонам..
Як бы я хацеў пусціцца зноў
Тым Птушыным Шляхам назад,
Паараць яшчэ цёплы пыл..
У такую ноч
Адкрываюцца найбольшыя оперныя тэатры –
Для тых, хто ў моры, для тых, хто не спіць,
Эла Фіцджэралд
Мажацца глінай блакітнай –

Мы не згубімся ў гэтым свеце!
Ніколі, ніколі не сумавацьму –
Зусім як дрэва нізенька над вадою.

### *ПЕСНЯ 352*

Калі вам так заманулася пагрэцца,
Калі вам так хочацца перакінуцца хоць словам,
Калі вам так хочацца хоць трошкі цеплыні –
Не йдзеце да дрэваў – там вас не зразумеюць,
Хоць архітэктура ў іх проста касмічная
І з коміна віецца празрысты дымок..
Не йдзеце ў гэтыя горы хмарачосаў –
З тысячнага паверха
На вас могуць высыпаць жар..
Калі ўжо вам так не цярпіцца без цеплыні,
Ідзеце на завеяны снегам гарод,
Там з краю стаіць самотная хата хрону..
..А вось і ўбогая хата хрону..
Свеціцца? – свеціцца.. ён заўсёды дома –
Стукайце ў хату хрону, стукайце ў гэтую хату..
Стукайце – і вам адчыняць..

### *ПЕСНЯ 882*

*Першы:* Сапраўдны табе гербарый –
Грошы на дрэвах! –
Ідзеш і зрываеш, і сееш па снезе..
Ды не такі ўжо там і мёд,
Скажыце мне:
Калі на кожным дрэве
Сядзіць па колькі варонаў у шэрані –
Хіба ж гэта гербарый?
А слоўнік бяссільны..
*Другі:* Шапкі няма,
Кажуха няма – ці ж гэта зіма?
*Трэці:* А я напісаў там оду лацінскаю мовай,
Пачынаецца так: “Данясенне” – дзве кропкі –
“Нарэшце” – клічнік –
“Рака прыняла лёд” – клічнік,
А можа і коска –
“Дала пацалаваць ручаньку сваю”.
*Другі:* Што ні кажыце, а ў наш час
Проста немагчыма без лаціны –
А хто з нас ведае,
Як, напрыклад, па-іхняму “ніцая вярба”?
*Першы:* Ох, дай Божа перажыць гэтую зіму.

## Наталка БІЛАЦАРКІВЕЦ

### *КУРТКА З ЦЯЛЯЧАЕ СКУРЫ*

Гэта было, калі дагнівалі імперыі
і апошнія воі гінулі на апошніх мурах,
а ты ўпершыню апынуўся па той бок муру –
*перестройка*, сустрэча будучых лідэраў,
як нам уладкаваць Еўропу ды іншае бла-бла-бла
на зялёнай-зялёнай траве еўрапейскіх універсітэтаў.

Заставайся там, калі зможаш, – казала твая дзяўчына;
не вяртайся сюды, тут не будзе нічога добрага
(так, урэшце, і выйшла). Але ты вярнуўся:
у скураной жоўтай куртцы, купленай у Ліверпулі
на таўкучцы, за апошніх пяць фунтаў, зэканомленых
на аўтобусах і платных прыбіральнях –
дзякуй моцным нагам і вечаровым хмызам
з вострым пахам дзікае жоўтае квецені.

Ты не мог яе не купіць – яна ўжо была *рэтра*;
ёй, магчыма, было ўсе дваццаць гадоў
і нейкі старэнькі жук апранаў яе ў шасцідзясятыя,
і ў пацёртай цялячай скуры жылі ўспаміны
пра камуну і хіпі, пра бітлоў і марыхуану.
У нагруднай кішэні захаваўся шматок паперы
з тэлефонным нумарам – гэта зусім цябе даканала,
бо – у прынцыпе – ты ў любую секунду мог пазваніць
і дазнацца, што сталася з тым жуком,
Полам, Джонам ці Джорджам,
і чаму ягоная куртка прадаецца цяпер за пяць фунтаў
на блышынай таўкучцы, у Ліверпулі.

Твая дзяўчына (а ёй была я) адразу
паклала вока на куртку – бо вы ж маглі
насіць яе па чарзе;

і было штось кранальнае ў тых зашырокіх
плячах, задаўгіх рукавах,
у сапраўдным мужчынскім паху,
калі хлапечыя зграбныя пальцы
кладліся на яе загарэлы плоскі жывот
(а яна ўжо была два месяцы як цяжарная),
і ўгары паміж хмараў жоўтаю субмарынай
праплывалі душы нявінна забітых маўклівых цялятаў.

## ДЖАЗ

Не, ён тут не жыве...
Ён цяпер наогул не жыве. Памёр
яшчэ год таму. Удава з дачкой
прадалі гэты дом і з'ехалі,
не пакінуўшы адрасу.
Можа, хтосьці й бывае на могілках,
але тут не з'яўляўся ніколі. Тым часам
пошта яму дагэтуль прыходзіць:
вы б не хацелі зірнуць? Можа...

Дзякую, не. Выбачайце. Да пабачэння.

Чаму так халодна
у красавіцкі ранак,
калі сонца звініць
між квецені сліваў?..

Год у сямнаццаць я хадзіла яго паслухаць.
Джаз тады хоць і не быў забаронены,
але не быў у пашане. Таму
яны гралі ў нейкіх зачуханых клубах,
у рэстаранах, у цёмных лютаўскіх лёхах,
на красавіцкіх тэрасах.
Мы, чацвёрка дзяўчатак, сядзелі ў куточку,
ачмурэўшы ад дыму чужых цыгарэтаў.

Сонны прывід граху,
вінная кроў алкаголю,
мужчынскія твары,
жахлівае слова "сэкс".

Ён з'яўляўся ў жоўтых штанах і ў вузкіх
чаравіках, з чырвонымі валасамі – руды?
не, відаць, фарбаваны? –
граў па чарзе на кларнеце і саксафоне,
піў у паўзах ваду, часам нешта казаў;
і аднойчы спыніўся позіркам
на падоўжаных ад чакання тварах фанатак.

Трапяткі матылёк
у кутках яго вуснаў:
come on, будзь смялейшай,
усё будзе проста цудоўна.

Я збірала ўсе плёткі пра яго ў студэнтаў кансерваторыі,
пра выгнанне з *alma mater* і ўцёкі ў Прыбалтыку,

пра партнёраў, з якімі ён граў і з якімі ён спаў;
пра вяртанне. Ужо якраз прарасталі
цьмяныя спадзяванні й музыка з сутарэнняў
выпаўзала на вуліцы,
бледная, нібы прарослая бульба.

Потым ён ажаніўся – і гэта было трохі сумна.
Хай бы лепш заставаўся ў тых вясёлкавых фарбах.
Але свет накрэсліўся просты,
чорна-белы да шэрага:
белы швэдар, чорныя нагавіцы, сівое валоссе.

Ён прыходзіў на мітынгі, пасадзіўшы малую на плечы,
абіраў незалежнасць і Чарнавола,
выкладаў кларнет у музычнай школе,
зарабляў два мільёны, стаяў у чарзе па яйкі.
Урэшце эміграваў –
жонка своечасова згадала бабулю-габрэйку.
Ягоныя вучні таксама мігравалі або співаліся,
сыходзілі ў бізнэс або ў палітыку.
Аднаго знайшлі безгаловага ў тарашчанскім лесе,
другога павешаным на занядбаным складзе,
яшчэ аднаго падарвалі ва ўласным аўто на Рэйтарскай.

...Сонечныя кларнеты,
месяцовыя саксафоны,
наступнага года ў Ерусаліме –
у Новым Ерусаліме,
там, дзе пагоркі з макаўкамі залатымі,
у небе над рэчкай, дзе птушкі
спыняюцца й адпачываюць на паўдарозе,
але мала якая з іх даляціць да сярэдзіны,
але мала хто сыграе джаз пасля смерці,
нахіляючыся наперад, адкідаючыся назад,
падгінаючы ногі ў жоўтых штанах,
выпінаючы горла ў бялюткім швэдры,
гледзячы доўгім позіркам у вочы старое панны,
што сыходзіць ад дому, дзе

ён ужо не жыве.

## Сяргій ЖАДАН

+ + +

Ёй пятнаццаць, і яна гандлюе кветкамі на вакзале.
Паветра за шахтамі салодкае ад сонца і ягад.

Цягнікі заміраюць на хвілю і рушаць д*а*лей.
Вайскоўцы едуць на Ўсход, вайскоўцы едуць на Захад.

Ніхто ў яе горадзе не жадае спыняцца.
Ніхто забраць не хоча яе з сабою.
Яна думае, робячы з раніцы сваю працу,
што нават гэтая тэрыторыя можа быць блізкаю й дарагою.

Што і яе, выяўляецца, не хочацца кідаць надоўга,
што за яе, выяўляецца, трэба чапляцца зубамі,
што для любові досыць гэтага вось вакзалу старога
у летняй пустой панараме.

Ніхто ёй не тлумачыць, у чым прычына.
Ніхто не прыносіць кветкі на магілу яе старэйшаму брату.
Скрозь сон чуваць, як фармуецца ў цемры айчына,
нібы хрыбет у хлопчыка з інтэрнату.

Фармуюцца цемра й святло, складаюцца разам.
Летняе сонца перацякае ў зімы.
Усё, што робіцца з імі ўсімі, і называецца часам.
Галоўнае разумець, што ўсё гэта робіцца ўласна з імі.

Фармуецца ейная памяць, у радасці й жалі.
У гэтым горадзе нарадзіліся ўсе, каго яна знае.
Засынаючы, яна згадвае ўсіх, што адсюль паз'язджалі.
Калі згадваць няма каго больш, яна засынае.

\+ + +

Як мы будавалі свае дамы?
Калі стаяць пад небам зімы –
крохкім, знікомым – і разумець,
што жыць трэба там, дзе цябе не палохае смерць.

Будуй сцены з водарасцяў і травы,
кап*а*й ваўчыныя ямы й равы.
Звыкай жыць з усімі, хто ёсць і міне.
Айчына – там, дзе цябе разумеюць, калі ты гаворыш у сне.

Кладзі камень на камень, будуй свой дом,
там, дзе гліна й густы чарназём,
з кішэняў зямлі выцягвай вугаль і соль,
бо для вяселля й хаўтураў патрэбныя сцены і столь.

Трэба мець месца, якога не будзе шкада.
Вада чагось вартая, калі гэта пітная вада.

Калі сапраўды шукаць вінаватых, то гэта не мы.
Мы ўсё жыццё будавалі свае дамы.

Брыла да брылы, цвік па цвіку, сцяна па сцяне.
Калі можаш спыніць, то спыні мяне.
Але калі хочаш, каб больш мяне тут не было,
апроч мяне давядзецца забраць і маё жытло.

Падалей ад пустэчы, бліжэй да жыцця.
Дрэвы будуць расці, будзе расці дзіця.
Выступае раса на лісце тытуню.
Мы будавалі так, што нябёсы раслі ў вышыню.

Быццам пустая мова чакала нас,
і напаўнялі, за словам слова, за сказам сказ.
Быццам імёны рэчаў ажывалі на языку.
Брыла да брылы, сцяна за сцяною, цвік па цвіку.

Голас моцнаму – спеў, слабому – малітваслоў.
Мова знікае, калі на ёй не казаць пра любоў.
Святло не мае сэнсу без цемры начной.
Чорнае сонца, свяці, свяці нада мной.

\+ + +

Дзіўным святым закарцела ў горад прыйсці:
маліліся каменю й спалі на дыванах.
Якая сувязь з госпадам пры такім пакрыцці?
Малюй крыжы на патрэбных табе дамах.

За імі прыйшлі ваенныя – і запалала зямля.
Выразалі бязбожнікаў, потым парафіян.
І Ёна тады напісаў тлумачальны ліст, а пасля
сабраў свае рэчы й рушыў за акіян.

Цяпер у Гішпаніі, – думаў ён, – на перавалах ляжаць снягі,
а дзеці на пляжах палююць на залатых медуз,
там ёсць праца й начамі не душаць грахі,
там вецер хаваецца ў складках рыбацкіх блуз.

А тут, сярод асірыйцаў, вусцішней кожны міг,
і схавацца няма куды ад агню,
і што ім, асірыйцам, да прароцтваў маіх,
смешна думаць, нібыта я ўсё гэта спыню.

Ён грузіцца разам з усімі й плыве ў гумовым чаўне,
і мора не мае межаў, і суша толькі на дне.

Зняўшы пярсцёнак, плаціць за перавоз,
разлічвае на тры дні ваду, цыгарэты і лёс.

Але сярод мора іх супыняе патруль,
і Ёну дзіравяць лёгкае найвастрэйшаю з куль,
і Ёна ідзе на дно, якога няма, і покуль ідзе,
яму руку працягвае госпад, што быў увесь час немаведама дзе.

Я выплюну цябе на бераг, як выплёўвае нажыўку найбольшая з рыб,
я ўдыхну ў цябе жыццё, як удыхаюць гук у сурму,
я вярну табе голас, калі ты зусім ахрып.
Ты мусіш жыць там, дзе ты мусіш жыць, і не пытайся чаму.

Нават калі абмінеш аблавы з пасткамі на мяжы,
нават калі схаваешся ў іншыя гарады,
ты ўсё роўна не будзеш шчаслівы там, дзе ты ўсім чужы,
бо ў выгнанцаў на вуснах цішыня назаўжды.

Я ведаю, ты не хочаш жыць у пажары й журбе,
ведаю, як палохае стук у дзверы ўначы.
Можна ўцякаць ад мяне, але не ўцячы ад сябе.
Дый ад мяне, калі шчыра, таксама ніяк не ўцячы.

Тады Ёна сушыць рэчы, а потым прыходзіць назад.
Праветрывае ў пакоях, глядзіць, як разросся сад,
як яблыкі падаюць і ляжаць у траве,
бы рыба на сушы, яшчэ не памерла, але – ужо не жыве.

І калі не збіраць іх штодзённа, яны абавязкова памруць.
І раса праступацьме на іхнай скуры, бы ртуць.
Госпад сам сабе абаронца, ахова й браня.
А вось за дрэвамі варта глядзець штодня.

+ + +

Памяці ўсіх, каго пазбавілі права,
памяці ўсіх, што ў спісах былі чужымі,
памяці ўсіх, каму жнівень гарэў занадта яскрава,
каму не паставяць помніка пры ніводным рэжыме,

памяці тых, хто за межамі, хто за мяжой закона,
памяці тых, хто гаварыў з зашытымі ртамі,
памяці тых, хто застаўся на лініі абароны,
плывуць нябёсы,
плывуць сёння зранку над гарадамі.

Плывуць над ускраінамі,
плывуць над элітным кварталам,

плывуць над домам ураду,
плывуць над універсітэтам.
Сонца ў рацэ адлюстроўваецца чырвоным каралам.
Пахне мёдам і дымам.
Пахне скончаным летам.

Пахне полем выпаленай пшаніцы.
Выжыві ў гэтым полымі, юны падранак.
Над тваёй геаграфіяй ніцаю навальніцай
неба плыве – над краінай, дзе кожны ранак

памяці тых, хто сышоў, разраджаюцца тэлефоны,
памяці тых, хто знік, працуюць заводы,
памяці тых, каго ўжо няма, пераганяюць вагоны
і жанчыны, кажучы пра дзяцей, выдыхаюць цяпло свабоды.

Памяці тых, хто ўпаў, плывуць грузавыя паромы,
памяці тых, каго не назвалі, падае дождж лагодны,
працуюць нябачныя
меліяратары й аграномы,
працуюць удзень і ўночы, бо неабходна,

каб улетку не перасыхалі рэкі,
каб у снежні не заміралі пякарні,
каб у горадзе можна было купіць малако і лекі,
каб не спынялі руху вакзалы й друкарні.

Бо кожнаму трэба радасці ў яго працы,
бо як жа іначай без сілы й пяшчоты ў рытме;
бо памяці тых, што баяцца, камусь падымацца,
бо памяці тых, што замоўклі, хтось гаварыцьме.

\+ + +

Лаві яе, нібы рыбу, не адыходзь ад вады,
пакуль вымываюць хвалі пяску залатую руду.
Усё пачалося з таго, што я прыйшоў за ёю сюды.
Усё закончыцца тым, што я без яе не пайду.

Разгортваюцца нябёсы ў блакіт і золата дня.
І птушкі ўгары малююць колы свае.
Я ведаю свет на памяць, аж да самага дна.
Адно, чаго я не ведаю, – як мне спаймаць яе.

Колькі часу і высілкаў я змарнаваў, пакуль
птушкі перагукаліся, смеючыся ў лісці.
Я з радасцю кінуў бы ўсё і пайшоў адсюль,
проста я больш нічога не ўмею ў гэтым жыцці.

Я з радасцю ўцёк бы яшчэ сто прыліваў таму,
забыў бы, як востра й балюча вада пяе,
ды тыя, каму я веру, вучылі мяне аднаму –
лавіць яе, нібы рыбу, лавіць яе.

Іншых заняткаў не ведаў я з той пары,
з усіх уменняў абраўшы ўменне штодзень
ладзіць кручкі, якія звіняць на вятры,
каб паляваць на голас і паляваць на цень,

сачыць, як лепіцца сонца з летніх гадзін,
як пачынае завея танчыць за ветрам услед,
сачыць за фазамі месяцу, бо толькі месяц адзін
уплывае на рух акіянаў і галасы кабет,

каб іхныя радасці ўслед за смуткам ішлі.
Адшліфаваная галька. Вымаклая руда.
Берагавыя лініі хтосьці правёў па зямлі,
каб свет здаваўся складаным, нібы марская вада,

каб вырывала са сну прылівамі наслання,
і ўпартымі, як баі, былі веды твае,
каб ты заўжды і паўсюль, штоночы й штодня,
лавіў яе
і адпускаў,
і зноўку лавіў яе.

\+ + +

Столькі дажджу ні адна вясна не знясе.
Добра было б імёны запомніць усе.
Ведаць, калі сыходзіць, і не шкадаваць, ідучы.
Добра было б умець.
Я не ўмею яшчэ.
Навучы.

Але да апошняй запалкі вечар прамок.
І дотык тваёй рукі – вільготны апёк.
Апякае лістота, пякуць начныя агні.
Патлумач, як ты дыхаеш на такой глыбіні.

Добра было б адчуваць жыццё, якім яно ёсць.
Разумець, што яно выключна тваё – і досць.
Цешыцца ім штораніцы й радавацца ўначы.
І не думаць больш пра цябе.
Я не ўмею яшчэ.
Навучы.

Але паветра ў траўні – рэзкае, нібы шкло.
Я знаю – табе замінае ўсё, што з табой было.
Ведаю, як ты баішся сэрца свайго,
Што не хоча нічога і прагне ўсяго.

Столькі дажджу – а ён цячэ і цячэ.
Я ведаю ўсё, што можна ведаць на свеце яшчэ.
Дрэвы над галавою. Цемрыва на плячы.
Я ведаю ўсё.
Я гатовы вучыцца далей.
Навучы.

+ + +

Мне 42. Я нічога не ведаю пра існаванне.
Нада мной кожны ранак нанова гараць нябесныя сферы.
У жанчынах ёсць нешта ад караблебудавання –
у цвёрдасці іхных ключыцаў праступаюць галеры.

Калі яны йдуць – наўпрост, на вякі, назаўсёды,
на мяжы радасці і трывогі,
у ветразях іхных лёгкіх столькі свабоды,
вільготнага ветру й салёнага духу дарогі.

Так, нібыта прылівы фармуюць іх подых,
так, нібыта іх тут трымаюць швартовыя тросы.
Я чую кожнага разу, сустракаючы іх на сходах,
як у іхных руках звіняць карабельныя сосны.

Мора наўкола іх – нетутэйшыя буры.
Мовай, якой размаўляюць у сне, гаварылі шумеры.
Мне вядома пра іх толькі тое, што пазванкі ў іх з-пад скуры
праступаюць, як мацерыкі
над вадою нянашай эры.

Сузор'і ў чорных нябёсах, як шытыя раны.
Кожны шолах уночы, як незнаёмы бераг.
Захлынаюцца хвалі, дыхаюць акіяны
памяці тых, хто памёр на гэтых галерах.

+ + +

А вось яшчэ адзін верш,
каб давесці ёй, што зямля
плоская і крохкая,
што яе круцяць д'яблы музыкі,
што на яе паверхні танчаць святыя,
сыходзячы з неба на вясковыя вяселлі.

Вось яшчэ колькі словаў,
якія мусяць змяніць яе стаўленне
да прыроды боскага,
якія мусяць пераканаць яе ў тым,
што ўсе гэтыя
калядныя распродажы
скончацца страшным судом,
і што мёртвыя ўстануць і будуць шукаць
сабе месца сярод жывых.

Цяпер яна не зможа не паверыць,
цяпер яна не зможа рабіць выгляд,
што нічога не ведае,
цяпер усё напэўна зменіцца,
пасля гэтага верша,
пасля яшчэ аднаго верша.

Чым можна ламаць замкі да сэрцаў?
Толькі словамі, пастаўленымі
з ног на галаву.
Чым можна зачараваць чужое каханне?
Толькі вершамі, напісанымі
на старонках Бібліі,
паўзверх дэтальных апісанняў
апакаліпсісу.

Але пачынаецца яшчэ адна зіма.
Але абрываецца яшчэ адна размова.
Прыўкрасны свет замірае ў чаканні цудаў.
Нікога ні ў чым нельга пераканаць.
Ніхто не верыць у страшны суд.
І ў паэзію таксама ніхто не верыць.
Тым горай для вас.
Тым горай.

\+ + +

Халоднае ранішняе паветра.
І на вуліцы нікога няма, толькі птушкі.
Ён стаіць на прыпынку, з пакетам у руцэ.
Дыхае раз-пораз на замерзлыя рукі,
шкадуе, што забыў пальчаткі.

Іншы пад'язджае на сваёй машыне,
здалёк яго пазнае.
Вытрымлівае паўзу, падыходзіць.

Той, што з пакетам, вагаецца
думае падаць руку,
але ўрэшце дыхае ў кулак,
нібы хоча сагрэць.

Моўчкі глядзяць адзін аднаму ў вочы.
Моўчкі адзін аднаго ненавідзяць.
Халодная раніца суботы,
халоднае паветра восені.

Урэшце не вытрымлівае, аддае пакет,
не развітаўшыся, спускаецца ў метро,
паступова саграваючыся.

Іншы доўга стаіць,
не адчувае холаду,
трымае ў руках пакет
з рэчамі жанчыны,
з якой жыве,
якую кахае.

+ + +

Што такое каханне?
Каханне – гэта калі яна расказвае
пра сэкс з іншым мужчынам,
а ты пры канцы ўсё адно пытаеш,
ці ёй было добра.

## Алена ГЕРАСІМЮК

* * *

Баба-шаманка валіць у сценку-бубен.
Паветра мембраннае цягне-выцягвае скуру,
паветра струной выкручвае жылы цела,
тонкіх празрыстых рэчаў і ценяў трымценне...

Баба-шаманка валіць у сценку-бубен.
Расцягнулася ноч павекамі чорнае скуры.
Вытанчаецца-танчыць у шыбах, у целах і душах,
воўча дрыжаць вантробы, скудлачаны кудзеры,
грукае, грукае, круціцца, круціцца, круціцца...
Горад затанчыў, горад курчыцца ў карагодзе,
Баба-шаманка ў вокны далонямі бухае –
неба адплюшчыла вока...

Чалавеча, хавайся, пасыпай голаў попелам,
вокны завешвай, нібыта люстэркі, анучамі чорнымі,
покуль Божая зрэнка ў цябе не ўперылася,
покуль Божая зрэнка ў карак не ўпілася,
а як засне...

Танчы, зямля, ізноў на шчацэ Ўсявышняга!
Баба-шаманка, згортвай у бубен ростані
часу й прасторы. Вызвані, вывалі, вытрусі!
Ave, Maria! Ora! Ora pro nobis!
Бі ў званы, Марыя, і танчы з намі!
Бі ў званы, Ісусе, і танчы з намі!
Біце, Пётра й Тамашу, біце, Яне і Юда, і Паўле!
А дзе ж той дзядзька Ёсіф, што гарэлку носіць?
Дзе ж тая Ганулька, дзе ж тая Галінка?
Косы ў вясны запалалі
Сосны ў лясах запалалі
Ускокваем ў сані наперад нагамі
У снег, у вырай
Ціха!

Неба адплюшчвае вока...

* * *

Як да мяне ідзеш ты па вадзе
лягчэй за лес
цішэй за сон і цені...

так чуйна падымаючы калені
кашулю падабраўшы кагадзе

я корань свету бачыў
у вадзе
развіты як твае даўгія косы
такі глухі трывожны стогалосы
што з галавы і волас не ўпадзе

як да мяне ідзеш ты ўпершыню
бо верыш
бо шукаеш нашы твары
глядзіш на дно
у корань

толькі мары
ты сніш
я сню

як па вадзе ідзеш ты нада мною
ўсё в*ы*шай
кожны дзень нясцерпна в*ы*шай

усё танчэйшай
іншай
птушкай
цішай

тваім грудзям не вабіць белізною
тваім рукам больш не тапіць ільду

што потым – калі ты пра ўсё забудзеш
што потым – калі я пра ўсё забуду
засну?
на дно ўпаду?

і будзе лёд нам небам
казкай
дзе
мая князёўна
зоркай падарожнай
апошні раз упершыню ідзе
бо кожны раз апошні
па вадзе

* * *

лета бермудскі трохкутнік у лінію стане
направа налева назад – ратавацца куды
у шклянцы будынкаў, высокая,
столькі вады!
столькі крыві на світанні

што табе слёзы –
бо дым выеў вочы журбе
што табе музыка-мроя якую – хто верне?
дрогкую крохкасць каленяў бялюткае шэрані
у сцюжу сагрэць бы табе

разменнай манетаю праўды і крыўды
твой голас
каціўся як сонца звінеў нібы спелае лона
цяпер толькі космас у кола загорнуты космас
шырэе бясплённа

о толькі б мяжу разарваць нечакана як свет-
ліня раздзірае дзіку галаву і павекі

кім бы ні стаў ты – жывёлінай ці чалавекам
жыць і памерці ў самоце – такі запавет

кім бы ні стаў – у вадзе расчыніўся ці ў ране
беды штодзённыя гнаць будуць кіем у спіну
і толькі ўгары – недасяжна высока няспынна –
маўчанне

расцяты світанак залізвае кроў языком
на дне асцярожная рыбіна б’е плаўніком
і возера чыстай
высокай вадою агорне

рука да рукі – нібы з коранем сплецены корань
раса выпадаючы рэхам гучыць нібы ў горне
і памяць галосіць як лес разарваны дзіком

* * *

Зіма і ноч і кола наўздагон
праз дым нібы сізіф штурхае камень
і апусцелы рот аконнай рамы
як біты посуд – пустацелы звон

і разгайдаўся сад – аднагалінна
аблапвае, абломвае муры
жывую ноч згушчае на вятры
у цытадэль – цагліну за цаглінай

я – цытадэль
дрыжыць і б’ецца шкло
разбіты голас пеўня ўсё ахвярней
гучыць у дыме дзедавай вяндлярні
той дым – тваё нутро – тваё жытло

ўсё стала дымам
дыбам
загуло
адзіным гукам – каб гучаў вякамі
калі з пялюшак вырасцеш у яму –
цяжкой сурмой раструшчанае шкло

рэчытатывам, трэнам, цішай, жменяй
пякельных вершаў сыплецца на нас
бо ты – нязрушны дым
муры
і час

штурхаю год за годам як каменні
твар сыплецца, ідзе на дно, а дна
шукаю марна –
дым і дзедава вяндлярня
адна

* * *

Як тады
калі моцна сціскаю халодны яблык
здаецца
ён вось-вось вырвецца з рук
разаб’ецца шкляны аб зямлю
закоціцца ў траву
пад зямлю схаваецца
нават яблыку
рупіць ад мяне
уцячы

як тады
калі хрушчы падаюць на дарогу
баюся наступіць
пераскокваю
уяўляю як хрусне
аж за вухам
у мозгу
як хрусне
і наступаю выпадкова
на аднаго
трэцяга
дваццатага
гэта не спінкі хрушчоў ламаюцца
гэта мае косткі
таму зноў
баюся наступіць
пераскокваю

як тады
калі хвалі нясуць адбітак
доўга нясуць
знікаюць ля самага-самага берага
і зноў
з сярэдзіны ракі
той самы адбітак
плыве да мяне
ану-тка
плыві сюды

плыві сюды
плыві
знікае ля самага-самага берагу
знікае не даплываючы да маіх рук
нават вада
уцякае ад мяне

*Пераклаў з украінскай Андрэй ХАДАНОВІЧ*

## Марына ВАРЫЧ

### У ноч на перадвелікодную пятніцу

*Апавяданне*

#### 1

Віта Чубко прачнулася а сёмай. За вакном ліў дождж, у кватэры было холадна і сыра, з пачарнелай столі крапала вада, і манатонны стук кропляў у алюмініевую міску даводзіў да шаленства. Каб не чуць гэтага стуку, дзяўчына ўключыла «Перац-ФМ», захуталася ў махровы халат і пайшла ў лазенку. Там яна доўга грэлася пад гарачым душам, потым яшчэ даўжэй запарвала каву і піла яе з эклерам. Паглядзеўшы на неба скрозь запыленую шыбіну, яна падумала, што сонца сёння не дачакаецца. Каб хоць неяк адцягнуць выхад на вуліцу, Віта ўключыла кампутар. Інтэрнэт глючыў, і пакуль адкрывалася паштовая скрынка, яна паспела апрануцца. Прыйшло з дзясятак лістоў ад рэкламных агентаў: запрашэнні на пробны ўрок ангельскай, на падарожжы ад турфірмаў, вясновыя прапановы ад нейкага банка... І толькі адзін ліст, які яе зацікавіў – ад Люды Траецкай. Люда была адзінаю аднакласніцай, з якой Віта перапісвалася. Астатнія не былі цікавыя ёй настолькі, каб аддаваць ім свой час.

Люда Траецкая жыла ў Цюрыху. Тры гады таму яна ажыццявіла сваю мару і выйшла замуж за замежніка. З будучым мужам пазнаёмілася ў рэстаране на Бесарабцы. Ён аказаўся лекарам са Швейцарыі. Люда не планавала гэтую сустрэчу і не рыхтавалася да яе. Проста ішла па Крэшчаціку, змерзла і зайшла ў французскі рэстаран «Брасер» папіць кавы. Там яна і сустрэла свайго будучага мужа. Вядома, не апошнюю ролю ў гэтым знаёмстве адыгралі ейная камунікабельнасць і веданне французскай мовы, аднак, калі б не рэстаран, тое наўрад ці дапамагло б.

Цяпер Люда мела швейцарскае грамадзянства, дзвюх дачок-блізнятак і займалася мастацкай фатаграфіяй. Пераехаўшы ў Цюрых, яна доўга не магла знайсці сабе сяброў, і Віта была ці не адзінай, з кім яна мела стасункі. Размаўлялі яны па скайпе. Люда распавядала, што швейцаркі страшненькія: тоўсценькія, дрэнна апранаюцца і зусім не сочаць за знешнасцю, могуць хадзіць у сукенцы і красоўках, калі ім так зручна, і ніколі не перажываюць з нагоды прычоскі ды манікюру.

«Знайсці прыгожую швейцарку для мужчыны – сапраўдны падарунак лёсу, – казала Люда. – Да таго ж жанчыны тут вельмі незалежныя і амаль ніколі не выходзяць замуж раней за трыццаць пяць, таму мужчыны шукаюць сабе пару ў Польшчы, Расіі ці Украіне».

Праз нейкі час у Люды з'явіліся швейцарскія сяброўкі – і яна пачала звязвацца радзей. Яшчэ праз год у яе нарадзіліся блізняты і зносіны перайшлі ў перапіску раз на месяц. Аднак словы Люды пра тое, дзе шукаюць сабе жонак швейцарскія мужчыны, не давалі Віце спакою.

Віта адкрыла ліст. Люда пісала, што некалькі дзён таму прыехала з дочкамі да маці ў Пераяслаў і прабудзе там два тыдні.

«Калі маеш час, можам перасекчыся і паразмаўляць у нейкай кавяраньцы», – прапанавала Люда.

Далей яна пісала, што здзіўленая зменамі ў Пераяславе: «Увесь горад у сіне-жоўтых стужках; іх чапляюць на сумкі, адзенне ды платы. Мама завязала такую стужку на каляску маім дзяўчынкам. На шмат якіх гаўбцах вісяць жоўта-блакітныя сцягі, кіроўцы прымацоўваюць сцяжкі да машынаў. Калі дзве машыны са сцягамі сустракаюцца на дарозе, кіроўцы сігналяць адзін аднаму. А памятаеш помнік уз'яднання Украіны з Расіяй, той, каля якога мы тусаваліся пасля ўрокаў? Ён цяпер размаляваны мясцовымі дызайнерамі... Учора расейку на помніку аблілі чорнай фарбай. Мэр загадаў камунальным службам яе адмыць. Небараку драілі паўдня чым толькі можна і ўрэшце адмылі. А сёння раніцай, калі я гуляла з дзяўчынкамі, мы ўбачылі, што нехта надзеў на яе даматканую спадніцу і вянок. Мне гэта так спадабалася, што сфатаграфавалася з ёй на тэлефон. Фотку дасылаю табе. Цалую! P.S. Будзеш у Пераяславе – тэлефануй».

Віта адкрыла дасланую фотку і пра сябе адзначыла, што Люда распаўнела, перастала фарбавацца і стала чымсьці падобнай да страшненькіх швейцарак. Вось табе і негатыўны ўплыў знешняга асяроддзя!

Віта закрыла пошту, выключыла кампутар, пачала абувацца, і ў гэты момант зазваніў тэлефон. Яна паглядзела на экран і яе перасмыкнула – тэлефанавала маці Соф'я Іванаўна. Віта доўга вагалася, перш чым адказаць. Паміж імі ніколі не было разумення, і апошні раз яны размаўлялі на Сёмуху. Маці заўсёды тэлефанавала ёй падчас рэлігійных святаў і распавядала, што ходзіць у царкву і моліцца, каб Віта пакінула незразумелы лад жыцця ў сталіцы, вярнулася дадому і выйшла замуж за сантэхніка Юру з суседняга дома, які да гэтага часу распытвае, як справы ў Віты.

Падчас апошняй размовы Віта і маці пасварыліся, і калі яна званіла на Каляды, Віта слухаўку не ўзяла. Цяпер ёй хацелася размаўляць з маці яшчэ менш, але яна ж прымусіла сябе адказаць на званок, паабяцаўшы сабе не рэагаваць ні на якія папрокі ды абвінавачванні.

Аднак гэтым разам маці гаварыла спакойна, не крычала на Віту, не патрабавала, каб яна прыязджала.

Адзінае пытанне, якое магло выклікаць канфлікт, ці не знайшла Віта сабе мужа? Аднак Віта зрабіла выгляд, што яго не пачула. А Соф'і Іванаўне хапіла розуму не перапытваць. Замест гэтага яна распавяла дачцы, што адбываецца ў Пераяславе.

– Пазаўчора ў горадзе адкрывалі помнік Нябеснай Сотні. Суседкі хадзілі, а я не змагла, балела нага. Схадзіла ўчора. Добры помнік. На ім шмат стужак навязана – чырвона-чорных і жоўта-блакітных. Я таксама сваю прывязала. Напісала: «Дзякуй і прабачце». Дзякуй, што змагаліся за свабоду, а прабачце, што выбралі такога казла – Януковіча.

Віта стрымана хмыкнула:

– Можа, гэта ты яго выбрала, я не выбірала.

– Што?! – перапытала Соф'я Іванаўна.

– Нічога, – своечасова апамяталася Віта. – Гэта праблемы з сувяззю. Дык што з нагой?

– Два месяцы таму ўпала, расцягнула звязкі, паехала ў паліклініку, там хацелі накласці гіпс, але я не дала. Ужо хаджу, усё нармальна.

– І дзякуй Богу, – з палёгкай уздыхнула Віта.

– Добра, дочка, што Бога не забываеш, – сказала Соф'я Іванаўна.

Віта адвяла трубку ўбок. Ну вось, пачалося. Далей можна не слухаць. Яна пераключыла тэлефон на гучную сувязь і адклала яго ўбок. Між тым Соф'я Іванаўна працягвала свой аповяд:

– Учора хадзіла ў царкву, тую, што Кіеўскага патрыярхату. У Маскоўскую не хаджу. Цяпер менш людзей стала там бываць, асабліва пасля таго, як бацюшку Фаму Кавалёва на мяжы злавілі.

Віта насцярожылася. Кавалёвых яна ведала добра. Яны жылі ў суседнім пад'ездзе, і яна нават некаторы час сустракалася з іхнім сынам.

– Дык вось, злавілі, – працягвала Соф'я Іванаўна. – Ён такое тут вытвараў! Прымушаў прыхаджанаў падпісваццa пад нейкім лістом. Казаў, што гэта «просьба да вышэйстаячых выдзеліць грошы на рамонт». Людзі падпісваліся, а то быў зварот да Кірылы, каб ён дапамог адабраць царкву ў Пераяславе ў Кіеўскага патрыярхату і зрабіць яе маскоўскай. Гэты ліст нехта сфатаграфаваў і выклаў у інтэрнэце. Пачаўся скандал, Кавалёў з сынам ноччу ўцяклі з горада, прыхапіўшы з сабой, бы злодзеі, ахвяраванні, якія прыносілі людзі ў царкву. З месяц пра іх ніхто нічога не чуў, а потым па тэлевізары паказалі, што недзе ў Чарнігаўскай вобласці на мяжы іх злавілі – хацелі ўцякчы ў Расію. Цяпер будуць судзіць. Увесь горад праклінае Кавалёва. Людзі шкадуюць, што не прыбілі яго ў 2004-м, калі ён прасіў Януковіча разагнаць плошчу. Пашкадавалі, і бачыш, што атрымалася.

– Добра, мама, давай дагаворым іншым разам, бо трэба бегчы, – сказала Віта.

Між тым за вакном з новай сілай загрукацеў дождж. Віта кінула тэлефон у сумку, мацней ухуталася шалікам, глянула на бардовую сумку, якая стаяла каля парога, прыгадала, што сёння за дзень, і недвухсэнсоўна ўсміхнулася.

## 2

А дзень быў пятніцай, і не простай, а перадвелікоднай. Таму наведвальніц у салоне прыгажосці на Рэйтарскай, дзе Віта займалася роспісам цела хной, не было. Гаспадыня дазволіла зачыніць салон на некалькі гадзінаў раней, і хоць да поўдня яшчэ было больш за гадзіну, манікюрша Лора з цырульніцай Лізай нервова круціліся на скураных канапах і ў думках былі ўжо далёка ад салона.

Абедзве дзяўчыны былі з прыгараду, у Кіеве здымалі кватэры і збіраліся на Вялікдзень дадому да бацькоў. Віта яшчэ з парога заўважыла іх невялікія дарожныя сумкі з надпісам «Ukraine».

«Будуць адпрошвацца, каб збегчы раней. Наплятуць пра перапоўненыя аўтобусы і коркі на дарогах, – вырашыла Віта. – Хай ідуць хутчэй, так нават лепш».

Віта моўчкі паставіла побач з сумкамі дзяўчат сваю бардовую і ўсміхнулася, падумаўшы пра яе змесціва. Яна магла паспрачацца, што ў Лорынай

і Лізінай валізках былі зімовыя рэчы, якія яны збіраліся памяняць на вясновыя. А вось што ў яе сумцы... наўрад ці хтосьці з іх здагадаецца.

Віта, нібыта між іншым, папрасіла дзяўчат зрабіць ёй манікюр і прычоску, маўляў, наведвальнікаў усё роўна няма, а сябе заняць чымсьці трэба. Ліза і Лора пагадзіліся.

– Ты таксама паедзеш на свята ў свой Пераяслаў? – спытала Ліза, зірнуўшы на сумку Віты.

– А куды ж яшчэ? – адказала Віта, і Ліза не адчула ў голасе сяброўкі насмешлівых нотак.

Не, у Пераяслаў Віта Чубко не збіралася, прынамсі, сёння. На вечар перадвялікоднай пятніцы яна мела іншыя планы і, калі пашанцуе, у Пераяслаў яна больш зусім не будзе ездзіць...

З вуліцы данёсся шум, і Лора, якая за касметычным столікам падлічвала налепкі на пазногці, пакінула свой занятак і падбегла да акна.

– Што там, Лора? – спытала Ліза, замацоўваючы прычоску Віты лакам для валасоў.

Маніфестанты дзяўчат ужо не здзіўлялі. За апошні год іх паўз вакно салона прайшло тысячы з жоўта-блакітнымі і чырвона-чорнымі сцягамі. Некаторыя з іх неслі партрэты Пуціна з залізанымі налева валасамі і дамаляванымі вусамі, іншыя – партрэты Бандэры. Мітынгоўцы заўсёды былі энергічнымі і вясёлымі, гучна скандавалі ўслед за сваімі лідэрамі лозунгі, якія тыя выкрыквалі ў мегафон, і спявалі песні, дзе нецэнзурнымі словамі абзывалі расійскага прэзідэнта.

Аднак гэтым разам за вакном ішла зусім не палітычная працэсія. Нейкія студэнты з эмблемамі «Грынпіс», нацягнуўшы на сябе навагоднія маскі ліс і зайцоў, выгуквалі:

– Жывёлы – нашыя сябры!

Апоўдні Ліза з Лорай пачалі бурчэць, што ім трэба крыху раней дадому, і Віта пагадзілася застацца ў салоне адна.

Калі дзяўчаты выйшлі, яна пачакала яшчэ хвілінаў пятнаццаць дзеля ўпэўненасці, затым зачыніла дзверы знутры, падышла да бардовай сумкі і расчыніла яе...

## 3

З бардовай сумкі дасталіся чорная подыумная сукенка з апошняй калекцыі дызайнера Андрэ Тана, такога ж колеру кардыган ручной работы, модныя туфлі ад «Феліні», завушніцы і пацеркі з міжземнаморскіх перлінаў з залатымі шпількамі ад ювелірнага дома «Зарына», дарагая італьянская заколка. Калі гэта ўсё апынулася на Віце, яна адзначыла сабе, што выглядае на мільён даляраў, дарма, што ні адная з гэтых рэчаў ёй не належала. Усё было пазычанае або ўзятае напракат да заўтрашняй раніцы. Але хто пра гэта будзе ведаць?

Яшчэ раз агледзеўшы сябе ў люстэрку, Віта задаволена ўсміхнулася і замовіла таксі ў рэстаран «Брасер».

Час наведвання рэстаранаў Віта выбірала невыпадкова, як і самі рэстараны. Гэта былі вячэрнія гадзіны перадсвяточных пятніц альбо суботаў, а рэстараны абіраліся тыя, што з еўрапейскай кухняй: французскія ці італьянскія.

У Віты былі ўласныя бясспрэчныя аргументы на карысць кожнага

канкрэтнага выбару. Яна рабіла яго, ужываючы ўвесь свой жаночы патэнцыял – назіральнасць, аналітычны розум ды інтуіцыю. Ні да чаго ў жыцці дзяўчына не рыхтавалася так дасканала, як да гэтых выхадаў у свет. Кожная такая падрыхтоўка забірала мінімум тры месяцы і нямала сілаў.

Віта прытрымлівалася правіла: калі грошай на дарагі рэстаран няма – пазыч іх. Калі ж пазычыць няма ў каго – лепш не сунуцца нікуды, чым псаваць сабе настрой сузіраннем п'яных пысаў у нейкай таннай забягалаўцы і расчароўвацца ў родзе чалавечым.

Перш чым абраць час і месца, яна раскладвала карту Кіева, даставала каляндар і чырвоны маркер, якім пазначала ўсе перадсвяточныя пятніцы ды суботы. Затым сярод іх адбірала дні спрыяльныя для знаёмстваў па месячным календары. У выніку ў яе заставалася не так ужо і шмат дзён. Далей яна пераходзіла да вывучэння прэстыжных раёнаў сталіцы. Прэстыжнасць вызначалася ў яе ўяўленні дарагімі рэстаранамі, брэндавымі буцікамі ды пяцізоркавымі гатэлямі.

Віта заўсёды ў дэталях прамалёўвала сцэнар свайго з'яўлення ў рэстаране: з таго моманту, як яна ў яго ўваходзіла, крочыла праз усю залу, ловячы на сабе захопленыя позіркі наведвальнікаў, грацыёзна апускалася на крэсла, трохі падавала спіну наперад, галаву паварочвала налева, а ногі на высачэзных абцасах адстаўляла направа, плаўным жэстам клікала афіцыянта і, калі той з'яўляўся, ашчасліўлівала яго бесклапотнай беласнежнай усмешкай.

Дома дзяўчына шмат разоў рэпетавала паставы, жэсты і міміку перад люстэркам у калідоры сваёй малюсенькай кватэры. І кожны раз падчас рэпетыцыі Віта рабіла выснову: яна – раскошная, не, проста чароўная. І чаму дагэтуль алігархі ды замежнікі гэтага не заўважылі?

Але заўважаць абавязкова. Віта не сумнявалася. Толькі трэба рыхтавацца і чакаць, каб усё супала...

Гэтак, як супала сёння: дзень – перадвелікодная пятніца, месца – Бесарабская плошча, на гадзінніку дзевятнаццатая, і Віта падымаецца па прыступках на другі паверх французскага рэстарана «Брасер».

Падымаецца вельмі павольна, хадой мадэлі, якая ведае кошт кожнага кроку. І разам з ёй, па левы і па правы бок, у доўгіх люстраных калідорах падымаюцца два яе эфектныя адлюстраванні.

Чорны кардыган цягнецца за Вітай, лакавыя туфлі на высокіх абцасах зіхацяць стразамі, сукенка з апошняй калекцыі Андрэ Тана з глыбокім выразам на спіне, моцна ўпілася ў яе фігуру без усялякага намёку на цэлюліт. Шыю Віты ўпрыгожваюць тры ніткі чорных міжземнаморскіх перлінаў, што трымаюцца на залатой шпільцы. Такія ж перліны цьмяна свецяцца на запясці і ў вушах, адцяняючы бялявыя валасы, нядбайна сцятыя ў пучок стыльнай заколкай.

Віта ішла павольна, і кожны ейны рух падкрэсліваў дасканалыя лініі маладога цела, ад якога веяла дарагімі духамі, ледзяной перавагай і дабрабытам.

Першае, што Віта заўважыла, апынуўшыся ў «Брасеры», што рэстаран пусты. Гэтая акалічнасць непрыемна ўкалола яе. Аднак выгляду яна не падала.

«Напэўна, яшчэ рана. Не можа быць, каб наведвальнікі «Брасера» спалохаліся перакрытых станцыяў метро, – падумала яна. – Бо тыя, хто наведвае такія ўстановы, у падземку спускаюцца рэдка. Хіба што на

экскурсію, каб нервы паказытаць. Тады чаго ж яшчэ маглі спалохацца адзінокія багатыя замежнікі і распусныя ўкраінскія алігархі?! Не тэрактаў жа ў цэнтры Кіева?! Рэвалюцыйны майдан даўно стаў гісторыяй, і сёння цэнтр сталіцы быў самым спакойным месцам ва Украіне».

З такімі думкамі Віта села за столік. І адразу каля яе з'явіўся з меню афіцыянт у беласнежнай кашулі і чорных штанах. Віта паведаміла, што чакае медыямагната з Мексікі, які павінен прыбыць з гадзіны на гадзіну. Калі менавіта – невядома, бо затрымліваецца самалёт.

– Замову мы зробім разам, а для пачатку я выпіла б «Махіта», – грудным голасам сказала Віта і ўзмахнула доўгімі вейкамі.

Афіцыянт з разуменнем кіўнуў. Увесь яго выгляд казаў: «Хіба можа такая раскошная жанчына чакаць кагосьці іншага ў такім рэстаране?».

Столік Віта выбірала з такім разлікам, каб у люстэрку ёй было відаць кожнага, хто з'яўляецца ў рэстаране. Прайшло паўгадзіны. А ў рэстаран так ніхто і не зайшоў. Затое да яе наблізіўся афіцыянт, і яна, усміхнуўшыся, замовіла іншы кактэйль – «Кольцы Сатурна». Прайшло яшчэ пятнаццаць хвілінаў. Віта занервавалася, але знешне захоўвала спакой.

«І куды ж яны ўсе падзеліся, чорт пабяры, – пачынала злавацца яна. – Няўжо ўсе сталі такія набожныя, як мая мама, і пабеглі ў царкву грахі замольваць?»

Між тым кактэйль быў выпіты, і надакучлівы афіцыянт зноў наблізіўся да яе століка. Віта спакойна замовіла трэці кактэйль: «Сэкс на пляжы». Пра сябе падумала: «А кошты кусаюцца, калі параўнаць з тым, што было тры месяцы таму».

І ў гэты момант адчыніліся дзверы рэстарана. Ад хвалявання Віта ледзь не падскочыла ў крэсле, але амаль адразу яе запал змяніўся абыякавасцю.

На парозе з'явіліся двое. Мужчына гадоў пяцідзесяці і дзяўчына гадоў дваццаці пяці. Ён – поўны, шыракаплечы, апрануты вельмі проста. Толькі тры рэчы выдавалі ягоны статус: мадэль айфона, уменне трымацца і дорага апранутая дзяўчына, якую ён падтрымліваў пад локаць.

Ацаніўшы вопратку дзяўчыны, Віта адвярнулася. Гэтая салодкая парачка не ўяўляла для яе ніякай цікавасці. Яны селі за столік за яе спінай, і Віта чула, як дзяўчына замовіла імбірна-ананасавае марозіва і гарачы шакалад, а мужчына вустрыцы з бульбай фры і чырвонае віно.

Прайшло яшчэ хвілінаў пятнаццаць. Віта паспела з'есці два пірожных – «Тэрамісу» і «Напалеон», а ў рэстаран так ніхто і не зайшоў.

І вось нарэшце дзверы зноў адчыніліся, і ў залу ўваліўся лысы тоўсты чалавек з ключамі ад машыны, якія ён нядбайна круціў у руцэ. На выгляд яму было гадоў сорак пяць, паводзінамі і знешнасцю ён быў падобны да нядаўна разбагацелага ўкраінца, але цалкам мог быць палякам альбо вугорцам. Выглядаў занепакоеным і прайшоў міма Віты, нават не заўважыўшы яе беласнежнай ўсмешкі. Мужчына сеў за салодкай парачкай. Да яго падыйшоў афіцыянт, Віта ўся напружылася і падалася назад, чакаючы першыя словы наведвальніка, па якіх яна збіралася вызначыць яго нацыянальнасць. На той момант яна ўжо вырашыла, калі наведвальнік іншаземец, падыдзе да яго сама.

Госць доўга гартаў меню, аж Віце надакучыла сядзець у напрузе. Яна западозрыла ўжо, што ён глуханямы, і тут наведвальнік загаварыў.

Віта пахіснулася і міжволі зморшчылася, нібы глынула неразведзенага лімоннага соку. Мужчына быў стопрацэнтным масквічом. Яна павяла

плячыма, нібы страсаючы з сябе нешта непрыемнае, і падумала: «Што за дзень, чорт вазьмі!»

Думкі яе праясніліся са з'яўленнем афіцыянта. Віта адмоўна хітнула галавой і з ледзяной абыякавасцю пачала гартаць меню, ужо без прытворства вышукваючы самыя танныя стравы.

«Ды хоць бы хто падышоў да мяне, хай нават і нічога добрага з гэтага знаёмства не атрымаецца, але хоць бы рахунак аплаціў», – падумала раздражнёна.

І вышэйшыя сілы быццам прачыталі яе думкі, у «Брасер» зайшоў яшчэ адзін наведвальнік. Віце ён адразу не спадабаўся, хоць і гаварыў па-ангельску, аднак быў нейкі важны і рухамі быў падобны да гомасэксуаліста. Віта ўжо згодная была і на яго, абы той звярнуў на яе ўвагу. Аднак нават і гэтага не адбылося. Мужчына сеў насупраць Віты, замовіў вустрыцы, тварогавую бабку, коктэйль з цукровага трыснягу з лаймам і пачаў з кімсьці гучна размаўляць па тэлефоне.

Чатыры чалавекі за чатыры гадзіны, толькі трое з іх мужчыны і толькі два адзінокія – ду-у-у-жа дрэнны вынік. Віта гэта разумела. А час няўмольна бег, набліжаючыся закрыцця рэстарана.

Апошнім у «Брасер» зайшоў хасід, і Віта адчула, як яе сэрца ўпала ў пяткі. І што ты скажаш? Быццам сурочылі! Не яе вечар. Не яе ноч! На гэтага можна і не разлічваць. Хасіды хоць і багатыя, але хітрыя і заўсёды шукаюць карысць. А якая можа быць карысць з Віты? З яе дакладна няма чаго ўзяць.

Такога правалу ў Віты яшчэ не было. Усе папярэднія разы хоць бы хто да яе падыходзіў. Іншая справа, што яны былі недастаткова багатыя, але каб не падышоў ні адзін! Перадвялікодная пятніца – дакладна не ейны дзень.

Калі да закрыцця рэстарана заставалася хвілінаў дваццаць, Віта папрасіла рахунак. Адзінае, чаго яна жадала ў гэты момант, каб у кашальку хапіла грошай на яго аплату. І такі хапіла.

Разлічыўшыся, дзяўчына пайшла па сходах. Слязам волі не давала. Замест гэтага пралічыла далейшыя крокі: раніцай трэба аддаць узятыя напракат рэчы – у ювелірны салон ўпрыгожванні, у буцік Андрэ Тана сукенку. Туфлі ад «Феліні» і кардыган можна аддаць пазней, іх пазычыла сяброўка.

А што далей? Паўбатона, недапіты кефір, тры тысячы доўгу і мізэрная рэштачка грошай на картцы.

Ад гэтых думак Віце захацелася не кефіру, а гарэлкі. Яна міжволі пачала лічыць дні да авансу, і сэрца непрыемна сціснулася ад жалю да сябе.

Потым яна ўспомніла, што наступны шанец прыйсці ў які-небудзь з дарагіх рэстаранаў Кіева выпадзе не раней, чым праз тры месяцы, бо трэба аддаць даўгі і сабраць грошай.

Тры месяцы... Яе сэрца сціснулася яшчэ мацней. Гэтым разам ад роспачы.

Зрэшты, апынуўшыся на вуліцы, яна забылася на свае горкія думкі. Трэба было неяк дабірацца дадому. На таксі, вядома ж, грошай не засталося. Віта гэта ведала, аднак без надзеі абмацала кашалёк з кракадзілавай скуры, на які адкладала грошы з трох заробкаў. Знайшла ў ім два жэтоны і трохі дробязі. Цяжкі ўздых вырваўся з яе грудзей, халодны вецер падхапіў яго і панёс кудысьці далёка, тузануўшы на развітанне сукенку і натапырыўшы прычоску.

Віта зразумела, што трэба будзе пераадолець нялёгкі шлях з рэстарана «Брасер» да сябе на Саломенку. І шанцы прайсці яго без непатрэбных прыгодаў – мізэрныя.

Была амаль поўнач, але горад не спаў. Ззялі падсветленыя неонавымі ліхтарамі крамы, па абодва бакі вуліцы снаўдалася моладзь з айфонамі, з якіх даносілася музыка, з прыпаркаваных аўтамабіляў вырываўся жаночы смех.

Уяўленне Віты ўжо намалявала не дужа прыемны паход ад Басейнай да прыпынку на Крэшчаціку. Ісці туды хвілінаў дзесяць, аднак за гэты час да яе паспеюць прычапіцца тры-чатыры нахабнікі з пахам цыгарэтаў і перагару, яны будуць ісці да прыпынку, запрашаць да сябе і абяцаць тое, чаго ў іх ніколі не было і не будзе. І добра, калі адстануць раней, чым яна дабярэцца да свайго пад'езда. Але Віта ведала – усё гэта можна перажыць. Галоўнае ніяк на іх не рэагаваць. Ні словам, ні позіркам, і нават калі будуць гучаць грубыя каментары, лепш рабіць выгляд, што нічога не чуеш, і прапускаць іх міма вушэй.

На прыпынку яна дачакаецца апошнюю маршрутку, брудную з парванымі сядзеннямі і абмаляванымі маркерамі спінкамі, якая хвілінаў дваццаць-трыццаць будзе трэсціся дрэннымі кіеўскімі дарогамі, але і гэтая паездка калісьці скончыцца. Віта разумела, што сёння зрабіла ўсё, што магла, і цяпер у бліжэйшыя тры месяцы ёй не вырвацца з абрыдлых будняў у свет мільянераў і алігархаў. Аднак адчаю не было, уласна, не было нічога, акрамя моцнай стомы. І з гэтым адзіным пачуццём яна зрабіла першы крок на Крэшчацік.

## Наталя КУЛІШ

### Барон

*Апавяданне*

У фортцы з'явіліся вялікія зялёныя вочы, і ў кухню інтэрната важка ўскочыў тоўсты шэры кот.

– Ты глянь, які тоўсты і паважны кацяра, як барон, – сказала Ларыса, якая любіла піва, але не любіла катоў і сабак.

– Які прыгожы! – радасна ўсклікнула Аксанка. – Хай жыве ў нас!

Яна заўсёды круцілася каля мамы на агульнай кухні, дапамагаючы гатаваць.

Кот падышоў да дзяўчынкі, пацёрся каля ног, а яна пагладзіла яго па галаве, і ён завуркатаў.

– Хай жыве, – пераварочваючы на патэльні дранікі, адказала мама. – Будзе нам лавіць мышэй. А як мы яго назавём?

– Цётка Ларыса сказала, што гэты коцік – барон.

– Хай будзе Барон, – адказала мама.

– Ён, напэўна, галодны, – прысела ля ката дзяўчынка, знайшла місачку і наліла малака.

Кот падышоў, панюхаў і кінуўся з кухні па доўгім калідоры.

– Э-э, ды ён панскай пароды! Пераборлівы! – абурана крыкнула ўслед кату суседка Ларыса.

У інтэрнат заўсёды падкідвалі катоў і сабак: тых, якія толькі што нарадзіліся, і старых. Барон належаў да апошніх. Ён быў старым катом, якога гаспадары вывезлі з дома і выкінулі каля інтэрната. Раней ён жыў у кватэры, вуліцы не ведаў, меў дагледжаную шыза-шэрую поўсць, заўсёды быў накормлены і таму ніколі не дбаў пра ежу.

Так Барон застаўся жыць у інтэрнаце. Штодня хтосьці кідаў у яго міску аб'едкі, але ён да іх нават не дакранаўся, бо прывык да мяса. Спаць кот ўкладваўся на дыванку каля дзвярэй пакоя, у якім жыла Аксанка са сваёй мамай. Жылі яны бедна, харчаваліся сціпла, але для ката пачалі купляць корм у краме для жывёлаў, і Барон з падзякі пачаў есці, бо пасля тыднёвага галадання пачаў худнець.

На кухні заўсёды была адкрытая фортка, бо пастаянна шыпелі дзве газавыя пліты на сем сем'яў. Тут гатавалі ежу, вываралі бялізну і грэлі ў вёдрах ваду для купання. З выгодаў у інтэрнаце была толькі халодная вада ў трох кранах, прыбіральні знаходзіліся на вуліцы.

Інтэрнат месціўся каля аўташколы, таму побач з ім заўсёды стаяла шмат аўтамабіляў. Барон хутка зарыентаваўся ў прасторы і добра адрозніваў на вуліцы сваіх і чужых. Ён чэпка трымаў у памяці дзень свайго з'яўлення ў інтэрнаце, таму ў дажджлівае надвор'е залазіў у фортку і назіраў за людзьмі. Ён усё яшчэ спадзяваўся вярнуцца дадому і дажыць там свой каціны век. Страта дома зрабіла Барона асцярожным. Пагаладаўшы без мяса, ён аднойчы вырашыў злавіць птушачку. Мясцовыя каты нават не спрабавалі гэтага рабіць – абыходзіліся паляваннем на мышэй. Дурны верабейка ўжо быў амаль у лапах Барона, але чародка Аксанчыных сяброўак яго спалохала, верабей пырхнуў і знік. Барон застаўся ні з чым.

У спякоту Барон ратаваўся ад сонца ў кустах маліны каля інтэрната. Зямля аддавала прахалоду, а гарачае паветра закалыхвала – кату ўдавалася трохі паспаць. Увечары ён ішоў знаёміцца з мясцовымі катамі. З'яўленне чужака на размечанай кожным катом тэрыторыі квартала невялікага чыгуначнага гарадка ўспрынялося хваравіта і агрэсіўна. Кожную ноч адбываліся кацініыя баі, а раніцай каты разыходзіліся з пакусанымі бакамі і вушамі. Гэта былі войны не толькі за тэрыторыю, але і за котак.

У гэтым раёне гарадка котак было значна менш, чым катоў. Таму Барон быў вельмі здзіўлены, калі ў прачыненыя дзверы інтэрната забегла невялікая котачка карычнева-чарапахавай афарбоўкі. Яна была котнаю і павінна была вось-вось нарадзіць, пра што не здагадваліся каты, якія яе праследавалі. Некалькі катоў ускочыла за коткай ў калідор. Яна заскочыла на падваконне і з жахам назірала, як на тых катоў напаў Барон. Ён так пранізліва мяўкнуў, быццам заплакала дзіця. Людзей такі вэрхал раздражняў, а для катоў гэта быў папераджальны сігнал – манатоннасць гуку раптам перарасла ў кацінь віск, і няпрошаныя госці адступілі. Барон адбіў сваю тэрыторыю, і Чарапашка, так Аксанка назвала гэтую котку, удзячна замуркатала ў адказ свайму збаўцу. Цяпер яны начавалі на дыванку ўдвох каля дзвярэй пакоя, у якім жыла Аксанка са сваёй маці.

Роды ў Чарапашкі пачаліся праз некалькі дзён, калі дарослыя былі занятыя суботняй мітуснёй. Маладая котачка ўпершыню рабілася мамай. Трое кацянятак нарадзілася пад пільнымі поглядамі здзіўленых дзеяй сябровак Аксанкі. Котка абрала не самае лепшае месца – на падлозе пасярод бытоўкі інтэрната. Калі на дзіцячы крык прыйшлі дарослыя жыхары інтэрната, Чарапашка спала, а мокрыя сляпыя кацяняты ціха папіскалі каля яе.

Мама Аксанкі ўгаварыла дзяцей разысціся па пакоях, а сама дастала са сваёй шафы глыбокую вузкую скрынку ад абагравальніка і зрабіла з яе гняздзечка для кошкі і кацянятак. Потым перанесла скрынку ў свой пакой і паставіла ля сцяны за шафу, бліжэй да вакна. Чарапашка не прачнулася. Жанчына нават занепакоілася: ці ўсё з ёй добра?

У дванаццаціметровым пакоі аднапавярховага інтэрната, дзе кожны квадратны метр выкарыстоўваўся вельмі эканомна, людзі вымушаныя былі пацясніцца. Улетку вакно насупраць дзвярэй было ўвесь час адчынена. Таму котка ноччу выскачыла на вуліцу. Яна была не ўзорнай маці і не вярталася ажно да абеду. Кацяняты доўга спалі, а потым пачалі жаласна мяўкаць. На іх піск у скрынку ўскочыў Барон. Кацяняты бездапаможна ціснуліся да яго цёплага мяккага цела, якое нагадвала ім маму Чарапашку. Калі трое кацянятак знайшлі “смочкі” і ўчапіліся ў іх роцікамі, ад нечаканасці Барон стаў на чатыры лапы, і ў яго адразу натапырылася поўсць. Што гэта?! Але тут своечасова з’явілася Чарапашка і з шыпеннем накінулася на Барона. А потым – села карміць дзетак. Кацяняты адразу прыпалі да маці і супакоіліся.

У спякоту людзі не маглі, як Барон, спаць на зямлі ў кустах маліны, ноччу яны накрываліся вільготнымі прасцінамі, каб заснуць хоць на некалькі гадзінаў. Раніцай нявыспаная маці Аксанкі ступіла за парог пакоя... На дыванку ля дзвярэй ляжалі тры клапатліва выкладзеныя пацукі. Яна спалохалася, а потым нахілілася і пачала разглядаць іх. Такіх пацукоў яна не бачыла ніколі, нават у тэлевізары. Яны былі з пракушанымі шыямі і велічынёй з дарослую марскую свінку. Побач сядзеў задаволены Барон і аддана глядзеў на гаспадыню.

– Во маладзец! – пахваліла ката жанчына. – Куды ж цяпер з гэтым мясам?

Надзела гумовыя пальчаткі і аднесла пацукоў у кантэйнеры для смецця каля прыбіральні.

Удзень Чарапашка пачала бегаць у сваё ранейшае жытло, каб штосьці паесці. Калі б убачыла яе выпадак былая гаспадыня ў сваім доме, дык адразу б патапіла кацянятак ці закапала жыўцом. А нарадзіўшы ў інтэрнаце, Чарапашка выратавала сваіх дзетак ад смерці.

Аднойчы ў дажджлівае надвор’е Барон сядзеў на фортцы Аксанчынага пакоя. Ён зноў адчуў сябе шчаслівым катом. Прыемнымі хвалямі павольна пракочваліся ў ягонай галаве думкі. Ён быў стары, але меў свой дом, дзяўчынку з мамай і Чарапашку з кацянятамі. Былыя гаспадары спалохаліся пухліны за вухам і выкінулі яго з хаты, бо палічылі, што ён стары і хворы. А новая гаспадыня занесла яго да ветэрынара, і той выявіў у яго хранічны атыт, ад якога і з’явіўся нарыў. Яно і не дзіўна, што калі адбывалася абвастрэнне хваробы, ён тыднямі не мог есці. Ветэрынар разрэзаў нарыў, і да ката вярнулася звыклае жыццё.

Пад Аксанчыным вакном, дзе не хадзілі ў прыбіральню аўтааматары, буяла расліннасць і спявалі непалоханыя птушачкі. У пакоі гаспадыня дазваляла кату ляжаць на вялікім мяккім дыване. Барон часам нават даглядаў кацянятак, і яму гэта падабалася. Яны гулялі яго хвастом і ўзбіраліся на яго. У Барона нават закралася адчуванне, што ўсё гэта з ім ужо было. Жыццём кіраваў нябачны гаспадар усяго існага. Барону здавалася, што ў новым каціным жыцці яго чакаюць нейкія важныя падзеі.

Чарапашка не зважала на Барона, а чорны суседскі Мурчык не губляў надзеі. Увесь час ён круціўся каля яе, і Барону гэта не падабалася. Ён раўнаваў.

Нечакана ў пакой заляцела сінічка, і Барон імгненна прадэманстраваў увесь свой кашэчы спрыт. Пад ложкам засталіся толькі пёркі ад крылаў ды хваста. А калі прайшоў імпэт ад палявання, ён падумаў, што нічога не

пакінуў Чарапашцы, якая зноў кудысьці сышла. Нешта падказвала яму, што варта за ёй прасачыць.

Аднойчы Барон выйшаў на вуліцу і ўбачыў Мурчыка. Малады сусед падпусціў яго да сябе. Яны сядзелі на збочыне дарогі каля аўташколы. Раптам побач затармазіла знаёмая машына, і з яе выйшаў былы гаспадар Барона.

– Барон, ты жывы?..

Ад нечаканай сустрэчы абодва напружыліся. Мужчына замахнуўся, хацеў ударыць нагой Барона, Мурчык жа ў гэты момант кінуўся праз дарогу наўцёкі. Спалоханы чалавекам, ён не бачыў, што проста на яго імчыць серабрысты аўтамабіль. Кіроўца не паспеў затармазіць. На вачах у Барона бясслаўна загінуў той, хто заляцаўся да Чарапашкі. Толькі ашыйнік Мурчыка блішчэў на асфальце. Машына запаволіла ход, а затым зноў набрала хуткасць і знікла за паваротам. Барон тым часам паспеў уцячы і ўскараскацца на высокую таполю насупраць інтэрната.

Былы гаспадар Барона са злосцю плюнуў, сеў у сваю машыну і знік з месца нядаўняга злачынства.

Барон доўга сядзеў на тоўстай таполі. Баяўся спусціцца на зямлю. Есці не хацелася. У яго ўзросце патрэба ў ежы ўжо не была такой вострай, а вось піць хацелася так, што галава кружылася. Перагрэўшыся на сонцы, Барон пачаў трызніць. Ён не ведаў цяпер, дзе знаходзіцца і як ён зможа вярнуцца на зямлю. Куды? Да каго?

Спускаўся Барон з дрэва павольна і асцярожна, так, як і ўсё рабіў. Калі злез, уважліва адсачыў рух машынаў і толькі потым перабег дарогу.

У інтэрнат ён прабраўся як звычайна, праз кухоннае вакно. На газавай пліце смажылася рыба і нікога нідзе не было відаць. Газ быў прыцішаны, ледзь мігцеў блакітны абадок. Ад голаду ў Барона закружылася галава, ён ускочыў на газавую пліту і проста з патэльні пачаў хапатліва есці. У гэты час на кухню імкліва ўвайшла тая самая Ларыса, якая некалі дала яму імя Барон, і ад нечаканасці на імгненне аслупянела, а потым так гыркнула, што Барон кінуўся з усіх сілаў на вуліцу. Ён бег хутка там, дзе і Мурчык. На гэтай вуліцы не было пешаходных пераходаў, а машыны насіліся, як звар'яцелыя. Трэба было паглядзець па баках, перш чым пераходзіць ці перабягаць дарогу. Кот бег не бачачы нічога, бо страшней за голад і смагу была суседка Ларыса, якая ненавідзела катоў і сабак. Толькі пад коламі чырвонай машыны Барон зразумеў, што не разлічыў шлях на другі бок вуліцы – аўтамабіль збіў яго.

Кіроўца прытармазіў, выйшаў з машыны і адкінуў скалечанага Барона на збочыну, а потым, задаволены сабой, быццам не збіў ката, а выратаваў, паехаў далей, ірвануўшы з месца, хоць яго ніхто не пераследваў.

Лёс катоў з гэтага інтэрната быў вызначаным загадзя: пайсці налева – трапіць пад колы машыны, направа – трапіць у пашчу якому сабаку з блізкіх дамоў дачнікаў.

Пры дарозе Барон праляжаў да вечара. Уначы ён пачаў паўзці, цягнучы скалечаныя ногі. Познім часам рух машынаў на гэтай вуліцы быў малым. Зрэдку са страшным ровам пралятаў начны байкер, і зноў наступала глухая цішыня. Павольна, сантыметр за сантыметрам, Барон поўз да вакна свайго пакоя. Але сілаў для скачка ў яго не было, і ён палез да дзвярэй. На шчасце, яны былі адчыненыя – жыхары дапазна праветрывалі агульны калідор інтэрната. Стары будынак, у якім калісьці былі гаражы, за час існавання ўвабраў у крохкія сцены ўсё ранейшыя “водары”, і пры

зачыненых дзвярах адчувальныя да пахаў людзі раніцай пачыналі чыхаць. Жыхары інтэрната ўжо сядзелі ў сваіх пакоях, таму ў пустым калідоры Барону было не так страшна. Ён дапоўз да свайго дыванка і заснуў.

Раніцай маці Аксанкі выйшла з пакоя і спалохана ўскрыкнула. Пад нагамі, як скамечаная, скрываўленая ануча, ляжаў Барон. Яна занесла яго ў пакой, падаслала пад абмяклае цела кавалак тканіны. Прынесла міску з вадой і ежай. Кот прачнуўся, падцягнуўся да вады і пачаў прагна хлябтаць.

У скрынцы падняла галаву Чарапашка, падбегла да Барона і пачала вылізваць яго брудную поўсць. Яму былі прыемныя дотыкі яе языка і далікатнае вуркатанне. Чарапашка адчувала пашкоджаныя месцы і лапкамі ўмінала яму хрыбетнік.

Між тым жанчына нагрэла ў чайніку ваду і выліла ў міску. Дадала ў яе некалькі пакуначкаў рамонкавай гарбаты для дэзінфекцыі. Барон прывык да купання ў сваіх папярэдніх гаспадароў і не драпаўся, калі жанчына яго мыла. Яна ўхутала ката і пакінула яго ў спакоі. Малая Аксанка была ўжо ў садку і не бачыла Барона няшчасным, а ўвечары мама ёй усё патлумачыла.

Прайшло некалькі гадоў. Барон акрыяў, дзякуючы клопату гаспадыні і Чарапашкі, якая ўжо назусім перабралася ў пакой, дзе жылі Аксанка з мамай. Тых першых падрослых кацянятак раздалі знаёмым, у якіх былі дзеці – сяброўкі Аксанкі.

Барон цешыў Чарапашку хаджэннем па плоце, а яна лазіла па дрэвах. Часам яна лавіла птушак, а ён навучыўся лавіць палявых мышэй, якія ўвосень перабіраліся на зімоўку пад падлогу інтэрната. Па начах мышы шкрэбліся там, але прагрызаць дзіркі ў пакоі не адважваліся – каціны пах у інтэрнаце ахоўваў жыхароў ад нашэсця мышэй.

Барон і Чарапашка жылі добра, але гады бралі сваё. Яму стала ўсё цяжэй выскокваць праз вакно на вуліцу, таму ён выходзіў праз дзверы.

Неяк Барон застаўся ў калідоры, а страўнік у яго працаваў ужо не так спраўна. Трэба было выйсці на вуліцу, але дзверы былі зачыненыя, ніхто не заходзіў і не выходзіў, а цярпець не было моцы. Барон прыйшоў да дзвярэй суседкі Ларысы і справіў кашэчую патрэбу ў яе мяккія пантофлі. Даўняя помста не давала яму спакою. Калі ён ужо адышоў ад пантофляў і шкроб кіпцюрамі дыванок, з пакоя выплыла цяжарная, з цыгарэтай у зубах, Ларыса і з размаху бухнула Барону нагой у жывот так, што ён адляцеў пад батарэю ў калідоры. Кот прыціснуўся да падлогі, жанчына біла яго венікам, а ён замёр у куце і жаласна мяўкаў. У гэты час адчыніліся ўваходныя дзверы, прыйшла з прыбіральні яго гаспадыня, і Барону ўдалося выскачыць на вуліцу. Ён уцякаў ад болю, несправядлівасці і старасці. Невядомая прастора горада паглынала яго страхі, Барон уцякаў ад шчаслівага жыцця.

З тых часоў яго больш ніхто не бачыў. Аксанка часта пыталася ў мамы пра Барона, а яна распавядала ёй, што жывёлы ведаюць пра свой апошні дзень, і, каб не засмучаць блізкіх, сыходзяць далёка – туды, дзе знаходзіць прытулак іхняя душа. Часам дзяўчынка бачыла на небе хмаркі, падобныя да яе ката, і сумна глядзела на Чарапашку, якая стала самотнай, часта садзілася каля парога інтэрната і застывала на месцы. Пасля гэтага выпадку маці Аксанкі перастала сябраваць з суседкай Ларысай, якая нарадзіла другое дзіцё; яно часта плакала, і плач той нагадваў кацінае мяўканне, нібыта ў яго ўсялілася заблукалая душа старога бяздомнага ката.

*Пераклаў з украінскай Барыс ПЯТРОВІЧ.*

**Коратка пра аўтараў:**



**Наталка Білацарківец**. Аўтарка пяці паэтычных зборнікаў («Балада пра няскораных», «У краіне майго сэрца», «Падземны агонь», «Лістапад», «Алергія»). Творы перакладаліся на нямецкую, ангельскую, польскую, шведскую, беларускую і рускую мовы. Нарадзілася ў 1954 годзе ў сяле Куняеўка (Сумская вобласць). Жыве ў Кіеве.



**Марына Варыч.** Празаік. Творы друкаваліся ў часопісе «Київ», газетах «Літературна Україна», «Українська літературна газета». У 2016 годзе пабачыла свет кніга «Сьоме пророцтво Семіраміди», уганараваная преміяй «За яскравы дэбют у жанры фэнтэзі». Нарадзілася ў горадзе Прылукі Чарнігаўскай вобласці. Жыве ў Кіеве.



**Алена Герасімюк**. Паэтка, эсэіст. Найяскравае літаратурнае адкрыццё 2013 года. Лаўрэатка некалькіх прэстыжных пісьменніцкіх прэмій. Аўтарка паэтычнай кнігі «Глухата» (2014). Нарадзілася ў 1991 годзе ў Кіеве, дзе і жыве.



**Сяргій Жадан.** Паэт, эсэіст, перакладчык, арганізатар літаратурных фестываляў, тэатралізаваных перформансаў і акцыяў грамадзянскага непадпарадкавання. Віцэ-прэзідэнт Асацыяцыі ўкраінскіх пісьменнікаў. Перакладае з беларускай, нямецкай і рускай моваў. Творы перакладаліся на ангельскую, армянскую, беларускую, літоўскую, нямецкую, польскую, рускую, сербскую, харвацкую мовы. Ва Украіне выйшлі яго зборнікі вершаў: «Цытатнік», «Генерал Юда», «Пэпсі», «Балады пра вайну і адбудову», «Гісторыя культуры пачатку стагоддзя», «Марадона» — і прозы: «Біг Мак», «Дэпэш Мод», «Anarchy in the UKR», «Гімн дэмакратычнай моладзі». Жыве ў Харкаве.



**Наталля Куліш.** Празаік, перакладчык. Аўтарка кніжкі апавяданняў ды эсэ «Танец адзінокага матылька» (2015). Лаўрэатка прэмій «Літаратурныя адкрыцці года» і «Гліняны кот». Нарадзілася ў 1976 годзе ў горадзе Памічна Кіраваградскай вобласці. Жыве ў Кіеве.



**Алег Лышэга** (1949-2014). Паэт, перакладчык. Нарадзіўся ў Тысменіцы ў сям'і настаўнікаў. Вывучаў ангельскую філалогію ў Львоўскім універсітэце, з якога быў адлічаны за ўдзел у неафіцыйным літаратурным коле «Львоўская багема». Быў у "чорных спісах" і не мог друкавацца з 1972 да 1988 года. У 1997-1998 гг. быў у Амерыцы на літаратурнай стыпендыі і вучыўся ў Пенсільванскім універсітэце, дзе займаўся перакладамі. Перакладаў на ўкраінскую Томаса Стэрнза Эліёта, Эзру Паўнда, Дэвіда Гербэрта Лоўрэнса, Генры Дэвіда Тора, Марка Твена, Сільвію Плат, Роберта Пэна Ўорэна. Вершы і паэмы Лышэгі інсцэнізаваліся амерыканскімі тэатрамі. Займаўся ганчарствам і драўлянай скульптурай. Аўтар паэтычных кніг «Вялікі мост», «Снегу і агню», п'есы «Дружа Лі Бо, браце Ду Фу», зборнікаў прозы і эсэістыкі. Першы ўкраінскі паэт, адзначны ўзнагародай міжнароднага ПЭН-клубу за пераклад ягоных вершаў на ангельскую.

Этгар Керэт



...мір ва ўсім свеце –

для анёлаў гэта пыл...

# Іншасвет

***Апавяданні з кнігі “Раптам стук у дзверы”***

### Залатая рыбка

У Ёнатана з’явілася шыкоўная ідэя наконт дакументальнага праекта. Ён будзе стукаць людзям у дзверы, – толькі ён, без здымачнай каманды, – з маленькай камерай у руках, і задаваць пытанне: «Вы толькі што злавілі залатую рыбку. Яна прапануе вам тры жаданні. Што вы папросіце?» Людзі стануць адказваць, а ён скампануе ўрыўкі з самых удалых адказаў. Перад кожным адказам гледачы ўбачаць у кадры чалавека, які стаіць нерухома ў дзвярах сваёй кватэры, і тут з’явіцца надпіс з яго іменем, звесткі наконт сямейнага становішча, месячнага заробку і, можа быць, – за якую партыю ён галасаваў на выбарах.

*Пераклад з іўрыту Пайла КАСЦЮКЕВІЧА.*

І разам з жаданнямі ўсё гэта ператворыцца ў грамадскі праект, які будзе нешта казаць пра прорву паміж людскімі мроямі і рэальным жыццём, у якой вісіць наша грамадства.

Геніяльная і недарагая ідэя. Для яе нічога не патрабуецца – хіба што сам Ёнатан і ягоная камера.

Ёнатан перакананы, што пасля таго, як усё здыме і скампануе, ён зможа прадаць гэта на «Восьмы канал» або на Yes-documentary. А як не цэлым фільмам, дык у выглядзе кароткіх урыўкаў, у якіх з'яўляецца адзін чалавек і яго жаданні. Калі крыху пашэнціць, сваім фільмам можна зацікавіць які-небудзь банк або сотавую кампанію – узяць іх у якасці спонсараў. Нешта ў стылі: «Банк, які мроіць разам з Вамі», «Мы здзяйсняем жаданні. Банк такі і такі»... Неяк так.

Ёнатан вырашыў працаваць над праектам без усякай падрыхтоўкі. Ён проста ідзе і стукае людзям у дзверы.

У першым раёне, дзе ён здымаў, большасць тых, хто пагадзіўся здымацца, жадалі даволі трывіяльных рэчаў: здароўя, кахання, большай кватэры. Але траплялiся таксама мілыя кадры. Была адна бяздзетная жанчына, што папрасіла дзіцятка. Вязень канцлагера з нумарам на руцэ пажадаў, каб усе нацысты, якія яшчэ жывыя, заплацілі за свае злачынствы. Нейкі стары трансвестыт папрасіў стаць жанчынай. І ўсё гэта толькі адзін квартал у цэнтры Тэль-Авіва. Чорт яго ведае, што папросяць людзі ў гарадах-спадарожніках, або ў правінцыі, у населеных пунктах на лініі агню, у габрэйскіх паселішчах на заходнім беразе ракі Ярдан, у арабскіх вёсках, у цэнтрах для прыёму новых рэпатрыянтаў. Ёнатан ведаў, што ў такім праекце важна, каб прысутнічалі таксама беспрацоўныя, каб выказаўся рэлігійны сектар, арабская меншыня і грамадзяне эфіопскага паходжання. Ён пачаў планаваць свае наступныя выправы: шматэтнічная Яфа, правінцыйная Дымона, гопніцкі Ашдод, прыфрантавы Сдэрот, арабскі Тайбэ. Ён глянуў на назвы населеных пунктаў, якія напісаў сабе на паперцы. Калі ў яго атрымаецца зняць араба, які ў адным са сваіх жаданняў папросіць мір на Блізкім Усходзе, будзе проста шыкоўна.

Сяргей Гаралік не любіў, каб людзі стукалі яму ў дзверы, і яшчэ менш ён любіў, каб людзі, якія стукалі яму ў дзверы, задавалі пытанні. У Савецкім Саюзе, калі Сяргей быў малады, гэтакае здаралася часцяком. Агенты КДБ прыходзілі і стукалі яму ў дзверы, бо ягоны бацька быў сіяністам і адмоўнікам.

Калі Сяргей пераехаў жыць у Яфу, яго сямейнікі сказалі: «Чалавеча, нашто табе гэтая Яфа? Там жа адны наркаманы і арабы». Але што вельмі добра ў наркаманаў і арабаў – яны ніколі не прыйдуць стукацца Сяргею ў дзверы. І Сяргей цяпер можа падымацца ў поцемках, выходзіць на сваім чоўне ў мора, палавіць крыху рыбку і вяртацца дадому. І ўсё гэта сам-адзін. Ціха-мірна. Як мае быць. І вось аднойчы нейкі хлопец з завушніцай у вуху, які выглядаў трохі гомасексуалістам, стукае яму ў дзверы, моцна так – якраз так, як не любіць Сяргей, – і просіць нешта сказаць, штосьці для тэлебачання.

Сяргей сказаў, што нічога не хоча, і крыху адапхнуў камеру, каб той дрышч зразумеў, што Сяргей канкрэтны пацан. Але хлопец з завушніцай заўпарціўся. Балбатаў як наняты. За выказваннямі хлопца Сяргею было цяжка сачыць, бо іўрытам ён як след не валодаў. У сваю чаргу хлопец з завушніцай кажа хуткастрэльна, кажа, што ў Сяргея – моцны вобраз. Каларытны твар, і яго абавязкова трэба ўзяць у фільм. Сяргей аднекваецца і спрабуе зачыніць дзверы, але хлопец спрытны: яму ўдаецца праскочыць,

і вось ён ужо ў Сяргеевай кватэры. Здымае колькі хоча, без дазволу, і яшчэ раз кажа пра твар Сяргея, маўляў, вельмі эмацыйны. Раптам Ёнатан бачыць залатую рыбку Сяргея, якая плавае ў вялікім шкляным графіне на кухні, і пачынае крычаць:

– Залатая рыбка! Залатая рыбка!

Гэтае галашэнне канчаткова напружыла Сяргея. Ён папрасіў Ёнатана не здымаць рыбку, бо гэта простая рыбка, якая патрапіла ў сетку. Але хлопец з завушніцай працягвае здымаць і кажа ўсякае-рознае пра рыбку, пра тое, што яна размаўляе, пра тое, што ёсць тры жаданні, нават пачаў цягнуць у бок графіна з рыбкай руку. У гэтае імгненне Сяргею прыходзіць да галавы, што хлопец з завушніцай прыйшоў не для здымкаў, а каб украсці рыбку. І яшчэ датуль, як мазгі Сяргея Гараліка цямяць, што робіць цела, ён хапае патэльню з чарупіны і пляскае ёй хлопцу па галаве. Хлопец валіцца, ягоная камера – таксама. Сутыкнуўшыся з падлогай, камера расколваецца. Галава хлопца – таксама. З галавы выліваецца мора крыві, а Сяргей стаіць-муляецца. То бок, ён ведае, што трэба зараз рабіць, але гэта можа ўскладніць яму жыццё. Бо калі ён прыедзе з гэтым хлопцам у шпіталь, людзі пачнуць распытваць Сяргея, што здарылася і ўсё гэта можа збочыць у непажаданы кірунак.

– Нехрэн яго цягнуць у бальнічку! – кажа рыбка Сяргею па-расійску. – Хлопцу капец.

– Ды не мог ён памерці, – упінаецца Сяргей. – Удар жа слабенькі.

– Ага, удар хрэновы, – пагаджаецца рыбка. – Але яго галава яшчэ больш слабенькая.

– Ён хацеў забраць цябе ў мяне...

– Ды дзе там! – перарывае яго рыбка. – Ён проста хацеў зняць нейкую сваю чухню для тэлебачання.

– Але ён сказаў...

– Ён гэта і сказаў, але ты не зразумеў, – перарывае Сяргея рыбка. – Вучы родную мову!

– Сама вучы! – злуецца Сяргей.

– Я ўжо вывучыла, – незадаволена адказвае рыбка. – Я чароўная рыбка і размаўляю на ўсіх мовах, уключаючы іўрыт.

Крывавая лужына, што выцякае з галавы хлопца, усё павялічваецца, ажно Сяргей мусіць прытуліцца да сценкі кухні, каб не ўпэцкацца.

– У цябе засталося толькі адно жаданне, – нагадвае яму рыбка.

– Не! – пакруціў Сяргей галавой на знак адмовы. – Не магу, я лепей пакіну яго на пазней.

– Сярожа, пазней няма куды! – заўважае рыбка, але хлопец не адказаў.

Першым жаданнем Сяргей скарыстаўся, калі ў сястры выявілі рак. Рак лёгкіх, з тых тыпаў раку, якія невылечныя, але рыбка вырашыла пытанне на тры-пятнаццаць.

Другое жаданне Сяргей змарнаваў на сына Светы. Гэты хлопчык быў вельмі малы, нават трох гадкоў не споўнілася, калі дактары сказалі: нешта ў ягонай галаве не так, і што ён застанецца з адхіленнямі. Света праплакала ўсю ноч, і калі ранкам Сяргей вярнуўся ад Светы ў сваю кватэру, дык папрасіў рыбку ўлагодзіць і гэтую праблему. Свеце Сяргей нічога не распавёў, а праз некалькі месяцаў яна кінула яго з нейкім паліцыянтам, мараканцам, у якога быў амерыканскі драндулет. Сяргей запэўніваў сябе, што рабіў гэта не дзеля яе, а дзеля хлопчыка, але яго стаў тачыць чарвяк

сумнення, у галаву сталі заходзіць усякія-розныя думкі пра ўсякія-розныя жаданні, якія ён мог бы папрасіць замест. Трэцяга жадання ён пакуль што не загадаў.

– Я магу ўваскрасіць яго, – кажа рыбка. – Я магу вярнуць час назад, на колькі імгненняў да таго, як ён пастукае табе ў дзверы. Усё, што табе трэба, гэта загадаць жаданне.

Рыбка паварушыла плаўніком. Сяргей ведаў з досведу, гэты рух сведчыў пра тое, што рыбка вельмі ўзрушаная. Ён зразумеў, што рыбка адчула пах свабоды. Бо пасля апошняга жадання Сяргею давядзецца адпусціць яе.

– Усё будзе добра. Праўда, – кажа ён ці то рыбцы, ці то сабе. – Мне толькі трэба тут выцерці кроў, і ўначы, калі я пайду рыбаліць, прывяжу труп да валуна і выкіну ў мора. Ніхто ніколі не знойдзе яго. І ўсё ціха-свята. Апошняе жаданне марнаваць на хлопца я не стану.

– Сяргею, ты чалавека забіў! – ушчувае рыбка. – Але ж ты не забойца. І потым: калі зараз не выдаткаваць жадання на хлопца, дык на што тады ўвогуле варта выдаткоўваць?

У Тыры Ёнатан зрэшты знайшоў араба, які папрасіў у якасці аднаго жадання мір на Блізкім Усходзе. Звалі яго Мунір, мужчынка з вялізнымі, нібыта прысыпанымі мукой вусамі, вельмі фотагенічны таўстун. Страшэнна кранальны кадр, то бок тое, як таўстун сфармуляваў сваё жаданне. Ужо падчас здымкаў Ёнатан ведаў, што словы таўстуна стануць трэйлерам да ўсяго фільма. Або кадр з арабам-вусачом, або расеец у наколках, якога ён сустрэў у Яфе. Той проста паглядзеў камеру і сказаў, што калі б ён знайшоў гаваркую залатую рыбку, дык ён бы нічога ў яе не прасіў – адно паставіў бы яе на паліцу ў вялікім шкляным графіне ды размаўляў бы з ёй дні навылёт, няважна пра што. Пра спорт, пра палітыку, пра тое, што рыбцы захочацца. Пра ўсё-ўсё.... Толькі каб не быць аднаму.

## Гуаява

Шуму самалётных матораў не чуваць. Нічога не чуваць. Акрамя, можа быць, галасістага плачу сцюардэс за пару шэрагаў адсюль. Праз ілюмінатар эліптычнай формы Шакедзі глядзіць на аблачыну, якая лунае проста пад ім. Ён уяўляе, як самалёт валіцца – не раўнуючы камень, робіць у аблачыне гіганцкую дзірку, якая хутка зацягнецца першым ветрам і не пакіне пасля сябе нават шнара. «Не падаць! – кажа сабе Шакедзі. – Толькі не падаць!»

За сорак секунд да смерці прыляцеў анёл, увесь у белым, і сказаў, што Шакедзі выйграў апошняе жаданне. Шакедзі паспрабаваў высветліць, што значыць «выйграў». Размова пра выйгрыш на манер латарэйнага або пра перамогу ў нечым больш ганаровым: «выйграў» у сэнсе «заслужыў», як узнагароду за праведныя ўчынкі.

Анёл пацепнуў крыламі.

– Не ведаю, – сказаў ён з анёльскай шчырасцю. – Мне сказалі прыляцець і хуценька выканаць тваё жаданне, а чаму – не паведамілі.

– Шкада, – сказаў Шакедзі. – Бо гэта якраз мегацікава. Асабліва цяпер во, калі я хутка пакіну наш свет, і ўсё такое. Мне вельмі важна ведаць, пакідаю я яго проста як шчаслівы пераможца латарэі або як праведнік, якому перад зыходам па-сяброўску ляпаюць па плячы.

– Сорак секунд – і цябе расплюшчыць, як блінец, – сказаў анёл абыякавым голасам. – Калі хочаш укласціся ў гэтую саракоўку, я паспею. Далібог! Толькі давай варушы мазгамі: тваё акно магчымасцяў хутка зачыніцца.

Шакедзі паварушыў мазгамі і хутка загадаў жаданне. Але да таго, як тое жаданне агучыў, зрабіў анёлу заўвагу, маўляў, у таго дзіўная манера выказваць свае думкі. То бок, як для анёла.

Анёл абразіўся:

– Што значыць «як для анёла»? Ты што, чуў як размаўляюць іншыя анёлы, каб казаць мне такое?!

– Не, не чуў, – прызнаўся Шакедзі.

Анёл стаў выглядаць значна менш анёльскім і прыемным. Але яшчэ менш прыязным ён стаў выглядаць, калі пачуў само жаданне.

– «Мір ва ўсім свеце»?! – гняўліва выгукнуў Шакедзі.

– Мір ва ўсім свеце? Ты здзекуешся?

І Шакедзі загінуў.

Шакедзі загінуў, а анёл застаўся. Застаўся сам-насам з самым прыкрым жаданнем, якое яму толькі замаўлялі. Збольшага людзі просяць новую машыну для жонкі, кватэру для дзяцей. Здзяйсняльныя рэчы. Канкрэтыка. Але «мір ва ўсім свеце»? – той яшчэ клопат на галаву! Спярша хлопец дакучае пытаннямі, нібыта ён, анёл – тэлефонная даведка, потым – абражае наконт яго мовы, і на дэсерт – бач, падсоўвае мір ва ўсім свеце! Калі б хлопец не разбіўся, анёл дачапіўся б да яго не раўнуючы герпес і прымусіў змяніць жаданне. Але хлопец ужо рынуў душою ў сёмае неба, ідзі шукай яе там.

Анёл уздыхнуў. «Ат, пыл і драбяза – мір ва ўсім свеце, – прамармытаў ён сабе, – мір ва ўсім свеце – для анёлаў гэта пыл».

Тым часам душа Шакедзі ўжо паспела забыцца, што калісь была чалавекам, якога звалі Шакедзі, і, не раўнуючы ўдала падабраны сэканд-хэнд, паспяхова ўцелавілася па новым коле ў садавіну. Ну, так, у садавіну. У гуаяву.

У новай душы думак не было. У гуаявы няма думак. Але яна адчула. Адчула жуду. Страх, што ўпадзе з дрэва. У яе не было словаў, каб апісаць гэтую жуду. Але калі б нават і былі, гучалі б яны, пэўна, так: «Мамачка, толькі не падаць!»

У час, калі зледзянелая ад жуды гуаява вісела на дрэве, у свеце ўсталяваўся ўсеагульны мір. Людзі перакавалі свае мячы на аралы, а атамныя рэактары пераабсталявалі для мірных мэтаў. Але ўсё гэта гуаяву не суцешыла, бо дрэва было высокае, а зямля – далёкая і мулкая.

«Не падаць, – пераймалася гуаява бязгучна. – Толькі не падаць!»

## Іншасвет

Кілеры, яны, як палявыя кветкі, – ёсць усякія-розныя віды. Ведаў я аднаго, якога звалі Максіміліян Шэрман. Напэўна, насамрэч яго клікалі неяк інакш, але так ён заўжды называўся. Супер-кілер, эліта, класіка жанра, з тых, хто заключае кантракт не больш чым два разы год. Колькі ён атрымліваў за галаву – больш і марыць цяжка. Гэты Максіміліян яшчэ падлеткам зрабіўся вегетарыянцам з рэлігійных перакананняў і ўсынавіў хлопчыка Нуры з Судана. Ён ніколі не сустракаў Нуры, але крэмзаў яму доўгія лісты, а Нуры пісаў яму ў адказ і нават дасылаў фотаздымкі.

Карацей, звычайны кілер. Максіміліян не быў гатовы забіваць дзяцей. Кабет – праблематычна таксама. Праз гэта за ўсё сваё жыццё ён страціў купу грошаў. Вельмі шмат ганарараў.

Дык вось, ёсць Максіміліян, а ёсць я. Вось што цудоўна ў нашым свеце, што ўсе мы розныя. Я не ўмею так прыгожа размаўляць, як Максіміліян, або паглыбляцца на ўніверсітэцкіх сайтах у артыкулы пра таксіны, што не пакідаюць слядоў у крыві і маюць назвы, якія мне не па сілах нават вымавіць па літарах. Але ж я, у процівагу яму, згаджуся зарэзаць для вас любых дзяцей і кабет. Ціха-свята, не міргнуўшы вокам, не патрабуючы за гэта даплаты.

Мой адвакат кажа, што менавіта праз гэтую ўсёеднасць я атрымаў смяротнае пакаранне. Сёння, кажа ён, не тое што даўней, калі людзі аддавалі перавагу публічнаму павешанню перад сытным абедам. Сёння ў людзей няма ранейшага імпэту забіваць кілераў, ад гэтага ім зробіцца млосна, і яны адчуваюць гвалт над сабою. Але забойцы дзяцей пакуль атрымліваюць па карку. Шчыра? Я не вельмі разумею, з якой прычыны. Жыццё – гэта жыццё. І Максіміліян Шэрман, і прысяжныя-праўдарубы могуць круціць носам хоць да заўтра, але я скажу – звесці са свету дваццацігадовую студэнтку-булемічку з факультэта па гендарных даследаваннях або шасцідзесяцігадовага аматара паэзіі, які працуе шафёрам лімузіна, гэта не менш і не больш нармальна, чым выняць жытку ў смаркатага дзетсадаўца. Ведаю, пракуроры любяць зрабіць з гэтага шоу. Затлуміць галаву пра дзіцячую нявіннасць і нямогласць. Але жыццё – гэта жыццё. Як той, праз рукі якога прайшло нямала карумпаваных адвакатаў і палітыкаў, магу сказаць, што ў момант ісціны, у момант, калі цела б'е дрыготка, а вочы круцяцца, што шалёныя – усе пагалоўна нявінныя і ўсе нямоглыя, без адрознення паводле рэлігійнай, узроставай, расавай ці полавай прыкметы. Але ідзі патлумач гэта прысяжнай, паўглухой пенсіянерцы з Маямі, якая адзінае, што бачыла ў сваім жыцці, акрамя мужа, якога не надта трывала, – гэта хамячок на імя Чарлі, які здох ад раку прамой кішкі.

На судзе таксама казалі, што я ненавіджу дзяцей. У прыклад прывялі выпадак шасцігадовых блізнюкоў, якіх я забіў за кампанію, бо іх імёны не фігуравалі ў дамове. Можа, ёсць нейкая рацыя ў гэтых словах. І не тое што ў мяне праблемы з тым, як яны выглядаюць. Знешнасць у дзетак сімпатычная. Як людзі, толькі маленькія такія, як малюпасенькія бляшаначкі з колай на спробу, якія калісь раздавалі ў самалётах. Але іх паводзіны?! Тут я пас, прызнаюся. Я не ў захапленні ад усіх гэтых пастаянных крыўдаванняў, іхніх сцэн, якія яны ўсчынаюць на падлогах гандлёвых цэнтраў. Увесь гэты лямант, усе гэтыя «не хачу больш татку», «не люблю больш мамку»... Цьху! І ўсё праз што? Праз паскудныя цацкі за два баксы, з якімі, нават калі ты ім купіш, яны пагуляюць максімум пару хвілінаў! Апавяданняў перад сном я таксама гіджуся. І не толькі самой няёмкай сітуёвіны, калі ты мусіш ляжаць у вузкім і нязручным ложку поруч з дзіцём, колькі іхняга псіхалагічнага шантажу, які яны не пасаромеюцца ўжыць, толькі каб ты прачытаў яшчэ адну старонку. І ў дадатак самі гэтыя казкі. Заўсёды такія салодзенькія, са звяркамі-сімпампушкамі, пазбаўленымі пашчаў і кіпцяў. Ілюстраваная хлусня пра дэкафеінізаваны свет без бедаў і ліха, адным словам, нуда смяротная. І калі мы загаварылі пра смерць – мой адвакат лічыць, што мы можам падаць апеляцыю. Ну, не тое што гэта дапаможа, але пакуль будзем звяртацца да вышэйшых

інстанцыяў, мы можам выгадаць трохі часу. Я адмовіўся. Паміж намі, што я магу з гэтага "трохі часу" атрымаць? Яшчэ пару дзён пакачаць прэс у камеры? Зазырыць яшчэ адну бяздарную серыю баскетбольных гульняў паміж задрыпознымі каледжамі і калдырныя рэаліці-шоў па тэлевізары? І калі ў канцы мяне ў любым выпадку чакае ўкол з атрутай, дык замест залішняй цяганіны давайце хутчэй гэта зробім і пойдзем далей.

Калі я быў малы, бацька заўсёды размаўляў пра замагільны свет. Так шмат размаўляў, што большасць часу ўжо не заўважаў, з кім за яго спінай у гэтым свеце спіць мама. І калі ўсё, што ён распавёў пра замагільны свет, праўда, дык нудна там не будзе. Бацька быў юдэем. Але калі спыталі ў турме, папрасіў, каб прывялі ксяндза. Мне здаецца, што гэтыя хрысціяне менш аперуюць адцягненымі паняццямі. А ў маёй сітуёвіне філасофскі аспект не надта істотны. У дадзены момант галоўнае – практыка. Тое, што я выпраўляюся ў пекла – гэта факт. І чым больш я здолею выцягнуць з ксяндза звестак пра той свет, тым больш падрыхтаваны я туды выпраўлюся.

З досведу: нішто не можа так падняць твой аўтарытэт, як раструшчаная галёнка ці праламаны чэрап, і не важна – адбылося гэта ў папраўчай калоніі для няпоўнагадовых крымінальнікаў у Грузіі, ці на курсе маладога байца ў марской пяхоце ЗША, або ў банкогскай турме строгага рэжыму. Самае галоўнае тут – ведаць дакладна, каму канкрэтна трэба раструшчыць. І тут ксёндз можа дапамагчы. І, можа, лепей было б запрасіць рэбе або глухога індыйскага брахмана, бо балбатун ксёндз нічарта не дапамог. Ён выглядае рыхтык як японскі турыст, але вырабляецца, што чацвёртае пакаленне ў Амерыцы, і што нават такога нельга сказаць пра мяне.

– Пекла, – кажа ён мне. – Гэта ўсё вельмі асабістае. Гэтаксама як рай. Урэшце кожны атрымае пела ці рай, якія яны заслужылі.

Я не здаюся:

– А хто там пахан? І якія там расклады? Колькі было ўцёкаў?

Але ксёндз не адказвае, адно хітае галавой, як сабачкі, якіх ставяць на панель у машыне. Калі ў трэці раз ён просіць мяне спавядацца, я трываць больш не ў стане і як след яму ўмазваю. Мае рукі і ногі звязаныя, таму ўдар трэба наносіць галавой, але гэта больш, чым трэба. Не ведаю, з якіх матэрыялаў яны лепяць гэтых японскіх ксяндзоў, але мой развальваецца за імгненне.

Ахоўнікі, якія адцягваюць мяне ад яго, даюць мне прачуханца: кухталі, выспяткі, поўхі. Гэта нібыта каб уціхамірыць мяне, але яны проста лупцуюць для асалоды. Я іх разумею. Лупцоўка – гэта кайф. Шчыра? Мне больш спадабаўся гэты ўдар галавой па ксяндзу, чым стэйк са смажанай бульбай на маю апошнюю вячэру, хаця стэйк быў зусім непаганы. Лупцоўка – кайф, і што б там па другі бок уколу з атрутай мяне не чакала, і нават нягледзячы на тое, што мне будзе паскудна, сукіну сыну, які апынецца побач са мной, будзе яшчэ больш паскудна, і мне пляваць, ці гэта будзе проста грэшнік, ці які чорт, ці нават сам Шатан. Гэтаму акрываўленаму ксёндзу-японцу ўдалося распаліць мой апетыт.

Укол баліць. Ясна – гэтыя праведныя гняўліўцы маглі даць якісьці небалючы, але выбралі менавіта балючы. Каб пакараць. Канаючы, я прыгадваю ўсіх, каго я пазабіваў, выразы, якія расплываліся ў іх на тварах за імгненне да таго, як душа выляціць у іх праз вушы. Можа быць, яны,

узлаваныя, чакаюць мяне там, па другі бок. Я адчуваю, як маё цела апошні раз здрыганулася, нібы кулак, што з сілай патрапіў у сэрца. Чакайце, чакайце! Будзе прыемна забіць вас яшчэ адзін раз.

Я расплюшчваю вочы. Вакол мяне зялёная трава, высокая, бы ў джунглях. Мне падавалася, што пекла – гэта падвальныя памяшканні, змрочны такі свет, але тут вакол зеляніна і ўгары скварыць сляпучае сонца. Я працярэбліваюся праз траву, шукаючы на зямлі што-небудзь, што можна ператварыць у зброю: палку, камень, завостраную галіну. Няма. Вакол мяне няма нічога, акрамя высокай травы і вільготнай зямлі. Паблізу я згледзеў пару вялізных чалавечых ног. Хто б там ні быў, ён вышэйшы за мяне ў восем разоў, а я няўзброены. Трэба знайсці ў яго слабое месца: каленная рэпка, яйцы, кадык. Біць хутка і моцна і спадзявацца на вынік. Асілак нахіліўся. Ён спрытнейшы, чым я спадзяваўся. Сілком падымае мяне ў паветра і разяўляе рот.

– Ну вось і ты, – кажа ён і прытуляе мяне да грудзей. – Вось ты дзе, маё малое і салодкае медзведзяня! Ты ж ведаеш, што я моцна люблю цябе.

І я намагаюся скарыстацца тым, што апынуўся да яго ўшчыльную, каб укусіць яго ў шыю, ткнуць яму палец у вока. Я хачу, але цела не падпарадкоўваецца, і я мімаволі абдымаю гіганта ў адказ. Я адчуваю, як мае вусны насуперак майму нежаданню варушацца, растульваюцца і кажуць шэптам:

– Я таксама цябе люблю, Крыстафер Робін. Люблю цябе больш за ўсё на свеце!

## Верасень круглы год

Крызіс моцна прайшоўся па «эН-Дзі». Іх паслугі, можа, і прызначаліся залатой тысячы, чый дабрабыт паводле логікі мусіў быць крызісанепрабіўным, але пасля чыкагскага лінча іх перасталі замаўляць нават мільярдэры. Частка з іх – праз раптоўнае падзенне прыбыткаў, але большасць – праз страх быць лінчаванымі або таму, што проста зрабілася няёмка перад суседзямі.

Цана акцый апусцілася ніжэй за плінтус біржавой залы і працягвала нямогла крываточыць на падлозе. Назва «ЭН-Дзі» зрабілася сінонімам крызісу. «Уол-стрыт Джорнал» прысвяціў кампаніі першую старонку пад загалоўкам «Снег у верасні», які быў своеасаблівай пераробкай іх колішняй рэкламы «Верасень круглы год».

На той рэкламнай абвестцы была апранутая выключна ў плаўкі і купальнікі сям'я, якая сонечным адвячоркам аздабляе калядную ялінку. У свой час гэтая рэкламная кампанія шырылася не раўнуючы лясны пажар. У тыдзень пасля першага эфіру яны ўжо прадавалі тры тысячы сістэм на дзень. Сістэмы куплялі грашавітыя бізнесоўцы, а таксама людзі менш заможныя – каб зрабіць уражанне на партнёраў. Эн-Дзішныя паслугі ператварыліся ў сімвал статусу. Nice Day, «выдатны дзянёк» для багатых.

...Калі ты жывеш у стылай Ісландыі і снег ды шэрая непагадзь зводзяць цябе з розуму, дастаткова сунуць картку ў тэрмінал і з дапамогай аднаго-двух спадарожнікаў кожны Божы дзень нашыя спецыялісты будуць заліваць тваю тэрасу сонцам і напусцяць у яе аксамітны брыз а-ля Ібіца...

Мукі Аялон стаў адным з першых, каму правялі гэтую сістэму. Мукі любіў свае грошы, і яму было цяжка з імі развітвацца, аднак больш за

свае мільёны, якія ён зрабіў на продажы зброі і медыкаментаў у Радэзіі, Мукі ненавідзеў вільготнае нью-ёркскае лета, непрыемны цяжар спатнелай майкі, якая ліпне да спіны. Ён купіў сістэму не толькі для сваіх апартаментаў, але для ўсяго кварталу. Былі такія, якія палічылі гэтую пакупку дабрачыннасцю, але па праўдзе кажучы Мукі зрабіў гэтак толькі дзеля таго каб добрае надвор'е суправаджала яго да мінімаркета на рагу. Мінімаркет акрамя таго, што прадаваў Мукі танныя ізраільскія цыгарэты «Ноблес» (дзеля яго іх адмыслова імпартавалі з Хайфы), у дадатак як нішто іншае акрэсліваў арэал яго пражывання. З моманту, калі Мукі падпісаў чэк, надвор'е ў квартале зрабілася проста райскім. Без мярзотных дажджоў і свалачных сухавеяў. Верасень круглы год. Але, барані Божа, не гэтаеманхэтанскаепаскудства, а нармальны хайфскі верасень, у якім змалку гадаваўся Мукі.

І тут здарыўся лінч у Чыкага, і суседзі сталі патрабаваць, каб ён неадкладна скасаваў гэтую вечную восень. Спярша ён ігнараваў патрабаванні, але тут пасыпаліся лісты ад адвакатаў. Нехта нават кінуў зарэзанага паўліна на лабавое шкло ягонага лімузіна. Пасля выпадку з паўлінам да групы просьбітаў далучылася жонка.

Гэта было ў студзені. Мукі адключыў цёпленькае сонца. Дзень у момант вока зрабіўся кароткі і маркотны. І ўсё праз зарэзанага паўліна і настрашаную жонку-анарэксічку, якая зноў здолела падпарадкаваць яго, прыкінуўшыся слабой і нямоглай.

Тым часам крызіс толькі мацнеў. Акцыі «эН-Дзі» на Ўол-стрыт абрынуліся да плінтусу. Не толькі яны, але таксама акцыі Мукі. Апынуўшыся на падлозе, акцыі на гэтым не спыніліся – зрабілі ў падлозе дзірку і штурмануліся ў сутарэнне. Нават дзіўна! Логіка кажа, што падчас сусветнага крызісу зброя і медыкаменты мусяць разлятацца, як гарачыя піражкі, але ў рэальнасці ўсё выйшла наадварот. У радэзіянцаў не засталося грошай купляць медыкаменты і неўзабаве яны ўспомнілі тое, што даўно забылі: агнястрэльная зброя – збыткоўная раскоша, і калі хочаш раскроіць камусьці чэрап, дык часам дастаткова ўзяць на падворку вялікі камень. Досыць хутка ўсе ў Радэзіі здолелі няблага ўладкавацца без Мукавых аўтаматаў, прынамсі, хутчэй, чым Мукі здолеў прыстасавацца да тужлівага лютаўскага надвор'я. І Мукі Аялон, або Мукі «Мільён», або яго любілі называць мясцовыя газетчыкі, збанкрутаваў.

Апартаменты засталіся – спрытны бухгалтар паспеў перапісаць іх задняй датай на жонку-анарэксічку – але ўсё астатняе пайшло з дымам. Забралі нават мэблю.

Праз чатыры дні пасля канфіскацыі прыйшоў тэхнік з «эН-Дзі» адключыць кабелі. Калі тэхнік пастукаў у дзверы, ён быў мокры да ніткі – знадворку ліло. Мукі прыгатаваў збан кавы і яны трохі пагаварылі. Мукі распавёў тэхніку, што неўзабаве пасля чыкагскага лінча ён перастаў карыстацца сістэмай. Тэхнік адказаў, маўляў, шмат хто з кліентаў тады таксама адключыўся. Яны паразмаўлялі пра лінч, калі ўзлаваны, галодны і змерзлы натоўп спагнаў сваю лютасць на дагледжанай віле.

«Персанальнае сонца па-над іхняй вілай проста сарвала нам дах, – прызнаўся адзін з лінчавальнікаў у тэлепраграме расследаванняў праз некалі дзён пасля інцыдэнту.– Мы замярзаем ад холаду без грошай на ацяпленне, а гэтыя сабакі, гэтыя сабакі...» – тут лінчавальнік заплакаў.

Яго твар у кадры быў размыты, – каб не змаглі пазнаць, так што слёз

відаць не было, але ж можна было пачуць, лінчавальнік енчыць як, не раўнуючы, збітая машынай жывёлка. Тэхнік, які быў чорны, паведаміў, што ён нарадзіўся ў Чыкага, у тым самым раёне, і што цяпер ён саромеецца пра гэта казаць.

– Гэтыя грошы, – сказаў ён Мукі – Гэты клятыя грошы спаскудзілі нам увесь свет.

Пасля кавы, калі тэхнік ужо збіраўся адключыць сістэму, Мукі папрасіў запусціць яе ў апошні раз. Тэхнік пацепнуў плячыма – Мукі палічыў гэта за згоду. Ён націснуў колькі кнопак на пульце і раптам з-за хмары вылезла сонца.

– Ты ж ведаеш, што гэта несапраўднае сонца? Візуальная імітацыя... – з гонарам у голасе запытаўся тэхнік. – Яе робяць з дапамогай лазераў.

Мукі падміргнуў:

– Ціха ты, не псуй уражання! Для мяне гэта сонца.

Тэхнік пасміхнуўся і сказаў:

– Сонца як мае быць. Шкада, нельга пакінуць яго, пакуль я буду ісці пад дажджом да машыны. Каб іх спаліла, гэтыя дажджы!

Мукі не адказаў – адно заплюшчыў вочы, дазваляючы промням сонца палашчыць твар.



Фердынанд Шмац



...вершы ствараюцца самі сабой, таму што яны замацоўваюцца ў сваёй паэтычнай сутнасці, каб потым адчапіцца і знайсці новыя сэнсавыя берагі...

# Паэзія ад мовы ў сучаснай аўстрыйскай літаратуры

*Пераклад з нямецкай Вольгі ГРОНСКАЙ.*




У аўстрыйскай паэзіі мова займае вельмі спецыфічнае становішча: яна не толькі з'яўляецца носьбітам значэнняў, але і ўспрымаецца ды выкарыстоўваецца літаральна ў якасці матэрыяла для стварэння новых значэнняў. Манера пісьма свядома ўспрымае працэс напісання вершаў як метадычную і засяроджаную працу з мовай, разам з тым яна задаецца пытаннем наконт сэнсу слова і фразы, а таксама змяняецца згодна з гэтым сэнсам.

Гэтае пытанне – наконт магчымасцей адлюстроўвання свету і яго прыдатнасці да камунікацыі – звязанае з моўна-сістэмнымі тлумачэннямі сэнсу. Мы маем на ўвазе паэтычнае стаўленне, у якім выклік свету зыходзіць з моўных зрухаў і пераўтвараецца ў актыўную паэтычную практыку, у той час як моўны кампанент служыць не адным толькі стылістычным інтарэсам.

Гэты выклік – бо паэзія разумеецца як выраб, выкрыванне, выбаўленне – аказваецца ўзаемадзеяннем паэтычнага "Я", якое знаходзіцца ў нязменным руху і заўжды застаецца гнуткім, са звязанымі з ім моўным самаспазнаннем і моўнай канструкцыяй; такое ўзаемадзеянне і мусіць прывесці да стварэння верша.

І аналіз, і спазнанне характарызуюць працу вершатворцы, які крытычна ўспрымае рэчаіснасць: на кон пастаўленыя паэтычнасць моўных параметраў – напрыклад, сінтаксіс і граматыка, – крытэрыі абмежавання значэння слоўнікам, энцыклапедычныя і цыклічныя метады, усе яны развіваюцца ў метадычныя ўстаноўкі, якія спрычыняюцца да стварэння з мовы новых канструкцый рэчаіснасці. Гэта толькі некаторыя прыкметы такога стаўлення да верша, якія яго больш чым проста вызначаюць.

Так, праца з мовай трактуе суадносіны зместу і формы як раўнапраўна замяняльныя, што спрыяе іх узаемнаму развіццю, таму гэта праца не з'яўляецца простай апрацоўкай матэрыялу, а разумеецца тут даволі шырока. Радасці ад апрацоўкі пануючага дыскурсу адпавядае глыбока паэтычна абгрунтаваная воля да ўрачыстасці, як да крытыкі зададзенага свету.

Такія паэтычная пазіцыя і напісанне, якія не намаўляюць нікога ў сепаратызме паэзіі, хоць і грунтуюцца на аўтаномнасці эстэтычнай функцыі, асабліва датычацца прадстаўленых тут аўстрыйскіх паэтаў.

Галоўная ўвага надаецца пісьму і паэзіі ў спецыфічна асабістым, хоць і вызначаным калектыўнымі законамі полі, назіраннем за эстэтычнымі, сацыяльнымі і эканамічнымі ўздзеяннямі на пісьмо, падхопліваннем іх і спробай нанава вызначыць сваё месцазнаходжанне. Выкарыстаным тут моўным сродкам надаецца асаблівы статус, з аднаго боку яны з'яўляюцца сродкамі ўладальніка дыскурсу, з іншага боку – ператворанымі паэтычным паўнамоцтвам формамі супраціву ці пазіцыянавання ў рэчаіснасць свету, які праз тое робіцца адной рэчаіснасцю з рэчаіснасцяў многіх, сусветам з многіх сусветаў.

У гэтых рэчаіснасцях і сусветах верш ужо цалкам гатовы перад тым, як спазнае свайго аўтара. Сёння гэта таксама датычыцца – дзесяцігоддзі пасля выказванняў Готфрыда Бэна да "Праблем лірыкі" – прапанаваных тут вершаў.

Магчыма, яны ўжо будуць цалкам складзеныя вершатворцам у якое-кольвечы выказванне або яны ўзмоцняцца да апошняй ступені складанасці, але яны ніколі не пераследуюць ідэалагічнай мэты адзіна сапраўднага выказвання, яны застаюцца адкрытымі, прынамсі для іх каментавання і ўспрымання. Што ў сваю чаргу – на гэта трэба звярнуць асаблівую ўвагу – ні ў якім разе нельга зблытаць з адвольнасцю ці з абыякавасцю выказвання або адлюстраванага зместу.

Ператварэнне таго, што звычайна ўспрымаецца і прадаецца як інфармацыя, ператварэнне інфармацыі ў "адкрытае" пасланне, менавіта гэта і звязвае разам вершы Фрыдэрыкі Майрокер, Франца Ёзафа Чэрніна, Крыстафа В. Баўэра, Эн Котэн, Юдыт Пфайфер і аўтара гэтых радкоў, а таксама ў вышэй згаданым сэнсе робіць іх вершамі сэнсавай пастаноўкі і сэнсавага фарміравання іншага тыпу – праз шырокі роздум наконт перадумоў і асноў пісьменства і магчымасцей яго пераносаў з наяўнай рэчаіснасці, што ў сваю чаргу тычыцца іх як павелічэнняў, так і скарачэнняў. Правядзенне эксперымента з сукупнасцю зместу і формы дзеля спробы з'яднаць гэтыя дзве асобна пазначаныя катэгорыі паэзіі ў адзін механізм. Апошні тут характарызуе індывідуальную манеру пісьма, якая вядзе да індывідуальна складзенага вершу ў пісьмовай і моўнай прасторы паэзіі і сацыяльнага поля, у якіх ён фарміруецца і робіцца дзейсным.

Нягледзячы на перавагу аналізу моўных працэсаў па-за межамі і ў межах пішучага суб'екта, у манеру пісьма таксама ўліваюцца іншыя параметры і засноўваюць там у першую чаргу вобразныя ўнёскі, якія памяншаюць або павялічваюць звыклы метафарычны змест вершаў. Нутраныя вобразы, заснаваныя нібыта без знешняга досведу, але таксама і тыя, што вынікаюць з назірання і досведу знешняга свету і тым самым могуць выявіць прамы палітычны змест. Гэтыя шматслойныя ўзроўні з унутраных дыскурсаў – разам з літаральнымі

і вобразнымі досведамі камунікацыі і г.д. – трансфармуюцца і пераносяцца ў адпаведную паэтычна развітую мову.

Акурат гэты працэс пераносу і робіць паэзію паэзіяй. Адосна згаданых тут аўстрыйскіх паэтаў ён мае прынцыповае значэнне – калі мы разумеем яго як перастаноўку наяўных слоў, сказаў, вобразаў і досведаў у новыя ці іншыя абставіны.

Гюнтэр Айх тлумачыў паэзію як "перанос слова ў слова". Слова ператвараецца ў іншае слова, яно ўздымаецца з аднаго месца і ставіцца ў іншае – са сказу, у якім яно месціцца, са слоўніка, у якім яно замацаванае, у іншую сказавую структуру альбо носьбіт, дзе яно знаходзіць сабе новае значэнне ці па-іншаму прымае значэнне старое, у паэтычна нанава заснаваную кнігу сусвету, створанага з сусветаў.

Іх зместы і формы разам з тым могуць свабодна развівацца асацыятыўна, але пад метадычным уздзеяннем могуць ставіцца на паток – у залежнасці ад намеру і схільнасці таго, што вызначае паэтычную працу асобнага вершатворца. Таксама магчымым і здзяйсняльным ёсць чаргаванне паміж захаваннем метаду і яго адмаўленнем.

У любым выпадку сімбіёз метадычна моўнага прыёму і інтуітыўна-вобразных установак вядзе да вершаў, якія імкнуцца быць праўдзівымі. З глыбока заселых у пісьменніках нагод, якія ў нястомным пошуку намацваюць свой шлях і з простага верша робяць верш значным, каб урэшце трапіць у межы шырокага досведу сусвету, створанага ад іншых сусветаў.

У манеры сучасных аўстрыйскіх пісьменнікаў перадусім існуе адсылка да літаратурнай традыцыі. Той традыцыі, якую назваў дынамічнай спадарожнік жыцця Фрыдэрыкі Майрокер (яе *аўта-бія-графічныя* паэтычныя творы складуць пачатак наступнай выбаркі) і паэт Эрнст Яндль, які вёў моўна-інавацыйныя эксперыменты з медыяльнымі і сацыяльнымі моўнымі формамі. У першую чаргу гэта літаратурны мадэрн ад Гертруды Стайн да Джэймса Джойса, які згадвае Яндль і які стаўся істотнай паэтычнай зыходнай кропкай для значнага авангардысцкага фарміравання ў аўстрыйскай літаратуры пасля 1945 года, так званай Венскай групы (Х.К. Артман, Фрыдрых Ахляйтнер, Конрад Байер, Гэрхард Рум і Освальд Вінэр).

Дзеля разумення моўна-інавацыйнай сумяшчальнасці прадстаўленых тут паэтаў, якія эксперыментуюць з нязменнай "рэалізацыяй свабоды", можна, напрыклад, прапанаваць тэксты Яндля і Венскай групы. Пры гэтым належная ўвага аддаецца тэхнічным прыёмам канкрэтнай паэзіі, такім як мантаж ці кансталяцыя, якія імкнуцца пераадолець межы звыклых літаратурных жанраў і адчапіцца ад іх, гэтыя прыёмы змяняюць самае нутро меркаванняў наконт пісьменства, але яны не захоўваюцца ў патрабаванай паслядоўнасці.

Момант, калі мова прабіваецца ў прастору паміж унутранай свядомасцю і знешняй рэчаіснасцю, а таксама звязаныя з гэтым грамадска-палітычныя сувязі, як суб'ектыўнага, так і калектыўнага парадку, з'яўляецца адным з перанятых пытанняў і спробай знайсці на яго адказ, якія характарызуюць гэтыя сучасныя паэтычныя работы.

Да гэтага гістарычнага канону, які не выступае з якой-кольвечы падмацаванай ідэалогіяй, а ўвесь час спрабуе паставіць яе і тым самым самога сябе пад сумненне, належыць таксама і спачылы маладым паэт Райнхард Прысніц (1945-1985). Сваімі пранікнёнымі сэнсаператваральнымі вершамі ён тлумачыць тэарэтычна-філасофскія арыенціры Венскай групы, а яго "сорак вершаў" 1980 года задалі і надалей будуць задаваць зыходную кропку далейшым пісьменніцкім пакаленням.

З'ядноўваючы ў кожным сваім вершы гістарычныя, а таксама сучасныя літаратурныя стылі і манеры пісьма з радыкальнымі меркаваннямі: ад Клеменса Брэнтана да гутарковых і дыялектальных ідыём, – Прысніц скіроўвае жыццёва вялізную і грунтоўную працу над вершам да зададзенай рэчаіснасці і яе мадэляў, паэтычнай перабудовай якіх ён нязменна заняты.

У той самы час разуменне сутнасці свету і мовы стаяла і стаіць у цэнтры паэтычнага даследавання, а "Я", што вынаходзіцца ў ім і мусіць нанава знайсці сваё становішча, бачыцца схільным да сталых змен.

Гэтыя філасофскія тэарэтычна-пазнавальныя пачаткі, трансфарміраваныя ў асобныя далікатныя, хоць і простыя моўныя формы, вылучаюць моўны скепсіс і моўнае жаданне, што характэрна для ўсіх цытаваных тут работ і адпаведна нібы звязвае іх з усёй нямецкамоўнай прасторай ад паэзіі Эльке Эрб да вершаў Ульфа Штольтэрфота і шматлікіх іншых.

## Асаблівасці паэзіі Фрыдэрыкі МАЙРОКЕР

Жанчына кліча, назірае сама за сабой і тым самым змястоўнымі вобразамі ахоплівае ўвесь свет у дэтальных словах аж да будовы сказа.

### *што табе трэба*

*Гайнцу Лунцэру*

*што табе трэба? дрэва дом для таго каб*
*змерыць ці вялікае ці малое жыццё чалавека*
*ці вялікае ці малое яно калі ты пазіраеш на крону*
*губляешся ў прыгожай зялёнай раскошы*
*ці вялікае ці малое яно разважаеш наколькі кароткае*
*тваё жыццё ў параўнанні з жыццём дрэваў*
*табе трэба адно дрэва табе трэба адзін дом*
*не для сябе аднаго толькі прытулак і дах*
*каб сядзець думаць спаць марыць і бачыць сны*
*каб пісаць каб маўчаць каб бачыць сябра*
*зоркі траву кветкі неба*

Адчуваецца цішыня, якая ў аўтара вынікае з назірання за зрухамі свету, за моўнымі зрухамі. Фрыдэрыка Майрокер паварочвае суадносіны назірання і напісання. Яна піша дзеля магчымасці паназіраць за тым, што спрычыняецца да пісьма. І дае такую магчымасць нам, чытачам.

Такім чынам, паэтка не знаходзіць і не вынаходзіць свет нанава – як такое магчыма – але яна яго *перавынаходзіць*, калі грунтуецца на назіраннях за знешнім светам, якія ператвараюцца разам з ім і якія надаюць вершу свой уласны рытм. Звяртанне да "Цябе" або да трэцяй асобы служыць улучэнню чытачоў у тэкст, які тым самым выражае свет для ўсіх і, калі пагадзіцца з перспектывай назіральніка, змяняецца разам з ім. А чытачы падводзяцца да заўжды новых пунктаў гледжання і адпаведна да канструкцыі варыятыўнасці свету.

Гэта адлюстроўваецца і ў прысвячэннях, што датычаць сапраўдных блізкіх паэтцы асоб, якія, аднак, складаюць частку паэтычнага "Я" і пераводзяцца – быццам урастаюць – у "Я" чытачоў. Яны з'яўляюцца падставай і складнікам верша, які разгортваецца як расліна і які можна спазнаць у медыяльным зрэзе гэтай паэтычнай моцы, якая ў Майрокер выпрацоўваецца самастойна.

### *цяпер яшчэ больш у паганым настроі*

*я не рада зусім калі мне шлюць засохлыя кветкі*
*ці вулканічны пясок якому 200 мільёнаў гадоў*
*я не рада зусім кветкам каля маіх дзвярэй*
*букетам кветак ад гасцей і наведнікаў –*

*такія знакі ўвагі для мяне ўжо нічога*
*не значаць, гэта толькі пустыя нікчымныя жэсты.*
*Я не ведаю дзе і ў якім я стане, толькі*
*што старое PIANO PONY мая зорка і плача са мной.*

Майрокер – паэтка друкаванага слова, і гэта ніяк не пярэчыць яе творчасці. Спеў, пявучае маўленне – як прыкметы паэтычнага – выяўляюцца ў яе друкаваным слове. На вяршыні друкаванага слова мы спазнаем розніцу паміж друкаваным знакам і яго вымаўленнем, але не як нешта згубленае. Мы разумеем напісанае – а ў Майрокер заўжды напісанае нанава – як гукавы павадок, вакол якога мы сплятаем нашы вобразы з дапамогай слоў, якія мы праз гэта вучымся разумець па-іншаму.

Ёй, падаецца, дастаткова прайсціся па паверхні графічных вобразаў, па чорным друку, ад аднаго значэння да другога. Не грувастка з аднаго сэнсу да іншага, а грацыёзна з новага значэння на іншае. Гэта значэнне ніколі не застаецца адзіным і цэлым.

Каб зразумець Майрокер і наступных аўстрыйскіх паэтаў, нам трэба знайсці спосаб не засяроджвацца на старым значэнні, не ўплятацца ў прынятыя ўзоры разумення. Гэта значыць, трэба скінуць з сябе цесны гарсэт агульнапрынятага значэння.

## Асаблівасці паэзіі Франца Ёзафа ЧЭРНІНА

Аналітык і ўхваляльнік мовы ў няхітрым мастацкім навыку, ён высвятляе значэнне штодзённых слоў, вызваляе іх паэтычныя сэрцавіны і звязвае іх з формамі магчымага, якія замацоўваюцца як штосьці наяўнае.

### *не толькі апалон*

*у цемры мы закругляем вочы,*
*яднаючы іх у пару, за гожай завесай,*
*толькі нас жорстка адно разламала*
*веданнем прыхаваным заўчасным:*
*позіркі крыжуюцца, звіняць*
*і раняць нас саміх, у жарсці*
*не спраўдзяцца мае чаканні.*

*часта мяняць палі і адрываць,*
*я такі скрыты і скрытны і скрыўлены нават,*
*быццам бы дрэнна завітыя нечыя вейкі.*
*выкраслім нас са спісаў шаўковымі ніткамі,*
*будзем сачыць праз прагалы, у іх патануўшы,*
*цемру чаруючы, верачы чуткам,*
*за павекамі ўпаўшы ціхім пасланнем.*

*доўгіх размоў пакуль не прадбачыцца блізка,*
*слова аголенасць будзе нам толькі да твараў,*
*ды на лязы вастрэй адчуваеш памылку:*
*я напэўна даю напракат штосьці пэўна вядомае,*
*нас не толькі накрыла, каб моцна трымацца:*
*каб адкрыцца і даць каштаваць каштоўнасць сябе.*
*як жа вусмертна страшна, калі яно нараджаецца.*

Канатацыі слоў, якія маюць два, тры ці болей значэнняў, адкрываюць патрэбныя палі вершаскладання, што наладжваюць сувязь з іншымі наяўнымі і знойдзенымі значэннямі. Лірычнае “Я” – не тое, што ўласна ўздыхае, яно творыць уздых разам з яго моўнымі і жыццёвымі ўмовамі – у самім вершы і ў якасці верша.

Знутры і звонку верш прамаўляецца з воклічам, з патрабаваннем, у пошуках свайго месца, спасылаючыся на месца іншае, якое хаваецца ў словах і ідэях.

Ён стварае свой свет, і разам з тым ён стварае і выстаўляе на паказ сябе самога – як у вышэй прыведзеным прыкладзе вочы закругляюцца, то бок робяцца круглымі, але калі мы здзіўляемся, мы кажам, што вочы акругляюцца. Тут таксама маецца на ўвазе, што гэтыя вочы, якія заўжды будуць іншымі, могуць расплюшчвацца і заплюшчвацца. Знешні свет перакрыжоўваецца са светам унутраным у адным слове, якое перарастае ў дзеянне, выкрываецца, з еднасці двайной робіцца еднасцю шматслойнай, якая ўплятаецца далей у іншыя вершы, словы ці групы слоў і можа злучыцца з іншымі аспектамі, калі праз камбінацыю ўсіх гэтых катэгорый слова перадусім паспрабуе не ўзломліваць пераведзеныя на тэрыторыю значэнняў неўспрынятыя сямейныя падабенствы, а зробіць іх распазнавальнымі, спасцігальнымі – то бок увасобіць – у вершы, у вершаскладанні і ў знаёмстве з гэтым вершаскладаннем. І пашырыць гэты свет першага значэння значэннем другога і трэцяга парадку, якое мы – чытачы – вывучаем вачыма Чэрніна і атрымліваем асалоду ад магчымасцяў адкрыцця свету і яго будовы.

У творчасці Чэрніна тэмы вершаў адпавядаюць адзін адному як словы ў вершаваным зборы асобных паэм, тут адбываецца тэарэтычна-пазнавальнае намацванне рытарычна-эпістэмалагічных магчымасцяў, разумовая праца скіроўваецца на спецыфічныя тэмы ад міфалагічнага да штодзённага і цялеснага, яна размешчана ў напружаным інтэрвале паміж паэзіяй, паэтыкай і філасафічна-тэарэтычнымі формамі спазнання. Скрыжаванні форм, якія грунтуюць зместы, выкідваюць сплеценую далёка не з адных матываў сетку, каб потым збудаваць і разваліць крытэрыі рэчаіснасці, дзе кожны стан нанізваецца на іншы і робіцца дзейсным менавіта зараз.

## Асаблівасці паэзіі Юдыт Нікі ПФАЙФЕР

У сваіх пошуках асабістай ідэнтычнасці ў слове яна жанглюе матэрыялам, яе ідэнтычнасць хоча зрабіцца той самай-самай, бо не хоча заставацца тым, чым мусіць стаць пры дапамозе наяўных слоў. Гэтая турбулентная аўтэнтычнасць выяўляецца ў манеры паводзін і ва ўменні граць пэўную ролю:

***свет не ўмее пісаць чорных лічбаў***

*МАРСКІ ВОДАВАРОТ БАГАТЫ*
*ківае залатой лускою*

*удар вейкаў*
*манера трымаць сябе*
*балбатня пра вайну*
*за вачыма*
*работа па падліку апошніх каханкаў*
*кладучыся спаць*
*так накідвалі ручнік на сцёгны*
*буксірным канатам гэта жыве і*
*дыхае неглыбока ў іншых*

## *апякун несумясцімых каханкаў*

*мурашыная вежа ад мураша ў ста метрах злева*
*на мураша глядзець з вежы знутры глядзець з вежы!*
*мураш злева ад вежы дзе вялікі правы палец*
*злева дзе вялікі палец справа сведчыць*
*мураш найпрост прама ў рукі мураша*
*вежа ля мураша несумяшчальна*

## *сканер*

*закахацца ў радыёлага*

*прасвяці*
*спазнай мяне*
*аж да бяздоння маіх органаў*
*маіх костак*
*мой радыёлаг*
*і маёй душы*
*калі ты гэта зможаш*

## *аскепкі*

*так, мы нікога не граем, мы гэта мы. а вы гэта вы,*
*вы граеце кожнага і так, мы не граем нікога, мы гэта мы,*
*а вы гэта вы.*
*правіла гульні #1*

*мы граем нас а я граю сябе.*
*правіла гульні #2*

*я з'яўляецца мноствам*
*я з'яўляецца шэрагам іншых.*
*ты з'яўляецца шэрагам мяне.*
*мы з'яўляецца нейронавым светамысецівам.*
*я з'яўляюся медыюмам.*
*правіла гульні #3*

*хто не крывавіць, той не жыў.*
*правіла гульні #4*

*подых, дыхаць, мазаніна, пырск, мазаніна, мы хочам быць*
*сабе люстэркам, абсалютна чыстым люстэркам.*
*правіла гульні #5*

У Юдыт Пфайфер на кану – літаральна на кану гульні – стаіць перададзенае і пакладзенае ў калыску "Я": гэта частка моўнай гульні, дзе "Я" спрабуе завалодаць сабой і як звонку, так і знутры зрабіцца іншым "Я". Вынайсці ўласныя правілы і змяшацца з астатнімі наяўнымі, не падладзіцца да наваколля, а знайсці сябе ў ім, стварыць слова-месца, якое і для чытачоў праз Пфайфер нярэдка выкарыстоўвае іранічна-невымоўныя правілы. Яе сканер, размешчаны над медыяльна засыпаным

светам, адлюстроўвае, што прайшло праз паэтычны фільтр і што з таго засталося, дзеля таго, каб знайсці іншыя пункты судакранання і галіны, якія могуць ляжаць у штодзённым. Дзе ў моўнай гульні чапляюцца і здымаюцца штодзённыя кайданы існавання, каб патрапіць у сферу моўна-вобразнай нетрадыцыйнай свабоды. Распаўсюджанае жаданне індывідуальнасці і калектыўнасці ў агульным спазнанні механізмаў моўных і жыццёвых правіл імкнецца найярчэй выразіцца ў кароткіх звыклых да вузкай прасторы вершах – яны недзе паміж уласнай фізічнай прасторай і медыйнай паказной прасторай фэйсбука і інтэрнэт-форумаў.

## Асаблівасці паэзіі Эн КОТЭН

У сваіх даследаваннях паэтычных і дыскурсных наяўных форм яна праводзіць у вершы пэўную пазнавальную работу. Пры гэтым яна нярэдка пашырае магчымасці напаўнення гэтых форм, наўмысна не перасякаючы і не знішчаючы іх межы, увесь час маючы на ўвазе асноўныя іх тлумачэнні. Але пры гэтым яна пераасэнсоўвае кантэксты і паэтычныя ролі і іранічна разглядае звязаную з імі манеру пісьма. Паэтка нібыта стрэсвае адзіна магчымае значэнне слова ў звыклым атачэнні і паказвае, як яно можа ўздзейнічаць і ўзаемадзейнічаць у сацыяльна-эстэтычнай сферы. У выніку яе вершы ўяўляюць сабой наслаенні: перанос ранейшай літаратурнай традыцыі робіцца не падладжваннем пад яе, а прывядзеннем традыцыйнага да свайго бачання, сваёй схемы.

**Алкееў верш**

u-u-u-uu-u-
u-u-u-uu-u-
u-u-u-u-u
-uu-uu-u-u

*То круць амаль заўжды: пра пісьмо пісаць,*
*але ад гэткіх тэм я пачну бляваць.*
*І да мяне так ліпнуць словы,*
*я іх не зычу нікому слухаць.*

**Асклепіядаў верш**

-u-uu-/-uu-u-
-u-uu-/-uu-u-
-u-uu-u
-u-uu-u-u

*Раптам вершаў табе не напісаць, хоць рэж.*
*І прагоніць цябе хрэнапісьменства прэч!*
*Людзі іншыя пішуць.*
*Мозг твой склееныя ліпкай ціша.*

**Сапфічны верш**

-u-u-uu-u-u
-u-u-uu-u-u
-u-u-uu-u-u
-uu-u

*пішуць, п'юць, зноў пішуць, блююць нарэшце,*
*кінуць піць клянуцца, ды хрэнь напішуць,*

*вось і зноў напіцца, бляваць, клясціся:*
*больш не пішу я.*

* * *

*Душа (душа Клаўдыі) гэта*
*як капітан карабля, кажа нам Арыстоцель, або*
*акурат тое што зрок адносна вачэй.*
*Але што мы ўсе хочам ведаць: ці можа яна*
*рухацца? Суне яна ад сябе*
*рэчы прэч ці прыцягвае ці пакідае*
*там, куды іх прынеслі, і назірае?*
*Яна прагне, гэта дакладна, жаданне і боль,*
*нават калі запячатаць джына ў бутэльку,*
*тут яшчэ, іх неабходна закрыць ад крыкаў і просьб.*
*Хаця б ненадоўга, і таму нам здаецца,*
*што мы адгадалі, патэнцыял гэта подых.*
*Некаторыя вучаць, яе (душу) можна дзяліць*
*і яна адной сваёй часткай глядзіць, разумее,*
*а другой проста прагне.*
*Тры тысячы год кульгання, з нагою ў сметніку.*

* * *

*можа прагучаць занадта патэтычна*
*занадта важна*
*але ўсё ж*
*недзе*
*мы былі з крыніцы*
*нібыта струмені слоў.*
*толькі юрлівыя*
*і газаваныя*
*як дыямант набыты некім цяпер*
*толькі больш легкадумны і ўсё такое*
*пафас звініць*
*як і прапаноўвалі ў шафках*
*гэныя ў гэных здабылі сабе свет*
*той у якім яны каралёў*
*высцёбваюць і выпускаюць*
*троху пылу ў вочы.*
*і нешта мяняецца страчвае раўнавагу*
*хто будзе зрэшты злавацца*
*на простых статыстаў? да кампрамісу гатовы*
*адзін з іх, выцягваецца, кампраміс*
*не адбываецца*
*замест гэтага ў саўны, машыны*
*і намеснікі*
*і падзелены словы*
*і яны лічаць*
*мы павінны павольна*
*толькі не але не але не не не не!*

Паэтычны жэст Эн Котэн – жэст нядбайнасці. Ён наўмысна хавае бязлітаснае, часцяком цынічна-іранічнае асэнсаванне традыцыйных форм і звязаных з імі спосабаў жыцця. Пры гэтым выкарыстоўваючы класічныя формы, паэтка нібы выконвае сацыяльнае даручэнне іх выкрыцця, і гэта парадокс яе творчай манеры. “Ідэальна толькі напалову дасканалае, не зусім круглае, што ў сваю чаргу спрыяе далейшаму руху”, – намякае яна на свой вершаваны эпас “У выгнанні”, які яна склала спэнсараўскай страфой з канону англійскай паэзіі.

У вершах Эн Котэн спалучаецца быццам бы выразны зняважлівы стыль і глыбокі моўна-фенаменалагічны змест. Дыялектычнае разважанне ўспрымаецца як схема, якой Котэн прытрымліваецца ў нязменным дыялогу з напісаным і прамоўленым і чаго таксама патрабуе ад нас, чытачоў: увесь час пераасэнсоўваць усю сістэмнасць, прыводзіць працілегласць паведамленага ў форму сінтэзу, адразу гатовую павярнуцца супрацьлеглым сэнсам.

## Асаблівасці паэзіі Крыстафа В. БАЎЭРА

Ён нібыта сам задае меланхалічныя пытанні да сваіх вершаў, даследуе мову як інстанцыю, што складае і раскладае “Я”, беражна і рашуча намацвае яго.

*мабільнасць вады*
*трэба б здаваць у арэнду*
*як стаўшае вадкім жыццё*
*са зменным месцам жыхарства*
*пакінуць на беразе вёскі*
*выкінутыя сюды хваляй*
*і адкаціцца назад у мора*
*каб зноў убачыць зямлю*
*дзе ноч усё сваё ззянне*
*скарміла рыбам*
*для якіх гэта цэлы свет*
*сутнасць якіх маўчаць*
*выпарыцца ад пяшчоты*
*і сапраўды ўзняцца*
*ў нябёсы*

Гаворка ідзе пра вершы, якія скіроўваюць пісьменніка праз увесь свет, спазнаюцца ў адно імгненне і ў той жа самы час звязваюцца тымі самымі дакладнымі вобразнымі ўстаноўкамі – разам з паэтычным “Я”. На гэта арыентуецца мова і атрыманы са знешняга свету досвед, але яны надаюць прынамсі кірунак для наступнага кроку. Баўэр не падарожнічае між сусветамі, ён падарожнічае ў схаваным ад яго моўным сусвеце. Ён быццам шукае прыпынкі, месцы для ідэнтыфікацы, якія разам з аўтэнтычным патэнцыялам змяшчаюцца і тояцца ва ўласным і чужым моўных сусветах, каб потым іх можна было знайсці і адкрыць. Гэта не штучны сусвет рэтраспектыўнай утопіі, гэта сусвет сучаснасці, які намагаецца вывесці яго медыйныя яркія прасторы псеўдапублічнасці ў прастору асабістую, што Баўэр і знаходзіць у поп-культуры.

***мовы дыхання яны вучылі алфавіты секундаў***
*і трымалі рот заклееным пластырам указальнага пальца*
*насы па ветры трымалі якім яны*
*спальню сваю напоўнілі як мангальф'ер*

*што над гарамі панёс іх дзе выспеюць потым*
*родныя вобразы іх пазнейшага ведання*
*аэранаўты імгненняў выпадкаў што з*
*групы ў дзіцячым садку па пасляабедзенным компасе*
*трапілі на іглу якая прышыла да іх*
*прагу штодзённага ўпырсквання слоў і пароляў*
*як на арэлях на іх яны ў смешных мясцінах*
*гушкаліся каб заўсёды вышэй заўсёды*
*хутчэй бурбалкі прамаўлення мацней наперад*

Ланцужок уяўленняў пераадольвае прастору рэальнага, ён робіцца спасцігальным і здзяйсняльным. Баўэр не будуе дадатковы сусвет з уяўленняў, ён рэалізуе гэтыя ўяўныя прасторы паэталагічнымі сродкамі ўяўленчай працы – паэтызацыяй і перастаноўкай сімвалічна відавочных зместаў у рэальна спазнавальнае месца.

*дапамажы віён пагавары са мной*
*што мне рабіць калі ірвуцца ўсе вяроўкі*
*вішу на рэху ўласных словаў не магу*
*больш чуць ужо сябе самога*

*а дзесь глыбока маё горла рэжа*
*адзін напеў што складзены са знакаў*
*плод страху распускаецца ў міндалінах*
*для нас абодвух толькі ненадоўга*

*вярзем мы пра радзіму абы-што*
*падчас дарогі а мая вандроўка*
*па траекторыі палёту гукаў*
*па строфах тваіх вершаў як вагант*

*і вось баладна поўнячыся пафасам*
*я боўтаюся шыбеніца страху*
*вагу азадку дэманструе шыі*
*віён прыдзі пагавары са мной*

Вершы Баўэра – як і вершы прыведзеных тут аўтараў – напісаныя ў згаданым вышэй полі дынамічнай традыцыі, якая ўтвараецца праз сучасныя зносіны з мовай і спосабамі камунікацыі: *назіранне, трансфармацыя, унясенне.* Гэта ёсць і застаецца спробай нязменнай рэалізацыі свабоды.

У эстэтычным і палітычным планах адмысловым прыёмам паэтычнага пісьма часта з'яўляецца дынамічны перанос. З назірання за самім сабой, за сацыяльнымі палямі, а таксама за пануючымі тут моўнымі дыскурсамі. Вершы ствараюцца самі сабой, таму што яны замацоўваюцца ў сваёй паэтычнай сутнасці, каб потым адчапіцца і знайсці новыя сэнсавыя берагі, каб перавынайсці!..

## Асаблівасці паэзіі Фердынанда ШМАЦА

*(У дачыненні да таго, што датычыць усіх названых тут паэтаў)*

Дзякуючы зрухам семантыкі, сінтаксіса і гучання, прышэпту, што разносіцца рэхам далей, крыку, што грукоча і заціхае, гэтыя вершы можна параўнаць з палётам, са станам расшырэння, які зграбнай лініяй канкрэтных слоў перасякае магчымасць уяўнага другога сусвету.

Магчыма, будзе яшчэ лепш, калі аўтар абапрэцца на глебу, на сваю аснову: а менавіта на звычнае наяўнае слова, як інструмент разважання над зместамі, якія нам дадзены для спасцігання, калі мы выправімся з імі на шлях іх другога, трэцяга значэння, і разам з тым у новыя адкрытыя прасторы.

### *сад*

*ён ёсць заўсёдным чаканнем,*
*цяпер як ніколі раней, але позна*
*аддасца, струменячы, нам, дазвання,*
*імгненна дадолу вяршыні травы*

*хіснуўшы, цябе, выключаеш святло*
*на глебу у грунт на зямлю рассыпаеш*
*і сееш насенне што разам амаль*
*ляціць –*
*зярняткамі ў крылах*
*здаецца:*
*крывавячы крэскай*
*краскамі кветкамі ўгору*
*ўздымацца хавацца*
*глынутай глыбінямі вільгаці прагай*
*прабіць і паўстаць*
*выблукаць выбрысці*
*ціхім і радасным шэптам*

*адтуль яно паўстае, нішто, ад куль*
*налятае, дыбка падымаецца каб паспытаць*
*соку крылаў*
*што зноў робіцца пахам:*

*звон, звон, звон –*

*лунае ў паветры,*
*гудзе і клеіцца да цябе мёдам*
*ты рот, і водар*
*і вільгаць*
*і ўзняцца да ценю парываючы*
*колам усё што было ёсць будзе голым*

### *вялікі вавілон, цяпер*

*нічога,*
*што ўсё*
*ў змаганні,*
*хіснуўшыся ў восі,*
*боль ціснe, высокім прысудам*
*лямант суняць, і вяршыня –*
*так*
*хвалі голасу без апоры на звязкі*
*несупынна коцяцца ўніз,*
*толькі зараз*
*зарываюцца ў памяць,*
*у адтуліны, дзіркі,*
*проста ўключаюцца,*
*выкл не абавязкова*
*заблакаваўшы штурхаюць*

*не толькі высоканябёсна*
*гучна*
*хутчэй прыпадняцца*
*– на спіне ягня –*
*голкамійнутр карэннешукальна закаркаваныя*
*кідаць у кола*
*і без уколу,*
*язык лапаткай*
*ці нечым такім, высока*
*бруд падымае*
*імкнецца ўвайсці ў вусны*
*раскрышвае*
*ломіць ўсё, санцасмак*
*коле паміж брывоў*
*глядзі, што нясе:*
*твары дрыжаць, непадобныя*
*самі сабе, гэта значыць што знакі*
*мусяць стаць покрывам позіркаў*
*долу з шумам упасці*
*рыпіць хоць і змазана потам*
*потым рукі-хлапушкі,*
*гэй, краніся да назвы*
*называючы ўсё ці нічога,*
*напірай пераходамі,*
*выходзь слыхаходам,*
*то бок: дзе вуха гук устаўляе ў рамку,*
*беліць, дадае футра і барабаніць*
*палосы вязаных рэчаў*
*звязаныя з рэчаіснасцю,*
*гэта выслізгвае, вунь гоніць вонкі*
*паспрабуй зразумець усё*
*ў дрыжыках словаў,*
*па слядах ад дыхання*
*якое адно разумее*
*ніколі яны, але ўсё, такім чынам яно,*
*праз яшчэ раз,*
*толькі гэты:*
*так падаецца*
*ды і чакалася так*
*верабейкам скакаць*
*па галінах*
*бяздумна высока*
*не баючыся неба зусім ані кроплі*
*кропкамі колераў бліскаць па-над,*
*панадна ўпіхваць нагамі ў мозг*
*і паўставаць, паўставаць, пакуль не ўпасці*
*плодам, ці чалавекам, ці зверам у пасткі,*
*у гэтым выпадку*
*прадказана падзенне, толькі (здаецца)*
*запозна*

**P.S.:**

Гэтая выбарка ўпарта суб'ектыўная. Краявід сучаснай аўстрыйскай паэзіі вялікі. Можна было б прыгадаць яшчэ шмат паэтак і паэтаў акрамя працытаваных. Але – усяму свой час.



Канстанцін Тышкевіч



...характар гістарыёграфа Віліі не дазваляе прапусціць ніводнай дробязі, якая яе датычыцца...

# Вілія і яе берагі

***ў гідраграфічных, гістарычных, археалагічных і этнаграфічных адносінах***

*Друкуецца ў скароце паводле манаграфіі «Wilja i jej brzegi». Дрэздэн, 1871.*

*Пераклад з польскай Уладзіміра ВАСІЛЕВІЧА.*

## II

Перш чым прыступіць да апісання нейкага прадмета, цікава даведацца пра выток, адкуль узялася яго назва, якую ён носіць сёння. З гэтага кожны даследчык павінен быў бы пачынаць сваю працу. І тут раскрываецца надзвычай шырокае поле, па якім лёгка блукаць, і ў выніку кожны досыць адвольна дазваляе сабе выказваць розныя меркаванні. Найбольшым недахопам нашых этымолагаў з'яўляецца тое, што кожны з іх намагаецца сваю здагадку прадставіць як прыхарошаную карцінку ці імкнецца прывязаць яе да імені нейкай гістарычнай асобы. Рэдка хто з іх ідзе практычным шляхам, бо не шукае ісціны ў самой крыніцы, захаванай найчасцей у простых навакольных паданнях, не шукае яе ў мясцовых гаворках, не ў той часам кранальнай народнай паэзіі, якая па-свойму прызвычаілася ўсё ствараць і прыхарошваць простымі сялянскімі фарбамі.

Дык вось, калі мы мы збіраемся гаварыць тут пра рэкі, я

прыгадваю, як некалькі год таму, у адной з нашых газет я прачытаў тлумачэнні старажытных назваў некаторых найбольш вядомых рэк у нашым краі. У ліку іх я напаткаў назву маёй роднай ракі – Бярэзіны. Нейкі малады даследчык (напэўна, этымолаг), перапоўнены паэтычнымі ўяўленнямі, выводзіў яе назву ад нейкага старажытнага рыцара Бярэзуса, у гонар якога, калі той атрымаў значную перамогу над берагамі гэтай ракі, яна прыняла назву Бярэзіны. Калі б стваральнік гэтай высновы замест адвольных і рамантычных здагадак пра таго старажытнага воіна Бярэзуса меў бы жаданне для сваіх пошукаў заехаць у Докшыцы – мястэчка, размешчанае на мяжы Барысаўскага і Вілейскага паветаў, якія раздзяляе маленькі струмень, што праплывае праз гэтае мястэчка, і калі б ён па гэтым струмені пайшоў угору, то не далей як праз адну вярсту за мястэчкам на лузе, праз які ён цячэ, натрапіў бы на вялікі корч – як апошнія парэшткі, што засталіся пасля старой спрадвечнай бярозы. З-пад таго карча выцякае крынічка, і яе вада, што пачынае плыць струменем, атрымала назву ў мясцовай русінскай гаворцы ад слова “бяроза”, з-пад якой той струмень бярэ свой пачатак. Бярэзінай яго называюць і далей, калі ён павялічваецца дзякуючы рачулкам, што ўпадаюць у яго і ўтвараюць гэтую вялікую і сапраўды гістарычную раку, ужо па-польску называную Бэрэзынай.

gdy raz wszedł w powołanie litewskiego dziejopisarza, nie poprzestał na historyi Wilna, lecz prostemi słowy do prostych serc ludu, szedł on z piosnką, kołatał do ich duszy i prostemi słowy śpiewał on dla Litwy jej dzieje stare, a z drobnych szczątek podań narodowych starej naszej ojczyzny, uzbieranych starannie, utworzył Witoloraudę i Mindowsa. Za temi obficie ukazywać się zaczęły w różnych postaciach prace nowych naszych pisarzy, zawsze na tle dziejów narodowych opowiadane. I tak pokoleniu zaledwo młodemu dostał się zaszczyt odgrzebywania z ciemności i opracowywania dziejów własnej ziemi; młodemu to zaledwo pokoleniu wolno było przed powagą pouniwersyteckich naukowości odezwać się z nowym całkiem poglądem na rzeczy i naukę.



II.

im się przystąpi do opisu jakiegoś przedmiotu, ciekawą bardzo rzeczą jest poznanie źródła, zkąd się wzięło to jego nazwisko, jakie dzisiaj nosi; od tego bowiem każden z badaczy swoją pracę rozpoczynać by powinien; lecz obszerne to bardzo jest pole, po którem błądzić łatwo, a ztąd domyślać się dowolnie nieraz każden sobie pozwala. Największą zaprawdę wadą naszych etymologów, zdaje się być głównie to, iż każden z nich sili się na ubranie swego wniosku w jakiś piękny domysłowy obrazek, lub usiłuje przyczepić go do historycznego jakiegoś imienia, rzadki zaś z nich praktyczną postępuje drogą, bo rzadki szuka prawdy u samego źródła, najczęściej pośród prostych

Нашая Вілія, якую мы зараз пачынаем разглядаць, мае дзве розныя назвы: ад вытоку, плывучы праз славянскую зямлю, яна носіць назву Вілія; далей жа, праплываючы Літву, – Нерыс, а часта і па-літоўску завецца Віліяй. У Літве Вілія. не толькі паўтарэнне славянскай назвы, як здаецца ліцвінам, але і ў літоўскай мове гэтая назва ракі мусіла мець нейкае значэнне. Таму трэба шукаць паходжанне гэтых абедзвюх назваў у кожнага з народаў і ў іх гаворках. Над назвай Віліі нам трэба будзе прыпыніцца двойчы; тады мы пабачым, якімі шляхамі нашыя вучоныя шукалі пачатак гэтай назвы – адзін раз у славянскіх гаворках, другі раз – у літоўскай мове.

Што гэтая рака з найдаўнейшых часоў называлася менавіта так, мы пераконваемся па старажытных хроніках, дакументах і па спрадвеку захаваных на яе берагах народных паданнях. Знаходзім сляды ў крыжацкіх архівах, дзе ў апісанні дарог на Літве Вілію называюць Нэрыге. Два тагачасныя хранікёры, Віганд і Ліндэблат, называюць гэтую раку Нэрга і Нэр'я. У 1398 г. Вітаўт у адным з лістоў, у якім ён абяцае прускаму ордэну дапамагчы ў пабудове двух замкаў, адзначаючы іх межы, называе Вілію Нэрыге. У тым, што Вілію калісьці афіцыйна таксама называлі Вігілія, мы пераконваемся, знаёмячыся з прывілеем Уладзіслава Ягайлы 1390 г., выдадзеным віленскаму савету вышэйшых духоўнікаў на землі Панараў, у якім кароль выказаўся так: «*Obstaculum in superiori parte nostri obstaculi in fluvio Vigilia situati*». У Сарніцкага ў «*Descriptio veteris et novae Poloniae*» Вілія названа Вігіліяй. Міхал Балінскі мяркуе, што паколькі назва Вілія была нададзена рацэ ў часе хрышчэння Ягайлам Літвы, то па гэтай прычыне яна магла быць названа каралём Вігіліяй. “Назва Вілія, – піша п. Балінскі, – калі мы пачнем шукаць яе пачатак у літоўскай мове, можа паходзіць

ад *wiloju* – падман, альбо ад *wilus* – здрада, а на той час Вілія – азначала здрадзіць. Можа, праз тое, што гэтая прыгожая рака падманвала і прываблівала на свае берагі старажытных ліцвінаў і вайдэлотаў, якія ў самоце блукалі па невядомых ім барах. Альбо, наадварот, – што схаванымі пад вадою рыфамі яна ўводзіла ў зман купцоў, якія асмельваліся выправіцца ў першае плаванне на плытах у пачатку гандлёвых сувязяў між Літвою і Прусіяй". Ізноў далей той самы аўтар піша: "Называлася яна некалі ці, можа, мела і другую назву Нерыс, відаць, з-за таго, што працякала ў нізіне між высокімі гарамі; альбо, можа, з-за таго, што здавалася яна тым, хто бачыў яе з высокіх гор панураю, што значыць па-літоўску *panerta*, верагодна, таму і горы, якія стаяць па яе берагах, і ў наш час называюцца Панары, альбо Панарскія". Затым, шукаючы падабенства назвы гэтай ракі ў чужой мове, згаданы гісторык праводзіць свае даследаванні далей: "Але можа быць яшчэ і іншае паходжанне назвы Нерыс. У латышскай мове *nereht* – значыць выграбаць, падмыць, адкуль пайшло *Nehrung* альбо *Nehring* – назва ў нямецкай мове вялікіх наносаў пяску ля марскіх заліваў. Прускія дыпламаты яшчэ з XIII ст. называлі яе нават Нерыяй. Падаецца мне, што ліцвіны называлі ў старажытнасці Вілію Нерыс, альбо Нерыя, таму што гэтая рака вымыла сабе глыбокае рэчышча, утвараючы з пясчаных гор высокія берагі. Нашы літоўскія сяляне называюць раку Нярыс і кажуць, што гэта па-польску іх прыгожая рака завецца Віліяй"[1].

Пан Крашэўскі лічыць, што назвы рэк у старажытнай Літве паходзілі ад імёнаў боствау, што апекавалі гэтыя рэкі; такім чынам, літоўская назва Віліі, згодна з яго меркаваннем, павінна была паходзіць ад асабліва значнага боства Нерыс, якое бярэ сваю назву ад слова *neru* – цягну[2].

Кандыдат Мікуцкі ў 1853 г. быў пасланы Імператарскай Пецярбургскай акадэміяй у шматгадовае падарожжа па заходніх правінцыях імперыі з мэтаю вывучэння моў у гэтых краях з пункту гледжання крыніц іх паходжання і гістарычнага вывучэння іх роднаснасці. Свае трохгадовыя даследаванні ён выклаў у справаздачы 2 аддзела Імператарскай Акадэміі навук, дзе між іншым пра славянскую назву ракі Віліі гаварылася наступнае: "Рака Вілія, як вядома, пачынаецца ў Барысаўскім павеце, г.зн. на славянскай зямлі, і носіць славянскую назву; Вілія, Вілья (у беларускай гаворцы Вілля) – ад слова "віляць", то бок увесь час змяняць кірунак у сваім рэчышчы, таму што яна вельмі пакручастая. Вілія, плывучы праз літоўскую зямлю, носіць і назву літоўскую: Нерыс, Нярыс – ад слова *nerti*, што азначае рака, якая цячэ ў розных накірунках"[3].

У выніку гэтых даследаванняў, праведзеных у нашым краі, кандыдат Мікуцкі зрабіў некаторыя закіды п. Тэадору Нарбуту, і ў іх ліку такі, нібыта п. Нарбут не ведаў пра літоўскую назву ракі Віліі, пра што стары і паважаны ў навуковых колах літоўскі летапісец, публічна тлумачачы паходжанне назвы ракі Віліі, выказаўся ў сваіх працах: "Рака Вілія бярэ пачатак у Барысаўскім павеце з шылянскіх балот, што раскінуліся на ўсход ад царкоўнай вёскі Шылян. Гэтыя балоты з трох бакоў акружаны ланцугом досыць высокіх узвышшаў, а на аддаленні ад правага берага Бярэзіны на вёрст сем – знаходзіцца першая вёска, што таксама завецца Шыляны ці Шалены. Малая рэчка, яшчэ падобная да струменю, цячэ далей і носіць назву Вілія". Пан Мікуцкі выводзіць назву ад беларуска-славянскага "віляе" – паварочвае тут і там. Мне здавалася, што назва ракі паходзіць ад бліжэйшага літоўскага кораня "*wilius*" – здрада, паколькі мясцовыя ўрочышчы, што знаходзяцца ля вытоку

---

[1] *Historya miasta Wilna* M. Balińskiego, w Wilnie, nakład A. Marcinowskiego roku 1836 T. I., str. 5, 6, 7 w przypisku.

[2] *Litwa. Starożytne dzieje*. Warszawa. W drukarni Stanisława Strąbskiego. J.I. Kraszewskiego. T. I., str. 129.

[3] Отчет Второго отделения имп. Акад. Наук. – стр. 29-30.

будучай ракі, у сваіх назвах маюць літоўскае паходжанне: Шыляны, Шэліны, Шаліны – ад *szalu* (прэч, аддаленыя, наводдаль). Бо нельга адмаўляць, што некалі ў тым закутку маглі жыць ліцвіны, перш чым яны былі адсунутыя крыху на захад нашэсцем русінаў, якія прыйшлі з-за Бярэзіны. Вельмі малой часткаю плыні рака цячэ па краі, дзе сёння літоўскай назвы не ўжываюць; ліцвіны на ўсім яе працягу называлі і называюць папросту – Вілія; другое ж імя літоўская міфалогія надала ёй ад Нерэйды-апякункі, Нерыс-багіні”[4].

Такія вось здагадкі ў нашых вучоных пра першапачатковую назву ракі Віліі. Дадамо да іх яшчэ адно паданне, цалкам невядомае дагэтуль, якое нам пашчасціла здабыць з немалымі цяжкасцямі на месцы, ля яе вытоку. Калісьці, шмат вякоў назад, можа, і напачатку свету, тут, у гэтым месцы, жыла пара людзей: мужчына зваўся Сцяпан, жанчына – Вульянна. Якія адносіны злучалі гэтых двух людзей – ці яны былі мужам і жонкаю, ці любячая сям’я, ці, нарэшце, двое палюбоўнікаў – пра гэта паданне замоўчвае. Досыць таго, што Сцяпан быў вядомы як кравец і, абшываючы ўсіх у наваколлі, добра зарабляў, каб можна было ўтрымліваць сябе і сваю каханую Вульянну. Невядома, за якія грахі аднаго дня Гасподзь Бог сваёй магутнай сілаю ператварыў яго ў камень. Улічваючы, аднак, што Сцяпан, дзякуючы сваёй кравецкай працы, утрымліваў Вульянну, Бог пакінуў гэтаму каменю здольнасць шыць. З таго часу навакольныя жыхары пачалі прыносіць каменнаму краўцу работу і адпаведную аплату. Вульянна ж, прыходзячы па яе са свайго сховішча, штодзённа ў пэўны час забірала ў свайго паўмёртвага сябра заробленыя грошы. Здарылася раз, што нейкі жартаўнік з ваколіцы, прынёсшы яму для работы матэрыял, сказаў: “Пашый мне ні тое, ні сёе!” Кравец, абразіўшыся, страціў пакінутыя яму рэшткі жыцця і цалкам ператварыўся ў камень. Калі ж Вульянна, як звычайна, прыйшла ў пэўную гадзіну, каб забраць заробленыя каханкам грошы, і знайшла яго, ператворанага ў суцэльна мёртвы камень, жаль сціснуў яе сэрца і, кінуўшыся на камень, яна ў смутку абняла яго сваімі белымі рукамі, пачала плакаць над стратаю Сцяпана, і плакала так шчыра, так шмат і так доўга, што з яе слёз утварыўся струмень. Урэшце, сама ператвораная ў слёзы, яна паплыла ракою, якую адразу ад яе імені нараклі Вульяннаю; мясцовы люд, не ведаючы чаму і калі, назваў Вільяннай, а потым праз скарачэнне Віліяй, і дагэтуль так заве.

Такі вось чуллівы абразок, поўны натуральнай сельскай прастаты і пры гэтым вельмі паэтычны ў сваёй дзівоснай пабудове; ён мае столькі творчай сілы, малюючы столькі разнастайных па сваёй глыбіні пачуццяў; ён нарадзіўся, выпеставаўся і так старанна праз вякі захаваўся пасярод мясцовай шчырасці тутэйшага люду. І я першы не без цяжкасцяў адшукаў яго тут, і менавіта таму, што здабыццё яго каштавала мне шмат сіл і працы, з яшчэ большай прыемнасцю падзялюся ім са сваімі чытачамі. Камень той,

krawiecką pracą utrzymywał Wuliannę, zostawia mu, przy jego kamiennej naturze, władzę szycia. Odtąd mieszkańce tej okolicy znosić poczęli do zkamieniałego krawca robotę i opłatę za nią; Wulianna zaś ze swego ukrycia o pewnej godzinie codziennie po takową przychodząc, przez półmartwego swego towarzysza zarobione pieniądze zabierała. Zdarzyło się, iż jakiś żartowniś z okolicy, przyniósłszy mu do roboty materyał, rzecze: „poszyj mnie ni to, ni owo!“ Krawiec obrażony tym niewczesnym żartem, z oburzenia i gniewu traci zostawione jeszcze sobie resztki życia i całkiem w kamień się obraca. Wulianna, gdy swoim zwyczajem o zwykłej godzinie przybyła po zabranie zapracowanych przez kochanka pieniędzy, i znalazła go obróconego w całkiem martwy kamień, żal ścisnął jej serce i rzuciwszy się nań, w smutku objęła go białemi swemi rękami, płakać nad jego stratą poczęła, a płakała tak szczerze, tak obficie i tak długo, że się z łez jej utworzył strumień; w ostatku sama w łzy przemieniona, popłynęła rzeką, która się od jej imienia zrazu Wulianną nazywała; lud ją miejscowy, nie wiedzieć dla czego i kiedy, Wilianną, a potem przez skrócenie Wiliją przezwał, i dotąd tak nazywa.



Taki jest ten rzewny, pełny naturalnej sielskiej prostoty obrazek, razem tak poetyczny, a obok dziwacznego swego układu, tyle mający twórczej siły, malujący tyle różnorodnych a głębokich uczuć, który się urodził, wypielęgnował i tak starannie przez wieki przechował pośród gminnej szczeroty tutejszego ludu. I jam go pierwszy nie bez trudu tutaj odszukał i dla tego właśnie, że mnie zdobycie jego wiele mozołu i pracy kosztowało, z tem większą przyjemnością z moimi czytelnikami nim się podzielam. Kamień ten, ubarwiony ludowem podaniem, do dziś dnia

22

[4] Uwagi nad uwagami Teodora Narbutta. *“Teka wileńska”* `1858 r. 3 str. 359.

упрыгожаны народным паданнем, і па сённяшні дзень называюць Сцёп-каменем. Гэта даволі вялікі кавалак звычайнага шэрага граніту з канічна-акруглым заканчэннем. Мясцовыя людзі распавядаюць, што ён быў значна большы, але з гадамі ўсё глыбей урастае ў зямлю. Гэты камень знаходзіцца ў лесе, які належыць маёнтку Забор'е, уладанні памешчыка Русецкага. Нягледзячы на паэтычнасць і чароўнасць гэтай легенды, яна, аднак, далёка адыходзіць ад праўды, і не варта яе браць пад увагу, калі прыступаеш да сур'ёзнага апісання вытоку ракі, бо вядома, што той камень, пра які ў ёй расказваецца, не мае аніякай сувязі з яе вытокам, паколькі знаходзіцца за вёрст чатырнаццаць ад ракі, пра якую мы збіраемся гаварыць.

У Барысаўскім павеце, у паўночнай яго частцы, між вілейскім стараствам і маёнткам памешчыка Герловіча, пасярод крыху ўзвышанага, але не гарыстага месца знаходзіцца даволі шырокая, парослая сасной і карлікавай бярозай нізіна, якую пераразае ўпоперак маленькая грэбля, зробленая абы-як, зрэшты, як звычайна робяць у нас наспех імправізаваныя грэблі дзеля ўзаемнай гаспадарчай камунікацыі між вёскамі. Ад гэтай грэблі далей на захад цягнецца дрыгва, якая мае не больш як паўтара літоўскага морга абшару. Каля заходняга берага гэтай дрыгвы знаходзіцца ставок плошчай больш-менш каля трох квадратных сажняў. З яго ў кірунку ад усходу на захад сочыцца ледзь прыкметны струмень – ён і з'яўляецца пачаткам гэтай прыгожай ракі, апісанне якой я распачынаю. Струмень гэты праз некалькі крокаў ад свайго вытоку, напэўна, павінен працякаць праз нейкія схаваныя крыніцы, бо далей відно, што ён ужо ўзмоцнены новай вадою, і раптоўна ператвараецца ў рэчку, якая, праўда, плыве яшчэ пасярод багны, але ўжо мае рэчышча шырынёю з локаць. Гэтая пачатковая частка Віліі дагэтуль не была вядомая нікому, ніхто да яе зблізку не прыгледзеўся і тым больш не нанёс яе на карту. У 1808 годзе паводле загаду ўрада баў намаляваны план ракі Віліі ад Вілейкі да Коўны. Карту гэтую, выкананую ў вельмі малым маштабе, без неабходнай дзеля такой справы навуковай дакладнасці, я разглядаў у Коўне, у дырэкцыі паравога суднаходства па Нёмане і Віліі. Бачыў там падобную карту гэтай самай ракі ад горада Вілейкі да Караліна, намаляваную цалкам па памяці, без якіх бы там ні было правілаў вымяральнага мастацтва. Вымярэнне Віліі ад яе вытоку да першай, ужо знанай у старажытным гандлі прыстані, адкуль гэтая рака пачынае сваю вядомасць, і маляванне яе дакладнай карты, што здавалася мне неабходнай патрэбай, увайшлі ў сферу распачатых мною дзеянняў у маім навуковым падарожжы. На гэтай цалкам невядомай частцы Віліі, планы якой я выканаў, ідучы за бегам яе плыні, у сваім дакладным апісанні я лічыў сябе абавязаным спыніцца падрабязней, нават на менш цікавых яе дэталях, і з імі пазнаёміць маіх чытачоў.

Пасля дакладнага агляду мясцовасці, адкуль Вілія бярэ свой пачатак, 28 мая я распачаў падарожжа. Гэта быў цудоўны веснавы дзень; майскае сонца і спрыяльная пагода прынеслі цяпло. Тэрмометр даходзіў да 17 градусаў паводле Рэамюра, а барометр, папярэдне адрэгуляваны ў адпаведнасці з астранамічным абсерваторскім барометрам у Вільні, па якім я мусіў праводзіць свае назіранні, быў павешаны ля вытоку дзеля вылічэння ўхілу ракі і паказаў мне 27° 5,3". На правым беразе, непадалёку ад вытоку Віліі, размешчаны дзве вёскі: адна – прыналежная віленскаму стараству, завецца Вялікае Поле; другая – Шылінцы, уласнасць памешчыка Герловіча. Яны стаяць нібыта на варце гэтага вытоку і падаюцца нібыта прыроднымі апякункамі нашай цудоўнай, прыгожай ракі і першымі чэрпаюць ваду з Віліі. Такім чынам, 28 мая свае дзеянні я распачаў з вымярэння гэтай ракі. Пан Ежы Шантыр, геаметр, які дапамагаў мне ў навуковай вандроўцы, праводзіў свае вывучэнні ўздоўж берагоў Віліі. За сталом, на якім занатоўваліся яе павароты, і за ланцугом, які цягнулі ўзятыя для вымярэнняў людзі, і я з кіем у руцэ рухаўся па напачатку багністых яе берагах. Між трэцяй і чацвёртай вярстою ад вытоку, дзе рака ўжо ўзмоцнена водамі, якія сочацца з забалочаных берагоў, яна пачынае рабіцца крыху

шырэйшаю. Вілія раздзяляе дзве вёскі, што стаяць на самым яе беразе: направа – вёска Дзяружкі памешчыка Герловіча, налева – урадавая вёска Кромавічы; тут можна бачыць самы лепшы мост праз раку, пастаўлены дзеля зручнасці і ўзаемнай камунікацыі між гэтымі дзвюма вёскамі. Недалёка ад згаданых тут вёсак, між 4 і 5 вярстою, заканчваецца балота і пачынаецца цвёрдая зямля, па берагах парослая з абодвух бакоў мурагом. Тут ужо цвёрдае дно, і вада, увесь час супраціўляючыся, ужо ўтварае павароты. На восьмай вярсце ад вытоку на левым яе беразе знаходзіцца ўрадавы засценак Філіпаўшчына. Ад яго на дарозе, што вядзе за раку, сустракаем невялікі масток, які можна ўжо лічыць другім ад пачатку ракі. Ад яго Вілія пачынае крыху пашырацца і напаўняцца вадою , бо на дзявятай вярсце, пры вёсцы і маёнтку Грэбень, што на правым баку ракі (уласнасць памешчыка Карчэўскага) знаходзіцца першая запруда і першы пры ёй млын. Насупраць вёскі і маёнтка Грэбень, праз паўтары вярсты ад грэбеньскага млына, на левым беразе ракі стаіць урадавая вёска Вілейка, на рацэ ж – запруда і млын, другі па ліку, а мост пры ім – ужо чацвёрты. Каля гэтага маста падвечар я паўтарыў мае бараметрычныя назіранні. Барометр паказаў мне 27° 5,9”.

Вілейка – маёнтак, які калісьці належаў да ўласнасці Пацаў, быў аддадзены ў залог віленскім Візіткам і заставаўся ва ўладанні манашак да 1842 г., калі пры агульнай касацыі духоўных каштоўнасцяў гэты маёнтак быў у Візітак адабраны. Па прычыне, што гэтая маёмасць была толькі залогавай уласнасцю манашак, узнік працэс. Барысаўскі павятовы суд, разгледзеўшы прававы бок справы, сваім рашэннем прызнаў уласнасць маёмасці за Пацамі, ураду ж – даў права на залогавую суму. Але паколькі нікога з сям’і Пацаў па мячы ўжо не засталося ў краіне і ніхто не з’явіўся выкупляць маёмасць, урад увайшоў у іх уладанне, і гэтыя землі перайшлі ва ўпраўленне казначэйскай маёмасці. Вілейскае староства налічвае ў сябе 78 двароў; перад сістэматызацыяй арандавання, прынятым міністэрствам дзяржаўнай маёмасці, гэтыя землі былі перададзеныя дзяржаве, прыносячы ўраду штогадовы прыбытак 1800 руб. срэбрам.

Абцякаючы гэтае староства з паўночнага боку, Вілія аддзяляе яго ад зямель памешчыкаў Герловіча, Карчэўскага і Мрачкоўскага. У гэтыя гады, калі ў Вілейцы нарыхтоўвалі лес, яго звозілі сюды, на бераг, і сплаўлялі па Віліі. Не варта, аднак, лічыць гэтую частку ракі прыдатнай да сплаву, бо спусканне ўніз таварнага дрэва ажыццяўлялася выключна дзеля лясоў гэтага староства і то з вялікай цяжкасцю, паколькі нязначная рэчка яшчэ не была ўзмоцнена прыплывам іншых водаў. Удавалася перапраўляць з вялікім клопатам толькі па два звязаных між сабою бервяны. Сплаў у гэтым месцы – справа выключная, і ён зусім не вызначаў гісторыю гандлю на гэтай рацэ. Але хоць ён і не выклікаў ніякага інтарэсу, паведамляю пра яго тут толькі па адной прычыне – бо мой характар гістарыёграфа Віліі не дазваляе прапусціць ніводнай дробязі, якая яе датычыцца. Далей па правым беразе, праз пяць вёрст ад вышэй згаданага млына, знаходзіцца двор Вежкі, які належыць памешчыку Мрачкоўскаму; на супрацьлеглым левым беразе – сасновы лес, які адмяжоўвае ўрадавую маёмасць Ва́рдамічы, што належыць сёння генеральшы Сухоцінавай.

Ва́рдамічы некалі былі паселішчам віленскіх ксяндзоў Дамініканцаў. У 1794 г., падчас аблогі Вільні, калі гэты горад без належнай колькасці войска і прыстойных ваенных рэсурсаў пад камандаваннем генерала Ясінскага абараняўся так адчайна, што расійскія войскі былі адкінутыя ад гарадскіх сцен, бітва адбывалася ў адкрытым полі. У гэтай бітве палеглі расійскія палкоўнікі Дзееў і Караваеў. Месца тое, на якім праходзіла бітва, адзначана было пастаўленым тады, а сёння амаль зруйнаваным, сціплым помнічкам на полі пад Нямежай, пры тракце, што вядзе з Вільні на Мінск. Пасля захопу Вільні расійскімі ўладамі і войскамі сярод разнастайных урадавых распараджэнняў, праведзеных у толькі што заваяваным краі, было сканфіскавана і паселішча віленскіх Дамініканаў Ва́рдамічы і ўказам

імператрыцы Кацярыны II ад 18 жніўня 1795 г., накіраваным у сенат, паселішча тое, якое налічвала тады 547 мужчын, было даравана ў знак узнагароды за адданую службу палеглага на полі бітвы палкоўніка Караваева ва ўласнасць яго ўдаве і дзецям, пра што найвышэйшы рэскрыпт паступіў толькі 18 кастрычніка 1810 г., ужо падчас праўлення цара Аляксандра I. Сям'я палкоўнічыхі Караваевай складалася тады з сына і дачкі, у замужжы Хмятоўскай. Калі яе сын неўзабаве памёр, Караваева прадала Ва́рдамічы Ліхадзяеўскім за 65 тысяч рублёў срэбрам. Гэтая купля па розных прычынах не дайшла да завяршэння, з-за чаго ўзніклі даўгі і заблытаны працэс з Ліхадзяеўскімі, на працягу якога памерлі Хмятоўская і яе малалетні сын, а пасля іх у 1834 г. і сама Караваева. Распачаўся другі гарачы працэс паміж сваякамі за права спадчыннасці на Ва́рдамічы. І толькі ў 1847 г. унучка палкоўнічыхі Караваевай Ганна Безабразава, у замужжы генеральша Сухоцінава, атрымала права спадчынніцы Ва́рдамічаў.

Толькі на сямнаццатай вярсце ад вытоку невялікая рэчка Чэрня, упадаючы з правага боку, першая ўзмацняе сваёй вадою Вілію. Рэчка гэтая ўтварае граніцу паміж маёнткам Вешкі памешчыка Мрачкоўскага і Ва́рдамічамі, абшар якіх рассцілаецца далёка за Вілію па правым яе беразе. Ад рэчкі Чэрні зноў пачынаюцца багністыя берагі, між якіх віецца Вілія, праплываючы доўгую адлегласць гэтай ваколіцы. Пасярод гэтых балот, ідучы па якіх чалавек заглыбляецца вышэй калена, на дваццатай вярсце ёсць пяты па ліку мост, па якім праходзіць дарога з Мінска да Стань-Караля. Непадалёку ад гэтай дарогі на левым беразе ракі ўдаецца ўбачыць вёску Хацéнь, якая належыць да Мільчы, адкуль вёрст дзесяць па страшэннай багне можна дабрацца да той гістарычнай Мільчы, пра першую назву якой паўторана ўжо неаднаразова шмат разнастайных версій.

Мільча сёння з'яўляецца ўласнасцю графа Міхала Тышкевіча ў Барысаўскім яшчэ павеце, але ўжо размешчана пры граніцы з Вілейскім паветам, на правым беразе Віліі. Яна згадваецца ў гісторыі краю як месца знаходжання Стэфана Баторыя. Дагэтуль існуюць выкладзеныя ім дубовымі плахамі незабытыя сляды грэбляў, якія служылі для перапраўлення войскаў праз прыбярэжныя багны і дрыгву; дагэтуль захавалася земляное ўмацаванне, дзе размяшчаліся вайскоўцы і гармата, што з паўднёвага боку палохала ворага падчас правядзення работ пры пабудове грэблі.

Стэфан Баторый у вайне 1579 года, якая была скіравана супраць Масквы, у паходах сваіх вёў войска да абароннага замка ў Чашніках, адкуль, як мы ведаем, разгарнуў далей вайсковыя дзеянні. Кароль абраў дарогу да Чашнікаў у невядомай яму частцы краіны, апынуўшыся ў якой вымушаны быў увесь час то будаваць масты, то пракладваць грэблі, прасякаючыся праз дзікія і густыя лясы. Такім чынам, пры пераходзе з Даўгінава да Чашнікаў, трапілася яму па дарозе Мільча. Тут кароль з усім рыцарствам і затрымаўся на некалькі дзён, бо ў паходзе сваім да каралеўскага стану – сённяшняга

dziejewskim za 65 tysięcy rubli sr. Kupno to dla rozmaitych powodów nie doszło do skutku, zkąd wyniknął długi i zawiły proces z Lichodziejewskiemi, w ciągu którego gdy Chmiotowska i jej syn małoletni, a po nich sama Korowajowa w 1834 r. umarła, wszczął się drugi gorący proces pomiędzy krewnemi o prawo dziedzictwa na Wardomicze; dopiero w 1847 r. wnuczka pułkownikowej Korowajowej, Anna Bezobrazówna, w zamęściu generałowa Suchotinowa, uznaną została prawą sukcessorką Wardomicz.

Na siedmnastej dopiero wiorście od źródła, niewielka rzeczka, nazwana Czernia, wpadająca z prawego jej boku, swoją wodą pierwsza Wiliję zasila; rzeczka ta stanowi granicę pomiędzy majątkiem Wieszkami obywatela Mroczkowskiego a dobrami Wardomicze, których obszar daleko po za Wiliję na prawym jej brzegu rozciąga się. Od rzeczki Czerni poczynają się znowu brzegi bagniste, wśród których wijąca się Wilija, długą przestrzeń tej okolicy przepływa. Pośród tych bagien, na których się człowiek po nich idący wyżej kolan w błoto zagłębia, na dwudziestej wiorście jest most piąty z kolei, po którym przechodzi droga z Mińska do Stań-Króla. Nie opodal od tej drogi na lewym brzegu rzeki widzieć się daje wieś Chocień, należąca do Milcza, zkąd o wiorst dziesięć po najstraszniejszych bagnach przybywa się nareszcie do owego historycznego Milcza, o którego pierwszem nazwaniu tyle wersyj rozmaitych niejednokrotnie już powtórzono.

Milcz, dzisiaj dobra dziedziczne Michała hr. Tyszkiewicza w borysowskim jeszcze powiecie, lecz już ku granicy wilejskiego, na prawym brzegu Wilij położone, pamiętne są w dziejach krajowych pobytem tutaj Stefana Batorego; dotąd istnieją niezatarte ślady grobel, które dla przeprawienia wojska przez nadbrzeżne bagna i trzęsawice zarzucał dębowemi płachami Batory, dotąd znachodzi się ten szaniec, któren osadzony wojskiem i armatą od południa zasłaniał robotę przy nakładaniu grobli od strony, zkąd nieprzyjaciela się lękano.



Stefan Batory w wojnie przeciw Moskwie 1579 roku prowadzonej, w pochodach swoich na Księstwo Połockie, wiódł wojsko do obronnego zamku w Czasz-

26

Стань-Караля, ён вымушаны быў наладзіць пераправу праз Вілію і непраходную багну на левым яе беразе.

Памятка пра знаходжанне караля ў Мільчы мае сувязь з назваю гэтага месца; яна захавалася да нашага часу ў народных паданнях, якія маюць два адрозныя між сабою варыянты. Пан Ходзька пры апісанні берагоў Віліі чуў апавяданне, што нібыта ў часе тых паходаў шляхціч, які з-за нашэсця каралеўскага войска дашчэнту разарыўся, а калі ў яго ўжо нічога не засталося, то, забраўшы сваю сям'ю, плачучы і рыдаючы, стаў на дарозе перад каралём, што ехаў на чале шматлікага рыцарства, і, затрымаўшы яго, з плачам расказаў яму пра свае страты. Кароль, крануты бядою шляхціча і яго сям'і, жадаючы неяк яго ўзнагародзіць, знаходзячыся ў тую хвіліну на старастава́й зямлі, накрэсліў пальцам у паветры нібыта межы свайго дарунка – "Bierz, – кажа, – i milcz!" [Бяры і маўчы]. Ад той пары шляхціч, узнагароджаны за ўсе страты, мусіў пабудаваць два фальваркі на дараванай каралём зямлі: першы – на тым месцы, дзе ён затрымаў караля, назваў Стань-Каралём, а другі ад апошняга каралеўскага слова назваў Мільчаю.

Пан Ардынец, арандатар Мільчы, ахвотнік да збірання гістарычных паданняў, распавядаў мне, што ў яго доўга захоўвалася перададзеная яму ксяндзом пралатам Трацэўскім надрукаваная ў той час кніжачка, з якой ён пераказаў мне забытыя звесткі, што датычыліся Мільчы. Паводле апавядання п. Ардынца, так апісвае гэтую гісторыю нібыта непасрэдны сведка:

"Кароль (Стэфан Баторый) рухаўся з войскам у паход на Полацк з Вільні ў Чашнікі праз Даўгінаў. У Даўгінаве, даведаўшыся ад схопленага языка, што пасланыя супраць караля маскоўскія сілы канцэнтраваліся ў наваколлі Мінска, ён абраў даверанага і дзелавога афіцэра Хмялеўскага і з дадзеным яму войскам паслаў яго на Мінск для стрымлівання непрыяцельскіх сіл; сам жа – з Даўгінава вырашыў прабівацца напрасткі да Чашнікаў зусім незнаёмым яму краем. Сённяшняя Мільча была першым месцам, куды кароль з войскам прыйшоў з Даўгінава. Сутыкнуўшыся там з непраходнымі балотамі і тарфянікамі, у глыбінях якіх танулі як жывёлы, так і людзі, і маючы пры гэтым за спінаю варожыя войскі, якія пагражалі яму нападам, ён патрабаваў тэрмінова вымасціць цераз багну зручную і бяспечную дарогу; з гэтай мэтаю ён загадаў сагнаць тысячы людзей і коней, і каб іх сілаю грэбля была выкладзена драўлянымі пашчапанымі плахамі, а наверх пасыпана прывезеным у мяхах пяском, і каб усё гэта было зроблена на працягу аднае ночы. Тагачасны памешчык Мільчы, прозвішча якога не захавалася ў згаданым спісе, пачуўшы гэты загад, пачаў пераконваць караля, што выканаць гэты загад цалкам немагчыма. Кароль яго лагодна запэўніў, што так яно будзе. Шляхціч, асмялеўшы ад такой далікатнасці караля, зноў спрабуе давесці яму, што гэтага рабіць не трэба. Кароль яшчэ раз па-добраму намагаецца яго пераканаць. Аднак калі шляхціч, не зразумеўшы каралеўскай міласці, у трэці раз з яшчэ большым панібрацтвам паўтарае той самы закід, кароль, страціўшы цярпенне, распаляецца гневам і ў злосці кажа:

– Milcz, kpie! [Маўчы, халопе!], а то я табе вушы палашом адрэжу.

Тады перапалоханы шляхціч пакорна адказаў каралю:

– Найяснейшы Пане! Ад гэтага дня і я сам, і ўсе мае спадчыннікі назаўсёды захаваюць у памяці прамоўленыя табой словы!

І з той хвіліны свой маёнтак ён назваў Мільчай, і назва гэтая захоўваецца па сённяшні дзень. І адно, і другое паданне застаецца шануемым для нас фрагментам той эпохі, бо як адно, так і другое – дакладна нагадвае нам характар гэтага манарха. У першым б'ецца добрае сэрца, якім на самой справе быў надзелены Баторый. У другім – бачым уласцівую каралю ганарыстую фантазію, якая так выразна праяўлялася пры вырашэнні важных спраў. Кожнае з гэтых двух паданняў можна было б прызнаць праўдзівымі, калі б не гістарычная дакладнасць, што Стэфан Баторый не ведаў добра польскай мовы і ніколі на ёй не пісаў і не гаварыў. Венгр

паводле паходжання, ён быў пакліканы на каралеўства ў старым узросце, таму не хацеў і не прымушаў сябе дакладна вучыцца чужой для яго мове, асабліва той, што панавала ў краіне ў гэтую эпоху, калі лацінская мова была нібыта другой роднай мовай, якою ўся шляхта ў краіне пісала і размаўляла.

З Мільчы кароль па пракладзеных ім грэблях ішоў з войскам далей, праз чатыры мілі ён заснаваў лагер і ў ім затрымаўся на тры дні. Лагер на той час называўся каралеўскай станіцай. Пазней на тым месцы быў пабудаваны фальварак як знак напамінку пра каралеўскае знаходжанне. Пазней названа Стань-Каралём, і да цяперашняга часу так называецца. Дагэтуль знаходзіцца яшчэ ў лесе камень Баторыя, апісанне і выяву якога я змясціў у гістарычным “Апісанні Барысаўскага павета”, прадстаўленым чытачам дзесяць год назад.

Падчас знаходжання Стэфана Баторыя ў Стань-Каралі адасланы ім у Даўгінава Хмялеўскі, з мэтаю прыкрыцця перадыслакацыі яго войск цераз Вілію, затрымаў расійскія войскі і, дзякуючы таму, забяспечыў каралю шлях для яго далейшых паходаў, пасля чаго зноў уз’яднаўся з каралём у Стань-Каралі. За такія заслугі Хмялеўскі атрымаў ад караля ва ўласнасць маёнткі Вітунічы, Нябышын і шмат іншых. Першапачатковы прывілей на названыя землі, аказаны Хмялеўскаму, сведчыў пра прычыну іх атрымання. Апісваемыя землі, пазней раздробненыя ў выніку конкурснага падзелу, утвараюць сёння ўласнасць некалькіх жыхароў, але ўжо з іншымі прозвішчамі. Можна толькі пашкадаваць, што цікавая кніжачка, якая змяшчае апісанне паходу караля праз гэтае наваколле, і абсалютна невядомая ў польскай бібліяграфіі, са смерцю пралата Трацэўскага аказалася для нас страчаная.

Вельмі стомлены пасля працы, праведзенай ад самога вытоку, я з прыемнасцю адпачыў пару дзён пад гасціннай страхою п. Ардынца ў гэтай гістарычнай Мільчы. За гэтыя дні мы ўпарадкавалі вымяральныя работы, агледзелі аздобленую гістарычнымі ўспамінамі мясцовасць, распісалі пратаколы нашых дзеянняў і аднавілі свае сілы на далейшае навуковае падарожжа. У той жа дзень, 1 чэрвеня, з новым запасам сіл мы рушылі далей. Пры 15° цяпла, у Мільчы барометр паказваў 27° 7,1’. Пан Шантыр зноў пайшоў са сваім ланцугом уздоўж ракі. Вілія ў Мільчы яшчэ досыць малая рака; але, плывучы праз багны і дрыгву, яна з кожнай хвілінай павялічваецца. Шосты ад пачатку мост на ёй знаходзіцца на тым самым месцы, у якім яго шмат год таму паставіў Стэфан Баторый. З правага цвёрдага берага ён адразу вядзе на тыя гістарычныя грэблі, якія да сёння не падпраўляліся, хоць і ператварыліся ў доўгія брады, утвараючы тут адзіны пераезд. Пры мосце знаходзіцца млын з двума коламі – трэці па ліку і астатні на Віліі. Праз паўвярсты ніжэй Вілію ўзмацняе рэчка Лонва, якая выплывае з балот і дрыгвы, упадаючы на левым беразе нашай ракі. У гэтых ваколіцах заканчваецца Барысаўскі павет. Мы прайшлі праз яго 36 вёрст і сталі на мяжы Віленскай губерні, бо ўжо ўступілі ў Вілейскі павет. Адначасова з уваходам у гэты павет і рэчышча ракі, вызваляючыся са сваіх багністых абдымкаў, плывучы па цвёрдым ложы, пачынае весялей закручвацца. Як толькі яна адчула гэтую свабоду, то ўжо гатуе здраду тым, хто па ёй паплыве. Насупраць вёскі Крывазнакі, размешчанай на правым беразе, Вілія вельмі мелкая; дно выслана завостранымі ўверсе камянямі так, што кожны плыт з дрэвам, рухаючыся з Вілейкі, праходзячы праз гэтае месца, атрымлівае пашкоджанні, а часам і псуецца. Крывазнакі – гэта ўрочышча, вядомае ў гісторыі сплаву па гэтай частцы Віліі. Для людзей, якія гандлююць дрэвам, Крывазнакі ўяўляюць немалую пагрозу. Шчасце, што гандаль дрэва, як я гаварыў вышэй, ажыццяўляецца тут з адных толькі ўрадавых лясоў вілейскага староства, і то ў малых маштабах. Ад Крывазнакаў да Пагоста недалёка. Пагост – гэта вялікая вёска, якая належыць памешчыку Камінскаму, забудаваная ўздоўж ракі Віліі, на правым яе беразе, перасечаная вялікім гасцінцам, што вядзе з Барысава ў Даўгінава. Мост, які злучае два берагі ракі, ужо значна большы за папярэднія. Сама назва гэтай вёскі сведчыць пра яе прызначэнне ў старажытнасці,

калі гандаль спрадвеку заставаўся ў руках у чужаземцаў, якія здалёк дастаўлялі нам свае тавары; а ў старажытнасці людзей, якія прыязджалі гандляваць на славянскія землі, называлі гасцямі, адсюль і заезджыя дамы для купцоў – гасціннымі дварамі, а крамы ў Расіі называюць *рядами*. У нашым краі дарогі, па якіх ездзілі гандляры, дагэтуль захавалі назву "гасцінец", а тыя Пагосты, на назву якіх у нашым краі часцяком здараецца натрапіць, былі ў старажытнасці месцамі, дзе тыя прышэльцы нейкі час гасцілі. Такім чынам, некалі гэта былі на нашай зямлі месцы, абраныя гандлярамі, якія прыязджалі да нас з Расіі, для складвання тавараў. Адбывалася гэта ў тыя часы, калі Гедзімін забяспечыў для Пскова і Ноўгарада свабодны гандаль з Літвою; калі Юліянна, віцебская князёўна, і Марыя, цвярская князёўна, што па чарзе былі жонкамі Альгерда, моцна пратэжыравалі купцоў, якія прыязджалі з Расіі. Пагост ў славянскай мове меў яшчэ і іншае значэнне. Чытаем у расійскай гісторыі, што Вольга, жонка Ігара, аб'язджаючы ў 946 г. паўночную Расію, дакладней Наўгародчыну, уздоўж рэк Луга і Мсты, увяла дзяржаўныя падаткі і падзяліла краіну на Пагосты, альбо воласці[5]. Праз пару вёрст ад вышэй згаданага маста ў Вілію на яе левым беразе ўпадае Дзвіноса, з выгляду вельмі малая рэчка, якая, тым не менш, мае вялікае значэнне для гандлю дрэвам па Віліі.

Дзвіноса бярэ свой пачатак у Барысаўскім павеце, пасярод клінскіх лясоў, якія знаходзяцца ва ўласнасці памешчыка Юзафа Шышкі. Ад вытоку да вусця яна праплывае па краю ўсяго толькі 10-12 міль, і за гэты кароткі перыяд свайго жыцця яна адыгрывае вялікую ролю, аказваючы невымерную паслугу гэтай частцы краю. Нагадаем, што па ходу свайго цячэння Дзвіноса дазваляе працаваць сямі карысным прадпрыемствам, а недзе ў палавіне яна пачынае быць сплаўнай. Вясною, пры штогадовай паводцы, на сваім хрыбце пераносіць яна ў Вілію значную частку дрэва, якое з'яўляецца вялікім багаццем нашай краіны. Тавар, перапраўлены па Дзвіносе, можна лічыць сёння адной з багацейшых галін сплаўнага гандлю па Віліі. Іншыя сплаўныя рэкі, што ўпадаюць у Вілію, падмацоўваюць гэты гандаль непараўнальна меншай колькасцю дрэва. Эксплуатацыя дрэва са спрадвечных пушчаў і лясоў, якіх шмат у Барысаўскім павеце, павінна была быць настолькі ж даўнім заняткам, наколькі старымі з'яўляюцца тут лясы і старажытныя паселішчы людзей, што жывуць у гэтых мясцінах. Можна меркаваць, што і ў даўнейшыя часы аддаленныя берагі Віліі, парослыя адвечнымі лясамі, дастаўлялі шмат дрэва для карабельных мачт і брусоў. Аднак заўсёды Дзвіноса, сплаўляючы з пушчаў, што знаходзіліся ў глыбіні краіны, дрэва, мусіла трымаць сваё вядучае месца ў гэтым гандлі.

У палавіне гэтай ракі, ля так званай Плешчаніцкай Рудні, на яе берагах знаходзіцца галоўны склад, ці, карыстаючыся мясцовай тэхнічнай тэрміналогіяй, – галоўны рум белага тавару, г.зн. дрэва, апрацаванага для Мемельскага порта. Увесь тавар узяты з нявычарпанай дагэтуль смалявіцкай пушчы, якая некалі належала Радзівілам, а цяпер знаходзіцца ва ўласнасці кн. Віттенштэйна; з барысаўскай пушчы, з лагойскіх і гарадзецкіх лясоў гр. Тышкевічаў; з хатаеўскай, касцельскай пушчаў і іншых меншых лясоў. Сюды лес падвозяць узімку, складваюць яго па абодва берагі, што займае працягласць больш за мілю ўздоўж рэчышча. Бывае там ад 500 да 800 коп распілаванага тавару, пераважна англійскіх брусоў. Ніжэй каля гэтай ракі, у трох мілях ад Плешчаніцкай Рудні, на зямлі памешчыка Валовіча, знаходзіцца другі рум, які называюць Чарапоўскім, да якога звозяць апрацаванае дрэва з дзядзілаўскай, акалаўскай і даўгінаўскай пушчаў. Склад гэты значна меншы за першы, бо колькасць дрэва, што звозяць на гэты бераг, штогод даходзіць больш-менш да 100 коп. Калі мы налічым 500 коп брусоў у першым складзе і з другога дадамо 100 коп, а капа найтанней, зыходзячы з цяперашніх паўсюдных коштаў, ацэньваецца ў 360 рублёў срэбрам, то значыць, дрэва, сплаўленае вясною з гэтай прыстані на Вілію, дае нам капітал звыш

[5] История государства Российского Н. Карамзина. Т. 1. – С. 150.

200 000 рублёў срэбрам штогод – толькі з аднаго гэтага закутка Барысаўскага павета і адпраўленае толькі ў адзін Мемельскі порт, не лічачы таго тавару, што перапраўляецца па Бярэзіне на Рыгу і Крамянчуг. Штогод з надыходам вясны тысячы людзей мітусяцца над берагамі гэтае ракі, занятыя звязваннем бярвенняў, знаходзячы тут свой заробак. На гэтым полі гандлёвага спаборніцтва людзі, вада, дрэва, гарэлка, грошы, – усё між сабою няспынна перамешваецца, перакрыжоўваецца; бо кожны з купцоў, уладальнікаў тавару, пераплачвае работнікам і поіць іх менавіта за хуткасць у гэтай працы, каб паспець скарыстацца з вялікай вады і каб здолець апярэдзіць другога пры пераходзе праз запруды, якіх да месца прыбыцця ажно пяць. Усё таварнае дрэва вяжуць тут у вельмі малыя платы, якія выпраўляюць на раку Вілію, дзе ўжо на яе беразе, у Пахомаве іх перавязваюць у вялікія платы, і ў такім новым выглядзе яны падарожнічаюць да Мемеля. Калі веснавая вада спадае, гэтая Дзвіноса, на берагах якой яшчэ нядаўна было так гаманліва і людна, зноў вяртаецца ў сціплае ложа, у якім пасярод зазелянелай веснавой свежасцю дубровы ціха і спакойна плыве яна малою рэчкаю. На яе берагах цалкам знік след таго вялікага руху і той масы тавару, які складвалі там на працягу зімы. Гледзячы на яе пасярод лета, не паверыў бы, што нядаўна яшчэ гэта была дужая рака, на берагах якой было столькі людзей і гоману; што на водах сваіх у выглядзе дрэва яна вынесла далёка з нашага краю такі значны капітал.

Насупраць вусця Дзвіносы, на правым беразе Віліі, мы маем вёску Ста́хі; ідучы ад яе правым берагам ракі і сочачы за ёю ў разнастайных яе паваротах, у якіх яна тут звіваецца пасярод квяцістых лугоў, трапляем на татарскія могілкі. Недалёка ад берага, на невялікім пагорку ўзвышаецца скопішча курганоў, якія маюць усе прыкметы дахрысціянскіх магіл. Нягледзячы на тое, што мяне ахоплівала неадольнае жаданне разгарнуць на гэтых магілах археалагічныя пошукі, капаць іх, аднак, я не адважыўся, бо ў татараў, што жывуць у наваколлі, яны маюць рэлігійнае ўшанаванне. Дагэтуль усіх тутэйшых татараў хаваюць у гэтым урочышчы. Існуе паданне, што тут пахаваны нейкі татарскі хан, узяты ў палон літоўскім князем Вітаўтам. Мне нават паведамілі, што татары маюць на гэтае месца прывілей, выдадзены нібыта кімсьці з літоўскіх княжычаў, але дапытацца пра гэты прывілей мне не ўдалося. Даўгінаўскія татары, прыведзеныя мною, не змаглі мне на гэты конт нічога вытлумачыць, спасылаючыся на свайго мулу, які жыве ў мястэчку Крывічы. Незадаволены такім адказам, я паслаў муле сваё запытанне, на што гэты татарскі святар адкрыта адказаў, што ніякіх асаблівых прывілеяў на гэтае ўрочышча татары не маюць. Такім тлумачэннем татарскага мулы мне давялося задаволіцца.

Недалёка ад гэтага ўрочышча, на правым беразе ракі, стаіць сядзіба Каролін, ад якога ў Вілію плыве малая рэчка, якая завецца Сярністая. З супрацьлеглага ж боку, на левым беразе ракі, ад вёскі Алесіна пракапаны канал, які вядзе да Віліі і выпроствае там рэчку, якая завецца Драздзянка. За дваром Каралін ёсць вёска Камень, у ёй – апошні ўжо мост на рацэ Віліі, на тракце, што вядзе з Мінска да Даўгінава. Да гэтае вёскі я прыбыў з усім маім абсталяваннем 2 чэрвеня а 8-й гадзіне вечара. Сюды быў пера-


. na lewym brzegu tej rzeki od wioski Olesina jest przek
ony, którén prostuje płynącą tam rzeczkę, zowiącą się Droź
Karolinem jest wieś Kamień; w niej ostatni już most na rze
odącym z Mińska do Dołhinowa. Do tej wsi przybyłem z c
2. Czerwca o godzinie 8 wieczorem; tu się przeniosły z Mi

32

несены з Мільчы, дзе ён напачатку быў раскладзены, мой падарожны багаж. Тут я сустрэўся з маім водным экіпажам, бо ад гэтага моста я збіраўся ўжо плысці па Віліі.

Вёска Камень, якая належыць памешчыку Камінскаму, завецца гэтак ад вялікага каменя ў выглядзе закругленага конуса, які мае 2 аршыны 14 вяршкоў у вышыню і 14 аршынаў акружнасці ў аснове. Ён знаходзіцца пасярэдку гэтай вёскі, на ўзгорку, на правым беразе ракі. На паўднёвым баку гэтага каменя высечаны крыж з падвойнымі папярочнымі перакладзінамі, даўжынёю ён роўны вышыні каменя.

Вось якое паданне захавалася пра згадваемы камень. Калісьці тутэйшы селянін араў сахою на валах у першы дзень Вялікадня, за што Гасподзь Бог ператварыў яго разам з валамі ў камень. Традыцыйна кожны селянін вёскі з задавальненнем расказвае пра гэта.

## III

Каля моста ў Камені працавалі рамеснікі, яны завяршалі будаўніцтва суднаў, якія павінны былі складаць маю падарожную флатылію. Самі судны былі збудаваныя ў майстэрнях, у мяне ў Лагойску, у 1856 годзе; частку іх я ўзімку перавёз на бераг ракі, па якой збіраўся плысці, і там іх увесну давялі да ладу. Майстэрня, дзе даробляласяся мая падарожная флатылія, размясцілася пры надзвычай людным Даўгінаўскім тракце. Невымернае мноства гледачоў пастаянна прысутнічала пры гэтай рабоце. Нехта ішоў пехатою, хтосьці ехаў на возе, але кожны затрымліваўся каля моста і закідваў безліч дакучлівых пытанняў, бо кожнага зацікавіла гэтая незвычайная ў Камені з'ява. Майстры, якім абрыдлі надакучлівыя пытанні, не аднаму з мінакоў жартам адказвалі што-небудзь дзівакаватае; па наваколлі пайшлі перабольшаныя і перакручаныя апавяданні, байкі і розныя страхоцці пра тое, што робіцца ў Камені. З бліжэйшых навакольных маёнткаў адзін за адным прыбывалі экіпажы, поўныя дам і мужчын, якія жадалі паглядзець на маю флатылію. Цікаўнасць, якая ў жанчын выглядала іх прыроджанай слабасцю, а ў мужчын – спачуваннем маёй справе, прыводзілі і той і другі пол на бераг Віліі.

Мая флатылія, створаная дзеля гэтай навуковай экспедыцыі, павінна была складацца з пяці суднаў. Першае – прызначалася для мяне і калег па маёй працы, на ім павінна была адбывацца ўся дзейнасць нашага навуковага падарожжа. Яно мела раскошны выгляд, было свежапафарбаванае, упрыгожанае гербамі і рознакаляровымі сцягамі і харугвамі. Я стараўся яго абсталяваць адпаведна яго прызначэнню. Гэта было судна 16 аршынаў у даўжыню і 5 у шырыню, з адной мачтаю пасярэдзіне і двума ветразямі, другая мачта знаходзілася наперадзе, вяроўкамі яны былі з'яднаныя між сабою, пад палубай меліся досыць умяшчальныя склады. Ззаду быў размешчаны крыты павільён, які засланяў нас ад дажджу, вятроў і сонца і даваў нам магчымасць працаваць без перапынку. Усе геаметрычныя прылады, зонды для вымярэння ракі, барометр і тэрмометр, прыстасаванні, прызначаныя для вылічэння яе нахілу, паперы для нанясення планаў, альбомы для малявання прыбярэжных пейзажаў – складалі на ім наш навуковы інструментарый, а тоўстая кніга ў абрамленні старапольскага дэвіза *"Si Deus nobiscum, quis contra nos?"* прызначана была дзеля запісвання штодзённых пратаколаў нашай работы. Па правым боку судна знаходзілася вадзяное кола, якое круцілася адначасова з рухам нашага судна наперад. Патрэба ў вымярэнні адлегласці, якую мы праходзілі па вадзе, вымагала нейкага адмысловага прыстасавання. Вядомая паўсюдна машынка, прывязаная да транспартных колаў, што, круцячыся з іх абаротам, адлічвае пройдзеную адлегласць па зямлі, падказала мне ідэю прыстасаваць падобную прыладу для падарожжа па вадзе. Такім чынам, гэтае вадзяное кола, якое мела сажань у акружнасці і ўвесь час круцілася разам з бегам судна, павінна было стаць асноваю нашага вылічэння; сваім абаротам яно прыводзіла ў рух зубчатае кола, якое чаплялася за шасцярню,

прымацаваную да вертыкальнага металічнага прута, уверсе якога была гадзіннікавая стрэлка, якая круцілася па белым цыферблаце, падзеленым на пяцьдзясят роўных частак. Кожны абарот вадзянога кола адмерваў нам сажань праплытага статкам па вадзе шляху, які стрэлка натавала на цыферблаце. Дзеля палягчэння падліку ўказальнік пасля кожнага пяцідзясятага сажня, г. зн. пасля абыходжання стрэлкаю па крузе цыферблата, чапляўся за зуб маленькага кола, падзеленага на 10 частак, і паварочваў 1/10 яго частку; удар молата ў званок паведамляў нам пра кожныя 50 сажняў, праплытых па рацэ. Дзесяць такіх udaраў гучалі пасля поўнага абароту малога дзясяткавага зубчатага кола, што павінна было паведамляць пра праплытую намі вярсту. Гэтая скамбінаваная мною машынка пры поўнай маёй задаволенасці вытрымала выпрабаванні на роднай рацэ, выкананыя пасля папярэдняга вымярэння шнурам і ўторкнутай у яе калкамі лініі.

Падлічвала яна сажні з надзвычайнай дакладнасцю, не пакідаючы жадаць нічога лепшага, але на Віліі, як мы ўбачым ніжэй, яна аказалася абсалютна непрактычная. Пасярэдзіне судна знаходзіліся разнастайныя склады, на круглых шчытах, прыстасаваных нібыта для абароту колаў (на падабенства паравога судна), з абодвух бакоў над намаляваным пасярэдзіне гербам быў размешчаны зроблены вялікімі літарамі надпіс *“Марыя”*. Гэтым імем я назваў судна, якое павінна было даць мне магчымасць ажыццявіць даўно намечаную і разгалошаную па ўсёй краіне маю задуму. Але не адны навуковыя прыстасаванні, неабходныя для падарожжа, знаходзіліся на гэтым судне. Быў там і дапаможны рэквізіт, які значна палягчаў магчымасць дасягнуць намечаных мною мэтаў. Вырушваючы з дому з намерам азнаёміцца з мясцовым людам, хадзіць ад хаты да хаты і здабываць там няпростыя для запісвання таямніцы народнага жыцця – я павінен быў мець чым абдарыць, чым спадабацца ці чым узяць за сэрца сялян, што жылі па берагах ракі, па якой я збіраўся плысці. Таму, акрамя харчовых запасаў з клеці, дзеля нашае выгоды і выгоды чэлядзі, якая мяне суправаджала, судна маё было забяспечана разнастайнымі запасамі, на якія толькі здольная была мая прадбачлівасць. Я меў падарожную аптэчку, складзеную з простых гатовых лекаў, у якіх я сам абазнаны; добра забяспечаны дарожны склад, немалы запас хустачак, усялякага роду пацерак, рознакаляровых стужак, ладанак, крыжыкаў, медальёнаў з выявамі святых і г.д. І я не памыліўся ў сваёй прадбачлівасці, бо столькі разоў на працягу падарожжа па Віліі запасы гэтыя выклікалі альбо ўдзячнасць у людзей, альбо дапамагалі здабыць песню ці таямнічае народнае паданне, альбо прыносілі задавальненне сельскім дзецям і радасць іх маткам. Якім жаданым госцем быў я не раз для ўсіх саслоўяў, што жывуць па берагах цудоўнай Віліі. Дзе б толькі ні апынулася маё прыгожае судна, усюды народ тлумам выбягаў, каб спаткаць мяне, і парою, калі таварышы па маім падарожжы былі занятыя кожны сваёй справай, я шчодра раздаваў гэтыя запасы; бо калі хтосьці скардзіўся на галаўны боль, адразу я даваў яму супакойваючую ваду Распаіла; а хто трымаўся за жывот, той атрымліваў некалькі малдаўскіх антыхалерычных кропель; некаторым я даваў таблеткі Марысона; не аднаму ад ліхаманкі прапаноўваў салёную гарэлку; хворым дзецям пакідаў па прыгаршчы нявінных зёлак ці гарбаты і цукру – усё, прынятае ад мяне з добрай верай, прыносіла жаданы вынік. Дзяўчаты, якія дыктавалі мне народныя песні, атрымлівалі хустачкі, пацеркі, стужачкі; малых вясковых дзетак, якія добра чыталі малітвы, я абдорваў ці крыжыкам, ці медальёнам, ці ладанкай; ну а хто завітваў у мой павільён на судне, той быў гасцінна пачаставаны правізіяй з падарожнага складу ці з аптэчкі.

Другое судна, значна меншае, з адным парусам, прызначанае для дадатковых дапаможных рэчаў, што былі неабходныя пры навуковых працах, неадступна следавала за *“Марыяй”*. Называлася яно *“Ад’ютант”* і везла на сабе геаметрычны ланцуг, пад’ёмнік з вымяральнымі шнурамі, штатывы ад столікаў, рыдлёўкі, лапаты і г.д.

Трэцяе судна, якое называлася *“Выгода”*, было цалкам крытае, мела на сабе

бляшаную печ з высокім комінам. Прызначана яно было пад кухню і для службы. Пры ім знаходзілася цяжкая лодка, якая служыла клеццю. Пяты малы камунікацыйны човен павінен быў забяспечваць зручнасць у часовых і гаспадарчых стасунках між большымі суднамі і берагам.

Думка падказвала, што адначасова з запасамі шматлікіх, неабходных для працы прадметаў, а таксама сродкаў, важных для бытавых зручнасцяў, нельга было забыць і пра рэчы, патрэбныя дзеля таго, каб часам можна было развеяцца падчас працы. Збіраючыся ў такое працяглае воднае падарожжа, штó магло стаць для нас галоўным захапленнем, як не рыбалка? І мы мелі з сабою ў нашым падарожным экіпажы ўсе прылады дзеля гэтай нявіннай забавы: малыя сеткі, дарожку, вуды, восці.

Не так адбылося з флатыліяй, як я меркаваў. Абсалютна не ведаючы ракі, я будаваў маё галоўнае судна з вострым дном, разлічаным на пэўную глыбіню вады, хоць і не пакідаў страх, што па мелкай Віліі на ім я не праплыву. Трэцяе судна, прызначанае пад кухню і размяшчэнне прыслугі, калі яго перавозілі ўвесну на колах да берага, настолькі было папсаванае, што пасля спускання яго на ваду адразу стала зразумела, што гэтага падарожжа яно не вытрымае. Блізкі ад Каменя сусед, шаноўны пан Снежка, які выдатна разумеў ідэю майго мерапрыемства, падзяляў яе разам са мною і пастаянна ад самога пачатку шчыра цікавіўся маім падарожжам, у гэты складаны момант аказаў мне сваю дапамогу, ахвяруючы замест пашкоджанай “Выгоды” сваю лайбу. Я з удзячнасцю прыняў шчыра прапанаваную мне дапамогу. Калі ж аказалася, што ахвяраваная п. Снежкам лайба здольна змясціць не толькі кухню і наша падарожнае начынне, але і ўсю клець, ды пры гэтым яшчэ заставалася вольнае месца, то адразу стала відавочна: тры судны можна было замяніць на гэтую лайбу, што нашмат зменшыла колькасць людзей, патрэбных для суправаджэння флатыліі. Я прыспешваў работу па падрыхтоўцы і пакрыцці гэтай лайбы, бо мне ўжо хацелася рушыць далей. Дык вось, тры судны: *“Марыя”*, *“Ад’ютант”* і *“Лайба”*, замест папярэдніх пяці з гэтага часу пачалі складаць маю флатылію. Пан Снежка, як найбольш за мяне дасведчаны ў суднаходстве па Віліі, з усёй сардэчнасцю шчырага дарадцы параіў мне і неаднаразова паўтараў, каб я пакінуў думку выпраўлення ў падарожжа па Віліі на маім караблі, збудаваным, як ён казаў, не для гэтай ракі, і калі ён асядзе дзесьці на мелі, то надасць мне клопату; а цяпер, тут, на месцы, усяму яшчэ можна даць рады. Карабель мой быў такі прыгожы, і я так верыў у яго, што мне шкада было б з ім развітацца. Я мусіў падзякаваць за добрую, зычлівую параду п. Снежку і сказаў сам сабе: “Што будзе, тое й будзе – плыву на *“Марыі”*.

Пакуль усё гэта адбывалася каля моста ў Камені, то, каб не змарнаваць дзень, мой геаметр разам з вызначанымі яму людзьмі, пайшоў наперад, вымяраючы і замалёўваючы рэчышча.

Барометр, устаноўлены ў Камені ў гэты дзень а 11 раніцы, паказваў $+17{,}1^{\circ}$ паводле Рэамюра, а пры паўднёвым ветры $27^{\circ}\ 8{,}1'$.

bat pod śpiżarnię. Piąty, czółen mały kommunikacyjny, miał ułatwiać stosunki chwilowe i gospodarskie między poważniejszemi statkami a brzegiem.

Przy tylu zasobach zgromadzonych do pracy, przy zapasach służących do wygody, myśl o środkach do rozrywki, która tak potrzebnie pracę przeplata, przepomnianą też nie była. Zabierając się na tak długą podróż po wodzie, cóż innego mogłoby stanowić główną naszą rozrywkę, jeżeli nie rybołóstwo? wszystkie więc przyrządy do tej niewinnej zabawy, jako: małe siatki, doróżki, wędki, oście mieliśmy z sobą w naszym podróżnym ekwipażu.



Inaczej się stało z flotyllą, jakem był sobie zamierzył. Nie znając całkiem rzeki, główny mój statek budowałem z dnem ostrem, jakby do głębokiej wody, chociaż mnie straszono, iż po miałkiej Wilij na nim nie przepłynę. Statek trzeci, pod kuchnię i służbę przeznaczony, w przewozie do brzegu wiosną na kołach, nadwerężonym został tak dalece, iż po spuszczeniu go na wodę zaraz się okazało, że on tej podróży nie odbędzie. Sąsiad blizki od Kamienia, szanowny pan Śnieżko, któren myśl mojego przedsięwzięcia doskonale rozumiał i ją ze mną podzielał, ciągle się od początku moją wyprawą szczerze interesował — podał mi w tym trudnym razie swoją pomoc, ofiarując na miejsce uszkodzonej Wygody swoją łajbę. Przyjąłem z wdzięcznością tak uprzejmie podaną mnie pomoc; a gdy się okazało, iż łajba, przez p. Śnieżkę ofiarowana, pomieścić mogła nietylko kuchnię i podróżne sprzęty nasze, lecz i całą śpiżarnię, i tak jeszcze próżną była, od razu więc trzy statki zastąpionemi zostały przez ową łajbę, co o wiele zmniejszyło ilość ludzi potrzebnych do prowadzenia statków. Popędzałem czynność około przyrządzenia i pokrycia łajby, bo mi się już chciało ruszyć dalej. Trzy więc statki: Marya, Adjutant i Łajba, na miejscu uprzednich pięciu, odtąd flotyllę moją składać poczęły. Pan Śnieżko, jako doświadczeńszy odemnie w żegludze po Wilij, z całą serdecznością

36

Позна ўвечары, амаль апоўначы, прыбыў у Камень яшчэ адзін калега – гэта быў п. Ігнат Бялінскі, які раней абяцаў суправаджаць мяне ў гэтым падарожжы да Вілейкі, адкуль мы намерыліся паехаць у Дзявентню, каб выказаць наша шанаванне аўтару *"Літоўскіх малюнкаў"*.

5 чэрвеня, якраз на досвітку, усе падняліся на ногі і прыняліся за работу; рамеснікі былі занятыя заканчэннем падрыхтоўкі суднаў, бо сёння, што б там ні адбылося, я вырашыў адплысці з Каменя. Перад ад'ездам правялі яшчэ адно бараметрычнае вымярэнне ў Камені. Тэрмометр паказаў $17,5^0$ цяпла, а барометр – $27^0$ 8,2'. Ужо а 2-й гадзіне па палудні ўсё было гатова да адплыцця. Усе знаходзіліся на сваіх месцах у акружэнні шматлікіх гледачоў рознага звання, якія запоўнілі мост на рацэ і тракт, што праходзіў праз яго. Атрымліваем благаслаўленне на дарогу, якое, стоячы на беразе, дае нам апрануты па-касцельнаму святар. Яго велічная постаць, лысая галава з доўгімі белымі валасамі па краях, добразычлівы твар перадае людзям несумненны спакой душы і чысціню сэрца. З апостальскай значнасцю ён благаславіў і падарожжа, і маю ідэю. Адчуванне надзвычайнай, такой чуллівай пакорлівасці і нейкай упэўненасці, што мы паспяхова завершым распачатую ў гэтую хвіліну працу, напоўніла нашы душы, бо нас благаславіў вядомы ў Літве ксёндз Юзэф Львовіч, богабаязны святар, адданы служэнню Богу і дапамозе бліжнім. Алтар, малітва, ахвяраванні, набожныя парады, выказваемыя з такой памяркоўнай цярплівасцю ўсім людзям без выключэння, былі зместам усяго яго жыцця. Выдатны мураваны Божы храм у Даўгінаве, дзе ён служыў пробашчам, дзякуючы яго старанням і працы, узведзены быў за кошт сабраных ахвяраванняў. Ён з'яўляецца найпрыгажэйшым помнікам святарскага жыцця і будзе сведчыць сучаснікам і нашчадкам пра рэлігійную руплівасць яго стваральніка. У хвіліну, калі я гэта пішу, ксяндза Львовіча ўжо няма сярод жывых. Ніхто мяне не асудзіць, за тое, што пішу тут свой успамін пра яго самога і яго чалавечнасць. Няхай гэтыя словы служаць пасмяротнай згадкаю пра гэтага вартага глыбокай павагі святара.

Атрымаўшы блаславенне, а 3-й гадзіне, пры шматлікім тлуме цікаўных гледачоў, што сабраліся на беразе, былі паднятыя якары, і ўсё рушыла ў падарожжа. Паны Ардынец і Снежка, якія неадступна на працягу папярэдняй працы знаходзіліся каля мяне, вырашылі правесці мяне на суднах да Спаса. Вілія ад Каралінскага маста аж да горада Вілейкі і далей ва ўсім сваім цячэнні паўсюдна, з малымі перапынкамі, вельмі мелкая; амаль нідзе не губляецца з вачэй яе залацістае дно, у шмат якіх месцах яна мае над пясчаным дном усяго некалькі цаляў вады. У мясціне, з якой мы выправіліся, Вілія мела на той момант усяго 9 цаляў глыбіні. Наша лайба, на якой усе плылі, маючы плоскае дно, была пагружана ў ваду на некалькі цаляў і пайшла свабодна, але "Марыя" – судна, збудаванае абсалютна непрактычна, аказалася непрыдатным для суднаходства па Віліі ў яе мелкай вадзе, патрабуючы як мінімум пару локцяў глыбіні, каб мець магчымасць плысці свабодна. Як толькі яно зрушыла з месца, то адразу ж села на мель. Сілаю людзей, што знаходзіліся на рацэ, судна было ссунута і прайшло некалькі дзясяткаў крокаў – але зноў асела на пяску. Зноў яго папіхнулі сілаю і моцна налеглі на вёслы. Каля ўпадзення рэчкі Крайшчанкі ў Вілію, пры левым яе беразе, амаль праз паўвярсты ад месца, адкуль мы адплылі, судна настолькі моцна ўбілася на мелі ў пясок, што ўжо ніякая чалавечая сіла не была ў стане зрушыць яго з гэтага незайздроснага становішча. Ад гвалтоўнага сатрасення, калі статак зваліўся на ваду бокам, усё на ім перавярнулася, усё між сабою перамяшалася; некаторыя геаметрычныя прыстасаванні, расстаўленыя на палубе, і весляры, што там знаходзіліся, неспадзявана апынуліся ў рацэ. Пры такім сумным стане рэчаў было невядома, з чаго пачынаць. І таму, хочаш – не хочаш, але я мусіў развітацца з упартай ідэяй вандраваць далей на гэтым судне, якое так грунтоўна засела на першай вярсце. Праз некалькі міляў трэба зноў чакаць падобных пясчаных завалаў, якія пастаянна будуць пагражаць паўторамі гэтай страшнай

катастрофы, якой немагчыма пазбегнуць ніякай чалавечай прадбачлівасцю.

Тут зноў высакародны п. Снежка прыходзіць са сваёю дапамогаю: ён ахвяруе мне вялікую лайбу, на якую я павінен перабрацца з усім багажом і ўжо на адным судне плысці далей бяспечна і свабодна. Я з удзячнасцю прымаю гэтую шчырую дапамогу. Уся паклажа з *"Марыі"* была вынесена на бераг. І пакуль мы здолелі разгледзецца і прыйсці ў сябе ад здарэння, пакуль змаглі сабраць разам у адно раскіданыя і перамяшаныя між сабою багажныя рэчы, навуковыя прыстасаванні і іншыя дробныя манаткі, пакуль разабраліся з новымі інструментамі, надышоў вечар, і як пацярпелыя крушэнне, мы мусілі правесці халодную ноч каля распаленых вогнішчаў, пры зліцці рэчкі Крайшчанкі з Віліяй.


W miejscu, z któregośmy wyruszyli, Wilija w tej chwili zaledwo 9
była. Łajba nasza, na której wszyscy płynęliśmy, mająca dno płaskie,
nurzona w wodzie, poszła swobodnie, lecz Marya, statek zbudowany
ie całkiem, nie do żeglugi po Wilij w płytkiej jej wodzie, potrzebuj
parę łokci głębini, aby mógł płynąć swobodnie, zaledwo się ruszył z
osiadł na mieliznie. Siłą ludzi, brodzących po rzece zepchnięty, przes
ilkadziesiąt — znowu osiadł na piasku; znowu siłą zepchnięty, moc
wioseł pędzony, przy ujściu rzeczki Krajsczanki do Wilij, przy lewym je
vo o pół wiorsty od miejsca, zkądeśmy wypłynęli, tak mocno się wb
a mieliznie, że żadna już siła ludzka zruszyć jego z tego smutnego
ie była w stanie. Od gwałtownego wstrząśnienia, gdy się jeszcze bo
na wodzie, wszystko się na nim poprzewracało, wszystko się z sobą z
re narzędzia geometryczne, rozstawione na pokładzie i wioślarze b
znaleźli się niespodzianie w rzece; w tym smutnym stanie rzeczy nie
ć, rad nie rad musiałem się rozstać z upartą myślą żeglowania d
em, któren tak zasiadł na pierwszej półwiorście, wówczas, gdy prze
cie powtarzające się podobne piaszczyste zawały groziły bezprzestan

38

Крайшчанка – зусім маленькая рэчка, якая, працякаючы за паўвярсты ад Каменя і ўпадаючы ў Вілію з левага яе берага, бярэ свой пачатак за пару міляў ад Крайска. Яна прыносіць вялікую карысць: на ёй яшчэ гадоў дваццаць таму размяшчаліся суконныя майстэрні, вядомыя сёння ў краіне як суконная фабрыка паноў Камінскіх. Да таго часу, пакуль на ёй яшчэ не павялічылася колькасць станкоў па вырабе сукна, прывядзенню ў рух якіх садзейнічала паравая машына сілаю ў 30 конскіх сіл, воды гэтай сціплай рэчкі прыводзілі ў дзеянне першыя сукнаробчыя майстэрні. Тут варта запісаць, што паравая машына (яе доўгі белы комін паўставаў над лесам і відзён быў здалёк на ўсё наваколле, выкідаючы клубы чорнага дыму) была першая такога роду машына, што існавала ў Літве. Над берагам Крайшчанкі мы расселіся на маіх бязладна складзеных падарожных клумках і ў смутным задуменні правялі халодную летнюю ноч, так заслужана пакутуючы з-за маёй упартасці.

6 чэрвеня, як толькі пачаўся дзень, з немалымі цяжкасцямі мы зноў перабраліся на тое месца каля маста, адкуль адплывалі ўчора. Ужо была прыцягнута ахвяраваная мне лайба. Гэта быў дзень Божага Цела. Мы размясціліся каля самога тракту, і нас зноў акружыла грамада людзей рознага полу і службовага стану, якія прыехалі ці прыйшлі пешшу на набажэнствы і кірмаш у Даўгінава. Пасярод стольках сведкаў, што ўвесь час мяняліся, нягледзячы на ўрачыстасць гэтага дня, лайба рыхтавалася да майго падарожжа. З *"Марыі"*, якая ляжала на баку, знялі павільён, перанеслі яго на лайбу і паклалі там на падлозе; паставілі мачты, абабілі дыванамі яе абсмоленыя краі, перанеслі кухонную печ з доўгай бляшанай трубою, і гэтакім чынам голая лайба неўзабаве ператварылася ў прыгожае і зручнае судна, у сто разоў больш выгоднае для падарожжа, чым першае. Пад павільёнам занялі сваё адпаведнае месца столік для працы, перад ім бусоль з астралябіяй, прызначаная для вымярэння паваротаў ракі. Да борта лайбы была прымацаваная машынка для адлічваня праплытай адлегласці.

Усё зручна размясцілася на адной лайбе, да таго ж істотна зменшыўся мой падарожны экіпаж, бо калі стала вядома, што для кіравання патрэбна меншая колькасць людзей, то астатніх я пакінуў дома. Паплыла са мною адна лайба і дапаможны бот, названы *"Ад'ютантам"*. Лайбаю кіраваў стары і дасведчаны рулявы буслаўскі Васіль Сапежка, рэкамендаваны мне да маёй вандроўкі панам Канстанцінам Гецэвічам. Гэта быў ужо 70-гадовы чалавек, але здаровы, статны,

шыракаплечы мужчына. Твару яго ўласціва была разважлівасць, затое позірк вызначаўся вялікай хітрасцю. Гэта быў надзейны чалавек, у чым мы пераканаліся на працягу шматтыднёвых з ім кантактаў на судне, якім ён кіраваў. Ён меў усе якасці, патрэбныя мне як даследчыку Віліі: добра кіраваў суднам і дасканала ведаў раку; дакладна памятаў назвы ўсіх вёсак і засценкаў, што знаходзіліся на яе берагах; ведаў назвы ўсіх водных і прыбярэжных урочышчаў, назвы камянёў у рацэ, усе большыя і меншыя парогі і бездакорна ведаў праз іх дарогу. Менавіта такі рулявы і быў мне патрэбны ў маіх пошуках. Усе чацвёра маладых весляроў былі прывыкшыя да працы на вадзе і ўпэўнена гналі барку. Кухар і лёкай, узятыя для нашага абслугоўвання, кіравалі меншым ботам. Такі быў у маёй навуковай паездцы канчатковы склад экіпажа, які даплыў са мною да вусця Віліі.

Паслухаўшы святую імшу і ўзяўшы ўдзел ва ўрачыстай працэсіі ў Даўгінаве, а 3-яй гадзіне па палудні мы адбылі, ужо ў другі раз, ад таго берага ў Камені.

Увесь наш прынцып вымярэння ракі Віліі, заснаваны на машынцы, якую я апісаў вышэй, быў замаруджаны з-за нерэгулярнага абароту лайбы; бо судна так імкліва круцілася і паварочвалася на вадзе, штурхаемае цячэннем ракі па яе шматлікіх заваротах, што ні вадзяное кола ад машыны не магло круціцца стабільна, ні бусоля не паспявала адзначаць заваротаў ракі. У такім стане неахайнага напачатку суднаходства, калі нам асабліва важна было зрушыць з месца, даплылі мы толькі да Спаса, прыблізна за пяць вёрст ад маста, адкуль мы выправіліся. Па праўдзе кажучы, у маю задачу не ўваходзіла вымярэнне гэтай часткі Віліі з дапамогаю бусолі і машынкі, бо я меў гэтую адлегласць, ужо вымераную на сушы і дакладна перамаляваную. Я хацеў толькі зверыць з картаю і пераканацца, наколькі ў будучым змагу на судне разлічваць на маю машынку і на вымярэнне бусоляй. Вопыт гэты – на жаль! – пераканаў мяне, што з дапамогаю гэтых двух прыстасаванняў нельга выканаць нават прыблізныя вымярэнні.

На Віліі паміж Каралінам і Спасам ёсць адзін паварот, які называецца Красны Бераг. Там, у выгібе ракі, амаль пад прамым вуглом, вада так кіпіць, круціцца і віруе, што кожны, хто праплывае гэтае месца, заўсёды можа набрацца страху і атрымаць пашкоджанне. Калі мы ўвайшлі ў гэтую затоку, вір так раптоўна закруціў наша судна, што мы былі не ў стане даць адпор вадзе рулём і вёсламі, нягледзячы на ўсе намаганні нашых весляроў і стырнавога, які дарэмна крычаў ва ўсё горла: “На борт! На борт!” Нас тройчы перакруціла і адкінула назад, пакуль на вяроўцы, прыцягнутыя да берага, мы ледзьве здолелі выйсці з гэтае затокі. Хоць сонца, як звычайна ў нас кажуць, стаяла яшчэ высока і да змяркання было яшчэ далёка, я распарадзіўся заначаваць у Спасе. Трэба было адвесці час дзеля навядзення належнага парадку з рэчамі, багажамі і людзьмі, устанавіць рэжым і для язды, і для працы. Да таго ж неба пачынала хмурыцца; хмары, наляцеўшы адусюль, пакрывалі гарызонт; грымела, здалёку бліскала маланка, усё прадказвала набліжэнне хуткай буры. Шматразова пастаўлены барометр ніколі нам нічога пэўнага не паказаў; ён паказваў то 26° 6,6’, то 26° 6,5’ – заўсёды няправільна, ніжэй, чым пры назіраннях, праведзеных у Камені.

Спас – гэта рыма-каталіцкі касцёл, пасвечаны ў гонар Перамянення Гасподняга, на правым беразе Віліі. Пры ім плябанія з гаспадарчымі забудовамі і карчма – вось і ўсё, што ёсць у гэтай мясціне, якую невядома з якой прычыны называюць мястэчкам. Гэты драўляны касцёл мае прамавугольную форму, напачатку ён быў пабудаваны ў1786 годзе дзякуючы намаганням кс. Трыдэнцкага, тагачаснага даўгінаўскага пробашча. Тут праз гадоў дзесяць ён арганізаваў філію той парафіі, пасля чаго Юзаф Камінскі, лідскі падчашы, а потым сын яго Людвік, мінскі віцэ-губернатар, прадаставіўшы прыстойныя фонды для ўтрымання пробашча, зрабілі касцёл парафіяльным. Касцёл у Спасе налічвае сёння 800 прыхаджан і належыць да парафіі 5-га класа, ён даволі бедны, без ніякіх аздабленняў і памятных рэчаў.

Вакол касцёла ў гэтую хвіліну панавала незвычайная цішыня, у плябаніі таксама было ціха і пуста. У гэты дзень спаскі пробашч ад'ехаў у Даўгінава на ўрачыстасць Божага Цела, а яго чэлядзь святкавала. Але затое як было людна, гаманліва ў карчме, бо гэта быў святочны дзень, і ў гэты дзень кожны з навакольных жыхароў нясе свае колькі грошаў усемагутнаму Бахусу, ці вясковай Тэрпсіхоры. Скрыпкі пранізліва завішчалі вясёлую *"Мяцеліцу"*, і нейкі рэзвы малады хлопец з натоўпу, відаць, пакліканы з ваколіцы танцор, з грубай весялосцю, без усялякага запрашэння абхапіў маладзенькую, самую прыгожую з дзяўчат карчомнага балю і пачаў яе жвава круціць па хаце. За ім пайшоў другі, трэці, пайшлі ў пары і дзяўчаты з-за недахопу хлопцаў, – усё пайшло, усё панеслася ў скокі, усё са смехам і крыкам, як звычайна ў танцы, круцілася па хаце да стомы, да поўнай зморанасці. У наступнай чарзе тая ж самая танцорка пачала танец, але ўжо з іншым хлопцам. Відаць было, што яна тут – улюбёная і выпеставаная кветка з бліжэйшага сяла; хлопцы па чарзе вырывалі яе адзін у аднаго з рук. І для гэтай дзеўчынёхі танец павінен быў стаць азартнай забавай, бо, нікому не адмаўляючы, з кожным, з аднолькавай весялосцю, яна заўзята круцілася. Бразгаталі шматлікія пацеркі на шыі, плавалі па паветры канцы стужак, уплеценых у прыгожую чорную касу, якая спадала ёй на плечы. Пот каціўся кроплямі па яе белым, прыгожым твары. Свае вялікія прыгожыя блакітныя вочы яна ўтаропліва ў чарговага танцора, а калі на заканчэнне танца кожны з іх гаварыў нейкае слова, вясёлая ўсмешка вуснаў адкрывала шэраг белых і роўных, як жамчужыны, яе зубоў. Гулянка працягвалася далей, з усё большай ахвотаю, і гэтае прыгожае дзіця прыроды, якое яшчэ не ведала трывог і клопатаў сапраўднага жыцця, смяялася і танцавала – лепш не бывае.

У карчме размясцілася і грамада сялян больш паважнага веку; па крузе ходзіць кілішак, чуецца гучны смех, які выклікае ў іх, сыплючы жартамі, нейкі чалавек, апрануты ў сурдут, у шапцы набакір – напэўна, рамеснік з фабрыкі ў Крайшчанцы; там – нейкі іншы жартаўнік, здаецца, з дваровых, палохае дзяўчат, падсоўваючы ім жукоў; крык, галас, абурэнне адных, смех другіх – усё мяшаецца адно з адным, напаўняючы карчму крыкамі. Для нас, стомленых за цэлы дзень працай, несумненна, такі начлег не быў зручным, аднак, калі ўжо надарылася пабыць разам з вясковым людам, то можна было лічыць гэтыя карчомныя забавы нашымі першымі назіраннямі за мясцовымі звычаямі. Менавіта з іх давялося мне ў першы раз пачынаць у гэтым падарожжы свае назіранні за народнымі звычаямі, з якіх – на жаль! – нічога, акрамя карчомнай замалёўкі, у маю падарожную торбу не ўвайшло. Пасля такога неспакойнага начлега немагчыма было выбрацца ў далейшую дарогу вельмі рана. Былі і іншыя прычыны: людзі яшчэ не звыкліся са сваімі новымі абавязкамі службы на вадзе; адсутнасць належнага парадку і арганізаванасці на судне; недахоп некаторага патрэбнага для інструментаў дробнага рэквізіту, які рамеснікі тут уночы выраблялі. Аднак я не змарнаваў сваёй раніцы, бо за гэтыя некалькі гадзін склаў праграму штодзённых заняткаў, якія павінны выконвацца на працягу далейшай вандроўкі, наступным чынам: штодзённа а 3-й гадзіне з раніцы мы павінны выпраўляцца з начлегаў, старанна збіраючы па дарозе ўсё, што будзе датычыцца нашай працы.

Кожны з удзельнікаў маёй навуковай вандроўкі павінен быў улічваць розныя мае патрабаванні і займацца блізкай яму працай. Пан Янушэвіч як мастак, суправаджаючы мяне ў гэтай паездцы, для падарожнага альбома панінен быў замалёўваць кожную падрабязнасць ці ўказаны мною прыбярэжны пейзаж. Пан Шантыр абавязаны быў вымераць і начарціць план кожнага значнага ўрочышча на беразе ці на вадзе; акрамя таго, п. Шантыр, знаходзячыся пры мне на пасадзе сакратара, мусіў быць адказным за ўсю пісьмовую частку гэтай навуковай паездкі. Апоўдні дзве гадзіны павінны быць прызначаны на абед і адпачынак, пасля чаго – зноў у дарогу, зноў за працу. На заходзе сонца судна прыставала да берага і,

дзе ўдавалася, мы раскладвалі на беразе абоз. Пасля абавязковага падсілкавання і хвіліны адпачынку, калі ўсе збіраліся на начлег, і толькі дзяжурны вясляр нёс начную варту на судне, ля майго павільёна пачыналася запісванне пратакола дзённых даследаванняў. Праца гэтая працягвалася звычайна да паўночы, а шмат разоў перавальвала і далёка за поўнач, калі на працягу мінулага дня збіралася шмат запісаў. А 3-й раніцы зноў усе былі на сваіх месцах, і судна плыло далей. Усё ішло ў нас, як па гадзінніку. Кожны дзень падарожжа быў падобны да другога, бо дакладна, пахвілінна, аж да надакучлівасці, сачыў я за выкананнем парадку, выкладзенага мною ў інструкцыі. Здавалася б, што пры такім малым адпачынку падобная праца, якая працягвалася дастаткова доўгі час, празмерна цяжкая і для выканання немагчымая, але, тым не менш, усім нам хапіла сіл на яе выкананне, і ніхто з нас не скардзіўся на празмерную стомленасць, усім нам хапіла здароўя і волі, бо ўсе мы, палюбіўшы ідэю гэтага публічнага служэння, былі моцныя духам!

Толькі а 8-й гадзіне раніцы мы адплылі ад Спаса. Тут Вілія яшчэ досыць вузкая і вельмі пакручастая; у гэтую пару яе можна перайсці ўброд, нягледзячы на тое, што ў Спасе дзеля сувязі двух берагоў знаходзіцца першы на гэтай рацэ паром. За рэчкай Кабылянкай, якая ўпадае ў яе з левага боку, Вілія мае звужанае рэчышча і праз вярсту з ласкавай усмешкаю коціць свае воды, я сказаў бы, нібыта праз упрыгожаны чалавечай рукою сад, пасярод пышна квітнеючай каліны, карлікавага дуба, ляшчыны і нахіленай да вады вастралістай вярбы. Адразу за гэтым месцам з правага боку ў Вілію ўпадае рэчка Сластоўка, утвараючы сабою мяжу паміж Даўгінаўскімі землямі, якія тут заканчваюцца, і Кумельшчынай – вёскай памешчыка Казелы. Ад Кумельшчыны Вілія робіцца ўжо трошкі шырэйшаю, праплывае яна праз прыгожую раўнінную дуброву, парослую дзе-нідзе дубамі на левым беразе; правы ж – пясчаны, і пачынае адтуль крыху ўзвышацца над паверхняю ракі і над яе левым берагам. Калі мы ўжо выйшлі з прыбярэжных нізін і балот, я засумаваў па археалагічных раскопках старажытных магіл – маім любімым занятку. Я спытаў у стырнавога, ці не бачыў ён у гэтай ваколіцы над берагам Віліі шведскіх капцоў, бо менавіта так на мове нашага народа называюць дахрысціянскія курганы.

– Зараз, пане, будуць, – адказаў стырнавы.

Ад Кумельшчыны мы зрабілі яшчэ некалькі паваротаў, калі стырнавы, прамінаючы вёску Чапельшчыну, накіраваў судна да правага берага.

– Стаўбуй, стаўбуй, – крычаў ён, і наша судна затрымалася паміж вёскамі Чапельшчынай і Кастыкамі.

– Тут, пане, шведскія капцы, – крыкнуў стырнавы.

Паміж Чапельшчынай і Кастыкамі, дзвюма вёскамі п. Альфрэда Слізеня, на адлегласці каля паўвярсты, у тым месцы, дзе некалі былі пабудаваны склады, якія ўтварылі першую гандлёвую прыстань на рацэ Віліі ў верхняй яе частцы, уся парослая ядлоўцам прастора была запоўнена курганамі. На ёй знаходзіцца процьма кургаНоў, некалькі з іх вызначаюцца незвычайнай, калі гаворка ідзе пра магільныя курганы, вышынёю. Маюць яны па 75 крокаў у акружнасці, а праз іх верх – каля 30 крокаў. Некаторыя з іх, што знаходзяцца на самым беразе ракі, асыпаліся, пашкоджаныя пастаянным падмываннем вады. Баючыся страціць час, я адразу ж узяўся за работу. Адзін з гэтых курганоў, напалову размыты вадою, я раскапаў упоперак. Прыступіў я да гэтай справы з тым большай ахвотаю, паколькі хлопец з вёскі расказаў мне, што ў гэтым месцы над рэчкаю калісьці была знойдзена жалезная піка. Марнаю была мая праца: нічога я ў ім не адкрыў – відаць, вада вымыла з яго археалагічныя багацці. Да астатніх кургаНоў я не адважыўся дакрануцца: яны палохалі мяне сваёй велічынёю, а раскопванне іх належала б да разраду вялікай працы, якой я павінен быў бы аддаць некалькі дзён, а такіх у запасе ў мяне не было, бо я яшчэ толькі пачынаў сваё падарожжа, канчатковая мэта якога была для мяне такою далёкаю.

Калі вестка пра маё прыбыццё разнеслася па абедзвюх вёсках, то гэтаму нямала садзейнічала маё досыць шыкоўнае судна. Вялікая навіна на гэтай рацэ – маса народу павыходзіла з вёсак, і паволі ўвесь натоўп наблізіўся да мяне. Благачынны са сваім зяцем ішлі на чале грамады, за грамадою – жонкі абодвух бацюшак, іх дзеці. На пэўнай адлегласці ад маіх людзей, што раскопвалі курган, нас акружыла грамада, і ў цішыні, з найвялікшай цікавасцю, глядзела на нашу працу, прыслухоўвючыся да нашай размовы. Калі, нарэшце, яны пачулі, што мы між сабою гаворым папольску, тады два святары, благачынны і яго зяць, наблізіліся да мяне, і як толькі мы пазнаёміліся, благачынны адказаў мне, што з прычыны майго прыезду ўся грамада прыйшла да яго дома і паведаміла, што прыехалі французы, якіх увесь час, невядома адкуль і чаму, тутэйшыя людзі чакалі, і цяпер яны прасілі, каб бацюшка разам з імі выйшаў да тых французаў. Але благачынны хутка пераканаўся, што мы не французы, калі пасля заканчэння працы, запрошаны на маё судна, быў гасцінна пачаставаны маімі падарожнымі запасамі.

Адначасова са святаром пачалі гарнуцца да мяне і больш смелыя вяскоўцы, і былі пачаставаныя і раз, і другі гарэлкаю. І калі ў іх трохі развязаліся языкі, яны пачалі мне расказваць народныя паданні пра гэтыя курганы. Народ наш настолькі абыякавы, ці лянівы, ці скрытны – сам не ведаю – у адносінах да сваіх паданняў, што трэба яго доўга вывучаць, моцна прасіць і добра частаваць, каб з вуснаў яго здабыць нейкія звесткі пра мясцовую мінуўшчыну. Вось і тут, у Кастыках, у ліку сялян, пачаставаных мною гарэлкай, знайшоўся стары салдат, ужо гадоў дваццаць як у адстаўцы, вялікі і нястомны расказчык. Ён злаваўся на мяне і адкрыта заяўляў, што гэтыя курганы не былі магіламі. Сам жа як вайсковы чалавек і стратэг нават тлумачыў мне прызначэнне гэтай, як ён яе называў, шведскай фартыфікацыі. Злаваўся і спрачаўся са мною, калі я раскопваў курган, пераконваючы, што ў насыпаных фартыфікацыях нічога знайсці нельга. Да свайго апавядання, у якасці доказу, што гэта ваенныя ўмацаванні, ён дадаваў легенду, перанятую ў спадчыну ад бацькоў і дзядоў: “Калісьці, шмат вякоў таму, швед, ваюючы з Польшчаю, будаваў тут свае ўмацаванні. Гасподзь Бог за гэты замах на Польшчу пакараў шведаў слепатою. Польшча пабіла шведа, і тут, на гэтым месцы, швед прысягнуў, што ад гэтага часу ён – за Польшчу, і ніколі супраць Польшчы ваяваць не будзе. Пасля гэтай прысягі Бог вярнуў шведам зрок назад. Шведы ж аказаліся верныя прысязе, ваюючы заўсёды з тых пор за Польшчу”. І дадаў ад сябе, што зараз, калі Польшчы ўжо няма, дык і швед вольны ад прысягі.

Адкуль бяруцца падобныя тлумачэнні, хто вясковаму народу стварае такія байкі і ў поўнай перакананасці першы іх расказвае, – даўмецца ці прасачыць немагчыма. Але ніхто мне не запярэчыць, што гэтыя першыя апавядальнікі народных паданняў былі паэтамі, і паэтамі незвычайнымі, у якіх не вычэрпвалася творчая сіла, і што патрапляючы сваімі творамі народным густам, яны ўводзілі іх у жыццё народа і стваралі паданні – гэтую народную ўласнасць, не знішчаную сілай часу.

Вяскоўцы з Кастыкаў паказвалі мне месца над берагам, дзе калісьці стаялі майстэрні; распавядалі, што калі выроўнівалі пляц пад гэтыя майстэрні, то выкопвалі грошы і шкляны посуд, як яны пераконвалі – з гарэлкай. Можа, гэта таксама былі старажытныя слёзніцы? Гаворачы пра майстэрні, дадавалі, што то былі залатыя часы для іх бацькоў, калі гандаль на Віліі квітнеў.

## КАМЕНТАРЫ

Да II раздзела:

*Уладзіслаў II Ягайла* (1352 –1434) – князь віцебскі, вялікі князь літоўскі (1377 – 1392), кароль польскі (1386 – 1434) і вярхоўны князь літоўскі (1392 – 1434). Сын Альгерда і яго

другой жонкі, цвярской княжны Юліяніі. Заснавальнік дынастыі Ягелонаў, адной з галін дынастыі Гедзімінавічаў, якая да канца XVI ст. была кіруючай дынастыяй Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы.

*Descriptio veteris et novae Poloniae* – апісанне старой і новай Польшчы.

*Морг* – старая адзінка вымярэння плошчы, роўная прыблізна 0,56 га (у Польшчы і Літве).

*Сажань* – старадаўняя адзінка вымярэння даўжыні, роўная блізу 2,15 м.

*Локаць* – адна з найбольш часта ўжывальных мер даўжыні, роўная блізу 0,5 м.

*Пацы* – магнацкі род у Вялікім Княстве Літоўскім сяр. XV–XVIII стст. і Літвы першай паловы XIX ст.

*Візіткі* (Візіта́нткі) – жаночы каталіцкі манаскі ордэн, заснаваны ў 1610 годзе. Названы ў гонар наведвання Лізаветы Прасвятой Дзевай Марыяй.

*Па мячы* – г. зн. па бацьку. Тэрмін тычыцца родавых адносінаў нашчадкаў адносна бацькоў (у супрацьвагу выразу “па кудзелі” – па матцы).

*Дамініканцы*, Псы Гасподнія (не афіцыйна) – каталіцкі манаскі ордэн, створаны святым Дамінікам.

*Стэфан Баторый* (1533 – 1586), кароль польскі, вялікі князь літоўскі.

*Прывілей* – заканадаўчы акт у Каралеўстве Польскім (з XII ст.) і Вялікім Княстве Літоўскім (з канца XIV ст.), які сцвярджаў правы асобных людзей, шляхетных радоў, сацыяльных груп альбо адміністрацыйных адзінак на нейкае матэрыяльнае альбо статуснае ўладанне.

*Альгерд* (каля 1296-1377) – вялікі князь літоўскі (1345-1377), князь крэўскі і віцебскі; адзін з найбуйнейшых вайскаводаў Вялікага Княства Літоўскага. Пражыў больш за 80 гадоў, кіраваў дзяржавай 32 гады; бацька 12 сыноў, у тым ліку Ягайлы, Андрэя Полацкага, Свідрыгайлы, Скіргайлы, Уладзіміра.

*Вітаўт-Аляксандр Кейстутавіч* (1350-1430) – князь гарадзенскі, князь луцкі, вялікі князь літоўскі. Сын Кейстута, пляменнік Альгерда і стрыечны брат Ягайлы. Адзін з найбольш вядомых кіраўнікоў Вялікага Княства Літоўскага, яшчэ пры жыцці празваны Вялікім.

*Аршын* – старадаўняя адзінка вымярэння даўжыні, роўная 0,7112 м.

Да III раздзела:

*Вяршок* – старадаўняя адзінка вымярэння даўжыні, роўная прыблізна 4,29 см.

*“Si Deus nobiscum, quis contra nos?”* – “Калі з намі Бог, то хто супраць нас?” (з *лац.*)

*Лайба* – хадавое судна з парусам без даху, даўжынёю 25-30 м, шырынёю 4-5 м, грузападымальнасцю 24-80 тон.

*Літоўскія малюнкі («Obrazy Litewskie»)* – збор аповесцяў І. Ходзькі, пяць серый якіх выходзіла ў Вільні на працягу 1842 – 1850 г.

*Цаля* – беларуская назва для адзінкі вымярэння адлегласці ў некаторых еўрапейскіх неметрычных сістэмах мер, прыблізна была роўная 2,5 см.

*Дзень Божага Цела* адзначаецца каталікамі ў чацвер, праз 10 дзён пасля Сёмухі. Адметнае гэта свята тым, што праводзяць урачыстыя працэсіі да чатырох алтароў, дзе чытаюць урыўкі з Евангелля.

*Бот* – невялікае судна.

*Падчашы* – у Вялікім Княстве Літоўскім і Рэчы Паспалітай меў абавязк падаваць напоі да каралеўскага стала, адказваць за асабістую бяспеку першай асобы дзяржавы, таму на гэтую пасаду прызначаліся асабліва верныя людзі.

*Бахус* – у старажытнагрэчаскай міфалогіі бог расліннасці, вінаробства.

*Тэрпсіхора* – у старажытнагрэчаскай міфалогіі муза танца.

Міхал Дубянецкі



...амаль уся сапраўдная літаратура з'яўляецца выбуховай, небяспечнай для савецкай ідэалогіі, таму і вельмі старанна яе хаваюць ад чытача...

# "Трэба рызыкаваць"

## *Дзённікавыя запісы перыяду працы ў Беларускай Савецкай Энцыклапедыі*

*Працяг. Пачатак у №6 (37) за 2008 год, №1-6 (38-43) за 2009 год і №1-5 (44-48) за 2010 год.*

*Падрыхтоўка да друку, прадмова і каментары Станіслава ДУБЯНЕЦКАГА.*

### Міхал Дубянецкі – энцыклапедыст

*4 сакавіка споўніцца 90 гадоў з дня нараджэння Міхала Дубянецкага – вядомага кнігавыдаўца, пісьменніка, энцыклапедыста, аднаго з пачынальнікаў нацыянальна-адраджэнскага руху ў Беларусі канца 1980-х – пачатку 1990-х гадоў. "Дзеяслоў" працягвае публікацыю яго дзённікаў. Гэтым разам яны прысвечаны працы Міхала Фёдаравіча ў Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Тагачасны галоўны рэдактар БелСЭ Пётр Усцінавіч Броўка 14 мая 1975 г. прапанаваў пасаду адказнага сакратара-намесніка галоўнага рэдактара выдавецтва Міхалу Дубянецкаму, які працаваў тады інструктарам сектара друку ЦК КПБ і ў гэтай якасці надаваў шмат увагі развіццю энцыклапедычнай і кнігавыдавецкай справы ў рэспубліцы. Міхал Фёдаравіч прапанову прыняў і працаваў у БелСЭ да 1979 г. – да прызначэння дырэктарам выдавецтва "Мастацкая літаратура".*

*Чалавек высокай унутранай культуры, вышэйшай ступені інтэлігентнасці, дабрыні і шчодрасці, Міхал Дубянецкі валодаў сапраўды энцыклапедычнай дасведчанасцю і эрудыцыяй, клапаціўся пра аўтарытэт выданняў і іх змест, быў патрабавальным настаўнікам рэдактараў і ўсіх членаў творчага калектыву. Міхал Фёдаравіч прытрымліваўся сам і патрабаваў ад падначаленых не адступаць ад галоўнага прынцыпу стварэння энцыклапедычных выданняў – называць факты і падзеі як мага больш аб'ектыўна, летапісна, безацэначна. Ён лічыў, што рэдактар – гэта той, хто не баіцца цэнзуры; кожная таленавітая кніга павінна быць надрукавана.*

*Міхал Дубянецкі быў непасрэдным стваральнікам першай у рэспубліцы рэгіянальнай энцыклапедыі "Беларуская ССР" у 5 тамах (на беларускай і рускай мовах), удзельнічаў у рэдагаванні першага ў гісторыі беларускай лексікаграфіі "Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы" ў 5 тамах, шматлікіх энцыклапедый і даведнікаў па гісторыі і культуры Беларусі, распрацоўцы і рэалізацыі перспектыўных планаў энцыклапедычных выданняў па розных галінах ведаў.*

**Станіслаў Дубянецкі**

*9 студзеня 1976 г.* П.У.[1] вярнуўся з Масквы пасля тыднёвага побыту там. Дабіваўся прыёму ў В. Шауры[2], але ж той двойчы спаслаўся на занятасць, у другі раз сказаў, што яго выклікае Катушаў[3], прапанаваў перагаварыць па тэлефоне. Так і зрабілі. П.У. выказаў яму свой клопат: збіраемся выдаваць "Збор помнікаў", а рашэння на гэтую справу няма; думаем тамы не нумараваць і нават нідзе не ўжываць слова "збор", а выдаць пакуль што 1-шы том як "Помнікі гісторыі і культуры Брэсцкай вобласці". Шаура сказаў: "Паколькі рашэння няма, дык раю вам ні пад якім выглядам гэты матэрыял не выдаваць".

П.У. са здзіўленнем даведаўся ад мяне, што мы дагэтуль не распусцілі рэдакцыі "Помнікаў". Загадаў да панядзелка скасаваць яе. !!!?

Па "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" таксама рашэння няма. Я паўдня шукаў слядоў прашэння АН у ЦК. Высветліў, што яно было накіравана яшчэ 17. IX. 75 г. Згубілася (?!) недзе ў А.Т.[4] (у аддзелах прапаганды і навукі пра яго нічога не ведаюць).

Звяртаюся да аднаго са сваіх знаёмых у ЦК, каб ён узяў у В.Т. вусную згоду на выданне, што "сумнявацца ў мэтазгоднасці такога выдання няма чаго, што літоўцы, напрыклад, ужо выпусцілі 9 тамоў такога слоўніка літаратурнай мовы (усяго будзе ў іх 10 тамоў). Паабяцаў, што паспрабуе. За некалькі дзён да гэтага я ўжо навязваў яму гэтую ідэю, але ж, як высветлілася, ён слухаў разгублена, да сэрца блізка не ўзяў справу і забыў на яе. Сёння давялося мне ўсё тлумачыць зноў.

Мецэнаты!!!

П.У. сам сёння і перазваніў усім, што спыняе "Збор" – Кузьміну, Дзяльцу[5] і Бандарчыку[6]. Апошні, як ні дзіўна, прыняў вестку спакойна (а ў яго ж у Інстытуце 7 гадоў сектар працуе па падрыхтоўцы "Збору"!). Аказваецца, як ён сам прызнаўся, хутка ён пасаду сваю пакідае: ёсць рашэнне паставіць на яе таксама з парады "мецэнатаў" – С. Марцалева[7].

*12 студзеня 1976 г.* Дзень складаўся ў пасяджэнняў. Дамовіліся з П.У., што рэдакцыя "Збору" будзе скасавана загадам ад 16.I.76 г. Правялі нешта накшталт аукцыёна па продажы рэдактараў. Іх, вядома, не было. Загадчыкі ўсіх рэдакцый завочна іх куплялі. Рэдактараў запрасілі пасля. У большасці настрой – "куды пашлеце, мне ўсё роўна". Правільна сказала Мая Яніцкая[8]: "Справа не ва ўладкаванні нас па прафесіях і схільнасцях, справа ў кавалку хлеба: нам трэба жыць і выхоўваць дзяцей".

Перад прыездам П.У. я ўнёс прапанову “паважаным дзядзькам”, каб рэарганізаваць гэтую рэдакцыю ў рэдакцыю беларускага календара. Выслухалі холадна, абыякава.

Гэтую ж прапанову паўтарыў і Пятру Усцінавічу ў прысутнасці тых жа дзядзькоў. Яны маўчалі. Затое П.У. і нагамі і рукамі замахаў: “Ніякіх календароў, ніякіх календароў”. І.П.[9] пасля сказаў мне, што ён (П.У.) проста не хоча “апускацца” да календароў. (А мо гэта І.П. лічыць выданне беларускага календара абразай). Думаю, што не толькі гэта, ён проста баіцца, ведаючы, як цяжка ўсё гэта праходзіць у тых высокіх канцылярыях, а адказнасць узяць на сябе – баіцца.

Зноў шукаў канцоў “Тлумачальным слоўнікам” – не знайшоў. Даведаўся, што там М. Дзялец на нарадзе ў А.Т. папрасіў, каб звязаў мяне з ім на перапынку. Звязаў. Прашу, каб узяў вусны дазвол на выданне слоўніка. Ён мне: “Я ўжо выйшаў ад яго і вяртацца зноў няёмка”.

Што ж, буду дзейнічаць далей. Папрашу К. Крапіву (ён падпісваў вераснёўскае прашэнне), каб зноў паслалі чалабітную.

Сёння ж у час нашай ранішняй нарады да П.У. прыехалі прадстаўнікі педагагічнага інстытута з Душанбэ – Алег Мяфодзіевіч Борт – выкладчык, і Наташа Пыцькіна – студэнтка. Ён – украінец, яна – беларуска. Пракруцілі запіс на магнітафоне пасяджэння літаратурнага гуртка з нагоды 70-годдзя П.У., узялі ў яго інтэрв’ю (яго думкі пра М. Ісакоўскага, М. Святлова, Турсун-Задэ), фатаграфавалі (усіх).

М. Яніцкая сказала, што сектар збору помнікаў будзе выдаваць сваю працу ў выдавецтве “Навука і тэхніка”. Абвінавачвалі (Караткевіч[10]), што П.У. справакаваў забарону. Я пры ёй пазваніў у выдавецтва М. Акаловічу, які сказаў: “Мы думаем працаваць і жыць, таму на ражон не палезем”.

*10 лютага 1976 г.* Тэатр імя Янкі Купалы распрадаў усе білеты на прэм’еру новай п’есы Андрэя Макаёнка, якая павінна была адбыцца 4, 6 і 8 гэтага месяца. Аднак прэм’ера адменена: аўтар, як кажуць “мецэнаты”, хапіў праз край у крытыцы адмоўных бакоў савецкага жыцця. Яго пастуху – галоўнаму герою п’есы – сняцца крамольныя сны.

Сёння арганізавалі “абмеркаванне” спектакля. Ад імя мецэнатаў намеснік міністра культуры патрабаваў ад А. Макаёнка “перарабіць” тэкст. Аўтар катэгарычна адмовіўся. “Ніводнага славечка не змяню”, – сказаў. Яго падтрымалі кіраўніцтва тэатра, артысты. Але чыноўнік рыкнуў: “П’еса ў такім выглядзе ставіцца не будзе!” Думаю, пераможа, бо гэта – савецкая ўлада. Ад яе імя і ад імя партыі ён і выступае. Яго думка – гэта думка і А. Кузьміна.

*28 снежня 1976 г.* С. Я.[11] пазваніў І.П., даў разнос за “Мінск”: навошта ў гэтай кнізе сакратары ЦК КПБ Слюнькоў, Ляпёшкін, “Кальварыя”, два касцёлы і г.д. Чаму ўсім аднолькавыя дэфініцыі – і Машэраву і далёка не Машэраву? Навошта дзве рэакцыйныя газеты? Як маглі даць партрэт Дзяржынскага побач з ...? Продаж кнігі спынены, яе дагэтуль паступіла ў кнігагандлёвую сетку 43000 экз. Сказана, што калі не пераробім, пойдзе пад нож.

*29 снежня 1976 г.* Кіраўніцтва БелСЭ на 20 гадзін 30-га снежня выклікаюць “на дыван” у ЦК КПБ. Папрасілі растлумачыць, чаму ўсё ж кніга прадаецца ў некаторых кіёсках, нягледзячы на забарону. “Дыван” быў бы ў гэты ж дзень, калі б не пахаванне Ф.А. Сурганава[12], дзе павінен быць С.Я.

У нас разрываюцца тэлефоны: горад цікавіцца, чаму кніга ёсць, а яе не даюць; сёй-той прачуў пра прычыны. Лепшай рэкламы кнізе не трэба!

*30 снежня 1976 г.* Апрача энцыклапедыстаў, выкліканы і М.І. Дзялец. За няпоўныя 2 гадзіны перад гэтым вярнуўся з месячнага адпачынку П.У. і з'явіўся на "дыван". С.Я. паўтарыў мае прэтэнзіі. П.У. запярэчыў: "Мы лічым, што палітычных памылак не дапусцілі, а гэта – галоўнае, што не абгрунтоўвае, не апраўдвае забароны кнігі. Вашы заўвагі – слушныя, каб мы ведалі вашу думку раней, дык улічылі б. А цяпер абяцаем улічыць іх пры перавыданні". Адзін з "вінаватых" нясмела прыгадаў С.Я., што ўсе падрыхтоўчыя матарыялы кнігі яму высылаліся, што мы чакалі яго заўваг. Адказ быў кароткі: "Не бачыў, не чытаў".

Кабінет С.Я. пакінулі, так і не высветліўшы, што ж далей.

*31 снежня 1976 г.* П.У. прыехаў у "не свой дзень" (пятніца). Спецыяльна з-за крамольнай кнігі. Паведаміў дзядзькам, што А.Т. кнігу прачытаў "от корки до корки и крамолы не нашел". Мы папрасілі тэрмінова склікаць усіх "на гару" і зняць з іх сэрцаў камень перад новым годам. П.У. не хацеў, але ж мы паабяцалі, што склічам за 5 мінут і сход правядзем за столькі ж, тым больш з людзьмі трэба сустрэцца, каб паведаміць афіцыйна, што Дзяржаўная прэмія БССР прысуджана за БелСЭ 10 яе супрацоўнікам. Пастанова пра гэта сёння апублікавана ў газетах.

Уся праграма "сходу" – эмацыянальнае выступленне П.У. Яго змест: "А.Т. "Мінск" спадабаўся і ён прасіў падзякаваць тым, хто кнігу рабіў: Ад сябе віншую ўсіх і з гэтай кнігай, і з прысуджэннем БелСЭ Дзяржаўнай прэміі".

Бедны П.У. так жыў тым "Мінскам", што забыў павіншаваць яшчэ з адной кнігай – "Паказальнікамі для БелСЭ". Гэта выдатная кніга і па форме, і па зместу (праўда, таксама крамольная: Масква не дазваляла яе выпускаць на той падставе, што вызначаны памер БелСЭ ўжо вычарпаны ў 12-ці тамах, нават пераўзыйдзены, а "паказальнікі" трэба "ўпіхаць" у агульны аб'ём Энцыклапедыі). Ніна Паўлаўна[13], куратар гэтай кнігі, пайшла са "сходу" пакрыўджанай. Я казаў пра гэта П.У., ён адказаў: тое, што трэба было сказаць у 1-ю чаргу – я сказаў. А пра "паказальнікі" – як-небудзь другім разам.

Вось сапраўдная цана віншавання! З гэтым і пайшлі энцыклапедысты сустракаць Новы 1977 год!

*3 студзеня 1977 г.* "Мінск – горад-герой" – дагэтуль пад забаронай. Але ж увага энцыклапедыстаў і чытачоў больш накіравана сёння на іх зямны клопат пра хлеб надзённы: усюды толькі і размоў, што пра маючае адбыцца павышэнне цэн на прадукты харчавання і прамысловыя тавары. Сакратара БелСЭ У.А. Салановіча выклікалі ў ЦК КПБ на вялікую сакрэтную нараду. Абмяркоўвалася адно пытанне – як лепш адказваць на пытанні працоўных пра гэтае павышэнне. Дамовіліся, што ні ў якім разе да самога факту павышэння пра гэта размоў не весці. Будзе інтэрв'ю па тэлебачанні міністра цэн, на яго і арыентавацца, шукаць пераканаўчых прыкладаў, праяўлення клопатаў партыі аб павышэнні дабрабыту працоўных канкрэтнага калектыву, выкрываць знешнюю і ўнутраную палітыку капіталізму, як павялічваецца галеча мас на Захадзе.

*4 студзеня 1977 г.* "Мінск" яшчэ арыштаваны. Дамінантай жыцця – цэны.

Тэрміналагічнаму камітэту АН СССР выслаў свае меркаванні наконт перабудовы тэрміналагічнай службы ў СССР. У піку прадстаўніку гэтага камітэта (ён патрабаваў, каб новыя тэрміны на бел. – і інш. – мове гучалі і пісаліся па-руску: "иначе мы их не узнаем"), напісаў, што новыя тэрміны іншамоўнага паходжання мы дапасоўвалі і будзем дапасоўваць да сваёй мовы згодна з яе законамі.

*5 студзеня 1977 г.* Аформіў выпіскі з пратакола агульнага сходу, на якім давалася падтрымка кандыдатур дактароў філасофскіх навук П.Дзм. Пузікава[14] і

Я.М. Бабосава[15] ў члены-карэспандэнты АН БССР. Паслаў паважанай прыстойнай жанчынай начальніку аддзела навуковых кадраў АН БССР Зелянкевічу. Гэты раскрычаўся на яе, кінуў пратаколы назад са словамі: “Как вы могли писать по-белорусски?! Разве вы не знаете, что у меня нет переводчиков. Как я это ваше сочинение пошлю в Москву? Кто там сумеет его прочесть? Сделайте по-человечески!”

Я не думаў, што нават кандыдатуры ў Бел. АН трэба ўзгадняць з Масквой! Вось чаму родная мова не можа стаць мовай дзяржаўнай у сваёй жа рэспубліцы! Літаральна ўсё неабходна ўзгадняць з Масквой, а там чытаюць толькі па-руску. Таму ўсе дакументы “на месцах”, “у нізах”, адразу і пішуцца па-руску. Падвойная праца нікому не патрэбна, бо ўсюды ж жорсткія нормы выпрацоўкі і маленькія штаты.

Сёння ж высветліў, што гэты Зелянкевіч прыйшоў на навуковыя кадры Беларусі з... органаў дзяржбяспекі.

*6 студзеня 1977 г.* Даведаўся адразу ж з раніцы, як прыняў Зелянкевіч пратаколы ў рускай версіі: паглядзеў на іх і з іроніяй расказаў некаму, хто ў яго ў гэты час сядзеў, якія мы неразумныя, што “умудрились принести на белорусском языке”, сказаў, што цяпер “пойдет”.

П.У. з захапленнем распавядаў, як выратаваў “Мінск”.

*10 студзеня 1977 г.* “Мінск” – пад арыштам. Р.В.[16] расказаў П.У., што з упраўлення кнігагандлю Белкаапсаюза пытаюць, што рабіць з “Мінскам”. П.У. не ведаў пра працяг гісторыі. Пазваніў А.Т. і, бачу, усхваляваўся, стаў апраўдвацца. Па ходу яго “тлумачэнняў” мы зарыентаваліся, які робіцца нам закід – няма нідзе ў кнізе Генеральнага сакратара ЦК КПСС таварыша Леаніда Ільіча Брэжнева. Хуценька сталі гартаць яе. Знайшлі ў хроніцы ўпамінанне пра заслаўскую сустрэчу, пра яго прывітанне ў адрас калектыва МАЗа.

Перадалі: другі канец тэлефоннага провада не задаволіўся: мала і не так, як трэба. “Але ж што з вамі рабіць. Мо кнігу сапраўды станем прадаваць, а памылкі выправіце ў перавыданні. Пра іх падрабязна пагаворым у мяне. Днямі запрашу кіраўніцтва Энцыклапедыі”.

Мы застаемся не ў захапленні ад такой перспектывы...

Дамовіліся, што адзін з нас – І.П. – паедзе ў Маскву. Гэта мы даўно збіраліся зрабіць па іншых справах. Цяпер можна далучыць і гэту і паездку паскорыць.

Я параіў, каб, барані Бог, не шукаць там абароны. Яны могуць абараніць ад дробненькіх наскокаў, а калі даведаюцца пра сапраўдную рэакцыю ў Бел. ЦК на гэту кнігу, дык і самі ўмыюць рукі. Паразважаўшы крыху, са мною пагадзіліся. Тым больш, што ў кнізе не названы Л.І. Брэжнеў.

*11 студзеня 1977 г.* П.У. папрасіў прыехаць да яго дамоў. Ён быў у ЦК у А.Т., А.Л.[17] і С.Я. (!). Усё дамагаўся мякчэйшага ўдару.

Дамогся. Пагадзіліся на тым, што П.У. дае інтэрв’ю для “СБ”[18], якое надрукуе і “ВМ”[19]. У інтэрв’ю скажа, што кніга выйшла, але ж цяпер мы бачым яе недахопы і збіраемся ў хуткім часе перавыдаць яе, з улікам атрыманых заўваг.

Апрача таго, П.У. нейкім чынам атрымаў там данос загадчыка кафедры марксізму-ленінізму БДТМІ[20] доктара гістарычных навук, прафесара А.Ф. Хацкевіча на нашу кнігу. Данос на сямі старонках машынапісу, называецца “Отзыв на книгу “Мінск – горад-герой””... Толькі ў першых пяці з паловай радках агучаныя спробы стварэння энцыклапедычнага даведніка пра Мінск. Астатняе – усе 7 старонак – “разбор” нашых памылак, “без устранения которых книгу... нельзя выпускать в свет”.

Што гэта за памылкі?

1. У раздзеле “Гісторыя” няма такіх гістарычных падзей і фактаў, як святкаванне 50-годдзя БССР і КПБ, 100-годдзя У.І. Леніна, 50-годдзя СССР, неаднаразовае наведванне Мінска Л.І. Брэжневым, яго ўдзел у святкаванні 50-годдзя БССР і КПБ, яго выступленні ў Мінску, яго дапамога ў далейшым развіцці эканомікі, навукі і культуры рэспублікі, у тым ліку яе сталіцы Мінска, таксама яго роля ў ацэнцы заслуг Мінска перад Радзімай і прысваенне звання горада-героя.

“Упоминание в “Хронике событий”... двух фактов... связанных с пребыванием Л.И. Брежнева в Минске, не исчерпывает эту тему и не спасает положения”.

2. У кнізе “няма партрэтаў Брэжнева, няма ніводнай фатаграфіі пра яго побыт у Мінску. Гэта тым больш выглядае дзіўным, калі ўлічыць, што кніга выдаецца ў год 70-годдзя з дня яго нараджэння”.

3. У кнізе не адлюстроўваецца побыт у Мінску К.Я. Варашылава: тое, што ён тройчы выбіраўся па Мінску дэпутатам ВС СССР (1937, 1946, 1951) і ўнёс вялікі ўклад у ўзнаўленне і развіццё горада.

4. Няма ўпамінання, што тут былі ў розны час М.М. Тухачэўскі, С.М. Будзённы, Г.К. Жукаў, А.М. Васілеўскі і іншыя, няма іх фота і біяграфій.

5. Няма біяграфіі, даведкі пра Я.М. Свярдлова, М.І. Калініна, няма і фатаграфій іх, а яны ж пакінулі тут прыкметны гістарычны след.

6. Без патрэбы ўключаныя даведкі пра буржуазныя, у тым ліку контррэвалюцыйныя перыядычныя выданні (“Минская газета”, “Минский голос” і інш.).

Затое няма нават упаміну “Польской правды”, “Млота” і іншых польскіх газет, што адыгрываюць вялікую ролю ў інтэрнацыянальным выхаванні палякаў і мабілізацыю на абарону Кастрычніка.

7. Артыкулы “1-шы з’езд РСДРП”, “Мінскае камуністычнае падполле ў гады грамадзянскай вайны” напісаныя “без глыбокага ведання справы, маюць шэраг недакладнасцяў і памылак, напр., у артыкуле пра 1-ы з’езд не дадзена лен. ацэнкі гэтага з’езда”.

8. Недаравальным з’яўляецца і тое, што ў артыкуле пра камуністычнае падполле ў гады ВАВ не прыведзена ацэнка дзейнасці партызанаў і падпольшчыкаў Беларусі, у тым ліку і Мінска, якую даў Леанід Ільіч Брэжнеў.

9. У раздзеле “Народная асвета” няма статыстычных дадзеных пра падрыхтоўку ў ВНУ спецыялістаў, пра колькасць выкладчыкаў. Збеднены вельмі спіс найбольш кваліфікаваных выкладчыкаў ВНУ (толькі акадэмікі і члены-карэспандэнты).

10. У раздзеле “Друк” няма даведкі пра “Вожык”.

11. У апошнім раздзеле чамусьці няма такіх, як: У.Я. Лабанок, П.Я. Галавачоў, П.З. Калінін, Н.К. Гусараў, Д.І. Чарвякоў, І.Ф. Клімаў, Д.В. Цябут і інш.

12. Затое ў кнізе ёсць такія, што яшчэ не паспелі заслужыць усенародную павагу.

13. Не абавязкова было даваць усіх акадэмікаў і заслужаных дзеячаў.

14. Больш бы даць ударнікаў камуністычнай працы, герояў пяцігодак, у т.л. першых кавалераў шматлікіх ордэнаў.

15. “...Я ўжо не кажу пра тое, што ў гэты раздзел не трэба ўключаць рэдактараў гэтай кнігі, бо гэта выглядае вельмі нясціпла”.

16. Склад рэдкалегіі таксама трэба пераглядзець і ўключыць у яго “сугубо компетентных лиц”.

17. У спіс літаратуры не даваць мастацкіх твораў, а толькі навуковыя, публіцыстычныя і “внушающие доверие мемуары”, у т.л. успаміны буйных савецкіх палкаводцаў і публікацыі партыйных і дзяржаўных дзеячаў, якія працавалі ці працуюць у Мінску.

У спіс літаратуры “следует обязательно включить” прамовы Л.І. Брэжнева 28.XII.68 г. і А.М. Касыгіна пры ўручэнні ордэна Дружбы народаў.

“Теперь положение нужно исправлять. Но как это сделать – отделу пропаганды и агитации ЦК КПБ виднее. 4.I.1977 г.”.

Яго ж: “P.S. Мои замечания не исчерпывают всех ошибок и недостатков книги. Их гораздо больше. Нужно, чтобы специалисты различных знаний (экономисты, искусствоведы и др.) тщательно прорецензировали книгу”.

*12 студзеня 1977 г.* Вярнуўся з Галоўліта[21] 4-ты выпуск макета кароткай БелСЭ (рукапіс). Цэнзарам зроблена ў ім 13 заўваг: 7 – патрабаванне згоды ваеннага цэнзара; 4 – назваць крыніцы (друкаваныя); 3 – рэдактары адпаведных артыкулаў павінны давесці цэнзару неабходнасць асобных палажэнняў (апошняе заўсёды канчаецца тым, што такія палажэнні выкрэсліваюцца).

Адзін з артыкулаў трапіў на мушку двойчы – па 2 і 3 разрадах. Крамольныя старонкі: 21, 24, 25, 30, 72, 77, 143, 159, 176, 216, 237, 242, 245 (усяго 247 с.).

Рукапіс гэты дастаўлены ў цэнзуру яшчэ 5.I. гг. Сёння – 12.I. Некалькі дзён будуць пацець рэдактары, каб давесці сваю правату (і, нарэшце, здацца цэнзару). Сюды трэба дадаць яшчэ некалькі дзён, затрачаных на падрыхтоўку для цэнзуры экземпляра рукапісу, ідэнтычнага таму, з якога будзе рабіцца перадрук. Ды гэтыя ж самыя матэрыялы яшчэ некалькі разоў будуць разглядацца цэнзарам пад лупай на наступных стадыях вытворчасці. Так старэе на карані важная інфармацыя, якую чытач павінен бы атрымаць неадкладна. Яна дойдзе да чытача, страціўшы сваю актуальнасць, не гаворачы ўжо пра моцную дэфармацыю яе пад уплывам цэнзуры.

*13 студзеня 1977 г.* У газеце “СБ” надрукавана інтэрв’ю П.У. “Рассказ о городе-герое” (267 радкоў, 2,8 знакаў). У асноўным тэкст захавалі такі, які мы самі падрыхтавалі. Уступ да інтэрв’ю (ён заняў цэлую 1-ю калонку – усяго 3 калонкі) цалкам належыць рэдакцыі – А. Літвіну[22]. Уступ добры. Артыкул “стрыманы”. Ад імя П.У. там, у канцы, сказана: “Несомненно, в книге имеются отдельные недостатки. Во 2-м издании мы постараемся их устранить”.

Вось і ўсё. Кніга з-пад арышту вызвалена!

Перад тым, як надрукаваць “інтэрв’ю” тэкст яго быў узгоднены ў агітбюро ЦК з С.Я. Пазваніў В.П. Кузьмянкоў[23]. Сказаў, што А.Ц. Караткевіч хоча мець кнігу (“Мінск”). Высветлена, што яна ўжо прадаецца ў кніжным кіёску ЦК. А.Ц.К. хоча атрымаць дармовы экземпляр!

*14 студзеня 1977 г.* А. Марозава[24] напярэдадні Новага Году вазіла ў Маскву артыкулы пра членаў Палітбюро і сакратароў ЦК КПСС – на ўзгадненне. Артыкул пра Л. І. Брэжнева здала ў яго канцылярыю, астатнія – у Галоўную рэдакцыю БСЭ, каб яны арганізавалі візы.

З канцылярыі ЦК КПСС сёння вярнуўся артыкул. На суправаджальнай запісцы рукой Віктара Голікава напісана, што з тэкстам кароткай біяграфічнай даведкі пра Л. І. Брэжнева для Кароткай БелСЭ можна пагадзіцца. На апошняй, 5-й, старонцы рукапісу гэтага артыкула перад фразай, што на радзіме Л. І. Б., у горадзе Днепрадзяржынску, яму ўстаноўлены бюст, дапісана “Как дважды Герою Советского Союза”.

Думаецца, што гэта зроблена па прапанове самога Л. І. Б., каб крыху змякчыць ураджанне ад шматлікіх узнагарод яго і іншай хвалы. Прычым устаўка па сутнасці няправільная: бюст быў устаноўлены не як “двойчы Герою Сав. Саюза”, а як Герою Сав. Саюза і Герою Сац. Працы. Двойчы Героем Савецкага Саюза ён стаў пасля – толькі ў сувязі з 70-годдзем з дня нараджэння.

Артыкул гэты для кароткай БелСЭ пісаў я. Прыняў сёння некалькі віншаванняў, у сувязі з тым, што артыкул мой цалкам ухвалены “самім”.

Сказаў рэдакцыі пісаць не так, як выпраўлены, а як трэба: “Як Герою Савецкага Саюза і Герою Сацыялістай Працы...”

Атрыманы загад Дзяржкамвыдата БССР “№ 2 за 04.01.77 г. “О некоторых мерах по совершенствованию издания печатной продукции и рациональному использованию бумаги”. Са спасылкай на “рашэнне дырэктыўных органаў” даводзіцца да ведама, што “з 1977 года спыняецца выпуск міністэрствамі, камітэтамі, ведамствамі і арганізацыямі на заказных умовах манаграфій, кніг, падручнікаў, альбомаў і да т.п. Устаноўлена, што выданне іх ажыццяўляецца толькі праз кніжныя выдавецтвы ў планавым парадку”. У сувязі з гэтым адменены зацверджаныя раней палажэнні пра выпуск друкаванай прадукцыі на заказных умовах і пра парадак выдання такой прадукцыі. Адно з гэтых “палажэнняў” зацверджана было толькі ў красавіку мінулага году!

Усім ведамствам “рэкамендавана” у месячны тэрмін распрацаваць свае мерапрыемствы па ўдасканальванні (Божа, якое блюзнерства) выдання друкаванай прадукцыі.

“Свабода” друку, як бачым, “удасканальваецца”. Кожны дзень бачым буйныя здабыткі на гэтай ніве!

*15 студзеня 1977 г.* Субота. Збіраемся ў кінатэатр “Октябрь” на кінафільм “Безотцовщина”. Дачка Галя: а чаму няма кінафільмаў на беларускай мове? Мне ўжо 5 год, а я яшчэ ніводнага не бачыла!”

Дачка Ірынка адказала: “Запытаць пра гэта трэба ў Брэжнева і Машэрава, а не ў таты”. Правільна, Ірынка! Але ж і таты таксама вінны, што кінатэатры называюць па-руску, што ў іх дэманструюць толькі рускамоўныя фільмы, што ў беларускай школе бел. л-ру вуч.

*17 студзеня 1977 г.* Дзень і тыдзень распачынаю з падрыхтоўкі ў цэнзуру рукапісу, які быў вернуты з мноствам пытанняў на тым тыдні. Загадчыкі рэдакцыі запэўнілі, што зроблена ўсё, што патрабавалася. Ніхто з нашых, я зразумеў, не спрачаўся з цэнзарам. Усе патрабаванні задаволены.

Дзіву даешся, што ніхто і не наважыўся паспрачацца, адстаяць сваю думку. Ды і ці была гэтая “свая” думка калі-небудзь?

Заведзеная сістэма функцыянуе спраўна – усе ператварыліся ў апалчэнцаў цэнзуры – і аўтары, і рэдактары, і паліграфісты. Многія па перакананні, што так яно і павінна быць, некаторыя ж – каб не страціць куска хлеба. Аўтар баіцца, што калі выдавецтва атрымае з-за яго аплявуху, у Галоўліце ці ў іншым “галоў”, то больш не возьмецца за выданне яго твораў. Гэта ў лепшым выпадку. А калі заўважана нешта больш-менш сур’ёзнае – паплоціцца кар’ерай. Таму перш, чым несці рукапіс у выдавецтва, аўтар прасявае сам яго на густое цэнзурнае сіта. У рэдактара клопат адзін – другі аўтарскі – кар’ера. У Галоўліце на кожнага рэдактара вядзецца дасье, куды запісваюцца ўсе яго цэнзурныя грахі. Збярэцца гэтых грахоў некалькі, і цэнзар абавязкова дасць ход справе.

Цэнтральнай фігурай сістэмы, вядома, – цэнзар. Ён спецыяльна вышкалены для гэтай справы. Добра ведае, дзе, што і як шукаць. І адказнасць таму ў яго куды большая.

Над кожным з гэтых звенняў – іх начальства. А над гэтым – яго начальства. Напрыклад, над начальствам аўтара і рэдактара – партыйны орган, над начальнікам цэнзара – “мясцовы” (бліжэйшы) партыйны орган і Галоўліт СССР, якому штомесячна дасылаецца спецыяльная справа – здачы-даносы пра ўсе гэтыя “парушэнні” ў мясцовым друку. На Галоўліце СССР кола не замыкаецца – над ім стаіць ЦК КПСС.

Сетка густая. Але ж і гэта яе не поўная характарыстыка. Ёсць яшчэ шматлікі

цэнзурны інстытут – чытачы. Вядома, гэта не тыя чытачы, для якіх выдаюцца кнігі, якімі заўсёды ганарацца аўтары і выдаўцы. Гэта чытальніцкія падонкі, кар'ерысты, у масе сваёй неадукаваныя, прымітыўныя. Яны бяруць у рукі кнігу не для таго, каб далучыцца да добрага, вечнага, а для таго, каб вышукаць у ёй антысаветчыну і паказаць адпаведным установам, які ён пільны і надзейны, адданы. Свежы прыклад – данос "прафесара" А. Хацкевіча на складальнікаў і рэдактараў нашай кнігі "Мінск – горад-герой".

Божа, які жах!

Але ж і гэта яшчэ не ўсё! Сістэмка гэтая яшчэ ўмее круціцца і ў адваротным напрамку – падначаленыя і часова залежныя сочаць за добранадзейнасцю і руплівасцю сваіх шэфаў, дабрадзеяў, калег. Паміж калегамі падобныя адносіны існуюць і ўзаконены ў органах Галоўліту. Тут перыядычна далучаецца аднаму цэнзару праверыць выкананую "працу" іншым цэнзарам. І тут ужо трэба пастарацца, каб давесці, хто хлеб ясі не дарма. Рэдактары, што па складу і характару сваёй дзейнасці больш бы адпавядалі пасадзе цэнзара, не дазволяць свайму начальніку – галоўнаму рэдактару – зрабіць "крамольную" праўку ў тэксце, калі нават такая праўка з пункту гледжання навукі і логікі просіцца ў той тэкст. Яны тактоўна, а то і нахабна скажуць, што такі тэзіс (факт, прыклад і г.д.) супярэчыць лініі партыі (падрывае асновы, ідэалагічна шкодны і г.д.). Раз, другі скажуць, а пасля і данясуць.

Такія адносіны ў мяне складваюцца пакуль што з загадчыкам навуковай рэдакцыі народнай асветы, філасофіі, права і друку Дз.П. Радзюком і са старшым навуковым рэдактарам гэтай рэдакцыі З.П. Кузьмічэнка.

Прачытаў я неяк іх артыкул "Каталіцызм" для Кароткай БелСЭ. Вымушаны быў у пісьмовай форме пад тым жа артыкулам запытаць: "Ці выпадкова не пры былым двары расейскага цара, "ревнителя православия" і "гонителя иноверцев" пісаўся гэты артыкул? Апанент знайшоўся імгненна: Дз. Радзюк пад маім пытаннем адказаў: "Не трэба быць большым католікам, чым сам папа рымскі!" Гэта сігнал, што ён стаіць на варце палітыкі праваслаўя (далей – П.).

У другі раз названыя дзеячы ад друку паўсталі на дыбы, калі тое ж праваслаўе я зрабіў спробу абараніць. Вось як гэта было.

Да артыкула "Праваслаўе" я напісаў 30 снежня 1976 г. наступныя прапановы.

"Паколькі артыкул "Руская праваслаўная царква на Беларусі" не плануецца ў гэтае выданне (а можа, варта ўключыць?), артыкул "П." неабходна б дапрацаваць. Прыярытэт – беларускаму матэрыялу.

1. Ход распаўсюджання праваслаўя на Беларусі старажытнай.

2. Становішча П. на Беларусі часоў Вялікага Княства Літоўскага (адносіны з дзяржавай, колькасць япіскопій, епархій і інш., пад чыёй юрысдыкцыяй было і г.д.).

3. Таксама ў б. Заходняй Беларусі.

4. Спробы стварэння Аўтакефальнай Беларускай Праваслаўнай Царквы.

5. Што сабою ўяўляе цяпер П. у БССР і яго месца ў культуры Рускай Праваслаўнай Царквы.

6. Сказаць, што П. пашырана і сярод беларусаў, якія кампактна пражываюць у ПНР (яны адносяцца да Польскай Праваслаўнай Царквы).

7. Адносіны сучасных беларусаў да П.

8. Пералічыць усе аўтакефальныя праваслаўныя цэрквы свету, падкрэсліўшы, што ў СССР, апрача Рускай Праваслаўнай Царквы, маецца адна з старэйшых праваслаўных цэркваў – Грузінская".

Цяпер, праўда, рэдакцыя не папракнула мяне ў большай праваслаўнасці, чым сам Маскоўскі патрыярх, але ж яна напусціла на мяне аўтара. Паверх майго заключэння ў папцы з гэтым артыкулам апынуўся допіс аўтара, пазначаны 13-м чыслом. В.К. Манакаў, аўтар, піша (па-руску):

“Пазнаёміўшыся з заўвагамі да артыкула “Праваслаўе”, лічу, што яны правільныя. Аднак улік іх прывядзе да значнага павелічэння артыкула. Апрача гэтага, матэрыял па гісторыі станаўлення і развіцця праваслаўнай царквы на тэрыторыі Беларусі мае большае значэнне для рэлігійна-царкоўных мэт, чым для нашага атэістычнага выдання. З гэтай прычыны лічу немэтазгодным уключаць яго ў гэты артыкул.

Згодзен з рэцэнзентам у тым, што трэба назваць Грузінскую праваслаўную царкву, што дзейнічае ў нашай краіне побач з Рускай праваслаўнай царквою, а таксама ў тым, што трэба даць структуру сучаснай Праваслаўнай царквы”.

Неадкладна адказваю аўтару і рэдакцыі:

“Артыкулы Вялікай Савецкай Энцыклапедыі” (ёй тут усе кланяюцца) “Праваслаўная царква” і іншыя апублікаваны, думаю, не для “рэлігійна-царкоўных мэт”. Аднак там выразна выкладзена “гісторыя станаўлення і развіцця Рускай праваслаўнай царквы”. У нашым артыкуле трэба гэта зрабіць у дачыненні да Беларусі.

Не варта слова ў слова паўтараць БелСЭ. Перад ёю ставіліся зусім не тыя задачы, што перад гэтым выданнем. Вельмі прашу аўтара і рэдакцыю асвяжыць артыкул”.

Гэта я напісаў сёння. Можна было і перапалохацца ад партыйна-цэнзарскага выкрыку аўтара і неадкладна пагадзіцца з ім. На жаль, менавіта так часцей за ўсё і робіцца ў аналагічных сітуацыях у многіх выдавецтвах. Можна было і на яго прыкрыкнуць: “не падабаюцца нашы патрабаванні, нясіце свае творы ў іншыя выданні!” А што гэта дало б? Прытым тут блок аўтар-рэдакцыя. Паспрабую тактоўна, але ж настойліва і паслядоўна пазбаўляць ад палітыканства хоць тое, што будзе трапляць у мае рукі. Пакуль не ачухаецца цэнзура платная і добраахвотная!

*18 студзеня 1977 г.* Некалькі месяцаў таму ў рэдакцыю гісторыі СССР, КПСС і КПБ была прынята часова Вольга Баскова. 12 лютага настае яе “час” – вяртаецца з дэкрэтнага адпачынку тая, каго замяшчае Воля. Загадчыца рэдакцыі А. Марозава просіць знайсці магчымасць пакінуць яе ў Энцыклапедыі, даводзіць, што супрацоўнік з яе атрымаўся добры, падрыхтаваная добра, мае вышэйшую адукацыю гісторыка. Разам шукаем тую магчымасць і нічога не бачым: вакансій няма, не чутно, каб хто зноў збіраўся ў “дэкрэт”.

Я вырашыў параіцца з інспектарам па кадрах А.П. Калеснікавым. Раюся. Прашу, каб дапамог. Чую ў адказ: нічога няма і не трэба, М.Ф., шукаць: яна, здаецца, яўрэйка.

Я спакойна, хоць можна было б з’ездзіць па фізіяноміі, папытаў, якая перашкода яўрэйства, каб паступіць да нас на працу.

Ён мне ў адказ пераможна заявіў:

– Ёсць указанне не браць іх у навуковыя ўстановы.

Так, ён добра ведае гэтыя “ўказанні”. Працаваў жа ў КДБ і цяпер трымае цесную сувязь з гэтым усяведам.

І тым не менш я стаў працягваць пошукі, толькі ўжо без кадэбіста. Высветлілася, што П.У. даў ст. навуковаму рэдактару Капралавай (з гэтай жа рэдакцыі) 25-дзённы адпачынак за свой кошт. Узрадаваныя, пайшлі да І.Д.[25] с мэтай схіліць яго, каб залічыць на гэты час Волю. Ён сказаў, што гэта немагчыма, бо П.У. ужо яе заяву падпісаў. Адклікаю гэтую заяву ад таго ж Калеснікава, які быў павінны афарміць загад. І.Д.: “Вось, бачыце, рэзалюцыя П.У.” Я: “П.У. дазволіў у прынцыпе, без указання тэрміну, і хай напіша новую заяву, з просьбай памяняць (у сувязі, скажам, з сямейнымі абставінамі) раней названы ёю тэрмін. І столькі той справы, Воля напіша сваю заяву на прыём яе, а праз месяц, можа, адкрыецца якая-небудзь вакансія”.

Першую стадыю зрабілі: прынялі другую заяву Н. Капралавай і афармілі дазвол. Перададзена гэта таму ж Калеснікаву. Што ён скажа заўтра?

Трэба дапамагчы дзяўчыне. Дзе яна знойдзе працу па сваёй спецыяльнасці? Яна, бедная, гатова заставацца ў нас на любой працы, нават далёка не рэдактарскай, толькі б была ў яе праца.

Думаю, колькі ў СССР беспрацоўных выпускнікоў вышэйшых навучальных устаноў! Шкада толькі, што іх ніхто не ўлічвае, што няма спецыяльных устаноў (бірж), якія б аказвалі ім дапамогу ва ўладкаванні на працу. Сістэма ўтойвання беспрацоўя – не на карысць гэтым беспрацоўным.

*19 студзеня 1977 г.* Рэдакцыя Дз.П. Радзюка здала некалькі вялікіх артыкулаў у Кароткую БелСЭ. Сярод іх "Піянерская арганізацыя БССР" і "БССР на міжнароднай арэне".

Першая – не энцыклапедычных памераў, нейкая балбатня. Роля дзяцей-піянераў узнята на такую вышыню, на якую хіба што ўзнімаюць... КПСС. Як толькі і жыць можна без піянераў. Яны не толькі забяспечваюць рэспубліку мноствам трактароў і іншых машын, што выраблены з сабранага імі металалому, яны яшчэ і "пасадзілі тысячы паркаў, садоў", адкрылі 5 тысяч музеяў і залаў баявой славы", "з'яўляюцца актыўнымі памочнікамі камуністаў і камсамольцаў у будаўніцтве камунізму" – і г.д.

Зусім безадказна і прымітыўна напісаны другі артыкул.

У раздзеле, што "абгрунтоўвае" міжнародны суверэнітэт БССР, найважнейшымі з'яўляюцца такія аргументы:

1. Дэлегаты БССР удзельнічаюць у перагаворах СССР з другімі краінамі, калі там вырашаюцца важныя пытанні, якія датычаць БССР.

2. Прадстаўнікі БССР у розных інстанцыях СССР "актыўна ўдзельнічаюць у абмеркаванні і вырашэнні ўсіх праблем агульнасаюзнай знешняй палітыкі".

3. Разам з дэлегацыямі СССР, УССР і сацыялістычных краін дэлегацыя БССР на сесіях ААН актыўна змагаецца за... (пералічаны напрамкі дзейнасці ААН, шэраг яе рашэнняў).

На палях артыкула я напісаў:

1. Удзел у перагаворах СССР з іншымі краінамі – не сведчыць аб сувярэннасці БССР.

2. Удзел дэпутатаў ад БССР у рабоце Вярхоўнага Савета СССР не вызначае суверэннасці рэспублікі. Аляска, напрыклад, не суверэнна ад таго, што яе прадстаўнікі актыўнічаюць у Кангрэсе ЗША. Нацыянальныя вобласці і акругі СССР таксама маюць сваіх дэпутатаў у Вярхоўным Савеце СССР. Можа, і яны суверэнны?

3. "Атрымліваецца ўражанне, што толькі дзякуючы СССР, УССР, БССР і сац. краінам прымаюцца добрыя рашэнні ААН. Галасоў гэтых дэлегацый надта мала, каб прыняць рэзалюцыю без дапамогі іншых дэлегацый.

Прашу пераглядзець усе аналагічныя фармуліроўкі і больш клапаціцца пра БелСЭ як прыстойнае навуковае выданне".

Данясе?

Недзе а палове 10-й раніцы ўручылі мне тэлеграму. Як на ёй пазначана: "вышэйшую ўрадавую", М.В. Падгорнага[26], П.У. Броўку, які запрашаецца на 16 гадзін 24 студзеня на пасяджэнне камісіі па замежных справах Вярхоўнага Савета СССР.

Паедзе і, як думае Дз. Радзюк, будзе мацаваць суверэнітэт Беларусі.

*20 студзеня 1977 г.*

П.У. прачытаў 2-гі выпуск макета Кароткай БелСЭ.

Вось яго заўвагі:

“Адбіць 5 знішчальнікаў” – дрэнна. Мо, “збіць”?

Чаму: “Поболь”? Трэба: “Побаль”.

(Тлумачым, што гэта даецца бібліяграфія яго твора на рускай мове).

Літару “а” трэба.

Лішняе “г”.

Адвентысты. Ці трэба даваць іх праграму? Каб не было тут у нас агітацый “за”.

“Слой” – дрэннае слова. Пашукайце.

“Свабодны ад...” – замяніце на “Вольны”.

Не прыпісвайце С. Полацкага толькі беларусам, а то абвінавацяць нас у нацыяналізме.

Занадта добра распісалі музычную адукацыю – спакайней.

Памылка друку: 1912, а не 1812.

“Тат. конніца” – даць “Татарская конніца”. Лішняе “і”.

“Гісторыя сусветнай цывілізацыі не ведае такога знішчэння”. Выкінуць слова “цывілізацыя”. Хіба цывілізацыі наогул уласцівы знішчэнні?

“Паны рада” – што гэта такое.

“Антытрынітарыі” – не трэба так распісваць. Больш глуха даць.

“Алоў – нам. палітаддзела – трэба “нам. начальніка”.

“Асветніцтва – арганізацыйна звязана з польскай і рускай культурай” – пішыце: “...з рускай і польскай”.

“Адкрыты паселішчы”. Можа, “адрыты”?

“Аўтарскае права” – ёсць, здаецца, навейшае.

“Літ. харунжага” – даць: “літоўскага”.

“Вывелі да партызан” нямецкага афіцэра – знайсці іншае слова замест “вывелі”.

“Ген. Бацюня”. Якое мае дачыненне да Беларусі.

“15-18 кастрычніка ў Боўкінскім лесе...” – які год? А, не заўважыў: тут ёсць.

Адбылося пасяджэнне Прэзідыума праўлення добрахвотнага таварыства кнігалюбаў БССР.

Цяжкасці з “выбіваннем” членскіх узносаў. Нехта з штатных спаслаўся на вопыт Кіргізіі. Там у раёнах бухгалтарамі Таварыства з’яўляюцца касіры райкомаў партыі. У сакратароў пярвічных партарганізацый яны не прымаюць узносы партыйныя, пакуль не здадуць і ўзносы ў гэтае Таварыства.

Скарга на пісьменнікаў Беларусі, што за кароценькае – з гадзіну – выступленне ў калгасе, на заводзе, бяруць па 21 рублю (на Украіне – бясплатна).

Надта напружаны план у абласцях на 1977 год. У Літоўскай ССР меншы на ўсю рэспубліку, чым у нас на вобласці.

М.І. Дзялец: больш увагі павелічэнню чытачоў у бібліятэках.

Прадстаўніка Белсаўпрофа: між іншым у 1976 г. толькі па прафсаюзных бібліятэках Мінскай вобласці паменшылася чытачоў на 5 тысяч чалавек, а па Гродзенскай вобласці – на 6 тысяч. Гэта ўсесаюзная тэндэнцыя.

Прабралі І.І. Уласава за яго пратэст у ЦК КПСС з прычыны павышэння цэн на кнігі. Сказалі, што пісаць кожны мае права пра сваю асабістую думку. А Уласаў падпісаўся як намеснік старшыні рэспубліканскага праўлення гэтага таварыства (ён – пазаштатны намеснік).

Да паразумення не дайшлі.

Крэмль збірае плён сваёй дэмагогіі. На працягу дзясяткаў год мільёны Уласавых паверылі ў нейкія “заваёвы Кастрычніка”. Аказалася, што гэтыя “заваёвы” – штучныя. Жыццё патрабуе лічыцца з эканамічнымі законамі, а партыя іх “падпраўляе” ў дэмагагічных мэтах: “Глядзіце, глядзіце, як скачуць цэны ў краінах капіталу. Толькі сацыялізм забяспечвае стабільнасць”. Так верашчаць штодня савецкія газеты, радыё, лектары, “аглядальнікі” замежнага жыцця. А калі

ж узнікае сапраўдная неабходнасць у змене цэн у бок, як правіла, павышэння, тады гэта ўжо робіцца без голасу, сарамліва і ў большасці выпадкаў сакрэтна пад выглядам "змены" стандартаў.

Уласаў прыкладна так і папракаў ЦК КПСС, што адступілі ад важнай заваёвы Кастрычніка – самай таннай кнігі. Не-не. Даражэнькі! Я табе на гэтым жа пасяджэнні сказаў як выдавец, што ніколі ў СССР самай таннай кніга не была. Яна вельмі дорага каштуе грамадству. А яе намінал – гэта палітыка, сказаў і яшчэ больш: "арганізаваўшы" выдавецкую справу, Ленін выдаў дэкрэт, каб кнігі распаўсюджваліся бясплатна! Мо і гэта была "заваёва" Кастрычніка? Дык яе ўжо адкінулі даўно, і ніхто не хоча цяпер успамінаць пра тое.

Кніжныя аматары Уласава – агітатары і "інфарматары" – абураны, шакіраваны, збянтэжаны.

Куды прасцей усім ім жылося б, каб проста была палітыка Крамля больш сумленнай, каб гэты Крэмль не гуляў са "сваім" народам у хованкі.

*24 студзеня 1977 г.* 5 снежня мінулага года, у Дзень Савецкай Канстытуцыі – вядома, "самай дэмакратычнай", у Маскве ля помніка А.С. Пушкіну адзінаццаты раз адбылася дэманстрацыя суцешаных гэтай Канстытуцыяй. Звычайна гэта дэманстрацыя была маўклівай. Апошняя – загаварыла. Прамову збіраўся сказаць акадэмік Сахараў. Аднак быў блакіраваны пераапранутай у цывільнае, пад дэманстрантаў, міліцыяй і кадэбістамі. Гэтыя з-пад увагі выпусцілі генерала Грыгарэнку, які ўдала выкарыстаў міліцэйскі вакуум вакол сябе і выступіў з гнеўнай прамовай аб парушэннях канстытуцыйных правоў савецкіх грамадзян (генерал Грыгарэнка – барацьбіт за правы крымскіх татараў).

Нядаўна стаў вядомы чарговы індэкс забароненых літаратурных твораў. Сярод іх зноў называюцца творы Віктара Някрасава, Анатоля Гладзіліна і нашага Хаіма Мальцінскага, а таксама ўкраінскага пісьменніка-фантаста, малдаўскага пісьменніка, аднаго рускага кампазітара і інш.

Характэрна, як "упісана" ў гэты індэкс кніга В. Някрасава "У акопах Сталінграда":

"В. Некрасов. В окопах Сталинграда. – Все издания. На всех языках".

Індэкс выдадзены ў форме загаду начальніка Галоўліта СССР ад ... жніўня 1976 г.

Савецкая Канстытуцыя – у дзеянні!

*27 студзеня 1977 г.* Сёння ў якасці далейшага развіцця савецкай бюракратыі і сацыялістычнай законнасці ў газеце "Известия" надрукавана афіцыйная інфармацыя ТАСС пад назвай "Клеветник предупрежден". Яна заслугоўвае поўнага ўзнаўлення:

"Паклёпнік папярэджаны.

25 студзеня ў Пракуратуру СССР быў выкліканы А. Дз. Сахараў. Намеснік Генеральнага пракурора СССР дзяржаўны саветнік юстыцыі 1-га класа С.І. Гусеў папярэдзіў яго аб тым, што зробленыя ім правакацыйныя заявы змяшчаюць загадзя ілжывыя паклёпніцкія выдумкі, якія ганьбяць савецкі дзяржаўны і грамадскі лад. Сахараву абвешчана пра недапушчальнасць такога роду паклёпніцкай дзейнасці надалей. У выпадку ігнаравання ім гэтага папярэджання ён будзе прыцягнуты да адказнасці ў адпаведнасці з дзеючым у краіне заканадаўствам. (Кар. ТАСС)".

Вельмі цікавы дакумент! Значыцца, у Крамлі ўжо не пад сілу стала сядзець на тым вуголлі, што не-не і падкідае акадэмік Андрэй Сахараў. Сахараўскія словы ў абарону правоў чалавека сталі пякучым вуголлем для тых, каму не на карысць гэтыя правы.

Усе сумленныя людзі расцэняць гэтую інфармацыю як брудны паклёп на

вялікага Грамадзяніна, як пагрозу дашчэнту знішчыць свабодалюбівыя імкненні народаў.

Гэты дакумент пераканаўча выкрывае сутнасць г. зв. савецкай дэмакратыі, якая дазваляе за іншадумства прыцягнуць чалавека "да адказнасці ў адпаведнасці з дзеючым у краіне заканадаўствам".

Характар дзейнасці акадэміка Сахарава ўсім добра вядомы. У нармальнай дэмакратычнай краіне гэта лічылася б дзейнасцю ў рамках існуючага заканадаўства, у СССР – гэта антызаконная дзейнасць. Законнай лічыцца толькі тое, што адпавядае партыйным лозунгам.

Тон паведамлення – савецка-хамскі, абразлівы. Калі на добры лад, дык за сапраўдны крамлёўскі ярлык "паклёпнік" можна было б падаць у суд. Гэта так абразіць акадэміка, тройчы Героя Сацыялістычнай Працы, лаўрэата Нобелеўскай прэміі! Але ж у СССР няма такіх судоў, якія прынялі б да разгляду скаргу акадэміка Сахарава. І, вядома, ён не звернецца ў суд.

*31 студзеня 1977 г.* Хварэю. І тым не менш спатрэбіўся. На кватэру пазваніў В. Каленчыц[27]. У паніцы паведаміў, што П.М.[28] (так і сказаў: Пээм) не задаволены тым самым гаротным "Мінскам". Быццам бы не задаволены і артыкулам пра яго, і здымкамі, на якіх ён прысутнічае і г.д.

В.К.: Ніяк не ўцямім мы тут, як гэта такая кніга выслізнула з-пад нашай ўвагі. Вы што, нікому не паказвалі папярэднія матэрыялы? Унізе ж усім работнікам органаў друку вядомы парадак – усё, што датычыцца Яго, паказваць абавязкова Яму праз нас. Чаму абышлі?

Я: Мне цяжка цяпер дакладна сказаць. Але ж упэўнены, што ў гэты даведнік перадрукавалі артыкул пра яго з БелСЭ. А там ён некалькі разоў сам глядзеў. Новым магло толькі аказацца новыя ўзнагароды, новыя выступленні.

В.К.: Работа над кнігай распачыналася пры табе, ці яшчэ да твайго прыходу туды?

Я: Да майго прыходу была створана група рэдактараў-складальнікаў, быў падрыхтаваны і надрукаваны на рататары слоўнік выдання, сёе-тое яшчэ рабілася. Але ж, вядома, уся амаль работа была выканана пры мне. Нават была група складальнікаў рэарганізавана нанава пры мне.

В.К.: Чаму макеты кнігі ніхто тут не чытаў?

Я: Не ведаю. Згодна з устаноўленым парадкам яны вам вазіліся ўсе. Для гэтай мэты ў нас ёсць спецыяльны супрацоўнік.

В.К.: Хто?

Я: Мікалай Іванавіч Макаранка, дзядзька загадчыка аддзела культуры ЦК КПБ.

В.К.: Трэба забараніць прадаваць кнігу. Не, нават не прадаваць, а выпускаць.

Я: В.К., ці ж вы не ведаеце, што яна выйшла?

В.К.: Вы ж казалі, што толькі 50 тысяч выйшла!

Я: Правільна, гэта да Новага году 43 тысячы экземпляраў вывезлі ў кнігагандлёвую сетку. Надрукаваны ж увесь тыраж. Астатняя частка яго была толькі не пераплецена. Думаю, што дагэтуль ужо і яна гатова.

В.К: Не знаю, не знаю! Шум вялікі...

На гэтым размова спынілася, але ж "справа" закруцілася. Я пазваніў І. Хаўратовічу, ён – Пятрусю Броўку і Людміле Севасцянчык у ЦК.

П.Б. сказаў, што заўтра ж з раніцы пойдзе да Пээма, Людміла сказала, што "ніякага шуму "наверсе" няма, гэта ўсё шум тут, у мяне пад бокам" (маецца на ўвазе С.Я. – яго кабінет насупраць яе праз калідор).

Недзе а сёмай гадзіне вечара пазваніў мне зноў В.К. Папрасіў "не варушыць гэтую справу і ні ў якім разе не званіць Броўку. Вырашана тут у нас патушыць агонь. Так што, калі ты каму пазваніў – давай тэрмінова адбой". Даведаўся яшчэ,

ці званіў я Броўку. Я сказаў праўду – не званіў (хоць і ведаў ужо, што яму званіў І.П. – Сам жа П.У. пасля размовы з І.П. пазваніў мне, сёе-тое ўдакладняў).

Я паступіў згодна з парадай – "даў адбой І.П.".

Вось так!..

*1 лютага 1977 г.* Нарэшце прачытаў выдатную баладу ў прозе Артура Лундквіста "Жыццё і смерць вольнага стралка". Твор выдадзены маскоўскім выдавецтвам "Прогресс" у 1972 годзе. Тыраж кнігі невядомы: "Прогресс" часцей за ўсё засакрэчвае тыражы сваіх выданняў, нават пасля далучэння да Жэнеўскай канвенцыі (!); такая практыка дазваляе праводзіць валюнтарызаваную ганарарную палітыку ("сколько хочу, столько заплачу").

Раман А. Лундквіста перакладзены на рускую мову Л. Горлінай са стакгольмскага выдання 1968 года (*Artur Lundkvist. Snapphanens liv och död. En prosaballad*); невялічкай прадмовай яго забяспечыў А. Кан.

Шведскі народ мае выдатную літаратуру. На жаль, яна недастаткова вядома савецкаму чытачу. Можна толькі здзіўляцца, як не пашанцавала гэтай цудоўнай літаратуры "ў краіне, дзе выдаецца кожная 4-я кніга свету" (згодна з набіўшым аскоміну тэзісам савецкай прапаганды). Дарэвалюцыйная выдавецкая практыка цяпер, вядома, усяляк бэсціцца, лічыцца роўнай нулю. Пaглядзім больш уважліва на той "нуль" і гэты "гігант".

Оляф Петры – заснавальнік шведскай літаратурнай мовы, выдатны дзеяч Рэфармацыі. Ні яго "Камедыя пра Товію", ні "Шведская хроніка", ці які-небудзь іншы твор у СССР не перакладаліся і не выдаваліся. І пра яго таксама ніякай літаратуры няма.

Юхан Аўгуст Стрындберг – той, хто ў пачатку 20 стагоддзя быў уладаром дум еўрапейскай інтэлігенцыі, у тым ліку і рускіх пісьменнікаў. Да рэвалюцыі (1908 – 1911 гг.) у Маскве ў перакладзе на рускую мову быў выдадзены Поўны збор яго твораў у 12-ці тамах. За 60 гадоў пасля рэвалюцыі – нуль.

Сельма Лагерлёф – славутая пісьменніца, член Шведскай акадэміі, лаўрэат Нобелеўскай прэміі. Да рэвалюцыі, у 1909 – 1911 гг., у перакладзе на рускую мову быў выдадзены Поўны збор яе твораў у 21-м томе. Пасля рэвалюцыі – усяго толькі дзве кнігі і некалькі навел у зборніку "Шведская новелла XIX – XX вв.".

Пер Фабіян Лагерквіст – член Шведскай акадэміі, лаўрэат Нобелеўскай прэміі. Удастоены быў таксама толькі ўключэннем некалькіх навел у названы вышэй зборнік і асобным выданнем у 1972 кнігі яго аповесцяў і апавяданняў (з дарэвалюцыйным часам тут параўнанне не да месца таму, што тады ён толькі-толькі пачынаў пісаць). Крытычнай літаратуры пра яго творчасць зусім няма на рускай мове.

Куды горшыя справы з выданнем твораў іншых майстроў шведскай літаратуры.

Як бачым, параўнанне не на карысць савецкаму "феномену". "Гіганта" і "пігмея" тут проста трэба памяняць месцамі (і ў гэтым выпадку ўжо без двукосся).

Справа ў тым, што амаль уся сапраўдная літаратура з'яўляецца выбуховай, небяспечнай для савецкай ідэалогіі, таму і вельмі старанна тут яе хаваюць ад чытача (наколькі гэта магчыма ў перыяд т.зв. разрадкі). Небяспека літаратуры крыецца ўсюды – у аўтарскай канцэпцыі, у спосабе яго мыслення, у адносінах яго герояў да свету, нават у самой тэме. Гэта датычыцца ўсякай, у тым ліку савецкай літаратуры. Апошнюю можна бясконцай цэнзурай давесці да патрэбнай кандыцыі. А што ж рабіць з той, замежнай, некамуністычнай і непрасавецкай? Прасцей за ўсё не спяшацца з яе перакладамі і выданнем. Так яно і робіцца! Асабліва ў саюзных рэспубліках. Як, напрыклад, на Беларусі. Гэтым проста раяць: "Хопіць з вас сваёй нацыянальнай літаратуры і вялікай літаратуры вялікага рускага народа. Застаюцца выдавецка-паліграфічныя магутнасці і папера? Папулярызуйце дасягненні савецкай шматнацыянальнай літаратуры". Раней літаральна так і раіла Масква. А ў апошні

час да гэтага яшчэ дадаецца: “Не забывайце, што цяпер ужо даводзіцца за выданне замежных аўтараў плаціць. Наяўныя ж у краіне сродкі патрабуюцца на выкананне велічных задач бягучай пяцігодкі”. Вось і ўся любоў, як кажа адзін мой добры знаёмы.

Ад пісьменнікаў і іншых мастакоў патрабуецца, каб яны былі вернымі памагатымі партыі. Гэта азначае, што няма чаго калупацца ў мінуўшчыне, а трэба “ісці ўпоруч з гераічным савецкім часам”. Гэта прывяло да таго, што, фармальна кажучы, скажам, у літаратуры, захоўваюцца, нават, як кажуць у розных дакладах, “удасканальваюцца”. Але ж гэтае “удасканальванне” прывяло да чотка акрэсленай тэндэнцыі дэфармацыі ўсіх жанраў і вылузванню з іх аднаго-адзінага “жанру” – “прасавецкай публіцыстыкі”. Розніца паміж імі толькі проза – верш – памер. Праўда, гэтай пануючай тэндэнцыі супрацьдзейнічаюць здаровыя сілы мастацтва. Але ж, на жаль, перамагаюць, як правіла, не яны.

Тэмы для творчасці? Калі ласка: “Героіка будаўніцтва камунізма”, “Мары пра светлую камуністычную будучыню”, “Шаленства ідэолагаў аптымалізма і іх немінучая пагібель”.

*14 лютага 1977 г.* У В. Каленчыца. Расказаў пра рэакцыю П.М. на кн. “Мінск”: вярнуўся з ГДР. На стале “Мн”. Выклікаў Паўлава і Петрашкевіча. Учыніў скандал: “Гэта што? Ужо сталі папулярызаваць мяне праз даведнікі!” Вырваў аркуш з артыкулам пра яго. Загадаў кнігу пусціць пад нож. Апошні сказаў, што гэтым самым “зарэжам П.У.”. Пээм імгненна ацверазеў, сказаў, што вельмі правільная заўвага. “А што ж рабіць з кнігай?” С.Я., не падымаючы галавы, вымавіў ціхенька: “Не заўважыць”. Пээм згадзіўся. Тут жа пазваніў Ап-чу і загадаў даць адбой усяму, пра што дамаўляліся (кнігу знішчыць, правесці партыйнае расследаванне).

*15 лютага 1977 г.* Прагляд афармлення аднатомніка “БССР” у М.І. Дзяльца. Прысутнічалі, апрача нас з С.П. Русаком і І.М. Пратасенем, А.Ф. Барушка, М.І. Ганчароў і не ўвесь час У.М. Міцко, М.Ф. Шчацінін.

Меркавалася нашымі мастакамі (раней) на 1-ай стар. вокладкі паўтарыць эмблему БелСЭ (паменшана). Поўная назва выдання тут давацца не будзе. Яна будзе на карэньчыку пераплёта знізу ўверх у 2 радкі. У верхняй частцы карэньчыка стылізаваны флаг БССР і некалькі элементаў нацыянальнага арнаменту. Тытул – разгорнуты на дзве старонкі: на левай назва і астатні тэкст даюцца на бел. мове, на правай (асноўнай) усё гэта паўтараецца на рускай таму, што кніга выдаецца на гэтай мове! Упоравень з назвай, злева ад яе, – арнаментальны квадрацік-кветка! Колер пераплёту – блакітны.

У апошні час мастакі адступілі ад ідэі з эмблемай. П.У. запратэставаў, сказаўшы, што альбо яе, альбо герб БССР: больш нішто не параўняецца з ёю.

Дыскусія па гэтаму пытанню была: на праглядзе, але ж пакінута эмблема. Прытым паразумеліся, каб яе даць: памерам БелСЭ-саўскім (мастакі прапанавалі палепшыць). М.І. прапанаваў замест аднаго квадрата-кветкі даць меншых 3-4 “стоўбікам” па вышыні назвы, элементы флага па карэньчыку замяніць флагам, а ўвогуле – так, як выдавецтва “Аўрора” давала па кнігах, прысвечаных мастацтву саюзных рэспублік.

Пасля гэтага М.І. папрасіў мяне застацца з ім tet-a-tet. Паведаміў па сакрэту, што “там” ёсць рашэнне вызваліцца ад нашага І.Д., папрасіў падумаць і падказаць яму кандыдатуту для прапановы “туды”.

У прыёмнай перахапіў мяне А.Ф. Барушка[29], завёў да сябе і папрасіў не пярэчыць пераходу У. Якуніна ў выдавецтва “Полымя” на пасаду загадчыка рэдакцыі мастацкага афармлення. Я сказаў, што пра гэта перш за ўсё трэба папытаць яго самога, прытым толькі што забралі туды ж на загадчыка рэдакцыі тэхнічнага афармлення Н. Сцяпанаву (заўтра приступае ўжо там да працы).

*16 лютага 1977 г.* Званіў Г.М. Конанаў[30]. Унёс прапанову зняць усе арт. пра карныя аперацыі немцаў падчас вайны на тэр. БССР. Такая думка і С.Я., – сказаў ён.

Распытваў падрабязна пра статус І.Д. у БелСЭ (абавязкі, аклад і г.д.)

*18 лютага 1987 г.* Званіў Каленчыц. Прасіў заўтра зайсці да С.Я. і забраць ліст палкоўніка ў запасе Румянцава – сына гаспадара доміка І З'езду РСДРП.

Таксама распытваў пра І.Д., праўда больш празрыста, улічваючы нашы адносіны.

Вядома, расказаў І.П. Калі ўдасца, можа, прыдумаем разам кандыдата на І.Д. месца. Нам жа з ім працаваць, а не тым, хто зацвярджае.

*18 лютага 1977 г.* Ездзіў да С.Я., пераканаўшыся папярэдне, што ён на месцы. Але ж, аказалася, што яго паклікалі наверх ("сам") для адпрацоўкі даклада на 2 сакавіка.

Даведаўся пра надзвычай цікавую рэч: у гэтых сценах ідзе бурна самавылучэнне на пасаду І.Д. Г.М. прама вылучыў сябе... С.Я. кажа: "А мо падумайце, тут жа вам лягчэй будзе абараніць дысертацыю". Г.М.: "Я падумаў. Нічога. Абаранюся і там".

В.К. сказаў, што і ён пайшоў бы туды (да нас). Пакрытыкаваў Г.М.

Вельмі, вельмі цікава, смешна і праціўна.

*4 сакавіка 1977 г.* Сёння 50-годдзе з дня майго нараджэння. Падрыхтаваў варыянт свайго выступлення на выпадак калектыўнага віншавання мяне з гэтым юбілеем.

*4 сакавіка 1977 г.*

Глыбокапаважаны П.У.!

Дарагія сябры і калегі!

Шмат добрага пра мяне сказалі Вы тут, за што я ўсім Вам шчыра ўдзячны. Аднак я разумею, што разам з каштоўнымі для мяне ўрадавай узнагародай і словамі цёплых віншаванняў мне адначасова выдаецца і доўгі вексель, які з цягам часу мушу яшчэ аплаціць. Працую ж я з Вамі не настолькі многа, каб паспець паверыць у сваю дасканаласць.

Я прыйшоў у БелСЭ толькі з інтуітыўным адчуваннем энцыклапедыі і з некаторым выдавецкім вопытам, які, дарэчы, не заўсёды і не ўвесь можна дапасаваць да нашай справы.

З былога свайго вопыту я перш за ўсё прынёс да Вас сваё жыццёвае перакананне ў найвялікшай, ні з чым не параўнальнай каштоўнасці Чалавека, у недапушчальнасці ў сваім сэрцы дэфіцыту чалавечнасці. Адсюль вынікае і другое маё перакананне, што і найвялікшую справу можна і трэба рабіць горача, але ж без кровапраліцця, энергічна, зацікаўлена, але ж без мітусні (я ўжо, здаецца, збіваюся на агітацыю за дзелавы рытм у працы).

Скажу, што ў жыцці мне вельмі пашанцавала тым, што трапляю толькі ў выдатныя калектывы, у якія заўсёды ішоў з адкрытым сэрцам. Калектыў БелСЭ стаў для мяне адным з самых любімых.

Я шчыра ўдзячны ўсім Вам за цеснае супрацоўніцтва са мной, за тое, што прыйшлі сюды з сваімі дарагімі мне віншаваннямі, з сваёй добразычлівасцю.

Вялікі дзякуй!

*25 сакавіка 1977 г.* Учора ў БДТ[31] імя Я. Купалы адбыўся "прыём" спектакля па п'есе Ю. Шабана "Шрамы". Спрэчкі шлі 4 гадзіны. Тэматыка вострая – падлеткі са схільнасцю да злачынстваў. З ЦК КПБ нікога не было. Ю. Міхневіч[32] аказаўся ў цяжкім становішчы: нядаўна забараніў "Удовін дом" ("як твор, што скажае

савецкую рэчаіснасць”), цяпер трэба б і гэту “зарэзаць”. Але ж што скажуць людзі? Дазволіў пры ўмове, што сёе-тое будзе прыгладжана.

Учора ж быў “Дзень рэдактара”. А. Гурыновіч[33] не прыехаў (паабяцаў у красавіку). Выступалі выдаўцы, што наведалі замежныя выдавецтвы і паліграфічныя прадпрыемствы.

*5 мая 1977 г.* П.У. Броўка: “М. Лужанін напярэдадні кінуўся ў актыўнасць, ды не абы якую, а ўсебаковую. Марыць нешта атрымаць. Але ж не атрымае. Думае, забыліся людзі пра яго выступленне ў 20-я гады: “Мы не будзем радасці вітаць, што чужымі зроблена рукамі”. Жах! Падумаць толькі – на-род-ны (Р.В. падказаў: у кнізе “Крокі” гэта ён так пісаў).

Дзяржпрэмію патрабаваў, але ж члены камітэта паступілі разумна, што адхілілі. Цяпер нешта напісаў у Інстытут Навуменкі, во, запрашае нават мяне разбірацца заўтра. Не пайду.

*25 мая 1977 г.* Усе сродкі інфармацыі перадаюць афіцыйныя паведамленні пра ўчарашні Пленум ЦК КПСС і пра... “бязмежную радасць усіх савецкіх людзей” з гэтай нагоды.

На Пленуме генсек Л. Брэжнеў далажыў аб праекце новай Канстытуцыі СССР, які будзе неўзабаве вынесены на “ўсенароднае абмеркаванне”. Што ж, краіне сапраўды патрэбна прыстойная Канстытуцыя, з больш шырокімі правамі і гарантыямі іх. Але ж тое, што акрамя канстытуцыйнай гульні, адбылося на Пленуме, лішні раз засведчыла непахіснасць антыдэмакратычных падмуркаў савецкага ладу. Найвышэйшы паводле Канстытуцыі дзеяч дзяржавы, яе Прэзідэнт, быў выгнаны са складу Палітбюро ЦК КПСС. Афіцыйныя каментарыі прычын не падаюць. Гэта акурат у стылі савецкай “дэмакратыі”: усё, што робіцца ў Крамлі, народ павінен акцэнтаваць на павер, без слоў і разважанняў.

Выгнанне Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М.В. Падгорнага з партыйнага капітанскага масціка азначае, што ён будзе выкінуты і з Прэзідэнцкага крэсла. Каму яно рыхтуецца, здагадацца няцяжка: “вернаму ленінцу” Л.І. Брэжневу. Ён таксама смела сядзе ў гэтае крэсла, як і смела і беспакарана абвешваецца геройскімі зоркамі і маршальскімі пагонамі. Безумоўна, захавае за сабой і жэзл генсека, інакш гульня не варта свечак. Думаю, гэтая камедыя будзе разыграна на чарговай сесіі Вярхоўнага Савета СССР 16 чэрвеня. Вядома, з інсцэніроўкай заявы М.В. Падгорнага пра выхад на пенсію, як гэта было з М.С. Хрушчовым.

Новая Канстытуцыя нараджаецца далёка неканстытуцыйнымі метадамі. Іншага ад саўпартдэмакратыі чакаць нельга. Гарбатага магіла выправіць!

*4 чэрвеня 1977 г.* Сёння ў друку апублікаваны праект новай Канстытуцыі СССР. Першае, беглае, азнаямленне з ім асаблівага энтузіязму не выклікае: паўтор сталінскай Канстытуцыі 1937 года, толькі больш шматслоўны, з крыху абноўленай тэрміналогіяй.

Артыкул 6 Праекта і надалей пакідае ў моцы дыктат партыі над народам, над дзяржаўнымі, урадавымі, прафсаюзнымі, вытворчымі і іншымі грамадскімі арганізацыямі. Канстытуцыя застаецца падначаленай партыйнаму свавольству!

Артыкул 28 заканчваецца канстатацыяй, што “ў СССР прапаганда вайны забаронена законам”. А што, як не прапаганду вайны, азначае хадзячы тэзіс “СССР павінен быць гатовы ў любы час нанесці апераджальны (“упреждающий”) удар”? А што, як не распальванне ваеннай істэрыі, азначае няспыннае і назойлівае расхвальванне ваеннай моцы СССР і бударажанне эпізодаў “нямецкай жорсткасці” і “савецкай мужнасці” ў гады 2-й Сусветнай вайны? Менавіта вакол гэтага круціцца вось ужо 37 гадоў увесь прапагандысцкі патэнцыял КПСС.

Звяртае на сябе ўвагу глава 7 Праекта – “Асноўныя правы, свабоды і абавязкі грамадзян СССР”. У Канстытуцыі гэта была гл. IX і ахоплівала 12 артыкулаў з пералікам правоў і 4 з пералікам абавязкаў. У новым дакуменце тут 30 глаў, з іх 20 пра правы і 10 пра абавязкі, альбо павелічэнне правоў на 67 і абавязкаў на 150 працэнтаў.

З улікам міжнароднай кампаніі за захаванне правоў чалавека ў СССР гэты раздзел старанна адрэдагаваны і расшыраны. Напр., 128 арт. Канстытуцыі 1937 г. пра тайну перапіскі дапоўнены (арт. 56) абяцаннем захавання тайны “тэлефонных размоў і тэлеграфных паведамленняў”. Цяжка ў гэта паверыць, улічваючы вытанчаныя метады дзейнасці органаў КДБ. Але ж, як кажуць, дай бог чутае бачыць! Унесены два артыкулы (57 і 58), якія патрабуюць ад службоўцаў “паважаць асобу, ахоўваць правы і абавязкі савецкага чалавека” і даюць права грамадзянам скардзіцца ў суд на незаконныя дзеянні службовых асоб і нават права на пакрыццё страт, нанесеных такімі дзеяннямі. Мы тут бачым, што свавольства чыноўнікаў дайшло да такой ступені, што адлюстроўваецца аж у Асноўным Законе. Пахвальнае прызнанне! Каб толькі карысць народу была з яго!

Ёсць новыя запісы, якія замацоўваюць ужо дасягнутае, напр., права на ахову здароўя. Гэта сапраўды вартая павагі заваёва савецкага грамадства як, зрэшты, і права на адукацыю (за выключэннем права “навучання ў школе на роднай мове”.

Такой магчымасці дзеці беларускіх гарадоў не маюць. Што ж датычыцца вышэйшай адукацыі на роднай мове, то такое права нават і не дэкларуецца Праектам).

Нямала бачым “новых” такіх “правоў”, якія ўпісаны ў Праект абы б ён быў больш паважным у гэтай частцы. Пустапарожнімі з’яўляюцца, напр., запіс пра “Свабоду навуковай, тэхнічнай і мастацкай творчасці”. Пры наяўнасці жорсткай цэнзуры ніякая свабода немагчыма. Праўда, аўтары Праекта красамоўна тут і абмежавалі гэтую “свабоду”. Яна гарантуецца, чытаем мы, толькі “ў адпаведнасці з мэтамі камуністычнага будаўніцтва”. Дарэчы, толькі пад гэтыя мэты павінны быць дапасаваны ўсе асноўныя палітычныя правы і свабоды, права на аб’яднанне ў грамадскія арганізацыі, свабода слова, друку, сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў і дэманстрацый. Толькі, як сказана ў Праекце, “у мэтах умацавання сацыялістычнага ладу” можна карыстацца гэтымі свабодамі. Гэта зноў азначае, што па загаду партсакратара кожны “мае права” (!) прыняць удзел у кастрычніцкай дэманстрацыі, выступіць на мітынгу і г.д. Сапраўды савецкае разуменне свабод і правоў чалавека!

Нічога не мяняецца на лепшае і ў адносінах да рэлігіі. У Праекце, як і ў дзейнай сталінскай Канстытуцыі, запісана права “весці атэістычную прапаганду” і не даецца такое ж права весці рэлігійную прапаганду. Здзіўляючая “роўнасць” бакоў!

З новых абавязкаў можна выдзеліць такія:

“Абавязак добрасумленна працаваць і строга захоўваць працоўную і вытворчую дысцыпліну. Права на забастоўкі не даецца. Яна згодна з гэтым абавязкам будзе кваліфікавана як парушэнне Канстытуцыі, бо парушана ў выніку яе “працоўная і вытворчая дысцыпліна”.

“Абавязак выхоўваць дзяцей “годнымі членамі сацыялістычнага грамадства” – і ніяк інакш.

Цікавымі і, лічу, карыснымі артыкулы 64, 65, 67, 68. Яны абавязваюць кожнага паважаць нацыянальную годнасць, правы і законныя інтарэсы іншых грамадзян, берагчы і ахоўваць прыроду, гістарычныя помнікі і іншыя культурныя каштоўнасці, садзейнічаць развіццю дружбы і супрацоўніцтва з народамі іншых краін, падтрымліваць і ўмацаваць усеагульны мір. Сапраўды, усё гэта надзвычай добра, каб не чмура камуністычнай ідэалогіі, якая ўсё тлумачыць так, як гэтай ёй

выгадна. Нацыянальная годнасць у любы момант можа быць абвешчана варожым нацыяналізмам. Рэлігійныя культурныя каштоўнасці з упартай паслядоўнасцю ігнаруюцца, нявечацца і ў апошнія гады, праўда ўжо без бою ў літаўры. Садзейнічаць развіццю дружбы і супрацоўніцтва з іншымі краінамі? “Дазвольце! – крычаць. – Не можа быць мірнага суіснавання розных ідэалогій, не дазволім муціць мазгі савецкім людзям буржуазнымі выкрутасамі!”

У брэжнеўскай, як і ў сталінскай Канстытуцыі нават фармальна, дзеля прыстойнасці, не абвяшчаюцца больш-менш значныя правы “сацыялістычных дзяржаў” – “саюзных рэспублік”. Усе дзяржаўныя правы належаць СССР, “рэспубліцы” – кукіш.

“Права свабоднага выхаду з СССР” – без усялякіх гарантый? Спрабавалі ўжо некаторыя пакінуць нават не “савецкую адзіную дзяржаву”, а падсавецкі сацыялістычны лагер. І што з гэтага атрымалася – прыгадаем Чэхаславакію.

Мець сваю Канстытуцыю – копію “агульнасаюзнай”?

Мяняць межы свае з іншай савецкай рэспублікай са згоды Саюза ССР?

Вызначаць як падзяліць сваю тэрыторыю на вобласці, раёны і саветы – не вялікае права.

“Уступаць у адносіны з замежнымі дзяржавамі” і нават “абменьвацца з імі дыпламатычнымі і консульскімі прадстаўнікамі”? Чытай п. 70 артыкула 72. Тут сказана, што толькі агульнасаюзнаму ўраду належыць права “ўстанаўлення і каардынацыі адносін саюзных рэспублік з замежнымі дзяржавамі і міжнароднымі арганізацыямі”. Праўда, здорава?

Адзіным безумоўным правам саюзнай рэспублікі з’яўляецца права “садзейнічаць ажыццяўленню паўнамоцтваў Саюза ССР на сваёй тэрыторыі, ажыццяўляць рашэнні органаў дзяржаўнай ўлады і ўпраўлення СССР”. Паспрабуй ухіліцца ад гэтага “права”!

Выбарчая сістэма і цяпер не прадугледжвае вылучэння некалькіх кандыдатаў на адно дэпутацкае месца.

Функцыям вышэйшых органаў улады СССР прысвечана аж 30 артыкулаў (250 радкоў 3-калоннай паласы “Известий”), функцыям жа вышэйшых органаў саюзных рэспублік – 6 артыкулаў (47 радкоў).

Цікавае дапаўненне зроблена ў арт. пра мову судаводства. Яно павінна весціся не толькі на мове саюзнай або аўтаномнай рэспублікі, аўтаномнай вобласці (аўтаномнай акругі – дабаўлена цяпер), але ж і “на мове большасці насельніцтва дадзенай мясцовасці”. Гэта нішто іншае, як апраўданне рускай мовы ў судаводстве Казахстана і некаторых іншых каланізаваных рускімі нацыянальных утварэнняў. А як апраўдаць выключна рускую мову ў судаводстве Беларусі, дзе, як вядома, не знойдзеш нідзе рускай большасці?

Апошнім акордам Праекта, заадно і гімнам суверэннасці саюзных рэспублік з’яўляецца арт. 167. Ён заслугоўвае, каб яго тут паўтарыць: “Органы пракуратуры ажыццяўляюць свае паўнамоцтвы незалежна ад якіх бы там ні было мясцовых органаў, падначальваючыся толькі Генеральнаму пракурору СССР”. Так і сказана зневажальна: “незалежна ад якіх бы там ні было мясцовых органаў”! Дарэчы, літаральна так адзначана і ў сталінскай Канстытуцыі, толькі замест слова “паўнамоцтвы”, там стаіць слова “функцыі”, “что один черт”, як кажа “старэйшы рускі брат”...

*30 лістапада 1977 г.* Двухдзённае блуканне па пакутах. Сапраўды, каб надрукаваць сваю візітку, трэба іх (пакут) пакаштававаць.

Перад паездкай у Маскву на Міжнародную нараду вырашыў надрукаваць сваю візітную картку. Падрыхтаваў арыгінал для набору і панёс П. Журкевічу. Гэты прыняў, але ж сказаў прынесці афіцыйны заказ ад установы. На другі дзень, г.зн.

сёння, занёс. У яго аказалася ў кабінеце больш дасведчаная ў такіх справах яго ж супрацоўніца. Яна ўзняла пытанне пра Галоўліт. Высветлілася, што без гэтай штукі друкаваць не маюць права. Званю туды: “Няўжо вам трэба даставіць наборныя арыгіналы?” “Абавязкова ў 2-х экз”, – чую адказ (а мне зрабілі адзін!).

“Адносіна вам патрэбна ад Галоўнай рэдакцыі?” – пытаю. “Так, абавязкова”, – адказалі. Значыць, толькі заўтра занясем дазвол. Сакратарку прыёмнай заставілі падпісаць як адказнай за выпуск.

*5 студзеня 1978 г.* Абмяркоўваем перспектывы энцыклапедычных выданняў (1981 – 90). Учора ў Дзяржкамвыдаце, сёння – у ЦК. Мы прапануем Энцыклапедыю прыроды Беларусі (5 т. Ч 115 арк.), Энцыклапедыю народнай гаспадаркі (3 т. Ч 125 арк.), Энцыклапедыю літаратуры і мастацтва (5 т. Ч 100 арк.), Савецкую энцыклапедыю гісторыі Беларусі (3 т. Ч 125 арк.), Беларускі энцыклапедычны слоўнік (2 т. Ч 150 арк.), Звод помнікаў гісторыі і культуры Беларусі (7 т. Ч 100 арк.), Гісторыю выяўленчага мастацтва Беларусі (6 т. Ч 60 арк.), Энцыклапедычны аднатомнік БССР на англ., франц., ням. і ісп. мовах (4 Ч 100 арк.), перавыданне БелСЭ (12 т. Ч 140 арк.) і Індэкс да 2-га выд. БелСЭ (1 т. Ч 140 арк.). Усяго 10 выд., 48 тамоў, 3130 арк.

М.І. Дзялец прапанаваў “Звод” пачаць не з 1984, а з 1979 г. Мы з задавальненнем гэта прынялі. У ЦК нараду вёў С.Я. Паўлаў. Прысутнічалі А.Л. Петрашкевіч, Мардовіч, ад выдаўцоў – М.І. Дзялец, П.У. Броўка, І.П. Хаўратовіч і я. Пазней падыйшоў Г.М. Конанаў. Дакладваў і ўчора, і сёння – я. С.Я. Паўлаў сказаў, што перспектывы распрацаваны добра, што ўсё пералічанае – вартае выдання. Такога “лібералізму” мы ад яго не чакалі. Але ж самым нечаканым для мяне была яго рэпліка, што калісьці не ўсім падабалася выданне Беларускай Народнай творчасці ў такіх маштабах, а цяпер паглядзіце, якое выданне, сёй-той можа пазайздросціць”. Я ўставіў: “Ды як за мяжой хваляць!” Ён: “А ў Саюзе? Таксама ж!” Нічога не скажаш, маладзец С.Я.!

Наконт энцыклапедычных выданняў ён прапанаваў увайсці афіцыйна ў Бюро ЦК. Менавіта такі ход трэба прыдаць гэтай важнай справе. Мо нават з дакладам П.У. на Бюро. А пасля – у Маскве ўхваляйце. Перад прыняццем нашага рашэння мы, вядома, звяжамся з ЦК КПСС”.

Дай Бог, чутае бачыць!

Я: “Прынеслі з Літа твор В. Тараса. Апісвае марадзёрства партызан. С.Я: “Ні ў якім разе не даваць”. Выклікаў яго [Тараса], пытаю: “Як вас разумець?” Ён апраўдваецца, што ведае пра такія рэчы, што былі ў яго раёне. У прыватнасці, мае быццам на ўвазе канкрэтную жанчыну. Я: “Яна вам скардзілася?” Ён: “Не”. “Ну, кажу, тады і не маеце права выступаць праз столькі год у яе абарону. Гэта не па-партыйнаму. Твор у друк не можам пусціць”.

Сустрэча з А. Кудраўцом. Ён з “бегунком”. Ідзе галоўным у “Нёман”. Я яму сказаў, каб меў на ўвазе, што “Н” створаны быў для папулярызацыі беларускіх твораў, а яго ператварылі ў орган СП РСФСР. “Спадзяемся, – сказаў я, – што ты паставіш усё на свае месцы”. Ён: “У Андрэя Макаёнка “Н” быў хобі. Калісьці ён на пленуме Саюза пісьменнікаў так і сказаў: “Ёсць у людзей розныя хобі, у мяне хобі – “Н”.

*(Працяг будзе)*

---

[1] Пётр Усцінавіч Броўка (далей – П.У.) – галоўны рэдактар Беларускай Савецкай Энцыклапедыі (БелСЭ).

[2] В.Ф. Шаура – загадчык аддзелу культуры ЦК КПСС.

[3] К.Ф. Катушаў – сакратар ЦК КПСС.

[4] Аляксандр Трыфанавіч Кузьмін – сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі (далей – А.Т., А.Т.К.).

[5] М.І. Дзялец – старшыня Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю (Дзяржкамвыд БССР) – далей М.І.
[6] В.К. Бандарчык – дырэктар Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі.
[7] С.В. Марцалеў – загадчык аддзела культуры ЦК КПБ.
[8] Загадчыца рэдакцыі "Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі" БелСЭ.
[9] Іосіф Пятровіч Хаўратовіч – намеснік галоўнага рэдактара БелСЭ (далей – І.П.)
[10] А.Ц. Караткевіч – загадчык аддзела навукі і навучальных установ ЦК КПБ.
[11] Савелій Яфімавіч Паўлаў – загадчык аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ (далей – С.Я.).
[12] Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР.
[13] Н.П. Колас – загадчыца рэдакцыі слоўніка БелСЭ.
[14] Дырэктар Інстытута філасофіі і права АН Беларусі.
[15] Намеснік загадчыка аддзела навукі і навучальных установ ЦК КПБ.
[16] Рыгор Васільевіч Канавалаў – намеснік адказнага сакратара БелСЭ па вытворчасці.
[17] Аляксандр Лявонцьевіч Петрашкевіч – загадчык аддзела па культуры ЦК КПБ.
[18] "Советская Белоруссия".
[19] "Вечерний Минск".
[20] Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут.
[21] Галоўнае ўпраўленне па ахове ваенных тайнаў у друку пры Савеце міністраў БССР.
[22] Старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі партыі пра ЦК КПБ, спецыяліст па ваеннай гісторыі.
[23] Намеснік загадчыка аддзела навукі і навучальных установ ЦК КПБ.
[24] Загадчык рэдакцыі гісторыі СССР, КПСС і КПБ.
[25] Іван Дарафеевіч Казека – намеснік галоўнага рэдактара БелСЭ (далей – І.Д.).
[26] Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР.
[27] Намеснік загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ (далей – В.К.)
[28] Пётр Міронавіч Машэраў – першы сакратар ЦК КПБ (далей – П.М.).
[29] Намеснік старшыні Дзяржкамвыду БССР.
[30] Намеснік загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ.
[31] Беларускі дзяржаўны тэатр.
[32] Міністр культуры БССР.
[33] Міністр замежных спраў БССР.



Кастусь Цвірка



...беларус па-ранейшаму
чуе сябе на сваёй зямлі чужаком...

# Човен майго часу

***З новай кнігі***

## НІЛ ГІЛЕВІЧ

Высокі, хударлявы, прамы. Такім я ўбачыў Ніла Гілевіча, калі, паступіўшы на філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта, пазнаёміўся з ім, старшакурснікам. Ён сам падышоў да мяне і нешта ўхвальнае сказаў пра мае вершы ў “Полымі”, што падабраў да друку Максім Танк.

У сваю чаргу мне, студэнту, вельмі імпанавалі вершы Ніла Гілевіча. Асабліва студэнцкія – вясёлыя, жыццярадасныя, вельмі дасціпныя. Верш “У дзявочым інтэрнаце”. Да студэнткі-сяброўкі прыехаў “малады матрос з эсмінца”. Каб паглядзець, “што ў сяброўкі за марак”, у яе пакой пачалі адна за адной стукацца студэнткі з суседніх пакояў – нібыта нечага пазычыць. Адна – “жалязку”, другая – солі “кашу пасаліць”, трэцяя – кніжку... Зразумеўшы дзявочыя хітрыкі, хлопец заўсміхаўся, пажартаваў: гэтак дзяўчаты “разнясуць увесь пакой”. У адказ:

*Працяг. Пачатак у №6 (85).*

Узняла сяброўка вочы,
Вочы яснай пекнаты,

І сказаў пагляд дзявочы:
Ох, застаўся б толькі ты!

Да сённяшняга дня (усё жыццё!) помняцца мне і “Дзяўчына з хімфака”, і “Вясёлая быль”, і “Пасылка”, і “Вяселле ў інтэрнаце”. Так прыйшліся да душы гэтыя Гілевічавы вершы, што назаўсёды сталі маімі. Як жывая памяць пра незваротныя гады студэнцтва.

Вершы Ніла Гілевіча (студэнцкія і нестудэнцкія) друкаваліся як у нашай універсітэцкай газеце, так і ў розных рэспубліканскіх выданнях. А потым увайшлі ў яго першы паэтычны зборнік “Песня ў дарогу”, які адкрываўся такімі зазыўнымі радкамі:

Калі не жадаеце знацца ў жыцці
З назойлівай скрухай-журбою –
Куды б ні прыйшлося паехаць, пайсці,
Песню бярыце з сабою!..

“Песню” Ніла Гілевіча ўзяў і я. І не прагадаў. Высокая ўзнёсласць, радасць маладосці, жыцця – усё было ў гэтай звонкай, у блакітнай вокладцы кніжцы.

Не маглі пакінуць чытача абыякавымі і новыя кнігі Ніла Гілевіча, у якіх паэт выказваў не толькі найбольш хвалюючае сваё, асабістае, але і наша агульнае, тое, што турбавала і турбуе ўсіх.

Перагортваю аднатомнік выбраных твораў Ніла Гілевіча ў нашай “залатой” серыі “Беларускі кнігазбор”. Аўтар уключыў сюды ўсё самае-самае са сваёй больш чым паўвекавой творчасці.

Самы большы раздзел у томе – натуральна, паэзія.

Што мне найбольш блізкае, вабнае тут, сугучнае душы, дык гэта вершы пра яго родную вёску, пра сыноўнюю любоў да “старонкі мілае”. Як і ўсе мы, Ніл Гілевіч мусіў некалі пакінуць сваю хату, каб выправіцца ў шырокі свет. Ды “бацькоўскі куток”, край маленства астаўся з ім як самае дарагое ў свеце назаўсёды. “Пасівералі губы, пасеклася чало”, прызнаецца ён у вершы “Бярозы ў яркай стыні...”

А ўсё яшчэ здаецца,
Я там, далёка там...
На пыльнай вуліцы ўвечар
Стаіць вясёлы гам.

Матуля каля дому
Малечу кліча спаць.
Запознена, знаёма
Калёсы тарахцяць.

У доўгай бурцы конюх
Пляцецца на начлег.
Ля ціхіх падваконняў –
Пярэшапты ды смех.

Драч дзесьці без упынку
Крычыць: «Па-ра! Па-ра!»
Як ластаўка, дзяўчынка
Выпырхвае з двара.

У чорненькай спадніцы,
У блузцы з міткалю
Бяжыць, каб не спазніцца
На першае «люблю»...

Любоў да сваёй зямлі, да Беларусі – як мне здаецца, ёсць тое галоўнае, што

вадзіла і водзіць пяром паэта. Ад яе, ад гэтай вялікай любові – яго нязбытны боль за ўкрадзеную чужынцамі волю народа:

Чужое, разбойнае, хамскае
Гвалтуе, дратуе, таўчэ,
А роднае, свойскае, наскае
Бязмоўна ярмо валачэ.

Амаль фізічна чуецца гэты боль паэта за прыдушаную хціўцамі з чужой дзяржавы Радзіму, калі чытаеш радкі верша "Ёсць зямля..."

Ёсць зямля – прыгажэйшая ў свеце, магчыма.
Я, прынамсі, не ведаю гэткай другой –
Каб і з чыстымі, як у дзіцяці, вачыма
І з даверлівай, як у дзіцяці, душой.

Але й горш невядома за што пакаранай,
Горш бяздольнай, нялюбай і гнанай з сям'і,
Болей крыўджанай лёсам, людзьмі пагарджанай, –
Я таксама не знаю на свеце зямлі.

Верш гэты датаваны лютым 1997 года. Здавалася б, чаго б так бедаваць паэту за сваю краіну, за родную Беларусь: яна ж абвешчана ўжо вольнай і незалежнай? Вольнай? Незалежнай? Але чаму ж тады беларус па-ранейшаму чуе сябе на сваёй зямлі чужаком, чаму тут усё яшчэ пануе мова іншай дзяржавы, а свая, беларуская, у загоне? Яе беспакарана топчуць, мяшаюць з гразёю. Яна, мова народа, выгнана з дзяржаўнага ўжытку, са справаводства, са школ, з кіно і тэлебачання, адусюль.

Мова – гэта народ. Загіне наша беларуская мова – не стане аднаго з самабытных славянскіх народаў, не стане Беларусі. Беларусь зробіцца тады простай правінцыяй суседняй дзяржавы.

Ваяваць за зняважаную чужынцамі і сваімі падхалімамі-адшчапенцамі родную мову Ніл Гілевіч пакляўся ўжо на самым пачатку творчай дарогі: "Першая клятва" – так назваў ён свой верш, напісаны яшчэ ў 1947 годдзе, пры самым разгуле сталіншчыны:

Як ты дорага мне, мая родная мова!
Мілагучнае, звонкае, роднае слова!

Ты калісьці з калыскі мяне падымала
І вучыла ў бацькоў на руках гаварыць.
У жыцці маім слова найпершае «мама»
І цяпер для мяне сама міла гучыць.

Я па літарах родных вучыўся чытаць,
І буквар для мяне быў жыцця палавінай.
Быў шчаслівы я роднаю мовай сказаць
Першы раз: «Беларусь, мая Маці-краіна!»

І цяпер для мяне ты з усіх прыгажэй,
Хоць, я ведаю, моваў на свеце нямала,
І з усіх песняроў мне мілей і бліжэй
Роднай мовы пясняр – неўміручы Купала.

А задумае вораг з чужога далёкага краю
Адабраць у мяне, знішчыць родную мову маю –
Не дазволю.
Не дам.

Не прадам.
Не змяняю.
І да смерці за волю тваю пастаю!

Не думаў тады малады паэт, якая гэта будзе цяжкая і зацяжная вайна з "імперцамі і запраданцамі". Але пайшоў на яе не раздумваючы. Пайшоў з непахіснай верай у перамогу:

За векам век плыве-цячэ,
А мы ідзем, ідзем... І што ж?
О, як далёка нам яшчэ
Да Беларусі!

Ужо няўсцерп нам крыж пакут,
І мы крычым, крычым, але –
Не дакрычаліся пакуль
Да Беларусі.

А можа быць, яна – міраж,
І ўсе мы трызнім? Бо чаму ж
Не далятае голас наш
Да Беларусі?..

Равуць вятры, грымяць грамы,
Пыл засціць вочы нам, і ўсё ж,
І ўсё ж мы дойдзем, дойдзем мы
Да Беларусі!

З усіх нашых літаратараў, ды і не толькі літаратараў, я не бачу нікога, хто гэтак бы клаў галаву на плаху за Беларусь, як Ніл Гілевіч. Усюды, на малых і вялікіх форумах, сваіх, рэспубліканскіх, і ўсесаюзных у Маскве, мужна гучаў яго бескампрамісны голас у абарону свайго народа. Асабліва памацнеў гэты голас, калі ён узначаліў наш пісьменніцкі Саюз.

Якія гарачыя і вострыя былі гэтыя выступленні, добра відаць з раздзела "Публіцыстыка" ў кнігазбораўскім томе яго выбранага.

"Беларусь, Беларусь! Калі ж мы ўсе, хто жыве пад яе высокім небам, зразумеем: без беларускага слова Беларусі няма і не можа быць, – казаў Ніл Гілевіч на Рэспубліканскай канферэнцыі 19 мая 1992 года. – Без беларускага – удакладняю і падкрэсліваю – дзяржаўнага слова. Дзяржаўнага і яшчэ раз дзяржаўнага!.. За доўгія стагоддзі мы прывыклі, што нашай мове адводзілася зусім іншая роля – роля, якая асуджала яе на паступовае адміранне і пагібель. Небяспека гэтай яе смерці, а значыць, і смерці самой беларускай нацыі не адпадзе ні сёння, ні заўтра, калі яна, наша мова, не стане ў поўным сэнсе слова дзяржаўнай, такой, як руская ў Расіі, польская ў Польшчы, французская ў Францыі, балгарская ў Балгарыі і г. д. – аж да апошняй прызнанай светам дзяржавы: калі яна не запануе літаральна ва ўсіх сферах жыцця нашага народа, не будзе – свабодна і натуральна – гучаць паўсюдна і скрозь".

Як кіраўнік Саюза пісьменнікаў Беларусі Ніл Гілевіч не мог не дбаць пра родную літаратуру, якая нясе беларускае слова ва ўсе куткі краіны, пра папаўненне яе новымі творцамі. Бо добра разумеў вялікую ролю літаратуры ў нацыянальным абуджэнні народа. "Спявайце, юныя паэты!" – кліча ён у адным з вершаў.

Назло прарокам самазваным,
Што глуха каркаць пачалі,
Спявайце спевам нечуваным
На мове любай вам зямлі!
Спявайце, помнячы нязменна:
Пакуль паэты будуць пець –

Не быць Радзіме безыменнай,
Зямлі бацькоў – не анямець!

Займаючы розныя высокія пасады, Ніл Гілевіч знаходзіў спосаб падтрымліваць маладыя таленты, садзейнічаў шырокаму папаўненню літаратуры.

Ды і сталых літаратараў не абыходзіў належнай увагай, заўсёды спрыяў сабратам па пяру. Гэта, думаю, шмат хто можа пацвердзіць.

Адзін факт з маёй "практыкі".

У 1993 годзе ў мяне выйшла кніга дарожных нарысаў "Лісце забытых алеяў". Пра жыццёвыя сцяжыны беларускіх паэтаў, пераважна XIX стагоддзя. Пра яе было нямала добрых водгукаў у друку. А Міхась Скобла адгукнуўся на кнігу вершам:

Ні ружаў, ні пекных лілеяў
(У сэрцы меў іншы парыў) –
Я "Лісце забытых алеяў"
Заўсёды дзяўчатам дарыў!

А Саюз пісьменнікаў вылучыў маю кнігу на дзяржаўную прэмію імя Кастуся Каліноўскага. Трэба было толькі прагаласаваць за вылучаныя кандыдатуры на пасяджэнні Дзяржаўнага камітэта па прэміях. З нецярпеннем чакаў я гэтага тайнага галасавання. І вось радасць: за мяне прагаласавалі амаль аднагалосна! Я – лаўрэат дзяржаўнай прэміі! Мой дамашні тэлефон не змаўкаў ад віншаванняў. Я хадзіў гогалем. Адчуванне было незвычайнае – узнёслае, шчаслівае.

Ды прахадзіў я лаўрэатам... усяго два тыдні!

Бо, як выявілася, у галасаванні Камітэта па прэміях усе карты змяшаў Святлейшы, як мы – калегі па пяру – празвалі жартам Івана Чыгрынава. Ён хадзіў ужо лаўрэатам – за тэлевізійны фільм "Руіны страляюць..." як адзін з аўтараў сцэнарыя. Ды захацеў яшчэ раз атрымаць дзяржаўную прэмію за сваю прозу. Хоць Саюз пісьменнікаў не вылучаў яго ўжо другі раз, бо гэта не дазвалялася, але Чыгрынаў змусіў старшыню СП самавольна ўпісаць яго ў спіс прэтэндэнтаў. Выявілася гэтае самавольства пры падліку галасоў. Бо здарылася зусім нечападзяванае: усе тры прэтэндэнты на прэмію імя Якуба Коласа – Генрых Далідовіч, Серафім Андраюк і Іван Чыгрынаў атрымалі кожны роўна па 11 галасоў. Вось дык супадзенне! Што ж рабіць? Даводзілася зміріцца, што ніхто з трох "не прайшоў". Ды тут яшчэ выявілі, што Іван Чыгрынаў як супольнік Камітэта па дзяржаўных прэміях зусім не меў гэтым разам права галасаваць. Таму ўсё галасаванне Камітэт палічыў несапраўдным. Раз так, "камітэтчыкі" павінны былі сабрацца на паўторнае галасаванне. А гэта не толькі вядомыя пісьменнікі, але і мастакі, кампазітары, кінематаграфісты, архітэктары, тэатральныя дзеячы. Вельмі раззлаваныя на пісьменнікаў за іх "гульні", яны гэтым разам пачалі бязлітасна выкрэсліваць са спіса каго трэба і каго не трэба. Пад іхную злосць трапіў і я. Хоць ні ў чым не быў вінаваты.

Так і скончылася маё лаўрэацтва.

Старшынёй Камітэта па дзяржаўных прэміях быў тады Ніл Гілевіч. Ён не захацеў мірыцца з такой несправядлівасцю. Таму звярнуўся да тагачаснага Старшыні Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь Міхаіла Чыгіра з такім лістом:

"Паважаны Міхаіл Мікалаевіч! Здарылася так, што на пленуме Камітэта па Дзяржаўных прэміях у галіне літаратуры і мастацтва давялося ў гэтым годзе двойчы праводзіць галасаванне – з перагаласоўкай праз 12 дзён. Прычына: па недагляду падліковай камісіі ўзяў бюлетэнь і прагаласаваў член Камісіі Чыгрынаў І.Г., на што як асоба "зацікаўленая" (сам кандыдат на прэмію) па Палажэнню аб Камітэце не меў права. Вынікі галасавання давялося ануляваць. Паўторнае галасаванне ў асноўным пацвердзіла вынікі першага, але не зусім, што, відаць,

у такой сітуацыі непазбежна. У прыватнасці, пры першым галасаванні ўпэўнена прайшлі на прэмію К. Цвірка (у галіне публіцыстыкі), Т. Кіршына (у галіне мастацтва) і С. Пятроўскі (кінаапаратар), а пры паўторным галасаванні яны па некалькі галасоў недабралі. Каб не пакрыўдзіць балюча гэтых таленавітых людзей, было б зусім справядліва, каб па іх кандыдатурах Кабінет Міністраў улічыў вынікі першага галасавання і прыняў станоўчае рашэнне. Тым больш, што і ў такім выпадку агульная квота прэмій на літаратуру і мастацтва (11) не будзе перавышана. З павагай Старшыня Камітэта Н.С. Гілевіч".

Ды Старшыня Кабінета Міністраў Міхаіл Чыгір не змог тут памагчы. Нілу Гілевічу асталося толькі перадаць копію свайго хадайніцтва мне – як "рэліквію".

Дарэчы сказаць, гэта была не адзіная прыгода з маім лаўрэацтвам.

Першы раз яно "свяціла" мне за зборнік вершаў "Чарназём", які выклікаў шмат ухвальных водгукаў. Сцяпан Гаўрусёў, сустрэўшы мяне на вуліцы, якраз з яго і пачаў гаворку:

– Пачытаў твой "Чарназём". Стаўлю пяць з плюсам!

А Анатоль Вярцінскі выказаў сваё добрае ўражанне ад кніжкі рэцэнзіяй у "Полымі"– "Песня ў сэрцы ляжала", якую закончыў такімі словамі: "Гані, паэт, далей сваю баразну! Гані, як вясковы сын, – проста і мудра!"

На секцыі паэзіі, дзе я з'яўляўся супольнікам, гэты зборнік былі вылучылі на Дзяржаўную прэмію імя Янкі Купалы. Пасля пастановы секцыі звычайна і ў Камітэце па Дзяржаўных прэміях тады, у 60-гады, ніхто не пярэчыў ёй, кампетэнтнай секцыі, і мне на галаву быў бы ўздзеты лаўровы вянок лаўрэата. Але мяне падвёў... мой уласны язык. Было так.

Другім пытаннем парадку дня секцыі стаяла абмеркаванне публікацыі ў "ЛіМе" рэцэнзіі Рыгора Бярозкіна на зборнік вершаў Петруся Макаля "Акно". Рэцэнзія называлася "Майстэрства. Дзеля чаго яно?" Уся секцыя гнеўна абрынулася на рэцэнзента за крытыку таленавітага паэта. Балазе Рыгор Бярозкін прысутнічаў на секцыі як яе супольнік. У абарону Бярозкіна выступіў толькі адзін я. Бо крытыка ў рэцэнзіі не была рэзкай, тым больш аглабельнай, а па-праўдзе спрыяльнай, добразычлівай. Рыгор Бярозкін называў у ёй Петруся Макаля выдатным паэтам. Ён толькі хацеў перасцерагчы яго ад драбнатэм'я. Таму я і падтрымаў аўтарытэтнага крытыка. Ды мяне не толькі не слухалі, а адзін з "сектантаў" прапанаваў не вылучаць мяне за гэта ў лаўрэаты, што і было падтрымана.

Так у адрозненне ад многіх маіх сяброў-літаратараў я і хаджу без лаўровага вянка на галаве. Але цешу сябе думкай, якую выказаў Някрасаў у дачыненні да Гогаля:

Со всех сторон его клянут,
И, только труп его увидя,
Как много сделал он, поймут,
И как любил он, ненавидя!

Вяртаючыся да вершаў Ніла Гілевіча, хачу падкрэсліць іх жыццёвасць. Яны – своеасаблівы дзённік паэта, гарачы выказ усяго таго, што яго хвалюе і трывожыць. І, пэўне ж, яны астануцца ў гісторыі як жывое сведчанне нашага часу.

Многа добрага хацелася б сказаць тут і пра паэмы Ніла Гілевіча. Мне асабліва блізкія яго "Заручыны" і "Лодачкі", узятыя з самога жыцця, яшчэ з яго роднай Слабады.

Каго могуць не ўсхваляваць, прыкладам, "Лодачкі"?

Зусім дарэмна баіцца Ніл, што чытач можа пусціцца па радках паэмы "наўскач". Не, не трэба баяцца – не пусціцца! Бо напісана яна сэрцам, з дзяцінства параненым сэрцам. Паэма пра нялёгкі паваенны час, калі ўсім нам, дашчэнту згалелым за вайну, прыйшлі на дапамогу простыя амерыканцы, прысылаючы ўсё самае неабходнае з

аддзення і абутку. Помніцца, і мне дастаўся тады хвацкі рудаваты фрэнчык (цяпер яго называюць пінжак), які я насіў усе школьныя гады. Мнагадзетнай сям'і Гілевічаў выдзелілі размеркавальнікі гожыя, зусім новенькія лодачкі. Меркавалася аддаць іх, як падрасце і падыйдуць па назе, сярэдняй Нілавай сястры Ідзеі. І яна была ад гэтага на сёмым небе. Ніл (ён не надзяваў тут маску "лірычнага героя") бачыў, як сястра ўпотайкі даставала з куфра і, прымяраючы на нагу, любавалася імі. Ды як жа было не залюбавацца, не засвяціцца ад іх радасцю:

Без засцежак, без банцікаў, без строчак,
З абцасікамі, выгнутымі пекна,
З люстрана-чорнай натуральнай скуры,
Знутры – усцеленыя гладкай сцелькай,
З падэшаўкамі, слізкімі, як шкло...

Але ў сям'і былі свае разлікі. Сам Ніл Гілевіч, закончыўшы школу, ужо збіраўся ехаць на вучобу ў Мінск. Толькі як ехаць у сталіцу ў зрэбных портках? Патрэбны людскія штаны. А купіць іх не было за што. І маці знаходзіць адзінае выйсце: прадаць тыя лодачкі і набыць сыну штаны. Даручыла зрабіць усё гэта яму самому. І хлопец паехаў на рынак. "Бязбожны, чэрствы, подлы эгаіст" – кляне цяпер у паэме самога сябе за тое Ніл Гілевіч. Тое, што зрабіў нядобра, прадаўшы лодачкі, ён зразумеў, калі вярнуўся дадому. Ступіўшы на парог хаты, адразу ўбачыў, што нарабіў бяды. Яго сястрыца Ідзея ўспрыняла гэта як асабістую трагедыю. Зашылася ў пуню і, як расказала маці, цэлы дзень залівалася там слязьмі. Засмучаны брат пайшоў да яе павініцца і суцешыць. Ды гэта было не проста. "Ты злодзей! Злодзей!.. Ты ўкраў іх у мяне!" Павініўшыся і трохі яе супакоіўшы, ён спытаў: "А ведаеш, каму я іх прадаў?" Дзяўчынка ўмомант перастала хліпаць: каму ж дасталіся лодачкі? Хлопец падрабязна расказаў пра тую гожую, "як прынцэса", паненку. Братаў расказ ашаламіў Ідзею. Яна толькі ўпотайкі пачынала сніць пра каханне, а тут во родны брат – яна гэта ўбачыла з яго расказу – узяў ды й закахаўся! Дзяўчынка толькі занепакоілася, ці ён знойдзе яе.

– Знайду! Не бойся!..
– Чакай!.. А мне ты скажаш, калі знойдзеш?
– Скажу. – І пазнаёміш нас? – А як жа!
– Ой, як я рада! – Ну хадзем! Хадзем!
– Чакай... Скажы, а я, – і ледзь не шэптам
Спытала: – Я таксама калі-небудзь?..
– Што – калі-небудзь? – не адразу ўцяміў,
Аб чым яна. Пачырванеўшы страшна,
Яшчэ цішэй сястрыца прашаптала:
– Мяне таксама нехта... пакахае?
– А як ты думала! Абавязкова!..
Яна мільгом саскочыла з рызаўкі
І, паглядзеўшы ў вочы мне, сказала:
– Я не злуюся ўжо, такой бяды!
Адно каб толькі ты спаткаўся з ёю...

От такі цікавы псіхалагічны малюнак! Дзяўчынка цалкам даравала брату. Сам жа брат, наадварот, не змог сабе дараваць. І от гэтая віна, што вярэдзіла душу, сумленна, без ценю самаапраўдання вылілася праз паўвека паэмай. Дзівоснай паэмай, цудоўнай паэмай! Мне думаецца, калі б складалася некім анталогія лепшых паэм свету, паэма Ніла Гілевіча "Лодачкі" заняла б там сваё ганаровае месца.

Значнай падзеяй у літаратурным жыцці Беларусі было і з'яўленне рамана ў вершах Ніла Гілевіча "Родныя дзеці". Пра яго казала і будзе яшчэ казаць ды аналізаваць крытыка. Мне асабліва хочацца чытаць-перачытваць (часта ўголас) яго бездакорныя, моцна збітыя, як яшчэ кажуць – літыя строфы, яго чыстую

беларускую літаратурную мову. Пачытайце, беларусы-адшчапенцы, як хораша, як мілагучна яна льецца-пераліваецца!

У пракрустава ложа кнігазбораўскага тома мы, на жаль, не змаглі ўключыць яшчэ шмат чаго з творчага набытку Ніла Гілевіча, вартага нашай "залатой" серыі. Скажам, яго выдатныя сатырычныя і гумарыстычныя творы, яго не менш дасціпныя драматычныя рэчы. Ды можна б было шырэй даць тут і яркую дакументальную прозу паэта.

(...) Ці пачуюць беларусы свайго паэта? Ці зразумеюць, якая вялікая небяспека навісла над усімі намі?

*4 сакавіка 2016 года*

## РЫГОР БАРАДУЛІН

Мы пахаўрусавалі з ім студэнцкімі гадамі, калі вучыліся ў БДУ на філфаку. З'ядноўвала нас паэтычная творчасць. Чыталі адзін аднаму толькі што напісаныя вершы, нешта пра іх выказваліся, раіліся, як лепш паправіць які-небудзь не зусім дасканалы радок. Як нечым радасным дзяліўся Рыгор са мною і вельмі каларытнымі словамі і цэлымі выслоўямі, якія прывозіў пасля канікулаў з дому, са сваёй Ушаччыны.

У мой час у калідорах універсітэта можна было напаткаць нямала літаратараў-пачаткоўцаў. Смяяліся: тыцні там пальцам – і абавязкова трапіш у пісьменніка.

Звычайна нехта з нас зачытваў там свае вершы, на якія, нібы галодныя ваўчаняты на костку, дружна накідваліся гурткоўцы, і ад вершаў тых ляцелі пух ды пер'е. Але гэта была для нас выдатная вучоба.

Запомнілася мне яркая вобразнасць тых вершаў, якая, як мне здавалася, ішла ад Ясеніна. Ці захаваліся яны дзе? Асобныя то не толькі захаваліся, але і трапілі ў яго кнігі. Як во гэты (без назвы):

Чуйна спіць ваколле.  
Поўнач  
Долы абняла.  
Поўня лье з даёнкі поўнай  
Малако святла.

Яшчэ цясней зблізіла мяне з Рыгорам Цаліна, куды паманіла нас рамантыка невядомага. Якія гэта былі цудоўныя, можа, самыя шчаслівыя нашы дні!

Тыдні два нас, шумлівы студэнцкі вырай, патрэсваючы, нёс у далёкі Казахстан грукатлівы поезд. Ехалі мы ў цяплушках (яшчэ іх называлі цялятнікі) – прасвістаных вятрамі прасторных таварных вагонах, па падлозе якіх была разаслана салома. На ёй мы і спалі. Раніцамі, папрачынаўшыся, адсоўвалі ўбок шырозныя дашчаныя дзверы і садзіліся ў іх прахонах, паспускаўшы, ледзь не да самых колаў, ногі. Перад вачыма адкрываліся і плылі-праплывалі нічым не заслоненыя неаглядныя прасцягі бясконцай краіны.

Упершыню на свае вочы бачылі мы вядомыя толькі з падручнікаў геаграфіі славутыя рэкі, горы, гарады.

Аднае начы ўсіх пабудзіў чыйсьці ўзбуджаны голас:

– Волга!

Па ўсім вагоне зашамацела салома, мы паўскавалі са сваіх лежбішчаў, прыпалі да вокан (нейкія ж там былі) і адсунулі дзверы.

Праз іх у вагон разам з ветрам, закладаючы ў вушах, уварваўся грымотны ляск-грукат. Гэта наш трэсены-ператрэсены таварняк ускочыў на агромністы, з бетону і сталі, мост, які аж прагінаўся, здаецца, пад цяжкімі коламі. А пад ім і з бакоў, зусім блізка, цьмяна засвяцілася густой сінізной шырокая вадзяная прос-

трань: яна, Волга! Мы не адрывалі ад яе вачэй, пакуль поезд ні прагрукатаў над ёю ўсімі сваімі вагонамі.

Гэты момант схапіў потым у вершы Рыгор Барадулін:

Вагон таварны дрогка тузае.
Гарыць, трапеча стэарын.
Там жарты заглушае музыка,
Тут многіх сон паспеў змарыць.

А вецер, дым над дахам сцелючы,
Праводзіць у далёкі шлях.
Ды нам на шчасце, з поўным
Велічна
Дарогу Волга перайшла...

Вельмі ўразіў нас Урал, які адкрываўся перад намі ў ружаватых промнях ранішняга сонца. Якія велічныя зялёныя горы! Іх нібы нехта панакрываў папахамі густых хвойнікаў. Поезд выгінаўся дугой па крутых горных схілах, абмінаючы глыбокія, таксама зялёныя ўпадзіны.

Па дарозе ён сунімаўся на нейкі час у асобных гарадах, і мы маглі пахадзіць па незнаёмых вуліцах. Запомніўся Чэлябінск, які здаўся нам вельмі ціхім і спакойным горадам – мо таму, што дагэтуль глушыў нас стукат-грукат нашага таварняка? З прыемнай расслабленасцю ступалі мы па яго тратуарах, аглядаючы просценькія дамы-чатырохкутнікі. А ўбачыўшы шыльду “Чайная”, адразу ж завярнулі туды. Як добра было там пасёрбаць гарачай наварыстай поліўкі, якая пасля нашых сухіх пайкоў, здаецца, разлівалася па ўсім целе, лагодзячы студэнцкія жываты.

Пасля Урала, дзе канчалася Еўропа і пачыналася Азія, мы яшчэ праз некалькі дзён гойданкі ў таварняку апынуліся ў казахстанскім, роўным, як стол, стэпе, у Кустанайскай вобласці. Пасярод гэтага стэпу, дзе і блізка не было відаць аніякага жытла, нас і высадзілі. Мы адразу ж разапнулі там вялізную, з добры дом прадаўгаватую брызентавую палатку з акенцамі-люкамі. Па абодва яе бакі паставілі жалезныя бароны-зігзагі (зубамі ўніз!), якія сталі нам ложкамі.

Уздоўж адной палатачнай сценкі выстраіліся бароны дзяўчат, а другой – хлопцаў. Аддзяляў нас толькі шырокі, заслонены ўночы адной шырмай цямноты праход. Паклаўшыся спаць, мы доўга не аддаваліся ва ўладу пана Марфея. Да самай поўначы не змаўкалі паміж двума бакамі перагукванні, жарты, смех, песні.

Палатка гэтая цэлыя два месяцы была нашым домам, праўдзівым студэнцкім інтэрнатам.

Прывезлі нас на Цаліну раней, чым трэба было. Да пачатку жніва, на якое нас паслалі, заставалася яшчэ тыдні два. У стэпе куды ні глянь да самага гарызонта разлівалася зялёнае мора пшаніцы, якая толькі пачынала паспяваць.

Кіраўнік усяго нашага лагера, вясёлы рыжавусы ўкраінец сярэдніх гадоў, якога мы звалі Дзідам, убачыўшы, як студэнты марнеюць без працы, прыдумаў нам адну цікавую работку – пабудову жытла для цаліннікаў.

Адзіным матэрыялам тут быў саман – уцвярдзелы цалінны дзёран. Яго мы наразалі лапатамі і неслі на будпляцоўку. З гэтых дзярнін і выкладвалі сцены хаты, змазваючы іх глінай. Калі цалкам іх вывелі, работу супынілі: дзе было ўзяць дзерава для бэлек ды крокваў? Ніхто пра гэта чамусьці не дбаў. Як мы потым зразумелі, нікому наша будоўля і непатрэбна была. Хіба толькі для таго, каб падняць наш падупалы ад бяздзейнасці дух, каб не прападаў марна камсамольскі энтузіязм, з якім сюды ехалі.

Побач з нашым станам была разраўняна і добра ўпляскана трактарамі вялікая, прыкладна як дзве Кастрычніцкія плошчы ў Мінску пляцоўка-ток. Сюды адзін

за адным звозілі ад камбайнаў самазвалы пшаніцу. Яе мы разграбалі лапатамі па току і сушылі на сонцы, увесь час пераварочваючы. Высушаную гэтак пшаніцу буртавалі з дапамогай спецыяльных аўтапагрузчыкаў. Бурты атрымліваліся даволі высокія – з добры дом – і даўгія. Глянеш на іх – агромністыя валы, амаль горы.

Стэп наўкруга гудзеў ад камбайнаў. Самазвалы ішлі сюды ад іх адзін за адным. Мы не паспявалі сушыць пшаніцу. А начальства падганяла рабіць гэта як мага хутчэй – яму трэба было адчытвацца перад большымі начальнікамі. Таму вельмі часта буртавалася і недасушанае зерне. Вынік ад гэтага быў несуцяшальны: праз некалькі дзён над нашымі буртамі пачынаў віцца рэдзенькі дымок-пара, які з кожным днём гусцеў і гусцеў. Мы спрабавалі ўсоўваць у такі бурт руку – зерне было гарачае, як у печы. Урэшце велізарныя бурты цалкам згаралі – ператвараліся ў белую цвіль. Работа многіх людзей ішла кату пад хвост. Казалі, велізарныя бурты пшаніцы гарэлі тады па ўсёй Цаліне. Ці не таму задума Мікіты Хрушчова “накарміць” вялікую краіну хлебам з узнятых цалінных земляў Казахстана і, здаецца, Алтая правалілася: камандная сістэма гаспадарання добра паказала тут сваё бяссілле. Ізноў трэба было купляць пшаніцу ў “праклятых капіталістаў”.

Што ж да нас, студэнтаў, то мы не надта задумваліся над усім гэтым. Рабілі тое, што нам казалі. Рабілі сумленна, з поўнай аддачай.

Пасля шчырага завіхання на таку-пляцы вечарамі мы наладжвалі яшчэ і танцы. Разам з механізатарамі, чые вагончыкі выстраіліся побач з нашай палаткай. Яны наводзілі на імправізаваную танц-пляцоўку фары аўтамабіляў, і ў іх святле мы таўкліся пад музыку з патэфонных пласцінак, пакуль канчаткова не знемагаліся і не кідаліся на свае бароны – спаць.

Калі ўся пшаніца была скошана і складзена ў бурты-горы (няўжо і гэтыя задымяцца потым?), мы скаталі сваю палатку, пaскладвалі адна на адну нашы бароны-ложы, і ў адкрытых кузавах амерыканскіх студэбекераў нас патарабанілі на бліжэйшую чыгуначную станцыю. Там наш многагалосы студэнцкі кагал з радасцю сыпануў у вагоны падаспелага поезда, толькі ўжо не ў тыя цялятнікі, у якіх нас везлі сюды, а ў людскія, проста камфортныя, з купэйнымі адсекамі, з гладзенькімі лаўкамі і паліцамі, дзе мы пачулі сябе паўнацэннымі (і нават важнымі!) чалавекамі-цаліннікамі.

Як туды, на Цаліну, так і адтуль , ехалі з песнямі. З усіх вагонаў так і ляцела насустрач вятрам:

Родины просторы, горы и долины,
В серебро одетый, зимний лес грустит.
Едут новоселы по земле целинной,
Песня молодая далеко летит.
Вьется дорога длинная,
Здравствуй, земля целинная,
Весну и молодость встречай свою...

Або:

Ой, ляцелі гусі з броду,
Замуцілі ў рэчцы воду...

Спявалі, жартавалі, наладжвалі ўсякія гульні.

Запомніўся адзін, звязаны з Рыгорам, эпізод. Згрудзіўшыся ў купэ каля прыаконнага століка, мы захапіліся гульнёй у даміно. Рыгор жа ўскараскаўся на самую верхатуру – не на другую лаўку-паліцу, а на трэцюю, на якую звычайна закідваліся ўсялякія рэчы. Каб пабыць далей ад нашай гаманы і, можа, падрамаць. І раптам у самы разгар гульні пры нейкім рэзкім тармажэнні поезда проста на нашы галовы і на столік з даміно ляціць зверху... Грышка Барадулін! Кінуліся

падымаць яго – хаця б не паадбіваў чаго. Ды ён тут жа сам ускочыў на ногі і, адмахваючыся ад нас абедзвюма рукамі, як ад назойлівых мух, ды нешта незадаволена бумкаючы, барзджэй пабег з купэ. А мы – добра, што ўсё скончылася смехам – пападымаўшы параскіданае даміно, ізноў заселі за гульню. Казалі, што гэта на той верхатуры Рыгор пачаў ужо – па гарачых слядах – складаць вершы пра Цаліну. Нават нехта падняў быў і яго ручку-самапіску, якая разам з ім тады зляцела.

Мусіць, так яно і было. Бо надта ж скора па прыездзе ў Мінск у газетах і часопісах пачалі друкавацца яго цалінныя вершы. А потым выйшлі і асобнай кніжкай – “Маладзік над стэпам”. І ўсе ўбачылі, які адметны і яркі, папраўдзе таленавіты паэт прыйшоў, а лепш сказаць – уварваўся ў нашу літаратуру.

“Вагон таварны дрогка тузае...”, “Цалінная пшаніца”, “Б’е пярун прамой наводкай...”, “Маладзік над стэпам”, “Перад пачаткам сеанса”, “Насціна кухня”, “Перакаціполе”, “Танцы ў стэпе”, “У палатцы”, “Ліст з дому”, “Імяніны”, “Вечар над Таболам”, “І венікамі з лозаў ніцых” – у гэтых вершах, своеасаблівым дзённіку нашай цаліннай місіі, ва ўсёй красе ўпершыню раскрыўся незвычайны талент Рыгора Барадуліна. У іх – нічога выдуманага, усё ўзята з “натуры”. Там – і пра наша завіханне на таку, дзе “бурты кладуцца, як барханы”, і пра вандроўкі па цалінным стэпе, пра сустрэчу з Таболам, што “стамлёна расцягнуўся па пяску”, пра гулянкі пасля працы. Нават пра студэнцкую кухню. “Насціна кухня” – так называецца верш пра кухарскія здольнасці нашай студэнткі Насці, якой даручылі гатаваць нам ежу (“Не, не ўсім надарылася шчасце есці боршч, прыгатаваны Насцяй...”). Кухняй той былі тры вялізныя катлы, пад якія падкладваўся агонь. Ад іх цягнуліся даўгія дашчаныя сталы, на якіх з тых катлоў разлівалася нам па місках гарачая, з дымам, страва. Усё – пад адкрытым небам. Таму:

Па-над кухняй Насці адвячоркам,
Бы драбкі крыштальнай солі, зоркі,
Мала солі – знічка упадзе.
У кацёл сам просіцца з нябёсаў,
Быццам часнаку зубок, курносы
Маладзік...

Чай з дымком – паболей цукру сып!
Хай меню парой кансерватыўна,
За сталом працуем так актыўна,
Аж ідуць упрысядкі насы!

Цалкам з натуры ўзяты і радкі верша “Танцы ў стэпе”:

“Амурскія хвалі”, “Дунайскія хвалі”,
Чые толькі сэрцы вы не падмывалі?!
Па стэпе казахскім, пад небам без хмараў
Ізноў разліліся вы, поўныя чараў.

Ну дзе тут уседзіш? І як тут устоіш?
Забудзеш пра стому, забудзеш пра тое,
Што прыдзецца спаць тры гадзіны, не болей,
І што асцюкі за кашуляй сваволяць.

А вальсам на змену – тут полька да ўпаду,
Факстрот да пракруту падэшваў – аж градам
У шчырых танцораў пот коціцца з твараў,
З зямлі толькі пыл узнімаецца хмарай...

У зборнік “Маладзік над стэпам” Рыгор Барадулін уключыў і іншыя, не

цалінныя вершы. Яны склалі асобны раздзел – “У маёй азёрнай старане”. Гэта – творы пра родную Ушаччыну, пра ўсё з ёю звязанае. Вельмі крануў мяне, аднаго з многіх тады “бязбацькавічаў”, верш “Бацьку”. Я ведаў, што Рыгораў бацька не вярнуўся з вайны, загінуў на фронце. Але сын усё адно чакаў яго, спадзяваўся ўбачыць сярод салдат, якія пасля перамогі вярталіся з вайны дадому:

А я... чакаў з усіх дарог
Цябе ў сорак чацвёртым... летам.
Калоны ні адной не мог
Я прапусціць з ахапкам кветак.

Хацелася пачуць: “Сынок...”
І крыкнуць радаснае: “Тата!”
Бацькоўскім быў мне кожны крок...
Усё ішлі, ішлі салдаты...

Каторы раз сыходзіў снег...
Дамоў вярнуліся суседзі.
Я кожнаму насустрач бег
І чуў кароткае: “Прыедзе”...

Паверыць цяжка мне таму,
Што больш не прыйдзеш ты дадому...

Дадому... Дома аставаліся ў нас маткі, і мы на канікулах ляцелі туды, у свой родны з маленства свет. Радасць вяртання дадому вельмі добра перадаў Рыгор у вершы “Як захліпнуўся ад радасці жаўранак...”:

Як захліпнуўся ад радасці жаўранак,
Славячы сонца вясновага дня,
Як па куп”і на балотных выжарынах
Мякка хрумсціць пад нагою сушняк;

Як па-над ярам пад ветравым подыхам
Вольха сухая рыпіць і рыпіць,
Як адвячоркам над соннымі водамі
Кнігаўка ўсё не дапросіцца піць, –
Тры гады я не чуў...

Праўда, па тры гады Рыгор тады яшчэ ніколі не адлучаўся з дому. Самае большае – затрымліваўся ў Мінску на вучобе ва ўніверсітэце ад канікулаў да канікулаў, па тры – чатыры месяцы. Але і гэтыя месяцы здоўжваліся яму на гады.

Першыя зборнікі вершаў мы з Рыгорам выдалі ў 1959 годзе. Тады ж і абмяняліся імі. Свой “Маладзік над стэпам” ён падпісаў мне так: “Любаму Кастусю Цвірку – паэту, сябру, з кім разам мясілі цалінную гразь і не спалі ў начную змену, жадаючы яму ўсяго светлага, усяго плённага. Твары, дзярзай, не ведай гора і ўспамяні парой Рыгора. 10.11.1959 г. Рыгор Барадулін”.

Разам працаваць мне з ім пасля ўніверсітэта нідзе не давялося. Але нас цесна звязвала наша рэдактарства. Праз рукі Рыгора Барадуліна, калі ён рабіў у выдавецтве “Мастацкая літаратура”, праходзілі шмат якія мае вершы і пераклады, што публікаваліся ў розных зборніках і альманахах. Шчыра ўзяўся ён рэдагаваць і маю кнігу выбраных вершаў і паэм “Бацькаў свет палявы”. Напісаў да яе і ладны ўступны артыкул “Каб араллёю пахлі аблокі...”

У сваю чаргу я з прыемнасцю аддаваў у друк даволі вялікія падборкі Рыгоравых вершаў у часопісе “Полымя”, калі вёў там паэзію.

Вельмі выручаў мяне Рыгор, калі, працуючы ў выдавецтве “Юнацтва”, я рыхтаваў асобныя тамы “Бібліятэкі дзіцячай літаратуры народаў СССР”. Для

гэтых тамоў на маю просьбу ён з ахвотай перакладаў многія творы для дзяцей іншамоўных пісьменнікаў. Перакладаў вельмі аператыўна і – мала сказаць бездакорна – проста выдатна! Нідзе не дазваляў сабе Рыгор Барадулін халтуры.

Добра паэксплуатаваў я талент Рыгора Барадуліна як перакладчыка і рэдактара і для выданняў "Беларускага кнігазбора". Дзякуючы яму мы годна вярнулі ў лона беларускай літаратуры паэзію аднаго з яе пачынальнікаў – Яна Баршчэўскага, для аднатомніка якога Рыгор Барадулін пераклаў з польскай мовы найбольш "цяжкія" балады "Русалка-спакусніца", "Роспач", "Курганы", вялікую драматычную паэму "Жыццё сіраты" і асобныя вершы.

Больш чым паўвека, пачынаючы з 1954 года, калі Рыгор паступіў ва ўніверсітэт, чуў я пры сабе яго локаць. Не прамінуў ён прыехаць і на маё 50-годдзе ў Старыя Дарогі, дзе ў раённым Доме культуры разам з іншымі сябрамі казаў юбілейнае слова.

Выказваў Рыгор жаданне наведацца і ў маю Зялёную Дуброву. Ды з гэтым у яго не атрымалася. Каб хоць крыху задаволіць яго цікавасць да маёй роднай вёскі, я падпісаў яму сваю кнігу пра Зялёную Дуброву "Будзіла вёску берасцянка". Праз кароткі час ён пазваніў мне і сказаў, што прачытаў яе і нібы пабываў у маёй Зялёнай Дуброве. Ведаючы, што я кожнае лета там прападаю, ён напісаў мне вершаваны "Ліст у Зялёную Дуброву".

Свае кнігі, якія ён мне дарыў, заўсёды падпісваў арыгінальна, не шаблонна, абавязкова з трапнай рыфмай. На сатырычнай кніжцы "Дойны конь", якая выйшла ў бібліятэчцы "Вожыка", ён пакінуў мне такі надпіс: *"Дарагому Кастусю зборнік і душу ўсю! Любы Косця, ты, відаць, забыўся, што адным з першых раіў не кінуць пяра. А "Дойнага каня" чытаў я табе ў сталоўцы БДУ. Дзякуй за падтрымку! 8.IV.65 г. Рыгор".*

У паэзію Рыгора Барадуліна ўваходзіш нібы ў нейкі вельмі раскошны і багаты сад, дзе можна знайсці ўсё для душы. Праўдзівай лагодай кладзецца на яе кожны радок ягоных вершаў і паэм. Як натуральна і хораша плыве з іх наша жывая, па праўдзе прыгожая беларуская мова!

Вельмі рады быў я выдаць кнігу выбраных твораў Рыгора Барадуліна ў нашай залатой серыі – "Беларускі кнігазбор". Рады быў выхаду гэтага аднатомніка і сам аўтар. На адным з асобнікаў ён напісаў мне так: *"Дарагі Кастусь! Не знаходжу слоў, каб выказаць падзяку табе! Хай Бог доўжыць гады твае, хай твайму роду не будзе зводу! Чалом! Рыгор. 12.VI.08".*

Як гэта ні горка ўсведамляць, але яму самому Бог не захацеў доўжыць гады. Апошні раз ён пазваніў мне ў лістападзе 2013 года па выхадзе яго кнігі "Ушацкі словазбор", якую выпусціла створанае мною разам з Генадзем Вінярскім выдавецтва "Кнігазбор", і, зноў жа не забыўшыся падпісаць, шчыра падзякаваў за яе.

Наталля Давыдзенка, якая рыхтавала гэтую кнігу да друку, заўважыла мне, што Рыгор Барадулін нікому не прамінаў выказаць падзяку за самую маленькую паслугу. Думаю, гэта – ад прыроднай яго дабрыні, ад шырыні душы. Прыязны, усмешлівы, шчыра рады кожнаму новаму таленту, спагадлівы да ўсіх – такім навечна запомніўся мне Рыгор Барадулін.

*2015*

## ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН

Генадзя Бураўкіна я ведаў з універсітэта, дзе нас аб'ядноўвала паэтычная творчасць. Праўда, сустракаліся мы там не вельмі часта, бо вучыліся на розных факультэтах: я – на філалагічным, ён – на факультэце журналістыкі.

Да таго ж Генадзь паступіў ва ўніверсітэт на год пазней за мяне. Ды і жыў ён, здаецца, не ў інтэрнаце, як мы, а недзе на кватэры: у яго ж быў бацька.

Больш цесна зблізіла нас Беларускае радыё, дзе на пачатку 60-гадоў мы працавалі разам у рэдакцыі літаратурна-драматычнага вяшчання. Нам дваім было даручана весці вельмі важную навінку – сатырычны радыёчасопіс "На калючай хвалі". Гэта быў перыяд "хрушчоўскай адлігі", калі дазвалялася нейкая крытыка нават у эфіры. Помніцца, як супыняліся людзі каля прыёмнікаў, калі там пачыналі гучаць пазыўныя штотыднёвай перадачы ўсесаюзнага радыё "Веселая волна" (здаецца, так яна называлася), што была праўдзівай прадухай у абрыдлай штодзённай радыёбалбатні пра дагонім-перагонім па мясе і малаку Амерыку і пра ўсё такое. Наш радыёчасопіс павінен быў стаць беларускім аналагам гэтай "волны".

Рабіць яго нам выпала па чарзе: адзін нумар рыхтаваў Генадзь, другі – я.

Не помню, колькі нумароў нашага радыёчасопіса паспела выйсці ў эфір.

Рыхтуючы чарговую перадачу, я дзе толькі можна вышукваў для яе матэрыял. Шмат куды мог дапяць я тады з рэдакцыйным "рэпарцёрам" на плячы. Помніцца, атрымаўшы нейкі сігнал з Мінскага аўтазавода, завітаў у яго адміністрацыю, пасля чаго хадзіў па цэхах, па вельмі захламленым двары, гутарыў з заводскімі работнікамі і браў усё на заметку. Назбіраўшы колькі было трэба "негатыву" ( не толькі на аўтазаводзе), засеў за напісанне сцэнарыя. Прывабіў да гэтага і калектыўнага аўтара вясёлых досціпаў у "Вожыку" – славутага Сібарсача (Сіпакова, Барадуліна, Сачанку). Калі сцэнарый радыёчасопіса быў гатовы і падпісаны галоўным рэдактарам літаратурна – драматычнага вяшчання Мікалаем Матукоўскім, я аддаў тэкст тагачаснаму галоўнаму радыёрэжысёру Паўлу Данілаву, які з дапамогай найманых артыстаў і ладзіў па нашых сцэнарыях пастаноўкі для эфіру перадач "На калючай хвалі".

Тут, мусіць, варта некалькі слоў сказаць пра Паўла Данілава. Гэта быў вопытны ў сваім родзе мастацтваў чалавек. Яшчэ да вайны ён ставіў спектаклі ў БДТ–1 (Беларускім тэатры імя Янкі Купалы), сярод якіх –"Герой" Я. Рамановіча, "Мядзведзь" А. Чэхава, "Парызаны" і "Хто смяецца апошнім" К. Крапівы, "Сімфонія гневу" В. Шашалевіча (з Л. Літвінавым), "Праўда добра, а шчасце лепш" А. Астроўскага і іншыя. Таксама сам пісаў п'есы і ставіў па іх спектаклі. Адзін з іх – "Лявоніха" – на Днях беларускай літаратуры і мастацтва ў Маскве трапіў нават на крэмлёўскую сцэну. Праўда, гэта быў беспадобны кур'ёз. Самаму высокаму кіраўніцтву краіны меркавалася паказаць вясёлую камедыю з сучаснага калгаснага жыцця Беларусі "Лявоніху" Андрэя Макаёнка (яна потым была названа "Лявоніхай на арбіце"). Ды перад вачамі ўсіх членаў Палітбюро КПСС на чале з Мікітам Сяргеевічам Хрушчовым, якія хацелі ўбачыць, як жывуць і весяляцца беларускія калгаснікі, зусім неспадзявана выскачылі на сцэну прыгонныя мужыкі ў лапцях і абарваных світках, падганяныя аблавухім цівуном з бізуном у руцэ. Гэта нехта пераблытаў дзвюх "Лявоніх" і прывалок на крэмлёўскую сцэну зусім не тую, што трэба было – не Макаёнкаву, а "Лявоніху" Паўла Данілава. Прагледзеўшы спектакль, кіраўніцтва Савецкага Саюза пайшло з памяшкання як мыла з'ўшы. Дык вот гэты самы Павел Аўрамавіч Данілаў і ўзяўся ставіць для радыё мой сцэнарый, якім быў вельмі задаволены. На рэпетыцыі зваў і мяне. Ды ў самы разгар работы начальства радыёкамітэта загадала яе прыпыніць. Чаму? Аказваецца, мой сцэнарый сатырычнага радыёчасопіса запатрабавалі

“наверх” – у ЦК КПБ. На прагляд. Захацеў пачытаць яго галоўны ідэолаг Беларусі, сакратар ЦК КПБ Шаура. Пачытаў і ... забараніў даваць у эфір маю перадачу і наогул увесь наш радыёчасопіс “На калючай хвалі”: нашто нам крытыка негатыўных бакоў шчаслівага савецкага жыцця, яны ж, гэтыя бакі – “нетыповая з’ява” ў пераможным шэсці сацыялізма.

Мяне з Бураўкіным пасадзілі рабіць бяскрыўдныя літаратурныя перадачы. А раз рабілі мы гэта спраўна, старшыня радыёкамітэта, выпускнік КІЖа (Камуністычнага інстытута журналістыкі) і былы цэкоўскі работнік Рыгор Васільевіч Канавалаў, даў нам, бяздомнікам, на вуліцы Кедышкі двухпакаёвую кватэру – адну на дваіх. Мне – большы, з балконам, пакой (бо ў нас паявілася ўжо дачка), а Генадзю з Юляй – меншы.

Неўзабаве няўседлівы Генадзь уступіў у партыю і борзда пайшоў уверх, на вышэйшыя пасады. А чалавеку з высокімі дзяржаўнымі пасадамі туліцца ў “камунальным” пакойчыку не выпадала. Генадзю скора далі асобную кватэру, а я з сям’ёй такім спосабам “пашырыўся” за кошт яго дзевяціметровага пакойчыка.

Ад нашага сумеснага валодання той двухпакаёўкай засталася ў мяне адна памятка – купленая ў складчыну шафка-стаўбунок для балкона (хоць аддавай яе ў музей).

Усім вядома актыўная грамадская дзейнасць Генадзя Бураўкіна, які дапяў аж у ААН, стаўшы там пастаянным прадстаўніком Рэспублікі Беларусь з рангам надзвычайнага і паўнамоцнага пасла.

Але самы большы плён для Беларусі прынесла яго дзейнасць на пасадзе старшыні Дзяржаўнага камітэта БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні. Не толькі радыё, але і тэлебачанне ён зрабіў у поўным сэнсе слова беларускім. З экрана тэлевізараў гучала тады свая, беларуская мова, мова народа Рэспублікі Беларусь. Як гэта і павінна быць.

Але, мусіць, самая галоўная пасада Генадзя Бураўкіна, з якой ён не “сыходзіў” да канца жыцця, – “пасада” Паэта. Таму ён назаўсёды астаецца ў беларускай літаратуры.

“Я іду...” – аб’явіў ён у адным з першых вершаў.

Сёння я незвычайна радасны,
Ну, не хлопец – усмешка адна:
Цеплынёю дваццаціградуснай
Абагрэла мяне вясна.

Люстры-лужыны проста ў вочы
Сотні сонцаў мне навялі.
І лягчэй, і прыемней крочыць
Па сырой, адагрэтай зямлі.

І паветра здаецца мядовым,
І нябёсы – чысцей і сіней.
Я іду – дваццацігадовы,
І дзяўчаты глядзяць на мяне...

І хоць тут бачыцца пераклічка з маладым Маякоўскім (“Иду красивый, двадцатидвухлетний”), але Генадзь Бураўкін выказаў у вершы цалкам сябе самога. І чытач не можа яму не верыць: з кожнага радка аж пырскае тут радасць маладосці.

Маладосць, каханне – усё ёсць, усё засталося ў паэтычных радках і “сталых” вершаў Генадзя Бураўкіна:

I як бы мы ні пастарэлі,
Няхай і летам і зімой
Юнацтва сінія арэлі
Ляцяць між небам і зямлёй.

Лірыка – так, мусіць, можна коратка ахарактарызаваць паэзію Генадзя Бураўкіна. Але гэта не толькі вершы пра каханне, пра маладосць. Усё, што яго турбавала, чым ён жыў, прама выказваў ён у сваіх вершах. Да лірыкі я аднёс бы і яго вершы на грамадскія тэмы. Бо тое, што рабілася ў свеце і ў Беларусі, паэт вельмі блізка прымаў да сэрца і не мог маўчаць.

Праўда, гэта грамадзянская (ці палітычная?) лірыка ў савецкія часы часта натыкалася на "непажаданыя", забароненыя моманты, і аўтару даводзілася тут выкручвацца, шукаць абходныя шляхі і спосабы, каб выказацца. Адзін з такіх спосабаў – абапірацца на бальшавіцкую ікону, якой стаў Уладзімір Ульянаў.

"Ленін думае пра Беларусь" – такі з'явіўся з-пад пяра Генадзя паэтычны твор. Не, не яго, Уладзіміра Ільіча, хацеў лішні раз узвысіць паэт. Зусім не. А хацеў ён абараніць сваю Беларусь ад імперскіх "дзяржымордаў", якія апаганьвалі яе культуру і мову, не выпускалі з векавечнага ярма яе народ. У дапамогу супраць прыгнятальнікаў беларускага народа і ўзяў паэт іх жа правадыра, якога зрабіў абаронцам беларусаў. Пачуўшы, што тут зневажаюць мову карэннага народа, ён, іхны правадыр, абураецца:

Вось вам нахабнае мурло
Расійскага самадзяржаўя...

"Думаючы пра Беларусь", Бураўкінаў Ленін так выказваўся ў творы:

Змяце народ цароў, чынуш –
I беларусаў свет прызнае...

I далей:

Яшчэ адна рэспубліка пад сцягам –
Дзяржаўнасць аб'яўляе Беларусь.
Вось і адказ усім буржуйскім звягам...
Не затрымаць рэвалюцыйны рух!..

Скарыстоўваючы імя пралетарскага правадыра, літаратары знаходзілі магчымасць хоць іншасказальна, але выказаць свае "крамольныя" думкі, крытыкаваць таталітарную сістэму.

Рускі паэт Андрэй Вязнясенскі нават паквапіўся быў у адным вершы на самога бальшавіцкага бога:

Уберите Ленина с денег!..

Клікаць "убирать" з грошай вялікага правадыра яшчэ можна было: грошы ж нешта не зусім "чыстае", капіталістычнае. Але кліч паэта сягаў далей: не толькі з грошай надыходзіў час здымаць стваральніка "імперыі зла", а і з усіх яго п'едэсталаў, з іканастасаў, з мазгоў, увогуле з жыцця. З грошай – гэта была толькі першая прыступка.

Грэшны, я таксама хацеў пакарыстацца гэтым імем у вершы "Вучыцца ў Леніна нам трэба", каб падняць свой голас супраць засілля савецкіх бюракратаў у нашым жыцці. Але, мусіць, занадта глыбока ў падтэкст загнаў я там свае думкі, свой пратэст.

Адкрыта і бескампрамісна загучаў голас Генадзя Бураўкіна ў новым, “перабудовачным” часе. Што найбольш хвалявала і абурала паэта, дык гэта ганебнае рабалепства ўладнай “вертыкалі”, чыноўнікаў усіх рангаў перад “старэйшым братам”, хоць ён, гэты “брат”, толькі і чакае выпадку, каб ускочыць у хату дурнога беларуса і, з пагардай адпіхнуўшы, усесціся на яго стол з нагамі. Дзеля яго, “старэйшага брата”, прадажныя вертыкальшчыкі бессаромна топчуць самае святое – спрадвечную мову свайго народа:

Ну што, Беларусь, у цябе за сыны? –
Хто быў паштаром,
Плугаром
Ці падпаскам,
Як толькі праб’ецца хоць трохі ў чыны,
Забыць цябе лічыць сваім абавязкам.

Ад хлева вясковага вернуць лычы,
Хоць бацькава сала ядуць як зазвычай,
І матчыну мову гатовы лічыць
І “беднай”,
І “хамскай”,
І проста “мужычай”...

Ну што ж,
Калі нехта гатоў і чалму
Надзець,
Каб на месцы сваім утрымацца.
Адно толькі сэрца сціскае:
Чаму,
Чаму іх так многа ў цябе,
Мая Маці?..

Пра гэта ж і ў другім вершы:

Я думаю,
Думаю,
Думаю,
Пытаюся «як?» і «чаму?»
Пра долю цяжкую і сумную,
Што выпала краю майму...

Як быццам нявольніцкай сеткай
Аблыталі крылы яму
І сілай і славай суседскай
Змушаюць скарыцца ярму.

А да гэтага верша эпіграфам узяў Генадзь Бураўкін вядомыя радкі Максіма Багдановіча: “Беларусь, твой народ дачакаецца залацістага, яснага дня”. Сто гадоў прайшло з таго часу, як пісаўся Багдановічаў верш, а Беларусь так і не дачакалася свайго светлага дня. Як і тады, яна ўсё яшчэ застаецца ў згубных абдымках “старэйшага брата”, які аніяк не збіраецца адпускаць яе ў свабоднае плаванне. А “талерантныя” беларусы ніяк не могуць разгледзець, дзе іх абаронца, а дзе магільшчык.

Адсюль – нязбыўны боль паэта:

Я не дбаю пра ўласную славу,
Не чакаю сабе ўзнагарод.
Толькі крыўдна даўно за дзяржаву
І за свой цягавіты народ.

На здзіўленне суседняму люду,
Ён зусім не такі, як усе, –
То прыгрэе дурнога прыблуду,
То вар'ята высока ўзнясе...

Калі надарылася магчымасць выдаць Генадзя Бураўкіна ў серыі "Беларускі кнігазбор", я даў яму поўную волю ў выбары для аднатоміка твораў. Генадзь уключыў у яго самае значнае з паэзіі, а таксама з публіцыстыкі і крытыкі. Хораша глядзіцца там і блок ілюстрацый. Яго бацькі, сваякі, студэнцкія сябры. Ён – з жонкай Юляй. З Аркадзем Куляшовым. З малдаўскім паэтам Паўлам Боцу і Іванам Мележам. З рускім Андрэем Вазнясенскім. З украінцам Іванам Драчом. Таксама з украінцамі Лінай Кастэнка і Барысам Алейнікам. З Петрусём Броўкам. З Пятром Клімуком. З балгарскім паэтам Найданам Вылчавым. З Васілём Быкавым. З Рыгорам Барадуліным. З Нілам Гілевічам, Уладзімірам Някляевым і Віктарам Казько. З фотамайстрам Яўгенам Коктышам і акадэмікам Радзімам Гарэцкім. Ну і са сваім вялікім сямействам.

Прэзентацыю кнігі Генадзь наладзіў у сваёй кватэры – у доме, што ў двары "Акадэмкнігі". Запрасіў усіх, хто прычыніўся да выдання яго аднатоміка: Уладзіміра Някляева – аўтара прадмовы, выдаўцоў – мяне і Генадзя Вінярскага, а таксама пісьменніка і прадпрымальніка Алеся Усеню і журналіста Аляксандра Старыкевіча, якія дапамаглі прафінансаваць кнігу.

Вельмі добра, зусім раскавана гаманілі мы ў сямейным і сяброўскім коле Бураўкіных. Я, прыкладам, падбіваў там Генадзя ўзяцца пісаць успаміны. Ён жа быў у самым цэнтры ўсіх падзей другой паловы мінулага стагоддзя. Колькі цікавага, патрэбнага і павучальнага мог бы ён расказаць пра родную вёску Тродавічы на Расоншчыне, пра бацькоў, пра дзяцінства і юнацтва, пра сваю працу ў часопісе "Камуніст Беларусі", на Беларускім радыё, у газетах "Літаратура і мастацтва" і "Праўда", у часопісе "Маладосць", у Дзяржаўным камітэце БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні на пасадзе яго старшыні, у ААН, пры якой ён быў пастаянным прадстаўніком Рэспублікі Беларусь. Генадзь абяцаў з часам засесці за ўспаміны. Але, на вялікі жаль, так за іх, наколькі я ведаю, і не ўзяўся.

Астатні раз я спаткаўся з Генадзем Бураўкіным на праспекце Незалежнасці паблізу "Акадэмкнігі". Гэта было якраз у час паўстання ўкраінцаў на кіеўскім Майдане і выгнання прарасійскага прэзідэнта Януковіча. Мы з трывогай гаварылі пра гэтыя вызначальныя для Украіны ды ў нейкай ступені і для Беларусі падзеі. Генадзь выказваў спадзяванне, што Украіна вырвецца, нарэшце, з кіпцюроў расійскіх імперыялістаў і стане паўнапраўнай еўрапейскай дзяржавай. А ўслед за ёю – рана ці позна – пойдзе і Беларусь.

Я быў у сваёй Зялёнай Дуброве, калі пачуў гэтую сумную вестку: памёр Генадзь Бураўкін! Доўга хадзіў я маімі роднымі ваколіцамі, прыгорблены думамі. Як будзе не хапаць яго ўсім нам! Мы страцілі не толькі блізкага сябра, добрага і зычлівага чалавека, таленавітага, вельмі самабытнага паэта, але і выдатнага дзяржаўнага дзеяча, які мог бы стаць ідэальным кіраўніком Беларусі. Ды нікчэмныя кар'ерысты-невукі, хітрыя і нахабныя ўладахопы і блізка не падпускалі яго да ўладных структур. Нават ні разу не далі яму выступіць перад народам па тэлебачанні, тым тэлебачанні, якое ён, Генадзь Мікалаевіч Бураўкін, да гэтага ўзначальваў і зрабіў папраўдзе беларускім, вывеўшы на еўрапейскі ўзровень.

*19. 10. 2015*

Эдуард Дубянецкі



...можна толькі ганарыцца тым,
што ў нас быў такі непаўторны Майстар...

# Загадка Стральцова

## *Да 80-годдзя пісьменніка*

“Загадка Багдановіча”, “Загадка Стральцова”... Яны з’яўляюцца, бадай, дзвюма самымі вядомымі і складанымі ў гісторыі беларускай літарататуры загадкамі, звязанымі з жыццёвым і творчым шляхам двух выбітных пісьменнікаў. І сапраўды, вось дзве незвычайныя таямніцы, высветліць якія айчынным літаратуразнаўцам і прыхільнікам творчасці гэтых творцаў хочацца ўжо не адно дзесяцігоддзе. І калі ў разгадку феномена Багдановіча Стральцоў зрабіў свой неацэнны ўнёсак, то разгадаць загадку самога Міхася Лявонавіча час настойліва патрабуе – тым больш гэта важна паспрабаваць зрабіць напярэдадні яго 80-гадовага юбілею. Пра яе, дарэчы, асобныя калегі па творчым цэху юбіляра пачалі гаварыць ледзь не адразу пасля яго смерці. Прычым першым сярод іх быў, здаецца, яго даўні сябар Рыгор Барадулін, які ў сваім бліскучым эсэ «Конь гуляў на волі...» (1995) слушна падкрэсліваў, што Міхась Стральцоў валодаў надзвычай рэдкім абсалютным літаратурным слыхам і такім жа абсалютным адчуваннем слова, а таксама заклікаў літаратуразнаўцаў да разгадкі ягонай загадкі, дзеля чаго варта было б найперш паспрабаваць адказаць, адкуль

у Стральцова ўзяліся гэтакія веды, гэтакая празорлівасць і гэтакая нястомнасць. А мы тут рызыкнем дадаць да слоў Народнага паэта Беларусі яшчэ колькі пытанняў: адкуль такая яго мастакоўская ўніверсальнасць, такі неабсяжны творчы дыяпазон, адкуль такая інтэлектуальнасць і філасафічнасць твораў, такая глыбіня спасціжэння асобы, народа і (Су)свету.

Адкуль, адкуль, адкуль... Падобныя пытанні можна доўжыць і доўжыць, але ж тут свядома спынімся і ўсё-ткі паспрабуем разгадаць гэтую загадку (сваю версію адгадкі дадзім у канцы эсэ), папярэдне высветліўшы адметныя рысы шматграннай творчасці Міхася Стральцова.

***

Адной з галоўных прыкмет любога выдатнага і тым больш геніяльнага пісьменніка з'яўляецца, на маю думку, ягоная творчая ўніверсальнасць, пра што сведчыць уся гісторыя замежнай і айчыннай літаратуры. Такія самыя таленавітыя творцы звычайна яскрава выяўлялі сябе як у розных жанрах літаратуры (проза, паэзія, драматургія, эсэістыка, літаратурная крытыка), так і ўнутры кожнага з гэтых жанраў. Напрыклад, найбуйнейшыя замежныя і айчынныя паэты (Гётэ, Байран, Гюго, Пушкін, Багдановіч, Купала) пісалі таксама арыгінальныя празаічныя (ц)і драматургічныя творы, выдатныя драматургі (Шэкспір, Ібсен, Стрындберг) і празаікі (Набокаў, Джойс, Гесэ) стваралі таленавітыя вершы.

У цэлым, творчасць Стральцова ўяўляе сабой унікальны выпадак у гісторыі айчыннай літаратуры, паколькі пісьменнік паспяхова сцвердзіўся амаль ва ўсіх літаратурных жанрах (прозе, паэзіі, эсэістыцы і крытыцы), акрамя хіба што драматургіі. Інакш кажучы, яго празаічны, паэтычны, эсэістычны і літаратурна-крытычны таленты былі практычна роўнавялікія, што з'яўляецца бясспрэчным мастацкім феноменам, недасяжным нікому з айчынных пісьменнікаў у сучасны перыяд. Пры гэтым варта яшчэ дадаць, што калі б Стральцоў меў магчымасць пражыць у добрай фізічнай і творчай форме яшчэ хаця б пару дзесяцігоддзяў, то ён, верагодна, мог бы пачаць пісаць арыгінальныя п'есы ці, прынамсі, драматычныя паэмы. Тым больш што ў яго празаічных і паэтычных творах нярэдка сустракаюцца цікавыя і ёмістыя дыялогі, якія маглі б стаць добрай асновай для напісання выдатнай п'есы – магчыма, трагікамедыі. Маглі б, але ж, але ж... Усемагутны і няўмольны Час адвёў Стральцову толькі паўстагоддзя зямнога жыцця, за якое аўтар паспеў стварыць мноства незабыўных мастацкіх твораў.

Надзвычай таленавітае (а мо й геніяльнае?) пяро Стральцова магло напісаць як цудоўнае апавяданне, аповесць, так і вытанчаны верш, як змястоўнае эсэ, так і тонкую рэцэнзію. І ўсё гэта насамрэч на недасяжным для большасці творцаў інтэлектуальным і мастацкім узроўні, ярка, вобразна, захапляльна й пераканальна, а часам і яўна па-наватарску. Калі ж больш падрабязна казаць пра паэзію, універсальнасць Стральцова адразу кідаецца ў вочы, паколькі яго таленту былі аднолькава падуладныя, з аднаго боку, вершы кароткія (мініяцюры) і сярэдняга і большага аб'ёму, класічныя традыцыйныя і свабодныя (верлібры), а з другога боку, вершы філасофскія, пейзажныя, любоўныя, грамадзянскія і нават жартоўныя. А з гісторыі літаратуры даўно вядома, што толькі творцы вялікай ступені адоранасці могуць ствараць на нязменна высокім мастацкім узроўні вершы па-сапраўднаму арыгінальныя і ў той жа час разнастайныя па сваіх формах, жанрах, відах, памерах і інтанацыях.

Яшчэ адной відавочнай рысай Стральцова можна небеспадстаўна лічыць яго творчую смеласць, нават дзёрзкасць, і відавочнае наватарства. На маю думку, пісьменнік быў па-мастацку (і па-чалавечы таксама) адважным чалавекам, паколькі асмеліўся выпускаць свае кнігі без агульнапрынятых у тыя часы ідэалагізаваных славаспеваў у адрас партыі, Леніна, камсамола, без якіх у тыя застойныя часы не мог абысціся амаль што ніводны тагачасны пісьменнік. Нават у адным са стральцоўскіх

вершаў сустракаюцца крамольныя для той атэістычнай эпохі словы пісьменніка аб тым, што “бог ёсць”. І, відаць, яшчэ больш важна тое, што Стральцоў праяўляў адмысловую творчую смеласць тады, калі ў сваіх кнігах (асабліва ў першым зборніку “Ядлоўцавы куст”) шмат эксперыментаваў з вершаванымі памерамі, вобразнасцю, рытміка-інтанацыйным малюнкам верша, кампазіцыяй і строфікай твора, шырока карыстаўся малараспаўсюджаным у той перыяд свабодным вершам (верлібрам), чым у пэўным сэнсе апярэдзіў нават такога бліскучага паэтычнага эксперыментатара і наватара, як Алесь Разанаў. Нездарма, відаць, адну са сваіх паэтычных мініяцюр Стральцоў пачынае дзёрзкім воклічам “Абнаўлення хачу я, хачу абнаўлення!”, а другі верш заканчвае паказальнымі словамі “не менее ў сэрцы адвагі”. Аднак дзеля справядлівасці адзначым, што ў параўнанні з першым зборнікам дзве яго наступныя паэтычныя кнігі выглядалі ўсё ж не такімі наватарскімі, менш багатымі на творчыя знаходкі (напр., у гэтых зборніках стала менш верлібраў і адпаведна значна больш традыцыйных рыфмаваных вершаў, у іх не было столькі разнастайных рытмаў). Прычынай гэтага было, відаць, тое, што, яскрава прадэманстраваўшы свой агромністы паэтычны арсенал, творца свядома адмовіўся ад фармальных пошукаў і вырашыў пайсці далей шляхам, так бы мовіць, паглыблення ў нетры ўласнай душы і чалавечай (шырэй – народнай) псіхалогіі.

Відавочная творчая дзёрзкасць Міхася Стральцова праявілася яшчэ і ў тым, што адзін са свах твораў – аповесць «Адзін лапаць, адзін чунь» (1966) – ён упершыню ў айчынным прыгожым пісьменстве пачаў і скончыў... нерыфмаванымі вершамі. А такога, па-мойму, раней не было не толькі ў беларускай, але і ў замежнай літаратуры, – хаця, канечне, у асобных знакамітых пісьменнікаў – найперш у тых, якія адначасова былі і празаікамі, і паэтамі (скажам, Герман Гесэ, Уладзімір Набокаў), былі мастацкія творы, у якіх у празаічны тэкст арганічна ўпісваліся і вершы. Акрамя таго, ён стварыў і незвычайнае для айчыннага прыгожага пісьменства «апавяданне ў апавяданні» («Смаленне вепрука», 1973), у якім у адно цэлае зліліся рэальнасць і сон, успаміны і роздумы, задумы. У значнай ступені наватарскім можна лічыць таксама і шырокае пранікненне ў ягоныя празаічныя і паэтычныя творы г.зв. «плыні свядомасці» (у выглядзе сноў, прадчуванняў, мрояў), што таксама было малаўласціва нашай літаратуры да Стральцова.

Нават беглы агляд яго творчасці пераконвае, што практычна на ўсім працягу свайго творчага шляху (а ён доўжыўся амаль тры дзесяцігоддзі!) ён быў па сутнасці пісьменнікам-мысляром, філосафам-мастаком. Дарэчы, апошняе азначэнне – “філосаф-мастак” – выкарыстаў сам Стральцоў у сваім знакамітым эсэ “Загадка Багдановіча” ў дачыненні да самага маладога айчыннага класіка. Прыблізна тое ж можна сказаць і пра героя нашага артыкула, прычым відавочныя прыкметы гэтай філасофскай заглыбленасці, няспешнай, спакойнай роздумнасці можна знайсці як у асобных яго вершах, так і ў некаторых апавяданнях, эсэ, літаратурна-крытычных працах і нават лістах да сваякоў, сяброў.

У якасці доказаў адмысловай філасафічнасці Стральцова спынімся толькі на разглядзе ўяўленняў пра такія, здавалася б, адцягнена-абстрактныя філасофскія катэгорыі, як Вечнасць і Час. Напрыклад, у адным з лепшых і самых вядомых сваіх апавяданняў “Сена на асфальце” (1963) Стральцоў у вусны галоўнага героя твора ўкладвае арыгінальныя развагі не толькі пра зямлю, пра адрозненні паміж вёскай і горадам, але і пра месца чалавека ў часе і эпосе, урэшце, пра своеасаблівае судакрананне асобы і вечнасці. Дык вось, той чалавек, ад імя якога там вядзецца аповед, успамінае, што калі ён аднойчы ўбачыў з самалёта неба, то яму ў нейкі міг здалося, нібыта ён пачаў пазнаваць саму “вечнасць – халодную вечнасць, прывабную і чыстую, як залацістае ззянне аблокаў”. І адразу за гэтым да яго прыйшла нечаканая думка аб тым, што “там, дзе душы кранаецца вечнасць, не існуе мяжы паміж жыццём і смерцю”. Ці, напрыклад, у сваёй аповесці “Адзін лапаць, адзін чунь” (1966) Стральцоў гаворыць пра аднаго са сваіх персанажаў, што той, адчуўшы

адразу пасля сну пустату ў галаве і ў сэрцы, пазней раптам зразумеў, што "так краналася яго сваім крылом празрыста-халодная вечнасць, ці іначай – небыццё" .

Тут цікава параўнаць, скажам, стральцоўскае ўспрыманне вечнасці з мастацкім асэнсаваннем гэтай філасофскай катэгорыі якім-небудзь іншым "філосафам-мастаком". Дык вось, у адрозненне ад нашага выбітнага пісьменніка, нямецкі паэт і філосаф-містык Наваліс яшчэ ў 18 ст. выказаў парадаксальную думку пра тое, што менавіта ўнутры нам саміх "і болей нідзе – знаходзіцца вечнасць з яе светамі, мінуўшчына і прышласць". Атрымліваецца, што калі для Стральцова вечнасць – гэта своеасаблівы знешні феномен, які знаходзіцца дзесьці па-за чалавекам, то для яго замежнага папярэдніка, наадварот, чыста ўнутраны, іманентны чалавечай прыродзе.

Неардынарныя радкі на тую ж тэму вечнасці знаходзім таксама і ў адным са стральцоўскіх вершаў: "Чаму так згадваем былое...":

...Але ж і болей чым імгненне //
Не прыме вечнасць ад цябе.

Больш за тое, пэўныя праявы вечнасці аўтар знаходзіць нават на... чалавечым твары, пра што недвухсэнсоўна гаворыцца ў вершы "Неўладкаваным быць паэт павінен...":

Глядзіце – вось! – не ў золаце апратка.
Маланка б'е. Цярусіцца імжа.
І час ідзе. І твар рассекла складка –
Сучаснасці і вечнасці мяжа.

Што ж датычыцца поглядаў Стральцова на месца і ролю Часу ў ягоным жыцці, то асэнсаванню гэтага філасофскага пытання пісьменнік прысвяціў нават асобны верш "Размова з часам" са свайго зборніка "Ядоўцавы куст" (1973). Як на маю думку, гэты твор з'яўляецца адным з найлепшых у паэтычнай спадчыне творцы, паколькі ў ім надзвычай гарманічна зліліся ў адно непадзельнае цэлае, здавалася б, такія зусім несумяшчальныя рэчы, як філасафічнасць і эмацыянальнасць, узнёсласць і заглыбленасць у штодзённую побытавасць. Пра вышэйназваныя рысы яскрава сведчаць, напрыклад, наступныя радкі з гэтага твора, у якіх аўтар кідае своеасаблівы дзёрзкі выклік усемагутнаму Часу:

...І ўсё ж ты не бацька мне. Я – не дзіця.
Сапернік я твой, хоць тваё спараджэнне.
Законы спазнаўшы твае, з небыцця
Не стану выводзіць сваё нараджэнне.
..............................................................................
Спасцігнуць усё праз цябе я хачу,
Табою маё ўсё няхай апякуецца.
Знай пункты гульні.
А паруш – закрычу,
Аж голас у веку наступным пачуецца.

Лічу, што Міхась Стральцоў мог бы сябе бліскуча праявіць і як сапраўдны метафізічны паэт – г.зн. такі творца, які найперш імкнецца спасцігнуць складаныя філасофскія праблемы быцця, асэнсаваць узаемаадносіны чалавека з Богам, з Часам, з (Су)светам. Прычым тут адметна тое, што нават у такім складаным і рэдкім стылі "метафізічнай паэзіі" ён стараўся быць максімальна ясным і дакладным, тады як некаторыя іншыя замежныя і айчынныя паэты-метафізікі нярэдка пісалі вельмі складана і нават цьмяна. Красамоўным прыкладам такога імкнення аўтара да асэнсавання няпростых праблем простымі словамі можа служыць вышэйназваны верш "Размова з часам", у якім аўтар, так бы мовіць, не лезе ў своеасаблівыя "метафізічныя джунглі", а даступна, лаканічна, эмацыянальна-ўзрушана і ў лёгкай для чытання форме апавядае пра тое, што моцна хвалюе сэрца і розум.

Увогуле, проза і паэзія Міхася Стральцова багатыя на арыгінальныя думкі, нечаканыя асацыяцыі і смелыя метафары, а таксама вызначаюцца відавочным лірычным характарам, пачуццёвай афарбаванасцю, духоўным ды інтэлектуальным напружаннем. Няцяжка заўважыць, што ягоная проза часам відавочна набліжаецца да паэзіі (своеасаблівыя вершы ў прозе), а паэзія ў некаторых сваіх праявах нагадвае лірычную прозу. Гэтыя дзве самыя распаўсюджаныя ў свеце галіны літаратуры ў творах такога выдатнага пісьменніка, як Стральцоў, нярэдка нібы сплаўляюцца, сінтэзуюцца і ў выніку атрымліваецца нешта яшчэ больш адметнае і цікавае. Таму й невыпадкова сустракаецца ў адным з яго вершаў паказальнае выслоўе пра "саюз паэзіі і прозы".

Улічваючы той факт, што ў Стральцова няма яўна ідэалагізаваных ды палітызаваных твораў, некаторыя сучасныя пісьменнікі (напр. Альгерд Бахарэвіч у сваім "Гамбурскім рахунку") спрабуюць давесці ідэю пра выключную несавецкасць і ледзь не антысавецкасць Міхася Лявонавіча. Але ж, на мой погляд, вось так безапеляцыйна казаць пра Стральцова ўсё ж не выпадае. Чаму? Ды галоўным чынам таму, што творцы такога маштабу аніяк не могуць быць "зведзены" да нейкага аднаго знамянальніка – тым больш, калі ў аснову апошняга закладзены грамадска-палітычны чыннік (савецкі альбо несавецкі/антысавецкі). Такія надзвычай адораныя пісьменнікі звычайна ніколі "не ўпісваюцца" ў жорстка акрэсленую ідэалагічна-палітычную сістэму каардынатаў, бо яны заўжды "вытыркаюцца" з яе, ці, фігуральна кажучы, уздымаюцца адначасова як над вышэйназванай сістэмай каардынатаў, так і над усёй палітычнай сістэмай у цэлым. Прычым гэта датычыцца амаль усіх самых буйных літаратараў, нават нягледзячы на тое, што ў творчым "багажы" некаторых з іх магла быць большая ці меншая колькасць саветызавана-пафасных твораў, напісаных альбо дастаткова шчыра, альбо, наадварот, свядома дзеля атрымання пэўных матэрыяльных дабротаў (званняў, прэміяў, пасадаў, кватэраў).

Канечне, у Стральцова сапраўды не было падобных опусаў, але дзеля справядлівасці ўсё ж варта адзначыць, што нярэдка ў творах пісьменніка сустракаюцца характэрныя прыкметы савецкай рэчаіснасці, а ў асобных вершах можна знайсці, напрыклад, некаторыя праявы тыповага для тых часоў сацыялістычнага патрыятызму. Тым больш, не будзем тут забываць, што Стральцоў афіцыйна працаваў у розных перыядычных выданнях, быў членам Саюза пісьменнікаў, у яго выйшла нямала кніг прозы, паэзіі і літаратурнай крытыкі. Таму ў дадзеным выпадку, здаецца, лепей гаварыць не пра яго несавецкасць/антысавецкасць, а пра своеасаблівую надсавецкасць – г.зн. прыўзнятасць творцы над афіцыйнай камуністычнай ідэалогіяй, якая, метафарычна гаворачы, толькі ледзь-ледзь закранула яго сваім агромністым чорным крылом. У кантэксце разглядаемай праблемы я павінен шчыра прызнацца, што аднойчы ў паўсне мне прымроілася, нібыта Міхась Лявонавіч не ішоў бяздумна па шырокім праспекце ў агульных шумных шэрагах разам з большасцю тагачасных творцаў, а, адышоўшы ўбок, моўчкі стаяў у ціхім завулку і, выкурваючы адну цыгарку за другой, з ледзь бачнай усмешкай спакойна думаў пра нешта сваё – патаемнае, даўно выспелае ў душы і ў той жа час высока-недасяжнае для ўсіх іншых...

Стральцоў, як, бадай, кожны высокаадораны творца быў пісьменнікам надзвычай match рознабаковым і шматаблічным. У сваіх творах ён (і яго лірычны герой) мог выступаць чалавекам і правінцыйным, і гарадскім, і нацыянальным, і наднацыянальным, касмапалітычным і нават, калі хочаце, касмічным. Пра праявы ягонай шчырай любові да роднай зямлі сведчаць, напрыклад, упамінанні ў вершах пра сваё вясковае дзяцінства, неаднаразовыя згадванні чыста сялянскіх прыладаў працы, традыцыйных страваў, народнага адддзення. А на пэўную планетарнасць і касмічнасць айчыннага паэта паказваюць, скажам, упамінанні розных далёкіх краёў (напр., Іспаніі часоў Лоркі ці джунгляў), а таксама наступныя красамоўныя радкі з "Двух подступаў да верша": "Паклічу мару. Абляцім // Сваю планету". У цэлым паэтычная творчасць

Стральцова, вырастаючы з уласна беларускай зямной прасторы штодзённага побыту і традыцый, тым не менш часам паступова ўзвышалася-пашыралася да нябеснай прасторы сусветнага мастацтва, да асэнсавання агульначалавечых каштоўнасцяў.

Пры разглядзе творчай спадчыны Стральцова нельга, безумоўна, не сказаць колькі словаў і пра яго выключную патрабавальнасць да сябе, відавочную самакрытычнасць, што ў выніку натуральным чынам спрыяла стварэнню многіх сапраўдных мастацкіх шэдэўраў. Ужо першая яго паэтычная кніга ўяўляла сабой ледзь не адзіны выпадак у айчыннай паэзіі, калі ў літаратуру прыйшоў аўтар адразу з вельмі сталымі і амаль бездакорна-дасканалымі творамі. Праўда, нешта падобнае адбылося роўна за 60 гадоў да гэтага, калі геніяльны Максім Багадановіч выдаў свой славуты "Вянок" – вяршыню айчыннай паэзіі і своеасаблівы падручнік паэтычнага мастацтва. Мне здаецца, што, як багдановічаў "Вянок" быў лепшай паэтычнай кнігай першай паловы 20 ст., так і "Ядлоўцавы куст" стаў адной з найлепшых кніг другой паловы мінулага стагоддзя і адначасова з тым – адмысловым дапаможнікам па майстэрстве вершаскладання.

Як незвычайныя з'явы ў творчай біяграфіі Міхася Стральцова можна разглядаць тое, што ён, па-першае, актыўна і сістэматычна пачаў пісаць вершы параўнальна позна (недзе ў другой палове 1960-х гг., калі яму было каля 30 гадоў), а па-другое, калі творца ўзяўся за паэзію, то ледзь не адразу перастаў пісаць прозу. Што ж гэта за дзіва такое, што ж за парадокс?! Відаць, былога вядомага празаіка і крытыка захліснула магутная хваля паэтычнага цунамі, якая з марскіх далячыняў і глыбіняў прынесла яму цудоўныя каменьчыкі-вершы. Прычым захліснула цалкам і беспаваротна, выклікаючы нярэдка творчую зайздрасць многіх калег па пяру, якія спачатку не хацелі ў ім прызнаваць чалавека, што можа з аднолькавым поспехам працаваць не толькі ў галіне прозы, але і паэзіі, якую Іосіф Бродскі ў сваіх эсэ і лекцыях шматкроць называў "вышэйшай формай існавання мовы і славеснасці". Ды як бы там ні было, але ж гэты нібыта запознены прыход Стральцова ў паэзію дазволіў яму прадставіць на суд грамадскасці вершы адразу сталыя, чаму, безумоўна, паспрыялі і ўжо немалы жыццёвы вопыт аўтара, і адточаны прозай бліскучы літаратурны стыль, і няспешная дапрацоўка, шліфоўка вершаў.

Паколькі Стральцоў заўжды быў чалавекам вельмі самакрытычным, патрабавальным да сябе, то гэта давала яму належны імпульс, штуршок да далейшага творчага самаўдасканалення. Можа, якраз таму і напісаў ён за сваё паўвекавое жыццё адносна няшмат у параўнанні з многімі сваімі калегамі. Так, няшмат, бо ім, відавочна, узважвалася кожнае слова, з якіх удумліва выбіраліся тыя самыя лепшыя, што ў найбольшай ступені дапамагалі выяўленню творчай задумы. Часам, праўда, гэтая самакрытычнасць магла быць і занадта жорсткай, празмернай, што ў сваю чаргу, наадварот, патэнцыйна магло стрымліваць яго няспынны творчы рост. Аб гэтым сведчаць некаторыя лісты Стральцова да сваіх калег-пісьменнікаў – напр., у лісце да празаіка Міколы Капыловіча (25 мая 1964 г.) ён бязлітасна і неабгрунтавана сцвярджае, што яму "сорамна за сябе, што нічога яшчэ не зрабіў, што невысока думаеш, не ўмееш працаваць і наогул нічога не ўмееш". І гэта было сказана ў той час, калі ўжо былі напісаныя такія цудоўныя апавяданні, як "Блакітны вецер", "Трыпціх", "Сена на асфальце", і калі ўжо, магчыма, выношваліся задумы іншых, не менш выдатных твораў!

Відаць, сапраўды ўсё ім напісанае выпрабоўвалася (па яго ж словах) "пакутна здабытаю мераю", усё было выпеставана шчырай любоўю да роднага слова, выпакутавана крывёю душы і сэрца. І вось натуральным вынікам гэтай выключнай патрабавальнасці Стральцова было тое, што многія яго творы адразу захаплівалі ўвагу чытачоў, выклікалі ў іх непадробны інтарэс, поўны давер да аўтара і яго разважанняў, сумненняў, пакутаў і г.д. Дарэчы, у нашага юбіляра, здаецца, нават прозвішча было не выпадковае, а ў пэўным сэнсе сімвалічнае. Яно, магчыма, мета-

фарычна нібы намякае на тое, што Стральцоў сваімі (звыш)таленавітымі творамі як вопытны стралок нібыта "страляў" і найчасцей пацэльваў прама ў дзясятачку – маецца на ўвазе, у самы цэнтр душы-сэрца-розуму чалавека, што ў сваю чаргу непазбежна разварушвала ў ім разнастайныя эмоцыі, пачуцці й перажыванні...

***

А цяпер, здаецца, надышоў час раскрыць сваю версію (натуральна, у кагосьці яна можа быць зусім іншая!) абяцанай разгадкі загадкі Стральцова. Але перад тым давайце яшчэ звернем пільную ўвагу на наступныя радкі са стральцоўскіх вершаў, якія, на маю думку, могуць даць нам своеасаблівы ключык да разгадкі:

Тады журботна ўгнуты плечы
І дарагі боль даўніх ран.
Тады наступнасці агеньчык
Міргне, як быццам праз туман

*(з верша «Адгалоскі»)*

На міг здалося: век пячорны
Прыйшоў пад гарадскі парог

*(з верша «На міг здалося: век пячорны...»)*

Той міг пасля шчаслівым назаві,
Што свой звядзе пачатак і канчатак,
Слязу ў вачах і смех у вачанятах, –
Дык не чакай, а дзейнічай, жыві!

*(з верша «Пра што пісаць...»)*

І пагаджае «тут» і «там»
У нашай думцы набалелай,
І нейчы голас шэпча нам
На мове, сэрцу зразумелай

*(з верша «Супакаенне»)*

На маю думку, з усіх вышэйпрыведзеных разваг і назіранняў, а таксама з толькі што працытаваных паэтычных радкоў (а іх можна было б прывесці і больш) вынікае, што Міхась Стральцоў як чалавек надзвычай інтэлігентны, эрудзіраваны і выхаваны, у сваёй творчай практыцы і ў штодзённым жыцці не быў схільны да крайнасцяў, не вызначаўся тыповай для многіх абывацеляў "чорна-белай" логікай, а наадварот, заўжды імкнуўся да ўзаемапаразумення, пагаднення, намацваў шляхі да гармоніі, згоды, прымірэння і своеасаблівага (па)яднання, спрабаваў, так бы мовіць, прабіцца да ісціны скрозь густы лес чалавечых прымхаў, стэрэатыпаў і забабонаў. Добра разумеючы прычыны дысгармоніі ва ўнутраным і знешнім свеце, ён тым не менш нястомна шукаў і часам знаходзіў гармонію ў сваёй душы і ў душах сучаснікаў, шчодра дзяліўся з чытачамі сваімі (не)вясёлымі думкамі, шчырымі перажываннямі й пакутамі, а таксама часам выказваўся наконт магчымых шляхоў пераадолення складаных сітуацый і сродкаў духоўнага самаўдасканалення асобы.

Увогуле, у сваёй шматграннай і разнастайнай творчасці Стральцоў, спачатку паяднаўшы розныя жанры літаратуры, затым у кожным з гэтым жанраў больш-менш гарманічна паяднаў эмацыянальнае і рацыянальнае (emotio і ratio), духоўнае і матэрыяльнае, узнёслае і будзённае, наіўнае і мудрае, пачуццёвае і інтэлектуальнае, прасторавае і часавае, а таксама адметным чынам злучыў гарадское і вясковае, нацыянальнае і касмапалітычнае, і ўрэшце – зямное і нябеснае. Праўда, тут варта дадаць, што гэтае адмысловае мастакоўскае паяднанне ўсё-ткі нярэдка было "афарбавана" нейкімі сумна-роспачнымі колерамі, паколькі найчасцей патрабавала ад аўтара

надзвычайнага напружання, “выцягвала” з творцы шмат душэўных, інтэлектуальных і фізічных сілаў, што ў сукупнасці з пэўнымі жыццёвымі выпрабаваннямі (часовае беспрацоўе, шкодныя звычкі, праблемы ў асабістым жыцці) у канчатковым выніку істотна падарвала творчыя сілы пісьменніка.

Такім чынам, Стральцова ў пэўнай ступені можна лічыць своеасаблівым нястомным паяднальнікам, у чым якраз і заключаецца, з аднаго боку, яго неверагодная сіла як мастака і проста чалавека, а з другога боку, у гэтым жа яго незвычайным і надзвычай рэдкім для пісьменніка ўменні яднаць крайнасці, супрацьлегласці, розныя з’явы і феномены прыроднага і чалавечага жыцця, удумліва сінтэзаваць разнастайныя знешнія мастацкія ўплывы і ўнутраныя (пад)свядомыя імпульсы і ёсць магчымая разгадка загадкі Стральцова. Прычым адметна, што паколькі ён заўжды быў творцам удумлівым, разважлівым, то ён і свайго чытача ды магчымага суразумоўцу заклікаў культываваць у сабе гэтую немалаважную ў жыцці кожнага чалавека якасць, пра што сведчыць, напрыклад, апошняя страфа з ягонага верша “Разбавім збольшага вадой..”:

Вось і разваж усё як след,
Каб звыкнуць днямі і начамі
На белы свет, на вечны свет
Глядзець удумнымі вачамі.

Бясспрэчна, што выключнае яднальнае ці паяднаўчае майстэрства істотным чынам дапамагло Стральцову стварыць нямала выдатных мастацкіх твораў. Аднак толькі само гэтае ўменне, натуральна, аўтаматычна не магло б даць такога плённага выніку. Яно абавязкова павінна было быць падмацавана іншымі спрыяльнымі чыннікамі, і яны ў пісьменніка, безумоўна, былі: гэта і яго прыродная адоранасць, і надзвычайная працавітасць, і бездакорны мастацкі густ, і нястомная прага да дасканаласці, і апантаная цяга да як мага больш поўнай творчай самарэалізацыі.

У заключэнне хочацца нагадаць, што калісьці геніяльны Рыльке ў сваіх “Лістах да маладога паэта” сцвярджаў, што мастацкія творы – гэта такія “загадкавыя істоты, чыё жыццё побач з нашым, часовым, жыццём доўжыцца вечна”. Праўда, тут варта ўдакладніць, што гэтае выслоўе можа прымяняцца толькі да тых твораў, якія з’яўляюцца сапраўды арыгінальнымі, самабытнымі і маюць бясспрэчную мастацкую каштоўнасць. Нам у гэтым сэнсе пашанцавала, бо амаль усё напісанае Міхасём Стральцовым будзе ўпісана, вобразна кажучы, залатымі ці сярэбранымі літарамі ў будучыя падручнікі айчыннай літаратуры. І як своеасаблівы аўтарскі запавет усім нашчадкам гучаць наступныя радкі з апошняга верша ягонай апошняй прыжыццёвай паэтычнай кнігі “Мой свеце ясны” (1986):

Паяднай пачатак і канец –
Азарацца памяці скляпенні,
Каб пад імі сталі палымнець,
Ясніцца мінулыя імгненні.
.....................................................

Мы адчуць іх можам – не вярнуць,
З іх быццём даступна-недаступным,
Іх, што ў дні аднолькава жывуць –
У мінулым, сённяшнім, наступным.

І сапраўды, усё лепшае з створанага нашым класікам-юбілярам будзе, спадзяюся, жыць у памяці ўдзячных нашчадкаў не толькі вельмі доўга, але, можа, нават і вечна. І можна толькі ганарыцца тым, што ў нас быў такі непаўторны Майстар, які нават у не самых спрыяльных абставінах у значнай ступені змог рэалізаваць свой вялікі творчы патэнцыял, свой выключны прыродны і Божы дар.

Іван Штэйнер



...гастранамічная традыцыя
можа ўзнікнуць
толькі ў развітога народа...

# Голад галодных і сытасць сытых

## *Канцэпт голаду ў беларускай і сусветнай літаратуры*

*Працяг. Пачатак у №2 (81).*

Трохгадовая дачка Марыны Цвятаевай, Ірынка, памерла з голаду. Неадольны голад у значнай ступені падштурхнуў і самую славутую паэтэсу да самагубства: яе нават не змаглі ўладкаваць мыць посуд у сталоўку пісьменніцкай суполкі. Прадчуванне будучых трагедый яна метафарычна дасканала ўвасобіла ў афарыстычна-публіцыстычным вершы «...Если душа родилась крылатой», дзе ўпершыню сфармулявала адвечную праблему, з якой чалавецтва змагаецца ад пачатку так званай цывілізацыі:

Что́ Чингисхан ей и что́ – Орда!
Два на миру у меня врага,
Два близнеца – неразрывно-слитых:
Голод голодных и сытость сытых! (1, 108)

Трэба адзначыць, што *галодная* паэтэса не толькі стварае *галодныя* вершы, але і спрабуе вызначыць прычыну іх з'яўлення. Падобныя спробы асэнсаваць зыходны тэзіс зямнога бытавання ў мастацкай традыцыі прадпрымаліся неаднойчы. Прычым

глыбокі сацыяльны аналіз амаль заўсёды саступаў эмацыйнаму пачатку, які звыкла дамінаваў. Так, Э.М. Рэмарк у "Чорным абеліску" усклікаў: *Бессмысленная смерть голодающего ужасна.* Ж-П. Сартр у аўтабіяграфічнай аповесці "Словы" піша пра паміраючых ад голаду дзяцей і ўсклікае, што перад абліччам гінучага дзіцяці ягоная "Тошнота" не мае ніякай вартасці. Рэмарк далей вызначыў сутнасць спрэчкі, якая знайшла мастацкае ўвасабленне ў літаратуры, з дапамогай выслоўя: *Голодный грезит о жратве, а сытому так противно.* Крыху раней Л. Талстой эмацыйна сцвярджаў: *Надо написать книгу ЖРАНЬЕ. Валтасаров пир, архиереи, цари, трактиры. Свидания, прощания, юбилеи. Люди думают, что заняты разными важными делами, они заняты только жраньем (2, 53).* Ніхто не цікавіцца, што адбываецца за кулісамі дзейства, як да яго ставяцца. Сыты галоднаму ніколі не спагадае. Спрадвечнае непаразуменне антаганістаў нараджае класічны афарызм, які прыпісваецца Марыі-Антуанеце: *Калі ў іх (беднякоў) няма грошай на хлеб, хай ядуць піросжныя.* Яшчэ раней Мітрыдаг паслаў Вярхоўнай жрыцы, якая папрасіла ў яго палову гектэя пшаніцы, перцу. Плутарх у жыццеапісанні Лісандра і Сулы бясстрасна канстатуе: *И хотя медимн пшеницы стоил тогда в Афинах тысячу драхм, а люди питались девичьей ромашкой, росшей вокруг Акрополя, варили сандалии и лекифы (*посуд для алею, зроблены са скуры – *І.Ш.), Аристион проводил время в ежедневных попойках и пирушках, не тревожась о том, что священная лампада потухла из-за недостатка масла (3, 113).*

Голад, як, дарэчы, і вайну прадказаць вельмі лёгка, бо яны заўсёды існуюць на зямлі. Асабліва ў нашым краі. У 1913 годзе ў "Новым энциклопедическим словаре" ў артыкуле "Голод как социально-экономическое явление" сцвярджалася: *Вплоть до середины XIX века наименее обеспеченными хлебом и наиболее страдавшими от голодовок являются губернии белорусские и литовские. Самые крупные голодовки николаевского царствования 1833, 1845-46, 1851, 1855 гг. сопровождаются резкой продовольственной нуждой в этом районе, а министр внутренних дел насчитывал для белорусских губерний за три десятка лет 10 голодовок.*

XX стагоддзе ў гэтым плане зусім не выключэнне. У 1934 годзе 14-гадовая Ліліяна Лунгіна, вяртаючыся з Германіі, дзе жыла з бацькамі, жахаецца, убачыўшы на падлозе вакзала ў Негарэлым сотні хворых і знясіленых людзей, якія марна спрабавалі ўцячы ад голаду, бо паміралі ад недаядання. Яна просіцца вярнуцца, але не менш спалоханая маці адказвае, што назад дарогі няма. *За вітрынай рай і ежы поўна, Толькі для гасцей з чужых краін,* – такой паўстае краіна равеснікам П. Панчанкі, якія ў гэты час *сёрбалі ў сталоўцы камбінацкай Вегетарыянскую бурду.*

Гісторыя чалавецтва ніколі не зменіцца, яе ўнутраная сутнасць – велічыня пастаянная. Дарэмна В.Г. Караленка, які некалі пісаў, што на кірмашах маскоўскіх в *Смутное время продавали человеческое мясо*, пасля рэвалюцыі з радасцю ўсклікаў, што *теперь этого не будет. Человечество прожило несколько столетий недаром...* Тым болей, што і сам называў галоўных ворагаў людзей – *четыре монстра: голод, эпидемия, война и революция...* (новая інтэрпрэтацыя чатырох вершнікаў Апакаліпсісу). Галодныя пасляваенныя мінчане з рамана У. Карпава "За годам год" маюць адзіны клопат: *А я от у Заходнюю сабралася. Назбірала такіх-сякіх трантаў, мо вымяняю на крупы ці хлеб...* Бо ежы не было нават у закрытых размеркавальніках: *Месяц канчаўся, і трэба было спяшацца затаварыць карткі. Але мяса і тлушчаў не было, атрымаў парашку і баначку салёных фісташкаў. Фісташкі даваліся замест цукру.*

Па сутнасці, марылі аб адным, як і перад вайною. *От я папаеў бы груш,* – мроіць Юрка з рамана К. Чорнага "Зямля". *Наядаліся толькі ў сне,* – пісала ў 1970 годзе Я. Янішчыц у вершы "Радзіма", паэтычна адлюстроўваючы долю цэлых пакаленняў. Абед маленькіх дрывасекаў другой паловы мінулага стагоддзя з аповесці А. Федарэнкі "Вёска" мала чым адрозніваецца ад посілку сваіх

папярэднікаў пачатку веку з апавядання Зм. Бядулі: *Потым абедалі – разаслалі на тоўстым пні газету, елі мерзлае смачненнае сала, ад успамінаў пра якое і цяпер бягуць слінкі, цыбулю, хлеб.* Амаль тэкстуальна пераклікаецца выснова са шніпаўскім сучасныя назіраннем: *Ядуць рабацягі зжайцелае сала і піва Няспешліва п'юць.*

Голад і сытасць знайшлі сваё ўвасабленне ў адпаведных літаратурах, што панавалі на тэрыторыі краю. Здарылася так, што беларуская літаратура для многіх – суцэльны плач галоднага героя, які жаліцца нябёсам і людзям на долю. Але поруч з'яўляюцца творы, напісаныя прыкладна ў адзін і той жа час і ў адной і той жа мясцовасці. І ўзнаўляюць яны рай на зямлі. Вось што мы бачым ў энцыклапедыі жыцця XIX ст. паэме "Пан Тадэвуш" А. Міцкевіча, у якім элегантны водар *барбарскага напою* ўзыходзіць над беларускімі гонямі:

...Пах мокка, гушчыня, як мёд пчаліны,
І колер, быццам пацеркі з бурштыну.
З якой прыемнасцю бярэш рукамі
Той кубачак, запраўлены вяршкамі,
І п'еш з прыцмокамі...

Зазвычай пані п'юць уранні каву.
Таму сабе яны другую страву
Абралі: ім слуга па першымківу
Нясе тварог, заліты цёплым півам
І зверху прыаздоблены смятанай (4, 62).

Кантрастнасць карціны значна ўзмацняе і той факт, што кава, чай, шакалад – элітарныя напоі. Гэта не прадукты харчавання, а ўзбуждальныя сродкі. Іх выкарыстоўваюць, каб дасягнуць эйфарыі і забыцца пра штодзённыя клопаты, што падкрэсліваў і Ф. Ніцшэ*: Ніякай вячэры, ніякай кавы: кава тлуміць, чай толькі ранкам карысны. Не многа, але вельмі моцны чай вельмі шкодзіць і робіць хворым на ўвесь дзень, калі ён на адзін градус халаднейшы за патрэбны.* Тут можна ўбачыць пераклічку з выслоўем Чэхава, які гаварыў, што ягоны дзядзька памёр ад таго, што замест пятнаццаці кропель Боткіна, як прапісаў урач, выпіў шаснаццаць. Пра шкоду заморскіх напояў пісаў і Бальзак, які дадаў у гэты спіс гарэлку ці спірт і тытунь. Ён жа расказвае пра шкоду, якую прыносяць пералічаныя інгрэдыенты.

Падобнае ўспрыманне было пануючым, невыпадкова В.І. Дунін-Марцінкевіч у вершаванай аповесці "Люцынка, або Шведы на Літве" ўслаўляў часы, калі пілі сваё пітво, а не кітайскія зёлкі (чай) ці турэцкае зерне (каву) (5, 304).

Але не для ўсіх у гэтым краі пахла так смачна, а выгляд харчу цешыў зрок. Рускі паэт і высокі дзяржаўны чыноўнік у адной асобе, Г. Дзяржавін, бачыць зусім іншае ў долі прадстаўнікоў ніжэйшага сацыяльнага класу: «Ѣдятъ хлѣбъ не вѣянный, весною колотуху или изъ оржаной муки болтушку; въ маѣ, іюнѣ и іюлѣ довольствуются, съ небольшою пересыпкою какого-нибудь жита, изрубленными и сваренными травами на подобіе каши; терпя голодъ, такъ бываютъ истощеныы, что съ нуждою шатаются и оттого успѣховъ въ земледѣліи въ семъ краю быть не можетъ» (6, 231).

Паэт – сенатар прыходзіць да тых жа высноў, што і граф Талстой пры канцы XIX стагоддзя, калі паказваў, як пастаяннае недаяданне прыводзіць да фізічнай і маральнай дэградацыі рускага селяніна. Падобныя матэрыялы і артэфакты далі мажлівасць некаторым даследчыкам, найперш культуролагам, прыйсці да глабальных высноў. Здаўна лічыцца, што ўсе беднякі ядуць аднолькава, а ўсе багацеі – па-рознаму. Менавіта таму, сцвярджаюць вучоныя ў гэтай справе, нацыянальная гастранамічная традыцыя можа ўзнікнуць толькі ў развітога народа, у ягоным культурным, шляхецкім саслоўі. Вядомы даследчык ежы Вільям Пахлёбкін у кнізе "Национальные кухни наших народов" якраз на падставе гэтага, а таксама падзелу народа яшчэ і паводле канфесійнага прынцыпу, адмаўляў беларусам у

праве на адметную арыгінальную гастранамічную культуру, а існыя стравы тлумачыў звычайным запазычаннем у больш прасунутых суседзяў. Відаць, аб'едкі з панскага стала траплялі і да бедных беларусаў: *Своеобразие исторических судеб белорусского народа оказало глубокое влияние на формирование и развитие его культуры. Лишенный вплоть до Великой Октябрьской социалистической революции 1917 г. своей национальной государственности, испытавший перекрестное влияние православной, униатской и католической церквей, белорусский народ в трудных, сложных и противоречивых условиях вынужден был отстаивать свои национальные особенности и обычаи, в том числе и материальную культуру, к которой относится национальная кухня.*

*В этих условиях белорусская кухня, с одной стороны, продолжала сохранять близость к кухням окружающих белорусов славянских народов — русских, украинцев, поляков, а с другой стороны, — испытала известное влияние кухонь своих неславянских соседей — литовцев и латышей. Кроме того, кулинарное искусство в восточной и западной частях Белоруссии, долгое время изолированных друг от друга, развивалось неодинаково, подвергалось разному влиянию. Все это мешало закреплению уже сложившихся специфических черт белорусской кухни, тормозило разработку национальных кулинарных приемов и отдельных блюд, свойственных только белорусской кухне (7).*

Мы прыводзім словы позняга Пахлёбкіна, бо на пачатку сваёй навуковай кар'еры ён амаль цалкам адмаўляў беларускай нацыянальнай кухні ў праве на існаванне, лічыў яе другаснай у адносінах да суседскіх. Можа, яму трапляліся спецыфічныя ўзоры мастацкай ці этнаграфічнай літаратуры па праблеме, альбо ён і падумаць не мог пра адметнасць матэрыяльнай культуры брацкага народа. Аднак працягнем супастаўленні. Ваярская шляхта ў гэтую ж эпоху пачынала свой дзень па-свойску, у поўнай адпаведнасці з традыцыямі:

Мужчынам іх сняданак быў паданы
Ў другім раскладзе: смажанай паўгускі,
Язык халодны, скрылікі адгузка,
Правэнджанага на ядлоўцы ўдала.
Так што, здаецца, усяго ставала
Наесціся як стаць і гэтым разам,
Тым больш, што пад канец прынеслі зразы (4, 63).

Шмат і часта ядуць тыя, хто не знаходзіць наталення ў іншых сферах. Аб тым, што чалавека, які не ведае, чым заняць сябе, цягне да ежы, вельмі дакладна расказаў М. Гогаль у "Старасвецкіх памешчыках", героі якіх увесь час нешта перакусваюць. Згадваючы больш далёкіх патрыцыяў, М. Мантэнь падкрэслівае, што *в перерывах между трапезами они закусывали.* Прычым усё служыла гэтаму працэсу, нішто яму не замінала: *Зимою кушанья подавались им на жаровнях,ставившихся на стол. Они имели и переносные кухни со всеми приспособлениями для приготовления пищи: их употребляли во время путешествия* (8, 318). Як далёка яны ад народа, якому падобныя клопаты і не сніліся. Згаданы ж Гаўрыла Раманавіч Дзяржавін у 1800 годзе так апісаў стан сялянства ў Віцебскай губерні: *Заходзіў я ў бліжэйшыя ад вялікай дарогі некаторыя ўладальніцкія сяленні і бачыў знянацку ў бедных хацінах сапраўдны вобраз жыцця пасялян. Лепшыя з іх ядуць пушны, або напалову з мякінай, хлеб, дастаючы і той пакупкай і пазычкай з дня ў дзень на дзённы харч, а іншыя ўжываюць пятую толькі частку жыта, змешваючы з чатырма часткамі мякіны, іншыя ж і гэтага не маюць, а ядуць варанае шчаўе або хлебчуць, як яны называюць, кісліцу, вараную з вотруб'ямі і жамерын, або самую вадкую кісельную сулу. Ад такой стравы ўсе ўвогуле вялыя, худыя і бледныя, нібы мерцвякі. Параўноўваючы іх з самымі беднымі вялікарускімі сялянамі, я не ўсумніўся б сказаць, што яны*

*знаходзяцца ў самым вартым жалю становішчы і церпяць такі голад, які хутка іх паморыць і якога прытым наўрад ці знойдуцца сродкі ў поўнай меры пазбегнуць, калі меркаваць па тым, што ў іх нідзе, ні ў гумнах, ні ў свірнах, няма ніякага хлеба, а таксама жывёлы і свойскай птушкі (выключаючы толькі самую нязначную колькасць коней і кароў) (9, 154-155).* Прычым ён лічыў вінаватымі ў гэтым многіх, найперш палякаў, якія давялі да такога стану мясцовы люд. Салідарызаваўся з ім і вядомы рускі пісьменнік і грамадскі дзеяч Ул. Кігн-Дзядлоў, сын славутай фалькларысткі Елізаветы Паўлоўскай, які сцвярджаў: *их так обработали польская культура и польский порядок, от которых они до сих пор отдышаться не могут.* З гэтай высновай палемізаваў Ф. Булгарын, які прыводзіў прыказку: *В Польше хлеба больше,* і лічыў, што негатыўныя змены і пачаліся якраз пасля краху Рэчы Паспалітай. Вышэй мы згадвалі, што пра беларусаў XIX ст. пісалі многае, аднак, дзякуй Богу, не так, як пра парыяў Англіі: *Угрюмые животные, самцы и самки, рассеяны по стране, грязны и мертвенно бледные, испаленные солнцем, прикованные к земле, которую они роют-перелопачивают с неукротимым упорством, они даже владеют своего рода даром членораздельной речи, и когда выпрямляются, то на них можно заметить человеческое лицо, и они действительно люди. Ночью они возвращаются в свои логова, где они живут на черном хлебе, воде и кореньях.*

Зразумела, што ніхто з апошніх, нават калі мае талент, роўны шэкспіраўскаму, не стане апяваць свой харч надзённы. Толькі пісьменнік са шляхты, накормлены і вольны ад пошукаў ежы, можа спяваць оду, ды што там ода, сапраўдны панегірык нацыянальнай страве:

А ў тым катле тым часам булькаў, чмякаў
Славуты б і г а с – першынец прысмакаў.
Баюся, што не перадам нікому
З гурманаў, а тым болей гарадскому,
Які ён смачны, пах які, бо мова
Не вынайшла ў сваім багацці слова
Для азначэння гэтай нашай стравы... (4, 137)

З якім захапленнем, замілаванасцю і нават любасцю ўзнаўляе Адам Міцкевіч працэс ператварэння звычайна-будзённай гародніны ў велічна-ўзёслы сімвал. Так і працэс пераходу таннага волава ў высакароднае золата ў тыглі алхіміка не апявалі паэты рамантычнага кірунку:

Калі ўсур'ёз сказаць, то саладжава
Яго й хваліць ці трэба – гэта страва
Прыйшлася б нават каралю да густу.
А вараць проста: кіслую капусту,
Якая у сялян, па іх выслоўі,
Найлепшая пажыўнасць у здароўі.
Не менш гадзіны з добрым тлустым мясам
У печы тушаць ці над жарам часам
У сагане, пакуль з вяршка да нізу
Ўсю масу сок і тлустасць не праніжа.
Вось і гатоў ён, бігас наш, – зірніце,
А пах які – язык не праглыніце! (4, 137)

Як гэтае апісанне дысгармаруе з простай канстатацыяй яды стравы з капусты як адной з асноўных у беларускай мастацкай традыцыі. Максім Танк, народны паэт Беларусі, які чытаў класіка на мове арыгінала, пакінуў зусім прыземленыя згадкі ў параўнанні з вялікім рамантыкам: *У чалесніках, на патэльні скварылася некалькі рыжых скварак – падрыхтаваная для капусты заправа* (10, 30). Вось і ўвесь працэс. Ды што там капуста. Зусім інакш успрымаліся нават святочныя застоллі ў леснічоўцы іншых Міцкевічаў з зямлі беларускай, у якіх бліны са скваркай

лічыліся далікатэсам. Якуб Колас імкнуўся знайсці паэзію і ва ўзнаўленні сціплай беларускай ежы. Аднак здарылася так, што тлумачэнне падобнай з'явы велемудрымі даследчыкамі збоку вяло да вялікай філасофіі: *Особенно сильно препятствовали складыванию единой национальной кухни сословные различия, тесно переплетавшиеся с национальными и религиозными различиями. В то время как крестьянство было белорусским и православным, шляхта — белорусской, но преимущественно униатской, привилегированное дворянство в национальном отношении являлось польским, литовским, а в религиозном — исключительно католическим. Отсюда, естественно, возникала разница не только между кухней сельского, местечкового и городского населения, но и различия между «магнатской», «господской», «панской», «шляхетской» кухнями и кухней простого люда. Кухня господствующих классов в Белоруссии и тянущейся за ними шляхты в сильнейшей степени складывалась под влиянием великопольской, а отчасти и немецкой кухни (7).*

Ці не таму ў мастацкай традыцыі, пануючай на тэрыторыі краю, з'яўляліся ўзноўленыя харчовыя забаўкі, якія нават не мроіліся многім. Так, апісанне дэсерту, што падаваўся панам, амаль літаральна нагадвае ўзнаўленне доміка ведзьмы з казкі братоў Грым "Гензэль і Грэтэль", сцены якога складзены з хлеба, страха – з пернікаў, а вокны – з цукру:

З паддону жалабкі яго па беражочкі
Бялелі пенкамі вяршкоў; вышэй драбочкі
Наколатага цукру складзены ў палоскі.
Зірнеш – зазімак тут за хаткай нейкай вёскі:
Снягі перад гумном і пенак снег ля саду;
Далей – зялёны бор, там грудкі мармеладу.
Як быццам хтосьці з цукру, з малака пейзажы
Зімовыя стварыў. Хто ў закід слоўка скажа,
Той саграшыць! А вунь пры доміку ля бору
Гурток людзей, нібы балванчыкі з фарфору.
У кунтушах, а частка ў світках, як і ў вёсках,
Ну, рыхтык скамарохі тыя на падмостках;
У кожнага свой жэст: хто меч, хто кій трымае,
Адно што голасу ім, цацкам, не хапае (4, 347-348).

Падобныя апісанні рыбак і птушак з цеста, размаляваных і прыхарошаных, прадстаўлены ў польскамоўных творах В. Дуніна-Марцінкевіча. Па сутнасці, у параўнанні з сялянствам шляхта жыве ў казачнай краіне. Невыпадкова яна мела абед як велічны рытуал: *Пан рэферэндарый абедаў а другой гадзіне, вячэраў а дзявятай. Штодзённы абед складаўся з супу і шасці блюд, вячэра з трох. Нічога больш не дадавалася, хоць бы і з'ехаліся найпершыя ў краі саноўнікі. Яда была здаровая і багатая, бо з велізарных лясоў, што належалі да Свіслачы і даходзілі да тысячы валок, дастаўлялася, у адпаведнасці з парою года, розных гатункаў дзічына. Штомесяц на кухні забівалі аднаго лася, дзве сарны, дзве ланi-данiэлі са звярынца і мноства рознай птушкі. У сувязі з тым, што сяляне мелі дараваныя ім участкі ці збожжавыя ссыпкі, грашовыя чыншы, а таксама розныя даніны грыбамі, арэхамі і мёдам, кожная хата абавязана была даваць у двор па два адкормленыя каплуны ў год. Там, дзе колькасць хат даходзіла да сямісот, у кладоўках нічога не бракавала. У посныя дні з шматлікіх і добра дагледжаных сажалак на кожнае жаданне дастаўлялі паддастаткам рыбы (11, 3).*

Хаця дзеля задавальнення сваіх прыхамацей чалавек гатовы прыняць што хочаш: *Разум – подлец, оправдает что угодно* (Ф. Дастаеўскі). Кажуць, што некаторыя лічылі бабра рыбінай, каб якраз у пост паласавацца скаромным без граху. Пра гэта пісаў і Ф. Булгарын: *Гастрономы, особенно католические монахи, лакомились бобровым хвостом, состоящим из одного нежного хрупкого жира.* Ён

жа згадвае, што елі і мясцовых чарапах, мяса якіх захоўвала пах духмяных траў, асабліва майарану. Бабра лічылі рыбінай, бо ёсць жа ў гэтай істоты хвост. Мажліва з такіх показак і ідзе не вельмі сур'ёзнае стаўленне да рыбалкі і яе аматараў. Рыбалка – зусім не пачцівы занятак, асабліва вудай. У Чэхава толькі англічанка лавіла рыбу, ды і то факт выкарыстаны для стварэння адпаведнай гумарыстычнай сітуацыі. Гэта забаўка для гультаёў. Ніхто з сялянаў і не падумае, каб у летні дзень пасядзець з вудкай на беразе рэчкі. Толькі тады яна ўспрымаецца станоўча, калі прыносіць наедак, прыварак да нішчымніцы.

Аднак многія пісьменнікі пакінулі згадкі пра багацце водных прастораў, што істотна для нашай гаворкі. Успомнім таго ж Ф. Булгарына*: В Днепре много рыбы. Здесь ловятся осетры, а иногда и стерляди. Особенно вкусная рыба вырезуб (по-здешнему верозуб), которая водится только в системе вод, впадающих в Черное море. Рыба эта имеет клыки, похожие на человеческие зубы* (12, 215). У "Магілёўскай хроніцы" згадваецца, што цару Пятру Аляксеевічу мясцовыя яўрэі прынеслі жывога асятра ў чане (13, 342). Грандыёзна. Як у старажытным Рыме.

Амаль ва ўсіх эпічных творах паказана, як мясцовы люд здабывае дадатковы харч для беднага стала: *Памагала полю балота, ціхія, цёплыя, зарослыя асакою затокі, зацягнутыя тванню канавы з асклізлым ламаччам, смярдзючыя лужыны з цінай і раскай. У Куранях, мабыць, не было такой хаты, якая не мела б рыбалоўнай прылады. Прылады гэтыя былі асобыя: ва ўсім сяле ні ў кога ніколі не вадзілася нерата. Васіль толькі чуў, што на Прыпяці ловяць рыбу нейкімі жалезнымі кручкамі. У Куранях ракі, прастору і глыбіні воднай не было, і снасць тут у людзей трымалася свая, балотная: лазовыя баўтухі, лазовыя таптухі, венцеры, сплеценыя з канапляных нітак кломлі. З кломляй трэба было ісці ўдваіх, утраіх, а з таптухай і аднаму ўправіцца няцяжка. Ускінуў на плячо, занёс лёгкую, амаль не чутную, з белых высахлых дубцоў, сунь у ваду і тупачы, гані рыбу да яе... (14, 42)*

Зусім па-іншаму ўспрымаюць водную стыхію і яе насельнікаў асобы, якім не пагражае голад. Так, дачка пісьменніка піша: *В 1960-е годы рыбный ассортимент был исключительно богат: сомы, щуки, карпы и разная мелочь прямо в больших аквариумах, полки уставлены консервами с крабами. Я в детстве очень не любила консервы "Печень трески"*. Гэта вельмі добра, калі дзіця можа выбіраць і пры гэтым катэгарычна адмовіцца ад таго, што не смачна. Сын селяніна М. Гарэцкі не мае выбару, бо вымушаны есці нават той харч, з якім звязаны не заўсёды станоўчыя асацыяцыі: *І ракаў лавілі. Увечары пойдуць, пучкоў саломы з сабой набяруць, адзін свеціць, другі ловіць. Ракі выпаўзаюць жыравацца: жабу штук пяць смокчуць. Наловяць іх, выхаласяць кішачку, трыбценак выцягнуць. Навараць, пасоляць і жыжу ядуць. Ды без хлеба: няма хлеба. Дык з роту на другі дзень смярдзіць-смярдзіць (15, 20)*. Ракі, паводле Бібліі, адносяцца да нячыстых істот, тым болей, што яны кормяцца падлай, у тым ліку і трупамі. Мастацкая літаратура мае велізарную колькасць прыкладаў, калі чалавек вымушаны есці тое, што ў штодзённай будзёнасці выклікае агіду. Таму пакуты палескіх рабінзонаў, якія спрабуюць з'есці жабу, успрымаюцца з усмешкай: *Выйшаў я на сенажаць, ды з нагана ў жабу бац.*

У класавым грамадстве ўсё скіравана на задавальненне запатрабаванняў адной асобы. Ці пэўнага класу. Як і ва ўсе часы. Так, паводле Плутарха, Пампею дактары параілі з'есці дразда, каб вылечыцца. А летам таго дразда можна было знайсці толькі ў Лукула, які спецыяльна іх гадаваў. І Пампей адмовіўся звязваць сваю долю з ласкай каго-небудзь. У гэтым самаахвярным учынку ён падобны да іншага патрыцыя, які *принимал пищу сидя, так как стал вести суровый образ жизни*.

У розных народаў існуюць казачкі і лічылкі пра галодную істоту, якая праглынае ўсё, што бачыць. Але і сыты чалавек не можа спыніцца ў працэсе паглынання смачнай ежы. Што гэта – памяць пра голад на генетычным узроўні ці проста

разбэшчанасць? Арыстакраты старажытнага Рыму пасля таго, як не маглі болей есці, ішлі ў спецыяльны пакой (*vomitorum*), дзе страўсіным пер'ем казыталі горла, выклікаючы ваніты, каб вызваліць месца для новай ежы. Гэта, відаць, лепш, чым клісцір, які ставіць ваенурач Швейку і кампаніі сімулянтаў, толькі што накормленых далікатэсамі экзальтаванай баранесы. Арганізм няшчасных не зведае чаканай насалоды, бо перш чым страўнікі прымуцца за работу, яны будуць вычышчаны ідэальна.

Засталіся запісы, што гурманы антычнасці маглі адрозніць, ядуць яны засмажаную самку ці самца салаўя. Цяпер, калі пеўчых пташак засталося мала, тое самае гавораць пра ігуану, на якую пераключыліся аматары экзотыкі. Куды там гняздо ластаўкі, суп з чарапахі, хвост кенгуру, поліўка з карамелек, якія паглынаюць літаратурныя героі. Бо і прыдуманыя рэчы саступаюць рэальным. Пра спецыфіку страў туніскага караля пісаў Мантэнь: *У него кушанья начинялись душистыми пряностями, и притом так щедро, что один павлин и два фазана, приготовленные по их способу, обходились в сотню дукатов. Когда их разрезали, то не только в пиршественной зале, но и во всех комнатах дворца и даже в соседних комнатах распространялись сладостные испарения, которые улетучивались нескоро* (8, 134). Існавала нават цэлая навука, як падаваць і як рэзаць стравы. Вось чаму варта пагадзіцца з выслоўем італійца Дж. Рэбора: *Кухня – не изобретение господствующих классов, а их потребность, которую удовлетворяет искусство народа*. Падчас гэтую патрэбу вырашалі надзвычай літаральна. Так, альмавірскі герцаг у часе асады Таледа ад голаду з'еў свайго дзеншчыка; пра гэта герцаг сам піша ў сваіх успамінах і гаворыць, што мяса яго слугі было далікатным, мяккім і сакавітым, а па смаку нагадвала нешта сярэдняе паміж курацінай і асляцінай (16, 174).

Бо і кухары былі, вядома, не са шляхты, як у апавяданні Максіма Гарэцкага "Смачны заяц": *Умельствам кухара ганарыўся сам князь і часта хваліўся гасцям, што другога такога кухара ў ва ўсім краі няма. Кухар гэта ведаў і пільнаваўся не выскачыць з свае славы (15, 257).*

Ён заўсёды стараўся, бо князь мог пахваліць і нават наліць чарку гарэлкі. У адваротным выпадку зацягнуць гайдукі на стайню і так усыплюць, што цэлы тыдзень не зможа ні сесці, ні легчы. Адзін раз такі перасаліў страву. Князь уласнаручна агрэў у вуха, з-за чаго тое загуло, з яго цякло, таму было пастаянна залеплена клоччам, і глядзець на кухара ніхто ўжо не хацеў, але рукамі ягонымі карысталіся.

А калі не хапала майстэрства мясцовага, то экзатычныя стравы дастаўлялі з блізкай Еўропы: *Вячэра пачалася з вустрыц, якіх спецыяльна прывезлі з Гамбурга на некалькіх фурманках*. Бедны Сабакевіч з ягоным страхам перад экзатычным блюдам, адзіны выгляд якога выклікае дзіўныя асацыяцыі і не менш бурныя эмоцыі. Калі б трапіў ён у кампанію да славутага нясвіжскага князя, то, безумоўна, змяніў бы адносіны да далікатэсу. Для герояў жа іншай літаратуры далікатэсам успрымаўся заечы хлеб, клёцкі ў бярозавым соку, фанцікі ад цукерак.

У кнізе Е. Міцельскага "Książe Panie Kochanku w świetle własnej korrespondencji" ад 1891 года згадваецца, што на каляды 1780 года з Рыгі ў Нясвіж дастаўлена 15 бочак свежых і марынаваных вустрыц, цэнтнер перцу, імбіру, карэнняў, мяшкі рызынак і лімонаў, урэшце, 100 галоў "цукру-гандыжброту" і 800 фунтаў кавы. Знамянальна, што *сытость сытых,* як і ў першым выпадку, праз пэўны час знаходзіць сваё абгрунтаванне ў навуковых трактатах, якія з'яўляюцца пасля таго, як гэтую тэму ўславілі паэты. *Он произнес целую речь об этой науке ублаготворения глотки со степенностью и обстоятельностью ученого, словно толковал мне какой-нибудь важный богословский тезис. Он разъяснил мне разницу в аппетитах – какой у человека бывает натощак, какой после второго и какой после третьего блюда; изложил средства, которыми его можно или просто удовлетворить, или возбудить и обострить; дал обстоятельное описание соусов, сперва общее, а затем частное,*

*остановившись на качестве отдельных составных частей и на действии, которое они производят; рассказал о различии салатов в зависимости от времени года, – какие из них следует подогревать, какие лучше подавать холодными, каким способом их убирать и украшать, чтобы они были еще и приятны на вид* (8, 325).

На гэтым фоне вельмі добра гаварыць пра яду тых, хто здабываў харч у полі ці ў лесе. Пра апошняе спяваў у сваёй песні пра гаспадара пушчы славуты паэт-лацініст: *Непераборлівы ў ежы, не жыўшы ў раскошы, Ён без прысмакаў, аб хлебе – здаровы і сыты, Ды і дзічына ж у місе што-небудзь заважыць.* Дзічына – на падносе, а ў місе – гэта часцей за ўсё поліўка, скурка, костка. А можа так і трэба, і ў гэтым вялікая сярмяжная праўда. Невыпадкова А. Чэхаў у апавяданні “Крыжовник” сцвярджаў: *Перемена жизни к лучшему, сытость, праздность развивают в русском человеке самомнение, самое наглое.*

Л. Савёнак таксама разважае над сутнасцю чалавечай натуры ў падобным стылі, бо пакуль чалавек збірае кавалкі з чужых талерак, усё будзе добра. А як толькі нажрэцца чужога хлеба – адразу палезе на вышыню славы, захоча ўлады: *Трымай чалавека голадам, дык ён будзе мець толькі адно жаданне, а накармі яго, дык жаданняў у яго з’явіцца безліч* (17, 256).

І няма чаго спадзявацца на нейкую вышэйшую сілу. Бо і там няма ніякай справядлівасці. Згадаем, што елі багі ў паэме “Тарас на Парнасе”:

Наперш дала яна капусту,
Тады са скваркамі кулеш,
На малацэ крупеню густу
Дае уволю, толькі еж.
І з пастаялкай жур сцюдзёны,
А з кашы сала аж цякло,
Ды і гусяціны пражонай
Уволю ўсім багом было.
Як унясла ж на стол каўбасы,
Бліны аўсяны ў рашаце,
Аж слінкі пацяклі ў Тараса
І забурчала ў жываце (18,48).

Трэба адзначыць, што заможныя персанажы твораў антычных аўтараў мелі стол непараўнальна лепшы, чым беларускія багі. Можа таму і Тарасу выпала такая закусь:

Кіўнуў Зевес – і мігам Геба
Крупені ў міску наліла
І добрую краюху хлеба,
Сказаўшы: еш, – мне падала (18,51).

Што зробіш, такая наша доля. Адзін з герояў Зм. Бядулі рай успрымае вельмі практычна: каб кожную раніцу давалі чарку гарэлкі і селядзец. Падобныя крытэрыі жыцця і ў персанажаў Л. Савёнка: *Ведаў яго* (Выпівоніч-Ецкага – *І. Ш.*) *шчэ за царом. Быў ён тады абшарнікам, меў ладны маёнтак, ну і жыў ён нядрэнна: скварку і чарку меў штодня* (17, 230).

Патрэбна сказаць, што адрознасць ідэалаў характэрна ўсёй цывілізаванай Еўропе і адзначаецца ва ўсіх без выключэння сферах жыцця: у вучобе, у працы, у сексе, у ядзе. У гэтым выразна праяўлена заклапочанасць вышэйшага класа здароўем сялянства, якое не ўсведамляе выключнай небяспекі: *Бедняки должны избегать слишком изысканных утонченных блюд, которые их грубому желудку будет трудно усвоить.* (М. Мантанары)

Этнографы розных краін заўважылі залежнасць знешніх параметраў прадстаўнікоў пэўнай нацыі ад спецыфікі і аб’ёму харчавання. Усё гэта адбіваецца нават

на абліччы, чаго не заўважыш у звяроў ці нават свойскіх жывёл. Так, цяперашнія кітайскія салдаты не ўлазяць у люкі танкаў, зробленых 30 гадоў таму. Аналізуючы знешнія фізічныя параметры прадстаўнікоў розных сацыяльных класаў адной нацыі, вучоныя прыходзяць да наступных высноў: сярэдні рост у беднякоў пэўнай расы, полу і ўзросту ніжэйшы, чым рост багацеяў той самай расы, полу і ўзросту, а характар харчавання ўплывае на форму галавы і чэрапа. Так, сцвярджаецца, што ў Расіі ўжо ў канцы XIX ст. цяжка было набраць грэнадзёраў, а першае Палітбюро было надзвычай дробненькім – Сталін, Мікаян, Калінін. Нешта падобнае адзначалі вучоныя і ў беларусаў розных сацыяльных слаёў, прычым прычыны таму бачацца ў спецыфіцы харчавання і ўмовах пражывання.

«Вообще наружностью Бѣлоруссы отличаются какъ отъ Великоруссовъ, такъ отъ Литовцевъ и Латышей. Они средняго роста, отъ 2 арш. до 2 арш. 7 верш. и рѣдко до 8 и 9. Волосы русые, лицо большею частью круглое. Большая часть брѣетъ бороды, но въ Могилевской губерніи большинство носитъ бороду и усы. Въ молодости женщины очень красивы, но скоро старѣются. Какъ мужчины, такъ и женщины въ 50 лѣтъ уже почти дряхлые. Конечно, это зависитъ отъ тяжелой, трудовой жизни, которую они вели при крѣпостномъ правѣ, отъ излишняго употребленія вина и недостаточности питанія. Черный хлѣбъ, картофель, капуста, бураки, бобъ, горохъ, щавель, ботвинье, рѣдко молоко, еще рѣже говядина, развѣ по праздникамъ, – составляли ѣду Бѣлорусса. Къ этому надобно прибавить курныя, душныя и тѣсныя избы, хаты, столь вредно дѣйствующія на здоровье человѣка», – пісаў А. Кіркор (19, 284).

Калі не хапае харчу, то хто будзе клапаціцца пра смак? Некалі французы смяяліся з немцаў, што тыя не адчуваюць смаку віна: абы паболей. А тут гаворка зусім не пра алкаголь, выжыць без якога ўсё ж такі можна.

І сапраўды, шчасце не ў смаку, а ў колькасці, аб'ёме. Каб ад пуза, каб расперазацца, каб забыць адвечнае пачуццё голаду. І зноў узгадаем палескую прымаўку: *клоччэ, война – абы кішка пойна.* Гэта, безумоўна, не пагражала шляхце, бо ў магнацкіх палацах елі і пілі, не ведаючы меры, асабліва ў свята. Абжорства лічылася станоўчай рысай, падчас праводзіліся спаборніцтвы – хто больш з'есць. На здароўе не глядзелі, а калі такое здаралася, то або хварэлі па некалькі дзён самотна ці пасылалі, як Пане Каханку, які з'еў празмерную колькасць вустрыц, па лекара ў Вільню. А потым, папасціўшы пэўны час, пачыналі ўсё спачатку. Пышныя стравы так прыеліся каралю Станіславу Аўгусту, што ён напрасіўся на просты сняданак – каўбасу з так званай верашчакай. Пра нешта падобнае пісаў Якуб Колас: *Я гэтак думаю: калі пан завідуе нашаму брату, ту яму абрыдзела добрая яда, піццё, спакойнае жыццё. Гэтак сама бывае і з свіннямі. Кормнуй свінні надаесць чыстае цесца, і яна ідзе к надворным, садзіць рыла ў карыта і есць пустое, чуць абмешанае, дробна пакрышанае зелле* (20, 311). Адвечная праблема, якую паэтычна вырашаў Р. Бёрнс:

У которых есть, что есть – те подчас не могут есть,
А другие могут есть, да сидят без хлеба,
А у нас тут есть, что есть, да при этом есть чем есть, –
Значит, нам благодарно останется небо!

А як жа харчуюцца тыя, хто не на самім небе, але недзе зусім блізка? Вось як згадвае Ф. Булгарын расказаную ягонай маці гісторыю наведвання беларускага маёнтка манаршаю асобай. Спалоханая шляхта не ведае, як прыняць яго: *Что любит король Карл XII. Всякое жареное мясо, свинину и дичь, – отвечал камердинер, – из зелени шпинат, а из приправ петрушку и руту. Свежих фруктов теперь нет, но если у вас есть лимоны, то положите перед ним на стол: король очень любит их» (12, 10).* У цэлым шведскі манарх блізкі да Цэзара, які, паводле Плутарха, еў усё, што дадуць (3, 462-463). Нават славуты Эпікур, імя

якога стала сімвалам, *постничал, чтобы отучить свой вкус от изобилия яств.* Далей старагрэцкі пісьменнік сцвярджае , што і вялікі Аляксандр вылучаўся абыякавасцю да яды. Так, калі царыца Ада прыслала яму выкшталцоныя стравы і печыва, а затым самых дасканалых кухараў і пекараў, то ён адмовіўся, бо мае лепшых: для снедання – начны пераход , для абеду – сціплы сняданак. Магчыма гэта тлумачыцца тым, што яшчэ ў дзяцінстве ягоны ложак абшуквалі, каб маці не схавала што-небудзь смачненькае для сына. Далей Булгарын сачыніў цэлую гісторыю пра абед, які застаўся ў памяці нашчадкаў: *Король ел с аппетитом, и особенно ему понравилась голова дикого кабана (La hure) в студене. Он ел охотно* *жирное* *и вообще употреблял* *много хлеба* *(12, 108).*

Аднак спусцімся з нябёсаў на зямлю. Ф. Багушэвіч значна палегчыў нам задачу, бо сам супаставіў *кухню* пана і селяніна ў сваім класічным “Бог не роўна дзеліць”:

Гэты хлеба і не знае,
Толькі мяса ды пірог,
І сабакам выкідае
Усё тое, што не змог.
А той хлеб жуе з мякінкай,
Хлёбча квас ды лебяду (21, 39).

Трэба адзначыць, што падобныя законы дзейнічаюць і ў свеце жывёлаў, з якімі разам людзі п’юць ваду. Чатырохногія služkі ўладароў адчуваюць гаспадарамі над сабе падобнымі з ніжэйшага сацыяльнага асяроддзя. У апавяданні Якуба Коласа “На сваім хлебе” сучка пана Барнацкага праганяе Тропіка, сабаку батрака Савося, які шукае ў панскім садзе скарыначку хлеба ці кавалак бульбы, згубленыя вартаўнікамі. У сабачым сэрцы падымалася абурэнне супроць такой несправядлівасці. Ён вінавата скаліў зубы, моўчкі працівіўся, бо не адважваўся ўголас выказваць сваю крыўду: *Сама катлеты жарэ, а мне бульбяной лупінкі шкадуе – бурчэў паціху Тропік і хіб яго падымаўся сам сабой* (20, т. 5, 189). Шпіц са славутага рамана Гашэка еў толькі адбіўныя катлеты . Калі яму далі шніцэль, ён на яго нават не глянуў, бо той быў з цяляціны, а шпіц не прызнаваў нічога, акрамя свініны. Іншыя сабакі елі сардэлькі з каніны, а пінчара лавілі на пячонку (16, 203). Сумуючы па кавалку ялавічыны, баксёр Джэка Лондана згадвае свайго бультэр’ера, якога ён карміў біфштэксамі аж да схочу.

Шчодрае ўвасабленне галодных жывёл у мастацкай традыцыі зусім не выпадкова. Чаму гусі Рым ўратавалі? Бо галадалі. Менавіта так сцвярджае Плутарх. Птушкі былі святымі істотамі ў храме, таму іх ніхто не мог з’есці падчас голаду, выкліканага аблогай вечнага горада галамі. Аднак іх ніхто і не карміў, тым болей, што ўсе прыпасы былі даўно з’едзены. Гусі не маглі заснуць ад голаду, таму лёгка пачулі крокі ворагаў, якія ўзняліся па стромкай скале, дзе абаронцы іх зусім не чакалі і спакойна драмалі, берагаючы апошнія сілы. Абуджаная варта схапіла мячы і перабіла захопнікаў. Пра далейшы лёс адважных птушак нічога не вядома, мажліва іх чакала такая ж доля, як і іхніх нашчадкаў з байкі Івана Крылова. Бо мы добра ведаем норавы і мараль такой істоты, як чалавек. Асабліва галоднай.

Жывёлы таксама падпарадкаваны бязлітаснаму цару, бо толькі кракадзіл, паводле Герадота, чатыры зімовыя месяцы нічога не есць (22, 101). Качкі з прыпавесці В. Быкава “Вуціны статак” *дбалі толькі пра адно – як наесьціся... Вуткі да восені пачуваліся слабымі, кепска расьлі і заўсёды былі галодныя* (23, 119-120). У іх існуе свой рай, дзе грэе сонца і шмат корму. Аднак калі яны добра панапіхвалі свае валлякі, то не захацелі ляцець у вырай. І прапалі. Толькі пер’е засталося на абыякавых хвалях. Паводзіны жывёлаў у творах народнага пісьменніка залежаць ад наяўнасці харчу. Сытая мышка губляе страх, хвастаты пацук ад невыноснага голаду гневаецца на ўвесь свет і пачынае знішчаць сабе падобных. Але часцей

увасабленне галодных свойскіх жывёлаў падпарадкоўвалася адлюстраванню голаду людскому. Так, звар'яцелыя ад голаду ваўкі з рамана Л. Дайнекі "Меч князя Вячкі" лезуць на гарышча хаты і раздзіраюць столю. Галодная свіння з "Палескай хронікі" вішчыць так, што заглушае ўсе гукі куранёўскай раніцы. Больш інтэлігентная карова з апавядання Зм. Бядулі жаласліва мычэла з голаду і пазірала на гаспадара з дакорам. Слёзы ў яе вачах штурхаюць таго да крадзяжу.

Пра тое, што чалавеку, які знаходзіцца ў пастаянным пошуку кавалка хлеба, не да высокіх матэрый, гаварыў сам Леў Талстой, які знаходзіў прычыну гэтаму: *Народ голоден оттого, что мы слишком сыты.* Не менш афарыстычна сказаў і Дж. Стэйнбек ў рамане "Гронкі гневу": *Галодным і сытым цесна разам.* Ён жа паказвае, як людзі, нібы мурашкі, распаўзаюцца па дарогах у пошуках работы, у пошуках хлеба. І ў свядомасці людзей пачынае нараджацца злосць. Вялікі граф далей працягваў развагу над узаемадзеяннем мастацтва і фізічнага стану грамадства, залежнасць культуры ад голаду:

*Игра теленка – прыжки, игра человека – симфония, картина, поэма, роман. Это одно искусство – искусство и играть и придумывать новые игры – исполнять старое и сочинять. Это дело хорошее, полезное и ценное, потому что увеличивает радости человека. Зразумела, што галодны бычок ці козлік ніколі не будзе скакаць. Як і маленькае дзіця. Заниматься игрою можно только тогда, когда сыт. Так и общество может заниматься искусством только тогда, когда все его члены сыты. И пока все члены не сыты, не может быть настоящего искусства. А будет искусство пресыщенных – уродливое и искусство голодных – грубое, жалкое; как оно и есть. И потому в этом роде искусства-игр ценно только то искусство, которое доступно всем, увеличивает радости всех. Если оно таково, то оно не дурное дело, в особенности если оно не требует увеличения труда угнетенных, как это происходит теперь (24, 42).*

І дарэмна спрабуюць растлумачыць прычыны сацыяльных нястачаў адметнасцямі душэўных якасцей канкрэтнага чалавека, як тое спрабаваў М. Гогаль: *Лень – это мать. У нее сын – воровство и дочь – голод.* У творах самога ж пісьменніка мы практычна не сустрэнем падобнага кантраснага супастаўлення, бо ў яго варэнікі бываюць памерам з шапку. Хаця, як вядома, Гогаль замарыў сябе голадам. Як і Аляксандр Бірні (1826-1862), які памёр ад голаду ў стажку сена, дзе праляжаў свядома два тыдні, фіксуючы, нібы Сакрат, свае перадсмяротныя адчуванні ў дзённіку.

Пра тое ж гаворыцца ў пятым раздзеле "Паляўнічых акварэлек з Палесся" Янкі Лучыны, які так і называецца "Голад". Абураны забаўкай паніча хлеб круціць у галкі ды кідацца ім, Рыгор згадвае, што двойчы перажыў *голад*. Адзін з маленства, другі – у гады юнацтва. Прычым апісанне трагедыі амаль сугучна летапіснаму:

Тут голад надышоў. Усю вясну напасці –
За маразамі спёка, сухавей зачасціў,
Ні кроплі з неба, аж балотны ўсох абшар.
Улетку здоўжыўся сухмень, нясцерпны вар,
А ў дзень сямёх святых абложны дождж пачаўся,
Два месяцы ішоў, усім у знакі даўся,
Згнілі на полі й рэшткі восеньскай парой,
Узімку голад, холад люты, Божа мой! (26, 67)

Біблейскай карай за грахі ўспрымаюцца падобныя рэляцыі, бо ад іх няма ратунку. Таму ніхто з гэтым наканаваннем не змагаецца. Без толку. Ратунку не будзе. Нікому. Пра гэта сведчыць памяць як канкрэтнай асобы, так і грамады:

Шчэ нам –сяк-так. У нас былі на тыя часы
Ў каморы і ў таку хоць нейкія запасы,

Ды паляўнічы, зрэшты, мог падацца ў бор,
Тады нам трохі дапамог і панскі двор.
А што да чэлядзі вясковай, люд убогі
Тады шчэ нават рады быў бы з хлеба тога,
Што напалам з амеццем, елі хлеб такі –
Мог хутка запалаць, агнём вось толькі ткні,
Ды брак і гэтага. Кару ўжо дзерлі з дрэва! (26, 67)

Голад штурхае юнака на адчайны ўчынак: ён збіраецца забіць мядзведзя, прадаць скуру, а грошы пусціць на патрэбу. Мазгі хлопца, якія доўгі час не атрымлівалі пажыўных рэчываў, не ўсведамляюць страшэннай рызыкі: ён палюе не з карабінам, а з паганым ружжом. Раз'юшаны драпежнік кідаецца на нязграбнага паляўнічага, які ўжо не мае сілаў на змаганне. Трагізм сітуацыі падкрэслівае той факт, што голад звязаны з каханнем, бо менавіта для дачкі каваля Мікіты, якая пакутавала ад недаядання, герой збіраецца здзейсніць подзвіг. У Лучыны ўсё скончылася добра: бацька хлопца паспеў на дапамогу і выратаваў сына. Тым болей, што каханая ўцякла з жаўнерам: мала, відаць, насіў ёй з клеці.

У свой час Ісідар Севільскі сказаў, што соль карысная, як сонечнае святло. Без солі няма жыцця. Аднак людзі жылі. М. Гарэцкі піша ў "Камароўскай хроніцы": *Сайка скупіўся на ўсім. Соль была дарага, дык бараноў, калі хто рэзаў, падвешвалі пад страху не салёных. А ў іх заводзіліся чэрві. Чарвей выбяруць, мяса абмыюць, вараць.*

Соль становіцца своеасаблівым сімвалам. Так, дзед і баба, героі апавядання І. Тургенева, бяруць на выхаванне сірату, хаця ведаюць, што ім прыйдзецца есці капусту несалёнай. А без солі сам адрачэшся ад кашы, хаця: *Дзеці ўзнялі завіруху, Бо ўжо нечага ім есць,*– піша Г. Марцінкевіч (27, 75). Наогул, пісьменнікі вельмі часта, апавядаючы пра голад, паказваюць пакуты дзяцей. Дзіця ў літаратуры служыць спецыфічным павелічальным шклом, якое надае трагедыі адпаведны маштаб і гучанне. Вобразы галодных дзяцей у стылі Ч. Дзікенса ці Э. Ажэшка дамінуючыя ў творах XIX-XX ст., хаця ніхто не прапанаваў прадаваць іх на мяса, а са скуры рабіць пальчаткі, як у памфлеце Дж. Свіфта "Сціплая прапанова". Два ў адным: не трэба думаць, чым карміць дармаедаў і будзе харч для тых, хто працуе. Аднак ёсць і свае, родныя, нацыянальныя рэцэпты выратавання. У свеце, змрочным і галодным, Зм. Бядулі, фантасмагарычная гісторыя якога пра пяць лыжак заціркі доўгі час знаходзілася ў айчынных хрэстаматыях, адзін з герояў апавядання "Вялікі пост" марыць *знайсці спосаб, каб зусім не трэба было есці. Праўда, чалавеку зу-сім ма-ла трэ-эб-а-а! Кавалачак хлеба, крыху солі, і до!* (28, 68)

Плачам успрымаецца паэзія Ф. Багушэвіча: *А на хлеб кажух заложа, Каб дажыць як да крапівы, Абы ў поле выйшаў жывы*; *Пераеўся хлеб да крынкі, Бульбы толькі як пасеяць; Звара, бывала, гаршэчачак бобу І жывіцца так, абы не ўмёр.*

Згадаем Брэстчыну на пачатку мінулага стагоддзя: *Марыля падала на стол міску таўканіцы, прынесла з каморы галоўку квашанай капусты. Хлеба ўжо не было. Яго ледзве хапала да вясны, і то папалам з мякінаю, а далей на бульбу спадзяваліся, а часам і на лебяду пераходзілі (29, 112).* Нават на касавіцу, дзе патрэбна выключная сіла, бралі квас з цыбуляй ды вараны гарох. А які з іх наедак?! Усе ў школе вучылі вершы, дзе паэты плакаліся над галодным людам: *Чым ты была, Беларусь мая родная*? Або класічнае:

Бачыш: у нас голад, жыць нялёгка, браце,
Хлеб на стол кладзецца толькі для гасцей.
Добра, калі хопіць бульбы ў нашай хаце
Да вясны, да першых з выраю гусей.

Па сутнасці, беларуская літаратура XIX – пачатку XX стагоддзя становіцца

адзінай скаргай на суцэльны голад. Зразумела, тут трэба бачыць і адпаведны сацыяльны заказ. Бо, як сцвярджаюць гісторыкі аховы здароўя і медыцыны на Беларусі і самі пісьменнікі, мажлівасці пазбавіцца татальнага голаду ў краіне ўсё ж такі былі. Шматкроць цытаваны М. Гарэцкі, як сапраўдны класік, пакінуў і светлыя аспекты праблемы: *І пілі, і елі, і скакалі, усім гарэлкі давалі, хто толькі ў хаце быў. На славу вяселле было. Пяклі яны 10 булак хлеба, каля паўпуда кожная (гэта ўспамінаецца, калі есці хочацца, а хлеба няма). Былі кілбасы, мяса, тварог са смятанай, сцюдзень, парасяціна, пірагі, булкі, пасыпаныя цукрам. Каша з маслам. Бліны. Пяклі ў суседзяў* (15, 45).

Славуты этнограф і паэт у душы М. Нікіфароўскі ў 1895 годзе выдаў сваю дасканалую працу па матэрыяльнай культуры беларусаў XIX стагоддзя "Очерки простонародного житья-бытья в Витебской Белоруссии: описание предметов обиходности", першую частку якой варта лічыць сапраўднай кулінарнай энцыклапедыяй. Невыпадкова яна так і называецца: *Ежа, едиво. Поядуха, прорва, жратва, манна*. Прычым былі падабраны і адпаведныя прымаўкі з фальклору, якія дакладна характарызавалі адносіны люду да яды і ўсяго з ёю звязанага.

У раздзеле "Стравы і ворывы" (пад апошнім падразумяваецца вадкая яда, зробленая з агародніны і раслінаў), згадваюцца капуста, буракі, поліўка, юшка, халаднік, кісель, саладуха, жур, крупеня, бульба, морква, гарбуз, грыжанка, зацірка, клёцкі, гушча, баўтуха, калатуха, кулеш, брускі, камы і іншыя назвы страў. Вялікай папулярнасцю карысталіся ўсе віды кашаў. Стравы падраздзяляліся на рытуальныя, святочныя і абыдзённыя. Пад агульнай назвай пячыст падразумяваліся або вялікія кавалкі засмажанага мяса або цэлая маленькая жывёліна (парася) ці птушка (гусь, качка, кура, індзюк). На святы заўсёды падаваліся каўбасы – мясовыя, печанёвыя, крываўнікі, у залежнасці ад таго, чым яны пханыя. З халодных закусак папулярнымі былі кіндзюкі, вантробкі, кнігаўкі, сцюдзень.

Як сапраўдны рай узгадваў родны край маленства Ф. Булгарын: *Пшеница росла в рост человека, рожь и яровые хлеба давали всегда обильную жатву... Дичи была бездна в обширных лесах. Кабанов ловили, за один раз по нескольку десятков. Западнями; лосей, оленей, диких коз всегда было множество. Пчеловодство процветало.* Вядомы фантазёр апісвае амаль манну на болотах і шпанскія мухі. У прыватным лісце, пасланым з Беларусі, І. Бунін пісаў, што тут *прекрасная яда* – беларускі акцэнт аўтар вылучыў сам, бо якраз там вучыў мову. У. Гніламёдаў згадвае, як гаспадыня прынесла кіндзюх, традыцыйны прускаўскі прадукт, які трымалі спецыяльна пад сенакос.

Аднак у большасці выпадкаў вытокі трагедый былі рэальнымі. *Там, где все становятся шакалами и хищниками, нельзя заниматься производительным трудом. Те, кто будут им заниматься, все равно ничего не получат для себя: тысячи грабителей будут драть с них сто шкур и не оставят им даже голодного пайка (30).* А. Марыенгоф у цытаваным вышэй рамане "Циники" дае паралельныя апісанні разгульнай вячэры нэпманаў: *Поджареные глухари пушатся бумажнымі шейкамі. Рябчики выпятили белые грудки и скорчили тонюсенькие лапки. Безнравственные индейки лежат животом кверху* (31, 41) і жахлівыя сцэны забойства і пажырання людзей: *В селе Гохтале Гусихинской волости крестьянин Степан Малов, тридцати двух лет, и его жена Надежда, тридцати лет, зарезали и съели своего семилетнего сына Феофила* (31, 31).

Згадаем апісанні "бясплатнага падмацавання" (кубак кавы і лустачка хлеба) з аповесці Я. Брыля "Сірочы хлеб" і пакаранне бацькі за жменю солі з апавядання К. Чорнага "Дарагуся" на фоне багатых застолляў, якімі так багата шматмоўная літаратура Беларусі. У цэлым высновы Якуба Коласа застаюцца непарушнымі: *Рады чэрстваму кусочку.* Якія б змены не прыносіў прагрэс, заўсёды бачыцца

блудны сын, што еў са свіннямі з аднаго карыта: *Харч свінячы –лепшы стол, Пухне пуза, як калодка, Але голад, брат, не цётка: Ем бурду іх, як той вол.*

Цяжка пагадзіцца з яшчэ адной высновай У. Пахлёбкіна, што *на кухню мещан, ремесленников и всего местечкового люда оказала влияние корчемная кухня евреев, массовое переселение которых в пределах Белоруссии началось в XVII в.* Хаця паасобныя прыклады можна знайсці ў мастацкай традыцыі. Так, у рамане Ф.Булгарына аканому ў карчме падаюць салодкай гарэлкі, а на закуску – *отличный маринованный сцупак.* Ул. Гніламёдаў згадвае, што ў яўрэяў таксама ёсць *фішбульбэ* – бульба з цыбуляй і перцам. Праўда, яе так гатуюць, што па смаку яна нагадвае рыбу. Герой аўтабіяграфічнага твора І. Буніна *наслаждается аппетитным запахом витебских вокзальных буфетов, где так славно с морозу выпить рюмку водки и закусить жидовской щукой.*

Той жа У. Пахлёбкін згадвае, што *крестьянская белорусская кухня вплоть до конца XIX – начала XX вв. стойко сохраняла свои самобытные черты, уходящие корнями в XIII – XIV вв. и порой даже глубже – в древнерусскую кухню кривичей и дреговичей.* Такім, несумненна, з’яўляецца звычай смалення кабана. Толькі на Беларусі звычайнае для ўсяго свету свежаванне вепрукоў становіцца пазачасавым абрадам, узнаўленню якога пакладзена цэлая традыцыя, пачынаючы са славутага апавяданне “Смаленне вепрука” М. Стральцова. Як паэтычна апавядае пісьменнік пра, здавалася б, зусім празаічную справу, калі зямля як быццам застывае ў прадчуванні падзеі, суцішае свой бег тою парою, калі ідуць халады, калі бяруцца зранку прымаразкі – ападаюць інеем сырыя туманы. Звыклы кабан ператвараецца ў незвычайную істоту, якая надзелена зусім іншымі рысамі, не ўласцівымі рахманай свойскай жывёліне. Да яго вяртаюцца здольнасці далёкіх дзікіх продкаў: прадчуванне, інтуіцыя, чым узнагароджваецца кожная істота напярэдадні гібелі. Як свята, чакаюць гэтага дня і героі твораў А. Федарэнкі, У. Глушакова. Мяняецца і сам чалавек, які адчувае нейкую падсвядомую віну перад істотай, з якой зжыўся і чыю плоць, нібы ў старажытных уяўленнях, ён будзе спажываць дзеля таго, каб самому жыць. Гэта не такое, зразумела, успрыманне, як у вершы У. Караткевіча, дзе забойства дзіка называюць ледзь не каінскім, аднак, пачуццё няёмкасці і вінаватасці ўсё ж такі прысутнічае. Галоўнае, што тут павінна быць гармонія суіснавання, парушэнне якой выклікае непазбежную трагедыю, як у апавяданні А. Федарэнкі “Бляха”, дзе прадпрымаецца некалькі спробаў забіць ахвярную жывёліну. Апошні вырываецца з няўмелых рук саслабелага хлопца, што і прыводзіць да трагедыі. Дзяльба кабанчыка ў аднайменным апавяданні В. Карамазава нагадвае сходку звяроў, калі дужэйшы забірае сабе лепшы кавалак, ці ільва з байкі Эзопа.

Бестсэлер эпохі “Книга о здоровой и вкусной пище” выйшла паводле загаду Сталіна і з ягоным эпіграфам: *Жить стало лучше, жить стало веселее.* Па сутнасці, распавядалася пра краіну, дзе рэкі цяклі мёдам, цяклі нектарам. Ці пра Ледзянцовыя Горы з “Фермы” Дж. Оруэла, дзе нядзеля выпадае сем разоў на тыдзень, канюшына цвіце ўвесь год, а кавалкі цукру і льняная макуха растуць на платах. Як вядома, у гэтым творы англійскага аўтара, які сам ледзь не памёр ад голаду, калі быў беспрацоўным у Францыі, сатырычна высмейваліся парадкі ў СССР, галодным жыхарам якога за самаадвержаную працу давалі прэміі ў выглядзе харчу.

У фельетоне Л. Савёнка “Вясеннія настроі” (“З дзённіка «любителя покушать»), у якім у сатырычнай форме абыгрываецца гадавіна кастрычніцкага перавароту, дамінуе адно жаданне (*вой, есці хочацца),* дзеля задавальнення якога герой твора прадае штаны, пінжак з бліскучымі гузікамі, грамафон, мяшок грошай, бо зацірка ў сталоўцы, нават пад гаворку пра сусветную рэвалюцыю, не падманьвае жывата, які згадвае пра вінцо ды ікру зярністую, што былі калісь. У падобным

стылі вытрымана апавяданне А. Аверчанкі «Черты из жизни рабочего Пантелея Грымзина», дзе з сарказмам супастаўляецца *покупательская способность* працоўнага да і пасля рэвалюцыі: *Купил на целковый полфунта ветчины, коробочку шпрот, булку французскую, полбутылки водки, бутылку пива...* (32, 213). Панцялей, вячэраючы, ледзь не заплакаў, бо ўявіў багацея, які недзе ў гэты час есць ананасы з рабчыкамі. Яму і прысніцца не магло, што зусім хутка за гэтыя грошы ён зможа купіць толькі фунт паўбелага хлеба і бутэльку сітро. А былая вячэра здасца раем рабочаму, вымушанаму жаваць чэрствы хлеб і запіваць яго *пойлом на сахарине*. Салідарызму ў падобным грамадстве не можа быць па вызначэнні: *Посему вся экономическая жизнь такого общества неизбежно идет к полному краху, который и произойдет рано или поздно, а именно – когда будет разворовано все и воровать уже станет нечего* (30).

Леў Талстой пісаў, што *в средние века, в XI веке, поэзия была общая – народа и господ, les courtois et les vilains (благородных и низких), потом разделилась и les vilians стали подделывать под господскую, а господа под народную. Надо, чтобы опять пришло соединение.* Відаць, тое самае хацелі зрабіць і з кухнямі былых паноў і сялян у самай свабоднай краіне на свеце. А можа, згадаліся высновы Швейка, што цяпер няма пакорлівых істотаў, накшталт шляхетнага Фернанда, які дазволіў свайму пану з'есці сябе без солі. Тым болей, жывёлы з "Фермы" ўзнялі бунт якраз таму, што гаспадар піў тры дні і не карміў іх зусім. Чалавек можа галадаць болей за скаціну, але і ён здольны пратэставаць.

Наўрад ці ведаў пра гэты факт Васіль Быкаў, але славутае выслоўе правадыра магло б стацца і эпіграфам да ягонай прыпавесці-трыпціха "Байкі жыцця". У краіне, якой кіруе Жах (трэцяя байка трыпціха) склалася экстраардынарная сітуацыя: *Горш было тое, што не было чаго есьці, на краіну насоўваўся голад.* Так было заўсёды. Згадаем У. Караткевіча: *Краіна была багатая, краіну чакаў голад.*

Звыклую трагедыю чалавецтва канспектыўна выкладае Васіль Быкаў. Прычым без асаблівых эмоцый, як сапраўдны філосаф, які ўжо нічому не здзіўляецца: *Сьпярша ня стала яек, пасьля малака, масла, сьмятаны. На тое Жах аб'явіў, што вінаватая пражэрлівая апазыцыя, якая ўсё зжарае сама, ні каліва не пакідаючы народу. Каб не зжарала, трэба яе зьліквідаваць, для чаго наёмнымі профі былі распрацаваныя адпаведныя праекты. Плянавалася гэта зрабіць у часе мітынгу, быццам бы рукамі сваіх жа абдзеленых ежаю функцыянераў. Але дасканалы плян дачасу раскрылі, і галоўныя таўстапузыя аб'ядалы ўцяклі за мяжу. І тым ня менш прадукты прападалі: зьнікла каўбаса, мяса, сыр і тварог. Мудры таварыш Жах і тут даў геніяльны адказ: прадукты вывозяць з краіны на паветраных балёнах, адзін зь іх ужо зьбіты, герояў-зьнішчальнікаў вітала краіна. Каб яна канчаткова адчула сябе ў бясьпецы, выкінулі з пасольстваў заходніх паслоў, – хай ня сочаць за інтымнымі сакрэтамі любага Жаха. Усё тое дужа падабалася жахлійцам і, мабыць, падабалася б яшчэ болей, калі б з продажу пакрысе ня зьнік і хлеб. Тады любы народам Жах абвясьціў новую стратэгічную дактрыну: ня трэба есьці. Бо гэтая старасьвецкая завядзёнка вельмі дорага абыходзіцца дзяржаве, зьнясільвае бюджэт і скарачае асыгнаваньні на зброю, безь якой дзяржава абысьціся ня можа. На жаль, у адрозьненьне ад ранейшых кіраўнічых заклікаў, гэты ўспрымаўся слаба. Нягледзячы на вялікія растлумачальна-агітацыйна-прапагандовыя высілкі, жахлійцы працягвалі хацець есьці і дзе толькі можна шукалі ежу (23, 119-120).*

Чалавек ніколі не наесца. Мастацтвазнаўцы сцвярджаюць, што на карцінах, якія ўвасабляюць тайную вячэру, з кожным стагоддзем павялічваецца як плошча талерак, так і колькасць яды на іх. *Што было, тое і будзе; што рабілася, тое й рабіцьмецца, і нічога новага пад сонцам няма* (Эклезіяст).

Літаратура:

1. Цветаева М. Сочинения. В 2 т. Т. 1.Стихотворения. Поэмы. – Мн.: 1988. – 542с.
2. Тостой Л.Н. Полн. собр. соч.: В 90 т., юбил. изд. – М; Л., 1928 – 1958. Т.51, с. 53.
3. Плутарх. Избранные жизнеописания, в двух томах. Т. 11.—М. 1987.—608с.
4. Міцкевіч, А. Пан Тадэвуш, або Апошні наезд у Літве: Шляхецкая гісторыя 1811-12 г.г. у 12 кн., вершам. – Мн., 1985. – 395 с.
5. Дунін-Марцінкевіч В. Творы. – Мн.: 1984. – 527 с.
6. Мнение об отвращении в Белоруссии голода // Сочинения Державина: [в 9 т.] / с объясн. примеч. [и предисл.] Я. Грота. – СПб.: изд. Имп. Акад. Наук: в тип. Имп. Акад. Наук, 1864—1883. Т. 7: Сочинения в прозе. – 1872. – 231 с.
7. Похлебкин В. Национальные кухни наших народов Режим доступа: http://www.e-reading.club/book.php?book=46184
8. Мишель Монтень. Опыты. Избранные произведения в 3-х томах. Т.1. М., 2000. – 384 с.
9. Мальдзіс А. Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя: Нарысы быту і звычаяў. – Мн.: Маст. літ., 1982. – С. 154 –155
10.Танк М. Збор твораў. У 6-ці т. Т. 6. Дзённікі; Літаратурна-крытычнаыя артыкулы. – Мн.: Маст. Літ., 1981. – 637 с.
11. Патоцкі, Л. Успаміны пра Тышкевічаву Свіслач, Дзярэчын і Ружану. – Мн., 1997. – 270 с. (Літаратурныя помнікі Беларусі).
12. Булгарын Ф. Выбранае. – Мн., 2003. – 592с.
13. Беларускія летапісы і хронікі. – Мн.: 1997. – 432 с.
14. Мележ, І. Людзі на балоце. Раман. – Мн., 1968. – 512 с.
15. Гарэцкі М. Збор твораў. У 4-х т. Т. 4. – Мн., 1986. – 384 с.
16. Гашек Я. Похождения бравого солдата Швейка.–М.: 1990. – 736 с.
17. Савёнак, Лявон. Творы. – Мн., 2012. – 352 с.
18. Энеіда навыварат; Тарас на Парнасе – Мн., 1982. – 62 с.
19. Живописная Россия. Отечество наше в его зем.,ист., плем., эконом. и быт. значении. Литов. и белорусское Полесье. Репринтное воспроизведение издания 1882 года –Минск, 1993. – 550 с.
20. Колас Я. Збор твораў у чатырнаццаці тамаах. Т. 4 Апавяданні 1906-1917 гг. – Мн., 1973. – 352 с.
21. Багушэвіч Ф. Творы: Вершы, паэма, апавяданні, артыкулы, лісты. – Мн.: 1991. – 309 с.
22. Геродот. История: в девяти книгах. Л., 1972, – 599 с.
23. Быкаў, В. Пахаджане. Прыпавесьці. – “Наша Ніва”(Бібліятэка “Вострая Брама”, 1) – 1999-2000. – 192 с.
24. Толстой Л.Н. Собрание сочинений. В 22-х т. Т. 22. Дневники. 1895-1910 / Сост. и коммент. А.И. Шифмана. – М.: Худож. лит., 1985.
25. Шамякина Т. Как жила элита при социализме // Нёман, № 9, 2013. – С. 144-182.
26. Лучына Я. Творы: Вершы, нарысы, пераклады, лісты. – Мн.: 1988. – 214 с.
27. Занапад і адраджэнне: Бел. літ. XIX ст. – Мн.: 2001. – 606 с.
28. Бядуля, З. Збор твораў у 5 т. Т. 2. – Мн., 1986. – 351 с.
29. Гніламёдаў, У.В. Уліс з Прускі: раман. – 2006. – 382 с.
30. Сорокин. Голод как фактор. Режим доступа: http://www.e-reading.club/book.php?book=1027950
31. Мариенгоф, А. Циники. – Берлин, 1928 . – 69 с.
32. Аверченко, А. Тэффи. Юмористические рассказы. – Мн.: 1990. – 509 с.

Алесь Гібок-Гібкоўскі



...менавіта бацька
прыахвоціў мяне
да роднае мовы...

# Прапаў без вестак

*Акурат напярэдадні 9 мая гэтага года пазваніла дачка і паведаміла, што знайшла ў інтэрнэце звесткі пра свайго дзеда, гэта значыць майго бацьку. Я таксама адкрыў адпаведны сайт з архіваў Міністэрства абароны Расіі і са здзіўленнем даведаўся, што мой бацька, Сямён Фёдаравіч, малодшы лейтэнант 1916 года нараджэння, месца службы – «ЗапФ 204 осд 700 сп» «пропал без вести между 22.06.1941 и 31.08.1941»!..*

## Парадокс гісторыі

Шчыра кажучы, я нават крыху разгубіўся, інстынктыўна зірнуў на сябе ў люстэрка, каб пераканацца ў сваёй наяўнасці... Бо, мяркуючы па толькі што атрыманай інфармацыі, ні мяне, ні маіх сястры і брата, а адпаведна і нашых дзяцей, на свеце быць не магло!..

Вось такі дзіўны парадокс нашай найноўшай гісторыі – чалавек пражыў цэлае жыццё, а паводле афіцыйных дакументаў яго не існавала!.. І падобныя выпадкі ў нашым жыцці далёка не адзінкавыя. Зрэшты, грэх на гэты парадокс скардзіцца ў дачыненні да майго бацькі, бо значная большасць тых, хто пра-

паў без вестак, насамрэч зніклі без следу ў віхурах жорсткай вайны... Сярод іх і два старэйшыя браты маіх бацькоў – Іван Фёдаравіч і Мікалай Маркавіч. Колькі потым родныя пасля вайны не пасылалі запытаў, адказ быў адзін – «прапаў без вестак»!..


*Сямён Гібок-Гібкоўскі, камандзір узвода Заходняй ваеннай акругі. Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны.*

Але сам факт незвычайнай інфармацыі пра нашага бацьку, якую мы атрымалі праз больш чым сем дзесяцігоддзяў пасля вайны, вывеў мяне на іншую думку. Ці не нагадвае мне – прафесійнаму журналісту і літаратару – такім чынам Вышняя сіла пра мой (ужо даволі застарэлы!) доўг перад маім бацькам, пра якога я збіраўся напісаць шмат гадоў і ўсё ніяк не мог сабрацца (тым больш што ў гэтым годзе яму споўнілася б 100 гадоў!..) І такім чынам запоўніць вялікі часавы прабел у 75 гадоў паміж чэрвенем 1941-га і чэрвенем 2016-га, падчас якога, паводле Падольскага архіва МА РФ, майго бацькі не існавала... Бо 51 год з гэтых 75 гадоў ён жыў на свеце, працаваў, любіў... Нават паспеў дачакацца ўнукаў...

Адразу адзначу, што мой бацька не здабыў у жыцці высокіх пасадаў і лаўраў, у яго не атрымалася пакінуць нам, сваім нашчадкам, нейкай значнай матэрыяльнай спадчыны. Яму не ўдалося добра пабачыць свет, асабліва апошнія 40 гадоў свайго жыцця, калі ён практычна не выязджаў з вёскі, дзе жыў. І тым не менш перыпетыяў ягонага лёсу хапіла б на некалькі чалавек...

Пісаць пра роднага чалавека звышскладана. Занадта блізкія мы заўсёды са сваімі роднымі, а, як вядома, «лицом к лицу лица не увидать»... Але, перакананы, пісаць пра іх трэба, прычым не толькі нам – пісьменнікам і журналістам. І такім чынам пакінуць нашчадкам сведчанне пра іх гераічнае мінулае, як своеасаблівую эстафету таго неверагоднага подзвігу, незвычайнай мужнасці і адданасці сваёй зямлі!..

***

Зразумела, за тыя 24 гады, што майго бацькі няма на свеце, фактаў для матэрыялу пра яго ў мяне не дадалося. І тым не менш у памяці засталіся такія-сякія ўспаміны з аповедаў бацькі. Зразумела, каб бацька нейкім цудам сёння апынуўся сярод жывых, я, напэўна, шмат пра што яшчэ ў яго распытаў бы... Прынамсі, пра тое, пра што не паспеў распытаць пры жыцці, хоць не раз збіраўся гэта зрабіць. Але, як заўсёды, адкладваў у мітусні розных справаў на потым... А гэтага «потым», як найчасцей і бывае, не здарылася...

Як ні дзіўна, найбольш тых успамінаў засталося не з нашых асабістых размоваў з бацькам. Найлепш захаваліся ў памяці тыя моманты майго дзяцінства, калі да нас у хату прыходзілі на нейкія святы госці. Яны, як і належыць, спачатку выпівалі па чарцы-другой добрага хлебнага самагону, якім славілася суседняя вёска Лепейніца, затым надыходзіла чарга традыцыйных для вясковых застолляў песняў.

Песні ў нашым доме вельмі любілі дзякуючы дзвюм выдатным пявунням – маёй маме, украінцы Анастасіі Маркаўне, якая прыехала ў Беларусь пасля вайны, ратуючыся ад чарговага страшнага галадамора, і беларусцы – бацькавай пляменніцы Людміле. Дарэчы, гэта была якраз дачка старэйшага брата Івана, таго, які насамрэч прапаў без вестак. Наш бацька ўзяў яе пасля вайны на выхаванне, і яна жыла ў нас аж да свайго шлюбу... І падчас тых застолляў на стыку дзвюх культур з'яўляліся такія вакальныя шэдэўры, што і сёння сціскаецца сэрца, калі згадваю пра іх незвычайную прыгажосць і энергетыку!.. Як жа шкада, што час нельга павярнуць назад і зрабіць адпаведны сённяшнім магчымасцям запіс тых, як я сёння разумею, унікальных твораў! Тады – у 50-я гады – у нас такой тэхнікі не было!..

Але вось нарэшце ў згаданым застоллі ў нашай хаце надыходзіў момант, калі спевы спыняліся і пачынаўся, як своеасаблівы рытуал, аповед майго бацькі пра сваё жыццё. І гэты аповед заўсёды меў незвычайны поспех у слухачоў. Усе нашыя госці – ад малога да вялікага – а гэта было часам да двух дзясяткаў чалавек! – з заміраннем слухалі яго. У такое сёння цяжка паверыць, але ўвесь гэты час (бывала і некалькі гадзінаў!), калі бацька гаварыў, за сталом, за якім было да траціны малых дзяцей, панавала цішыня!..

Патлумачыць гэта магчыма тым, што, па-першае, бацька, па-майстэрску валодаючы словам, ад прыроды быў выдатным апавядальнікам. Як я сёння магу меркаваць, стылістыка ягоных аповедаў па сваёй змястоўнасці, вобразнасці і займальнасці амаль што адпавядала сапраўдным мастацкім творам. Па-другое, бацька меў проста фенаменальную памяць. Гэта менавіта ён у маім дзяцінстве прыахвоціў мяне да роднае мовы, дэкламуючы мне па памяці дзясяткі беларускіх вершаў і апавяданняў! А пры выпадку бацька лёгка распавядаў мне па памяці змест цэлых раманаў (назву аднаго з іх памятаю і сёння, але знайсці яго мне не ўдалося нават у фондах Расійскай нацыянальнай бібліятэкі). І ў сваіх успамінах пра мінулае, найперш, вядома, «пра вайну», бацька апераваў безліччу вельмі цікавых фактаў і дэталяў.

Але сакрэт тагачаснага поспеху бацькі ў сваіх слухачоў быў не толькі ў займальнасці ягонага аповеду. Была ў ім і нейкая энергетычная магія, як сёння кажуць, харызма, якая імгненна заварожвала субяседнікаў. Слухаючы яго, людзі на нейкі момант літаральна растваряліся ў чужым жыцці, забываючы і пра ход часу, і пра сваё паўсядзённае жыццё з ягонымі нягодамі. Але найперш, вядома, на іх уздейнічаў талент слова!

Дарэчы, менавіта талент слова дапамагаў майму бацьку паспяхова займацца яшчэ адной вельмі патрэбнай тагачасным вяскоўцам справай – ён быў для ўсёй акругі своеасаблівым «юрыстам» ці «адвакатам», які амаль да сярэдзіны 60-х пісаў за людзей усемагчымыя лісты, прашэнні, скаргі ў вышэйшыя інстанцыі. Людзі звярталіся з самымі рознымі патрэбамі – лісты ў суд, пракуратуру, да ўладаў, да вайсковага начальства. Пісаў бацька і на самы верх – у Маскву. Адзначу, гэтая ягоная праца часта мела добры плён, таму недахопу ў «кліентах», то бок жадаючых атрымаць ад бацькі такую вось «юрыдычную дапамогу», не было. Аднойчы ў маім юнацтве ўдзячнасць аднаго чалавека за такую бацькаву паслугу нават выратавала мне жыццё. Але пра гэта ніжэй...

Такім чынам, найперш успаміны з бацькавых «застольных» аповедаў і сталі грунтам для стварэння гэтага нарыса пра бацькаў лёс. Ён не будзе храналагічна паслядоўным, звязаным нейкім адным скразным сюжэтам. На суд чытача я выношу некалькі асобных фрагментаў жыцця бацькі, кожны з якіх, дарэчы, лёгка можна разгарнуць у асобнае апавяданне ці нават аповесць...

## «Вставай, страна огромная!»

У надзіва гожыя летнія дні чэрвеня 1941 года мой бацька, як і многія мільёны грамадзян СССР, нават уявіць сабе не мог, што хутка чакае яго і ўсю вялікую краіну. У апошнія дні перад вайной, як ён згадваў, усё было неяк да нерэальнасці мірна, спакойна, у размовах між сабой людзі абмяркоўвалі планы далейшага свайго жыцця на дзень, тыдзень, месяц, год... Тады ўсе былі яшчэ жывыя і здаровыя, акурат як у вядомай песні: «Год сорок первый, начало июня. Все ещё живы, все ещё живы, все!..» Пра вайну хоць і шмат тады гаварылі, але ніхто нават і блізка сабе не мог уявіць тое, што насамрэч іх і ўсю вялікую краіну чакае наперадзе... Таму яе мала хто з савецкіх людзей усур'ёз баяўся, усе спадзяваліся на магутную сілу Чырвонай арміі. А сіла тая, сцягнутая да мяжы, выглядала і насамрэч уражвальна. Таму людзі былі перакананыя, што калі «немец палезе», то шанцаў у яго не будзе: «Гэта яму не палякі з французікамі!»... І вайскоўцы, і цывільныя зусім нежартоўна абмяркоўвалі між сабой, дзе будуць нашы часці праз тыдзень вайны – у Варшаве ці, мо, у самім Берліне, да якога, як нехта палічыў, было крыху больш за 800 км... Ніхто з іх нават і не падумаў бы, што савецкія войскі да Берліна будуць ісці не тыдзень, а цэлыя 4 гады. І не 800 км, а даўжэзны шлях у дзясяткі тысячаў кіламетраў, на якім застануцца ляжаць 27 мільёнаў. Ніхто тады не ведаў, што страшная вайна фатальна надарве краіне хрыбет і што ў выніку так і не зможа ачуняць ад яе наступстваў, разваліўшыся ў 1991 годзе...

На свой выходны – нядзелю 22 чэрвеня 1941 года – мой бацька Сямён Фёдаравіч планаваў паехаць у Комсічы да сям'і, але тым планам не было суджана здзейсніцца. Напярэдадні камандзір палка, у якім служыў бацька, маёр Сіповіч сваёй уладай адмяніў усе звальненні ў часці – адчуваў ужо, відаць, удзельнік фінскай, маючы пэўны баявы досвед, якая каша заварваецца на мяжы. На вялікі жаль, так зрабілі далёка не ўсе камандзіры...

Ваўкавыск немцы пачалі бамбіць не так, як ў вядомай песні – «ровно в 4 часа», а ў 3 гадзіны 15 хвілін раніцы. Прачнуліся байцы і камандзіры ад страшэнных выбухаў авіябомб (прычым прачнуцца пашанцавала ўжо далёка не ўсім!). Асабліва шчыльна бамбілі немцы вайсковыя часці, аэрадромы, размяшчэнне якіх выдатна ведалі, таму і былі такімі вялізнымі страты ў Чывонай арміі ўжо ў першыя хвіліны вайны...

204 дывізія ў складзе 11-га механізаванага корпуса генерала Маставенкі па загадзе камандавання ўступіла ў жорсткія памежныя баі на гродзенскім кірунку, яна заняла абарону паўднёвей Гродна, прыкрываючы Масты. Але ў выніку нечаканага ўдару 3-й і 2-й танкавых груп немцаў па флангах беластоцкай групоўкі савецкіх войскаў 204 дывізія палкоўніка Пірава патрапіла ў так званы Беластоцкі кацёл, дзе і растварылася... У дакументах пра яе амаль так і напісана – вельмі коратка – «погибла в Белостоцком котле». Пазней у Чырвонай арміі пад такім нумарам была створана іншая дывізія...

Што да непасрэдна 700 палка маёра Сіповіча, то мне ў дакументах удалося знайсці інфармацыю, што якраз гэты полк камандуючы 3-й арміяй В.І. Кузняцоў 26 чэрвеня 1941 года забраў са складу 204-й дывізіі. І вось з гэтага моманту пра лёс палка няма абсалютна ніякай інфармацыі, апроч той, што я атрымаў ад свайго бацькі. З ягоных словаў, пасля некалькіх баёў з немцамі большасць байцоў палка загінула, многія патрапілі ў палон. А яму самому, параненаму асколкам у нагу, пашчасціла выпаўзці пасля бою да бліжэйшай вёскі Жорнаўка, што за 15 км ад Ваўкавыска, дзе яго прытулілі добрыя людзі. Паводле ўсіх маіх роспытаў у землякоў, хутчэй за ўсё прозвішча людзей, якія тады выратавалі бацьку, было Пазнякі. Гэтыя людзі дапамагалі яму чым маглі. І за тое нізкі ім паклон!

Паступова рана на назе загойвалася. І бацька сур'ёзна спадзяваўся, устаўшы на ногі, адправіцца на ўсход да сваіх, не падазраючы, наколькі тыя свае былі далёка. Ён ужо пачаў пакрысе хадзіць, нават дапамагаў чым мог сваім выратавальнікам па гаспадарцы...

А тым часам у вёсках Заходняй Беларусі ўсталёўвалася новая ўлада, акупанты паўсюль прызначалі сваіх стаўленікаў, фарміравалася актыўна з месцічаў і ваеннапалонных паліцыя для падтрымання парадку. Вось і ў вёсцы Жорнаўка, дзе хаваўся бацька, неўзабаве з мясцовых жыхароў прызначылі вясковага старасту – солтыса.

Ад землякоў мне ўдалося высветліць і ягонае прозвішча, але, па этычных меркаваннях, я не магу яго назваць – у гэтага чалавека ёсць і дзеці, і ўнукі, а яны не нясуць адказнасці за ягоную правіну...

Першым жа крокам новапрызначанага солтыса для пацверджання сваёй лаяльнасці да новай улады была заява ў ваенную камендатуру пра тое, што ў адной з мясцовых сем'яў хаваецца чырвоны камандзір. Немцы адрэагавалі аператыўна, і неўзабаве з дзясятак акупантаў на матацыклах пад'ехалі да пуні, дзе хаваўся мой бацька. Там немцы ў пошуках чырвонага камандзіра пачалі штыкамі пратыкаць сена. Зразумела, што бацьку давялося вылазіць на свет Божы...

Неўзабаве яго ўжо дапытваў мясцовы ваенны камендант – нямецкі афіцэр, які нядрэнна валодаў рускай мовай. Пачаў допыт ён вельмі лагодна, ужо добра ведаючы, хто перад ім, і адразу прапанаваў ісці служыць у паліцыю на кіраўнічую пасаду, паабяцаўшы добры паёк і выдатную кар'еру. Акцэнт у сваіх перакананнях немец рабіў на тое, што ўсталяваны парадак тут ужо навекі і трэба, маўляў, прымаць свой лёс як належнае... Але бацька, ужо трывала выхаваны ў савецкім духу, усё-такі катэгарычна адмовіўся. Немцу гэта не вельмі спадабалася, і ўпарты палонны тут жа атрымаў больш важкі выхаваўчы аргумент у выглядзе добрай порцыі гумовых палак. Пасля гэтага камендант загадаў замкнуць збітага палоннага ў памяшканні старой мясцовай школы. На развітанне немец прапанаваў бацьку добра падумаць да раніцы, прыгразіўшы, што ў выпадку «неразумнага» рашэння ён будзе расстраляны.

Хто ведае, выканаў бы тое сваё абяцанне камендант ці проста адправіў бы ўпартага чырвонаармейца ў які-небудзь лагер для ваеннапалонных, але мой бацька ў тую ноч вырашыў не выпрабоўваць лёс. Хоць ён і быў моцна збіты і рана на назе яшчэ да канца не загаілася, але адчуванне смяротнай небяспекі сабрала ўсю яго волю ў кулак, прыбавіла сіл, і ноччу ён цвёрда вырашыў уцякаць!.. Надзеі на поспех амаль не было – у памяшканні былі толькі адны дзверы, каля якіх дзяжурылі вартавы, а некалькі вокнаў былі надзейна забітыя дошкамі. І тым не менш бацька пачаў ліхаманкава шукаць выйсце.

Вось з гэтага моманту, як потым згадваў бацька, у яго пачалася паласа шанцавання, а людзі веруючыя сказалі б, што прыйшоў на дапамогу Гасподзь!.. Бацька ў прыцемках абмацаў усё навокал і пасярод памяшкання наткнуўся на печ-галандку, што некалі абагравала школу. Бацька абмацаў і яе з усіх бакоў і раптам адчуў, што некалькі цаглін тае печы хістаюцца. І адразу ў галаве мільганула думка – зрабіць у печы лаз і праз комін выбрацца на паддашак, а адтуль праз дах на волю!

Зняможаны, моцна збіты і галодны вязень пачаў без усялякіх прыладаў – голымі рукамі – разбіраць сцяну печы. Асабліва цяжка паддавалася першая цагліна... Пазбіваўшы рукі да крыві, бацька ўрэшце дастаў яе, а далей справа пайшла лягчэй – на шчасце, печка была ў занядбаным стане і ёй даўно ўжо не карысталіся. Неўзабаве лаз быў гатовы. Бацька ўціснуўся ў яго і па коміне дабраўся да паддашка.

Там ізноў нечувана пашанцавала – на паддашку комін быў па сутнасці ўжо зусім развалены. Складана было зрабіць лаз у чарапічным даху, бо чарапічыне немагчыма было кідаць у паддашак, яе можна было толькі выкідваць вонкі. На

шчасце, побач са школай была дарога, па якой у тую ноч раз-пораз сноўдалі нямецкія ваенныя аўтамабілі. Вось пад іхні шум і рабіў палонны той лаз у даху, спускаючы ўніз – на супрацьлеглы ад вартавога бок школы – па адной чарапіцы.

Пашанцавала ўцекачу і ў тым, што стары будынак школы быў не надта высокі, і саскочыць з даху на зямлю нават з параненай нагой яму ўрэшце ўдалося без асаблівых праблем. Хоць нага падчас прызямлення і дала пра сябе знаць...



*Сямён Гібок-Гібкоўскі (першы злева), выпускнік школы малодшых камандзіраў Забайкальскай ваеннай акругі. 1937 год.*

У маім раннім дзяцінстве, кожны раз слухаючы бацьку, я, зразумела, шчыра верыў кожнаму ягонаму слову і нават вобразна ўяўляў, як адбываліся тыя бацькавы ледзь не монтэ-крыстаўскія ўцёкі са школы. Але калі падрос, у мяне, грэшнай справай, пачалі з’яўляцца ўсялякія сумненні – ці ўсё, што распавядае татка пра тыя свае легендарныя ўцёкі ад немцаў, святая праўда? Ці магчымым было ў рэальнасці такое – збітаму, параненаму, голымі рукамі разабраць печ, вылезці на паддашак, саскочыць з даху на зямлю і ўцячы ад немцаў?.. Тыя сумненні былі да аднаго выпадку.

Ужо калі я вучыўся ў Мінску і прыехаў на канікулы, аднойчы да бацькі, які рамантаваў гадзіннікі розных марак, прыехаў дзядзька па імені Аляксандр. Ён на возе прывёз вялікі насценны гадзіннік і ў дадатак трохлітровік хлебнага самагону з некалькімі колцамі цудоўнай вясковай каўбасы, смак якой я памятаю і сёння...

Быў сабраны стол, за які запрасілі і мяне. За сталом разгаварыліся, і аказалася, што гэты дзядзька Аляксандр з тае самае Жорнаўкі, дзе бацька патрапіў да немцаў у 1941 годзе. Неўзабаве бацьку па нейкіх справах паклікалі на калгасную ферму, дзе ён тады працаваў, і мы засталіся з дзядзькам Аляксандрам сам-насам. І ён раптам пачаў мне распавядаць тую самую, ужо добра вядомую мне гісторыю. Аказалася, што пра бацькавы ўцёкі добра ведала ўся вёска і гісторыя пра іх доўгі час была сапраўднай мясцовай легендай. Назаўтра пасля тых уцёкаў людзі былі сведкамі, як разлютаваліся немцы, калі, адамкнуўшы школку, нікога там не знайшлі!..

Дзядзька Аляксандр сцвярджаў, што яшчэ падлеткам на ўласныя вочы бачыў той неверагодны пралаз у разабранай голымі рукамі печы!.. Па ягоных словах, мой бацька павінен быў да канца дзён маліцца за таго печніка-халтуршчыка, што абы-як (і з абы-якой гліны) ляпіў для школы тую печ, якая, па словах дзядзькі Аляксандра, да вайны так амаль і не функцыянавала, бо адразу пачала моцна дымець. Таму, на яго думку, і змог бацька ўцячы. А каб, маўляў, быў пячнік той сапраўдны і гліну замясіў як след, на курыных бялках, то ніколі бацька не змог бы яе разабраць!..

Вось так у жыцці самае неверагоднае раптам уяўляецца нам зусім інакш. Прызнацца, мне пасля аповеду дзядзькі Аляксандра стала сорамна. Дзякуй Богу, у мяне хапіла розуму тыя сумненні, якія ў мяне былі да сустрэчы з дзядзькам Аляксандрам,

раней не агучыць бацьку ў вочы, што так часта здараецца ў жыцці, асабліва калі мы яшчэ зусім маладыя...

Але вернемся ў тую ноч, калі бацьку ўдалося саскочыць з даху мясцовай школкі... Першая думка, якая прыйшла да яго ў галаву, калі апынуўся на волі: немцы раніцай з сабакамі лёгка знойдуць яго па слядах. Паколькі бацька за год службы ўжо добра паспеў вывучыць гэтыя мясціны, ён адразу скіраваўся да невялікай рачулкі – амаль ручаіны. Па дне гэтай ручаіны і пабег у бок найбліжэйшага вялікага лесу...

Колькі часу бацька тады ішоў, ён не памятаў, але цвёрда разумеў: каб збіць сабак са следу, трэба як мага больш ісці па дне ручаіны. Адкуль толькі тады браліся ў ягоным дарэшты спакутваным целе сілы? Як потым ён сам тлумачыў, мацавала найперш неверагодная прага да жыцця. І ўсё ж сілы былі не бязмежныя – калі бацька выйшаў на ўзлесак і прысеў на першы ж пянёк, то адразу страціў прытомнасць.

Але і тут чарада шанцаванняў (ці Божая ласка!) працягвалася. На беспрытомнага ўцекача маглі лёгка наткнуцца тыя ж немцы, якія тады гойсалі свабодна па дарогах акупаванай Беларусі, але падабралі мясцовыя жыхары, якія, везучы з лесу дровы, выпадкова праязджалі побач і пачулі стогн. Гэтыя людзі, ізноў жа на той час відавочна рызыкуючы сваім жыццём, не пакінулі ў бядзе беспрытомнага былога чырвонаармейца і не пабаяліся прытуліць яго на сваім хутары...

Нейкі час бацька вымушаны быў жыць на тым хутары, які месціўся на ўскрайку лесу, бо пасля прызямлення з гарышча школы ўсё ж крыху была звярэджаная параненая нага і ён ізноў не мог хадзіць. Хутаране добра ставіліся да яго, лекавалі як маглі, кармілі-паілі ўсім тым, што мелі. На шчасце, аказалася, што гаспадары мелі сувязь з партызанамі нядаўна арганізаванага ў тых мясцінах атрада імя Чапаева. Камандзірам яго быў кадравы чырвоны афіцэр лейтэнант Фёдар Баранаў, які толькі што заступіў на гэтую пасаду пасля гібелі арганізатара атрада капітана А. Самохіна. Хутаране распавялі партызанам пра маладога чырвонаармейца, якога прытулілі. Тыя неяк ноччу прыйшлі праверыць, хто ж такі адлежваецца на хутары. Бацька добра вытрымаў той экзамен і неўзабаве быў перапраўлены ў атрад, на ўсё жыццё захаваўшы ўдзячнасць да тых сціплых беларускіх хутаран, якія выратавалі яму жыццё. І іх імёны ён некалі агучваў, але, на вялікі жаль, я іх не захаваў у памяці...

У тым партызанскім атрадзе, пазней брыгадзе, бацька ў якасці камандзіра групы ваяваў ажно да самага прыходу Чырвонай арміі ў 1944 годзе.

Крыху асвоіўшыся ў атрадзе, праз нейкі час бацька вырашыў звесці рахункі з солтысам, які выдаў яго немцам. Партызаны абкружылі дом здрадніка і прапанавалі здацца. У адказ паляцелі гранаты, і некалькі партызан было паранена. Завязалася перастрэлка, падчас якой дом солтыса загарэўся, і ўрэшце ад яго засталася толькі печ з комінам. З пачуццём выкананага доўгу партызаны вярнуліся ў атрад і далажылі камандзіру пра ліквідацыю здрадніка. Але якое ж было іх здзіўленне, калі праз колькі дзён высветлілася, што солтыс жывы-здаровы і працягвае кіраваць вёскай. Аказалася, што з ягонай хаты быў падземны ход, па якім ён і выбраўся падчас партызанскай аблогі...

Яшчэ некалькі разоў партызаны спрабавалі пакараць здрадніка, але ён здолеў ацалець. Быў арыштаваны ўжо перад самым прыходам Чырвонай арміі. Солтыс спрабаваў уцячы разам з немцамі, але абоз, у якім ён ехаў разам з сям'ёй, быў перахоплены партызанамі. Хацелі адразу яго расстраляць, але нехта прапанаваў судзіць здрадніка адкрытым судом у роднай вёсцы. Суд адбыўся пазней, і на яго запрасілі ў якасці сведкі майго бацьку. Солтыс атрымаў 25 гадоў зняволення, якія вымушаны быў правесці ў месцах, даволі аддаленых ад Беларусі. Але, як потым даведаўся бацька, солтыс вярнуўся пасля вызвалення дадому і яшчэ нямала гадоў дажываў у роднай вёсцы.

Пра партызанскае жыццё ў лесе бацька распавядаць не любіў, казаў толькі, што вялікае дзіва, што Бог даў яму перажыць тыя гады і тыя нягоды. У красавіку 1943 года падчас выканання задання бацька быў паранены (ізноў асколкамі!), на гэты раз у галаву і шыю. Адзін з тых асколкаў з шыі ўрачы так і не змаглі тады выдаліць. Малюсенькі кавалачак жалеза моцна заблытаўся ў сухажыллях, застаўся там да канца бацькавага жыцця і, на маёй памяці, часта даваў пра сябе знаць, асабліва падчас неспрыяльнага надвор'я. На доўгі час бацька быў выключаны з баявых дзеянняў, залечваў свае раны ізноў на нейкім хутары ў добрых гаспадароў. Выходжвала яго найперш іх дачка, якую звалі Вера. Як вынік, пасля выздараўлення параненага, яна выявіла жаданне адправіцца разам з ім у партызанскі атрад. І як ні ўгаворвалі бацькі дзяўчыну, рашэнне яе было цвёрдым...

У канцы чэрвеня 1944 года пачалася знакамітая аперацыя «Баграціён». І ў першы ж яе дзень(!) бацька зноў быў паранены (і зноў асколкам!), цяпер у спіну. Некалькі месяцаў шпіталя. Пасля выздараўлення – кароткае знаходжанне на фронце пад Кёнігсбергам, дзе ішла актыўная падрыхтоўка да штурму гэтага магутнага горада-крэпасці. Бацька ўспамінаў потым не раз не толькі пра неверагодныя ўмацаванні, якія ён бачыў пад Кёнігсбергам, але і пра быт мясцовых сялян. Для нашых байцоў гэта быў нейкі цуд – чыстыя, як шпіталь, кароўнік і свінарнік, жытло з усімі зручнасцямі, якія нашым людзям маглі толькі прысніцца...

Немцы падрыхтаваліся да сустрэчы пад Кёнігсбергам вельмі грунтоўна, узвёўшы дзясяткі палос суперсучасных умацаванняў, некаторыя з якіх не бралі нават самыя магутныя снарады. Выручалі сапёры, падпаўзаючы да іх і закладваючы фугасы... Ужо ў самім Кёнігсбергу бацька быў ізноў паранены, на гэты раз рана была кулявая. Малады гітлерюгенд як чорт з табакеркі выскачыў з-за рога і ва ўпор растраляў з аўтамата групу чырвонаармейцаў. У іх ліку быў і мой бацька, для якога аўтаматная куля паставіла канчатковую кропку ва ўдзеле ў Вялікай Айчыннай вайне...

## Другая радзіма

Пасля апошняга баявога ранення быў ваенны шпіталь у Беластоку, дзе бацька пралячыўся амаль да канца вайны. Там жа незадоўга да выздараўлення ён пазнаёміўся са знакамітым мясцовым майстрам па рамонце гадзіннікаў. І паколькі праявіў да гэтай справы нечуваную цікавасць, мэтр з задавальненнем узяўся навучыць свайму рамяству «пана афіцэжа», які хутка апраўдаў спадзяванні майстра, навучыўшыся рамантаваць нават самыя складаныя механізмы. Акурат надышоў і канец вайны. Ужо даволі сталага веку майстар, у якога не было нашчадкаў, прапаноўваў таленавітаму вучню назаўсёды застацца ў Беластоку і працаваць разам з ім, абяцаючы не толькі стабільны і немалы даход, але і спадчыну: свой дом і майстэрню – пасля сваёй смерці. Бацька ўжо нават пачаў схіляцца да згоды, але нечакана Беласток быў перададзены ад СССР у склад Польшчы, і Сямён Гібок-Гібкоўскі як грамадзянін СССР вымушаны быў пакінуць чужую краіну. Як афіцэру яму перад ад'ездам прапанавалі пасаду дырэктара ваенізаванай падсобнай гаспадаркі, якая займалася вытворчасцю прадуктаў харчавання непасрэдна для патрэбаў войска. Што цікава, якраз на Ваўкавышчыне, дзе чатыры гады таму бацька прыняў першы свой бой з фашыстамі...

Зрэшты, на Ваўкавышчыне бацька меркаваў застацца ненадоўга, спадзеючыся пасля канчатковай дэмабілізацыі ўсё-такі вярнуцца на радзіму – Капыльшчыну. Але лёс распарадзіўся так, што менавіта на Ваўкавышчыне, у вёсцы Рупейкі, дзе на месцы былой панскай сядзібы і размяшчалася тая падсобная гаспадарка, бацьку давялося жыць да канца сваіх дзён.

За Польшчаю на той сядзібе быў маёнтак пана Канстанціна Лешчыка. Згаданая

сядзіба, якая і стала месцам майго нараджэння, была ўнікальным па прыгажосці і маляўнічасці месцам, пра якое я, ужо будучы журналістам, напісаў некалькі артыкулаў. Дарэчы, пасля публікацыі ў «СБ» я атрымаў ліст ад унучатай пляменніцы таго самага Канстанціна Лешчыка – ранейшага гаспадара рупейскай сядзібы. Лія Клеменцьеўна Літоўчык, так звалі жанчыну, неўзабаве прыехала да мяне ў госці, і я пазнаёміўся не толькі з ёй, але і з двума яе цудоўнымі сынамі, мы пасябравалі. Жанчына распавяла шмат цікавага пра гэтую некалі ўнікальную сядзібу і яе насельнікаў. Але гэта ўжо тэма для асобнай гаворкі...

Пасля расфарміравання ваенізаваных падсобных гаспадарак, што адбывалася ў звязку з хуткім скарачэннем Чырвонай арміі, бацьку прызначылі на службу ў ваенізаваную ахову на ваўкавыскай чыгунцы. Работа была вельмі нядрэннай, і неўзабаве яму прапанавалі пераезд на службу і кватэру ў г. Ліда. Але, будучы чалавекам да мозгу касцей вясковым, бацька не захацеў пакідаць кавалак зямлі і дом у Рупейках, у які засяліўся падчас працы ў падсобнай гаспадарцы...

Мясцовы рупейскі люд напачатку ўспрыняў майго бацьку як чужака – даволі холадна, калі не сказаць больш... Чапаць не чапалі, бо пабойваліся былога вайскоўца, падазраючы, што ён мае зброю. Але паціху той халадок пачаў раставаць. Бо бацька – чалавек усебаковых талентаў – хутка змог стаць патрэбным для месцічаў.

Па-першае, як я ўжо згадваў, бацька цудоўна рамантаваў гадзіннікі любой канструкцыі і любой складанасці. І кліентуры яму тады не бракавала...

Што гэта справа вельмі няпростая, я пераканаўся і сам яшчэ ў дзяцінстве, калі бацька, некуды адлучыўшыся, дазволіў мне пагуляць адным з гадзіннікаў хвілінак трыццаць. Гэтага часу мне акурат хапіла, каб той цуд тэхнікі дарэшты растрыбушыць. Калі бацька вярнуўся, то, моцна здзіўлены маёй апаратыўнасцю, строга загадаў сабраць усё як было. І вось тут атрымаўся, як кажуць, поўны «бэнц»!.. Абліваючыся слязьмі, я з усіх сіл спрабаваў прыладзіць воські і шасцяронкі на свае месцы, але з паўтузіна іх кожны раз чамусьці заставаліся «не пры справе». Нарэшце бацька, пашкадаваўшы мяне, спыніў мой здзек з тэхнікі, зрабіўшы пры гэтым слушную выснову, што майстар гадзіннікаў з мяне не атрымаецца ніколі!.. Менавіта тады (магчыма, упершыню ў жыцці), праз тыя мае слёзы расчаравання, змешанага са страхам, я адчуў глыбокую павагу да ўсіх людзей, хто быў з таямніцамі тэхнікі на «ты». То бок да тых, пра каго ў народзе кажуць – «у яго залатыя рукі!»

На гадзіннікі бацька траціў шмат часу і энергіі. Калі бракавала нейкіх дэталек, дык ён скрупулёзна выточваў іх уручную пры дапамозе звычайных напільнікаў. Як жа былі яму ўдзячныя мясцовыя людзі, калі бацьку ўдавалася вярнуць да жыцця тую ці іншую сямейную рэліквію, якая да гэтага дзесяцігоддзямі ляжала без справы!.. І як жа шкада, што бацька не меў звычкі весці «статыстыку» зробленага. Перакананы, у тым спісе было нямала ўнікальных, рарытэтных механізмаў!.. Я мяркую толькі па тым, што засталося ў маёй памяці. Часам пакой, дзе бацька рамантаваў гадзіннікі, калі ён развешваў на сценах усе свае адрамантаваныя механізмы, нагадваў сапраўдны гадзіннікавы музей. І я, слухаючы розны бой гэтых цудаў тэхнікі, сноўдаў па тым пакоі як зачараваны, уяўляючы сябе ці то ў нейкім старажытным замку, ці то ў нейкім багатым палацы. Чаго там толькі не было – ад салідных скрынак з «дзверкамі» да невялікіх «зязюлек»!..

Ну а, па-другое, як я таксама ўжо адзначаў вышэй, бацька з цягам часу стаў актыўна выконваць у акрузе ролю мясцовага «юрыста-адваката». Мяркуючы па ўсім, у яго была і ў гэтай справе лёгкая рука, бо адбою ад «кліентаў» і тут не было...

Плён гэтага ягонага «хобі» пажаў і я, калі нейк прыехаў дадому ў вёску на канікулы падчас навучання ў машынабудаўнічым тэхнікуме.

У адну з нядзелек мы з сябрамі паехалі ў суседнюю вёску на танцы, дзе я, будучы ўжо ганарыстым «гарадскім» піжонам, без вялікіх праблем «закадрыў»

мусіць ці не самую прыгожую мясцовую дзяўчыну. Мой поспех, відаць, не вельмі спадабаўся мясцовым хлопцам, асабліва яе ранейшаму кавалеру, і калі ў наступны раз мы зноў прыехалі да суседзяў, там нас ужо чакаў сюрпрыз. Расклад быў для нас не вельмі ўдалы – на кожнага з нас суседзі выстаўлялі па тры. Але галоўным раздражняльнікам гэтай небяспечнай прыгоды міжволі апынуўся я асабіста, і ўвесь той вечар вакол мяне згушчаліся хмары. Танцуючы з той «роковой» мясцовай прыгажуняй, якую звалі Людміла, я старанна рабіў выгляд, што абсалютна нічога не баюся, хоць добра разумеў, цішком амбацваючы вайсковую папругу з пражкай на сваім поясе, што на гэты раз не пранясе і без цяжкіх наступстваў не абыдзецца. Надта ж былі раззлаванымі на мяне мясцовыя, якія ўголас абяцалі за нахабства «праламіць мне галаву».

Пасля танцаў мы – з дзясятак рупейскіх – сталі спускацца з драўлянай танцпляцоўкі ўніз. Разумеючы, што нас чакае, ішлі так, быццам на сваю Галгофу. З двух бакоў нас ахінаў «калідор» з месцічаў і іх хаўруснікаў з суседніх вёсак. Выгляд іх і намеры былі недвухсэнсоўныя і бескампрамісныя. З асаблівай нянавісцю глядзелі на мяне, і, улічваючы іхныя наконт мяне абяцанні, я адчуў, як паціху затрэсліся мае паджылкі!

Унізе мы, інстынктыўна збіўшыся ў своеасаблівае карэ, паздымаўшы свае «пражкі», хочаш не хочаш сталі рыхтавацца да бойкі. Нас вокамгненна абкружылі і, відаць, каб пачаць расправу, чакалі толькі сігналу ад мясцовага важака, якога звалі Зютак.

Але раптам вакол усталявалася цішыня. Гэта да танцпляцоўкі са сваёй світай набліжаўся мясцовы крымінальны аўтарытэт па імені Вацак. Гэты Вацак у свае «чвэрць веку» ўжо двойчы адседзеў у Ваўкавыскім папраўчым лагеры. Ён быў невысокага росту, хударлявы, з даволі прыемным тварам. Але на гэтым твары праглядаліся і відавочны жорсткі досвед пражытага жыцця, і адбітак жалезнай волі. Пры ягоным набліжэнні натоўп паслужліва расступіўся, прапускаючы Вацака да нас. Мелькам зірнуўшы на нашу каманду, ён ціхім голасам, ледзь не скрозь зубы, штосьці спытаў у мясцовых. Яны, паказваючы на нас рукамі, нешта сталі горача яму гаварыць. Выслухаўшы, Вацак не спяшаючыся накіраваўся са сваёй світай да нас з выразам твару, які не абяцаў нічога добрага. Наблізіўшыся, ён спыніўся і цяжкім поглядам акінуў нашае «папружнае» войска. І раптам зусім нечакана спытаў: «А хто з вас Гібкоўскі?» Я адразу зразумеў, што маё прозвішча назвалі яму мясцовыя хлопцы, якія некалі вучыліся са мной у 5-6 класах школы, як чалавека, які стаў прычынай канфлікту. Мне нічога не заставалася, як выступіць наперад, з ясным усведамленнем таго, што вось тут і надышоў мой апошні час. І не дзіва – бязлітасныя вочы зэка глядзелі на мяне холадна і пранізліва, я разумеў, што ад гэтага чалавека чакаць нічога добрага не выпадала. Але памыліўся... Замест страшнага ўдару, якога я інстынктыўна ўжо чакаў, Вацак, не мяняючы свой сталёвы выраз твару, раптам падаў мне руку: «Ну, здароў, сэрцаед!» Я, здзіўлены, нерашуча паціснуў ягоную сухую моцную далонь. «Слухай, а ці не сын ты Сямёна Фёдаравіча?» – спытаў раптам ён. «Так», – адказаў я, не разумеючы, да чаго ён хіліць. «То перадай яму ад мяне шчырае прывітанне!» – працягнуў Вацак. І затым звярнуўся да ўсёй нашай каманды: «А цяпер, хлопцы, хуценька збірайце свае манаткі – і каб праз дзве хвіліны вас тут не было! Вы мяне пачулі?!» Не пачуць мы вядома не маглі... Праз некалькі хвілінаў мы ўжо былі на сваіх жалезных конях – роварах – і ляцелі з усіх сілаў у бок Рупеек, дзякуючы ў душы Богу, што выбраліся жывымі... Хлопцы па дарозе ўсё дапытваліся ў мяне, у чым справа, але я сам разумеў не болей за іх.

І толькі дома, калі я распавёў бацьку пра гэты выпадак, перадаўшы яму прывітанне ад Вацка, я зразумеў, што да чаго. Бацька патлумачыў. «Каб не я, сядзеў бы гэты Вацак апошнім разам не тры гады, а дзесяць...» Аказалася, што па апеляцыі, якую склаў у свой час для Вацакавай маці мой юрыдычна неадук-

аванцы бацька, хлопцу перагледзелі артыкул пакарання і скасавалі ажно 7 гадоў зняволення!.. Сёння ў гэта таксама цяжка паверыць, але гэта было!.. Прычым такіх вось выпадкаў у «юрыдычнай практыцы» майго бацькі было нямала!..

Мусіць, таму многія з суседзяў, якія таксама карысталіся рознымі бацькавымі паслугамі, былі шчыра ўдзячныя яму. Памятаю, да прыкладу, як аднойчы адзін з месцічаў за некую справу, зробленую бацькам, прывёз цэлае вялікае вядро карасёў, прычым яшчэ жывых... Месцічы пастаянна запрашалі бацьку з маці ў госці на розныя святы, як агульныя, так і сямейныя, – вяселлі, хрысціны, каляды, вялікдзень і г.д. Зразумела, што на такія мерапрыемствы бацькі па вясковых звычаях заўсёды бралі з сабою і нас – малых. Згадкі пра тыя «госці» – адны з самых прыемных з нашага дзяцінства: такой смакаты, як за тымі вясковымі сталамі, я больш ніколі ў жыцці не каштаваў!.. Да прыкладу, хлеб жытнёвы, выпечаны ў вясковай печы, там жа запечаная вяндліна з цяляціны, пальцам пханая вяленая каўбаса з нейкімі асаблівымі, якімі толькі ў нашай вёсцы карысталіся, прыправамі. Такіх смачных каўбасаў я ўвогуле больш нідзе ў Беларусі не бачыў!..

Зрэшты, бацькавы справы з месцічамі далёка не абмяжоўваліся «юрыдычнымі» і «гадзіннікавымі». Нярэдка ён смела браў на сябе выкананне абавязкаў шаўца, ветэрынара, мясніка, млынара, будаўніка і шмат якія іншыя. То бок, і насмрэч быў на ўсе рукі майстрам! І з гэтай нагоды заўсёды нам – сваім дзецям – казаў: «Не ўсё трэба рабіць, але ўсё трэба ўмець!» І шкадаваў, што не паспеў авалодаць майстэрствам краўца...

З гадамі, калі свет стаў імкліва мяняцца ў цывілізацыйным плане, патрэба ў гэтых паслугах для маіх землякоў знікла. Але аўтарытэт бацькаў у іхніх вачах застаўся. Я не раз бачыў, з якой асаблівай павагай месцічы віталіся з бацькам пры сустрэчах.

Словам, бацька змог добра прыжыцца на сваёй другой радзіме – Ваўкавышчыне, бо здолеў стаць карысным і патрэбным для людзей. А ці не гэта ёсць сёння найвялікшай праблемай для большасці з нас – няўменне быць патрэбным для іншых?! Мажліва, таму бацька так і не вярнуўся на сваю Капыльшчыну, хоць у часы майго дзяцінства не раз заводзіў пра гэта размову. На Ваўкавышчыне ў вёсцы Рупейкі ён завяршыў свой зямны шлях і быў пахаваны на могілках у суседнім Ізабеліне.

## Эпілог

Вось такія эпізоды з гісторыі жыцця майго «зніклага без вестак» бацькі. Ягоны лёс, магчыма, і не быў вельмі камфортным і шчаслівым, але ў некалькіх рэчах яму ўсё ж пашчасціла. Па-першае, ён сумленна выканаў абавязак воіна – абаронцы сваёй Айчыны. Па-другое, яму ўдалося знайсці сваё месца сярод чужых людзей і стаць для іх патрэбным. Па-трэцяе, ён змог разам з маці паспяхова выхаваць і падняць на ногі нас – трох дзяцей – каб мы перадалі вечную эстафету жыцця далей – сваім дзецям і ўнукам.

Бацька заўсёды ганарыўся намі і нашымі поспехамі. Радаваўся, калі брат, які служыў у МУС у Расіі, атрымліваў сваё чарговае званне па службе. Бацька нават заспеў маю радыкальную жыццёвую трансфармацыю ў амаль 40-гадовым узросце – ад інжынера-канструктара да рэдактара і пісьменніка.

Такім чынам, знойдзеныя ў архівах старыя дакументы не заўсёды сведчаць ісціну... І тым не менш за гэтую знаходку я хачу сказаць шчыры дзякуй людзям, якія падрыхтавалі такія дакументы да абнародавання. Перакананы, што праз гэтыя дакументы яны далі многім рэальны след да ўзнаўлення памяці пра іхніх родных, загінулых у вайну! Але ўсё ж жыццё людзей адбываецца не на паперах, а на рэальнай зямлі, і лёс нашага бацькі таму яскравае сведчанне!..

прачытанне

Сяргей Кавалёў



...Гісторыя са старонак рамана паўстае як працэс амаль трагічны, бязлітасны да сваіх удзельнікаў...

# Карабель у бурлівым моры часу:
## *гісторыя аднаго твора*

*Наперадзе – невядомасць, мінулае нам не належыць, а мы пасярэдзіне, на вузенькай мяжы бягучай хвіліны. У будучыню ідзем, на мінулае аглядаемся. Яно як люстэрка...*

Кастусь Тарасаў. "Пагоня на Грунвальд"

У гісторыі кожнай нацыянальнай літаратуры ёсць творы, народжаныя ў канкрэтнай культурна-гістарычнай сітуацыі, пад моцным уплывам грамадска-палітычнай атмасферы свайго часу, якія потым, нібы той карабель, вырушаюць у свабоднае плаванне, набываюць з гадамі ўсё больш універсальнае гучанне, прыцягваюць увагу чытачоў наступных пакаленняў, якія не ведаюць, з якога порту выплыў карабель, не адчуваюць многіх нюансаў, якія былі відавочныя для сучаснікаў аўтара, але тым не менш атрымліваюць сапраўднае мастацкае задавальненне ад прачытання твора і знаходзяць у ім новыя якасці, не заўважаныя папярэднікамі.

Адным з такіх унікальных твораў у беларускай літаратуры

з'яўляецца гістарычны раман Кастуся Тарасава "Пагоня на Грунвальд", напісаны на рускай мове напрыканцы 70-х гг. XX ст. – у "застойную" брэжнеўскую эпоху. Найноўшае выданне рамана датуецца 2012 г. у зборніку К. Тарасава "Выбраныя творы", які пабачыў свет у прэстыжнай серыі "Беларускі кнігазбор". Паводле задумы стваральніка серыі Кастуся Цвіркі, тут выдаецца толькі найлепшае з беларускай літаратуры, яе залаты фонд, таму пабачыць свае творы пад дыхтоўнай кнігазбораўскай вокладкай – амбітная мара кожнага беларускага пісьменніка. Кастусь Тарасаў да свайго ганаровага ўзвядзення ў ранг класіка не дажыў: кніга выйшла праз два гады пасля яго смерці, з прадмовай іншага майстра гістарычнага жанру – Уладзімера Арлова.

Цікаўны чытач, які ўпершыню ўзяў у рукі кнігу Кастуся Тарасава і захацеў бы даведацца, якое месца займае яе аўтар у гісторыі беларускай літаратуры, быў бы расчараваны вынікамі сваіх пошукаў. У школьных і ўніверсітэцкіх падручніках творы Тарасава не разглядаюцца, і нават у шматтомнай акадэмічнай "Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя" – асноўнай навуковай крыніцы ведаў пра беларускую літаратуру XX – пачатку XXI ст. – імя пісьменніка згадваецца рэдка. Калі казаць дакладна, у першай кнізе чацвёртага тома (раздзел "Проза", аўтар – С. Андраюк) названа навукова-папулярная кніга Тарасава "Памяць пра легенды" (чамусьці як прыклад гістарычнай прозы), у другой кнізе (раздзел "Проза", аўтар – С. Андраюк) імя пісьменніка адсутнічае, у трэцяй кнізе (раздзел "Проза", аўтар – І. Шаўлякова-Барзенка) пералічаны познія творы Тарасава "Апошняе каханне Міндоўга", "Аўдытарская праверка ў Нясвіжы, альбо скарб Нясвіжскага замку", "На вайне", "Брыгіткі", "Нячутныя гукі самоты".

Такім чынам, найбольш знаны твор Кастуся Тарасава – гістарычны раман "Пагоня на Грунвальд", як і ўся творчасць пісьменніка 70-90-х гг. XX ст., аказаліся па-за ўвагай аўтараў акадэмічнай "Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя". І калі ў выпадку Ірыны Шаўляковай-Барзенкі гэта тлумачыцца тым, што ў яе задачу ўваходзіў разгляд беларускай прозы пазнейшага перыяду (пачатку XXI ст.), то ў выпадку Серафіма Андраюка гэта звязана, відаць, з невысокай ацэнкай знаным літаратуразнаўцам мастацкіх вартасцяў тарасаўскіх твораў. Пералічыўшы шэраг гістарычных твораў беларускіх пісьменнікаў, выдадзеных у 80-я гг. XX ст., С. Андраюк адзначае: "Для Іпатавай і Тарасава гістарычная тэма ў далейшай творчасці стане асноўнай. Праўда, усе гэтыя творы ўспрымаюцца як напісанае пасля Караткевіча"[1].

Няўвагу стваральнікаў акадэмічнай "Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя" да творчасці Кастуся Тарасава можна было б растлумачыць тым, што спачатку Тарасаў пісаў на рускай мове (фактычна, да пачатку 90-х гг. XX ст.). Але ж на рускай мове пісалі таксама Эдуард Скобелеў і Алена Папова, якім у акадэмічным выданні прысвечаны асобныя раздзелы. Думаецца, творчасць Кастуся Тарасава, які пачынаў пісаць па-руску, а потым свядома перайшоў на беларускую мову і аказаў, насуперак меркаванню С. Андраюка, вялікі ўплыў на развіццё гістарычнага жанру, мае куды большае значэнне для развіцця нацыянальнай літаратуры, чым творчасць вышэйназваных пісьменнікаў. Пацвярджэннем гэтаму з'яўляецца і прысвечаны важным падзеям беларускай гісторыі раман "Пагоня на Грунвальд", які, таксама як гістарычныя творы Уладзіміра Караткевіча, спрыяў станаўленню нацыянальнай свядомасці многіх чытачоў.

Першы варыянт твора з'явіўся ў 1980 г. на рускай мове пад назвай "День рассеяния", з жанравай пазнакай "историческая повесть". Да гэтай публікацыі Кастусь Тарасаў быў вядомы чытачу як аўтар дэтэктыўна-прыгодніцкай аповесці "Следственный эксперимент", надрукаванай у часопісе "Нёман". Але менавіта аповесць пра Грунвальдскую бітву "День рассеяния" стала першай кніжнай публікацыяй пісьменніка і яго мастацкай візітоўкай ажно да выхаду ў свет

кнігі эсэ "Память о легендах" (1984), якая – слушна адзначае Уладзімір Арлоў – зрабіла Кастуся Тарасава "знакамітым"[2]. Памятаю, я ўпершыню ўбачыў кнігу "День рассеяния" ў руках аднаго з сяброў нефармальнай моладзевай суполкі "Майстроўня"[3] і вельмі здзівіўся, што мой беларускамоўны, нацыянальна-свядомы прыяцель чытае кнігу нейкага незнаёмага рускамоўнага аўтара. "А ты пачытай: не горш за Караткевіча!" – пачуў я адказ на маё з'едлівае пытанне. Не ўпэўнены, ці паслухаўся я тады ягонай парады, ці прачытаў Тарасава значна пазней, але параўнанне з Караткевічам аказалася няслушным: у творах Тарасава адчуваўся зусім іншы погляд на гісторыю, іншы мастацкі стыль. Зрэшты, усе пісьменнікі, якія ў 80-90-я гг. мінулага стагоддзя браліся за гістарычную прозу, няўмольна траплялі ў цень Уладзіміра Караткевіча – агульнапрызнанага майстра гэтага жанру ў беларускай літаратуры.

Як аказалася, выданнем аповесці "День рассеяния" не скончылася праца пісьменніка над творам: у 1986 г. у Маскве Кастусь Тарасаў выдаў дапрацаваную версію пад назвай "Погоня на Грюнвальд" з жанравай пазнакай "исторический роман". За гэтую кнігу беларускі аўтар атрымаў у 1988 г. прэмію Міністэрства абароны СССР. У 1991 г. "Погоня на Грюнвальд" была перавыдадзена ў Мінску, а ў 1997 г. пабачыла свет беларускамоўная версія рамана ў зборніку "Тры жыцці княгіні Рагнеды. Пагоня на Грунвальд" (серыя "Школьная бібліятэка"), якая і ўвайшла пазней у зборнік "Выбраныя творы" (2012). Па колькасці перавыданняў "Пагоня на Грунвальд" займае першае месца ў творчасці пісьменніка, гэтыя перавыданні прыпадаюць на розныя часы: брэжнеўскую застойную эпоху, гарбачоўскую перабудову, перыяд нацыянальна-патрыятычнага адраджэння і лукашэнкаўскую эпоху. За гэты час Беларусь набыла статус незалежнай дзяржавы, хаця беларуская ідэя, мова, культура так і не сталі дамінуючымі каштоўнасцямі ў грамадстве, пра што так марыў Кастусь Тарасаў і іншыя дзеячы нацыянальна-адраджэнскага руху .

Але істотна змянілася ў беларускім грамадстве стаўленне да ўласнай гісторыі, нацыянальных традыцый і звычаяў, а таксама стаўленне да рэлігіі, да хрысціянскіх каштоўнасцяў. У часы, калі Кастусь Тарасаў пісаў "День рассеяния", панавала камуністычная ідэалогія, ваяўнічы атэізм, афіцыйна ўсталяваны погляд на беларускую мінуўшчыну як на гісторыю шматвекавой барацьбы беларускага народа супраць літоўскага і польскага прыгнёту, за добраахвотнае ўз'яднанне з Расіяй. Тагачасны чытач у адрозненне ад сённяшняга не меў доступу да папулярных гістарычных нарысаў В. Ластоўскага, У. Ігнатоўскага, М. Доўнар-Запольскага, яшчэ не напісаныя былі кнігі М. Ермаловіча, Г. Сагановіча, В. Чаропкі, а паліцы кнігарняў не ўпрыгожвалі багата ілюстраваныя выданні накшталт: "Беларусь. Гістарычнае падарожжа для дзяцей" К. Тарасава, "Таямніцы полацкай гісторыі" У. Арлова, "Краіна Беларусь. Вялікае Княства Літоўскае" У. Арлова і З. Герасімовіча.

Беларускія савецкія школьнікі і студэнты не ведалі гісторыі ўласнай краіны, не чулі імёнаў Міндоўга, Войшалка, Гедыміна, Альгерда, Кейстута, Вітаўта, Ягайлы, Канстанціна Астрожскага, Яна Караля Хадкевіча альбо атаясамлівалі гэтыя імёны выключна з гісторыяй суседніх народаў. "Гісторыя БССР" вывучалася як факультатыўны дадатак да курса "Гісторыя СССР" (у гарадскіх школах – на рускай мове), перыяд Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай (XIV-XVIII стст.) асвятляўся на трыццаці старонках, прычым пра ўтварэнне беларуска-літоўскай дзяржавы ў слынным падручніку пад рэдакцыяй Лаўрэнція Абэцэдарскага было напісана ўсяго два абзацы: "Великое княжество Литовское – государство литовских феодалов. Обособленные древнерусские княжества были очень ослаблены борьбой с монголо-татарскими завоевателями, немецкими и шведскими захватчиками. Это использовали литовские князья. В XIII – XIV вв. они подчинили своей власти западные земли древней Руси. Литовские князья сохранили за местными феодалами их земельную собственность, зависимых от них крестьян,

все имущественные привилегии, но государственная власть перешла к литовским князьям.

Так образовалось Великое княжество Литовское – огромное, но слабо объединенное государство. Земли, заселенные литовцами, составляли совсем незначительную часть его территории. Литовские князья раздавали землю и крестьян крупным феодалам (панам), а также церкви. Много земли и крестьян было передано так называемым "боярам-шляхте" – военно-служилым людям, силою оружия защищавшим интересы господствующего класса"[4].

І вось гэтыя самыя "баяры-шляхта" і "літоўскія князі", якім баяры самааддана служылі, а яшчэ цемрашалы-святары сталі галоўнымі героямі рамана малавядомага беларускага пісьменніка. Як ва ўмовах савецкай цэнзуры такі раман пабачыў свет, а потым яшчэ і атрымаў прэмію Міністэрства абароны СССР? Акрамя ўдачы і заступніцтва нябёсаў аўтару паспрыяла яшчэ адна важная ідэалагема савецкай канцэпцыі гісторыі Беларусі: горш за *літоўскіх* і *польскіх* захопнікаў-эксплуататараў былі захопнікі *нямецкія*; барацьба полацкіх дружын і беларуска-літоўскіх харугваў супраць крыжацкіх войскаў выглядала як своеасаблівая прадгісторыя барацьбы савецкага народа супраць нямецка-фашысцкіх агрэсараў. У вышэйцытаваным падручніку "История БССР" на той самай старонцы чытаем: "Образование Великого княжества Литовского способствовало успешной борьбе славян и литовцев против агрессии немецких рыцарей. В 1410 г. под Грюнвальдом немецкие рыцари были разгромлены. В Грюнвальдской битве против захватчиков вместе с литовцами и поляками героически боролись ополчения берестейской, волковысской, лидской, пинской, полоцкой, витебской, смоленской земель"[5].

У анатацыі да аднаго з рускамоўных выданняў "Пагоні на Грунвальд" свядома падкрэслівалася: "Центральное событие романа – знаменитая Грюнвальдская битва (1410 г.), в которой объединенные силы поляков, белорусов, литовцев и украинцев разгромили войска Тевтонского ордена. В романе представлена галерея исторических личностей – великий князь Витовт, король Ягайла, великий магистр Ульрик фон Юнгинген, князь Швидригайла, жена Витовта княгиня Анна и др."[6]

І сапраўды, дзеянне рамана пачынаецца напярэдадні Грунвальдскай бітвы – восенню 1409, кульмінацыйнай падзеяй рамана з'яўляецца сама бітва, якая адбылася 15 ліпеня 1410 г., а ўсе наступныя падзеі ўспрымаюцца як своеасаблівы эпілог да яе. Акрамя пералічаных у анатацыі гістарычных асобаў у рамане больш ці менш актыўна дзейнічаюць многія іншыя: князі Свідрыгайла і Жыгімонт Кейстутавіч, чэшскі кароль Вацлаў, імператар Сігізмунд Люксембургскі, крыжацкія правадыры Фрыдрых фон Валенрод, Куна фон Ліхтэнштэйн, Генрых фон Плаўэн, татарскія ханы Джэлаладзін і Багардзін, гетманы чэшскіх табарытаў Ян Жыжка і Пракоп Вялікі, польскія саноўнікі Альберт Ястжэмбскі і Збігнеў Бжэзінскі, рускі баярын Леў Вяземскі, беларускія магнаты Фёдар і Даніла Астрожскія, Юрый Заслаўскі, Сямён Друцкі. Яшчэ большая колькасць гістарычных персанажаў проста згадваецца ў рамане: напрыклад, продкі Вітаўта – літоўскія князі Міндоўг, Гедымін, Альгерд, ягоныя бацькі – князь Кейстут і княгіня Біруta, стрыечныя браты – князі Андрэй Полацкі, Скіргайла, Карыгайла, Віганд, сыны Вітаўта – атручаныя крыжакамі Іванка і Юрачка.

Узяўшы ў рукі раман пра Грунвальдскую бітву, чытач даведваўся з яго пра ўзнікненне Вялікага Княства Літоўскага ў сярэдзіне XIII ст. пад уладай князя Міндоўга, пра перамогу князя Альгерда над татарамі на Сіняй Вадзе ў 1362 г., пра барацьбу за ўладу пасля смерці Альгерда паміж князем Ягайлам і князем Кейстутам, пра доўгі і пакутлівы шлях да ўлады князя Вітаўта і ягоны трыумф у якасці кіраўніка дзяржавы, пра барацьбу за ўладу пасля смерці Вітаўта паміж князем Свідрыгайлам і князем Жыгімонтам, пра забойства князя Жыгімонта Аляксандрам Чартарыйскім у 1434 г. Фактычна, перад вачамі чытача разгортваецца

панарама гісторыі Вялікага Княства Літоўскага ад сярэдзіны XIII да сярэдзіны XV стагоддзя, зафіксаваная на старонках сярэднявечных беларуска-літоўскіх летапісаў і цалкам адсутная і свядома абдзеленая ўвагай у падручніках па гісторыі БССР і СССР.

Якім чынам у мастацкім рамане змясцілася такая вялікая колькасць гістарычных звестак і ў якой форме гэтыя звесткі падаюцца чытачу? Аўтар выкарыстоўвае дзеля гэтай мэты розныя творчыя стратэгіі. Гісторыю ўзнікнення Вялікага Княства Літоўскага адзін з герояў даведваецца з летапісу, які піша ягоны духоўны настаўнік, ваўкавыскі праваслаўны святар Фоцій. Аповяд пра слаўную бітву на Сіняй Вадзе героі чуюць ад старога лірніка, якога выпадкова сустракаюць у хатцы знахаркі Кульчыхі. Пра складаныя перэпетыі барацьбы за ўладу ў Вялікім Княстве Літоўскім у 80-90-я гг. XIV ст. чытач даведваецца з пакутлівых унутраных маналогаў князя Вітаўта, які страціў у гэтай барацьбе і бацькоў, і дзяцей, а таксама з трывожных роздумаў ягонага колішніга супрацiўніка, а ў бітве з крыжакамі саюзніка – польскага караля Ягайлы. Унутраныя маналогі-роздумы вялікага магістра Ульрыка фон Юнгінгена прыадкрываюць чытачу гісторыю ўзнікнення Тэўтонскага ордэна і яго агрэсіўную палітыку ў адносінах да славянскіх і балцкіх народаў.

Трэба адзначыць, што ўнутраны маналог героя з’яўляецца ўлюбёным прыёмам Кастуся Тарасава ў рамане “Пагоня на Грунвальд”; у адрозненне ад сотніка Андрэя Ільініча, які не можа зразумець логіку мыслення князя Вітаўта (“Цьмяна ўсё, думаў Андрэй, не зразумець, пра што думае вялікі князь. Ды і як разабрацца ў буйных справах дробнаму чалавеку”[7]), чытач ведае думкі ўсіх асноўных герояў і нават паралельныя думкі герояў адзін пра аднаго.

Сустрэўшыся ў Берасцейскім замку, каб выпрацаваць план сумеснага паходу на крыжакоў, Вітаўт і Ягайла кідаюць адзін на аднаго маўклівыя позіркі, згадваюць у думках былыя крыўды, смерць блізкіх, абвінавачваюць адзін аднаго ў нерашучасці ў вайне супраць крыжакоў: “Даўно было пара, ды марудзілі, баяліся, і ўсё нейкія перашкоды. То самі грызліся за ўладу, то міралюбіца Ядвіга, першая жонка Ягайлы, думаў Вітаўт, супраціўлялася, шкадуючы хрысціянскую кроў, то ты брат, думаў Ягайла, татар хадзіў ваяваць, загубіў войска, то малапольскія паны не жадалі вялікай вайны, то самі не маглі дамовіцца і падладжваліся да Ордэна, цярпелі знявагу і выдаткі, толькі б другому дадаць клопату” (с. 67).

Думкі Вітаўта набягаюць на думкі Ягайлы, перагукваюцца, пераплятаюцца і ўрэшце цякуць агульнай плынню, калі чытач перастае разумець, чый унутраны маналог дае яму магчымасць паслухаць аўтар гэтым разам: “Нашто ж мы змагаемся! Састарэлі. Дзяцей няма. Да трыццаці гадоў прыяцельствавалі, з трыццаці да шасцідзесяці варагавалі, а што потым станецца, калі крыжакоў пераможам? Магчыма, аднаго з нас у бітве заб’юць, і вырашыцца наша працяглая і невырашальная сварка?”

Можна з упэненнасцю сцвярджаць, што калі б раман пісаўся не ў 70-я гг. XX ст., а ў наш час, гістарычных экскурсаў і роздумаў герояў пра мінулае ў творы было б значна менш. Але ў тыя часы такая гістарычная інфармацыя была чытачу проста неабходная, і Кастусь Тарасаў дадаў да рускамоўнага выдання рамана яшчэ пасляслоўе “От автора”, а таксама досыць вялікі каментар “Пояснение к некоторым именам собственным и понятиям”, дзе тлумачыў, што такое Вялікае Княства Літоўскае, Жмудзь, Тэўтонскі ордэн, Мазовія, Малапольшча, хто такія Альгерд, Андрэй Полацкі, Вітаўт, Гедымін, Кейстут, Міндоўг, Свідрыгайла, Жыгімонт Кейстутавіч, Ягайла (у найноўшым беларускамоўным выданні каментар удвая карацейшы, а пасляслоўе ад аўтара ўвогуле адсутнічае).

Нягледзячы на такую інфармацыйную насычанасць і выразную асветніцкую місію, раман “Пагоня на Грунвальд” не стаўся адно ілюстрацыяй да гісторыі

Вялікага Княства Літоўскага, а захаваў усе ўласцівасці мастацкага твора, які чытаецца з захапленнем, вымушае суперажываць героям, выклікае шматлікія пачуцці і думкі. Ад перагружанасці гістарычным матэрыялам і патрыятычнага дыдактызму ратуюць раман арыгінальная кампазіцыя, дынамічны сюжэт, яскравыя характары герояў, элементы псіхалагізму і філасофскія рэфлексіі. Характэрна, што гістарычныя экскурсы і каментарыі сустракаюцца пераважна ў першых раздзелах твора, калі аўтару неабходна ўвесці чытача ў сутнасць падзей, ды яшчэ ў эпілогу, калі асноўныя падзеі ўжо адбыліся, і аўтар на пятнаццаці старонках прасочвае далейшыя лёсы сваіх герояў і краіны на працягу дваццаці гадоў: ад 1415 да 1434 года. Пачынаючы з раздзела "Берасцейскі замак. Дамова", дзе апісваецца сустрэча ў Бярэсці князя Вітаўта і караля Ягайлы ў снежні 1409 г. і да раздзела "Год 1413. Гародла над Бугам. 2 кастрычніка", прысвечанага падпісанню Гарадзельскай уніі 2 кастрычніка 1413 года, сюжэт рамана разгортваецца з кінематаграфічнай хуткасцю, дзеянне пераносіцца то ў крыжацкі замак Мальбарк, то ў далучаны да Вялікага Княства Літоўскага Смаленск, то ў чэшскую Прагу, то ў венгерскі Кежмарк, каб потым застыць на імгненне ў знішчаным крыжакамі Ваўкавыску і выбухнуць падрабязным, але дынамічным апісаннем славутай бітвы на пагорках Грунвальда.

Як ужо адзначалася, у рамане "Пагоня на Грунвальд" дзейнічаюць многія гістарычныя асобы, але сярод іх толькі князя Вітаўта можна залічыць да ліку галоўных герояў рамана і назваць яго вобраз несумненнай творчай удачай аўтара. Усе іншыя гістарычныя асобы, прадстаўленыя ў рамане – і кароль Ягайла, і вялікі магістар Ульрык фон Юнгінген, і князь Свідрыгайла, і імператар Сігізмунд – персанажы, хутчэй, другарадныя. Бо не рэальныя гістарычныя асобы, не імператары, каралі і князі з'яўляюцца *насамрэч галоўнымі* героямі рамана "Пагоня на Грунвальд", а мастацкія вобразы, створаныя з дапамогай аўтарскай фантазіі: Андрэй Ільініч, Мішка Расевіч, ягоныя сёстры Аленка і Соф'я, Юрый, ягоная сястра Вольга, іхнія бацькі, сваякі, суседзі – прадстаўнікі беларускай праваслаўнай шляхты. Менавіта за іх чалавечымі лёсамі, а не за перыпетыямі палітычнай барацьбы ў Вялікім Княстве Літоўскім і ў тагачаснай Еўропе, уважліва сочыць чытач, з іх перажываннямі і надзеямі на простае чалавечае шчасце атаясамліваецца, іх трагічную смерць аплаквае ў фінале твора, а некаторых – яшчэ раней. Наяўнасць гэтых яскравых, псіхалагічна-заглыбленых вобразаў, гарманічнае ўпляценне аўтарскага вымыслу ў канву гістарычнай праўды ўзмацняе мастацкую парадыгму рамана, ратуе твор ад ілюстратыўнасці, звыклага пераказу гістарычных падзей з пафаснымі патрыятычнымі высновамі.

У рамане "Пагоня на Грунвальд" падзеі разгортваюцца на двух ярусах: *верхнім* і *ніжнім* (таксама як на двух ярусах разгортваліся падзеі ў антычным эпасе: на ўзроўні багоў і на ўзроўні асілкаў-герояў, альбо ў беларускай батлейцы: на ўзроўні біблейскіх герояў і на ўзроўні інтэрмедыйных персанажаў). Карыстаючыся традыцыйнай схемай, можна сказаць, што вобразы Андрэя, Мішкі, Юрыя, Вольгі, Аленкі, Соф'і, праваслаўнага святара Фоція, знахаркі Кульчыхі, служкі Гната ўвасабляюць народ, а вобразы Вітаўта, Ягайлы, Свідрыгайлы, Жыгімонта Кейстутавіча – уладу.

У той час, калі князь Вітаўт і кароль Ягайла рыхтуюцца да вайны з Тэўтонскім ордэнам і шукаюць саюзнікаў у Еўропе, а крыжацкія правадыры Ульрык фон Юнгінген, Фрыдрых фон Валенрод, Куна фон Ліхтэнштэйн усяляк перашкаджаюць ім і нават спрабуюць прыбраць сваіх праціўнікаў з палітычнай сцэны, у двары Рось пад Ваўкавыскам папраўляецца ад ран Мішка Расевіч і прызнаецца ў даўнім каханні Вользе, ягоны сябра Андрэй Ільініч прыязджае ў адведкі і знаёміцца з Мішкавай малодшай сястрой Соф'яй, а старэйшай сястры Мішкі, Аленцы, адкрывае сваю душу Юрый, які пакутліва вырашае, кім стаць: святаром ці воінам. У той час, калі Вітаўт і Ягайла высылаюць паслоў да крыжацкага магістра Ульрыка

фон Юнгінгена, чэшскага караля Вацлава і венгерскага караля Сігізмунда, а потым сустракаюцца ў Белавежскай пушчы, каб абмеркаваць план будучай вайны, “простыя” героі ў Росі, Былічах, Ваўкавыску ўспамінаюць сваё мінулае і плануюць будучае жыццё, удзельнічаюць у шляхецкіх наездах і спрэчках за маёмасць, памінаюць Дзядоў, варожаць на Шчадрэц, святкуюць Каляды, ідуць на Вербніцу памаліцца ў царкву.

Часам гэтыя сюжэтныя лініі ў рамане Кастуся Тарасава (як і ўвогуле ў гістарычнай прозе) перасякаюцца, “простыя” людзі аказваюць уплыў на ходу гісторыі, а каранаваныя асобы “нісходзяць” да ўмяшання ў асабістае жыццё “простых” герояў: Андрэй Ільініч пад Полацкам бярэ ў палон князя Свідрыгайлу і ратуе жыццё князю Вітаўту ў Кежмарку; князь Вітаўт узнагароджвае Андрэя Ільініча за службу некалькімі вёскамі і ласкава прапануе сябе ў ролі свата да Соф’і Расевіч. Але найчасцей умяшанне каранаваных асобаў і вялікай Гісторыі ў жыццё простых людзей заканчваецца для апошніх трагічна: падчас нападу крыжакоў, якія палююць на князя Вітаўта, гінуць Марфа Расевіч, знахарка Кульчыха, Вольга, старац Фоцій і многія іх сваякі і суседзі; Мішка гіне ў харугвах князя Вітаўта ў бітве пад Грунвальдам; Юрый знаходзіць смерць, адправіўшыся ў Чэхію ўслед за князем Карыбутам; Андрэй разам з сынам страчваюць жыццё пад сцягамі князя Свідрыгайлы ў бітве на рацэ Святой.

У сваіх памкненнях і паводзінах “простыя” героі рамана вельмі блізкія і зразумелыя сучаснаму чытачу, але адрознівае іх ад нашых сучаснікаў і, асабліва, ад людзей савецкай эпохі, у якую быў створаны раман, глыбокая рэлігійнасць, шанаванне культу продкаў і нацыянальных традыцый.

Атрымаўшы вестку аб цяжкім раненні Данілы, Вольга стараецца заглушыць у сабе былыя крыўды на нялюбага мужа і парасткі кахання да Мішкі Расевіча, прага жаночага шчасця змагаецца ў яе душы з пачуццём хрысціянскай міласэрнасці: “Удзень яна думала пра мужа са спачуваннем, шкадавала яго; ёй мроілася дрогкая дарога, абяскроўлены Даніла на саломе пад восеньскім дажджом, стогны яго, калі калёсы падскоквалі на калдобінах. Яна малілася аб яго выздараўленні. Яшчэ яна прасіла ў малітвах, каб гаспод даў ёй сілы даглядаць мужа, вярнуў дабрыню да яго, лёгкасць на сэрцы, заглушыў злую памяць, бо Даніла зараз нядужы і рана яго небяспечная” (с. 26).

Брат Вольгі, Юры, раніцай на Дзяды прыходзіць на ваўкавыскія могілкі, ставіць свечку на магілу маці, згадвае бацьку, загінуўшага ў баі з крыжакамі і пахаванага далёка ад дому, яго напаўняе пачуццё любові да бацькоў, продкаў, да суродзічаў, якія прыйшлі разам з ім на могілкі, да ўсіх людзей на зямлі: “І зараз, назіраючы рух людзей ля могілак, Юры адчуваў добрасць гэтай любові, што прасвятляла душу, радніла ўсіх братэрскімі пачуццямі. Усіх, што прыйшлі сюды ўшанаваць дзядоў, яднала шчырае пачуццё ўдзячнасці і замілавання. Хрыстос хацеў, каб так было заўсёды. Толькі, на жаль, думаў Юры, людзі пакуль яшчэ няздатныя на трывалую любоў, павагу, дапамогу адзін другому”.

Менавіта памінанне Дзядоў у Мінску восенню 1988 г., арганізаванае літаратурным таварыствам “Тутэйшыя”, паклала пачатак нацыянальна-дэмакратычнаму руху ў Беларусі. Дзясяткі тысяч людзей сабраліся на Маскоўскіх могілках, каб прайсці вялікай калонай ва ўрочышча Курапаты, дзе ў 30-я гады XX ст. камуністычныя каты масава растрэльвалі свае ахвяры. Па загадзе гарадскіх уладаў міліцыя спрабавала разагнаць удзельнікаў акцыі, што выклікала рэзкі пратэст грамадства і хвалю публікацый у беларускай і расійскай прэсе. Як і герояў Кастуся Тарасава, прыйшоўшых на могілкі ў 1988 г. людзей аб’ядноўвала пачуццё еднасці са сваімі продкамі і паміж сабой. Як вобразна выказаўся паэт Уладзімір Някляеў, на могілках сабраўся натоўп, а вярнуўся з могілак – Народ...

Духоўны настаўнік Юрыя, ваўкавыскі праваслаўны святар Фоцій, піша летапіс,

у якім занатоўвае гісторыю свайго горада і сваёй краіны; ён кажа свайму вучню: “Пісьмёны мудрасці і справядлівасці навучаюць. Кажуць: памятай, што не ты першы, што і раней за цябе жылі людзі, і пасля цябе будуць жыць...”

Словы Фоція гучалі актуальна не толькі для Вялікага Княства Літоўскага ў XV ст., але і ў XX ст. для савецкай Беларусі, якая стала ахвярай палітыкі русіфікацыі, ваяўнічага атэізму, гістарычнага бяспамятства. Падкрэсліваючы духоўныя якасці сваіх герояў, іх павагу да нацыянальных традыцый, шанаванне культу продкаў, аўтар “Пагоні на Грунвальд” кідаў выклік афіцыйнай камуністычнай ідэалогіі, паводле якой гэтыя якасці лічыліся непатрэбнымі і шкоднымі для савецкага чалавека.

Безумоўна, ствараючы свой раман у канцы 70-х гг. XX ст., Кастусь Тарасаў вымушаны быў лічыцца з панаваннем афіцыйнай цэнзуры: чыноўнікі з Галоўліту патрыятычны пафас твора маглі назваць нацыяналістычным і не дапусціць “День рассеяния” да друку. Як ужо адзначалася, пісьменніка ратавала тэма Грунвальда: нават савецкі цэнзар ведаў, што ў выніку перамогі пад Грунвальдам на ўсходнеславянскія землі пяць стагоддзяў не ступала нага ўзброенага немца. З іншага боку, адным з галоўных герояў рамана Кастуся Тарасава быў князь Вітаўт – культавая постаць для беларускіх “нацыяналістаў”, для савецкай гісторыяграфіі – *persona non grata*. У рамане беларускага савецкага пісьменніка не магло быць і следу ідэалізацыі Вітаўта, беларускай шляхты, Вялікага Княства Літоўскага як дзяржавы (тэндэнцыя да падобнай ідэалізацыі з’явіцца ў беларускай літаратуры пазней, на хвалі нацыянальнага адраджэння канца 80-х – пачатку 90-х гг.: напрыклад, у п’есе Аляксея Дударава “Вітаўт Вялікі”). І ў гэтым пункце вымаганні савецкай цэнзуры нечакана супалі з законамі мастацкай творчасці: у рамане Кастуся Тарасава няма ідэалізацыі герояў, беларускай мінуўшчыны, Гісторыі з вялікай літары, што відавочна пайшло на карысць твору, вывела яго за рамкі чыста асветніцкай, нацыянальна-адраджэнскай літаратуры, патрэбнай беларускаму чытачу на пэўным этапе, але не больш за тое.

“Пагоня на Грунвальд” – раман гісторыка-філасофскі, ягоныя героі – постаці драматычныя, псіхалагічна-складаныя, якія знаходзяцца на раздарожжы духоўных пошукаў, а Гісторыя са старонак рамана паўстае як працэс амаль трагічны, бязлітасны да сваіх удзельнікаў.

Даследчыца паэтыкі сучаснай беларускай гістарычнай прозы Вольга Шынкарэнка слушна адзначае: “Не губляе за інтарэсам да падзей цікавасць да ўнутранага свету асобы па-філасофску самапаглыблены К. Тарасаў. Кожны з яго герояў даводзіць сучаснікам сваю праўду, сваё светабачанне, адстойваючы іх правамоцнасць. Шматгалоссе аповесцей і рамана пісьменніка зводзіцца ў адно выразнай пазіцыяй самога аўтара, яго тонкім адчуваннем гісторыі, мудрым асэнсаваннем яе поўных драматызму рэалій”[8].

У душы Юрыя жаданне стаць святаром і несці людзям любоў змяняецца жаданнем узяць у рукі зброю і помсціць за забітых блізкіх, імгненні радасці і пачуцця еднасці з усімі людзьмі змяняюцца момантамі роспачы і адчування несправядлівасці свету: “Але калі так шмат людзей на свеце, думаў Юрый, калі іх столькі ж, колькі зорак на небе, дык нашто іх так многа? Як ім ужыцца ў гэтай цеснаце шляхоў і рознасці клопатаў, калі адзін памірае, другі нараджаецца, трэці скача конна па начным прасёлку, сквапна лічыць грошы, жабрак просіць ялмужну, сірата чакае ласкі, душагуб чакае ахвяру, удава пакутуе, як цяпер Вольга, а кожны – дробны, крохкі і асуджаны абярнуцца ў пыл”.

Бывалы жаўнер Мішка Расевіч з зайздрасцю слухае аповед старога лірніка пра бітву з татарамі на Сіняй Вадзе і задумваецца: ці былі ў ягонай воінскай біяграфіі эпізоды, пра якія ён мог бы расказаць слухачам з такім жа гонарам? На жаль, у памяці героя ўсплываюць пераважна сцэны, што выклікаюць сорам

і раскаянне: як хадзілі з Вітаўтам на Смаленск і ўзялі штурмам горад, пасекшы абаронцаў-супляменнікаў; як па загадзе таго ж Вітаўта спалілі пад Псковам гарадок Каложу, а мірных жыхароў пагналі ў палон да самай Гародні. Спачатку Мішка суцяшае сябе тым, што на злыя ўчынкі яго падштурхнула чужая воля: “Там усё здавалася хоць страшным, ды правільным. Вялікі князь загадаў, ён лепш ведае, што рабіць, ён перад Богам адказчык”. Але пасля нападу крыжакоў на Ваўкавыск і гібелі самых блізкіх людзей пакуты сумлення яшчэ з большай сілай авалодваюць героем: “Раней не балела, – казаў Мішка, – а як сам у Кульчыхі ляжаў ды як нашых забілі, як Вольга загінула, сорам мяне прыпаляе, Андрэй. І мы ж калажанаў мардавалі. Я сам некалькіх людзей пасек. Можа, яны сваю нявесту абаранялі... Адплацілася мне. Жахліва на сэрцы”.

Паплечнік Мішкі Андрэй Ільініч не знаходзіць слоў суцяшэння для сябра і для ўласнага апраўдання: “Сам, калі ўсё прыгадаць, такімі грахамі абвешаны. Ды і кожны. Не пазбегнеш”.

Задумваецца над грахоўнасцю многіх сваіх учынкаў і князь Вітаўт, якому, па словах Мішкі Расевіча, адказваць перад богам за ўсіх. Вітаўт не здымае з сябе адказнасці за зверствы падначаленых яму жаўнераў і параўноўвае ролю князя ў жыцці простага чалавека з лёсам: “Немагчыма спыніць зменлівасць жыцця: людзі прыходзяць і сыходзяць, успыхвае і гасне любоў, – гэта лёс, на яго не крыўдуюць. І вялікі князь – гэта лёс. Слабасць сэрца нікчэміць князя. Дзяржава – не сям’я, ды і ў сям’і б’е бацька непаслухмяных”.

Сваю жорсткасць і абыякавасць да лёсу асобных людзей Вітаўт апраўдвае інтарэсамі дзяржавы, неабходнасцю правіць моцнай рукой. У гэтых адносінах герой Тарасава нагадвае такіх добра знаных чытачу герояў рускай савецкай літаратуры як Іван Жахлівы Валянціна Косталева альбо Пётр І Аляксея Талстога, ягоныя разважанні цалкам укладваюцца ў рэчышчы філасофіі моцнай улады: “Хто за ўладу б’ецца, мусіць быць жорсткі. Нікому не вер, нікога не літуй, б’еш – бі да смерці. Улада – гэта меч”.

“Пачні шкадаваць – дзяржава разваліцца. А пакараў горлам – зноў ворагі”.

Да гонару аўтара “Пагоні на Грунвальд” трэба адзначыць, што, паказаўшы ў рамане заслугі князя Вітаўта ў перамозе над Тэўтонскім ордэнам і ў будаўніцтве літоўска-беларуска-ўкраінскай дзяржавы, аўтар не замоўчвае і змрочныя эпізоды ў біяграфіі князя: як Вітаўт, змагаючыся за ўладу, сам вадзіў крыжакоў на Крэва і Вільню, як загубіў цэлае пакаленне шляхты ў няўдалай бітве з татарамі на Ворскле, як загадаў спаліць рускі горад Каложу, а ягоных жыхароў перасяліць у знішчаную крыжакамі Гародню, як падчас няўдалай аблогі Пскова загадаў забіць дзяцей у навакольных вёсках і, напоўніўшы трупамі дзве лодкі, спусціць па рацэ, каб настрашыць абаронцаў...

Аб’ядноўвае ўсіх герояў “Пагоні на Грунвальд” – і простых ратнікаў, і князя Вітаўта – патаемнае жаданне надаць свайму жыццю сэнс, абвостраная прага замест чарговага карнага паходу ўзяць удзел у “святой справе”. Для пакалення іхніх бацькоў такой “святой справай” сталася бітва з татарамі на Сіняй Вадзе, у выніку якой з-пад татарскага іга былі вызвалены ўкраінскія землі. Для пакалення Мішкі, Андрэя, Юрыя, для князя Вітаўта і караля Ягайлы такой святой справай сталася Грунвальдская бітва з Тэўтонскім ордэнам, у якой яны помсцяць за забітых блізкіх і ратуюць ад крыжацкіх нападаў будучыя пакаленні.

Крытык Дзяніс Марціновіч у артыкуле “Пераможцы і пераможаныя. Рэцэпты для беларускай гістарычнай прозы” выказаў Кастусю Тарасаву своеасаблівую прэтэнзію ў тым, што ўсе галоўныя героі “Пагоні на Грунвальд” гінуць, у адрозненне, напрыклад, ад рамана класіка польскай літаратуры Генрыка Сянкевіча “Крыжакі”, героі якога дажываюць да глыбокай старасці і робяцца сведкамі канчатковага падпарадкавання Тэўтонскага ордэна Польшчы[9].

“Пасля прачытання “Крыжакоў” чытач убачыць, што змаганне з крыжакамі вялося не дарма і Польшча атрымала доўгачаканы выхад да мора. А якія думкі напаткаюць чытача “Пагоні на Грунвальд” пасля смерці галоўных герояў? Цалкам магчыма, што яны будуць сугучныя Эклезіасту, які сцвярджаў, што “ўсё марнасць”. Дык навошта тады была барацьба? Няўжо ў гэтым у чарговы раз адлюстроўваецца трагічнае светаўспрыманне беларускіх пісьменнікаў і трагічнае светаўспрыманне народа, чыю ментальнасць адлюстроўвае пісьменнік?”[10] — пытаецца малады крытык.

Што датычыць трагічнага светаўспрымання пісьменніка, Дз. Марціновіч не памыліўся. Кастусь Тарасаў сапраўды быў перакананы, што: “суцэльнасць беларускай гісторыі можна прасачыць толькі праз прызму трагічнасці“[11]. А вось смерць галоўных герояў у рамане “Пагоня на Грунвальд” нельга разглядаць у адным ракурсе і ацэньваць выключна як азнаку паражэння, марнасці чалавечых намаганняў.

Па-першае, героі Тарасава гінуць на розных этапах нарацыі, у розных акалічнасцях, і смерць іх набывае розную семантыку. Ад крыжацкіх мячоў гінуць бацькі Мішкі Расевіча і ягоная нявеста Вольга, айцец Фоцій, знахарка Кульчыха. Іхняя смерць выклікае ў іншых герояў прагу помсты і ўзвышае значэнне Грунвальдскай бітвы як “святой справы”. На пагорках Грунвальда гіне Мішка Расевіч і многія іншыя славянскія ратнікі, але апраўданнем іх смерці з’яўляецца доўгачаканая перамога над ворагам. Гібель трох іншых галоўных герояў Тарасаў апісвае ў “Эпілогу”. Юрый гіне ў далёкай Чэхіі ў 1426 г., змагаючыся ў шэрагах табарытаў за прывіднае царства божае на зямлі, шукаючы сэнс жыцця, які ён не знайшоў на радзіме ні ў служэнні богу, ні ў сямейным жыцці. Князь Вітаўт памірае ад хваробы на 81-м годзе жыцця, у зеніце славы і росквіту дзяржавы, але ў адным кроку ад каралеўскай кароны. Апошнім з герояў знаходзіць сваю смерць Андрэй Ільініч – у 1435 г., у бітве на рацэ Святой паміж войскамі князя Свідрыгайлы і войскамі князя Жыгімонта Кейстутавіча, і гэтая смерць самая крыўдная – разам са сваім сынам, без веры ў перамогу, у братазабойчай вайне двух прэтэндэнтаў на ўладу ў Вялікім Княстве Літоўскім.

Кастусь Тарасаў па-рознаму апісвае ў рамане смерць сваіх герояў: лаканічна-стрымана, тужліва-эмацыянальна, паэтычна-разгорнута; гэтыя апісанні дадаюць апошнія дакладныя штрыхі да вобраза героя і часта выяўляюць унутранае стаўленне аўтара да персанажа, даюць надзею на разуменне і адпушчэнне яго грахоў, як напрыклад, маляўнічае апісанне смерці князя Вітаўта: “І яго агортваў сон, ён адчуваў, як гасне памяць, рассейваюцца розныя постаці, і зразумеў, што дзяды кладуць яго ў даўнюю калыску. Вось калыска калыхнулася, дзяды разгушкалі яе, сэрца сціснулася радаснай бояззю – і раптам нешта працяло яго. Ён ускінуўся, гукнуў: “Каня!” – і апынуўся на ганку старога Троцкага замка. Чорны конь чакаў яго; ён скочыў у сядло, ззаду заржалі коні дзядоў – і пагналі цераз нівы, пожні, рачныя брады, палі бітваў – і па небе над лясамі, над скрыжаваннямі дарог, над Крэўскай вежай і Гарадзенскім замкам, над пусткамі балотаў, чорным разводдзем Нёмана, над кастрышчамі, могілкамі, гарадамі, над завесай густых туманоў, у нябёсы, у пазалочаную сонцам вышыню; шпарка беглі коні, звінела сіняя цвердзь, успыхвалі іскры, і ў сэрцы аддаваўся перастук капытоў, які сціхаў, згасаў, знікаў у адвечным тумане – і знік назаўсёды”.

Смерць самога пісьменніка 20 сакавіка 2010 г. выклікала шэраг эмацыянальных водгукаў у беларускай прэсе і прымусіла многіх крытыкаў, літаратуразнаўцаў, пісьменнікаў па-іншаму паглядзець на творчасць гэтага сціплага чалавека і ацаніць яе сапраўднае значэнне для беларускай літаратуры. У сваім новым артыкуле “Ты – боль, гісторыя. Ты быль” Дзяніс Марціновіч разглядаў смерць галоўных герояў у рамане “Пагоня на Грунвальд” ужо не як недахоп твора, а як праяву наватарства Тарасава ў параўнанні з Сянкевічам і Караткевічам[12]. Не

каментуючы гэтым разам думку крытыка, хочацца цалкам пагадзіцца з іншым яго сцвярджэннем, выказаным у артыкуле: "Творы Кастуся Тарасава сталі адной з вяршыняў беларускай гістарычнай прозы, а яго асоба абумовіла развіццё гэтага жанру на дзесяцігоддзі"[13].

І сам пісьменнік, і яго творы прайшлі доўгі пакутлівы шлях да беларушчыны, натхняючы пайсці па гэтым шляху тысячы і тысячы чытачоў розных пакаленняў. Адзін з лепшых твораў у спадчыне Кастуся Тарасава, раман "Пагоня на Грунвальд", з'яўляецца яскравым прыкладам таго, што ў рускамоўным творы таксама можа быць выяўлены нацыянальны змест, і наяўнасць гэтага зместу, выразнай асветніцкай функцыі, – пры наяўнасці таленту ў аўтара – не пярэчыць мастацкай прыродзе твора і выкананню ім функцыі эстэтычнай. Сімптаматычна, аднак, што напісаны на рускай мове раман па волі аўтара набыў пазней сваю беларускамоўную версію і менавіта ў гэтай версіі ўвойдзе ў гісторыю беларускай літаратуры і ў свядомасць наступных пакаленняў чытачоў.

---

[1] Андраюк С.А. Проза // Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя. У 4 т. Т. 4. Кн. 1: 1966-1985. Рэд. У.В. Гніламёдаў, С.С. Лаўшук. Мінск, 2004. 2-е выд. – С. 16.

[2] Арлоў У. Самотны рыцар // Тарасаў К. Выбраныя творы. Мінск, 2012. – С. 5.

[3] "Майстроўня" – студэнцкая нацыянальна-адраджэнская суполка першай паловы 80-х гг. XX ст., удзельнікамі якой былі Вінцук Вячорка, Сяргей Дубавец, Ларыса Сімаковіч, Геанадзь Лойка, Зміцер Колас, Сяржук Сокалаў-Воюш і многія іншыя знаныя сёння пісьменнікі, мастакі, навукоўцы, палітыкі. Падрабязней гл.: Дубавец С. Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду. Радыё Свабода, 2012.

[4] Абецедарский Л.С., Баранова М.П., Н.Г. Павлова. История БССР. Учебник для учащихся средней школы. Минск, 1975. – С. 31.

[5] Тамсама. – С. 31-32.

[6] Тарасов К. Погоня на Грюнвальд. Исторический роман. Минск, 1991. – С. 4.

[7] Тарасаў К. Выбраныя творы. С. 17. Тут і далей у артыкуле раман "Пагоня на Грунвальд" цытуецца паводле гэтага выдання, у дужках падаюцца старонкі.

[8] Шынкарэнка В. Нястомных пошукаў дарога. Праблемы паэтыкі сучаснай беларускай прозы. Мінск, 2002. – С. 7.

[9] Марціновіч Дз. Пераможцы і пераможаныя. Рэцэпты для беларускай гістарычнай прозы. "Маладосць". 2008. № 3. – С. 128.

[10] Тамсама. – С. 129.

[11] Тарасаў К. Падзеі гісторыі і версіі літаратуры. "Полымя". 1988. №2. – С. 200.

[12] Марціновіч Дз. *"Ты — боль, гісторыя. Ты — быль"*. "Літаратура і мастацтва". 2010. 5 лістапада. №44. – С. 13.

[13] Тамсама. – С. 13.

Наталля Якавенка



...клопат пра нацыю
выліўся ва ўтапічную ідэю
штучнага вырошчвання яе лідара...

# Міфалагічна-дэтэктыўны мікс з эратычным флёрам

***Роздум над раманам Валера Гапеева «Ноч цмока»***

***Валеры Гапееў. Ноч Цмока. Мінск: Галіяфы, 2016. — 356 с.***

*«Самая істотная інфармацыя часам хаваецца ў адказах на самыя бяскрыўдныя, другасныя пытанні»*, – між іншым адзначае Валеры Гапееў на старонках рамана «Ноч цмока». Калі павярнуць гэта выказванне ў бок яго твора, то можна сказаць, што самая істотная інфармацыя хаваецца за кідкай шыльдай «эратычна-містычнага дэтэктыва на тле беларускай правінцыі найноўшага часу» (паводле анатацыі), створанай у лепшых традыцыях масавай літаратуры з мэтай прыцягнення ўвагі аматараў лёгкага чытва.

Раман сапраўды чытаецца лёгка, але толькі дзякуючы аўтарскаму стылю, а ніяк не закладзенай у яго аснову ідэі, якая нават у такога не схільнага да пафаснасці крытыка, якім з’яўляецца Леанід Галубовіч, выклікала жаданне падчас разгляду твора ў




«Літаратурнай Беларусі» «сказаць колькі высакапарных слоў», а менавіта: «Гэтая рэч вельмі істотная для нашай сучаснай літаратуры. Гэта глыбокі, містычна-дэтэктыўны твор, у якім аўтар спрабуе спалучыць нашае мінулае нацыянальнае, у тым ліку і міфалагічнае, з сучасным глабальным павевам цывілізацыі, калі той павеў, бы скульптар, ад натуральнай глыбы-пароды спрабуе адсекчы ўсю накопленую і збітую ў адно народную цэльнасць, каб пакінуць адзіную (вобразную), створаную прагматычным розумам, выяву, па сутнасці, аднатыпнае зямное людства, дзе ў канкрэтнага чалавека альбо пэўнай супольнасці ўжо не будзе ўласнай арыгінальнай (нацыянальнай) адметнасці. Таму Беларусь, якая найбольш адчувальна і відочна страчвае свой натуральны твар, патрабуе ад свайго народа ахвярнасці, дзеля выратавання ўласнай сутнасці...»

Для таго, каб да нейкай асабліва важнай грамадскай, сацыяльнай, нацыянальнай, культурнай праблемы прыцягнуць увагу так званых шырокіх мас, напэўна, няма іншага спосабу, як «загарнуць» яе ў кідкую і навамодную «абгортку». Гэтым метадам карыстаюцца многія сучасныя пісьменнікі і правільна робяць. Як заўважыла ў артыкуле «Масавая літаратура: сябар ці вораг?» крытык і літаратуразнаўца Лада Алейнік, «масавыя жанры можна выкарыстаць напоўніцу для таго, каб прыцягнуць увагу масавага чытача (па сутнасці – грамадства) да нацыянальнай літаратуры, а разам з тым – да праблем мовы, мастацтва, культуры».

Валеры Гапееў, зыходзячы з меркавання, што *«калі нешта мае пад сабой доўгую гісторыю жыцця ў казцы, міфе, то там заўсёды схаваны глыбокі сэнс, зашыфраваныя веды, сапраўдная гісторыя»*, паклаў у аснову свайго рамана старажытны беларускі міф пра Цмока, які *«быў лятучым, мог спапяляць агнём са сваёй пашчы. Карацей, можна лічыць, то быў дракон...»* Аднак калі *«яго прыручыць, дык будзе ахоўваць, прыносіць скарбы, бараніць ад ворагаў»*. Міф пра Цмока ўзяла на ўзбраенне суполка апантаных нацыянальнай ідэяй прадстаўнікоў інтэлігенцыі начале з прафесарам Федаруком, які патлумачыў галоўнаму герою твора, следчаму пракуратуры Васілю Шайбаку, неабходнасць для Беларусі ўвасаблення міфічнай істоты ў чалавечым абліччы лідара краіны: *«Атрымліваецца той самы Цмок – наша агульная абарона і надзея на шчасце. А сёння на каго мы разлічваем, з кім звязваем спадзяванні? (...) Не кіраўнік, але галоўны. На каго разлічвалі, хто карыстаўся агульным аўтарытэтам. Быў самым моцным, але не проста фізічна моцным, а духам, розумам (...) Так, лідар. Бачыце, вы самі дайшлі да разумнага тлумачэння Цмока... За сотні гадоў вынішчэння паганства той самы лідар, на якога спадзяваліся, які сапраўды даваў людзям лепшае за ранейшае жыццё, ператварыўся ў чароўную істоту, дабрабыт звёўся да скарбаў, воля – да абароны (...) Я, як і большасць тых, хто разумее сутнасць з'яў апошніх дзесяцігоддзяў у нашай дзяржаве, бачу працэс знішчэння беларусаў як нацыі. Не буду вам нічога тлумачыць больш, і спрачацца не будзем, гэта маё не меркаванне, а перакананне. Цяпер над краінай ноч. Сапраўдная ноч...»*

Так нечакана для героя твора і для чытача міфічны Цмок набыў не столькі *«разумнае тлумачэнне»*, колькі неардынарнае. Клопат пра нацыю выліўся ва ўтапічную ідэю штучнага вырошчвання яе лідара: з дапамогай лесбіянкі Насці Грыцук, дачкі мясцовага ведзьмака, якую аддалі замуж за Яшчура – аднаго з удзельнікаў суполкі, што граў ролю гэтай міфічнай істоты, была вырашана задача выношвання і нараджэння так званага Цмока – будучага лідара. Аднак праз некалькі дзён пасля выканання гэтай пачэснай місіі парадзіха была забітая пры загадкава-містычных абставінах.

На падставе расследавання забойства і будуецца нестандартна «закручаная» дэтэктыўная інтрыга твора. Тут падкупляе ўменне аўтара даводзіць ход падзей да пікавага моманту, за якім бачыцца лагічна правільнае разуменне сітуацыі і развязка, здаецца, напрошваецца сама сабой, але які насамрэч нясе новую загадку і заводзіць следства ў тупік. Уменне інтрыгаваць дало магчымасць Валеру Гапееву асабліва выйгрышна падаць фінал твора, дакладней яго адсутнасць: справа афіцыйна закрываецца, але следчы атрымлівае новыя падставы для сумневаў, якія патрабуюць далейшага расследавання, і па сутнасці вядзе яго далей. Раман заканчваецца на асабліва цікавым моманце, што, хутчэй за ўсё, дае чытачу спадзеў на працяг.

Клопат інтэлігенцкай суполкі пра нацыю як бы абгрунтоўваюць абставіны жыцця адной з гераінь твора – Надзеі, каханай жанчыны Васіля Шайбака. Яна, настаўніца гісторыі, вымушана гандляваць на рынку, бо пайшла са школы праз палітычнае абвінавачанне: *«Некаму вельмі не спадабалася, як яна пра... як яго там... Касцюшку, вучням расказвала. Пайшоў першы данос – маўляў, настройвае дзяцей супраць славянскага братэрства, ставіць пад сумненне значнасць адзінай саюзнай дзяржавы. Атрымала па пошце кнігі – пайшоў данос пра атрыманне нейкай незаконнай друкаванай прадукцыі, налепак, бо якраз дзятва дурэла, на канікулы са сталіц папрыязджалі, ляпілі ўсякае на слупы... А ў яе самой не хапала хітрасці змаўчаць пра сваё стаўленне да таго Княства Літоўскага, да Пагоні той... Вось і папрасілі са школы. (...) У чым толькі не абвінавачвалі яе! Нават у стварэнні падпольнай арганізацыі дзеля звяржэння мясцовай улады»*.

На вялікі жаль, гэта рэаліі нашага жыцця. Веданне і ўслаўленне гераічнай мінуўшчыны, прыхільнае стаўленне да нацыянальных лідараў, нашчадка якіх, паводле рамана, збіраецца выгадаваць інтэлігенцыя, замест гонару за дзяржаву з яе вялікай і слаўнай гісторыяй выклікае не толькі адштурхоўванне, але і абвінавачанне ў палітычнай здрадзе. І насамрэч крыўдна за дзяржаву толькі невялікай частцы інтэлігенцыі, што не разумее, *«як можна быць культурнай нацыяй, не ведаючы сваіх падмуркаў?»* У «шырокіх мас» да *«падмуркаў»* няма ніякай цікавасці, бо на першым плане ў гэтых мас не агульнанацыянальнае, а немудрагелістае прыватнае, што абмяжоўваецца задавальненнем самых простых жыццёвых патрэб – у асноўным матэрыяльных, ніяк не культурных і духоўных. Таму і ўтапічная ідэя выхавання Цмока, аднак даводзіць важнасць ведання *«падмуркаў»* і не апускаць рукі, паводле Валера Гапеева, усё ж трэба. І рабіць гэта павінен, безумоўна, той, хто валодае *«самай істотнай інфармацыяй»* – інтэлігенцыя: *«З нас спытаюць – з тых, хто ведаў, да чаго вядзе такі выбар. І з мяне самы галоўны суддзя спытае – мой нашчадак: чаму я, такі разумны, які ведаў усю значнасць нацыянальнага, не патлумачыў, не давёў тым рабочым і сялянам, што выбіраць трэба найперш сваё існае, а каўбаса танная – тое другаснае»*.

Між тым, прыцягваюць да сябе ўвагу другарадныя героі рамана, што выступаюць выразнікамі не нацыянальных, а агульначалавечых каштоўнасцей. Напрыклад, цётка Марыля, якая з'яўляецца толькі ў адным эпізодзе як носьбіт высокай маралі, пададзенай нязмушана і ненавязліва: *«Але яшчэ два крокі насустрач – і я пабачыў жывы агеньчык у гэтых вачах, асаблівы, цёплы і трохі сумны, у якім было не тое што адчуванне пераваргі над намі, нашым быццём, а веданне яго нязначнасці. "От, ходзіце, марнуецеся, перажываеце з-за пустога, спяшаецеся, маркоціцеся з-за нібыта няўдач, а ўсё ж – мітусня, супыніцеся..." (...)*

*Грэх зло рабіць. Ці сабе, ці людзям, – без павучання адказала яна.*

*А што зло? – вырвалася ў мяне.*

*– Ці ў іншых адняць, ці сабе лішняга ўзяць, – зноў гэтак жа, не задумваючыся, патлумачыла цётка Марыля, быццам я пытаўся аб нечым надзвычай простым і зразумелым»*. Простыя ісціны і павінны падавацца проста. Складанасць заключаецца ў іх разуменні, прыманні і штодзённым ажыццяўленні.

Вуснамі яшчэ аднаго героя – участковага міліцыянера Тумара агучваецца сацыяльна-гарамадская праблема: *«У нас большая частка людзей бачыць толькі чорнае і белае. Як ва ўладзе хто, значыць, падхалім, супраць народу. Калі ты не за, значыць, супраць. Вось так і жывуць, лёгка ўсіх дзелячы. Калі недзе міліцыянеры мітынгі разганяюць,дубінкамі лупцуюць, значыць, і ты тут – гэткі ж. І няважна, што я той дзень патраціў, каб украдзеных у Сцёпчыхі курэй знайсці, я ўсё адно тае масці, таго колеру, дубінку магу ў рукі ўзяць...»* Стэрэатыпнасць мыслення як вынік духоўнай і культурнай неадукаванасці ўласцівыя нашаму грамадству. Выйсце з гэтай сітуацыі ўсё тое ж – зварот да нацыянальных *«падмуркаў»*, да каранёў. Беларускі этнас мае працяглую духоўную традыцыю, якая грунтуецца на адвечных маральных законах і разуменні сутнасці дабра і зла, вечнага і мімалётнага, істотнага і другаснага. Менавіта гэта думка пакладзена ў аснову рамана «Ноч цмока».

Аналізуючы твор, нельга не заўважыць, што ў ім «жывуць» толькі нешчаслівыя жанчыны. Валеры Гапееў з выразна адчувальным спачуваннем і шкадаваннем паказвае лёсы пракурора Тамары – расчараванай у мужчынах адзінокай жанчыны, што пасля доўгага шлюбу была вымушаная развесціся з мужам, Надзеі, Зіначкі, якая фармальна замужам, а па сутнасці адзінокая шматдзетная маці, забітай пры нявысветленых абставінах Насці Грыцук, бамжыхі-алкагалічкі, пазбаўленай мацярынскіх правоў, што загінула падчас пажару. З іх толькі Надзея (нездарма носьбіт такога шматзначнага імя), прайшоўшы праз пакуты, – няўдалы шлюб, смерць дзіцяці і страту працы ў выніку паклёпу, атрымала шанец на шчасце ў сумесным жыцці са следчым Васілём Шайбаком. Гэта толькі адна з пяці няшчасных, дзве з якіх загінулі. Надзвычай сумная рэальнасць нашага жыцця.

Дарэчы, вельмі рэалістычна, адкрыта і цікава з пункту погляду разумення мужчынскай псіхалогіі паказаны ваганні Васіля, які ўсвядоміў, што адносіны з Надзеяй прыйшлі да таго моманту ў сваім развіцці, калі трэба вырашаць пабрацца шлюбам ці разыходзіцца, бо ў «падвешаным стане» быць разам немагчыма: *«Няхай я – мужчына, якому ад жанчыны трэба толькі ўцеха ў ложку ды каб есці гатавала. Дапусцім, я такі, і тады становіцца зразумела, чаму я не прапаную разам думаць пра будучыню, чаму маўчу пра тое, дзе і як збіраюся жыць далей. Але ж яна – жанчына! Калі яна, як кажа Тамара, угледзела ўва мне бацьку сваіх дзяцей, чаму ніколі не заікнулася пра тое, як збіраецца жыць далей? Выходзіць, яе ўсё задавальняе, вось так як ёсць? Надакучу, і тады пойдзе сама аднойчы, сказаўшы млява: "Не хачу, каб ты прыходзіў", – і нічога тлумачыць не стане...»* Паступова ў Васіля, як кажуць, расплюшчваюцца вочы і ён не толькі па-новаму глядзіць на Надзею, але і робіць для сябе адкрыцці адносна таго, як многа яна значыць у яго жыцці і таго, што *«жанчыне можа быць бясконца добра з мужчынам не таму, што ён – атлет і ўмелец, а проста таму, што яна яго кахае. І яна шчаслівая, бо побач з ёй – каханы, бо яна дорыць яму сябе»*.

Паколькі размова зайшла пра адлюстраваныя аўтарам рэалістычныя адносіны мужчыны і жанчыны, а жанр твора вызначаны як эратычна-містычны дэтэктыў, нельга абысці ўвагай тое пікантнае, што ёсць у «Ночы цмока». Эротыка, заяўленая і апісаная ў рамане, не мае ніякага адцення пошласці і брутальнасці, наадварот, намаляваныя Валерам Гапеевым пасцельныя сцэны менавіта мастацкія, з налётам рамантызму. Этычны і эстэтычны падыход пісьменніка да эротыкі і сэксу, якія з'яўляюцца натуральнымі і неабходнымі з'явамі нашага жыцця, выяўляецца не толькі праз абмалёўку пасцельных сцэн, але і праз збянтэжанасць, што ўзнікла ў яго героя – следчага Васіля, калі Зіначка запрасіла ў ложак так, быццам інтымная блізкасць і толькі што з'едзеная яешня з каўбасой – паняцці тоесныя.

Але сённяшняя даніна модзе – абавязкова аздабляць эротыкай і сэксам творы мастацтва, не толькі літаратурнага, часта выклікае адмоўную рэакцыю, хоць,

здавалася б, даўно можна было прызвычаіцца. І адмаўленне існуе ў першую чаргу ў жанчын, бо так пабудавана нашая псіхалогія. Для нас інтымнасць, давер да мужчыны падчас блізкасці несумяшчальныя з публічнасцю. Зрэшты, існуюць жа выдатныя, папулярныя ў чытачоў – модныя сучасныя айчынныя і замежныя творы, у якіх няма пікантных эратычных ці сэксуальных сцэнаў. А ўсё таму, што далёка не заўсёды мода дацягвае да ўзроўню стылю, які ў многім вырашае запатрабаванасць твора, бо мода – катэгорыя зменлівая і часовая, тады як стыль – трывалы адбітак асобы аўтара.

У стылі Валера Гапеева мне асабліва імпануе яго манера выказвацца афарыстычна. Кожная частка рамана пачынаецца з ёмка выказанай думкі, якая «намякае» на сутнасць сюжэтных калізій, што будуць далей разварочвацца перад чытачом. У свой час майстар афарызма Г.К. Ліхтэнберг гаварыў, што ўнікальнасць пісьменніка заключаецца ў назапашванні мноства ўражанняў і назіранняў, часта вельмі глыбокіх і дакладных. Пры тым, дадам, не кожны пісьменнік можа ўвасобіць назапашанае ў адным кароткім выказванні.

Акрамя афарыстычнай фразы, якой адкрываецца дадзены артыкул, па душы прыйшліся наступныя:

«*Калі непрыемнасці пачынаюцца з раніцы – значыць, гэта будуць вялікія непрыемнасці*»;

«*Нават калі вельмі доўга хадзіць па крузе, вынікам стане толькі вытаптаная сцежка*»;

«*Найлепшае, што здараецца з намі, ніколі намі не прадбачылася*»;

«*Тое, што ў нас асабліва шануецца і завецца прастатой, можа быць усяго толькі прэсным прымітывам*»;

«*Самаўпэўненасць грунтуецца не на ведах, а на няведанні*».

Прыведзеныя выказванні, як і належыць думкам афарыстычнага кшталту, з'яўляюцца лаканічнай формай мастацкага адлюстравання рэчаіснасці і выражэння стаўлення да яе самога Валера Гапеева. І ў гэтым сэнсе мяне насцярожыла іншае са сказанага пісьменнікам: «*Чуў, што жанчына застаецца жаданай, пакуль не перастае здзіўляць. Як па мне, дык здзіўленне павінна адбывацца толькі на кухні*». Калі адкінуць факт, што фраза папярэднічае расповеду пра тое, як Васіль Шайбак быў прыемна здзіўлены і ўсцешаны, нечакана для сябе ўбачыўшы на ўласнай кухні Надзею за прыгатаваннем смачнай вячэры, а ўзяць за аснову асабістае стаўленне аўтара да пытання жаночай прывабнасці і загадкавасці, то можна сказаць, што мы маем справу з разбурэннем аднаго з асноўных міфаў псіхалогіі ўзаемадачыненняў мужчыны і жанчыны. Няўжо насамрэч усё так проста і будзённа? За гэтым пытаннем просіцца шэраг іншых, якія я пры нагодзе задам пісьменніку асабіста, а зараз пакіну шматкроп'е – каб захаваць інтрыгу...

дзеяпіс

Яўген Бяласін



...ці каштоўныя хоць чым запісы

мінскага журналіста-даўншыфтэра?..

# Кніга Горвата – гэта музей

***Рэцэнзія на кнігу Андруся Горвата***

***Андрусь Горват. Радзіва "Прудок": дзённік. – Мінск: Медысонт, 2016. – 248 с.***

Пачытаў нашумелую кнігу Андруся Горвата "Радзіва Прудок. Дзённік". Раскладу яе плюсы і мінусы.

Лёгка чытаецца. Мабыць, таму што мова не хадульная і таму што аўтар шчыры, не ёсць муляжом – сапраўды, быў дворнікам, і не абы-дзе, а ў Купалаўскім тэатры, потым пераехаў у хату дзеда ў вёсцы...

Кароткія абсягі гэта таксама плюс, спрыяе лёгкаму чытанню. Але адначасова гэта і сведчанне кліпавасці, мазаічнай перадачы (і ўспрымання?) рэчаіснасці.

Ці кніга гэта наогул? Так, паколькі кнігамі прызнаныя запісы Джойса ("Уліс"), "раманы плыні свядомасці" Фолкнера або Гандкэ, бясфабульная метафізіка Музіля ("Чалавек без якасцяў").

Кафка часткова выйграе ў Горвата, бо ягоныя тэксты




маюць завершаную форму апавядання. Але іхні цёмны, метафізічны змест мне асабіста дыктуе выбраць Горвата. Пры гэтым, паляшук часам ужывае лексіс, варты Кафкі (*“Сублімую сексуальную энергію ў пасеў гародніны. І будзе ў мяне восенню сексуальны ўраджай. Вельмі-вельмі-вельмі багаты”*, ст. 42). Горват піша пра зразумелыя рэчы: амаль памёрлая беларуская вёска, у ёй амаль памёрлая нацыянальная свядомасць, перапоўненыя рэлятывістамі гарады, усеагульная беднасць. Горват піша як журналіст, сыходзячы ад канкрэтнага факта або нарошчваючы “мяса” аповеду вакол яго. Таму ягоныя тэксты не нудныя адразу.

Амбівалентнай падаецца пэўная эпатажнасць Горватавых тэкстаў. Яе суцэшна мала (нізкае слова там-сям, бэкаючая, дыктафонна перададзеная мова “простых” людзей, часткова – сама кліпавая падача зместу). Гэтым кніга выгадна адрозніваецца ад некаторых ушанаваных прэміямі тутэйшых твораў. Але ж “чорная костка” – гэта, з майго гледзішча, такая сабе стыгма, з-за недасвечанасці мы, уласна кажучы, пакутуем і яшчэ будзем.

Узяць хаця б такую цытату.

> *– Ай, цьху ты! Ідзі ты! Я ж думала, ён што сур’ёзнае напісаў, шчэ і посцілку яму пад ср...ку дала. Усё, не дуры галаву!*
>
> *– Ды не, там і пра сур’ёзнае е. Пра адзіноту і смерць. Пра блуканні і дарогу дадому.*
>
> *– Ад мяне чаго хочаш?*
>
> *– Каб вы кнігу пачыталі.*
>
> *– Пра Марусю Зайчыкаву будзе?*
>
> *– Будзе.*
>
> *– То добра. А цяпер ідзі адселя. Я батон ем.*

Цытата вынесеная на вокладку, а значыць, праграмная. Ад таго мне асабіста бачна, у чым кніга прайграе. Заігрыванні з “простым народам” гэта, па-мойму, бесперспектыўны шлях.

Ці каштоўныя хоць чым запісы мінскага журналіста-даўншыфтэра?

Па мне, дык адназначна “так”. І зразумець гэта можна ў параўнанні. Жыве ў Берасці мастак Анатоль Жалудко. Гадоў з дзесяць таму ён канчаткова сфармуляваў канцэпцыю ажыўлення сваёй роднай вёскі Сабалі Бярозаўскага раёна (гэта 100 км ад горада). Дзеля гэтага, паралельна, пакуль фармулявалася ідэя, збіраў экспанаты ў свой этнаграфічны музей. Купіў для музея дзве вясковыя хаты. Падахвоціў мясцовых, каб ахоўвалі, бо сам стала жыве збольшага ў горадзе. Жалудко жыве цяжка, ліпіць у мясцовым тэхнічным універсітэце, выкладае за капейкі малюнак. З прычыны малалікасці студэнтаў, як тлумачыць адміністрацыя, яго пераводзяць на паўстаўкі, потым зусім скарачаюць. Ён жыве з жывапісу, з нейкіх прырабаткаў, але працягвае працу над музеем. Нейкую надзею дае ўкладванне ў праект 15 мільёнаў долараў аднавяскоўцам-алігархам Чыжом. Але грошы накіраваныя больш на камерцыйную частку праекта (этнаграфічна-турыстычны комплекс “Наш родны кут Сабалі” закладзены непасрэдна каля галоўнай трасы краіны М1, вёска застаецца па другі бок магістралі, у кіламетры ад яе). Нядаўні арышт багатага мецэната спыняе будаўніцтва. Ды сабраны Анатолем Жалудко музей мае ўжо самадастатковую каштоўнасць. Як-ніяк больш за 10 тысяч экспанатаў! (Са словаў самога спадара Анатоля).

Дык вось, другі паляшук з падобным лёсам, Андрусь Горват, стварыў тое, на што

быў здатны, сродкамі на стварэнне чаго быў забяспечаны як творца – кнігу-музей пра Палессе, яго выраджэнне, частковае растварэнне ў прыродзе, дэканструкцыю. Нейтральна, амаль як пабочны назіральнік фіксуе ён коснаязыкіх “пазасталых” з Прудкоў і ваколіцы, шчырых у праклёнах, ва ўчынках, у жаданні красці, у дапамозе і адмове ў ёй землякоў, – нават самазабойчых у сваёй перакручанасці, як родзіч Шурык, і ў алкагалізме, як дзед Гануша. Было б уражанне, што прыкалоў іх у калекцыю, як колішніх знойдзеных у склепе жукоў – каб аўтар не тарнаваўся ад пачатку даць ім кожнаму пачытаць гэтую кнігу. Не пэўны, што абяруць яго на народнага пісьменніка, але заяўка зробленая. І такія-сякія аргументы, як бачым, ёсць.

Варта назваць і такі выйгрышны бок кнігі, як дэталёвы расповед пра ўсемагчымых дзядоў-прадзедаў, раскладзены аўтарам непасрэдна на мясцовасці, дзе яны жылі. Веданне радаводу яшчэ нікому не замінала, а вось няведанне яго гэта страшная хвароба нашага часу і месца – нашага хранатопу. Ад яе шмат што ішло і зноў можа пайсці наперакасяк.

Там-сям аўтар не нейтральны, запрашае следам за сабою рабіць адкрыцці. Так мы даведваемся пра спаконвечную завядзёнку палешукоў жаліцца, казаць пра цяжкасці ў чаканні таго, што яны не наступяць, і наадварот, суперасцярожнасць у згадцы дасягненняў, якія насамрэч ёсць, – каб не сурочыць, каб не забралі здабытае.

Мне было таксама цікава спраўдзіць сваю першую здагадку, што прозвішча “Горват” не тутэйшага паходжання і ўзыходзіць да назову народнасці харватаў. Думайма тут, услед за дапытлівым бярозаўчанінам з нараджэння Сяргеем Амельчуком, пра вугорскія карані роду Ніны Мацяш, пра Долматаў ды Барашаў, якія сапраўды мігравалі калісь сюды з розных нагодаў і прычын з Цэнтральнай Еўропы.

Лічу кнігу Андруся Горвата каштоўнай і вартай прачытання. Ёсць у яе свая ніша ў нашай літаратуры. Калі лічыць, што і мне яе Горват прапанаваў для чытання – а пра гэта кажа хаця б сам факт публікацыі – то не выкажу максімальнага захаплення. Каб быць сапраўды важкай, каб быць кнігай года, у ёй, як ужо згадваў, зашмат “чорнай косткі”... Але ў іншых кнігах нашых аўтараў яе, гэтай “чорнай косткі”, зусім няма або зусім мала, і мне вядома, што горш. Патрэбная гэта кніга. Новай такой не жадаю, хай Горват напіша нешта іншае, памяняе руку або занятак, як нямецкі пісьменнік-журналіст Гюнтэр Вальраф, але гэты дзённік – адбыўся, і гэта варта вітаць.

# Айчына

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*

**Уладзімір Арлоў. Айчына: маляўнічая гісторыя. У 2 частках. Частка 1. Ад Рагнеды да Касцюшкі / Мастак Павел Татарнікаў. — Мінск: Тэхналогія, 2016. — 223 с.**



Кніга Уладзімера Арлова "Айчына: маляўнічая гісторыя. Ад Рагнеды да Касцюшкі" адразу ж па выхадзе сталася сапраўднай падзеяй у беларускім – і не толькі беларускім – літаратурным жыцці: ужо за першыя тры дні кнігу замовіла больш за тысячу чалавек. Замовы прыйшлі з больш чым 10 краін: ЗША, Канады, Нямеччыны, Галандыі, Турцыі, Літвы, Бразіліі, Расіі ды іншых.

Кніга багата аздобленая малюнкамі выдатнага беларускага мастака Паўла Татарнікава. Праца над кнігай трывала амаль чатыры гады. "Айчына" насамрэч маляўнічая: на 223 старонках размешчаныя 200 ілюстрацыяў, сярод якіх 65 партрэтаў гістарычных асоб і каля 40 гістарычных панарам, што можна разглядаць гадзінамі.

Калі параўноўваць з іншымі гістарычнымі праектамі Уладзімера Арлова, то можна сказаць, што "Краіна Беларусь" передусім для дзяцей і падлеткаў. Але гэта не значыць, што яна будзе не цікавая дарослым. Бясспрэчна адно: гэтая кніга мусіць быць у кожнай беларускай сям'і. Бо будучыня нацыі магчымая толькі тады, калі яна памятае сваю гісторыю.

**Міхал Бараноўскі. Volumen.1. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка". Падсерыя "Пункт адліку"). – 56 с.**




Паэт Міхал Бараноўскі вядомы як заснавальнік і аўтар песняў для гурта "Нельга забыць", супрацоўнік музея і папулярызатар творчасці Максіма Багдановіча, Уладзіміра Караткевіча, на словы якіх гурт запісаў адмысловыя канцэртныя праграмы. Аўтарская музычная праграма Міхала мела назву "Месца моцы", тэксты з яе і прадстаўлены ў зборніку "Volumen.1" асобнай нізкай.

Другая частка зборніка "Краг-Крых" змяшчае найноўшыя паэтычныя творы. Усе яны глыбока спавядальныя, часта вельмі асабістыя, але аўтар з'яўляецца хутчэй прыхільнікам мадэрнісцкай эстэтыкі і стварае шматслойныя, разгалінаваныя вобразы, прызначаныя для чытача, спакушанага і ў літаратурных, і ў міфалагічна-біблейскіх алюзіях. Адзнака паэзіі Міхала Бараноўскага – падкрэсленая нетаропкасць, паглыбленасць ва ўласную эмоцыю, метафізічнае ўслухоўванне ў яе.

*У самым цэнтры сусвету*
*На вяршыні лысай гары*
*Гарыць нязгасна сіняе вогнішча,*
*Гарыць, ну і хай гарыць...*

*Тут ладзяцца дзікія скокі,*
*І цені ўстаюць на дыбы.*
*Дзе падзеўся ты, мой аднаногі вецер*
*Свабоды і варажбы?..*




**Справа: альманах. Вып. 4-2017/ Гал. рэдактар А. Наварыч. – Мінск: Белпринт, Смэлтак, 2017. – 224 с.**

Выйшаў у свет 4-ты выпуск беларуска-ўкраінскага альманаха “Справа”, які выдае Таварыства ўкраінскай літаратуры пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў. Упершыню гэта тэматычны нумар, і яго тэма: “Боль і як з ім жыць”. Сярод вершаў нумару вылучаецца “Дума...”, прысвечаная памяці загіблых у Кіеве ў лютым 2014 года. Аўтар, Аляксандр Грыцай, – непрафесійны літаратар, але народная манера робіць яго твор яшчэ больш шчымлівым. Сочачы за ўкраінскімі падзеямі, спачуваючы болю суседзяў, маладыя беларускія аўтары асэнсоўваюць яго: альманах знаёміць чытачоў з кранальным лістом і вершамі Уладзіміра Шыпілы, а таксама тут друкуецца псіхалагічны аповед Алеся Кіркевіча – пра тое, якую дэфармацыю церпіць асоба на вайне і што канец вайны яшчэ не канец пакутам: прыстасавацца да міру ўдаецца не ўсім абаронцам айчыны.

Таксама ў альманаху адводзіцца месца матэрыялам з беларуска-ўкраінскага памежжа (друкуюцца беларускія вершы Наталлі Сацуты, а таксама – творы на гаворках).

Як жыць з цяжарам нязробленага, непаспетага, незваротна страчанага – і як зменшыць гэты цяжар – пра тое пішуць Алесь Паплаўскі і Таня Скарынкіна.

Упершыню да беларуска-ўкраінскага дыялогу ў “Справе” далучыліся польскія аўтары. Цэнтральны твор “болевага” нумару – раман “Сонька”. Яго аўтар Ігнацы Карповіч – польскі пісьменнік, які паходзіць з праваслаўнай, этнічна беларускай вёскі на Падляшшы. Друкуецца ўрывак з кнігі “Аблічча Беларусі” былога пасла Польшчы ў Беларусі Лешака Шарэпкі, прысвечаны аналізу стану беларускай мовы ў Беларусі. Гэта староннi погляд, з якім цікава азнаёміцца, бо не ўсё заўважна знутры.

У рубрыцы “Гісторыя” – тэкст луцкага гісторыка Яраслава Антанюка пра апошні атрад АУН, які да 1956 года дзейнічаў у Брэсцкай вобласці.




**Чытанка для маленькіх-2 / Укладальнік Анатоль Івашчанка; мастачка Дар’я Мандзік. — Мінск: Кнігазбор, 2016. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”. Падсерыя “Каляровы ровар”; выпуск 14). — 60 с.**

У добрай вядомай аматарам дзіцячай літаратуры серыі “Каляровы ровар” выйшаў зборнік вершаў і казак “Чытанка для маленькіх-2”. У кнізе змешчаныя і аўтарскія творы, і народныя. Тут вы знойдзеце добра вядомыя “Каток – залаты лабок”, “Пшанічны каласок”, “Рукавічку”, а яшчэ аўтарскія казкі Янкі Брыля “Жыў-быў вожык”, “Страшная казка пра страшнага звера” Івана Бурсава ды іншыя творы. Таксама ў чытанцы надрукаваныя дзіцячыя вершы беларускіх аўтараў!

На старонках кнігі ёсць вершы класікаў беларускай літаратуры Ларысы Геніюш, Артура Вольскага, Янкі Журбы, Васіля Віткі, Рыгора Барадуліна і іншых. Ёсць там і вершы і сучасных аўтараў: Дануты Бічэль-Загнетавай, Паўла Марціновіча, Андрэя Хадановіча, Сержука Сокалава-Воюша, Анатоля Івашчанкі і Веры Бурлак. Кніга багатая на ілюстрацыі, якія зрабіла мастачка Дар’я Мандзік, вядомая чытачам сваім праектам “Не маўчы па-беларуску!”, рэалізаваным разам з кампаніяй “Будзьма беларусамі!”

“Чытанка для маленькіх” – выдатны падарунак для дзяцей дашкольнага ўзросту. Вучым родную мову з маленства!

# Нашыя аўтары

**Аксак Валянціна** — паэтка, журналістка. Лаўрэатка прэміі «Залаты апостраф» (2008). Аўтарка кніг «Цвінтар», «Капліца», «Віно з Каліфорніі», «Ружоўніца», «Дзікая сліва». Нарадзілася ў 1953 годзе ў вёсцы Смалічы на Нясвіжчыне. Жыве ў Мінску.

**Будовіч-Барадуля Таццяна** — паэтка, празаік, крытык. Аўтарка кнігі вершаў «Дуэль паглядаў». Нарадзілася ў 1977 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Булатоўская Марына –** празаік. Скончыла факультэт міжнародных адносін БДУ. Лінгвіст-перакладчык. У 2016 годзе скончыла навучанне ў Школе маладога пісьменніка пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў. Нарадзілася ў 1987 годзе ў Віцебску, дзе і жыве.

**Бяласін Яўген** – германіст, перакладчык, журналіст. Акрамя як з нямецкай, перакладае з ангельскай і польскай моваў. Нарадзіўся ў 1954 году ў вёсцы Грынявічы на Гарадзеншчыне. Жыве ў Берасці.

**Васілевіч Уладзімір** – фалькларыст, этнограф, перакладчык. Працаваў у БДПУ імя М. Танка. Перакладае з польскай мовы. Нарадзіўся ў 1952 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Гібок-Гібкоўскі Алесь** — публіцыст, паэт. Аўтар кнігі вершаў «Насамрэч». Лаўрэат прэміі Беларускага саюза журналістаў «Залатое пяро», прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі. Нарадзіўся ў 1952 годзе ў вёсцы Рупейкі на Ваўкавышчыне. Жыве ў Мінску.

**Голуб Юрка** — паэт, журналіст. Аўтар кніг паэзіі «Гром на зялёнае голле», «Дрэва навальніцы», «Векапомнае поле», «Помню пра сябе» і інш. Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Горны на Зэльвеншчыне. Жыве ў Гародні.

**Гронская Вольга** – паэтка, перакладчыца, літаратуразнаўца. Аўтар кнігі вершаў «АдВольная міфалогія». Нарадзілася ў 1978 годзе ў г.п. Крывічы Мядзельскага раёна. Жыве ў Мінску.

**Дзмітрыева Таццяна** – паэтка, празаік. Творы друкаваліся ў часопісах «Arche», «pARTisan», «Другое полушарие», «Антиподы», газетах «Наша слова» і «Наша Ніва», зборніку «Tschernobyl für immer». Аўтарка першых транспалітаў. Дыпламантка фестываля эксперыментальнай і традыцыйнай літаратуры «Антиподы-Иной глобус» (Аўстралія). Нарадзілася ў 1975 годзе ў Магілёве, дзе і жыве.

**Дубянецкая Ірына** – бібліст, філосаф. Доктар філасофіі, доктар сакральнай тэалогіі. Акадэмічны дырэктар Беларускага калегіюма Нарадзілася ў 1964 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Дубянецкі Міхал** – журналіст, публіцыст, перакладчык, выдавец. Пераклаў на беларускую мову кнігі С. Жаромскага, В. Распуціна, Г. Цюцюніка, Д. Граніна і інш. Нарадзіўся ў 1927 годзе ў вёсцы Востраў на Піншчыне. Памёр у 1990 годзе.

**Дубянецкі Эдуард** – культуролаг, псіхолаг, гісторык, паэт. Аўтар культуралагічных кніг «Таямніцы народнай душы», «Цяжкі шлях да адраджэння», «Сусветная культура: Ад старажытнасці да нашых дзён», кніг паэзіі «Душы маёй няскончаны палёт», «Покліч самотнага неба». Нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Чудзін на Ганцаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Івашчанка Анатоль** — паэт, празаік. Аўтар кніг паэзіі «Вершnick», «Хай так», манаграфіі «Паэтыка Алеся Разанава: між медытацыяй і рацыяй», кнігі прозы «Аналогія». Лаўрэат конкурсу «Экслібрыс» (2014), прэміі «Дэбют» (2015). Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Кавалёў Сяргей** — драматург, паэт, крытык, літаратуразнаўца. Доктар філалагічных навук. Аўтар кніг «Мэва», «Як пакахаць ружу», «Партрэт шкла», а таксама зборнікаў п’ес «Хохлік», «Стомлены д’ябал», «Навука кахання», «Сёстры Псіхеі» і інш. П’есы ставіліся ў Беларусі, Украіне, Расіі, Польшчы, Славакіі. Нарадзіўся ў 1963 годзе ў Магілёве. Жыве ў Любліне (Польшча).

**Казько Віктар** — празаік, публіцыст, кінасцэнарыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1982), прэміі імя Ежы Гедройца (2014). Аўтар кніг прозы «Добры дзень і бывай», «Суд у Слабадзе», «Высакосны год», «Цвіце на Палессі груша», «Выратуй і памілуй нас, Чорны бусел», «Неруш», «Дзікае паляванне ліхалецця» і інш. Нарадзіўся ў 1940 годзе ў Калінкавічах на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Камоцкі Алесь** — паэт, бард. Аўтар кніг паэзіі «Спроба ісці па расе», «Глыбіня дажджу», «48» і інш., кружэлак «Першы сшытак», «Я табе...», «Дым», «Дом», «Дах» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Барысаве. Жыве ў Мінску.

**Керэт Этгар** – празаік, кінасцэнарыст. Вучыўся ў Тэль-Авіўскім універсітэце. Служыў у войску. Аўтар зборнікаў кароткай прозы: «Настальгія па Кісінджэры», «Піцэрыя „Камікадзэ"», «Тата ўцякае разам з цыркам» і інш. Нарадзіўся ў сям'і выхадца з Беларусі ў ізраільскім горадзе Рамат-Ган у 1967 годзе. Жыве ў Тэль-Авіве.

**Ляхновіч Павел** – празаік, журналіст, перакладчык. Аўтар кніг «Пачатак сезона», «Зялёны дуб». Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Сярэдняя на Міншчыне. Жыве ў Пінску.

**Мудроў Вінцэсь** — празаік. Лаўрэат прэміі часопіса «Дзеяслоў» «Залаты апостраф» (2010). Аўтар кніг «Жанчыны ля басейна», «Гісторыя аднаго злачынства», «Зімовыя сны», «Ператвораныя ў попел», «Альбом сямейны», «Багун» і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Полацку. Жыве ў Полацку.

**Разанаў Алесь** — паэт, перакладчык, эсэіст. Аўтар кніг паэзіі «Адраджэнне», «Каардынаты быцця», «Шлях-360», «Вастрыё стралы», «У горадзе валадарыць Рагвалод», «З апокрыфа ў канон», «Рэчаіснасць», «Гліна. Камень. Жалеза», «Кніга ўзнаўленняў», «З апокрыфа ў канон» і інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1990). Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Сялец на Бярозаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Тышкевіч Канстанцін** — беларускі гісторык, археолаг, географ, краязнаўца, этнограф, фалькларыст. Чалец навуковых таварыстваў Вільні, Кракава, Масквы, Прагі, Парыжа, Лондана. Аўтар кніг «Вілія і яе берагі ў гідраграфічных, гістарычных, археалагічных і этнаграфічных адносінах», «Гістарычнае паведамленне пра старажытныя замкі, гарадзішчы і могільнікі ў Літве і Русі Літоўскай», «Пра курганы ў Літве і Заходняй Русі», «Помнікі айчыннага гравёрнага мастацтва». Нарадзіўся ў 1806 годзе ў Лагойску. Памёр у 1868 годзе ў Мінску.

**Шмац Фердынанд** – аўстрыйскі паэт, эсэіст, празаік. Філолаг, прафесар Венскага ўніверсітэта прыкладных мастацтваў. Лаўрэат шматлікіх літаратурных прэмій (у тым ліку імя Георга Тракля і Эрнста Яндля). Як паэт працягвае традыцыі ініцыяванай Венскай групай эксперыментальнай лірыкі. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Карнэйбурзе (Аўстрыя). Апошнія гады жыве як вольны пісьменнік у Вене.

**Хадановіч Андрэй** — паэт, перакладчык. Аўтар кніг паэзіі «Лісты з-пад коўдры», «Старыя вершы», «From Belarus with love», «Сто лі100ў на tut.by», «Бэрлібры», «Несымэтрычныя сны», «Нататкі таткі», «Цягнік Чыкага-Токіё» і інш. Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» (2007). Нарадзіўся ў 1973 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Цвірка Кастусь** – паэт, празаік, перакладчык, фалькларыст, этнограф. Аўтар кніг «Рака дарог», «Зялёная Дуброва», «Чарназём», «Слова пра Сыракомлю...», «Лодка долі тваёй», «Лісце забытых алеяў», «Воўчая выспа» і інш. Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» (2011). Нарадзіўся ў 1934 годзе ў вёсцы Зялёная Дуброва на Старадарожчыне. Жыве ў Мінску.

**Штэйнер Іван** – літаратуразнаўца, крытык, публіцыст. Аўтар кніг «Беларуская балада: Вытокі жанру і паэтычная структура», «Варожасць балады вякоў: Беларуская балада і славянскія традыцыі», «Споведзь перад Богам і людзьмі: беларуская паэзія на стыку тысячагоддзяў», «Ex promtu — ex proposito», «Дняпроўскія матывы» і інш. Нарадзіўся ў1953 годзе ў вёсцы Бяражное на Століншчыне. Жыве ў Гомелі.

**Якавенка Наталля** – крытык, літаратуразнаўца. Аўтарка кнігі «Аўтарскі пераклад (Праблема аўтарскага перакладу прозы ў беларускай літаратуры XX ст.)», шматлікіх публікацый у беларускім друку. Нарадзілася ў 1973 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**



Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.




У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Юрыя Дзядзінкіна, Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша,
Уладзіміра Крука, Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага,
Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.